БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя І. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*

# РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА

## Творы беларускіх пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады

Мінск
«Кнігазбор»
2008

УДК 821.161.3
ББК 84 (4 Беи)
Р 24

Укладанне
Лідзіі Савік, Міхася Скоблы, Кастуся Цвіркі
Прадмова
Анатоля Сідарэвіча
Каментар
Міхася Скоблы, Кастуся Цвіркі

ISBN 978-985-6824-74-2



## ЯНЫ ЛЮБІЛІ БЕЛАРУСЬ

«Расстраляная літаратура»... Ведама, гэта гіпербала, мастацкі прыём. Літаратуру нельга расстраляць. Можна забіць, расстраляць, нялюдскім абыходжаннем увагнаць у магілу асобных (нават дзесяткі, сотні) літаратараў, але забіць літаратуру немагчыма. Яе можна параніць, знявечыць, але, пакуль ёсць народ і ёсць творцы, літаратура жыве. Іншая справа, якія жыццёвыя ўмовы склаліся для яе, у якіх варунках адбываецца літаратурны працэс. Гэтыя варункі — што ў царскай Расіі, што пад Саветамі, што ў Заходняй Беларусі пад Польшчай — нельга назваць спрыяльнымі. Беларускую літаратуру можна без усякіх агаворак назваць тэрарызаванай або, калі заўгодна, затэрарызаванай.

Як бываюць розныя формы дзяржаўнага ладу і розныя палітычныя рэжымы, так бываюць розныя формы тэрору, г. зн. запалохвання літаратараў і літаратуры ў цэлым. Гэта адміністрацыйны і эканамічны, маральна-псіхалагічны і збройны тэрор. Антон Адамовіч, пішучы пра савецкую рэчаіснасць, уводзіць, як на маю думку, даволі ёмкія паняцці «духоўны тэрор»* і «інтэлектуальны тэрор»**.

Мне ўжо даводзілася пісаць, і я настойваю на тым, што трэба адрозніваць рэпрэсію ад тэрору. Рэпрэсія — гэта мерапрыемства ўлады, скіраванае на ўтаймаванне процізаконнай дзейнасці асобных людзей і іх калектываў. Тэрор — а гаворка пра дзяржаўны тэрор — гэта запалохванне невінаватых людзей і іх калектываў, гэта часта прэвентыўныя рэпрэсіі. Рэпрэсіі набываюць характар тэрору, калі да вінаватых стасуюцца такія меры пакарання, што выклікаюць жах, страх (terror) у астатніх жыхароў краіны.

Ці будзем згадваць мураўёўскі тэрор 1863–1864 гадоў, ахвяраю якога стаў наш паэт і публіцыст Вінцэнт Канстанцін Каліноўскі? Удзельніку таго паўстання Ялегію Францішку Вулю, можна сказаць, пашанцавала: ссылка ў Сібір — гэта не пакаранне смерцю і не катаржная праца, на якую быў асуджаны яшчэ адзін змагар супраць дэспатыі — Арцём Вярыга-Дарэўскі. І параўнальна шчасліва склаўся лёс вязня Пішчалаўскага замка ў Мінску Вінцэнта Якуба Дуніна-Марцінкевіча або ўдзельніка паўстання Францішка Бенядыкта Багушэвіча.

Новая хваля масавага тэрору ўсчалася падчас рэвалюцыйных падзеяў 1905–1907 гадоў. Ваенна-палявыя суды, сталыпінскія гальштукі (вяроўкі на шыбеніцах) і сталыпінскія вагоны — вось сімвалы таго часу.

Аўтарка рэвалюцыйных вершаў-пракламацый, арганізатарка акцыяў сацыяльнага і палітычнага пратэсту Алёйзія Пашкевічанка (Цётка) ратавалася ад турмы і высылкі ўцёкамі ў Аўстра-Вугоршчыну. Аляксандр Прушынскі ў час рэвалюцыі яшчэ не пісаў вершаў і яшчэ

---

* Гл.: Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. — Мн.: Выдавец ІП Зміцер Колас, 2005. С. 887.

** Гл. тамсама. С. 964.

не стаў Алесем Гаруном. За друкаванне і распаўсюд супрацьурадавай літаратуры ён першапачаткова атрымаў больш-менш справядлівы прысуд (2 гады і 8 месяцаў турмы), але пасля таго, як сенат Расійскай імперыі гэты прысуд скасаваў, маладога рэвалюцыянера адправілі ў Сібір з пазбаўленнем усіх правоў і на пажыццёвае пасяленне. Язэпа Лёсіка за ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях і за ўцёкі з месца папярэдняга зняволення таксама асудзілі на бестэрміновае пасяленне ў Сібіры. Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас), які даводзіўся пляменнікам Язэпу Лёсіку, за правядзенне нелегальнага сходу і спробу стварэння нелегальнай настаўніцкай арганізацыі першапачаткова таксама быў асуджаны на ссылку, але «по обстоятельствам дела» (усё-ткі спроба не рэалізавалася) ссылку маладому настаўніку і паэту замянілі на тры гады адседкі ў крэпасці. Можна сказаць, што Канстанціну Міцкевічу пашанцавала. Седзячы ў Пішчалаўскім замку, ён складзе кнігу вершаў «Песні жальбы» (1910). Год у тым самым замку правёў і Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец). Ад больш жорсткай расправы гэтага рэвалюцыянера, мастака і пісьменніка ўратавала інваліднасць. Што такое Пішчалаўскі замак, зведаў таксама Антон Луцкевіч, які на кароткі час трапіў у гэтую «бастылію» яшчэ да рэвалюцыйных падзеяў 1905 года. Калі б Антона Луцкевіча па тым самым абвінавачанні — друк і распаўсюд антыўрадавай літаратуры — арыштавалі, як Алеся Гаруна, у час сталыпінскага контррэвалюцыйнага тэрору, хто ведае, які лёс чакаў бы фактычнага першага рэдактара «Нашае нівы» і ці мелі б мы гэтую газету і нашаніўскі перыяд у беларускай гісторыі.

Што такое адміністрацыйны і эканамічны тэрор, кажа нам прыклад першае беларускае газеты «Наша доля». Канфіскацыі нумара за нумарам рабілі немагчымым далейшае выданне гэтае газеты, бо выдаткі на яе набор і друк нельга было хоць у больш-менш здавальняючай ступені кампенсаваць даходамі ад продажу і падпіскі. Асудзіўшы першага рэдактара-выдаўца на адзін год крэпасці, давёўшы рэдакцыю да цяжкога эканамічнага стану, царская адміністрацыя нарэшце вырашыла забараніць «Нашу долю».

Бачачы бесперспектыўнасць мужнага змагання «Нашае долі» за выжыванне, браты Іван і Антон Луцкевічы заснавалі газету «Наша ніва». Калі «Наша доля» была ярка-чырвонаю, дык «Наша ніва» прыняла менш яркае адценне. Знаходзячыся на нелегальным становішчы, браты Луцкевічы мусілі паклікаць на пасаду рэдактара-выдаўца спачатку чалавека цалкам выпадковага, а потым таварыша па Беларускай сацыялістычнай грамадзе Аляксандра Уласава. (Гэты апошні стане пазней выдаўцом часопісаў «Саха» і «Лучынка».)

У тым самым годзе, што і «Наша ніва», іншым сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады — Вацлавам Іваноўскім — у Пецярбургу была заснавана выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца». Вацлаў Іваноўскі, якога па праву можна назваць бацькам беларускай кнігавыдавецкай справы XX стагоддзя, пасля кароткага перапынку, працягваў пачатае ім у 1903–1904 гады выданне кніг і альманахаў з творамі беларускіх пісьменнікаў.



Той імпульс, які на пачатку XX ст. задалі культура- і нацыятворчаму працэсу Вацлаў Іваноўскі, браты Луцкевічы і Аляксандр Уласаў, прынёс багаты плён, які я называю высокай класікай. Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля і Алесь Гарун, Ядвігін Ш. і Вацлаў Ластоўскі — вось далёка не ўсе імёны, якія ўвялі беларусаў у сям'ю культурных народаў «з найвышэй развітай літаратурнай мовай»*.

Мне ўжо даводзілася пісаць, што Расійская імперыя — пры засіллі ў ёй дзержымордаў і самадурстве адміністрацыі (асабліва нізавой) — усё ж ішла па шляху станаўлення прававой дзяржавы. Гэта дало магчымасць амаль без праблем выдаваць «Нашу ніву» цягам блізу дзевяці гадоў. Некалькі нумароў газеты было канфіскавана, а рэдактарувыдаўцу Аляксандру Уласаву давялося два месяцы пасядзець у крэпасці. І ўсё ж гэта аніяк нельга параўнаць з тым, што польская ўлада чыніла з беларускімі перыядычнымі выданнямі ў Заходняй Беларусі. Канфіскацыі паасобных нумароў газет сталі звыклаю справаю. Рэдка якая газета выходзіла больш як адзін год. Да гэтага часу не падлічана, колькі рэдактараў былі зняволеныя ці аштрафаваныя (лік ідзе на дзесяткі). Калі складалася анталогія беларускай паэзіі XX стагоддзя «Краса і сіла» (2003), было падлічана, што з 22 заходнебеларускіх паэтаў — аўтараў гэтае кнігі — 13 прайшлі праз польскія турмы. Царская ўлада пасадзіць больш як палавіну беларускіх паэтаў пачатку XX стагоддзя не патрапіла.

І ўсё ж польскі дзяржаўны тэрор не пераўзышоў бальшавіцкага.

Паміж імі — бальшавіцкім і польскім дзяржаўнымі тэрорамі — было падабенства: і першы, і другі мелі класава-ідэалагічны грунт.

І польская, і бальшавіцкая дзяржавы практыкавалі масавыя хапуны**. Калі польскі хапун пачатку 1927 года (разгром Сялянска-Работніцкай Грамады) увайшоў, бадай, ва ўсе падручнікі гісторыі, то хапун, які адбыўся ўначы з 1 на 2 красавіка і ўдзень 2 красавіка 1925 года, заслугоўвае, каб пра яго таксама згадалі. Тады ў Навагрудскім ваяводстве было ўзята пад варту аж 1368 беларусаў (гл.: Беларуская доля. 1925, 9 красавіка). Але ні эндэкі, ні санацыйнікі не здолелі пераўзысці бальшавікоў. Тыя здолелі за кароткі час адправіць на Поўнач дзесяткі тысяч беларускіх сялян.

Калі ў СССР склалася наменклатура і беспартыйнаму чалавеку практычна нельга было заняць кіраўнічую пасаду (чым вышэйшая пасада, тым большая яе недаступнасць для беспартыйнага), дык у Польшчы амаль нельга было выбіцца «ў людзі» некаталіку і непаляку.

Абодва гэтыя — бальшавіцкі і польскі — тэроры знаходзіліся ў адносінах люстраной сіметрыі: калі бальшавікі пераследавалі ўсё «антыбальшавіцкае» і «контррэвалюцыйнае», дык польскія ўлады

---

* Луцкевіч А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / Укл., прадм. і камент. А. Сідарэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2006. С. 17.

** Спецыфічна беларускае, слова «хапун» увайшло і ў расійскую мову, хоць, здавалася б, паводле законаў гэтае мовы, павінна было б гучаць як «хватун», «хваталовка» ці нешта падобнае.

(што рэжым нацыянальных і хрысціянскіх дэмакратаў, што санацыйны рэжым Пілсудкага–Масціцкага) вялі барацьбу з усім «бальшавіцкім», «рэвалюцыйным».

Калі ў бальшавікоў у разрад контррэвалюцыянераў можна было трапіць за чытанне Бібліі, дык у эндэкаў і санацыйнікаў камуністычнай акцыяй лічылася выданне Новага Запавету і Псалмоў па-беларуску.

Адрозненне паміж бальшавіцкім і польскім дзяржаўнымі тэрорамі было таксама ў формах і ў ступені адкрытасці.

Так, польская ўлада вуснамі сваіх прадстаўнікоў (прэм'ер-міністр Леапольд Скульскі, прэзідэнт Станіслаў Вайцяхоўскі ды інш.) урачыста абвясціла палякаў адзінымі гаспадарамі поліэтнічнай Польскай Рэспублікі і паабяцала, што праз 50 год ніхто і са свечкаю не знойдзе ў гэтай дзяржаве беларусаў. Іосіф Сталін адкрыта абвясціў расійцаў вядучым народам Савецкага Саюза толькі ў 1945 годзе. А на пачатку 1920-х гадоў і нават на пачатку 1930-х бальшавіцкая ўлада вяла шчырую (Уладзімір Ленін) і крывадушную (яго наступнікі) барацьбу з расійскім вялікадзяржаўным шавінізмам. Народам былое Расійскае імперыі была дадзена тэрытарыяльная і культурна-нацыянальная аўтаномія. Як бы хто ні ставіўся да постаці Леніна, а ягоная канцэпцыя Саюза Савецкіх Рэспублік была прагрэсіўным крокам. Хоць гэта і была, паводле Уладзіміра Жылкі, «уступка з бою»*, статус Савецкай Беларусі як саюзнай рэспублікі, а не як часткі Расіі, ужо тады разглядаўся як ступенька да незалежнасці нашай краіны. Такога статусу ані блізка не мела Заходняя Беларусь.

Калі ў Польшчы яшчэ існавала правасуддзе або яго падабенства**, калі пра арышты, судовыя працэсы і зняволенні заходнебеларускіх дзеячаў можна было атрымаць даволі дэталёвыя звесткі са сродкаў масавай інфармацыі, дык расправы з беларускаю элітаю ў СССР праводзіліся пры адсутнасці галоснасці або пры абмежаванай галоснасці.

Калі ў Польшчы пісьменнікаў судзілі суды, дык у БССР гэтая функцыя цалкам была аддадзеная пазасудовым органам: «двойкам» і «тройкам» пры ГПУ, а пазней пры НКВД і НКГБ. Бальшавіцкая ўлада ўсведамляла ўсю злачыннасць таго, што яна робіць, і таму пазбягала публічнасці.

Калі польскія эліты (што нацыянал-дэмакраты, што хадэкі, што сацыялісты) адназначна дэманстравалі або не вельмі дбайна камуфлявалі сваю антыбеларускасць***, дык бальшавіцкая нацыянальная палітыка была падступнаю і вераломнаю.

* Жылка У. Выбраныя творы / Укл., прадм. і камент. М. Скоблы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. С. 257.

** Гісторык Анджэй Гарліцкі (Polityka. 2007. Nr 22) піша: «У траўні 1926 г. Пілсудскі здабыў выканаўчую ўладу. Толькі ў 1930 г. (...) атрымаў поўны кантроль над заканадаўчай уладай. Найдаўжэй працягвалася падпарадкаванне санацыйнаму лагеру судовай улады».

*** Выключэннем сярод польскіх палітычных арганізацый была, бадай, Дэмакратычная партыя (Stronnictwo Demokratyczne).



І польскі, і бальшавіцкі ўрады трымалі курс на пазбаўленне беларускага народа яго духоўнай і палітычнай эліты. Але калі польская ўлада паслядоўна праводзіла палітыку выцяснення беларускай эліты за межы дзяржавы, дык бальшавікі ўзялі курс на яе вынішчэнне.

У беларускай палітыцы бальшавіцкай Масквы візантыйства спалучалася з метадамі асірыйскіх цароў. Пачаўшы ў 1929 годзе планамерную палітыку вынішчэння нацыянальнай эліты, Масква вырашала гэтую сваю задачу метадам, апрабаваным у VIII стагоддзі да Нараджэння Хрыстовага ў Ізраільскім царстве. Як вядома, падначаліўшы Ізраіль, асірыйскія заваёўнікі вывелі з гэтай краіны святароў, военачальнікаў, адміністратараў. Іх месца займалі людзі, прывезеныя з іншых частак імперыі*. Так і ў БССР: вывозячы і расстрэльваючы беларускую эліту, Масква замяняла вывезеных і забітых навуковымі, выкладчыцкімі і адміністрацыйнымі кадрамі, прывезенымі з Усходу. Як у Ізраілі просты люд, пазбаўлены сваёй эліты, страціў веру і звычаі сваіх продкаў, так і ў Беларусі праводзілася палітыка дэбеларусізацыі і стварэння Homo soveticus без нацыянальных каранёў, традыцый і мовы. У адпаведным духу рыхтаваліся і адміністрацыйныя кадры. Пакаленне Пятра Машэрава, якое ўступала ў самастойнае жыццё ў перыяд Вялікага Тэрору, калі гэты свет пакінулі Аляксандр Чарвякоў і Мікалай Галадзед, было смяротна запалоханай генерацыяй. Яна магла быць у лепшым разе выразніцай інтарэсаў насельніцтва БССР, але не беларускіх нацыянальных інтарэсаў.

Што бальшавіцкая палітыка вынішчэння нацыянальнай эліты** мела планамерны характар, сведчыць няўхільнасць гэтае палітыкі, якая праводзілася ў некалькі этапаў: 1929–1931, 1932–1934, 1937–1938, 1939–1941, 1944–1946 гг.

Калі мы вернемся да параўнання польскага і бальшавіцкага дзяржаўных тэрораў у дачыненні да беларусаў, то мусім прызнаць, што польская дзяржава перавышала меру абароны. Ад самага пачатку настаўленая на асіміляцыю нацыянальных меншасцяў, сацыяльна кансерватыўная, польская дзяржава, якая захавала панскае землеўладанне, не магла не спараджаць унутраных ворагаў. І гэтымі ворагамі былі не адно камуністы. Яшчэ чакае свайго асэнсавання супраціў польскай нацыянальна-рэлігійнай і сацыяльнай палітыцы беларускага каталіцкага і праваслаўнага духавенства, пратэстантаў, беларускай хрысціянскай дэмакратыі. І ўжо зусім натуральна, што

* Можна сказаць, што асірыйскую палітыку праводзілі маскоўскія ўладары. Так, Васіль III, захапіўшы ў 1514 г. Смаленск, вывез з горада ўсіх карэнных смалянаў, а на іх месца прывёз людзей з Масковіі. Сын Васіля III, Іван Жахлівы, правёў падобную акцыю ў Вялікім Ноўгарадзе. Высяляючы калмыкаў, чачэнцаў, крымскіх татараў ды іншыя народы, Сталін нічога новага не прыдумаў.

** Гаворка не толькі пра інтэлігенцыю, адміністратараў, навукоўцаў, выкладчыкаў ВНУ. Гаворка і пра сялянскую эліту, бо пераважна з гэтага асяроддзя выходзілі настаўнікі, лекары, юрысты і г .д.

польскую палітыку ў Заходняй Беларусі адпрэчвалі камуністы, сацыял-дэмакраты і сацыялісты-рэвалюцыянеры.

Не тое было ва Усходняй Беларусі.

Якуб Колас, вярнуўшыся ў Беларусь з Расіі і прыгледзеўшыся да таго, што дзеецца ў БССР, мог канстатаваць: *Кавалі другія, а ланцуг той самы* («Родныя малюнкі»). Аднак неўзабаве выявілася, што ў «незалежнай» БССР справы горшыя, чым за царом: кавалі другія, а ланцуг не той самы — цяжэйшы. Ужо ў 1922 годзе першы нумар альманаха «Адраджэнне», у якім Янка Купала змясціў свой геніяльны верш «Перад будучынай», бальшавікі канфіскавалі, а сам альманах забаранілі. У канцы 1920-х будзе канфіскаваны і пушчаны пад нож Купалаў зборнік «Творы. 1918–1928». Гэта не за царом, калі арыштаваную цэнзураю «Жалейку» можна было адстаяць, калі цэнзура мусіла, каб знішчыць наклад, звяртацца ў суд.

І ўсё ж, на пачатку 1920-х пераважала шчырая вера ў добрыя намеры бальшавікоў. Вера ў камунізм, у сацыяльны прагрэс, у прагрэс беларускае культуры. Будучыя беларускія пісьменнікі (Міхась Зарэцкі, Андрэй Мрый, Мікола Хведаровіч ды іншыя) са зброяй у руках абаранялі новую ўладу і новы лад. Міхась Чарот, Васіль Гарбацэвіч і Васіль Сташэўскі ва ўмовах польскай акупацыі разам з Усеваладам Ігнатоўскім ды іншымі патрыётамі Беларусі заснавалі Беларускую камуністычную арганізацыю, наладжвалі партызанскую барацьбу. Змагаліся з польскімі акупантамі і беспартыйныя. Адаму Бабарэку акупанты за гэта выразалі зорку на спіне.

Ля вытокаў беларускай савецкай дзяржаўнасці стаялі «старыя» беларускія сацыялісты Зміцер Жылуновіч, Язэп Дыла, Аляксандр Чарвякоў, Фабіян Шантыр, а таксама тэатральны дзеяч Усевалад Фальскі. На бок савецкай улады перайшоў ветэран беларускага сацыялістычнага руху, адзін са стваральнікаў сучаснага беларускага тэатра Аляксандр Бурбіс.

Новая ўлада дала сялянам зямлю. Вуснамі старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Аляксандра Чарвякова яна сказала: «Багацей, селянін, здабывай больш багацця, і чым больш ты будзеш багаты, тым больш багата будзе наша Савецкая рабоча-сялянская дзяржава».

Новая ўлада адчыніла для сялянскіх дзяцей беларускія школы, беларускія педагагічныя тэхнікумы, дзяржаўны універсітэт... Былы Дзяржаўны тэатр БНР стаў Першым беларускім дзяржаўным тэатрам. Нейк хутка забылася, што расстралялі Фабіяна Шантыра. І з задавальненнем было прынята, што тэатральныя дзеячы Уладзімір Тэраўскі і Усевалад Фальскі, якім смяротны прысуд быў памяняны на 5 гадоў зняволення ў смаленскай катаржнай турме, датэрмінова выйшлі на волю.

У літаратуру прыйшлі дзесяткі юнакоў і дзяўчат. Поўныя аптымізму, яны гатовыя былі звяргаць старыя аўтарытэты і тварыць літаратуру, якой яшчэ не было. Маладое бурапенства супрацьпаставілася старому, нашаніўскаму, адраджэнству. «Маладняк» браўся «ідэі матэрыялізму, марксізму й ленінізму ажыццявіць у беларускай мастацкай творчасці». З часам, аднак, выявілася, што ажыццяўленне ў мастацкай творчасці ідэй матэрыялізму, марксізму й ленінізму вяло некаторых маладых пісьменнікаў на шлях рамесніцтва, халтуры і пісання агітак.



З «Маладняка» вылучылася новае літаратурнае згуртаванне — «Узвышша», якое паставіла ў цэнтр увагі высокую эстэтычную культуру творчасці, узвышэнне беларускае літаратуры. Паводле сваёй сутнасці ўзвышэнства было працягам адраджэнства, і толькі прыватныя моманты перашкодзілі таму, што ў згуртаванне «Узвышша» не ўвайшлі, за выключэннем Змітрака Бядулі, «старыя». Аднак неўзабаве частка былых маладнякоўцаў аб'ядналася са «старымі», у тым ліку з Янкам Купалам ды Якубам Коласам, і стварыла трэцяе літаратурнае аб'яднанне — «Полымя». Тое, што засталося ад «Маладняка», з часам трансфармавалася ў прыпартыйную Беларускую асацыяцыю беларускіх пісьменнікаў (БелАПП).

Даючы дазвол на стварэнне і дзейнасць новых літаратурных аб'яднанняў, КП(б)Б выконвала пастанову свайго маскоўскага кіраўніцтва, якое ў 1925 годзе дазволіла шматстайнасць у літаратуры. (Праект тае пастановы, наколькі вядома, пісаў выдатны чырвоны палкаводзец Міхаіл Фрунзе, які ў кароткім часе пасля таго памёр загадкавай смерцю*.)

Гэта быў час адноснага лібералізму бальшавіцкае сістэмы. А прырода бальшавізму такая, што ён не можа існаваць без манаполіі — без манаполіі на ўладу перш за ўсё. Адсюль вынікае астатняе, у тым ліку адзіна правільнае вучэнне і адзіна правільны творчы метад. Дазваляючы шматлікасць літаратурных арганізацый і ў пэўнай меры шматстайнасць літаратурных плыняў, бальшавікі не адмаўляліся ад кантролю гэтых арганізацый. Яны і думкі не дапускалі, што арганізацыі дзейнічаюць бескантрольна і — што зусім недапушчальна — насуперак партыі і яе ідэалогіі.

Казаць па вялікім рахунку, што ідэя ўзвышэнства і дзейнасць палымянцаў пярэчылі генеральнай лініі КП(б)Б і нават Усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў, было б перабольшаннем. Генеральная лінія, вядомая нам пад імёнамі сталінізму, бальшавіцкага таталітарызму, яшчэ не зацвярдзела. Сталіну і яго аднадумцам яшчэ належала пераадолець супраціў іх палітыцы ва ўласнай партыі. На барацьбу з «ухіламі» (гэта і Леў Троцкі з яго шматлікімі прыхільнікамі, і «новая апазіцыя» ў асобе Рыгора Зіноўева і Льва Каменева, і «правы ўхіл» на чале з Мікалаем Бухарыным, Аляксеем Рыкавым ды Міхаілам Томскім) Сталіну спатрэбілася больш за пяць гадоў пасля смерці Уладзіміра Леніна. А да таго, як Сталін перамог, у краіне праводзілася новая эканамічная палітыка (нэп) і збольшага ажыццяўлялася выпрацаваная Леніным нацыянальная палітыка, якая мела свой выраз у гэтак званай беларусізацыі**.

* Гэтай падзеі Барыс Пільняк прысвяціў «Аповесць непагашанай поўні» і ў 1926 годзе апублікаваў яе за мяжою.

** «Не столькі той работы, як галасу», — пісаў Уладзімір Жылка ў лісце да Антона Луцкевіча.

У КП(б)Б яшчэ дзейнічала даволі ўплывовая нефармальная фракцыя нацыянал-камуністаў, якія якраз і праводзілі палітыку ўзвышэння беларусаў, беларускіх сялян і работнікаў праз беларусізацыю (перш за ўсё праз адукацыю ў роднай мове, стварэнне культурна-асветных устаноў, наладжванне выдавецкай справы і да т. п.), каранізацыю (павелічэнне долі беларусаў у выбарных органах, у адміністрацыі, судах і г. д.), праз правядзенне нэпу (а стрыжань гэтае палітыкі складала ўмацаванне сялянскай гаспадаркі, рост дабрабыту сялянства). Таму дзейнасць узвышэнцаў, якая шмат у чым была сугучная памкненням і сябраў «Полымя», не выпадала з агульнага праекта беларускага нацыянал-камунізму.

Палітыка беларускіх нацыянал-камуністаў практычна супадала з пастулатамі беларускіх сацыял-дэмакратаў і сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Не віна, а бяда беларускіх нацыянал-камуністаў была толькі ў тым, што ў ажыццяўленні сваёй палітыкі яны былі цалкам залежныя ад Масквы, якая — у адрозненне ад Польшчы і ад заходніх дэмакратыяў — усё ж прызнала права Беларусі на тэрытарыяльную аўтаномію і (у немалой ступені) на аўтаномію культурную.

Толькі расправіўшыся з найбольш уплывовымі апанентамі ў сваёй партыі, дэмаралізаваўшы іх, замацаваўшы «генеральную лінію», Сталін мог распачаць ліквідацыю элітаў у «нацыянальных» рэспубліках.

Апублікаваныя матэрыялы і сведчанні тых, хто перажыў эпоху масавага тэрору, адназначна паказваюць, што ліквідацыя нацыянальных элітаў праводзілася паводле пэўнага плана. Як і калектывізацыя, «ліквідацыя кулацтва як класа», так і тэрор творчай, навуковай інтэлігенцыі, знішчэнне адміністрацыйных кадраў «старой заквасkі» праводзіліся хвалепадобна: наступ змяняўся часовым адступленнем, пасля чаго тэрор аднаўляўся з новай сілай, пакуль не дасягнуў свайго апагею ў 1937–1938 гадах.

Адносна мірны перадых у гісторыі бальшавіцкай дзяржавы, які называўся новаю эканамічнаю палітыкай, скончыўся ўвосень 1929 года, калі ў вострай ідэалагічнай барацьбе былі пераможаны прыхільнікі новай эканамічнай палітыкі. У Беларусі сітуацыя ўскладнялася тым, што палітычная, ідэалагічная барацьба спраглася з барацьбою афіцыйнай Масквы супроць нацыянальнай эліты, якая, ад Аляксандра Чарвякова пачаўшы, у большыні сваёй была прыхільніцай нэпу, паступовасці і памяркоўнасці ў сацыяльна-эканамічных пераўтварэннях. Для таго, каб меціць праціўніка, бальшавікамі яшчэ раней былі вынайдзены тэрміны «нацдэм», «нацдэмакратызм», «нацдэмаўшчына». І гэтая нацдэмаўшчына, як сцвярджалі бальшавіцкія ідэолагі, была спецыфічнаю (ва ўмовах БССР) праяваю правага ўхілу, а правы ўхіл, як сцвярджаў Іосіф Сталін, мог прывесці СССР да рэстаўрацыі капіталізму.

Такая тэарэтычная база падводзілася пад тэорыю абвастрэння класавай барацьбы. А раз класавая барацьба абвастраецца, то ўсякі супраціў «генеральнай лініі» ёсць праяваю контррэвалюцыі.

Таталітарызм тым і адрозніваецца ад аўтарытарызму, што ідэалогія, ідэалагічны кантроль пранізвае ўсю сферу духоўнага жыцця грамад-



ства. У тых варунках, калі партыя-дзяржава трымае ў сваіх руках сродкі масавай інфармацыі і выдавецкую справу, творчасць па-за афіцыёзам немагчымая. Пасіўны супраціў — адмаўчацца, адысці ў бок (у прыродапісальніцтва і ці ў перакладчыкі) — быў маларэальны. Ведама, можна было пісаць «для сябе», «у шуфляду», але дзеля гэтага, калі ты прафесійны пісьменнік і хацеў жыць, патрабавалася публікаваць нешта дазволенае. У Беларусі такога прыкладу я не знайду, а ў Расіі выдатна пісаў «у шуфляду» Міхаіл Прышвін. Другі варыянт — змоўкнуць, перачакаць, адысці ад літаратуры і літаратурнага асяроддзя — абралі Янка Туміловіч і Аркадзь Моркаўка. Быў і трэці варыянт — пакінуць Радзіму, змоўкнуць, перачакаць, адысці ад літаратуры і літаратурнага асяроддзя. Гэтак зрабіў Алесь Вечар. Уцёкамі з БССР ратаваліся літаратуразнаўца Аляксандр Вазнясенскі, перакладчык і музыколаг Юлі Дрэйзін. Міхась Кавыль мусіў пакінуць Бацькаўшчыну, каб пазбегнуць другога арышту. Чацвёрты варыянт — пакінуць Радзіму і змоўкнуць назаўсёды — выпаў на долю Наталлі Вішнеўскай* і Налі Маркавай.

Пісьменнікаў змушала змоўкнуць і сама ўлада. Рыгор Папараць фармальна заставаўся на волі, але за пяро больш не ўзяўся, бо так яму загадала ўлада.

Віктара Казлоўскага раз-пораз кідалі ў псіхіятрычку, пакуль чалавек не страціў розум. Увагналі ў хваробу і Паўлюка Ананьева.

Царская ссылка, пра якую мы чытаем ва ўспамінах пра Аляксандра Пушкіна, у «Былым і думах» Аляксандра Герцэна ці ва ўспамінах Надзеі Крупскай пра Уладзіміра Леніна, або царская турма, апісаная Фёдарам Дастаеўскім у «Запісках з Мёртвага дому», савецкаму ссыльнаму і вязню турмы (канцлагеру) магла б здацца месцам адпачынку. Насіць захаляўны сшытак з творамі, як гэта ўдавалася Тарасу Шаўчэнку, у сталінскай турме, у сталінскім канцлагеры было магчыма толькі ў тэорыі.

Колькі беларускіх пісьменнікаў бальшавіцкі рэжым на доўгія гады вырваў з літаратурнага працэсу? Нейкай дакладнай лічбы не ведае ніхто. Не толькі таму, што дасюль нам недаступныя архівы карных органаў. Але й таму, што няма пакуль што адказу на пытанне: каго з тых, хто друкаваўся, можна аднесці да пісьменнікаў? Ці толькі тых, хто пісаў вершы, аповесці, апавяданні, рэцэнзіі ды крытычныя артыкулы, рабіў мастацкія пераклады? Ці нельга да гэтае катэгорыі аднесці і тых, хто пісаў на прыстойным літаратурным узроўні публіцыстыку і нарысы? Калі гаворка ідзе аб паэтах, празаіках, крытыках, літаратуразнаўцах, перакладчыках і мемуарыстах, праз бальшавіцкія турмы і лагеры прайшлі дзесяткі. Гэта: Антон Адамовіч, Вінцук Адважны (святар Язэп Германовіч), Андрэй Александровіч, Мікола Аляхновіч, Аляксей

---

* У 1944-м немалая група пісьменнікаў выбрала пяты варыянт — эміграцыю, — але ў канцы 1920-х і ў 1930-х гэты варыянт быў немагчымы ці амаль немагчымы. З БССР можна было ўцячы, толькі нелегальна перайшоўшы мяжу, але Польшча з якою межавала Савецкая Беларусь, была непрывабнаю для беларускіх пісьменнікаў краінай.

Анішчык, Наталля Арсеннева, Змітрок Астапенка, Мікола Байкоў, Сцяпан Баркоўскі, Захар Бірала, Пятро Бітэль, Янка Быліна (святар Ян Семашкевіч), Ядвіга Бяганская, Рыгор Бярозкін, Змітро Віталін, Яфім Гаварушка, Вісарыён Гарбук, Алесь Гародня, Юрка Гаўрук, Ларыса Геніюш, Міхайла Грамыка, Сяргей Грахоўскі, Алесь Гурло*, Сяргей Дзяргай, Уладзімір Дубоўка, Уладзімір Дудзіцкі, Язэп Дыла, Якуб Ермаловіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Алесь Звонак, Алесь Змагар, Міхась Кавыль, Аўген Калубовіч, Рыгор Клімовіч, Уладзімір Клішэвіч, Рыгор Кобец, Рыгор Крушына, Лявон Крывічанін, Платон Крэнь, Тодар Лебяда, Леанід Леўшчанка, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Максім Лужанін, Раман Ляпіч, Аркадзь Мардвілка, Якуб Міско, Паўліна Мядзёлка, Уладзімір Мяжэвіч, Мікола Нікановіч, Сяргей Новік-Пяюн, Алесь Пальчэўскі, Рыгор Папараць, Уладзіслаў Паўлюкоўскі (Улад-Ініцкі), Алесь Пруднікаў, Павел Пруднікаў, Уладзімір Прыбыткоўскі, Язэп Пушча, Раман Сабаленка, Пятро Сакол, Юльян Сергіевіч, Уладзімір Сіўко, Ян Скрыган, Лявон Случанін, Станіслаў Станкевіч**, Васіль Супрун, Масей Сяднёў, Уладзімір Сядура, Рыгор Хацкевіч, Мікола Хведаровіч, Васіль Хомчанка, Сымон Хурсік, Мікола Цэлеш, Тамара Цулукідзэ, Уладзіслаў Чаржынскі (Дзяржынскі), Нічыпар Чарнушэвіч***, Аркадзь Чарнышэвіч, Кузьма Чорны, Янка Шутовіч, Станіслаў Шушкевіч, Браніслаў Эпімах-Шыпіла. У верасні 1939 года ў савецкі лагер трапіў жаўнер Войска Польскага Пётра Сыч. Следам за мужам (Максімам Лужаніным) добраахвотна ў ссылку падалася паэтка Яўгенія Пфляўмбаўм. У падлетка Альфрэда Радзюка (будучага паэта Алеся Салаўя) бальшавікі саслалі маці і бацьку. Ці маем мы права не запісаць яго ў ахвяры бальшавіцкага тэрору?

Мы нічога не ведаем пра лёс шмат каго з літаратараў. Дзе падзеўся Апанас Сідарэнка (Пеначкін), аўтар артыкула да 50-годдзя Янкі Купалы ў «Беларусі калгаснай» — артыкула, які выклікаў гнеў партыйных інстанцыяў і казённых крытыкаў?

Што ведаем пра літаратара Канстанціна Зарамбоўскага?

Хто скажа, як склаўся жыццёвы шлях Ганны Брэскай, Рыгора Бахты, Міколы Бацюшкава?

Мікола Аляхновіч, Змітро Віталін, Раман Ляпіч, Аркадзь Мардвілка, Сымон Хурсік, Уладзімір Чаржынскі (Дзяржынскі) пасля лагераў і ссылак да беларускай працы не вярнуліся.

Дзяржаўны тэрор, палітычны, ідэалагічны ўціск скоўваў творчы патэнцыял тых, хто заставаўся на волі. Дый волю тую можна толькі ўмоўна назваць воляй. Пастаўлены да сценкі тварам з узнятымі ўгору рукамі Якуб Колас — вось сімвал беларускай літаратуры 1930 —1940-х гадоў.

Хто з беларускіх савецкіх і падсавецкіх пісьменнікаў мог пахваліцца, што ён цалкам адданы творчай працы? Пра каго з іх можна сказаць, што іх талент разгарнуўся напоўніцу? Затэрарызаваны Янка Купала складаў вершы ў гонар «бацькі народаў». Янка Брыль, пераглядаючы адзін за адным тамы Поўнага збору твораў Паэта, скрушна пісаў: «Ох, гэты цяжкі ды змрочны пяты том!.. З «паэзіяй» трыццатага — сорак другога гадоў, вельмі далёкай ад Яго таленту. Ніякага асуджэння, а толькі жаль...»* Амаль тое ж мы можам напісаць пра Якуба Коласа. Няўтульна пачуваўся пад «сталінскім сонцам» і Змітрок Бядуля. Як жыў у пастаяннай трывозе за сябе і сваё жыццё высокаталенавіты Аркадзь Куляшоў, пра тое апавядае ягоная дачка. Толькі заходнебеларускія рэвалюцыйныя заслугі ахавалі ад тэрору Міхася Васілька і Максіма Танка. Да присуджэння яму Сталінскай прэміі жыў у трывозе і Янка Брыль.

Нельга сказаць, што вольнымі пачуваліся тыя літаратары, якія даносілі. Калі і быў у каторага з іх талент, яму таксама не наканавана было разгарнуцца.

Не будзем ідэалізаваць і тых, хто трапіў у лагеры і ссылкі, быў расстраляны і закатаваны. Былі сярод іх і даносчыкі на калегаў, даносчыкі «ад шчырага сэрца» і дзеля зайздрасці, даносчыкі бескарыслівыя і карыслівыя. Сярод іх былі і адданыя бальшавікі, якія да апошняга моманту думалі, што «здарылася памылка». Але я ўпэўнены, што ўсе яны, людзі рознае меры таленту, рознага маральнага ўзроўню, адкупілі сваю віну пакутамі і пакутніцкай смерцю.

Расстраляных, загінулых у ГУЛАГу, памерлых у ссылцы і на пасяленні таксама былі дзесяткі: Сяргей Астрэйка, Адам Бабарэка, Міхась Багун, Сымон Баранавых, Якаў Бранштэйн, Янка Валасевіч, Анатоль Вольны, Платон Галавач, Уладзіслаў Галубок, Цішка Гартны, Максім Гарэцкі, Станіслаў Грынкевіч, Францішак Грышкевіч. Сяргей Дарожны, Ігнат Дварчанін, Анатоль Дзяркач, Алесь Дудар, Хацкель Дунец, Кастусь Езавітаў, Уладзімір Жылка, Іван Замоцін, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Лукаш Калюга, Андрэй Капуцкі, Павел Каравайчык, Мікалай Каспяровіч, Тодар Кляшторны, Макар Краўцоў, Сымон Куніцкі, Фелікс Купцэвіч, Дзмітрый Курдзін, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Юрка Лістапад, Антон Луцкевіч, Юрка Лявонны, Алесь Ляжневіч, Язэп Мазуркевіч, Валеры Маракоў, Барыс Мікуліч, Андрэй Мрый, Міхась Мялешка, Янка Нёманскі, Зяма Півавараў, Міхайла Піятуховіч, Сяргей Ракіта, Леапольд Родзевіч, Аляксандр Сак**, Алесь Салагуб, Уладзімір Самойла, ксёндз Адам Станкевіч, Васіль Сташэўскі, Іосіф Сукала, Аляксандр Сянкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Юлі Таўбін, Аляксей Траецкі, Янка Туміловіч, Аляксандр Уласаў, Сяргей Фамін,

---

* Ссылкаю быў пакараны ўмоўна, бо хварэў на сухоты і меў рэвалюцыйныя заслугі. Хворы на сухоты Уладзімір Жылка рэвалюцыйных заслуг не меў, таму быў сасланы.

** Аднавясковец і цёзка літаратуразнаўцы і гісторыка д-ра Станіслава Станкевіча.

*** Брат Міколы Хведаровіча.

* Брыль Я. З людзьмі і сам-насам: Запісы, мініяцюры, эсэ. Мінск: Мастацкая літаратура, 2003. С. 130.

** Былы ксёндз: адмовіўся ад сану.

Уладзімір Хадыка, Пятро Хатулёў, Аляксандр Цвікевіч, Адам Церах, Міхась Чарот, Макар Шалай, Фабіян Шантыр, Павел Шастакоў, Васіль Шашалевіч, Паўлюк Шукайла.

Дадамо да гэтага спісу вайскоўца Язэпа Дубоўку, які выступаў пад псеўданімам Язэп Вазёрны і быў не такі знакаміты, як ягоны брат.

Дадамо да гэтага спісу і аднаго з заснавальнікаў першае беларускае газеты «Наша доля» Францішка Умястоўскага. Маёр запасу Войска Польскага, пакліканы на службу на самым пачатку Другое сусветнае вайны, ён загінуў у Катыні.

З часам гэты спіс можа папоўніцца новымі імёнамі, бо пра лёс шмат каго з арыштаваных, сасланых, адпраўленых у канцлагеры мы не маем пэўных звестак.

Дзе прапаў нашанівец Хведар Імшэнік? Вядома толькі тое, што ён адбываў ссылку. Дзе скончыў свой жыццёвы шлях двойчы сасланы Аляксандр Шлюбскі? Дзе зніклі арыштаваныя журналіст Зміцер Паваротны (Антон Адамовіч называе пісьменнікам), паэты Васіль Леанідаў, Сяргей Мурзо, Ян Субач і Янка Чабор? Дзе знайшоў свой вечны спачын Уладзіслаў Грыневіч? Дзе падзеліся вязні канцлагераў Мікола Гваздоў, Сяргей Знаёмы, Язэп Падабед і Сяргей Русаковіч? Хто скажа нам пра абставіны смерці Льва (Лявона) Цвяткова, лінгвіста, даследчыка літаратурнай мовы?

Вядома, што са ссылкі вярнуўся філолаг Платон Жаркі (Антон Адамовіч называе яго пісьменнікам). У час вайны ён працаваў у Менску. Дзе ўзяць даведку пра час і месца ягонай смерці?

Хто скажа з пэўнасцю пра лёс Міколы Нікановіча: ён загінуў на фронце ці ўзяты СМЕРШам? А Рыгор Мурашка? Забіты немцамі ці засланымі ў нямецкі тыл эканвэдыстамі? Хто сярод белага дня забіў Вацлава Іваноўскага: СД ці савецкія агенты? Хто знішчыў Францішка Аляхновіча: польскія нацыяналісты ці бальшавікі?

Паўтаруся: ахвяры бальшавізму былі людзьмі рознае меры таленту, рознага маральнага ўзроўню і розных палітычных перакананняў. Іх яднала тое, што ўсе яны — атэісты і вернікі, свецкія і святары, камуністы і антыкамуністы, дзеячы БНР і БССР — любілі Беларусь і зычылі дабра свайму народу і сваёй краіне. І ўжо гэтым яны былі небяспечныя для Масквы і яе сатрапаў у Беларусі.

Ніякі суд — ні нябесны, ні зямны — не апраўдае збройны тэрор, учынены бальшавікамі у дачыненні да беларускае літаратуры, беларускае культуры, беларускага народа.

Кніга, якая прапануецца ўвазе чытачоў, магчыма, выходзіць пазнавата. У іншых постсавецкіх краінах падобныя выданні з'явіліся раней. Але важна, што кніга выходзіць. І важна тое, што змешчаныя ў ёй тэксты служаць справе абвінавачання бальшавіцкага таталітарнага рэжыму, служаць справе асуджэння яго злачынстваў.

*Анатоль Сідарэвіч*

# АЛЯКСАНДР УЛАСАЎ

Выдавец, публіцыст, грамадскі і культурны дзеяч Аляксандр Уласаў нарадзіўся 16 (28) жніўня 1874 года ў Вілейцы Віленскай губерні (цяпер Мінская вобласць). Вучыўся ў духоўнай семінарыі і рэальным вучылішчы ў Пінску, рэальных вучылішчах у Мінску і Лібаве. У 1905 годзе скончыў політэхнічны інстытут у Рызе. Трымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905–1907 гадоў. Адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ), быў членам яе ЦК. Рыхтаваў да друку беларускую газету «Наша доля», з 8 снежня 1906 да 16 мая 1914 года быў рэдактарам-выдаўцом газеты «Наша ніва». За антыўрадавыя публікацыі прыцягваўся да судовай адказнасці, у 1909 годзе быў асуджаны на 4 месяцы турэмнага зняволення. Адзін з заснавальнікаў беларускага выдавецтва «Наша хата» ў Вільні. У 1912 годзе ў Вільні наладзіў выданне сельскагаспадарчага часопіса «Саха», а ў 1914 годзе ў Мінску — краязнаўчага часопіса для моладзі «Лучынка». У 1914–1917 гадах служыў у царскай арміі. Быў удзельнікам Усебеларускага з'езда 1917 года, з красавіка 1918-га — у складзе Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. У канцы 1920 года вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. За спробу адкрыцця ў Радашковічах беларускай гімназіі быў арыштаваны польскімі ўладамі і адбываў пакаранне ў канцлагеры ў Стшалкове. У 1922 годзе быў выбраны ў польскі сенат, дзе актыўна абараняў правы беларусаў. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Таварыства беларускай школы (ТБШ), якое дзейнічала з 1921 да 1936 года. У 1939 годзе шчыра вітаў далучэнне Заходняй Беларусі да БССР. Але неўзабаве быў арыштаваны органамі НКУС па сфабрыкаваным абвінавачанні ў «шпіёнска-правакатарскай дзейнасці» і пасаджаны ў вілейскую турму. Адсюль А. Уласава як «сацыяльна небяспечнага элемента» выслалі ў Сіблаг (Новасібірская вобласць Расіі), дзе ён і быў загублены на 67-м годзе жыцця.

## АБ БЕЛАРУСКІМ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ АДРАДЖЭННІ

Вось скончыліся ўжо тры гады, як нарадзілася беларуская газета[1]. Тры гады друкаванае беларускае слова нясе ва ўсе куты нашае старонкі думкі аб адраджэнні забытага ўсімі народа, паказвае беларусу, што ён такі самы чалавек і грамадзянін свайго

краю, як усе іншыя, што мова яго і ўсё нацыянальнае багацце мае вялікую цану, дый беларускі народ, пакрыўджаны гісторыяй і людзьмі, павінен заняць пачэснае месца ў сям'і братніх нацый. Газета асвятляе гэтае жыццё мужыка-хлебароба, і ў гэтай рабоце ёй памагаюць самі беларускія сяляне: усё болей павялічваецца грамада супрацоўнікаў і карэспандэнтаў газеты, і таму ў ёй, як у люстры, бачым жыццё краю.

Але не самае друкаванае слова, не сама газета робіць адраджэнне 8-мільённага народа, бо ёй гэта і не пад сілу: яна толькі кіруе яго, яна раздзьмухвае тыя іскры нацыянальнай свядомасці, што бліснулі ў часы завірухі, каторая ад краю да краю ўскалыхнула ўсё расійскае гасударства[2].

Праўда, яшчэ перад гэтай завірухай бачым (бадай, праз цэлы XIX век) пробы збудзіць беларусаў: адзін за адным з'яўляюцца беларускія песняры-паэты, каторыя сваімі вершамі і песнямі кідалі зярняты любові да бацькаўшчыны, да ўсяго, што сваё, роднае. Але ў той век цемнаты і паняверкі народа беларускага (яшчэ за паншчынай) гэтыя зярняты не даходзілі да нашай вёскі, а калі і даходзілі, то падалі на неўраджайную глебу і не ўсходзілі. Мы не будзем пералічваць першых твораў у беларускай мове, каторыя з'яўляліся ў прошлым сталецці: яны паказаны ў бібліяграфіі. Скажам толькі, што найшчаслівейшымі спаміж паэтаў таго часу былі Багушэвіч (Мацей Бурачок) і Янка Лучына (Неслухоўскі): іх творы друкаваліся ў 90-х гадах XIX в. і пайшлі глыбока ў народ, але і то толькі тады, як у Беларусі з'явіліся нацыянальныя арганізацыі.

Гэтыя арганізацыі нарадзіліся на мяжы XIX і XX сталецця ў — спачатку ў Мінску, Вільні і іншых гарадох нашага краю, пазней у Пецярбургу, Рызе. Невялікія грамадкі школьнай моладзі, студэнтаў, дый сталых людзей пачалі дружна шырыць між беларусамі свет навукі ў іх роднай мове. Але пры тадышніх варунках жыцця чыста культурная праца гэтых арганізацый мела вельмі многа перашкод і таварыствы пашырэння прасветы не шмат здолелі зрабіць.

Адной з прычын упадку першых культурна-нацыянальных беларускіх арганізацый было і тое, што рэвалюцыйная завіруха захапіла ўсю нашу моладзь. Усе інтэлігентныя сілы краю заняліся адной толькі палітыкай. Тады залажыліся першыя беларускія палітычныя арганізацыі — партыі.

Аб тым, што рабілася ў расійскіх губернях і па вялікшых гарадох, беларускі мужык чуў толькі няясныя весткі. Не разумеючы добра, чаму і адкуль пайшла тамака завіруха, наш селянін пачаў



разглядацца навакол, пачаў думаць аб сваім жыцці і долі сваёй, аб прычынах усяго злога, аб сваім палажэнні між іншымі станамі і народамі. Гэтыя думкі, каторыя і разбіраліся і ў друкаваным, і ў жывым беларускім слове, давялі нашага хлебароба да пазнання таго, што ён такі ж чалавек, як усе, дый у такім прыпадку і ўсё яго роднае, як мова, думкі, песні, звычаі і г. д., не горшыя за чужаземныя. Раз пазнаўшы гэта, беларус падняў свой голас, дамагаючыся сабе грамадзянскіх правоў, жадаючы шацунку для сваёй мовы і дапушчэння роднага слова ў школу. Да гэтага жадання прылучылася вялікая частка народнай інтэлігенцыі — вучыцеляў народных.

Тады — у 1906 годзе — адкрылася першая выдаўніцкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбургу; яна надрукавала першыя кніжкі да навукі па-беларуску (лемантар, першае чытанне і іншыя), а таксама пачала выдаваць творы песняроў нашых даўнейшых і новых. У канцы 1906 года ў Вільні выйшла ў свет і першая беларуская газета «Наша доля»: народ жадаў, каб яму асвятлялі ўсё тое новае жыццё, каторага ён не разумеў, і таму газета адразу знайшла многа тысяч чытацеляў між сялянамі. Але «Наша доля» пажыла нядоўга. Яшчэ перад смерцю яе ў Вільні адкрылася новая беларуская газета «Наша ніва», каторая на першым месцы паставіла культурна-нацыянальную работу, якую вядзе і цяпер.

Праз тры гады жыцця беларуская газета паспела ўсё ж такі зрабіць нямала. «Наша ніва» выклікала грамаду супрацоўнікаў-сялян і гэтак зрабілася народным дзелам — народнай уласнасцю. На яе клік паадкрываліся новыя беларускія культурна-нацыянальныя арганізацыі — суполкі «Мінчук»[3], «Наша хата»[4] і г. д., ды ўсе яны шчыра працуюць, каб узбагаціць родную літаратуру і даць беларусам можнасць вучыцца з кніжак, пісаных мовай бацькоў іх. Пры «Нашай ніве» ўзрасла і расце чарада нашых песняроў-паэтаў і пісацеляў, каторыя выйшлі з курнай мужыцкай хаты і ў пекным слове малююць душу нашага народа, малююць яго жыццё, яго долю-нядолю, яго звычаі, думкі, жаданні.

*1909*

## ДНІ ЖЫЦЦЯ

### І. Дзяцінства

* * *

Мой бацька быў старасвецкі павятовы пачмейстар у гарадку на Віліі[1]. Гэта быў яшчэ час гогалеўскіх пачмейстараў. Чыгунак не было, і пошта і падарожныя ездзілі на паштовых у Пецярбург, Маскву, Вільню, Менск, Варшаву. Дзень і ноч, летам і зімой, восенню і вясновай распуціцай звінелі званкі на старым кацярынінскім гасцінцы. Шумелі векавыя алеі бяроз па баках дарогі. Была асобая парода, цяпер згінуўшая, паштовых ямшчыкоў. На глухой станцыі было вывешана: ад Санкт-Пецярбурга 711 вёрст, ад Масквы 620 в. Тавары, людзі цыркуліравалі безупынку гэтымі пуцямі саабшчэння.

У той няхітры і просты век на свеце жылі памешчыкі, мужыкі, чыноўнікі, і кожны адвеку трымаўся свайго класу. Пахла яшчэ нядаўняй паншчынай, адгалоскамі сярэдневяковага феадальнага закасцянелага строю. Калі я радзіўся, то путы паншчыны былі гадоў 10–15 перад гэтым зняты. Усякая ўласць — ад Бога, яе слухай, цар на зямлі, бог на небе, усякага начальства, якое ні было б яно і яго парадкі благія, усяк слухайся. З багатым не судзіся, Бога бойся і пана слухай. Шляхцянят секлі ў школах, мужыкоў у воласці, салдат у роце. Ніхто не раптаў, як цяпер...

Моцна пахла яшчэ Мікалаем І Палкіным, як яго зваў народ. Кожны стары сівы салдат перад чаркай гарэлкі тлумачыў: «Я 25 гадоў (служыў) цару-ацечаству, цар Мікалай казаў: «25 салдат забіць, аднаго вывучыць». Як сябе прыпамінаю па расказах старшых, эпоха майго дзяцінства працякала ў такую пару. Людзі пілі, елі, жылі, памíралі, як вялікія дзеці, рабілі несправядлівыя жорсткія рэчы са спакойным сумленнем, а другія жылі ў беднасці, вечнай працы, холадзе, голадзе, паняверцы, лічачы гэта за нармальны стан. Да Бога далёка, да цара высока, скачы, уража, як пан кажа... Служы пану верне, дык ён табе перне, пан скача, а служка плача, паны б'юцца, а ў халопаў чубы трашчаць [...]

* * *

Вучэнне ў Менскім Рэальным вучылішчы было падобным на прыгон. Мярцвячына, безжыццёвая казёншчына. Дзеці-шкаляры і настаўнікі былі нейкія завадныя лялькі. Чорная рэакцыя Аляксандра III пры помачы міністра асветы Дзялянава выбівала з людзей жывы дух чалавечы, жывую думку. Самыя блізкія людзі вучням, каторыя спагадалі ім, былі старажы гімназіі з адстаўных салдат.



Не вінавачу настаўнікаў маёй маладосці, бо калі яны вучыліся, то іх душы жалязка рэакцыі прасавала мацней, чым нас, і на ўсё жыццё крахмалізавала іх. Не помню, каб калі хто з вучыцеляў калі-небудзь вёў якія прыватныя жывыя гутаркі з намі.

І быў у нас рэжым «арыстанцкіх рот», каторы ніхто не асмельваўся парушыць. За дзёрзкі від «вучань даставаў школьныя скарпіёны поўнай порцыяй». У Менскай гімназіі было тое самае. Форма, гузікі, ранцы, чынапачытанне, ранжыр.

* * *

У пачатку васьмідзесятых гадоў у Менску з'явілася першая газета «Минский листок». Гэта была навіна як першыя майскія перуны. Менчукі са слязамі прасвятлення і радасці чыталі «наш» лісток. У Менску ў нас, як [у] сталіцах, свая газета. Паводле слоў старэйшага беларуса Тодара Вернікоўскага, каля газеты згуртаваліся ўсе лепшыя інтэлігенты горада з рэдактарам Фоцінскім на чале. Свабоднай палітычнай думцы [у] тае гады [газета] адводзіла маленечкі прастор, але жыццё горада і злыдні адбівала вельмі добра. Можна было лаяць гарадскую думу скольки ўлезе, была паліцэйская хроніка, аб начальсцвенных мерапрыемствах. Светлую думку ўсё ж такі гэтыя інтэлігенты праводзілі ў зацíснутыя мазгі жыхароў. У гуртку гэтай інтэлігенцыі знайшоўся і патрыёт свайго народа Антон Слупскі. Дзякуючы лібералізму начальства, пры газеце выйшаў «Минский календарь», дзе А. Слупскі змясціў у беларускай мове літаратурны дадатак. Гэта было адкрыццём Амерыкі, як кажуць, адкрылі цэлы народ, каторы займаў гэту зямлю. Большасць людзей лічыла тады, што гэта было зроблена дзеля жарту. Гэта першая беларуская ластаўка ў Менску сведчыла аб смелым і ганаровым розуме святой памяці А. Слупскага.

Той жа Т. Вернікоўскі апавядае, што ў складзе на дварэ дома Слупскіх па Захар'еўскай вул. за мостам з левага боку, не даходзячы трэцяга дома да Далгаброцкага завулка, адбыўся першы дамовы беларускі тэатр. Ставілі п'есу, напісаную, мусібыць, Слупскім. Гэта было летам 1884 года. Артыстамі былі: А. Слупскі (яшчэ студэнт), дзве сястры Слупскага, сястра доктара Здановіча, дачка сястры міласэрдзія Гаазэ, студэнт Аляхновіч

(пазней вядомы доктар у Менску), Салаўевіч. Уся гэта моладзь былі студэнты і гімназісткі. На жаль, потым Слупскі выехаў з свайго краю ў Сібір земскім начальнікам.

Праз колькі гадоў, можа, гэты «Минский календарь» знайшоў водгук у святой памяці інжынера Янкі Неслухоўскага[2], у яго «Вязанцы». Калі я быў вучнем, вечнай памяці пясняр гэты прыязджаў у м. Карлзберг [да] майго швагра археолага Андрэя Сніткі на паляванне.

У гэтыя часы Ядвігін Ш. (Антоні Лявіцкі) ператлумачыў «Сігнал» Гаршына на беларускую мову, седзячы ў Маскве ў Бутырскай турме, куды былі зачынены «бунтаўшчыкі»-студэнты. З-пад тоўстага лёду рэакцыі пачалі прабівацца струменьчыкі жывой веснавой вады.

Помню, у трэцім класе на «Законе божым» мы даведаліся, што на ст. Баркі зрабілася крушэнне, і цар шчасцем выратаваўся ад смерці. Зрабілі гэта людзі, што ідуць проці цара. Гэта камбінацыя двух сіл навяла нас на новыя думкі.

Мы жылі на Садовай вуліцы, у нас заняў пакой нейкі студэнт. Раз ён выкінуў за акно парваную бумажку. Я яе прачытаў. Гэта была пракламацыя. Я тады канкрэтызаваў рэвалюцыянераў са студэнтамі.

* * *

Менск часоў майго хлапцоўства чуць пачаў выходзіць з рамак захалуснага губернскага горада. Каляды, Вялікдзень, Новы год святкавалі як бы кажучы ўсенародна, цэлы горад быў настроены на радасны тон. Мы, шкаляры, чакалі Каляды як збавення.

Былі ў поўным ходзе батлейкі. На рагах вуліц стаялі вечарам з чырвонай лятарняй на версе батлейкі на санках. Не было такога дому, куды б не зазывалі батлейку. Пад музыку на сцэну выходзілі чорт, смерць, жыд, цар Ірад, цыганка, доктар (яго рабілі падобнага на папулярнага доктара Шпакоўскага), пан, казакі, студэнт, а пад канец Антон з казой:

Антон казу вядзе,
Антоніха паганяе...

І герой вечара Мацей-Пацей. Расказывацель устаўляў у вусны Мацея столькі беларускага простанароднага гумару, што публіка душылася ад смеху.



Быў цэлы цэх батлейшчыкаў з «вучонага сасловія» менскіх шаўцоў. Потым нейкі палітмайстар забараніў батлейшчыкаў. Яго можна паставіць разам з нядобрай памяці Герастратам. У якой Англіі, напэўна, кожны лічыў бы нацыянальным гонарам падтрымліваць і захоўваць пекную традыцыю. Але людское тугагалоўе бываець ва ўсе часы шкадлівае і не мае граніц.

У 1915 годзе я ў рэдакцыі «Сахі» і «Лучынкі» арганізаваў батлейку. Колькі дзён пацягаўшыся па ўскраінах Менска, я адкапаў старых батлейшчыкаў шаўца Мядзіцкага і расказываццеля шаўца Муравіцкага, каторыя і батлейкавалі ў рэдакцыі нядзелі тры. Музыканты былі таксама шаўцы. Пры гэтым, пашукаўшы, я недзе спаткаў старэнькую мадыстку для лялек батлейкі, каторая з гэтага некалі жыла. Традыцыя вымагала, каб усе вопраткі былі нязменна старасвецкага фасону.

*[1920-я гг.]*

## II. Якуб Колас і «Наша ніва»

Мне ўжо 62 гады. Я належу да пакалення, якое адышло ў гісторыю. 90 проц. маіх равеснікаў ужо скончылі зямную кар'еру. Я яшчэ на пару гадоў затрымаўся. Варта было б мне напісаць свой «кінематограф» на працягу якіх 35 гадоў для беларускай моладзі. Можа, і ўдасца гэта зрабіць перад смерцяй. Малады пясняр Жылка (ён ужо на тым свеце) мне купіў тоўсты сшытак на гэта.

Калі я быў студэнтам, то мне прарочылі кар'еру літаратара-гумарыста, а я якраз усё жыццё пісаў на праклятыя палітычныя і эканамічныя тэмы. І цяпер прасілі мяне напісаць пра Якуба Коласа. Я па старой паганай прывычцы (як жартавалі з ваеннага пісара, каторы ўмеў танцаваць толькі ад печкі!) мушу трохі паглядзець на жыццё кругом. На свет гляджу з заходнебеларускіх земляў. Хацелася б мне пабываць яшчэ ў Менску. Калісьці старая «беларуская рэвалюцыйная грамада» ў пракламацыях нясмела пісала ў 1905–1906 гг.: «...аўтаномія Беларусі з сеймам у Вільні альбо ў Менску». Менск неспадзявана выскачыў першы на сталіцу. Вось я б хацеў паглядзець на новае там жыццё і «напіцца вады са Свіслачы». Кідаць мае бедныя заняпалыя, сумным жыццём народу, заходнебеларускія землі я не хачу. У мяне астаўся сентымент да скрыўджаных...

* * *

Мне трэба адысці ад цяперашніх часоў і з 1936 года пераскочыць на 30 гадоў узад. Бачыце, неяк не магу адразу перайсці на «заданую тэму».

Бунтавалі, баставалі ўсе студэнты, далучыліся работнікі і сяляне, самадзяржаўе скранулі з гранітнага фундамента. Дума... Народныя выбарныя...

Энергія была ў нас каласальная, энтузіязм маладосці. Вера горы перасоўвае! Менск 1905–1906 гг. Пасля першых маіх мітынгаў у Радашковічах, дзе я гаварыў страшэнныя штукі: «Цара не трэба» і т. п. — я, як кажуць далікатныя местачковыя нашы жыды, «трошкі» ўцёк, уначы, зімой, абсаджаным бярозамі старым трактам у Менск. Селянін падганяў каня свайго з пашаны да пасажыра: «Гэй, пралетарый усіх старон... саедзіняйся!» У Менску я з Бурбісам[3] і братамі Луцкевічамі і яшчэ з кучай моладзі арганізавалі забастоўку шаўцоў, парыкмахераў і музыкантаў... Стацкевіч («Аганёк») друкаваў пракламацыі, пускалі іх па вёсках і г. д.

Я не меў кватэры, быў падпольнік. Начаваў кожны дзень у другім месцы, а пару разоў і на скверы, «пільнуючы ўсходу сонца»... Здароўе было жалезнае, энергія маладая! З паўгода так рыскаў, як воўк, а Іван Луцкевіч[4] цэлы год у Вільні так бадзяўся. Гэта я пішу для характарыстыкі дэкарацыі таго часу.

Раз на вуліцы спатыкаю Леаніда Канстанцінаўскага, прыяцеля майго і друга са школьнай парты ў Лібаве. Леанід ажаніўся, быў багаты, наймаў вілу ў Менску. Я знайшоў у яго і стол, і дом. Яго жонка была тыпам тургенеўскіх кабет. Зараз, мае чытачы, дабярэмся і да Якуба Коласа. Гэта я малюю фон абраза.

Ехаў я раней, чым тое дзеелася, у трэцім класе. Раптам уваліваецца лапцяватая грамада беларусаў з Нёмана. Загналі плыты ў Коўну, едуць назад па Нёмане, каб ізноў гнаць дрэва. Мяне тады распірала, як кажуць цяпер, ад агітацыі, разгаварыўся скора, чытаў вершы Мацея Бурачка. Тады не было яшчэ ні Купалы, ні Коласа! Плытнікі з вёскі Мікалаеўшчыны. Гэта вёска дастаўляла не толькі «рачных ваўкоў», але і вучыцеляў народных, як м. Валожын — рабінаў. Мне гавораць: «А ў нас адзін настаўнік смешна чытае па-нашаму!»

Праз нейкі час быў у Менску з'езд вучыцеляў, на дачы на Камароўцы. На гэтым з'ездзе я спытаўся: «Хто тут з вас з Мікалаеўшчыны беларускія вершы фабрыкуець?» Выходзіць лабаценькі, з чорнай маладзенькай бародкай. Від у яго быў не зусім забіты семінарскай трафарэтнай вучобай.



Я павёў гэтае жамчужнае зерне да Леаніда Канстанцінаўскага. Ветлівыя гаспадары, шыкарная вячэра. Мой вучыцель развярнуўся. «Но лишь божественный глагол до слуха чуткого коснется, душа поэта встрепенётся, как пробудившийся орёл!» Хлопец пераабразіўся, вочы яго ззялі, твар адухатвараўся. Мілагучныя рыфмы спявалі ў яго.

Мы ўсе зразумелі, што перад намі — узыходзячая зорка беларускай паэзіі.

* * *

Браце Якубе! Можа, прачытаўшы гэта, ты ўспомніш нашу залатую маладосць беларускага адраджэння і наш стары «губернскі горад» Менск. Можа, пішучы аб Табе, я, адышоўшы ад актыўнай работы, стары, ужо не умею трымаць нос па ветры і не ўсім дагаджу: не прывык я гэтага рабіць. — Чуў твой голас, Якубе, праз радыё, чуў і гарачае прывітанне менскай публікі. Прайшоў Ты праз жыццё, зрываючы, як і мае пакаленне, мала кветак і многа церняў і турмы. Для мяне ўсё ж гэта гонар, што я першы цябе расшукаў — не праз абвесткі ў газетах, а праз лапцяватых мужыкоў! Я — твой хросны бацька. Нагародай мне было б, каб што-небудзь зрабіць для «Каласкоў» Беларусі, дзе я дажываю свой век! З маёй, цяпер нябожчыцы, радашкоўскай гімназіі выйшаў малады паэт Танк і многа іх яшчэ выявілася б пры добрых варунках асветы...

Помню, як у Менску хадзіў у турму да Коласа. За вучыцельскі з'езд ён дастаў тры гады. Помню, недзе пад Брэсцкім вакзалам, у завулку, драўляную турму, тыпу павятовай турмы, досыць патрыярхальную. «Старшой» Пікулік, чалавек дабрадушны, убачыўшы мяне з дарамі прыроды, гаварыў: «Пазавіце Кінстанціна!» З нутра турмы выходзіць неяк баязліва наш паэт. Сядаем на лавачцы каля варот, «па-сямейнаму» неяк сядзяць Пікулік і стражнік...

Я шмат разоў адведываў людзей у турмах. Ніколі не трэба пытацца: як маешся? А найлепш расказаць што-небудзь вясёлае, анекдоты. Іх любіў слухаць і Пікулік.

Калі К. Міцкевіч адсядзеў турму, Іван Луцкевіч, каторы ведаў увесь край, — у кожным завулку ён меў знаёмых, — намовіў адну сімпатычную старую паню Т. Гардзялкоўскую (кабету тыпу Э. Арэшчыхі) зрабіць беларускую школу тайную, і Якуба зрабілі вучыцелем яе. Ён быў першы беларускі вучыцель першай беларускай школы. Як гэта ўсё было там, я не памятаю.

* * *

Цяпер пяройдзем да «Нашай нівы». Пачатак беларускай прэсы быў увесь на ахвярах і цяжкай начной працы. Паўтраця году пісаў ад вечара да раніцы. Як мы вытрымалі гэту работу, я не разумею. Маладосць, нязломная воля і энтузіязм! Трэба было выpабляць літаратурную мову. Пазней з'явіліся памацнікі. Прыходзілі да нас як у «Запарожскую сеч». [...]

* * *

Прыбыў у рэдакцыю да нас урэшце і Якуб Колас. Далі яму адпаведную работу.

Прысылалі ў «Нашу ніву» многа вершаў, расказаў, карэспандэнцый. Колас меў многа працы. З благіх вершаў рабіў добрыя, і мястачковы вершаплёт, прачытаўшы свае вершы сваім знаёмым, дзівіўся разам з імі: якія пекныя вершы!

Колас унёс многа гумару ў рэдакцыю, чалавек ён быў жыццярадасны, у жыццё нашае «багемы» ўносіў у вольныя хвіліны многа вяселля.

## III. Менск-Беларускі 1912–1914 гг.

У Вільні выходзілі першыя беларускія газеты, адбыўся першы беларускі публічны драматычна-вакальны спектакль — гістарычны ў гэтым сэнсе. Там жа злажылася першае ядро беларускай інтэлігенцыі, каторая кіравала і крысталізавала беларускае народнае разбуджэнне. Менск, дзе жылі бацькі братоў Луцкевічаў і мае блізкія, аставаўся ў рэзерве неяк, хоць гэта было распрабеларускае места і ў гэтым сэнсе магло даць Вільні 100 ачкоў наперад.

Гарачыя, цяжкія і афэрныя даты ад 1906 г. у Вільні, калі беларускі рух трэба было цягнуць за валасы, прайшлі. З крыніцы, ручайка ён зрабіўся ракой, каторая рабілася ўсё магутнёй і піталася ўлівамі шырэйшых мае. Я любіў Менск больш Вільні. З Крашчэнскай альбо Захараўскай быў відаць агромны кругазор з сінеючымі ўдалі барамі-лясамі — гэта таямнічая і спячая Беларусь.

Кампанія нашаніўцаў усё думала аб беларускай акупацыі Менска. Афіцыянальна рэдактарства «Нашай нівы» я перадаў Я. Купалу.



Купала, кончыўшы вячэрнія курсы сярэдняй школы ў Пецярбургу пад апекай дабрэйшай душы — беларуса Эпімаха-Шыпілы, настолькі ўжо адшліфаваўся, што мы яго з «дзядзькоў» павысілі ў рэдакцыйныя «палкоўнікі». Ужо была выраблена і мова газетная, машына рэдакцыйная была, як кажуць цяпер, «стабілізіравана».

Заданне наша было: «Даеш Менск!»

Я перакаціўся ў адну пекную веснавую раніцу 1913 г. у Менск. Меў я «стол» і «дом» у майго швагра А. К. Снітко, асnаваццеля царкоўна-гістарычнага музея — любіцеля археалогіі і беларускай гісторыі.

Адным словам, я «ўцэнтраваўся» [у Менску, куды] рашыў перанесці «Саху».

Каб зрабіць рэдакцыю, трэба [мець]: кватэру, прымус, чайнік, дзве шклянкі і адміністратара, ён жа сакратар, стораж і кухар, а галоўнае, каб яго кармілі і адзявалі бацькі. Трэба яшчэ 12 унцый маладога энтузіязму.

Наперад перапрашаю чытачоў за контррэвалюцыйныя, паміма маёй волі, назовы менскіх вуліц, бо я ведаю, што цяпер, перш чым іх асфальціраваць, ім надалі новыя назовы.

Вуліцу Аляксандраўскую, 25, дзе я паставіў першую беларускую нагу альбо, як сказаў бы летапісец, адкуль пачалася беларуская сталічнасць Менска, трэба па справядлівасці і буржуазнай і пралетарскай назваць вуліцай «Сахі і Лучынкі». Згаджаюся нават карацей: вуліцу «Сахі».

Ад вуліцы магазін, у дварэ кватэра. Дамаўласнік Гурвіч і руды.

Пазычыў у інжынера Цывінскага ў гарадской управе, альбо па-новаму «камбедзе», пяцёрку, але залатую, даў гаспадару задатак, чым улюбіў у сябе «рудога» і на месяц прапаў у «невядомым кірунку», бо нідзе не мог папасці, як кажуць цяпер, «амерыканскай» пазычкі, а тады была модная «шарамецьеўская».

Неяк падымаюся я па Скобелеўскай з Вясёлай (мусібыць, яны цяпер не Скобелеўская і не Вясёлая!), дзе я жыў, аж каціць па ходніку прыземісты кс. Астрамовіч, развяваючы сутану. Шырокі яго мужыцкі твар засіяў, як сонца, сутыкнуўшыся са мной. Нас стала ўжо 2 беларусы ў Менску. Астрамовіч (ён жа пясняр Зязюля) бурна падтрымаў мае планы. [Але] за «пусканне опіуму» ў народ, як цяпер кажуць, ён заўсёды меў вельмі слабыя фінансы.

Ён мне аддаў усё, што меў, і цытадэль на Аляксандраўскай я заняў, трэба было набраць гарнізон.

* * *

З радасцю я ўспамінаю гэты перыяд майго жыцця.

Студэнцкі перыяд у Рыжскім політэхнікуме 1899–1905 гг. Першы бунт процiў самадзяржаўя шырокай фаляй пракаціўся па ўсіх вышэйшых вучэльнях. Сходкі, гарачыя-мовы, забастоўкі, свае бібліятэкі, пракламацыі, японскі пагром, канстытуцыя, Дзяржаўная дума... Многа жару і нерваў улажыў я ў усё гэта і прайшоў праз такую акадэмію, каторая прыгатавала і мяне і маіх таварышаў для беларускай працы.

З агульнарасейскага руху мы выйшлі, як бы на хутары, на адраджэнне сваёй беларускай правінцыі. Прайшоў я стаж працы ў Беларускай Рэвалюцыйнай грамадзе. Было тут усякай усячыны, звязанай з падпольнай працай у Менску. Не буду дакучаць маім маладым чытачам дэталямі, апісваць гэта як хроніку — задоўга. Калі-небудзь, можа, апішу некаторыя эпізоды ў мэтах больш дыдактычных, бо на гісторыка я не маю тэмпераменту.

Выковывалі з братамі Луцкевічамі, Барадатым (з рэдакцыі яго саслалі ў Сібір) Марцінам і др. у «Нашай ніве» беларускую мову і ідэалогію. Першыя 2 1/2 гады ноч у ноч пісалі мы з Антонам Луцкевічам да рана, пакуль вырабіліся нам памоцнікі.

Як гэта мы вытрымлівалі, я дагэтуль не разумею. Многа нам паддавалі жару жалезная воля і дух нябожчыка Івана Луцкевіча.

Я адсядзеў два разы на Лукішках: 7 дзён як рэпетыцыя і 4 месяцы адзіночкі, як ужо нешта больш саліднае.

Я гэта ўсё тут прытачыў, каб выясніць, што ў Менск я перакаціўся з Вільні, бо ўжо ўсіх беларусаў няможна было «змесціць на аднэй канапцэ», як пісаў іранічна адзін польскі журналіст, іх размножылася па ўсіх закутках краю.

Прайшло ўжо з таго часу 16 гадоў. Шмат чаго змянілася ў жыцці для мяне, «и сам, покорный общему закону, переменился я». — «Минувшее меня объемлет живо». Пекныя словы Пушкіна перадаюць і мой настрой.

Я ўжо, як пісаў Уладзімір Манамах, «сяджу на санях жыцця», т. е. бліжэй да канца сваёй чалавечай кар'еры. Рады нашы, старых беларусаў, моцна парадзелі!

Хочацца ўспомніць для навучання моладзі, хаця ідэі, жыццё народу не стаіць на месцы. Пакаленні змяняюць пакаленні.

Вечны толькі праўда, пекнасць, ісціна, да каторай цягнуцца, як да сонца, людскія масы. Ёсць нейкі ланцуг, працягнуты з пакалення ў пакаленне. Звенні яго неразрыўныя. Гэта змушае мяне ўзяцца за пяро. Мы таксама скавалі колькі такіх звенняў некалі.



* * *

Вернемся на Аляксандраўскую вуліцу — вуліцу «Сахі» і «Лучынкі», № 25 (хоць адну вуліцу ў жыцці перахрышчу альбо «пераакцябру»).

Першы гарнізон рэдакцыі, пры помачы мілых менскіх дзяўчат і хлопцаў са Старажоўскай вуліцы, № 1, арганізаваўся скора. Юзік, здаецца так было імя вярнуўшагася са службы мастака-тэхніка. У два мігі абмэбляваў рэдакцыю. Сваімі рукамі і габляваў, і дошкі цягаў на сваіх уласных плячах. Яго сястра стала «канторшчыцай» і пайшло ўжо [у нас], як кажуць: «Кантора пішэць».

У кватэру ў двары я ўехаў са сваім неразлучным веласіпедам і матрацам. Восень, холад, дроў няма, але я быў тады малады і ніякага холаду не баяўся.

Выпісаў я свайго старога прыяцеля маладосці — Антона Лявіцкага (Ядвігіна Ш.). Купіў мой адміністратар — Юзік — за 70 кап. сярэдневяковы шлебан на аўкцыёне ў магазіне Мухіна. На ім уцэнтраваўся стары маскоўскі студэнт — Ядвігін Ш., і зараз жа на прымусе дамавіта закіпеў чайнік.

Пачаў к нам сцягвацца народ. Выпусцілі першы нумар «Сахі» і адчынілі кнігарню — і пайшла «писать губерния».

Творчая думка кіпела ў нас. Кватэра рэдакцыі была адначасова і заездным домам. На даўжэйшы час пераехала да нас Цётка. Заязджалі да нас пад апеку Цёткі Канстанцыя Буйла, Станкевічанка (жонка Купалы), Аркадзь Смоліч і іншыя.

Надумалі [мы] выдаваць літаратурны месячнік «Лучынку». Найбольш душы ў гэта ўкладала Цётка. Па пятніцах збіраліся нашы песняры і празаікі: Альберт Паўловіч — здаравяк і юмарыст з натуры, дабрак з яснымі і праўдзівымі, як у дзіцяці, вачыма, Галубок, студэнт Фарботка (можа, тады яшчэ гімназіст), экспансіўная, як феерверк, — Цётка. Чыталі свае рэчы, ацэньвалі, крытыкавалі, укладалі нумар «Лучынкі». Пасля, гэтак кажучы, афіцыяльнай часткі, у двух пакоях збіралася моладзь, адкрываліся гульні. Замест мэблі мы купілі драўляныя пакі з-пад тавараў. На адным такім сундучку сядзеў аркестр з малых хлопцаў, здаецца, з духоўнага вучылішча. Капэльмайстрам быў студэнт-хімік Руткоўскі. Увесь аркестр неяк мясціўся на адным квадратным аршыне. Прыгатавушкі і першакласнікі трэнкалі на балалайках і мандалінах.

Увесь трактамант каштаваў мне нязменныя 30 к. на сушкі, а гліняныя філіжанкі на гарбату мы купілі ў ганчара на рынку. Танцавалі, гутарылі, спрачаліся, шмат было закаханых пар і ідэалізму маладосці. Трэба сказаць, што ў тыя часы Менск меў шмат інтэлігентаў усіх нацыяў. «Пятніцы» зрабіліся моднымі ў горадзе. У Менску жыло і сямейства літоўскага патрыёта-доктара Кодзіса і былі белаляхі. Усё гэта, пранюхаўшы пра беларускія пятніцы, сцягівалася на Аляксандраўскую вуліцу. Тут збіраліся ў нас, як кажуць, кветкі інтэлігенцыі. Цяпер страчан ужо гэты стыль студэнцкіх вечарынак, дзе ўсе былі жыццярадасныя, як маладыя шчаняты, быў бляск розуму, гутаркі па душам, пекныя летуценні, музыка, спеў.

Шырокага грамадзянскага жыцця тады не было, ні мітынгаў, ні палітычных сходак. Рэжым 1913 года быў яшчэ, як кажуць, «прыжымам».

Гэткія вечарынкі, ды яшчэ беларускія, было нешта з раду выходзячае, арыгінальнае, маючае крыніцу з толькі што прабуджаючагася народнага генія.

* * *

Каля рэдакцыі «Сахі» і «Лучынкі», як каля пункта, дзе знайшла апору і сваё выяўленне беларуская творчая сіла, нарасталі яе крысталы ва ўсе бакі сіметрычна.

Самі сабой менскія дзяўчаты і хлопцы, пераважна з акраін места, залажылі тэатральную трупу, хор. Ішлі рэпетыцыі з весялосцю, смехам і, ясная рэч, на зары маладога жыцця горада з каханнем сціплым, як лясны ландыш.

Нават трупа і хор выязджалі ў Радашковічы і ставілі там «Паўлінку», якая там паказалася на свет другі раз, а першы раз была ў Вільні.

У Радашковічах быў трыумф.

Моладзь ішла са спевам, пад дырыжорствам Арк. Смоліча, узяўшыся пад рукі фалангай ва ўсю шырыню шашы, пекным летнім паполуднем, дзівячы птушак па прыдарожным маляўнічым лесе.

Такім ходам, зрабіўшы сенсацыю, прайшлі праз усё мястэчка проста да мяне ў Мігаўку, дзе перавярнулі ўсё дагары нагамі ў вясёлай суматосе.

Помню, [што] на спектакль прыехаў сам аўтар Янка Купала. Быў Ядвігін Ш. (Лявіцкі). Але найлепшы нумар было тое, што з'явіліся тыя жывыя шляхты-арыгіналы, з каторых наш Купала спісаў тыпаў п'есы. Мы баяліся скандалу, але, відаць, яны ўрэзалі добра муху па старасвецкаму звычаю, бо толькі здужалі барматаць нешта незразумелае.



Мясцовае грамадства прыняло трупу з энтузіязмам, зрабілася цэлае «народное волнение». Народ тады ў цяперашнім сэнсе яшчэ «безмолвствовал», бо «благоденствовал», як казаў Шаўчэнка.

Меншая частка была ў самым тэатры (стадола Ліпмана), а большая сабралася кругом на двары, наблюдаючы рух каля тэатра. Пры манатонным і шэрым жыцці народа гэта, відаць, было немалой разрыўкай. На скокі, калі ўжо кантралёры (зразумела добраахвотныя пажарнікі, нешта на манер нацыянальнай гвардыі) замарыліся і кінулі свае пасты, зрабіўся вясёлы народны баль. Найбольш матэрыяльнае падтрыманне аказаў беларускі археолаг і народнік А. К. Снітко і ўся яго сям'я. Першы раз яго дачка (цяпер жонка б. пасла Тарашкевіча), тады яшчэ гімназістка, з'явілася з падругамі ў беларускіх нацыянальных вопратках.

* * *

Калі ўсё гэта рабілася, клімат гісторыі і мы самі былі другімі. Было ўсё гэта ў даваенную эпоху — 15 год таму назад. Цяпер можна казаць пра «достиженья революции», а тады трэба было беларускія такія, на цяперашні погляд, лёгкія пазіцыі дабівацца вялікімі высілкамі волі, веры ў будучыню беларускай нацыі, што яе трэба будзіць з векавога сну, афярамі штодзённага жыцця, адмовай ад асабістага прыватнага шчасця.

Тады гэта тэндэнцыя была ў невялікай перадавой жмені беларусаў.

Прыпамінаю маіх таварышоў. Напрыклад, Аляксандра Бурбіса — маленькі руды чалавечак, але трэба прызнацца, з мядзянай глоткай. У 1906 г. ён будзіў беларускія масы, як звон набата, духам сваім і агнём падняў м. Мейшаголу (30 вёрст ад Вільні) на самай граніцы этнаграфічнай Літвы, і з мястэчка і з воласці ўцяклі ўсе ўлады. 5 год на Лукішках, потым праца у Вільні. Да Мейшаголы працаваў у Менску ў нашай Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадзе, абдзёрты, замерзлы, галодны, беспрытульны, у падполлі, на нелегальным палажэнні. Маладосць, здароўе, сілы яго з'ела проста конская праца для беларускага народа. Пасля аб'яўлення Беларускай Рэспублікі сілы яго ўжо былі падточаны, і памёр ён ад сухот. У другім месцы я вярнуся да другіх нашых айцоў і ваякаў беларускага адраджэння.

* * *

Патроху ў Менску беларусы, як арганізацыя, а не як народ з вялізарных базараў па панядзелках на Троіцкай гары, стаў аб'яўляцца ўсё больш і больш.

Народу да нас прыляплялася, як да кома снег.

На двух выстаўках у Менску «Саха» рабіла свае кіёскі ў беларускім стылю і дастала 2 срэбных медалі.

Начальства нас мала абходзіла. Раз толькі дастаў я бумагу шыкарнага фармату ад віцэ-губернатара, каб рэдактар явіўся да яго і прынёс экземпляр «Сахі» і «Лучынкі». У мяне заўсёды быў нейкі бравурны задор да ўсялякага «начальства». Я ўзяў паштоўку, напісаў, што мне няма часу хадзіць да віцэ-губернатара і я не абавязан прадстаўляць яму «Саху» і «Лучынку».

Дастаў я на гэта паперу яшчэ пачышча фарматам, дзе пісалася, што на паштоўках не прынята пісаць, каб я прыйшоў і г. д. і канфіскавалі мне «Лучынку».

Улада паказала пазуры. Саветнік губернскага праўлення з белай, як снег, барадой і са строгім поглядам з-пад акуляраў падазрона мяне аглядываў. За 50 сваіх гадоў, у акіяне «входящих и исходящих» такога цуда, як паштоўка, ушытая ў «дело», ён не бачыў.

Адкрыццё выстаўкі ў залі сіндыката. Старшыня менскага земляробскага сіндыката — Вайніловіч у цыліндры абводзе віцэ-губернатара па выстаўцы і паказвае па парадку кіёскі.

Падходзяць пад мой кіёск, я дэманстраціўна адыходжу ад свайго кіёска.

Вайніловіч кажа: «А это Ваше превосходительство...» і раптам пайшлі далей. Гэтай нявіннай антыгубернатарскай дэманстрацыяй я разлічыўся з ім за гонар маёй паштоўкі.

На заключэнне яшчэ раскажу анекдот. Прыехаў у Менск акадэмік Шахматаў — вялікі друг і апякун беларусаў, вучыцель Б. Тарашкевіча, якога мы аддалі яму, каб ён з яго зрабіў прафесара беларускай філалогіі. У адным доме зрабілі бліны на гонар Шахматава і сабраліся людзі, якія стаялі больш-менш блізка да гісторыі, археалогіі. Рэдактар чарнасоценнай газеты С., мой палітычны праціўнік, з якім праз «Нашу ніву» я не раз палемізіраваў, павінен быў прачытаць нейкі рэферат на здзіўленне Пецярбурга, гэта павінен быў быць «цвек» бліноў.

Бліны, ікра, балык, гарэлка, старка — усё па першаму разраду. Я першы раз спаткаўся не на газетным полі (дзе мы былі добра знаёмы), але ў натуры, альбо, як кажуць, у «жывым відзе».



Я пазнаёміўся, сеў радам з ім. Бачу, у яго з кішэні тырчыць скрутак паперы — прамова. Я гэтак весела і бестурботна пачаў з ім гутарыць, што ён зусім абмяк і падумаў: «Гэта той Уласаў — сепаратыст беларускі, хоць і шкадлівую працу вядзе, але ў кампаніі цярпімы так-сяк».

Бліны з рознымі прысмакамі з Волгі і Дона самі лезуць у рот. Кампанія вялікая і бліскучая. Старка, якую вайна вывела з нашай краіны, мае якасці, пра якія я ведаў, а рэдактар С. на сваю бяду не быў умудроны, што яна п'ецца, як вада, але потым адымаецца ногі і язык.

Я змоладу меў алкагольны імунітэт і быў здароў. Я трактаваў рэдактара і чокаўся з ім, што пад канец бліноў мой сусед утрактаваўся гэтак, што не мог зразумець, дзе ён знаходзіцца. Пачалі ўсе, а найбольш гаспадары, паглядаць, што гэта зрабілася з С. Абяцаў прамову на прывітанне высокага госця, а сам лыпае вачыма, як філін, і ні мур-мур. А потым сарваўся, спатыкаючыся, у прыхожую за паліто, надзеў крыва шапку і ходу. Спачатку не разабраліся ў чым справа, а потым я меў згрызоты ад гаспадароў.

С., праспаўшыся, зразумеў мой ядавіты жарт і напісаў грамавую стаццю проціў «беларускіх сепаратыстаў».

У мілым старым Менску я жыў радасна, весела, работа сама пёрла, я толькі кіраваў і паддаваў жару. Меў я добрую базу — дом Сніткаў, гасцінны, інтэлігентны. Мне пачало перці шчасце. Я адмок пасля доўгага суровага спартанскага стажу.

Уся работа мая пераплялася з каханнем.

Носячыся па краі веласіпедам, я спаткаў чорнавалосую, чарнавокую палескую «прынцэсу». Мае мілыя другі! Маладосць, вясна, фіялкі, цёплая сінява высокага неба, дзе журчаць трэлі жаўранкаў, шырокі безгранічны прастор з шумлівымі барамі.

Зразу нас прыцягнула, як два магніты. Жыць не маглі адзін без другога. Свет увесь нам здаваўся раем. Пісаў нясkладныя вершы ў альбомы...

Яна была Марына Мнішак, а я Дзмітры Самазванец, які не квапіўся ні на якую карону. Бліскучы малы, але ў жыцці нейкі рэдактар «Сахі» і «Лучынкі», а тут польская газета ў Вільні ахнула заборыстую стаццю проціў мяне і бунтаўшчыкоў-беларусаў. Бабулі, мамы расчыталі стаццю, і я дастаў палітычны гарбуз[5]. Матывы прыгавору: сэрцы лучацца, палітыка разлучаець. З тыдзень мне дзень здаваўся чорнай ночай.

Праз колькі часу ў мяне закахалася ізноў брунетка (мне вязець шчасце на брунетак, бо мая мілая жонка таксама яшчэ брунетка).

Дамок у вішнёвым садзе, салавей, фантаны нявінных пацалункаў, вулканы кахання, агню. Но... Каталічка, ксёндз, разумныя бацькі, чым ён займаецца і г. д. І зноў гарбуз між намі. А сколькі пахучых руж я ёй перанасіў. «А счастье было так близко, так возможно». Каб я быў хоць, напрыклад, акцызным чыноўнікам!

Калі-небудзь раскажу свой раман з англійскай багіняй Дынай, але гэта мала ўходзіла ў беларускую сферу альбо, вярней сказаць, каханне гэта магло б мяне вынесці з гэтай сферы. Усе мае ахвяры богу кахання — Амуру былі ўсім вядомы, бо я ўсім сустрэчным-папярэчным жывапісаў пра сваіх багінь.

* * *

Раптам 18 ліпеня 1914 г. гранула вайна, неспадзявана. Я ўзят у войска як інжынерны кандуктар з вольна апрэдзяляюшчыхся першага разраду. Вайна ўсіх аглушыла, усё жыццё збіла з ног.

Першыя войскі з беларусаў рынуліся пад Кёнігсберг. Дзякуючы няўмеласці Самсонава і Рэнекампфа[6], іх паграмілі. Які вой і плач напоўніў Менск, плач матак, жанок, дзяцей...

Мікалай Радзівіл, муж вядомай многім беларусам Магдалены Радзівіл (яна ў часе вайны ўтрымлівала ў Менску на свой кошт беларускія ахронкі для дзяцей), цікава, што гэтая фамілія лічыла сябе беларусамі і мела вялікі антаганізм з пальшчызнай, гэты князь пагіб у Прусіі. Ён радзіўся ў Афрыцы, быў атчаянны храбрэц, прарваўся, напрыклад, з Порт-Артура на лодцы. Князь лічыў беларускую пяхоту жалезнаю, найлепшаю ў свеце. Князя прывезлі ў Менск хаваць, і Цётка ўзлажыла на яго труну вянок з хвойных ветак, перавязаных беларускім паяском.

* * *

Маладыя мае чытачы! Вашае жыццё ўсё ўперадзе. Вашая вера ў шчаслівую будучыню, яна недзе за ружовымі хмаркамі — летуценнямі, — там адкрываюцца новыя і новыя далі. Я ўжо прайшоў праз ўсе далі: жыццё мне іх адкрывала год за годам. Нашае пакаленне несла свае ідэалы вызвалення народаў пакрыўджаных, занядбаных, — пашанавання ўсіх цяжка працуючых, на карысць не сваю, а чужую. Мае равеснікі і аднадумцы клалі свае маладыя гады, сваё асабістае шчасце, сваё здароўе, сваё жыццё. Многа іх звалілася ў баразну, аддаўшы ўсе сілы да канца.



Дзе мае таварышы старыя? Большасць спіць у зямлі сырой. Праз іх трупы ідуць новыя барцы, утрымліваючыя заваяваныя папярэднікамі пазіцыі, смела імкнучыся далей — уперад. І як нашае пакаленне старалася вызваляць і дух народа з рабскае залежнасці ад чужынцаў, так і вы, маладыя, мусіце гэта рабіць і стварыць новы перыяд, які б адыграў не меншую ролю ў беларускім рэнесансе, як перыяд нашаніўскі.

***1936***

# УЛАДЗІМІР САМОЙЛА

Філосаф, публіцыст, паэт, празаік, літаратуразнавец, культурна-грамадскі дзеяч Уладзімір Самойла нарадзіўся 17 (29) студзеня 1878 года ў Мінску. Бацька — Іван Іванавіч Самойла — быў дырэктарам Мінскага рэальнага вучылішча, кіраўніком Таварыства прыгожых мастацтваў у Мінску. У. Самойла першапачатковую адукацыю набыў у Мінску. Далей вучыўся ў Маскоўскім, а потым у Пецярбургскім універсітэтах. Вывучыў сем розных моў. На пецярбургскі перыяд прыпадае час станаўлення сувязяў У. Самойлы з беларускім культурна-грамадскім рухам. Асабістыя кантакты з многімі прадстаўнікамі беларускай творчай інтэлігенцыі спрыялі росту яго нацыянальнай самасвядомасці. Праз мінскую газету «Голос провинции» (22.12.1906) ён шчыра вітаў заснаванне ў Пецярбургу кнігавыдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», падкрэсліваючы яе вялікія перспектывы ў справе беларускага нацыянальнага адраджэння. У. Самойла адзін з заснавальнікаў кніжнага таварыства «Мінчук» (1906), якое ў канцы 1907 года рыхтавала да друку купалаўскую «Жалейку». З 1918 года жыў у Вільні, працаваў выкладчыкам у розных навучальных установах, актыўна супрацоўнічаў з беларускімі, польскімі, рускімі і нямецкімі перыядычнымі выданнямі.

У. Самойла пакінуў вялікую спадчыну, якая не поўнасцю вядомая (асабліва гэта датычыцца публікацый у расійскай і нямецкай перыёдыцы). Першыя літаратуразнаўчыя артыкулы датуюцца 1908 годам. У. Самойла адыграў значную ролю ў творчым стаўленні Я. Купалы, падтрымліваючы яго ў друку, заклікаючы да настойлівай працы над сваім талентам. Праз Самойлу Я. Купала пазнаёміўся з нелегальнай рэвалюцыйнай літаратурай, надрукаванай па-беларуску (у пераважнай большасці адозвамі і пракламацыямі БСГ). У мінскай газеце «Северо-Западный край», будучы яе супрацоўнікам, У. Самойла змясціў Купалаўскі верш «Мужык» (13.5.1905), якім аўтар дэбютаваў у літаратуры. Адзін з першых рэцэнзентаў і даследчыкаў купалаўскай паэзіі. У сваіх газетных водгуках на выхад у свет «Жалейкі» і «Адвечнай песні» У. Самойла акцэнтаваў увагу на значнасць гэтых падзей для беларускага нацыянальнага адраджэння. Ён — аўтар артыкулаў, прысвечаных творчасці прадстаўнікоў расійскага мадэрнізму Вяч. Іванава, Д. Меражкоўскага, С. Гарадзецкага. Даў бліскучы аналіз мастакоўскім пошукам Г. Ібсена і М. Метэрлінка, сцэнічнай дзейнасці



У. Меерхольда. У зборніку «Туманы» (Мінск, 1909) змясціў вялікі крытычны артыкул-нарыс «Аляксандр Блок. Асноўныя матывы паэзіі»; збіраў матэрыял для кнігі, прысвечанай яго творчасці. У. Самойла быў ініцыятарам дыскусіі, распачатай на старонках газеты «Минский курьер» (1.4.1908) у абарону беларускай мовы і культуры, выступіў у ёй з сур'ёзным абгрунтаваннем выкладання ў школах Беларусі на роднай мове, без якой лічыў немагчымым свабоднае выяўленне творчых сіл народа. У 1923–1927 гадах актыўна выступаў у жанры палітычнай публіцыстыкі ў выданнях Беларускага пасольскага клуба і Беларускай сялянска-работніцкай грамады, выкрываючы захопніцкія намеры польскага буржуазнага ўрада ў адносінах да нацыянальных меншасцяў (арт. «Што такое «Wyzwolenie»; «Які «Самаўрад» гатуе Беларускаму народу Польская рэспубліка» і інш.). Займаўся гісторыяй беларускай культурнай спадчыны, рыхтаваў публікацыі па праблемах этнаграфіі, літаратуры, фалькларыстыкі, мастацтва («Вялікі скарб нашай старасветчыны», «Над калыскай беларускай музыкі» і інш.). У артыкулах і рэцэнзіях, прысвечаных заходнебеларускай літаратуры, даследаваў жанравую і ідэйную разнастайнасць творчасці асобных пісьменнікаў, выявіў непаўторнасць мастакоўскага аблічча беларускага паэта К. Сваяка. У публіцыстычна-філасофскіх нататках («Трыумфуе Беларусь», «Гэтым пераможаш!») паказаў аб'ектыўную заканамернасць барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за сваё нацыянальнае вызваленне. Даследаваў расійскую літаратуру, напісаў параўнальна-аналітычны артыкул «Блок і Дастаеўскі». Творчыя партрэты М. Рэрыха, Ф. Шаляпіна, А. Грачанінава падаў на фоне праблем культурна-мастацкага жыцця Беларусі. У брашуры «Праф. М. Здзяхоўскі пра беларускую душу» сцвярджаў веліч і неперамажнасць народнага генія, гістарычнай паўнацэннасці беларускай нацыі.

У 1939 годзе пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР выдатны дзеяч беларускага адраджэння У. Самойла быў арыштаваны органамі НКУС. Трымалі яго на Лукішках, потым у беластоцкай турме, а ў чэрвені 1941 года расстралялі на 63-м годзе жыцця.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выданне твораў Уладзіміра Самойлы асобным томам.

## «ЖАЛЕЙКА» — ПЕСНІ ЯНУКА КУПАЛЫ

Да нядаўняга часу за беларускаю моваю ніхто ў нас не прызнаваў права на сваё асобнае жыццё, яе высмейвалі, называлі «дубоваю», «хамскаю»; ёй адводзілася самае незавіднае месца: далей мужыцкага задворка, далей убогіх мужыцкіх палёў не смела праходзіць мужыцкае простае слова. У школе і ў жыцці ўсё было зроблена так, што і сам мужык-беларус стаў цурацца і роднай мовы сваёй і свайго народа.

Народныя песні тапталіся ў гразь. І васьмімільённы беларускі народ, прыдушаны векавым уціскам, забыты Богам і людзьмі, рассеяны сярод непрытульных балот, лясоў, гор і пяскоў, не меў нават песняроў-«пячальнікаў» і заступнікаў сваіх, што ў песнях маглі б расказаць пра яго гора і радасці, пра яго надзеі, жаданне лепшага жыцця.

Толькі нядаўна над цёмнай і пахмурнай Беларуссю сталі крыху расхадзіцца хмары, вузенькі луч свету і цяпла пачаў ліцца ў змучаную душу мужыка-беларуса. Такі дачакаў народ наш сваіх «пячальнікаў».

Да гэтых «пячальнікаў» беларускага народа належыць першнаперш малады пясняр Янук Купала. Затрымаемся даўжэй на творах яго.

Творы Янука Купалы дагэтуль друкавала толькі «Наша ніва», але цяпер песні яго выйшлі ў свет у асобнай кніжцы, каторую малады пясняр наш назваў «Жалейкай». Песні Купалы — гэта люстра, у каторым свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго родны край; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самай глыбі народнай душы, гэта — «крык, што жыве Беларусь». І хто раней не верыў, каб беларускі народ мог прачнуцца і пайсці сваёй уласнай дарогай, той цяпер мусіць прызнаць, што беларусы яшчэ не ўмёрлі, яшчэ маюць сілу жыць і развівацца, што ўжо самі яны «нясуць сваю крыўду на свет цэлы», захацелі «людзьмі звацца».

Думкі і погляды «Жалейкі» — гэта тыя ж думкі і погляды, што жывуць у народзе. У надта харошым вершыку «Да мужыка» пясняр наш пытае:

Эй, скажы, мужычок,  
Дзе ты долю падзеў?  
Ці ўтапіў ў ручаёк,  
Ці прапіў, ці праеў?

І мы ведаем, што ўсе беды папраўдзе так прыціснулі беларуса, што і дыхаць яму цяжка...

Добра ўдалося Купалу пералажэнне народнай казкі аб «Канюху», каторы быў пракляты богам і назначаны вечна прагнуць за тое, што з гультайства і сябелюбства адмовіўся ад агульнай работы «дабывання вады» — работы, каторую даў Бог усяму жывому. Гэты вершык пасвячаецца думцы аб супольнай, згоднай працы грамадскай, без каторай народу ніяк нельга палепшыць жыцця свайго. Пясняр моцна верыць у сілу грамады:



Грамада — вялікі гмах:  
Адзін ляжа, сто ідзе,  
А хто ж роўны грамадзе?!

У «Жалейцы» многа вершыкаў, дзе рысуюцца вобразы жыцця мужыцкага, роднай старонкі («Гэта крык, што жыве Беларусь»), вобразы родных бярозак, альшын, ліпы; і ўсюды поўна глыбокай жаласлівасці, цеплаты, любові да беднага, забітага краю:

Невясёлая старонка  
Наша Беларусь:  
Людзі — Янка ды Сымонка,  
Птушкі — дрозд ды гусь!

У песні «Чаго б я хацеў» пясняр гаворыць, што не жадаў бы сабе ні багацтва поруч з бядою народа, ні шчасця ў забітай, прыніжанай старонцы:

Эй, сказаць жа, чаго я хачу?  
За што нават бы сэрца аддаў?  
З чаго твар я слязамі мачу?  
Ці ж хто з вас калі гэта згадаў?

Дык жа знайце, чаго б я хацеў,  
Аб чым думачкі толькі мае:  
Каб мой люд маю песню запеў  
І пазнаў, аб чым песня пяе!

Мы шчыра падтрымліваем добрае жаданне песняра. Няхай яго думкі, «думкі-весялушкі», што ў сэрцы паэты народнага, «нібы птушкі песняй азваліся», знойдуць сабе дарогу ў кожную хату вясковага беларуса. Няхай «Жалейка» будзіць народнае самапачуццё, няхай памагае беларусам прачнуцца ад векавога сну, жыць новым жыццём, расці і развівацца ў добрай згодзе і разам з братнімі суседнімі народамі!

*1908*

## ГЭТЫМ ПЕРАМОЖАМ
*(нарысы крытычнага аптымізму)*
*Фрагмент*

### 12

У сусвеце існуе толькі адно «абсалютнае зло». «Радыкальнае зло», паводле выражэння Канта[1]...

Гэта — «ленасць волі», як кажа Фіхтэ[2].

Гэтае радыкальнае зло — адсутнасць у нас не толькі сілы, але і жадання быць тварцамі самых сябе, свайго духу і свайго лёсу на свеце, — нашая неахвота быць супрацоўнікамі Бога ў сусвеце...

Гэтае зло — нашае падчыненне таму, што «бывае», а не вольнае падляганне таму, што «павінна быць», што гаворыць ува мне голас Бога — маё сумленне.

Абсалютнае зло — гэта нашае рабства закону так званае «натуральнае неабходнасці», нашае рабскае падляганне векавітай «інерцыі быту», нязменнаму кругавароту, бязвыхаднаму колу «ўстаноўленага ладу», «адвечнай песні» несвядомае прыроды.

Абсалютнае зло — гэта дабравольнае рабства чалавека і народа, падчыненне чужой волі, Прыпадку, Лёсу, — той ці іншай не маёй, не свабодна прызнанай маім сумленнем сіле, а вонкавай і затым заўсёды варожай і раскладаючай мой дух Сіле...

Народ, які не ўмее і не хоча быць вольным, не шукае развіцця, радасці і шчасця ў сваім уласным росце і творчасці, — такі народ і не заслугуе на тое, каб усё гэта атрымаць у жыцці.

І такога народа няма што шкадаваць...

Ён станецца — і мусіць стацца — «навозам» для другіх народаў, як некалі немцы казалі аб славянах...

### 13

Гэтак апошнім практычным вывадам з усяго вышэй сказанага павінна быць цэлая сістэма новага нацыянальнага ўзгадавання беларускага народа.

Гэты вывад для нямецкага народа зрабіў некалі Фіхтэ з сваёй «Філасофіі свабоды», з сваёй новай навукі аб «малым» і «вялікім» «Я» — у часіну поўнага разгрому і паняволення Нямеччыны.



Фіхтэ паставіў нямецкаму грамадзянству, як заданне, «аднова стварыць нацыю» дарогай новага ўзгадавання.

Новае ўзгадаванне павінна стацца сапраўды ўсенародным.

Апошняе здзейсніць у напалову феадальнай Нямеччыне таго часу было вельмі трудна; затое гэта лёгка і проста, як адзінае магчымае, для Беларусі, у якой увесь народ прадстаўляе бадай выключна сялянскую масу.

Як мы ўжо казалі, даўнейшая спайка, даўнейшыя сувязі, даўнейшая адзінасць — пляменная, этнаграфічная — цяпер ужо недастатачны.

Проці новых метадаў падзелу трэба ўжыць новых метадаў аб'яднання «ў Духу», у вялікім нацыянальным «Я».

Прыватныя эгаізмы павінны быць ператвораны ў вышэйшыя інтарэсы самазахавання і самаразвіцця народа як арганічнага цэлага.

Духовая актыўнасць народа павінна быць паднята на вышэйшую па сваёй колькасці і па сваёй якасці ступень.

Новая барацьба вымагае і новае свядомасці, новае асабістасці, новага, больш моцнага і стойкага, жыццёвага тыпу.

Страшэнная небяспека абвешчанае беларусам вайны «да поўнага зніштажэння» вымагае ўсенароднага гераізму.

Нас запытаюцца няверучыя: ці магчыма гэта барацьба пры такой няроўнасці сіл? Зажадаюць, як малаверныя патрыярхі Бібліі, «знакаў ад Бога», «залогаў перамогі» — хаця б у далёкай будучыні.

І беларускі народ можа быць пэўным, што такіх залогаў і знакаў у Таго Бога, імем каторага адважваецца прамаўляць аўтар гэтых радкоў, — нялічанае мноства!..

Аб гэтых залогах шмат ужо сказана вышэй.

Не будзем тут давадзіць, што ў нашы дні дэмакратызм, народапраўства, нармальнае развіццё народных мас — гэта ж і ёсць той «знак часу», той неабходны варунак, без якога немінуча гінуць блудныя дзяржавы, пабудаваныя на патаптанні народных правоў і інтарэсаў. Мы толькі коратка пералічым тыя «залогі», якія ў сваім часе знайшоў быў у нямецкім народзе той самы Фіхтэ і выявіў іх у сваіх уславіўшыхся «Прамовах да нямецкага народа».

Галоўную падставу для нашага аптымізму і для нашае веры ў светлую будучыню беларускага нацыянальнага адраджэння мы, падобна Фіхтэ, знойдзем у «нацыянальнай самабытнасці» беларускага народа.

Беларускі народ, як гэтага і вымагае Фіхтэ, з'яўляецца іменна тым «пачатным народам», «чыстым народам», які пры ўсіх пе-

раменах, пры ўсялякіх зносінах і змешванні з другімі народамі захоўвае свой «пачатны духовы ўклад».

Фіхтэ кажа, што існуе адзін бясспрэчны знак дзеля развязання пытання аб тым, ці дадзены народ — духова самабытны.

Гэта — самабытнасць мовы.

Калі беларускі народ гаворыць самабытнай мовай, дык у яго і ёсць усе ўнутраныя варункі дзеля маральнага адраджэння дарогай новага ўзгадавання.

І аўтар гэтых радкоў, філолаг-славіст, можа з поўным правам паўтарыць, mutato mutando[3], следам за Фіхтэ яго вядомую формулу «залогу перамогі»: «Беларуская мова сведчыць за беларускі народ».

Гэтае пачуццё духовае самабытнасці і яго маральнае абснаванне духова-працоўнай, свядома-творчай актыўнасцю беларускага народа і павінна быць пакладзена ў аснову новага ўсенароднага нацыянальнага ўзгадавання.

Стварэнне такое народнае школы дзеля ўзгадавання і сфармавання беларускага народа — вось першая задача для беларускага грамадзянства.

І гэта магчыма — павінна быць і будзе магчыма! — незалежна ад таго, які ўрад ці якое гаспадарства, — сваё «самаўладства» ці яшчэ горшае зло: чужая ўлада, — будзе панаваць над нашым народам.

Гэта затым, што, як казаў і Фіхтэ, знаходзячыся пад французскай акупацыяй, «школа пераносіць самастойнасць народа ў другую жыццёвую сферу, незалежную ад урадовае ўлады і палітычнае барацьбы: у сферу грамадскае самадзейнасці».

І можам смела сказаць, што тое, што было магчыма і было жывым дамаганнем маральнае свядомасці ў Еўропе больш за сто гадоў таму назад, тое — не сягоння, дык заўтра, — станецца магчымым і здзейсніцца пад націскам новае сілы дэмакратычнага духу сучаснасці нават у Польшчы п. п. Гломбіньскага і Вітаса!..

Беларусы перш за ўсё і дамагаюцца ад польскае ўлады гэтае «незалежнасці нацыянальна-грамадскае самадзейнасці», — таго, што цяпер мае назоў «культурна-нацыянальнае аўтаноміі».

Рэалізоўвацца гэта пачне ў меру таго, як паваенная барбарызацыя еўрапейскага грамадзянства, гэткая сільная і ў Польшчы, будзе занікаць і зжывацца, а з другога боку будзе расці і ўзмацоўвацца нацыянальная свядомасць і жывая энергія беларускага народа, арганізаванае дамаганне беларускага грамадзянства.

Тое, чаго, апіраючыся на сваю фактычную сілу і на «турэцкае» паняцце аб сваім неабмежаваным «суверэнітэце», сучасныя паны палажэння не дадуць беларускаму грамадзянству сягоння, — тое заўтра будзе «заваявана» самымі мірнымі, нармальнымі метадамі нашае непераможнае духовае актыўнасці.



Такая нармальная школа з найвялікшай для абедзвюх старон карысцю развяжа гэткае балючае з прычыны ўжывання імі «ненармальных» — «рэвалюцыйных» метадаў пытанне аб так званай «лаяльнасці»...

Маючы на ўвеце толькі і выключна фізічнае і душэўнае здароўе беларускага дзіцяці, развіццё яго асабістасці, узвышэнне ў ім яго працоўнае актыўнасці, узвышэнне яго цэннасці для грамадзянства і гаспадарства — усё роўна якога, — такая нармальная школа павінна будзе — дзеля педагагічнае неабходнасці — выключыць з свайго арсеналу ўсялякае палітычнае аружжа, адкінуць усе атручаючыя гэтае здароўе «адʼёмныя метады» барацьбы з злом палітычнага паняволення, а ўсю сілу ўзгадаваўчага ўплыву сканцэнтраваць на дадатных метадах, што робяць беларуса больш дасканалым чалавекам, больш неабходным дзеячам, здольным перамагаць зло акружаючага яго свету дарогайператварэння яго ў дабро.

І няхай тады, калі мінецца барбарызаваны стан еўрапейскага грамадзянства, — няхай тады Польшча — вуснамі свайго першага міністра — паўторыць перад усім светам, што ёй не патрэбна гэтае дабро, створанае ў яе межах трыма мільёнамі яе грамадзян, што для польскага гаспадарства ўсё роўна, «злая ці добрая воля» кіруе трацінай насялення яго, як гэта нядаўна сказаў цяперашні прэмʼер Вітас!..

Ведама, гэтым Польшча вынесла б смяротны прыгавор, толькі не Беларусі, а самой сабе...

А пытанне аб выпаўненні гэтага прыгавору было б толькі справай часу...

Беларускі народ павінен толькі — цераз пасрэдніцтва сваёй новай нацыянальнай інтэлігенцыі — прысвоіць сабе тую вечную праўду, што няма такога зла, якое было б дужэй за дабро, — і чым дужэй і страшней зло, чым цяжэйшыя акружаючыя нас вонкавыя абставіны жыцця, тым вялікшую сілу перамагаючае гэтае зло духовае актыўнасці павінны мы развіць у сабе, тым мацней і цясней павінны мы спаяцца ў непераможны, як для вонкавага, так і для ўнутранага зла, нацыянальны арганізм.

[...]

*1923*

## НА ЧУЖЫНЕ...

Разнаколернымі ўзорамі мігцяць ліхтары і рэкламы. Свіст і грукат трамваяў, вазоў, самаходаў — безустанку звініць у вушах.

Гаманлівая таўпа сунецца бязмежнаю хваляй, снуе мурашнікам людзей...

І я сярод хвалюючай масы іду, плыву, як човен на моры... Адзін. Не чуваць тут знаёмага слова, не радуюць сэрца родныя гукі і вобразы...

Блукаю, як адарваны ад дрэва ліст, гнаны бурай у няведамую даль...

Бязмежная туга адзіноты прагавітаю п’яўкай смокча з сэрца радасць і спакой...

У тужлівых вачах палахліва ўстаюць вобразы роднага краю, цені-з’явы светлай мінуўшчыны...

Шэрыя палеткі, польныя дарожкі, таемны пошум хваёвага лесу, плач белых бярозаў...

Восень... Лес шуміць бязлістым рэшатам галінаў, пласты пачарнелага лісця засцілаюць прымерзлую зямлю...

Месяц таемна халодным святлом агартае пустыя палі; сухія чароты хмурна ўглядаюцца ў халодныя воды...

Доўгія цені кладуцца на ўзгоркі і лагчыны, зоры баязлівым дрыжаннем усеялі далёкае неба...

Жартаўлівыя зайчыкі скачуць па полі, абгрызаючы пасохшы лубін, азімыя пасевы...

Таўпа як укапаная замерла на тратуары.

Скрыганулі тармазы, асляпляючае святло лінула ў вочы...

Хутка мяшаюся з таўпою ды іду далей, агорнуты рытмам вялікага места...

Зноў ліхтары і рэкламы мазоляць мне вочы, а родныя вобразы знікаюць у імгле...

Не! Не знікаюць, а хаваюцца на дне душы, каб кожную хвіліну прыпамінаць, што мы жывём не толькі для сябе! Што нас чакае Бацькаўшчына, браты!..

І мы прыйдзем!

Прыйдзем са ўсіх куткоў свету на кліч Беларусі!!!

***1935***

# УЛАДЗІСЛАЎ ГАЛУБОК

Адзін з самых выдатных дзеячаў культуры 20–30-х гадоў XX ст., драматург, паэт, празаік, акцёр, рэжысёр, мастак-жывапісец Уладзіслаў Галубок (сапр. Голуб) нарадзіўся 3 (15) мая 1882 года ў сям’і рабочага-чыгуначніка (станцыя Лясная каля Баранавічаў). У хуткім часе сям’я пераехала ў Мінск, дзе бацька ўладкаваўся на працу ў дэпо. Уладзіслаў скончыў царкоўнапрыходскую школу, вучыўся ў Мінскім гарадскім вучылішчы. Рана зазнаў нястачы, калі трагічна загінуў бацька і давялося ісці працаваць, каб дапамагаць сям’і. Працаваў грузчыкам на чыгунцы, прыказчыкам у магазіне, слесарам у Мінскім дэпо. У 1917–1920 гадах — акцёр і рэжысёр Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. З 1920 да 1922 года — загадчык мастацкага аддзела ў Народным камісарыяце асветы БССР. Адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра. У 1920 годзе стварыў беларускі вандроўны тэатр, які называўся «Трупа Галубка», а ў 1932 годзе атрымаў назву БДТ-3.

Сваю творчую дзейнасць У. Галубок пачаў з вершаў і апавяданняў, якія з 1908 года публікаваліся ў газетах «Наша ніва», «Гоман», часопісе «Лучынка», альманаху «Маладая Беларусь». Выдаў кнігу «Апавяданні» (1913). Пісаў гумарэскі, сатырычныя, жартоўныя замалёўкі. Асноўная сутнасць ранняй прозы У. Галубка ў яе народнасці. Каларытнасць яго прозы адзначаў М. Багдановіч у «Аглядзе беларускай краснай пісьменнасці 1911–1913 гадоў». З 1917 года выступаў як драматург. Напісаў каля 40 п’ес, якія з 1917 года ставіліся на сцэнах беларускіх тэатраў. Сярод іх — «Апошняе спатканне», «Пісаравы імяніны», «Бязвінная кроў», «Залёты дзяка», «Бязродны», «Суд», «Душагубы», «Ганка», «Пан Сурынта», «Плытагоны», «Фанатык», «Пінская мадонна», «Белы вянок», «Ветрагоны», «Краб», «Белая зброя», «Ліпавічок» і інш. Аўтар публіцыстычных і тэатразнаўчых артыкулаў. Вядомы як мастак-дэкаратар і пейзажыст.

У 1937 годзе Уладзіслаў Галубок быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і 28 верасня гэтага ж года расстраляны ва ўзросце 55 гадоў.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выданне твораў Уладзіслава Галубка асобным томам.

## СЯРМЯЖНІК

Скажы мне, сярмяжнік! скажы мне, маркотны,
Адкуль ты? адкуль ты? з нядоляй сваей
Чаму век снуешся пуцінай гаротнай,
Чаму ты ўсіх чыста бядней і цямней?

Ці ты нарадзіўся ў такую часіну,
Ці кару якую зняволен адбыць?
Ці, можа, хто чары такія накінуў,
І мучышся вечна — ні ў чым не ручыць.

Аж слёз не стрымаці, як губіш ты сілы,
Крывава гатоўлючы ніву к сяўбе:
Галодны, халодны да самай магілы, —
Усё на пажытак людзём, не сабе...

А людзі! што людзі?! яны не зважаюць
На працу, на чорную долю тваю,
Пагардаю кормяць, ваўком пазіраюць,
Ім толькі каб дуж быў варочаць зямлю.

Цярпі, мой ты браце, — і вер, што настане
Сярмяжніку лепшае шчасце, жыццё.
Вер! будзе тваё на зямлі панаванне,
Навекі зваюеш ты гора сваё...

А пакуль цёмна і сцежка блудліва,
Няпраўду ад праўды дзялі, аддзяляй.
І хоць цяпер мачыхай родная ніва,
Ты ў памяці мей свой народ і свой край.

*1911*



## СЫН ВЁСКІ

*Апавяданне*

Янук Качэрга, сын вёскі Няўродаўкі, шчасцем пралез у вялікі горад, папаў на службу і застаўся жыць назаўсёды. У жыцці хлапцу пашэнціла, дарога павяла на карысць. Спачатку ж, пакуль Янук абжыўся і аблезла загарэлая скура, трохі туляўся, а пасля, як прыдбаў адзежу і капейку, насіўся, як віхор, без утрыму.

Доўгі час ён працаваў над сабой, пакуль спазнаў усялякія далікатнасці ды адвучыўся ад простай вымовы слоў, нязграбных зваротаў, і толькі праз зіму жыцця ў сталіцы як лакам афарбаваўся. Навучыўся панскасці, забыўся на бацькоў, на вёску і агулам на ўсё тое, што перш было дарага і міла. Цяпер ён лічыў сябе не Янук Качэрга, а Іван Марцінавіч Качэргін. Новае ёмкае прозвішча само сабой з таго дня, як паткнуўся ў горад, убілася ў галаву. І вось — ён як за ветачку: прыдбаўшы гэта дзіўнае прозвішча, пачаў меркаваць і аб тым, каб бачыць яго на паперы, каб і чорнае на белым паказвала, што ён нічога супольнага з вёскай не мае. Гэта не так лёгка было хлапцу дасцігнуць, але дасціг. У новым дакуменце, што атрымаў з воласці, вялікімі літарамі адзначалася: Іван Марцінавіч Качэргін. Збылося!.. Ніколі яшчэ не перажываў ён такой уцехі, як у той дзень, калі атрымаў дакумент. Ён з радасці так напіўся, што аж два дні не быў дома, начуючы — як пасля сам прыпомніў — у «часці».

У вольны час ды калі грошай не было ў кішэні Іван Марцінавіч пакорна праседжваў у хаце, чытаючы вельмі цікавыя кніжачкі, што купляў зусім танна ў кнігара на бульвары. За зіму і вясну ён ператрос усю краму і герояў-сышчыкаў ведаў, як свае пяць пальцаў. Ён мог усякаму даказаць, што вучань Пінкертона мае лепшую здольнасць да працы, як сам вучыцель, і што Шарлок Холмс хоць і кароль сышчыкаў, але расейскі сышчык Макараў спрытнейшы за яго. Часамі ж, калі не было чаго цікавейшага пад рукамі, Іван Марцінавіч браўся за гісторыю і з ахвотай выбіраў адтуль кавалачкі, дзе апісвалася аб вайне. Душа яго была ваенная з усіх бакоў, гэта ён ведаў яшчэ тады, калі ганяў у вёсцы на пасту. Бывала, ля іх хаты ні прайсці ні праехаць. Янук усім дапячэ. І хоць ад тых дат і шмат прайшло часу, але ў характары яго змены не было ніякай.

Раз, чытаючы гісторыю вайны, ён вычытаў, як нейкі ваяка Качэргін вельмі спрытна разбіў на галаву дзікіх татар. Думка як страла ўрэзалася ў галаву хлапцу. «А ці не будзе той слаўны рыцар хоць трохі мне сваяк? — пытаўся ён сам сябе. — Хоць

я родам з вёскі Няўродаўкі, а ён мо з Белакаменнай, — усё ж прозвішчы нашы вельмі падобны. Даканацца цяпер трудна, але я першы сам сябе лічу патомкам слаўных Качэргіноў...» І пры мыслі аб храбрым дзядзьку ў вачах яго з'яўляўся шыракаплечы асілак, з вялікай барадой, а побач — парэзаныя ім, як авечкі, татары. Аж падужэў Іван Марцінавіч ад такіх думак, неяк і жыццё весялей паплыло.

Здарылася неяк быць яму на кірмашы. Меўшы колькі рублёў у кішэні, ён паважна пахаджваў па пляцу і разглядаў, як людзі куплялі і прадавалі ўсялякія прылады. Не павёў і вокам туды Іван Марцінавіч, як убачыў у сівых світках сялян і пачуў пах дзёгцю і сырамяцця. Гэтыя гаротныя сярмяжнікі прыпаміналі яму бацькоў і панурую вёску, закінутую, як камок гразі, за дзесятую гару. Трэба было адступіцца, каб даць супакой сэрцу. Нарэшце ён падышоў к шалашу, дзе прадавалі абразы, малюнкі і розныя штукарскія рэчы. Тут яму кінуўся ў вочы старадаўні малюнак нейкага гістарычнага рыцара з даўгой сівой барадой і арлінымі вачыма. Іван Марцінавіч прыгледзеўся. «Хто гэта такі будзе? — падумаў ён, нахіляючыся бліжэй к малюнку. — Ці не той галаварэз, што даў лупцоўку дзікаму татарыну? Не ўцярплю — спытаюся». Але прадавец і сам добра не ведаў, хто займаў месца ў яго на прылаўку, адно цаніў свой малюнак танна. Іван Марцінавіч наважыў купіць. «Пры маёй фаміліі, — разважаў ён, — партрэт, як дакумент, саслужыць службу. Плачу грошы...» Затаіўшы ад радасці дух, ішоў ён з пакупкай паважна дадому і цешыўся, што цяпер усё ж больш будзе веры, што ён радавіты Качэргін.

У вольны час, гледзячы на малюнак, ён выдумваў усё новыя і новыя паднябесныя чыны, якія меў яго дзядзька, і што павінен цяпер чуць яго пляменнік-патомак. Іншы раз здавалася яму, што калі добра прыгледзецца, то ён і падобны нават да старога ваякі, а што вочы і нос якраз яго, Івана Марцінавіча. А раз на гульбішчы, добра падпіўшы, Іван Марцінавіч адкрыта заявіў усім, што ён князь Качэргін і ў скорым часе спадуць яму мільённыя спадкі па дзядзьку, што жыве на Каўказе. Пры гэтым выказаў, што сяброў сваіх ніколі не міне, як багатым будзе. Запрашаў наперад к сабе ў госці, а там павозіць на ўласных рысаках, што стаяць у дзядзькавай стайні ў лякерных халяўках. Пад п'яную ўсё сыходзіла, і хлопцы трохі верылі, бо ён ткі майстар быў замаляваць зубы.

Так плыў час.



Надумаўся Іван Марцінавіч жаніцца. Знайшліся зараз свацці, атлумілі галаву, абяцаючы разам і хараство і багацце. Рад быў хлапец гэткаму здарэнню, дачакацца б толькі таго дня, калі назначыла сваццця, а там ён ведаў, як кіравацца. Той дзень прыйшоў... Іван Марцінавіч з самага рання наводзіў на свой князёўскі твар красу, каб як можна пышней паказацца багатай паненцы. На кірпатым яго носе здрадліва красаваліся акуляры (пенснэ) і прыдавалі больш павагі. Незадоўга з'явілася сваццця, і выправіліся разам у дарогу.

У дзвярах, дзе жыла паненка, з пашанай спаткалі старыя і павялі к сабе ў пакоі. Іван Марцінавіч усеўся на канапе і пазіраў праз акуляры на дзверы, адкуль павінна была ўвайсці паненка. Нецярплівілася хлапцу — паненка марудзіла, а тут абрыдлыя акуляры так раздражнілі нос, што Івану Марцінавічу аж неўмагату было трымаць іх. Ён бы ахвотна зняў і шпурнуў іх к чорту, але жадалася паказацца перад маладзіцай ва ўсёй парадзе. Тут увайшла паненка. Іван Марцінавіч пазнаёміўся і пачаў па-свойму рассыпацца перад ёй аб тых даўніх часах, калі слаўны патомак яго з аружжам у руках бараніў край і народ. Усе слухалі і верылі. Хлопец ад радасці аж захлёбваўся. Але радасць на гэты раз была хвілёвая.

К маладзіцы прыйшла госця. Ну, ведама, ад гэтай асобы перашкоды гаспадары не чакалі, дык паклікалі к сталу.

Госця была вельмі рухавая. Яна так спрытна сыпала апавяданне за апавяданнем, так гучна і жыва даводзіла ўсім аб вёсцы і сялянах, што Іван Марцінавіч ужо і не рад быў гэтым успамінкам. Аб усім ён ахвотна слухаў, толькі не аб вёсцы, бо усякі гэткі ўспамінак крятаў яго сумленне, і ў сэрцы чулася запытанне: чаму пакінуў ні пры чым бацькоў?.. Тым часам вясёлая гэта госця ў даўгім апавяданні, як на ліха, пачала ўспамінаць знаёмыя Івану Марцінавічу вёскі і сялян, з каторымі былі ў яго досыць цікавыя здарэнні ў жыцці. Схамянуўся хлопец. Пачуццё страху, што гэта дзяўчына, пэўна, недалёкая іх суседка і можа папсаваць увесь інтэрас, пачало закрадвацца ў яго сэрца. «Нячысцік яе нанёс сюды, — думаў ён, — яшчэ чаго добрага прыгледзіцца да мяне і тады — па ўсім...» А тут, надало, пачаў свярбець нос, ды так моцна, што хоць ты цаглінай яго лупі. Цярпеў, цярпеў Іван Марцінавіч ды і цярплівасць ужо страціў. Так сказаць, не будзь гэтых абрыдлых акуляраў, то ён няўзнак пачухаў бы нос, і ўсё пайшло б гладка. А зняць акуляры было рызыкоўна, бо гэта сарока можа чаго добрага спазнаць даўняга суседа. Але ўрэшце, нягледзячы ні на што, зняў брыду і звольна павёў кіпцямі па

носе. Паненка тым часам, весела гамонячы, ускінула вочы на Івана Марцінавіча і змоўкла. Відаць было, што яна жадала нешта прыпомніць. Іван Марцінавіч так спужаўся гэтага погляду, што ён рад быў бы лепш праваліцца скрозь зямлю або ўваліцца на дно ў самае бруднае месца, чымся дрыжэць ад погляду гэтых шэранькіх скачучых вочак.

— Даражэнькія мае! — адазвалася яна. — Гэта ж хіба я аслепла зусім, калі ўжо не бачу сваіх засцянкоўцаў. Вечар сяджу, і толькі цяпер спазнала васана[1]. Але, можна прызнацца, дык не зусім лёгка і спазнаць дзядзьку — змена вялікая... Ну, хваліцеся, як жа папалі сюды і ці добра жывецца? Я то сама другі год тут, а дзядзька пэўна болей?

Іван Марцінавіч з перапуду нешта прамычаў.

— А старыя чакалі, чакалі на сынка ды і надзею страцілі, — ізноў адазвалася яна. — Асабліва маці бядачка плакала, плакала, пакуль у магілу не сышла... Э... сынкі, сынкі, не шануеце бацькоў!.. Але чаго ж я навалілася на вас, калі і сама я не лепшая... Можа хочаце ведаць, якія навіны ў нас. Бацька васана памёр, маці з гора звар'яцела і такжа памерла, а сястра, каб зашанаваць жыццё маткі, кідалася, кідалася, пакуль сухоты не падпалі, і Бог сьвяты ведае, як яна там.

Як абухом рэзнула хлопца па галаве. Нічога не кажучы, узарваўся ён з месца і вымкнуўся за дзверы. Прыбегшы дадому, ён прыгледзеўся ў люстра. Твар быў збялелы, вочы блукалі. У люстра са сцяны грозна глядзеў на яго сваімі арлінымі вачыма ваяка Качэргін. Іван Марцінавіч зірнуў на яго, сабраў сліны і плюнуў, а пасля сеў і заплакаў. У вачах мігацелі то ваяка, то свацця, то маладзіца, а між імі сакатала госця: твой жа бацька памёр, твая маці звар'яцела і сястрыца, бядачка... пане Качэрга!..

*1914*

## УСЁ АБ ТЫМ ЖА

За апошні час, досыць часта ўспамінаючы аб беларускім рэпертуары, ненарокам кранулі і маё імя. Прычынай, здаецца, паслужыў той куфар, дзе дзядзька Язэп Кры... знайшоў частку беларускага тэатра.

Праўда, рэпертуар, які я напісаў за апошнія 5 год, ляжыць у куфры, які стаіць пры самых дзвярах на выпадак пажару. Ляжыць ён даўно. Ляжаў ён пры паляках, бо лічыўся мяцежным, ляжыць ён і цяпер і лічыцца адпаведным моманту.



Толькі розніца ў тым, што пры паляках ён сцэны не бачыў, а цяпер бачыць, і вельмі часта.

То я сам, як кіраўнік Другой беларускай трупы, абыгрываю п'есы ўсюды, то ў рукапісах аддаю таму ці іншаму гуртку. І, праўду кажучы, п'есы хутка перакачваюць з месца на месца і трапілі некаторыя аж да немцаў у Нямеччыну.

Прыходзіцца чуць, што некаторыя мае п'есы гурток гуртку перапрадае. Я б гэтай з'яве і не паверыў, але мне адзін студэнт сказаў у вочы, што маю п'есу «Суд» купіў у рукапісе за пуд мукі.

Прымірыўся я нават і з гэтым. Я хачу навучыць тых, каго цікавіць слова тэатральнае, што п'есы я напісаў не для таго, каб трымаць іх у куфры, не паказваючы свету. Зусім не, я пісаў іх для таго, каб яны шырока распаўсюджваліся па свеце і прыносілі карысць грамадству. І як-ніяк п'есы свет бачаць і гуляюць усюды — аб гэтым ведае кожны. У куфры ляжаць копіі.

Гэтыя копіі не зачынены пад замок, і забраць іх у друк зусім проста. Трэба толькі сказаць мне, і я як відзіш здам.

Праўду кажучы, я гэтага даўно чакаю, але пакуль маўчу. Мне самому хадзіць і жабраваць, каб надрукавалі мае п'есы, не выпадае. А тым часам у вольную хвіліну пішу новыя.

Павінен яшчэ сказаць, што частка маіх п'ес ёсць і ў Акадэмічным тэатры і ляжаць у пачэсным месцы пад замком. Тут ужо я не вінен. Той, хто зачыніў іх, лепш ведае, што рабіць, на тое ён гаспадар. Але ж прасіць і ўмаляць таксама не выпадае. Трэба пачакаць. Не так даўно ўсе бачылі, як на афішах была пазначана да пастаноўкі мая музычная драма ў 5-ці дзеях «Бязродны», сам не ведаю — чамусьці не пайшла. Пэўна з тае прычыны, што наш актор цяпер адыгрывае ангельскіх лордаў, польскіх магнатаў, і як ужо скончаць гэту працу, тады ўжо мо возьмуцца і за сваё.

Так я яшчэ раз кажу, што п'есы ў мяне не пад замком, каму патрэбны, яны могуць быць дадзены. Адрас мой: Праваднaя вуліца, 15-а, кватэра 3. Блізка Брэсцкага вакзала. Можна ехаць на конца.

*1922*

# ЯЗЭП ЛЁСІК

Празаік, публіцыст, мовазнавец, літаратуразнавец, грамадска-палітычны дзеяч, акадэмік БАН Язэп Лёсік нарадзіўся 6 лістапада 1883 года ў вёсцы Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне ў сям'і сялян-арандатараў, блізкай да Якуба Коласа (маці Кастуся Міцкевіча Ганна — родная сястра Язэпа Лёсіка).

Вучыўся Я. Лёсік у Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, скончыў Ноўгарад-Северскае гарадское вучылішча (дзе настаўнічаў яго брат Антон), здаў экзамен на званне настаўніка народнай школы (1902), працаваў настаўнікам. Актыўна ўключыўся ў нелегальны рух супраць самадзяржаўя, быў арыштаваны і асуджаны на пажыццёвае пасяленне ў Сібіры (1911), у г. Кірэнск (Іркуцкая губ.), затым Бадайбо, дзе пазнаёміўся з А. Гаруном. Там з 1912 года і пачаў займацца літаратурнай творчасцю. Пасылаў з Кірэнска ў «Нашу ніву» свае карэспандэнцыі, апавяданні, публіцыстычныя нататкі з характэрнымі назвамі «Ці запраўды мы ніколі не будзем мець свайго Міцкевіча, Пушкіна, Сянкевіча, Талстога?», «Пра лёс беларускага народа і яго мовы». Спрабаваў пісаць вершы.

З высылкі Я. Лёсік вярнуўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. Жыў у Мінску, стаў адным з самых дзейсных удзельнікаў нацыянальнага адраджэння: уступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ), у Беларускі нацыянальны камітэт, рэдагаваў газету «Вольная Беларусь» (1917–1918), прымаў удзел у працы 2-га з'езда беларускіх нацыянальных арганізацый, быў абраны старшынёй Выканаўчага камітэта Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый, ствараў Беларускі настаўніцкі саюз, удзельнічаў у абвяшчэнні БНР, увайшоў у склад яе Рады, з 14 траўня 1918 года быў Старшынёй Рады БНР. Адзін з арганізатараў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, курсаў беларусазнаўства. Пераклаў на беларускую «Маніфест Камуністычнай партыі» Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса.

У 1919–1920-х гадах супрацоўнічаў у газетах «Звон», «Беларусь», працаваў над «Практычнай граматыкай беларускай мовы» і хрэстаматыяй беларускай літаратуры «Наша крыніца». З 1921 года адышоў ад грамадска-палітычнай дзейнасці і цалкам засяродзіўся на педагагічнай і навуковай рабоце: чытаў курс беларускай мовы ў БДУ, на лектарскіх курсах, у Белпедтэхнікуме. З першых дзён заснавання Інбелкульта ўдзельнічаў у рабоце Тэрміналагічнай камісіі, выступаў на



Акадэмічнай канферэнцыі, выказваў свае думкі і меркаванні адносна рэформы правапісу (1926). З 1928 года — правадзейны член Беларускай акадэміі навук, дырэктар Інстытута навуковай мовы, у 1930 годзе прызначаны старшынёй Тэрміналагічнай камісіі. Выходзіць шмат яго навуковых артыкулаў па мове, гісторыі, літаратуры («Наш правапіс», «Родная мова і яе значэнне», «Памяткі старасвецкай беларускай мовы і пісьменства», «Да «рэвізіі» беларускага правапісу», «Гісторыя Вялікага княства Літоўска-Беларускага», «Бітва пад Грунвальдам у апісанні хронікі Быхаўца», «Кароткая гісторыя культурнага жыцця беларускага народа»). Як літаратуразнавец і крытык піша аб творах беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў А. Гаруна, М. Гарэцкага, Я. Коласа, Ц. Гартнага, Я. Карскага, С. Некрашэвіча, Я. Чачота, перарабляе на сучасную беларускую мову «Пінскую шляхту» В. Дуніна-Марцінкевіча, напісаную на пінчуцкай гаворцы. Выдаў падручнікі па беларускай мове для школ і тэхнікумаў «Школьная граматыка», «Фанетыка», «Марфалогія», «Сінтаксіс».

Максім Гарэцкі, падкрэсліваючы талент Лёсіка-празаіка, нацыянальны характар яго творчасці, багатую палітру вобразна-маляўнічых сродкаў, глыбокае веданне беларускага жыцця, адзначаў, што «гэтага слаўнага пісьменніка чакае яшчэ слаўнейшая будучыня».

Але тут М. Гарэцкі памыліўся. Слаўнага сына беларускай зямлі Я. Лёсіка чакала зусім адваротнае. 17 ліпеня 1930 года падчас адпачынку на Каўказе (Мацэста), куды пісьменнік паехаў паправіць страчанае ў сібірскай ссылцы здароўе, ён быў арыштаваны органамі НКУС. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў міфічным «Саюзе вызвалення Беларусі», пазбавілі звання акадэміка, выслалі ў 1931 годзе на 5 гадоў у Камышын, куды да яго ў 1933 годзе прыехала сям'я (Я. Лёсік быў жанаты з дачкой Ядвігіна Ш. Вандай Лявіцкай), што вельмі рэдка здаралася. У 1934 годзе пісьменнік быў амніставаны, аднак вярнуцца ў Мінск яму не дазволілі. Сям'я Лёсікаў пасялілася на Браншчыне, дзе Я. Лёсік змог уладкавацца настаўнікам у Малавышкаўскую школу. Хутка яму адмовілі там у працы, давялося пераехаць у в. Дубаўка Саратаўскай вобласці. Восенню 1937 года Лёсікі пераехалі ў г. Аткарск, дзе Язэп Лёсік выкладаў у педтэхнікуме рускую мову і літаратуру і напісаў сваю апошнюю працу «Сінтаксіс рускай мовы» для педвучылішчаў. 25 чэрвеня 1938 года яго зноў арыштавалі і 1 красавіка 1940 года расстралялі. Яму тады было 57 гадоў.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выданне твораў Язэпа Лёсіка асобным томам.

## НЁМАН

*Апавяданне*

Ціха цячэ ў нас Нёман, ціха і сумна, як час па расстанню. Не імчыцца ён з рызыкай ўперад, не шуміць, не гудзе і не пышыцца сілай, а паволі, ступою, моў, скуты журбою — льецца, як срэбра, па родным грунце. Чысты, як шкло, светлы, як дзень, сумны і пекны, як харaство ў задуме, ходзіць ён, смуглы юнак, ва ўсе бакі, цешыцца-песціцца на матчыных грудзяў, льецца-нясецца, сумуе-журбуе і не можа расстацца з роднай краінай...

Міл яму ціхі гаёк каля лесу, любы зялёныя доўгія ніўкі; мілы лясы, пясчаныя выдзьмы, горы, вазёры, груды, сенажаці, люб яму і жоўты пясочак на ўласным беразе. Ды, як скованы думкай вечнай разлукі, пахаджае ён смутна па роднаму краю — усё разглядае, з усім размаўляе, усё ціха жагнае, моў, цяжка ўздыхае. Падыдзе, засмучаны, к цёмнаму лесу — сцішыцца, змоўкне, замрэ і абамлее, а потым завернецца — падасца ўперад ды знікне ў лесе. Там пагуляе, у цяньку сапачыне, пагамоніць задумліва з ёлкамі, соснамі, пазіхне, устрапянецца ды выбежыць у поле — заззяе, як срэбра, заблішчыць-засмяецца на сонцы ды разальецца стужкай па квяцістым лузе...

І куды б ні забег ён, дзе б ні разліўся — скрозь, як пачэсная варта вяльможнага пана, бяжыць за ім услед і мігціцца абапал зялёна-купчастая пушча. Лозы, алешнік, касацісты дзягіль, ажыннік, маліннік, аер з ачаротам — усё пазрасталася, зліпла, сплялося і стаіць над вадою разгатай сцяною. Сумны вярбняк, пастаўшы ў радок, моў, тыя пратэсы ў адзнаку пашаны, параскідаў галлё ва ўсе бакі і нахіліўся на ваду, а тонкае вецце яго пазвісала ўніз, як матчыны косы над дзіцячай калыскай. Чырвона каліна ірдзіцца на сонцы, трапечацца лісце асіны ў паветры, з кустоў выглядае пурышка і глядзіцца ў ваду, як красна дзяўчына крыёма ў люстэрка, а па ўзгорках — магутна, яе вежы, уздымаюцца ў неба дубы... Птушкі співаюць, конікі граюць і пчолкі гудуць, як арганы, у паветры...

І толькі вось там, дзе трапіцца плёса, дзе жоўтае поле пяску разляглося — толькі там гэта пушча, як чуйная варта нябогі, нібы расступаецца, застаецца пазаду як бы дзеля таго, каб Нёман пабегаў адзін, пагуляў на самоце ды каб потым ізноў абступіць, агарнуць, увабраць яго бакі ў зялёныя шаты...

Ужо ў самым пачатку, з першых крокаў свае падарожы, Нёман не волен ад жыццёвых турботаў. Толькі парвуцца кайданы зімовай няволі, як слабым грудзям яго трэба ўжо напружацца і несці ў чужыну багацце і пыху роднага краю.



І ад самай вясны да халоднай восені плывуць ды ідуць жалобнай працэсіяй плыты: то нязграбныя, сухія і белыя, як чалавечыя косці, куртатыя згоны, то хмурныя і цёмныя, як маўчозна сінеючы навокал лес, дзябёлыя, лавак у трыццаць, важкія плыты. Ды толькі і чуеш, як з ранку да вечара магільнаю яхай раздаюцца выгукі каманды:

«Тарнуй на барбару-у! За-кідай шыры-гу-у!»

А то рахубны купец-скупяндзя махне, пасміхнуўшыся, рукой на забароны ды пусціць шарось*. Тагды чыстыя хвалі яго ўкрываюцца брудам, як чалавечыя грудзі каростай. А ўброд — ні прайсці ні праехаць; коні храпуць, рыкае ад страху жывёла, крычаць аж да поўначы качкі, гусі дамоў не прыходзяць, плача пастух, і чуюцца ўсюды праклёны...

А часам спрадвесня, у поўную ваду з мэтай бадання, прымчыцца аднекуль жывец-параход, загудзе, залапоча чырвонымі крыллямі, чмыхне, як бы пераканаўшыся, што:

«Квол яшчэ, браце, — не ўздымеш віціны!»

А штотыдня, у чацвер, у пагоду і нягоду, узімку і ўлетку, варочае нетры Нямніска скарбовы рыбак. Закінуўшы волак і пабраўшы вяроўкі на плечы, ухаюць, пнуцца рыбакі-небаракі, стогнуць, ірвуцца з апошняе сілы, каб заможнае панства ў замку мела свежую рыбу да стала...

*1918*

## РОДНАЯ МОВА І ЯЕ ЗНАЧЭННЕ

Хто ездзіў па чужых краях, той напэўна прыкмеціў, што там усе людзі гавораць аднoю моваю. Няма там розніцы ў гаворцы. Сяляне і работнікі, папы і чыноўнікі, паны і купцы ў крамах — усе гавораць аднак: у Францыі — па-французску, у Англіі — па-ангельску, у Нямеччыне — па-нямецку, у Польшчы — па-польску. Толькі ў нас, на Беларусі, гавораць не аднак: сяляне аднoю моваю, *беларускаю*, або, як кажуць, *простаю*, а паны і чыноўнікі — іншаю мовай, расійскаю або польскаю, нібыта «па-панску».

Чаму гэта так? Чаму ў іншых народаў адна мова ў паноў і работнікаў, а ў нашым краю дзве мовы: нібыта панская і *простая*, сялянская. Ці ж гэта праўда, што беларуская мова простая? Хіба беларуская мова горшая ці няздатна да нічога, што паны на

* Тут: сплаўны лес.

ёй не гавораць, а некаторыя сяляне саромеюцца і, патураючы панам, намагаюцца гаварыць па-панску, або «па-благароднаму?»

Не, не горшая нашая мова за іншыя, а можа, яшчэ і лепшая, і гаворыць на ёй цэлых 10 мільёнаў людзей, каторыя ўсе разам складаюць адзін Беларускі народ, меўшы калісь сваю слаўную і магутную дзяржаву.

А толькі паны да іншыя з простых сялянскіх людзей, атрымаўшы дурную адукацыю ў царскіх школах і зрабіўшыся праз тое нібыта панамі, цураюцца свайго роднага і гавораць не нашаю, *беларускаю*, моваю, а маскоўскаю ці польскаю. Гэтаксама і няграматны хлопец з вёскі, трапіўшы на заработкі ў горад ці куды-небудзь на Маскоўшчыну, вярнуўшыся дадому, пачынаў ламаць сваю гаворку па-чужому і пакепліваць са свайго роднага, беларускага. Ніводзін народ гэтага не робіць — ні француз, ні паляк, ні расіец, а толькі гэтак было ў нас ды яшчэ на Украіне.

А пачалося ў нас гэтае двуязычча цераз тое, што народ наш беларускі доўга быў пад чужым панаваннем: спярша пад Польшчаю, а потым пад маскоўскаю ўладаю. І толькі калісьці Беларусь была вольнаю, ні ад каго незалежнаю і жыла сваім уласным дзяржаўным жыццём. Але суджана ёй было страціць сваю незалежнасць, папасці пад уладу чужынцаў і перажыць горкую долю — долю здзеку, паняверкі і нялюдскага гвалту.

Мала якому народу на свеце даводзілася перажываць трагічнейшую, няшчаснейшую долю, як тая, што зазнаў за сваё гістарычнае жыццё народ беларускі. Выступіўшы на гістарычную арэну са свежымі маладымі сіламі, ён вытварыў быў арыгінальны палітычны лад, паявіў пачаткі ўласнай культуры, даў зароды багатага пісьменства. Калі б была добрая змога выраблясь ды гадаваць усё тое, што ў даўнюю даўніну народ наш меў у багатых і пекных зародах, то цяпер быў бы ён, можа б, адным з найкультурнейшых народаў у свеце, дастойным таварышам у суполцы культурных нацый. Ось жа не так яно склалася. Беларускі народ, што і цяпер вызначаецца сваёю, скажу так, патэнцыяльнаю здатнасцю да культуры, сваім розумам і далікатнасцю — гэты народ цяпер цёмны, заштурханы, бедны. Няма яму прастору, каб выявілася яго прыродная здатнасць і здольнасць; яго зямля родзіць не яму, як не яму служаць і здабыткі сучаснай культуры... Ён стаў і да гэтага часу астаецца толькі гноем, каб на ім маглі вырастаць пышныя кветкі чужой культуры, выпіваючы з яго ўласнага грунту ўсе сокі жывучыя і за гэта амаль што нічога назад не звяртаючы. *«Што ж гэта за фатальная доля такая? Якія прычыны прывялі наш край да такога становішча?»*



Гэтак пісаў і пытаўся ўкраінскі пісьменнік С. Яфрэмаў, маючы на ўвазе сваю бацькаўшчыну Украіну, а далей адказваў, што многа прычын было для такога заняпаду. І найпершая, можа, прычына — геаграфічнае становішча нашага краю — на тым раздарожжы, дзе пастаянна адбываліся ваенныя споркі суседніх народаў. Як той гарох пры дарозе — так і жыў беларускі народ. Уціснуты паміж іншых народаў, не маючы ніякага ад прыроды затулку, ён быў сходным фарпостам Еўропы, яго край — месцам крывавых падзеяў суседзяў. Народ наш мусіў прымаць на свае грудзі першыя і найцяжэйшыя ўдары ад тых народаў, што сходзіліся на нашай зямлі канчаць свае споркі агнём і жалезам. Найбольш гэтыя войны на нашай зямлі і канчаліся, а народ наш, прымаючы на сябе гэтыя ваенныя ўдары, страціў многа, вельмі многа. Страціў ён, на самы перад, адпорную сілу і ў той самы час, калі за яго спіной і моцным затулкам суседзі мелі магчымасць складаць моцныя палітычныя арганізацыі, ён і тыя здабыткі пагубіў, што надбаў быў у папярэднія часы коштам вялізарнай напругі сваіх нацыянальных сіл. А пагубіўшы свае нацыянальныя здабыткі, ён мусіў зрабіцца аб'ектам палітычных эксперыментаў для тых самых суседзяў, мусіў стаць гноем, на якім яны свае культурныя здабыткі гадавалі і развіналі.

І ось сталася тое, што сталася. Усё пагубіў беларускі народ на доўгім і цяжкім гістарычным шляху сваім да цяперашняга становішча: палітычную незалежнасць і эканамічныя дастаткі, сваё права і асвету, свае законы і суд, сваю школу і інтэлігенцыю ды нават імя сваё страціў у безупынным змаганні з нядоляй сваёю, у барацьбе за сваю нацыянальную індывідуальнасць. Ён зрабіўся нацыяй без прозвішча, нацыяй проста «людзей», шчэ горш — нацыяй «тутэйшых дзядзькоў»... «Цудны наш народ, — дзівіцца ўкраінскі пісьменнік В. Віннічэнка пра народ украінскі, — дужы і сумны... Меў герояў — і ніхто іх не знае... Усё жыццё любіў волю — і ўсё жыццё жыў рабом... Утварыў багацтва песні — і сам яе не знае...» І толькі адзін застаўся яму, гэтаму народу-пакутніку, скарб ад далёкіх прадзедаў. Гэта — родная мова і роднае пісьменства, гэтаю моваю пісанае; абое — як выраз яго духоўнай істоты, як сімвал яго асобнасці нацыянальнай і як пачатак самасвядомасці, як памятка ад прамінулага і надзея на будучыню.

Ось так і звык народ наш жыць пад чужою ўладаю, жыў, хоць на роднай, але не на сваёй зямлі, як выславіўся вялікі ўкраінскі пісьменнік Тарас Шаўчэнка. Ды яшчэ наліха нашая доля судзіла нам быць пад уладаю не саўсім чужых народаў, як,

прымерам сказаць, балгарам і сербам пад Турэччынай, а чэхам пад Нямеччынай. Над намі панавалі славяне, нібыта браты нашыя — велікарусы і палякі. Але гэтае «брацкае» панаванне было для нас яшчэ горшае за чужынскае, бо чужыя народы, як немцы і туркі, глядзелі на падуладныя ім славянскія народы як на чужых: іншая мова, іншая вера, звычаі — усё іншае. А на Беларусь і Польшча і Масква глядзелі заўсёды як на свой уласны народ і ўсімі сіламі намагаліся давесці і ўпэўніць усіх людзей, што Беларусі няма, а ёсць толькі Польшча і Расія. Гэтак рабіла польскае правіцельства, як яна была пад яго рукою, і палякі казалі, што Беларусі няма, а ёсць толькі пагранічныя польскія землі (крэсы), *дзе людзі гавораць папсаванаю маскоўскім уплывам польскаю моваю*. Яны стараліся выгнаць нашую мову з ужытку ў школах, судах, у грамадзянскіх інстытуцыях — адным словам адусюль, адкуль толькі можна было. Гэтаксама рабіла і расійскае правіцельства на працягу 120 гадоў, даводзячы, мабыць, назадор палякам, што беларускай мовы няма, *ёсць толькі папсаваная польскім уплывам велікаруская гаворка.*

Не так тыя ворагі, як добрыя людзі — кажа прыказка. І многа ліха зазнала Беларусь не ад чужых, а ад сваіх братоў-славян. За часоў польскага панавання ўсе беларускія шляхецкія станы перафарбаваліся на палякаў. Яны адцураліся ад Беларусі і, жывучы на беларускай зямлі, стараліся ганьбіць і бэсціць усё беларускае, стараліся забыцца, што бацькі іх і дзяды былі беларусы і сваю кроў пралівалі за волю і правы сваёй бацькаўшчыны Беларусі. Гэтаксама робяць цяпер нашыя паны і папы, чыноўнікі і настаўнікі, што па царскаму загаду, праз царскія школы парабіліся расійцамі. Яны не толькі адракліся ад усяго роднага беларускага, а яшчэ топчуць нагамі і плююць на тое, што іх дзяды і прадзеды, як святое, шанавалі. Патомкі тых слаўных беларусаў, каторыя некалі мелі сваё магутнае гасударства, чыя мова горда і смела зычэла на ўсім свеце і карысталася вялікаю павагаю і пашанаю — цяпер кажуць, што народ наш не хоча сваёй мовы, не хоча сваіх школ, што народ беларускі не разумее тае мовы, на каторай гаворыць, што быццам бы ахвотней чытае і лепш разумее па-расійску, або, лепей сказаць, па-велікаруску.

Народ... Што значыць народ? Народ цёмны, некультурны, яго трэба навучыць. Як ён можа захацець сваёй беларускай школы, калі ён яе ніколі ў вочы не бачыў? Як ён можа захацець вучыцца на сваёй мове, калі за яе яго лаялі, бэсцілі, крыўдзілі і за людзей не лічылі? Калі ён пастаянна бачыў, што калі хто гаворыць па-беларуску, той бедны, цёмны, галодны, а хто гаворыць іначай, той багаты, асвечаны і сыты? Народ трэба навучыць, яму трэба паказаць, што пакі не запануе ў краі яго наша родная беларуская мова, да таго часу ён будзе бедны, цёмны і галодны. Толькі дэмагог і палітычны шарлатан можа пасылацца на народную цемнату і карыстаць з яе дзеля сваіх поглядаў або інтарэсаў. Дзіўная гэта прывычка ў іншых людзей пасылацца на народ там, дзе гэта саўсім недарэчы. Калі хто хоча пабудаваць дом, зрабіць якую машыну ці правесці жалезную дарогу, дык ён звычайна звяртаецца да спецыяліста, да тых, хто знаецца на гэтых справах; толькі ў палітыцы ды ў культурнай працы чамусь звыклі радзіцца з такім знаўцам, як цёмны, неасвечны народ...

Кепска рабілі нашыя паны — патомкі шляхецкіх станаў, але яшчэ горш робяць тыя, хто выйшаў з народа — з вёскі ці мястэчка — ды зрабіўся падпанкам. Мабыць, недарма кажуць: «Не дай Бог свінні рог, а мужыку панства». Парабіўшыся расійцамі, яны ўсіх сіл дакладаюць для таго, каб пашкодзіць Беларусі. Яны сваёю ахвотаю шыліся ў шпікі, у даносчыкі, падглядалі, падслухвалі, а чаго недачувалі ці недабачылі, тое падбрэхвалі і тым падслужваліся сваім панам. Яны брахалі на шчырых, сьятлейшых сыноў Беларусі, каторыя стараліся вывесці народ свой з цемры і несвядомасці на шырокі шлях усялюдскага знання, волі і свету. Брэшучы на беларусаў, гэтыя здраднікі і перакінчыкі палохалі несвядомы народ тым, што беларусы-адраджэнцы намагаюцца прылучыць нашую старонку да Польшчы.

Такую ўжо ўдачу маюць усе здраднікі і перакінчыкі. Яны ненавідзяць тое, ад чаго адракліся, і вымагаюць гэтага ад другіх. Ім хочацца, каб усе смяяліся і здзекаваліся з таго, ад чаго яны адцураліся, мабыць, дзеля таго, каб супакоіць сваё юдзінае сумленне. Вось гэтак рабілі турэцкія янычары, што набіраліся з хрысціянскіх дзяцей і каторых гадавалі ў духу магаметанскай веры. Яны ненавідзелі ўсё славянскае і былі самымі лютымі катамі для сваіх колішніх братоў. Гэтаксама і жыд-выхрыст ужо ненавідзіць усё жыдоўскае. Былі адвеку ў нас гэтыя каты-янычары. Яны звалі сябе беларусамі і душылі ўсё беларускае. Яны намагаліся з навукі давесці, што беларусаў няма, не было і быць не можа; што іх мова не мова, а мешаніна слоў польскіх і велікарускіх. А другія заходзілі з іншага боку і не казалі, што беларускай мовы няма, а казалі, што трэба кінуць сваё і пераймаць расійскую культуру. Гэтых янычараў памятае ўся Беларусь: гэта Саланевічы, Кавалюкі, Акаловічы і многа іншых.

Што б вы сказалі на тых дзяцей, каторыя пакінулі б у бядзе і няволі сваю матку, што выгадавала, выняньчыла і выпеставала

іх? Што б вы сказалі на іх, каб яны абакралі яе ды сталі б яшчэ здзекавацца ды выносіць імя яе на глум і пасмешышча: закідалі б яе гразёю, тыкалі б пальцамі і насміхаліся б перад людзьмі і перад усім светам? Ці не адвярнуліся б вы з агідаю ад такіх вырадкаў?

А гэтак робяць усе перакінчыкі і рэнегаты-беларусы. Не шкада нам іх, дый невялікая карысць з іх будзе і таму народу, да якога яны прылучыліся. Непатрэбны яны нам, як непатрэбен той брудны шум, што накіпае ў гаршку на страве. Але вялікі жаль бярэ за тых, што паслухалі іх і кінулі свой родны народ; шкада нам тых лепшых людзей, разумных і вучоных, што пераліцаваліся на палякаў і расійцаў і панеслі сваю працу, навуку і здольнасць у чужую хату, на чужую ніву, занядбаўшы сваю родную.

Колісь, за часоў незалежнасці Беларусі, народ беларускі быў далёка асвечнейшы за маскоўскі. У той час, як на Маскоўшчыне стаяла страшэнная цемра, у нас панавалі навука, асвета, шырока квітнела грамадзянскае жыццё і ў дзяржаве Беларускай існаваў вольны канстытуцыйны парадак. Цёмныя людзі маскоўскага царства грамілі друкарні, гасілі прасвету, баяліся кнігі, нераўнуючы, як чумы ці халеры, тады як нашае грамадзянства, не здавальняючыся ўласным выхаваннем у сябе дома, пасылала дзяцей сваіх да вышэйшых навук за граніцу дзеля большай адукацыі, дзеля лепшага выхавання. І лепшыя, асвечнейшыя людзі Масковіі, як Курбскі, напрыклад, або Мсціславец ці Тодар Друкар, хаваючыся ад раз'юшанага натоўпу, шукалі ратунку ў нашай бацькаўшчыне, уцякалі на т. з. Літву і знаходзілі тут братэрскі прывет і пашану. Відаць, што Беларусь на той час была для Маскоўшчыны, як Швейцарыя ці Францыя нашага часу, куды ўцякалі ад царскага гневу лепшыя людзі дарэвалюцыйнай Расіі.

Беларускія пісьменнікі таго часу мелі вялікі ўплыў на пісьменства маскоўскае і спрычыніліся нават да выраблення самай літаратурнай мовы на Маскоўшчыне (М. Сматрыцкі, С. Полацкі*, Е. Славінскі і многа іншых вучоных). Праз гэта ў расійскай літаратурнай мове пазаставалася і да гэтага часу шмат беларускіх слоў, як *націск*, *патрэбнасць*, *абарона*, *разрушэнне*, нягледзячы на тое, што расійцы, пачынаючы з Ламаносава, старанна выкідвалі іх з ужытку ў літаратуры як словы «польскія». Артадаксальныя велікарусы скоса паглядалі на беларускую літаратуру за яе свецкі і заходнееўрапейскі дух і, як агню, баяліся

* Полацкі Сімяон (1629–1680) — беларускі і рускі грамадскі дзеяч, пісьменнік і публіцыст.



ерэтыцкіх, «лацінскіх» думак з «Літоўскай зямлі». Той страх перад беларускім пісьменствам выяўляўся ў тых рэпрэсіўных заходах, якіх дакладалі маскоўцы, каб не пусціць на Маскоўшчыну беларускіх кніг. Першы ўказ проці беларускага пісьменства выдаў яшчэ патрыярх Філарэт году 1627-га, прыказваючы, «что бы впредь никто никакихъ книгъ литовскія печати не покупали». У той жа год на Маскве спалілі ўчыцельнае евангелле Транквільёна-Стаўравецкага* і іншыя творы гэтага аўтара, а «Катехизисъ» Лаўрэнція Зізанія Тустаноўскага надрукавалі толькі пасля цікавага дыспуту з маскоўскімі «спраўшчыкамі» і ў пераробцы. Году 1672-га быў выдан новы ўказ: «Во всех местах всяких чинов людям учинить закон крепкой с большимъ подкреплением, чтоб те люди польския** и латинския печати книг никто у себя в домах в тай и явно не держали, а прыносили бы и отдавали бы воеводе».

Наогул, нацыянальная культура на Беларусі стаяла тагды досыць высока, існавала рэлігійная вольнасць і не было нацыянальнага ўціску, так што жыды, напрыклад, мелі роўныя правы з усімі грамадзянамі, і не было жадных нацыянальных сутычак з літоўцамі. У 1517 годзе Ф. Скарына ўзяў на сябе справу вялікай вагі — пераклаў і выдаў Біблію на беларускай мове, «ку лепшаму, — як ён пісаў, — выразумленню люду паспалитаго». Праўда, не надта ўжо проста і зразумела яна перакладзена, шмат мае ц.-славянскіх зваротаў, але гэта была эпоха ў культурным жыцці беларусаў, асабліва калі ўзяць на ўвагу шырокую публіцыстычную літаратуру таго часу на роднай беларускай мове. Пётр Вялікі, маскоўскі цар, калі захадзіўся вучыць свой маскоўскі народ, дык ён набіраў сабе вучоных з Беларусі, з Полацка, і нашыя вучоныя таго часу далі яму азбуку, т. з. гражданку, на каторай і цяпер друкуюцца расійскія кніжкі. Па беларускай граматыцы М. Сматрыцкага расійцы доўга вучыліся грамаце, перакруціўшы, разумеецца, на свой лад, і Ламаносаў, напрыклад, напісаў па ёй першую велікарускую граматыку.

А калі адабралі ў нас нашую волю і знішчылі нашыя даўнейшыя правы, то народ наш стаў цямнейшы за другіх, бо не стала сваёй уласнай асветы, сваёй школы, сваіх вучоных людзей і пісьменнікаў. Іншыя народы ішлі ўперад, развівалі і мову сваю, і навуку, і асвету, а ў нас, беларусаў, нічога гэтага не

* Транквільён-Стаўравецкі Кірыла — беларускі уніяцкі паэт пачатку XVII ст.

** Разумеецца, беларускія.

было, бо ў нас адабралі нашую мову, у народа нашага вырвалі яго язык... І народ беларускі астаўся адзін, без сваёй навукі, асветы і пісьменства, без сваёй, як гэта кажуць, *інтэлігенцыі*.

І гэтак вялося не год, і не два, а цэлыя соткі гадоў. Праз гэта сталася тое, што на Беларусі ўсё роднае, сваё, беларускае, лічыцца *простым*, а чужое, няроднае — «панскім», расійскім ці польскім. Яно й дапраўды панскае, бо расійцы ў палітыцы, а палякі «тутэйшага родзаю» ў грамадскіх установах панавалі над намі. А за імі, за гэтымі панамі, і сам народ наш перастаў шанаваць сваё роднае і нават саромеецца яго. Француз горда скажа, што ён француз; немец ніколі не зрачэцца сваёй мовы, гэтаксама не зробіць гэтага і паляк ці чэх, або балгарын, а нашыя сяляне нават і не знаюць добра, хто яны, чыіх бацькоў, якога краю. Бывала, спытаеш у селяніна — хто ён? дык ён кажа: «рускі», калі праваслаўны, або «паляк», калі каталік. Бывала, чорная сотня закліча яго запісацца ў «союзъ русскаго народа», набрахаўшы, што за гэта дадуць яму зямлі, дык ён і туды запішацца. Патураючы панам-перакінчыкам і некаторыя з нашых сялян пнуцца быць «рускімі» або «палякамі», пагарджаюць усім сваім родным, вераць, што гэта ўсё простае, мужыцкае, і пачынаюць перакручваць сваю мову то на расійскі, то на польскі лад — «цокаюць», «какаюць» ды так калечаць сваю і чужую мову, што аж брыдка слухаць. І ўсё дзеля таго, каб падрабіцца пад паноў. Асабліва стараюцца тыя, што вучыліся ў царскіх школах або паслужылі дзе-небудзь у канцылярыі ў пісцах, а ўжо пра тых, што выбіліся «ў паны», дык гаварыць няма чаго. Яны з родным бацькам гаварыць пры людзях саромеюцца, а некаторыя нават чэснае бацькоўскае прозвішча перарабляюць на чужынскае: так — Каваль — Кавалёвым робіцца, Карась — Карасёвым, Дуброўскі — Дэмброўскім і г. д.

Гэтак было колісь з чэхамі ў Аўстрыі. Немцы былі саўсім анямечылі чэхаў; там гэтаксама гарадскія людзі сталі гаварыць па-нямецку, а сваёй чэшскае мовы саромеліся. І толькі як настала там воля і сяляне крошку прасвятлелі, то завялі заміж нямецкіх школ свае чэшскія. Цяпер там усе, і гарадскія і вясковыя людзі, гавораць адною чэшскаю моваю. Гэтак было ў Нарвегіі, у Фінляндыі і ў украінцаў. Таксама пачынаецца і ў нас цяпер на Беларусі.

Нядаўна яшчэ пачалося беларускае адраджэнне, пачатак яму палажылі нашы пісьменнікі і паэты і многа іншых верных і шчырых сыноў свайго краю. Яны самі скрозь гавораць па-беларуску, пішуць кніжкі, выдаюць газеты, стараюцца ўвясці



сваю мову ў школах і ва ўсіх інстытуцыях нашага краю. І ўсім нам трэба вучыцца гаварыць па-беларуску, бо хто кажа, што ён беларус, а мовы беларускае не прызнае, той кепскі беларус. Не прынясе ён карысці роднаму краю. Міцкевіч і Сыракомля былі беларусы і ведалі, што яны беларусы, але калі яны гаварылі і пісалі па-польску, то ўся праца іх пайшла на багацце і пыху польскага народа. «Хто любіць Айца Нябеснага, а бліжняга свайго ненавідзіць, — сказаў Хрыстос, — той кажа няпраўду». Хто любіць свой край, а культуру яго не прымае, той лжэц — скажам мы ад сябе.

Трэба нам самім шанаваць сваю мову і гаварыць скрозь па-беларуску, як гэта робяць расійцы ці палякі, тагды і чужыя людзі стануць шанаваць яе. А то як жа яны стануць паважаць яе, калі мы самі не шануем?!

Дзеля гэтага нам трэба здабыць сабе навуку і асвету ў сваёй мове, каб дагнаць іншыя народы, бо мы далёка адсталі ад культурных людзей, дзякуючы таму, што не малі сваіх школ. Асвета наша павінна быць беларуская, бо толькі ў сваёй хаце свая воля і праўда.

Вялікі ўкраінскі паэт Т. Шаўчэнка сказаў:

> Вучыцеся, браты мае,
> Думайце, чытайце
> І чужому навучайцеся,
> Але й свайго не цурайцеся.
>
> Не цурайцесь таго слова,
> Што маці спявала,
> Як маленькіх калыхала,
> Малых спявівала.

Трэба вучыцца роднай мове. У нас чамусь думаюць, што калі кніжка ці газета напісана па-беларуску, то яе павінен разумець кожны, нават бязграматны. Каб мова заводзілася толькі дзеля таго, каб лягчэй разумець, то можна было б і не турбавацца: народ беларускі здолен навучыцца ўсялякай мове. Але родная мова мае сваю ўласную цану і значэнне. Перш-наперш, разумеецца, яна дапаможа нам лягчэй і хутчэй пераняць навуку і асвету. Але сэнс у тым, што родная мова — гэта душа народа, яго скарб, багацце і аздоба. Толькі праз асвету ў роднай мове мы дойдзем да лепшай долі, толькі яна выведзе нас з цемры на шлях волі, братэрства і светлага, разумнага жыцця. Быў час, калі ў Заходняй Еўропе ў школах і навуцы панавала латынь. Тагды навука,

перанятая ад грэкаў і рымлян, спынілася. Людзі тапталіся на месцы, ламалі голаў над кабалістыкай і алхіміяй, шукаючы некага «жизненнаго элексиру». І толькі тады, як трокнуліся яны, што гэтага «жизненнаго элексиру» і шукаць не трэба, бо яны яго маюць, і што гэты эліксір ёсць іх родная мова — толькі тады пачалася эпоха адраджэння і людзі шпарка сталі пасувацца ўперад па дарозе да навукі, асветы і людскага дабрабыту.

Цікава, што і народ у істоце сваёй разумее гэта і выказаў гэта ў сваіх песнях і казках. Мы ведаем, што народ беларускі, змагаючыся з гістарычнымі злыднямі сваімі, страціў апошнія сілы ды мэрам[1] заснуў летаргічным сном. І мабыць, у гэты страшны час цішы і нацыянальнага ўціску, стварылася казка пра забітага брата. Апавядаецца яна не ўлетку, як свет Божы грае і красуе, і не ўзімку, калі мароз і завіруха, а ў час вялікага посту, напрадвесні, напярэдадні новага жыцця.

Не грай, дудачка, не грай!
Майго сэрца не ўражай.
Мяне брацейкі забілі,
Нож мне ў сэрцайка ўсадзілі,
Чаранком вочы накрылі.

Брацейкі — гэта Польшча і Масква, пад панаваннем каторых жыла Беларусь... І апавядаецца ў казцы гэтай, дзе дастаць тых лекаў, дзе можна расстарацца тае вады жывучай і гаючай, каб адратаваць забітага брата.

Для нас, сучасных дзяцей Беларусі, тымі лекамі, тою вадою жывучаю і гаючаю ёсць нашая беларуская мова, пісьменства і асвета на грунце роднай культуры.

Толькі мова і засталася ў народа нашага ва ўсе яго злыдні, толькі яна, моў тая дудачка ў казцы, грала і прамаўляла ўсяму свету, што *жыў яшчэ наш народ, і жыць ён хоча, і жыць ён можа, і жыць ён будзе*. Адна яна, нашая родная мова, асталася памяткаю даўнейшай славы Беларусі і служыць нам неўміручай надзеяй на будучы росквіт, а цяпер нясе народу свет свядомасці нацыянальнай, палітычнай і грамадзянскай.

*1918*



## «ЛІТВА-БЕЛАРУСЬ»
*(гістарычныя выведы)*
*Фрагменты*

Беларусь у пазнейшыя часы дзяржаўнай незалежнасці насіла найменне Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жмудзкага й інш., або карацей — Вялікае Княства Літоўскае. Існуючая гістарычная навука яшчэ не выясніла пытання, чаму беларуская дзяржава звалася тады Літоўскаю. Што яна была Рускаю і Жмудзкаю — гэта зразумела, бо яна складалася з беларусаў, а гэтаксама і ўкраінцаў, каторыя звалі сябе рускімі, і жмудзінаў, каторых цяпер у кніжнай мове завуць літоўцамі. Але чаму яна звалася Літоўскаю, то на гэтае пытанне гісторыя не дае нам пэўнага адказу.

Сталася так, што пад Літвою разумеюць землі, заселеныя жмудзінамі, або даўнейшую Жамойць. Але само слова Літва і дагэтуль даволі цёмнае і па свайму гістарычнаму значэнню аніяк не можа азначыць цяперашніх літоўцаў, каторых сумежныя беларусіны дражняць клаўсямі (клэўсь-і). Слова «Літва» было ўжо цёмнае і незразумелае ў часы далёкай прошласці. Нашы продкі, прыкладам, ужо ў XV і XVI сталеццях утваралі цэлыя легенды, каб вытлумачыць сабе, адкуль ўзялося слова «Літва». [...]

Зусім зразумела, што ні Польшчы, ні царскай Расіі, прэтэндаваўшым на беларускія землі і лічыўшым беларускі народ за сваю народнасць, не цікава было капацца ў беларускай гісторыі. Не чапай, кажуць, ліха, калі ліха спіць. Спачатку, напэўна, рабілася гэта свядома ды наўмысля, пад імперыялістычным хмелем, блыталі гістарычныя факты. Потым, разумеецца, пераблытаныя весткі прымаліся за праўду, бо ўсім жа хацелася, каб Беларусі не было, а каб быў «Северо-западный край», або «kresy wschodnie». І пахаваць беларускую гісторыю было вельмі лёгка: сам народ, страціўшы сваю інтэлігенцыю, нацыянальна спаў, а тэрмін *Літва* падказваў накінуць усю гэтую «непрыемную гісторыю» на Жмудзь, тым больш, што некаторыя святлейшыя жмудзіны самі ахвотна называюць сябе літоўцамі ды лічаць гісторыю даўнейшай Беларуска-Літоўскай дзяржавы сваёю гісторыяй. Мала гэтага, цяперашнія літоўцы (жмудзіны) упэўнілі нават усю Еўропу, што гэты іх маленькі жмудзкі народ абладаў колісь магутнай і слаўнай Літоўска-Рускай дзяржавай. Цяперашнія жмудзіны прыкрываюцца гістарычнай ілюзіяй, і ўсе вераць ім. Тым часам гэты гістарычны туман, літоўская ілюзія становіць цяжкае гістарычнае непаразуменне. Цяжкае

яно як для цяперашніх літоўцаў, так і для беларусінаў. Літоўцам балюча будзе расстацца з ім, а беларусінам не менш будзе цяжка развеяць яго. Але развеяцца павінен, бо ілюзіі гінуць, а факты застаюцца.

Калі цяперашнія жмудзіны называюць сябе літоўцамі, то гэта справа іх густу, але калі яны прэтэндуюць на даўнейшую літоўска-рускую гісторыю, калі яны выступаюць з чужым скарбам, каб выкарыстаць яго для мэт цяперашняга часу, то тут ужо справа іншага гатунку. Гэта ўжо — карыстанне дабром таго народа, каторы не мог бараніць свае маёмасці.

Жмудзь як народ не мела ніякага значэння ў гісторыі Літоўска-Рускага княства, як Латвія або Эстонія, каторыя гэтаксама ўваходзілі ў склад гэтага княства. Жмудзь была маўклівую невялічкаю правінцыяй Літоўска-Рускай дзяржавы і нават не заўсёды да яе належала. Усе валадары гэтай дзяржавы былі славянскага роду, патомкі полацкіх князёў Рагвалодавічаў. Усе яны насілі падвойныя найменні: адно народнае, у гутарцы славянскага племення люцічаў (пазнейшых літоўцаў), а другое хрысціянскае. Першае найменне, народнае, для вуха цяперашняга беларусіна гучыць незнаёма — мабыць, гаворка даўнейшых люцічаў-літоўцаў крыху рознілася ад гаворкі беларускіх племенняў, але сказаць, што гэтыя найменні не славянскія, няможна. Яны толькі пераблытаны подлуг гутаркі люцічаў або ўпадоблены да хрысціянскіх. Прыкладам, Мігайла — Міхайла, Ягайла — Якуб, Гедымін — Гегамонік, Альгерд — Аляксандр і г. д. Усё гэта хрысціянскія імёны, толькі пабралі народнага колеру, падобна да таго, як грэцкае імя Іосіф зычыць у вуснах цяперашняга беларусіна, як Язэп, што мала падобна да свайго пачатку.

Мы сказалі, што даўнейшая Жмудзь, а цяперашняя Літва, не заўсёды нават належала да Літоўска-Беларускай дзяржавы. Аб гэтым сведчаць гістарычныя факты. Князь Міндоўг, сапраўдны тварэц вялікай Літвы, дабравольна аддаў быў Жмудзь (цяперашнюю этнаграфічную Літву) на вечныя часы крыжакам. Ці ж бы мог гэта зрабіць кроўны літовец-жмудзін з сваёю бацькаўшчынай? Мала гэтага, падарунак Міндоўга пацвердзілі яго наследнікі, або наступнікі. Ягайла гэтаксама дабравольна адступіў Жмудзь крыжакам, а Вітаўт, гэты багатыр Беларуска-Літоўскай дзяржавы, насаўсім аддаў немцам гэтую зямлю. Ён быў нават шчадрэйшым за свайго стрыечнага брата, бо па сваёй смерці назначыў крыжакоў сваімі спадкаемцамі на Жмудзь.



Ці ж маглі гэта зрабіць сапраўдныя жмудзіны? Ці ж маглі яны дабравольна адрачыся ад сваёй бацькаўшчыны?

І толькі перамога над крыжакамі ў бітве пад Дуброўнай (Грунвальдам) у 1410 г. вярнула Жмудзь да Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

Такім чынам, гісторыя сведчыць, што цяперашнія літоўцы не могуць пасылацца на гісторыю вялікага княства Беларуска-Літоўскага. Літоўская Пагоня — гэта беларускі дзяржаўны герб. Яго ўжывалі ўсе даўнейшыя беларускія ваяводствы. А які герб мела Жмудзкая зямля, — ну, хоць цяперашняя Ковеншчына, безумоўна літоўская (жмудзкая) зямля, — то няхай цяперашнія літоўцы спытаюцца ў гісторыі. Яна ім скажа, што герб Ковеншчыны меў чорнага, на дыбачках стаячага, мядзведзя.

Яшчэ раз зазначаем, што ўся гэтая літоўская неразбяруха вырасла на грунце гістарычнага непаразумення, каторае ў сваю чаргу выклікана імперыялізмам дзяржаўных нашых суседзяў. І калі цяперашнія літоўцы лічаць гісторыю Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага (Літоўска-Рускага) гісторыяй жмудзкага народа, то з гэтакім жа правам беларусіны і ўкраінцы могуць лічыць расійскую гісторыю сваёю гісторыяй, прынамсі з таго часу, як Беларусь і Украіна былі прылучаны да Маскоўшчыны. Але сказаць гэта мала хто адважыцца, хоць свет багаты на адважных людзей. Вось, прыкладам, адзін украінскі граматыст І. Нячуй-Лявіцкі лічыць беларускую мову ўкраінскай падмовай, гаворкай. У агульных увагах да слоўніка, змешчаных у сваёй граматыцы («Граматыка Украінського языка. Этымологія». Кніг. 1914 г.), ён піша:

«Вядомы вучоны Міклошыч у першы раз налічыў дзевяць незалежных славянскіх моў, а беларускую мову прызнаў *поднаречіемъ*, або гутаркаю украінскай мовы» (с. 9), «у беларусаў мова гэтакая самая, як і на Украіне і ў Галіччыне, і слоўнік іх мовы, і тры чвэрці песень украінскіх. У наш час гэтая мова ўсё роўна, як у немцаў *швабская* падмова. Гэта (беларусіны) нашы швабы... Як не было яшчэ ўкраінскіх слоўнікаў, дык славянскія вучоныя чыталі ўкраінскія кніжкі па старому беларускаму слоўніку Насовіча, чаго не можна зрабіць, каб чытаць украінскія кніжкі па слоўніку велікарускай мовы Даля. Нашы ўкраінскія сяляне разумеюць усю дарэшты беларускую размову (гутарку)», — кажа Н.-Лявіцкі.

На добры лад, дык подлуг гэтага трэба было б украінскую мову залічыць падмовай беларускай мовы. Прынамсі, гэтак падказуе здаровая логіка. Бо, каб розум расійскіх, польскіх і

ўкраінскіх вучоных не быў затуманены імперыялізмам, то ў іх бы зусім натуральна і лагічна паўстала б пытанне: а калі на беларускую мову падобны ўсе мовы ўсходніх славян, то ці не справядлівей будзе сказаць, што беларуская мова ёсць матка моў усходніх славян, тым больш, што да яе вельмі падобна і старая славянская мова, каторая, няма сумніву, была маткаю ўсіх славянскіх моў. Але, дзе запахне імперыялізмам, там логіцы няма месца. І вось ягомасць І. Нячуй-Лявіцкі, прыкладам, дадумаўся да таго, нібы «Літоўскі Статут напісаны прыгожаю народнаю ўкраінскаю моваю» (!) (с. 56 «Укр. Граматы.»). Гэта ўжо — Андрэй Кузьме родны Тодар, але факт застаецца фактам і сведчыць нам, што гэтакім жа спосабам маленькі жмудзкі народ атрымаў неспадзявана такую вялікую спадчыну, як гісторыя В. К. Літоўска-Рускага. А каму невядома, як расійскія гісторыкі эксплуатуюць дзеля імперыялістычных мэт назву рускі? Як ведама, у даўнейшыя часы рускімі называлі беларусінаў, а цяперашнія расійцы вядомы былі пад найменнем маскоўцаў, маскавітаў, масквіцян. Найменне рускіх маскоўцы прысвоілі сабе далёка пазней. А тым часам, чытаючы адзін з асноўных законаў Літоўскага Статута, аб тым, што «пісар земскі маець *па-руску* літарамі і словы *рускімі* ўсе лісты і позвы пісаці, а не іншым языком і словы», — расійскія гісторыкі кажуць: «Вось бачыце, *па-руску*, гэта значыць — па-расійску, па-велікарускую. Дзе ж тут беларушчына?!» І гэтак наўмысле блыталіся гістарычныя факты, тэрміны, назвы ды подлуг гэтага пісалі гісторыю. Гэтак утварылася і літоўская неразбярыха.

Расійскія і польскія гісторыкі, дзякуючы сваім імперыялістычным тэндэнцыям, не вытлумачылі сабе значэнне слова *Літва* і верацъ створанай ілюзіі, што ўвесь гістарычны скарб б. В. К. Літоўска-Рускага (Беларускага) належыць цяперашнім жмудзінам. Але правільнае асвятленне гістарычных фактаў сведчыць нам пра тое, што Літва — гэта было славянскае племя, увайшоўшае ў склад цяперашняга беларускага народа. […]

***1921***

# ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ

Драматург, празаік, паэт, публіцыст, рэжысёр і акцёр Францішак Аляхновіч нарадзіўся 9 сакавіка 1883 года ў Вільні ў інтэлігентнай сям'і. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, у Драматычнай школе ў Кракаве, у школе Музычнага таварыства ў Варшаве. З 1904 года ўдзельнічаў у спектаклях вандроўнай трупы польскіх акцёраў. Вярнуўшыся ў Вільню, заняўся журналісцкай дзейнасцю, выдаваў гумарыстычны часопіс «Пяркунас». За антыцарскі артыкул у гэтым часопісе быў прыгавораны да 9-месячнага турэмнага зняволення. У турэмнай камеры напісаў сваю першую п'есу «На Антокалі», прысвечаную роднай Вільні і жыццю віленчукоў. П'еса была ў 1916 годзе апублікавана ў газеце «Гоман», дзе Ф. Аляхновіч працаваў разам з В. Ластоўскім. Праз год яна была пастаўлена тэатральнай студыяй Беларускага клуба, заснаванага І. Луцкевічам. Адчуваючы вострую патрэбу ў п'есах на сучасную беларускую тэматыку, Ф. Аляхновіч піша і публікуе новыя і новыя драматычныя творы. На працягу 1915–1922 гадоў з-пад яго пяра выйшла каля дваццаці розных п'ес. Гэта былі шматактовыя драмы «Страхі жыцця», «Цені», «Нясконачаная драма», «Птушка шчасця», «Манька», камедыі «Шчаслівы муж», «Пан міністр», сцэнічныя, ідылічныя, гратэскавыя абразкі, драматычныя эскізы, аднаактовыя п'есы-жарты, п'есы-казкі («Каліcь», «На вёсцы», «Дрыгва», «У лясным гушчары», «Чорт і баба», «Базылішк», «Перад святам», «Дзядзька Якуб», «На Крэсах»), п'есы-інсцэніроўкі паводле твораў іншых пісьменнікаў.

Драматычную творчасць Ф. Аляхновіча высока ацэньвалі М. Гарэцкі, Я. Карскі, І. Дварчанін, адзначаючы яго выключна важную ролю ў стварэнні беларускага нацыянальнага рэпертуару.

Няўрымслівая натура мастака шукала больш прыдатных магчымасцяў для самарэалізацыі і сцвярджэння сваіх ідэй і таленту. Даведаўшыся, што ў Мінску дзейнічае Першае беларускае таварыства драмы і камедыі, існуе тэатр У. Галубка, дзе ставіліся і яго п'есы, што была абвешчана БНР і пачала здзяйсняцца сапраўдная беларусізацыя, Ф. Аляхновіч пеша выпраўляецца ў Мінск, дзе адразу ўключаецца ў тэатральнае жыццё беларускай сталіцы як драматург, рэжысёр, акцёр, публіцыст. У брашуры «Тэатр на вёсцы» ён так растлумачвае, чаму захапіўся тэатрам: «Роднае слова, родная песня, народныя скокі — будуць той іскрай, якая запаліць у душах любоў да ўсяго свайго, роднага, беларускага. Чаго не патрапіць зрабіць кніжка, газета, прамова,

таго даб'ецца тэатр, у лёгкай мастацкай форме несучы ў народ ідэю адраджэння...»

Ф. Аляхновіч ахвярна служыў нацыянальнаму адраджэнню. Не губляючы сувязі з Мінскам, Ф. Аляхновіч з 1911 па 1926 г. жыў у Вільні, знаходзіўся ў самым цэнтры адраджэнскага руху, працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, стаў адным з ініцыятараў стварэння Таварыства беларускай школы. Як рэжысёр ставіў спектаклі ў Маладзечне, Лідзе, Вілейцы, Ашмянах, Радашковічах, перакладаў для польскіх газет творы беларускіх пісьменнікаў, выступаў з лекцыямі аб нацыянальным мастацтве, якія потым сталі асновай для яго грунтоўнага даследавання «Беларускі тэатр» (Вільня, 1924).

Калі Заходняя Беларусь адышла да Польшчы, Ф. Аляхновіч пачынае рабіць захады, каб канчаткова пераехаць у Мінск: «...Я гэтулькі чуў аб «вялікім савецкім будаўніцтве», аб росквіце ў старонцы пралетарскае дыктатуры навукі, мастацтва, тэхнікі, аб самавызначэнні народаў, якія «дабравольна» злучыліся ў саюз савецкіх рэспублік, і ў канцы — што да мяне як для беларуса было найбольш заманчыва — я чуў аб беларусізацыі Беларускай Савецкай Рэспублікі: аб дзяржаўных тэатрах, аб шырокай выдавецкай рабоце...» Галоўны герой яго аўтабіяграфічнай п'есы «Няскончаная драма» выказаў памкненні аўтара ўзнёслымі словамі: «Менск! Менск! Ерусалім ты мой! ... Узыходзе сонца мае Бацькаўшчыны, і я ляту туды, дзе неба пачынае чырванець на небасхіле, на ўсход — у Менск. Там узыходзе зара майго новага жыцця!..»

Восенню 1926 г. Ф. Аляхновіч прыязджае ў Мінск, дзе быў цёпла сустрэты тэатральным асяроддзем, усё тут яму здавалася новым, прывабным. Была даволі хутка задаволена ягоная просьба аб грамадзянстве БССР. Ён атрымаў накіраванне ў Віцебскі тэатр, куды і выехаў у снежні 1926 г. А 1 студзеня 1927 г. ён, як савецкі грамадзянін, быў арыштаваны і дастаўлены ў Мінск.

Не здзейсніліся яго мары аб новым жыцці. Каменнем сустрэў таленавітага беларуса афіцыйна-савецкі Мінск. «...Думкі хмарай праляталі праз маю галаву. Я не мог яшчэ уцяміць свайго палажэння. За што, дзеля чаго арыштавалі мяне? Тады я шчэ не мог падумаць, што мяне сцягнулі ў СССР з правакацыйнай мэтай. Заміж шырокае культурнае працы ў Савецкай Беларусі — цесная камера ў падвале з выбітымі вокнамі...» — пісаў пазней ён у кнізе «У капцюрох ГПУ».

Дапытваў Ф. Аляхновіча сам Апанскі, прышывалі яму прыналежнасць да контррэвалюцыйнай арганізацыі, якая «дзейнічала ў накірунку дапамогі міжнароднай буржуазіі з мэтай змагання з вызваленскім рухам працоўных Заходняй Беларусі». І асудзілі гэтага выдатнага дзеяча нацыянальна-культурнага адраджэння, таленавітага драматурга на 10 гадоў канцлагера і саслалі ў самы жудасны на той час лагер — Салаўкі. Не дапамаглі ні просьбы маці (яна жыла ў Мінску), ні хадайніцтва вядомых у Беларусі людзей: Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, З. Бядулі, В. Друшчыца, М. Грамыкі, А. Гурло, А. Смоліча, Я. Лёсіка, У. Жылкі, Б. Эпімах-Шыпілы, М. Байкова, М. Піятуховіча і інш.



На Салаўках Ф. Аляхновіч мог бы і загінуць, але праз 7 гадоў яго абмянялі на Б. Тарашкевіча, выдатнага беларускага дзеяча, які сядзеў у польскай турме. Дома ў Вільні, нягледзячы на папярэджанне пры абмене «о неразглашении», Ф. Аляхновіч напісаў сваю славутую кнігу пра салавецкі канцлагер «У капцюрох ГПУ», з якой свет даведаўся праўду пра СССР. Гэтага пісьменніку не даравалі. У 1944 г. ён быў застрэлены, як мяркуюць, агентамі НКУС у сваёй віленскай кватэры ў 60-гадовым узросце.

«Выбраныя творы» Францішка Аляхновіча (драматургія, проза, паэзія, публіцыстыка і лісты) у серыі «Беларускі кнігазбор» у 2005 годзе выйшлі асобным томам.

## ЧОРТ І БАБА

### Жарт у І акце

*(Паводле народнай казкі)*

АСОБЫ:

М і к і т а — малады селянін.
М а р ы с ь к а — яго жонка.
Б а б а — суседка.
Ч о р т.

Сялянская хата. Як заслона адчынілася, на сцэне нікога нямашака. Пасля з-пад печы вылазіць Ч о р т.

З'ЯВА І

Ч о р т. Вось дык бяда! Варочацца ні з чым да пекла — сорам, дый Люцыпар прагоніць вон... Жывуць у хаце тэй Мікіта з жонкай Марыськай. Як я ні стараюся іх пазвадзіць, пасварыць — нічога не магу парадзіць, нішто не памагае! Жывуць у згодзе, моў два галубкі. Вось такрок я закватараваўся тут, у падпечку, такрок Мікіта ажаніўся з Марыськай... Гэта ж ужо часу шмат! Пара бы ім хоць раз палаяцца, як след, пара, каб мужык хоць раз дый жонку сваю аддубасіў. Іншы дык ужо на другі дзень пасля шлюбу схваце за косы і лупню добрую задае, каб, значыцца, прагнаць усялякую дур, а той і не думае! Жывуць у згодзе, цалуюцца, быццам учора спазналіся. А, каб іх маланка! Вось дык мука, даліпантачкі! Бывае, што так замаруся, што ледзь дыхаю. То ёй нашэптваю на мужыка ўсякай брахні, то яму набрашу на жонку — нічога не памагае, і слухаць не хочуць! Фу! І смех, і

стыд — няма як глянуць чартам у вочы: смяюцца ўсе... Што мне рабіць? На плач збіраецца ўжо. (*Выцірае хвастом вочы.*) Вось паганы лёс, каб яго не знаць! Ах, цяжка чортам быць на свеце!.. (*Слухае.*) Псс! Нехта ідзе! Ідуць да хаты! Ну, калі іх не пасвару, прыйдзецца хіба павесіцца на сухой асіне!.. Трэба хавацца зноў пад печ! (*Улазіць пад печ.*) Ох, горкая доля мая!

## З'ЯВА II

М і к і т а і М а р ы с ь к а (уваходзяць), пасля Ч о р т.

М і к і т а. Людзі брэшуць... Кажуць: на свеце блага жыць. Усе злыя, сварацца, звадзяцца... Чаго? Далібог, не разумею! Вось, бачыш, я з табой, Марыська, жывём у згодзе, ажно зайздруюць усе. Такрок мы пажаніліся і праз гэны час ці адзін аднаму сказаў хаця дрэннае слова? Ці ж няпраўда?

М а р ы с ь к а. Але, Мікітка, добра нам жывецца! Я іншы раз дык сама дзівуюся: чаму гэта мы так шчаслівы? Ты добры для мяне, такі ты добры, што аж мяне страх бярэ, каб шчасце нашае калі-колечы не папсавалася...

М і к і т а. Не папсуецца! Ніякі чорт не здолее нас пасварыць. Дый чаго? Ты, Марыська, добрая для мяне, таксама язык стрымаць умееш заўсёды; не так, як іншыя, што мужа языком да злосці даводзяць, — нічога насупроць не робіш...

М а р ы с ь к а. Няхай мяне Бог сцеражэ, каб я калі-колечы зрабіла або хоць сказала нешта насупроць цябе!

М і к і т а. А мне няхай рука адсохне, калі я наважуся цябе ўдарыць!

М а р ы с ь к а (*абымае Мікіту*). Мікітка!

М і к і т а. Марыська!

М а р ы с ь к а. Люблю цябе!

М і к і т а. А я цябе!

М а р ы с ь к а. Цалуй мяне!

М і к і т а. З усіх сіл!.. (*Цалуюцца.*)

Ч о р т (*высоўвае галаву з-пад печы*). О! Ізноў! А каб вас немач! І зрабі тут, што хочаш!.. (*Хаваецца.*)

М і к і т а. Марыська! Сягоння еду да мястэчка. Скажы, што табе тамака купіць? Мо хустку новую?

М а р ы с ь к а. Нашто гасцінцы мне, Мікітка? Лепш сабе нешта купі.

М і к і т а. Мне нічога не трэба!



М а р ы с ь к а. Ды не, забыўся! Люльку ж ты сваю зламаў і другі ўжо дзень махорку курыш у паперцы.

М і к і т а. А праўда! Люльку трэ купіць... Добра, што прыпомніла. Значыцца, хустку для цябе, а для сябе люльку дый пачак махоркі.

М а р ы с ь к а. Ну, няхай ужо так...

М і к і т а. Іду, Марыська! Трэба каня перад дарогай напаіць! (*Выходзіць.*)

## З'ЯВА III

М а р ы с ь к а (адна).

М а р ы с ь к а. Трэба распаліць агонь, каб згатаваць Мікітку есці. Ён, бедненькі, ажно ўвечары вернецца — будзе галодны. (*Дзьмухае ў попел на прыпечку.*) А ад якога ж чорта ён загас! Нядаўна ж гарачыя вуглі былі! (*Шукае сярнічку.*) А каб жа іх! Трэба пабегчы пазычыць... Вось трэба яшчэ прыпомніць Мікітку, каб сярнічкаў пачак купіў у мястэчку.

## З'ЯВА IV

М а р ы с ь к а і Б а б а (уваходзіць).

Б а б а. Пахвалёны...

М а р ы с ь к а. На векі.

Б а б а. Ну, што чуваць, зязюлечка? .

М а р ы с ь к а. Нічога, дзякаваць Богу, благога... Вось мой збіраецца ехаць у мястэчка і прычапіўся, што новую хустку хоча мне купіць...

Б а б а. Ах, добры ён мужык! Усе дзівуюцца, уся вёска так аб ім гамоніць. Скажы, зязюлька, праўду: няўжо ж ні разу ён цябе не біў?

М а р ы с ь к а. Каб біць, трэба прычыну, а я ніколі нічога не раблю не паводле яго думак.

Б а б а. Ну, а як п'яны?

М а р ы с ь к а. Тады ён яшчэ лепшы.

Б а б а. Дзіва, дзіва, дый толькі!

М а р ы с ь к а. Выбачайце, суседка, пасядзіце крыху, я толькі збегаю пазычыць сярнічку, каб распаліць агонь. (*Выходзіць.*)

Б а б а. Добра, добра, зязюлечка!

З'ЯВА V

Б а б а (адна).

Б а б а. Бываюць жа на свеце гэткія дзівы дзіўныя: каб муж ды жонку ніколі не біў! Гэта ж проста смех! Праўда, што мой, нябожчык, мяне таксама не біў ніколі, але гэта ўжо іншая справа: затое ж я яго, бедненькага, добра лупцавала, ажно не стрываў, каточак, дый узяў і памёр... Адзін раз, памятаю, схаваў ён ад мяне мяшочак збожжа і пацягнуў яго ў карчму прадаць. Спаймала я яго і як пачала качаргою дубасіць па патыліцы і па чым папала: «Ах ты, валацуга ты гэтакі! Ад мяне не ўтоішся!..» Ажно людзі збегліся бараніць майго п'янчугу... Але каб, як тут, сваркі ніякай ніколі ў сям'і не было б, — першы раз чую!

З'ЯВА VI

Б а б а і Ч о р т (вылазіць з-пад печы).

Б а б а. Фу, згінь-прападзі! А ты ж, чорце, чаго сюды залез? А кыш! А кыш, бо зараз вазьмуся за качаргу!

Ч о р т. Выбачайце... Паслухайце мяне толькі цярпліва... Я бедны чорт... Хачу з вамі зрабіць адну ўмову.

Б а б а. Чаго хочаш, нечысць пракляты?

Ч о р т. Фэ! Кіньце, цётка, так брыдка лаяцца! Я ж вам нічога благога не раблю...

Б а б а. Я б табе зрабіла, ты — касматы!

Ч о р т. Успомніў я, што ў вас, людзей, ёсць прыказка: дзе чорт няйме, там бабу пашле...

Б а б а. Рэч вядомая: баба хітрэйшая за чорта.

Ч о р т. Дык, цётачка, памажы мне!

Б а б а. Якая я табе «цётачка», ты, паганы smорад!

Ч о р т. Памажы!

Б а б а. Чаго ж ты хочаш?

Ч о р т. Глянь на мяне: я высах ужо зусім, зусім ужо замарыўся, ледзь дух трымаецца ў маім чартоўскім целе. Пад прыпечкам — вось там — ужо год сяджу...

Б а б а. Дык пачынай аб справе! Чаго трэба?

Ч о р т. Як я ні мучуся, ні стараюся, а пасварыць іх не магу... значыцца, Мікітку з Марыськай... То ёй шапчу: мужык твой п'яніца страшэнны, як дзе спаймае які грош, у карчму да Боруха нясе. Яна смяецца толькі, туліцца ямчэй да свайго Мікіткі і кажа: «Не, а не! Не дам я веры! Мікітка мой гарэлкі не, не п'е...» (*Іранічна.*) Але! Дык з хлебам есць!.. Яму шапчу: дурны! Дык твая жонка, як заснеш або з хаты выйдзеш вон, да каханка свайго зара бяжыць... А ён мне толькі плюне ў вочы і маўчыць... Не верыць, шэльма!

Б а б а. Дык чаго ж хочаш ад мяне?

Ч о р т. Пасварыць! Іх пасварыць!..

Б а б а. Э, які шпаркі! Захацелася кабыле воцату! Сам бачыш, што справа не лёгкая.

Ч о р т. Я ж не дарма...

Б а б а. А што дасі?

Ч о р т. Чаго ж хочаш?

Б а б а. Дасі мех грошай?

Ч о р т. Добра... Дам, дам, ты толькі пасвары!.. А ці патрапіш?

Б а б а. Што? Каб пасварыліся? Я так зраблю, што дзед не толькі аблае бабу, але і павалочыць за косы...

Ч о р т. Ну, пастарайся, заплачу... Ох, першы дзень я супачыну! Дагэтуль я ні еў, ні спаў, а толькі думаў аб справе... Скажы ж мне, калі ты гэта зробіш? Хутка?

Б а б а. Калі так хочаш, дык можна нават сёння.

Ч о р т. Калі? Калі? Каб не праспаў бы я!

Б а б а. Як плюне яна тры разы пад печ, дык вылазь і глядзі.

Ч о р т. Ну, добра, дзякую табе... Мех грошай сёння будзеш меці.

Б а б а. Эй, чорт, ты толькі не скруці!

Ч о р т. Чартоўскім гонарам клянуся! Хоць я і чорт, — свой гонар я то ж маю!.. Бывай здаровенька, бабулька!

Б а б а. Бывай здароў!

З'ЯВА VII

Б а б а (адна).

Б а б а. Што ж!.. Пасварыць не надта трудна. У жыцці сваім я не такія нават штукі рабіла. Чаму ж не пасварыць, калі чорт так пекна просіць ды мех грошай у заплату абяцае... А мілы чорт! Шкада толькі, што чорт, а то бліжэйшае знаёмства я бы з ім завяла!

З’ЯВА VIII

Б а б а і М а р ы с ь к а (уваходзіць).

М а р ы с ь к а. Ну, вось і я! Ледзь-ледзь я сярнічкі дастала: у чатыры хаты бегала. Ну, дзякуй вам, што пасядзелі, папілнавалі хату мне.

Б а б а. Няма за што, няма за што, мая ты бедненькая!

М а р ы с ь к а. Чаго шкадуеце мяне?

Б а б а. Як не шкадаваць, калі такая бедная, такая бедненькая, што аж страх!

М а р ы с ь к а (*спалохаўшыся*). Што кажаце? Чаму?

Б а б а. Ах, як не шкадаваць цябе! Вось бачу, жывеш ты з мужам у згодзе, шчаслівы вы, здаецца, што ўсё добра, што і не трэба лепш, а няшчасце вісіць над бедненькай тваёй галованькай, а ты і не бачыш яго!

М а р ы с ь к а. Кажэце ж, не палохайце! Што? Што гэта?

Б а б а. А ты і не бачыш... Ды няма дзіва! Не бачыш, дык і не ведаеш нічога...

М а р ы с ь к а. Ах, суседка, не муч, кажы!

Б а б а. Ці ж ты не бачыш, як муж твой дрэнна выглядае?

М а р ы с ь к а. А што? Няўжо ж ён хвор?

Б а б а. Ой, хвор, міленькая, ой, як хвор, так хвор, што хутка ўжо і ў дамавіну трэба будзе класці. Не раз я такія прыпадкі бачыла: жыве, жыве дый памрэ. Людзі нічога не ведаюць. Адны кажуць: гаручка, іншыя яшчэ нешта выдумваюць, а я дык ведаю...

М а р ы с ь к а. Што кажаце? Мікітка мой памрэ? А што ж яму гэтакае?

Б а б а. Як што? Сухія пад барадой выраслі валасы.

М а р ы с ь к а. Сухія валасы? Пад барадой? Дык што ж?

Б а б а. А гэта ўжо першы знак: памрэ.

М а р ы с ь к а. Няўжо ж памрэ?

Б а б а. Памрэ.

М а р ы с ь к а. Дык што рабіць?.. Скажу яму, каб да цырульніка пайшоў, згаліў.

Б а б а. А крый жа Бог! Згубіць яго ты хочаш! Дык ён адразу на месцы зробіцца мерцвяком, як скажаш яму гэта!

М а р ы с ь к а (*у роспачы*). О, Божа ж мой! Дык што ж рабіць! Няўжо ж ратунку няма?

Б а б а. Э! Які тут ратунак, калі выраслі пад барадой сухія валасы!



М а р ы с ь к а (*плача*). О, Божа мой, Божа мой! Ах, бедная я ўдава! Так добра ўсё было і вось звалілася няшчасце! Памрэ Мікіта мой: памрэ! Што ж я адна на свеце рабіць буду без яго! О, бедная я сірацінка-ўдованька! О, Божанька ты мой! Што ж мне рабіць?!

Б а б а. Ды што рабіць! Маліцца за душу грэшную, каб у чысцу доўга не мучылася, бо ведама, што гэтыя з сухімі валасамі так адразу да неба не пападаюць.

М а р ы с ь к а. Ах, бедная я, нешчаслівая! Няўжо ж нічога не парадзімо? Мо да дохтара трэ завязці яго?

Б а б а. А крый жа Божа! Дохтар як убачыць сухія валасы, дык зараз дасць такое лякарства, што на другі дзень Мікіта твой памрэ... Гэта значыць, яны дохтары гэта так, каб заразы не было.

М а р ы с ь к а. Цётачка! Суседачка! Кажэце ж! Ці ж вы не ведаеце ніякага спосабу на гэта? Мо ёсць якое зелле такое? Га?

Б а б а (*спакойна*). Ды што ж! Спосаб ёсць, дык трудна...

М а р ы с ь к а. Толькі кажы, я ўсё зраблю!

Б а б а. А трэба, каб ты, значыцца, уласная жонка, узяла нож, навастрыла яго аб прыпек, плюнула тройчы пад печ дый выразала гэтыя сухія валасы. Тагды ўжо добра будзе: ужо не адрастуць.

М а р ы с ь к а. А як жа ж гэта зрабіць? Мікіта як пабачыць, што я раблю, спытаецца, што гэта значыць... Яшчэ, Бог ведае, што падумае! Што ж я яму скажу?

Б а б а. А ты, зязюлька, зрабі гэтак: купі гарэлкі, спячы яешню ды і напой свайго гаспадара, а як ён ляжа і засне, вазьмі нож ды сягоння ж, як я казала, і зрабі! Яны, валасы значыцца, так і стырчаць проціў шэрсці. Ды толькі за гэтым трэ спяшацца, бо як сухія валасы перарастуць не сухія, то ўжо Мікіта твой прапаў, капут!

М а р ы с ь к а. Ах, я ўжо сама не ведаю, як вам падзякаваць за раду, родненькая! А мая ж ты залаценькая, няхай Бог нагараду дасць табе за тваё добрае сэрца!

Б а б а (*да сябе*). Нагараду дасць не Бог...

М а р ы с ь к а. Што кажаце, родненькая?

Б а б а. Не... я нічога... Кажу: дай Бог, каб удалося табе вылечыць мужа.

М а р ы с ь к а. А чаму ж не? Я ўсё зраблю, як вы казалі.

Б а б а (*устае*). Ну, а мне ўжо пара... Засядзелася. Бывай здаровенька, зязюлька, дый памятай, значыцца, як ён засне, дык ты яго таго... Бывай!..

М а р ы с ь к а. З Богам! З Богам!.. Як вылечу Мікітку, дык ужо вам пекна падзякую.

Б а б а. Няма за што! Няма за што! (*Выходзіць.*)

З'ЯВА IX

М а р ы с ь к а (адна).

М а р ы с ь к а. Ах, як добра, што суседка прыйшла і так добра мне параіла! А то каб не яна, то я дагэтуль нічога не ведала б і марна згінуў бы Мікітка мой, а я ўдавой бы засталася!.. Ну, трэба спяшацца... Ах, вось ізноў бяда!.. Якраз учора я прадала ўсе яйкі і не маю з чаго зрабіць закуску для Мікіткі. Трэба хіба пазычыць недзе ў суседзяў! (*Выходзіць.*)

З'ЯВА X

Ч о р т (вылазіць з-пад прыпечка).

Ч о р т. Эй, баба мяне хіба ашукала! Абяцалася іх пасварыць, а замест гэтага пачала разводзіцца аб нейкіх сухіх валасах дый рады розныя даваць... Трэба і мне паглядзець у сябе пад барадой, ці і ў мяне не выраслі прыпадкам сухія валасы, а то хто ведае?! З такога гора вельмі лёгка могуць выпасці здаровыя, а вырасці сухія... З такога гора ўсё магчыма!.. Гдзе ж тут люстэрка ў іх? А вось! (*Глядзіць у сябе пад барадой.*) А даліпан!.. вось ёсць... здаецца, што сухі... Трэба згаліць, хаця ўсе смяяцца будуць... Які ж гэта, скажуць, чорт без барады!.. А, ізноў хавацца трэба... Эх, жыццё!.. (*Хаваецца.*)

З'ЯВА XI

М і к і т а, пасля Б а б а.

М і к і т а (*уваходзіць*). Еду ўжо, Марыська! Кажы, якую хустку... (*Разглядаецца.*) Гдзе ж яна? У хаце няма... Кудысь падзелася. (*Кліча.*) Марыська! (*Паўза.*) Трэ пачакаць яе. (*Сядае.*)

Б а б а (*праз акно*). Эй, гаспадар! Ці ты адзін?

М і к і т а. Адзін. А што?

Б а б а. А так я толькі спыталася... Паглядзела... Я зайду.

М і к і т а. Заходзьце, зрабіце ласку!

Б а б а (*уваходзіць, села на ўслончыку і голасна ўздыхае*). Э, хэ-хэ!..



М і к і т а. Чаго ўздыхаеце, бабулька?

Б а б а (*махнуўшы рукой*). Лепш не пытайся!

М і к і т а. Ну, а што?

Б а б а. Кажу, лепш не пытайся, бо сам пасля шкадаваць будзеш!

М і к і т а. Ну і зацікавіла ж ты мяне!.. Кажы, бо даўжэй чакаць цярплівасці ўжо не маю!

Б а б а. Шкада мне цябе, Мікіта, вось што!

М і к і т а. Ну? Чаго?

Б а б а. Э, лепш не казаць!

М і к і т а. А каб цябе чорт!.. Кажы, бо ўжо злосць бярэ!

Б а б а. Твая Марыська, жонка, значыць...

М і к і т а. Ды чорт!.. Я ведаю, што Марыська жонка!.. Ну, дык што?

Б а б а. Вось любіш ты яе...

М і к і т а. Ну, ведама, люблю, бо лепшай бабы нямашака хіба на ўсенькім свеце... Ды і яна мяне любіць...

Б а б а. Яна любіць!.. Хэ-хэ-хэ!..

М і к і т а. Чаго смяецеся? Ведаеце нешта?

Б а б а. Каб не ведаць! Усе ведаюць, уся вёска, ды толькі ты адзін сляпы.

М і к і т а. Што брэшаш! Ты кажы мне з сэнсам!

Б а б а. Каханак ёсць...

М і к і т а. Брэшаш!

Б а б а. Але... Знайшла ўжо! Ты толькі з хаты, дык яна ўраз да яго...

М і к і т а. Брэшаш!

Б а б а. Да душы! Каб сонца мне не бачыць... Вось і цяпер...

М і к і т а. Брэшаш!

Б а б а. Цсс! Не крычы! Яшчэ скажу: яна зарэзаць цябе хоча, каб, значыцца, з каханкам без ніякіх перашкод... От жа пабачыш, яна цябе сягоння падпоіць, а як ты ляжаш спаць, то яна цябе зарэжа. Вось пабачыш! Як ты вернешся з мястэчка, яна паставіць на стол яешню і пляшку гарэлкі. Гэта значыцца, каб ты ўпіўся ды не скеміў, што яна ліха замышляе. А ты толькі прыкінься, быццам спіш, ды пабачыш, што яна будзе рабіць...

М і к і т а. Брэшаш, патаскуха!

Б а б а. Вось і маю за сваё сэрца! Ах, і навошта я ўсё гэта расказала! Ды не хацела, а ён усё: кажы, кажы... Вось і аблаяў за маю праўду!.. Такая заўсёды на свеце падзяка! Эх, эх! (*Выходзіць.*)

 З'ЯВА XII

Мікіта (адзін).

Мікіта. У галаве шуміць... Ох, я здурэю! Марыська, каханка мая! Марыська зарэзаць хоча! Не можа быць!.. Мы ж так добра жылі, я ніколі благога не сказаў ёй слова... О, Божа мой! Не можа быць! Не можа быць!

З'ЯВА XIII

Мікіта і Марыська (уваходзіць).

Марыська. Што? Ты яшчэ не паехаў да мястэчка?
Мікіта. А ты гэтага толькі і чакаеш!
Марыська. Я не чакаю... ты не едзь... Ты думаеш, што я дзеля гэтай хусткі?
Мікіта. Я ведаю...
Марыська. Ці ж я з хаты цябе ганю?.. А і запраўды, ведаеш, Мікіта, не едзь! Вось я прынесла пляшку гарэлкі, яек дастала, спяку яешню... Віп'еш, закусіш, ляжаш спаць... Мікітка, добра?
Мікіта (*да сябе*). Зарэзаць хоча... (*Голасна.*) Чорт хай бярэ ўсе хусткі дый мястэчкі!.. Не паеду!
Марыська. Вось і добра!
Мікіта. Пабачымо, ці добра...
Марыська. Што?
Мікіта. Нічога...
Марыська. Чаму ты нейкі дзіўны, Мікітка? Злуешся на мяне, ці што?
Мікіта. Не, нічагусенькі...
Марыська. Дык чаго?
Мікіта. Я... я... гэта... Нешта ў сярэдзіне баліць... хвор штосьці...
Марыська (*спалохаўшыся*). Баліць? У сярэдзіне? (*Да сябе.*) Гэта мусіць з сухіх валасоў, трэба спяшацца!.. (*Да Мікіты.*) Вось выпі чарку-другую, тагды лепш табе будзе, а пакуль што сырам закусі. (*Дае сыр.*) Яешня хутка будзе гатова. (*Налівае чарку.*)
Мікіта. Давай! (*Як Марыська адвярнулася, выліў чарку на падлогу і зацямкаў, быццам выпіўшы яе.*) Фу, добра, моцная!
Марыська. Дык яшчэ пі, калі смачна...
Мікіта (*налівае і вылівае на падлогу, як раней*). Я п'ю...
Марыська. Пі, пі, Мікітачка, ды пасілкуйся!



Мікіта. А, гадзіна!
Марыська (*спалохаўшыся*). Ах, дзе?
Мікіта. Не... я так... У полі бачыў... Кіем забіў...
Марыська. А, сёлета шмат.
Мікіта. О, шмат!..

Паўза. Марыська прыгатаўляе яешню.

Каб цябе немач!..
Марыська (*здзівіўшыся*). Чаго ты?
Мікіта. Нічога... У сярэдзіне кальнула...
Марыська. Кальнула? Дык ты пі, Мікітка!
Мікіта. Я п'ю... (*Вылівае, як раней.*)

Паўза.

(*Устае, пацягваецца, хітра-няшчыра.*) Спаць нешта хочацца...
Марыська. Спаць хочаш? Ну, дык засні, бо замарыўся ты, каточак! Вось выпі яшчэ чарку і засні... Лепш спаць будзеш...
Мікіта (*іранічна*). О, буду спаць... Праўду баба казала...
Марыська. Я заўсёды кажу праўду... Дык выпі і спі!
Мікіта. Але... Я п'ю... (*Кладзецца на лаве і пачынае моцна храпці, паглядаючы ад часу да часу, што робіць Марыська.*)

Марыська, пачуўшы, што Мікіта спіць, падыходзіць да яго і ціха кліча: «Мікітка», каб пераканацца, ці ён запраўды заснуў. Мікіта храпе і не адказвае. Тагды Марыська хапае са стала нож і хутка пачынае яго вастрыць.

(*Зірнуў і пабачыў, што Марыська робіць*). А, шэльма!
Марыська (*пачуўшы гэта*). Бедненькі! Праз сон гаворыць. «Баліць, казаў, нешта ў сярэдзіне...» Гэта ўсё, мусіць, з-за гэных паганых сухіх валасоў! Добра, што я ў пару аб усім даведалася, а то магла быць бяда! (*Вострыць нож. Паўза.*) Вось нож ужо, здаецца, востры... Пара ўжо!.. (*Плюнуўшы тройчы пад печ, падыходзіць да Мікіты і граболіць у яго ў барадзе.*)
Мікіта (*ускаквае з лавы і пачынае яе лупіць*). А! рэзаць хочаш, подлая ты душагубка! Вось я табе пакажу, хварэць твайму бацьку ды стагнаць тваёй маці, як гаспадара рэзаць!..
Марыська. Мікітка! Дык я не... я не тое...
Мікіта. А! яшчэ запірацца будзеш! Вось якая ты, мая галубка! Пакуль ты мяне зарэжаш, я табе ўсе костачкі палічу, паганая!
Марыська. Людзі добрыя! Ратуйце!.. (*Уцякае, Мікіта за ёй гоніцца.*)

З'ЯВА XIV

Б а б а і Ч о р т (высоўваецца з-пад печы).

Б а б а (*усунуўшы галаву праз акно*). Ну, чорт! Хутчэй, хутчэй! Давай мне мех! Няўжо ж мяне ты ашукаць хочаш?

Ч о р т. Не, цётачка! Цябе і чорт не ашукае!

Б а б а. Дык давай мех, дзе грошы?

Ч о р т. Чакай!.. баюся я цябе!.. Я зара...

Б а б а. Давай хутчэй, бо часу не маю!

Чорт вылез на сцэну і цягне з-пад печы цяжкі мех.

Што? Цяжкі? Цягні, цягні, браток!.. А то чакай! Я зара ўвайду ў хату і памагу табе.

Ч о р т (*спалохаўшыся*). Не ідзі!.. Не памагай!.. Баюся я!..

Б а б а. Чаго ж ты, міленькі, спудзіўся?

Ч о р т. Баюся я, каб ты і мне жыцця не атруціла!

Б а б а. Давай жа мех!

Ч о р т. Чакай... толькі да мяне не ідзі! (*Бярэ з-за печы вілы і на вілах высоўвае праз акно мех*.)

Б а б а. Ці вага добрая? Не ашукаў? Бо ў хаце ў мяне бязмен, я пераважу.

Ч о р т. Вага добрая... Дый магу даць яшчэ, калі толькі споўніш маю просьбу.

Б а б а. Што, яшчэ кагосьці пасварыць?

Ч о р т. Не... Але як спаткаемся ў пекле, нічога там ты не кажы, не набрашы там на мяне... Я бедны чорт, я цяжка на свой хлеб працую... Мей літасць нада мной! Не пажадай жыцця майго.

Б а б а (*прагавіта*). А прынясеш мне яшчэ адзін мех?

Ч о р т. Добра, я ўраз, калі мне абяцаеш...

Б а б а. Але да хаты мне...

Ч о р т (*страшэнна спалохаўшыся*). О, не!..

Б а б а. Нікога ў мяне не будзе!..

Ч о р т. Ой, не! Ой, не! Ты не губі мяне!

Б а б а. Прыйдзі, не пашкадуеш...

Ч о р т. Я вельмі молад... Я сарамліў... Ты выбачай...

Б а б а. Прыйдзі, каточак! Прыйдзі, міленькі, да мяне!

Ч о р т. А не зарэжаш ты мяне?

Б а б а. Ды што ты! Цябе там соладка я буду цалаваці... Да раніцы маім ты госцем будзеш!

Ч о р т. О-ёй! Прапаў я, згінуў я зусім, бо баба закахалася ва мне! Хутчэй трэба да пекла ўцякаць!.. Хай лепш Люцыпар б'е, хай чэрці ўсе смяюцца, чымсь з гэтай бабаю кахацца! А як прыйдзецца ўжо нам спаткацца на пякельным дне, смалы для яе не буду шкадаваць дый, апрача таго, патэльню гарачу лізаць прымушу там яе!.. (*Хаваецца пад печ*.)

Б а б а (*усміхаючыся да чорта бяззубым закахаўшымся тварам*). Каточак! Пачакай! Чакай!..

З а с л о н а.

*1918*



## САВЕЦКАЯ ІНКВІЗІЦЫЯ
*(Віленскія ўспаміны)*
*Фрагмент*

### Паноптыкум[1]

Быўшы гімназістам, я любіў заглядваць у кірмашовыя буды, дзівіцца на «жанчыну без тулава», хадзіць у паноптыкум васковых фігураў.

У гэтым апошнім, агледзеўшы французскага прэзідэнта Карно з ранай на грудзях ад кінжала анархіста Казэрыё, прастаяўшы шмат часінаў перад Сірэнай або Клеапатрай з гадзінай на хвалях грудзей, я ў канцы варочаўся да групы васковых фігураў у аддзеле «Сярэднявечная інквізіцыя». Тут я з жахам прыглядаўся да страшнай фігуры Тарквемада[2], са шкляных вачэй якога прабівалася нечалавечая злосць; мурашкі прабягалі па спіне, як я глядзеў на крыўлены мукай твар чалавека з нагой, сціснутай жалезным ботам; жудасна да млосці рабілася, гледзячы на ахвяру, прывязаную да кола, якой ламаюць косці...

Праўнукі мае! Вы, як заглянеце калі ў жыцці ў «паноптыкум васковых фігураў», шукайце там страшнага грузіна з дзікім паглядам, тварца інквізіцыі XX веку. Пад гэтай фігураю будзе падпісана: «Ёсіф Вісарыёнавіч Сталін». Шукайце там фігураў з паўбіванымі пад кіпці сталёвымі пёрамі, шукайце «изобретение» НКВД — электрычны ложак...

Усё гэта знойдзеце ў аддзеле, які з часам будзе мець назоў «Савецкая інквізіцыя».

* * *

Мала было людзей ад Вільні, якія не чакалі б у сябе гасцей з НКВД. Хто яшчэ быў на волі, з дня на дзень чакаў арышту. Шмат хто не начаваў дома, туляючыся па знаёмых, якія з свайго боку дрыжалі за сваю скуру, прымаючы ў сваёй хаце небяспечнага начлежніка.

Сёння з усяго гэтага засталіся толькі ўспаміны, а шмат дзе — жалоба. Сёння ўсё гэта ўспамінаецца як страшная мара і міжвольна з'яўляецца пытанне: няўжо ж і сапраўды мы ўсё гэта перажылі, здолелі перажыць?

## Жудасны дом

Хто з нас яго не ведае? Хто з трывогай не абмінаў яго, асабліва на змярканні, калі ўсе вокны паланелі святлом, якое кідала свае снапы на пустую Лукішкую плошчу? Толькі з вакон сутарэнняў, закрытых матавымі шыбамі, не прабівалася ніякае святло. Магло здавацца, што там пануе цемра. Людзі ўкрадкам паўзіраліся на гэтыя вокны, за шыбамі якіх была хавана тайна. Бо за гэтымі вокнамі сядзеў нечы сын або брат, або бацька. Доля іхняя была няведамай, бо ніякае лучнасці з вонкавым светам не мог мець вязень НКВД.

А на кожным рагу гэтага дома — у якім даўней змяшчаліся судовыя ўстановы, а бальшавікі занялі пад НКВД — стаяў чырвонаармеец.

Калі нехта, — прыезджы мабыць, бо не ведаючы, што змяшчаецца ў гэтай камяніцы, — затрымліваўся на ходзішчы, чуваць быў крык чырвонаармейца:

— Гражданин! Проходи! Не останавливайся!

І людзі як мага хутчэй кідаліся на другі бок вуліцы і ўцякалі далей ад праклятага дома, каб не трапіць за гэтыя закрытыя матавымі шыбамі вокны.

## Жыццё за шыбамі

Не толькі вонкавыя шыбы хавалі арыштантаў ад вачэй вуліцы. Унутры гэтаксама была яшчэ адна матавая шыба з драцяной сеткай, далей салідныя краты, а яшчэ — акно з шыбамі са звычайнага шкла. Нават найдужэйшы голас, нават крык адчаю мучаных людзей не мог праравацца вонкі.



Калі нямецкае войска прагнала бальшавікоў з Вільні, калі ўжо нямецкая варта стаяла пры дзвярах былога НКВД, людзі пачалі тварыць легенды аб страшнай камяніцы. Нашто легенды? Не трэба! Самая звычайная сапраўднасць гэтак жудасная, што страхоццем сваім перавышае творы чалавечай фантазіі.

Тыя, хто тамака быў і вызваліўся, расказвалі страшныя рэчы. Сядзіць побач мяне мой знаёмы, В. С. Ужо шмат часу прайшло ад гэтых перажыванняў, а голас ягоны дрыжыць, рукі трасуцца, калі аб іх успамінае.

## Пакой № 223

Ноч у гэтых мурах — гэта пара «працы». Калі ўвечары электрычнае святло заяснее ў вокнах, гэта значыць, што энкавэдысты ўжо распачалі сваю работу.

А ў камерах у гэты час, у падвалах, цішыня. Арыштанты спяць. Можа, не спяць, можа, толькі думаюць свае невясёлыя думы. Раптам чуваць скрыгат ключа. Прыйшлі некага забіраць. Выклікаюць прозвішча.

— На допрос!

І, як заўсёды пры гэтым:

— Скорей! скорей! Давай! давай!

Не апрануўшыся як трэба, калоцячыся ад сцюжы і ад страху, ідзе арыштант — на няведамы лёс. Не ведае, што яго за момант чакае: ці сёння будуць спакойныя, ветлыя, пэрфідныя[3] допыты, ці дзікія, з лаянкай, з біццём.

Перад выхадам з камеры рукі скруцілі яму за спіну і ўздзелі кайданы. Цяпер, на калідоры, чырвонаармеец, ідучы ззаду, торгае за кайданы:

— Скорей! Давай!

Жалеза ўядаецца ў мяса. З ранаў капае кроў. Арыштант ідзе, са страхам пазіраючы на нумары дзвярэй. Каб толькі не 223. Гэта страшная лічбіна. Гэта інквізітарскі пакой з усімі патрэбнымі дзеля гэтага прыладамі. Біццё ў твар — глупства. Біццё кіямі і гумовымі палкамі — можна вытрымаць, хаця пасля колькі дзён страшэнна баляць усе косці, так што цяжка варушыцца. Горш, калі б'юць па ступнях, яшчэ горш, калі падсмальваюць распаленым жалезам. Страшэнная рэч, калі ўбіваюць пад кіпці брудныя, заржавелыя сталёвыя пёры. Калі кідаюць на «электрычны ложак» — сшалець можна...

Да стала прыбіта нешта, што нагадвае рукавіцы. Кожны палец мае сваё месца. У гэтую рукавіцу кладуць руку арыш-

танта. Жалезнае века прыціскае руку зверху, каб нельга было варушыць. Рука сціснена моцна, не зварухнецца! Тады чырвоны кат убівае пад кіпці...

Можа, годзе? Навошта апісваць усё падрабязна!..

Праўнукі! Калі будзеце ў «паноптыкуме» аглядаць васковыя фігуры, плюньце на Сірэну з рыбіным хвастом, не прыглядайцеся да белых грудзей Клеапатры, але глядзіце на атрыбуты савецкай інквізіцыі і памятайце, што ваш прадзед знаў такіх, якія прайшлі праз гэтую інквізіцыю...

### Пачалася вайна

Калі ў памятную нядзелю, 22 чэрвеня, у падвалах НКВД даведаліся, што пачалася вайна, людзі ашалелі ад радасці. Кідаліся адзін аднаму на шыю, плакалі ад шчасця.

Нарэшце надыходзіць момант вызвалення, нарэшце канец мукаў і здзекаў. Але цешыліся зарана. У панядзелак пачалі ўпіхаць арыштантаў у зачыненыя, безваконныя астрожныя аўто, г. зв. «чорныя вораны» і перавозіць на вакзал (на таварную станцыю).

Упіхвалі людзей у гэтую скрыню такім парадкам, што калі хто не мог змясціцца ў позе стоячы, ляжаў на плячах і галовах іншых.

Цёмна. Праз вентылятар зверху прабіваецца толькі слабая коска святла. Душна. Пах поту гэтак моцны, што людзі млеюць. Аўто падскаквае на шурпатых віленскіх вуліцах. Аднак віленцы арыентуюцца ў кірунку. Нехта кажа: «Вось мы цяпер завярнуліся на Віленскую вуліцу»... Зараз інфармуе: «Вось мы ўжо на рагу Троцкай»...

### У вагонах

Нарэшце «чорны воран» спыніўся. Грудзі ўздыхнулі з палёгкаю, калі праз адчыненыя дзверы вырваўся подых свежага паветра.

Пачалі заганяць арыштантаў у вагоны. Вузкім праходам, абстаўленым энкавэдыстамі з вінтоўкамі і рэвальверамі ў руках, пасоўваліся арыштанты гужом у таварныя вагоны...

Ужо сядзяць у поўна напханых, зачыненых вагонах. Вось, можа, зараз, а можа, праз пару гадзінаў павязуць іх... Куды? Немаведама.



Ведама толькі адно, што на новыя мукі... Ах, каб гэты эшалон спазніўся! Каб нешта здарылася! Можа, пачнецца бамбардаванне вакзала? Можа, бальшавікі ўцякуць?..

Даўгі шнур вагонаў. Каля 60 вагонаў, напханых няшчаснымі падарожнымі.

Цягнік манеўруе. Пры кожным дужэйшым ускалоце галава стукаецца аб галаву, галовы ўдараюцца аб сценку.

Ізноў цішыня. Ізноў вагоны стаяць непарушна.

Паравоз не мог пацягнуць 60-вагонны цягнік. Забраў толькі частку. Тых, што паехалі, лёс ужо развязаны.

На таварнай станцыі засталіся яшчэ трыццаць вагонаў, чакаючы на свой ад'езд.

Неспакойна. Здалёк чуваць нейкія выбухі, стрэлы.

Раптам каля гадзіны 6-й увечары дзверы аднаго з вагонаў адчыняюцца. У дзвярах з'явіўся нейкі чалавек.

— Чаго вы тут седзіцё? — крычыць. — Уцякайце! Ужо толькі чатыры чэкісты засталіся на станцыі.

Уцякаць! Колькі асобаў саскочыла на перон. Кінуліся ў бок плота, які аддзяляў таварную станцыю ад Панарскай вуліцы. Затрашчалі стрэлы. З розных бакоў з'явілася сямёра чэкістаў.

Колькі асобаў, абліваючыся крывёй, упалі на зямлю. Частка ўцекачоў здолела дабегчы да плота, але не паспела яшчэ выбрацца на волю.

Бальшавікі, якія гналіся за імі, крыкнулі каманду:

— Ложись!

Чуваць было, як забрахалі паліцэйскія сабакі. Ізноў каманда:

— Давай обратно!

Людзі паслухмяна ўставалі з зямлі, з-пад плота і пад гукі стрэлаў беглі ў вагоны.

— Влезай в вагон!

Падлога таварнага вагона, як ведама, высока над зямлёй. Узлезці без падмогі надта цяжка. Нехта ранены ў жывот бязрадна хапаецца за сцены вагона.

— Гражданин! Я не могу...

Чэкіст закладае новы магазін у рэвальвер.

— А! Не можешь!..

Гукнуў стрэл. Ранены зваліўся пад колы. Ужо яму больш не трэба глабацца ў вагон.

Зачынілі дзверы. Часінка спакою. Раптам пачалася страляніна. Чэкісты абстрэльвалі вагоны. Усе пляглі на падлогу. Кулі прабівалі сцены, разрывалі дошкі, але, на шчасце, ніхто не быў забіты.

Ізноў цішыня. Толькі недзе здалёк чуваць адзіночныя стрэлы.

Каля вагонаў, звонку, нехта гаворыць па-расейску.

Арыштанты прыслухоўваюцца.

Адзін з расейцаў кажа:

— Что с ними сделаешь? Разве закидать вагоны гранатами?

— Ну, что ты! Лучше, может, расстрелять каждого поодиночке...

— Ну, долгая история!

Ізноў ціха. Ужо змяркаецца. Што будзе далей? Ці ўжо набліжаюцца апошнія часіны? Ці гэта смерць гэтак ціха крадзецца?..

Раптам чуваць крык. Выклікаюць чыёсьці прозвішча:

— Ефремов!.. Ефремов!.. Где Ефремов?..

Мусіць, ужо няма. Уцёк.

Ужо ноч. Мабыць, ужо каля гадзіны 1-й папоўначы...

Здалёк чуваць каманду:

— Готовься к отъезду!

Паравоз здрыгануўся і пацягнуў за сабой трыццаць напханых людзьмі вагонаў. Свішча. Спыніўся. Мусіць, чакае на семафорны сігнал.

Але доўга чакае...

Зноў цяжкая цішыня... Недзе ў другім канцы эшалона нехта крычыць:

— Товарищ старший сержант! Паровоза нет!

У змучаных душах засвяцілася надзея... Што гэта? Як?.. Паравоза няма? Куды ж падзеўся? Няўжо ж?

Але ўжо больш ніякіх галасоў звонку не чуваць. Не чуваць крыкаў чырвонаармейцаў, і адсунулася рэха кананады. Чуеш толькі цяжкое дыханне людзей, якія млеюць ад смагі, цяжкія ўздыханні, змешаныя са словамі малітвы, часам стогн хворага...

Праз дзіравыя сценкі відаць, што ўжо шарэе золак.

## Вызваленне

Раптам у цішыню ўварваўся крык:

— Людзі! Ці вы сшалелі? Чаго вы тут седзіцё? Уцякайце! Ужо бальшавікоў няма...

Мурашкі прабеглі па скуры. А мо гэта правакацыя? Мо паўтарыцца тое, што было ўчора, калі прабавалі ўцякаць? То адзін, то другі асцярожна высоўвае галаву за дзверы. Глядзіць — шэры золак. Відаць, як з іншых вагонаў выскокваюць постаці на перон. Ніхто не страляе.

Дык, можа, гэта сапраўды вызваленне?

Людзі на пероне заварушыліся, як мурашкі, уцякаючы ад свае злое долі. Праз плот, праз розныя дзіры, паміж дошкамі вырываліся на вуліцу.

Нясуць на руках тых, якія самі не могуць варушыцца. Гэта тыя, што яшчэ не здолелі набраць сілы пасля бальшавіцкай інквізіцыі. Пабітыя кіямі і гумовымі палкамі не могуць трымацца на нагах. Апека над гэтымі хворымі спавальняе працэс вызвалення, але нельга ж у гэты момант кідаць таварыша ў няшчасці.

Ужо выйшлі на вуліцу. Нікога няма: ані бальшавіцкае міліцыі, ані патрулёў. Аддаецца хада ўцекачоў на пустых вуліцах. Ужо світае.

А іх ужо нідзе няма — гэтых садыстаў, чырвоных катаў, чубарыкаў! Але глядзі добра, бо недзе з-за рога вуліцы з'явіцца нейкі спознены бальшавіцкі аддзел.

Што гэта? На рагу Вялікай Пагулянкі і вуліцы Святога Яцка якіясьці танкі... Няўжо ж?..

Але! Але! Гэта нямецкія танкі... Пры іх жаўнеры ў шэрых нямецкіх мундзірах...

Нарэшце!..

*1942*

# АЛЯКСАНДР ЦВІКЕВІЧ

Беларускі палітычны дзеяч, гісторык, філосаф, публіцыст Аляксандр Цвікевіч нарадзіўся 22 чэрвеня 1883 года ў Брэсце. Скончыў Пецярбургскі універсітэт (1912). Служыў прысяжным паверaным у Брэсце і Пружанах. У 1917 годзе паехаў у Маскву, дзе стаў адным з заснавальнікаў Беларускай народнай грамады. Удзельнічаў ва Усебеларускім з'ездзе (або Першым Усебеларускім кангрэсе) 1917 года ў Мінску. У 1918 годзе выконваў дыпламатычныя даручэнні ўрада БНР у Маскве і Кіеве, потым узначальваў дыпламатычную місію БНР у Германіі. У 1921–1923 гадах — міністр замежных спраў ва ўрадзе БНР, выступаў за яе міжнароднае прызнанне. З 1923 года — прэм'ер-міністр БНР у Празе. Потым пераехаў у Мінск, стаў сакратаром Інстытута беларускай культуры. З 1929 года — у Інстытуце гісторыі Беларускай акадэміі навук.

Аўтар кніг «Кароткі нарыс узнікнення Беларускай народнай рэспублікі» (1918), «Беларусь: Палітычны нарыс» (1919), «Адраджэнне Беларусі і Польшчы» (1921), «Вялікае апрашчэнне, ці Вялікае ўдасканаленне» (1926), «Западно-русизм»: нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пач. XX ст.» (1929) і шматлікіх артыкулаў.

14 ліпеня 1930 года быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і сасланы ў г. Перм. У 1937 годзе яго паўторна арыштавалі органы НКУС. У гэтым жа годзе 50-гадовы А. Цвікевіч быў расстраляны ў Мінску.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць творы Аляксандра Цвікевіча асобным томам.



## АБ АРГУМЕНТАХ АД РОЗДУМУ І АБ АРГУМЕНТАХ АД СЭРЦА

*З цыкла «Штодзённыя думкі»*

### І

Ясна: нацыянальнае адраджэнне творыць у першую чаргу не розум, а пачуццё народа. Мы кажам — у першую чаргу, бо, калі пачуццё праб'е сабе шлях і адраджэнне нацыі выявіцца ў даказаных фактах, толькі тады на падмогу яму і для аканчальнага растлумачэння і апраўдання гэтых фактаў прыходзіць розум, навука, філалагічная і філасофская крытыка, фігуральна кажучы, «цяжкая артылерыя». На вялікім прыкладзе гэта можна давесці, цікуючы за развіццём нацыянальных рухаў у Еўропе, у новыя часы. Вядома, прыкладам, што нацыянальныя рухі ў Італіі, у Нямеччыне, рухі славянскіх народаў пад уціскам Турэччыны і Аўстра-Венгерскай манархіі, абхапляўшыя сабой шырокія масы і ўздымаўшыя іх на вялікія чыннасці, — усе яны не сустракалі спагады з боку рацыяналістычнае навукі. Апошняя доўгі час не вызнавала народнасці дастойным чыннікам дзяржаўнага будаўніцтва, лічыла сябе і свае абстрактныя прынцыпы вышэй за ўсё і сустракала народныя імкненні акрэслена варожа. І толькі калі нацыянальнае начала перамагло, пасля вялікіх войнаў за нацыянальную незалежнасць — ужо ў сярэдзіне XIX века, — навука пераходзіць на новыя рэйкі. Канта з яго абстрактнымі катэгорыямі («Дзяржава ёсць аб'яднанне людзей пад юрыдычным законам»), у якіх не было месца эмоцыі, замяняе Савіні[1], Шэлінг[2], Гегель[3] з іх «гістарычнай школай» і апафеозам «народнага духу». На малым прыкладзе гэта відаць з дробных фактаў нашай сучаснасці: калі сілай падзей, у выніку перамогі новага жыцця над старым ладам, паўстала Беларусь як незалежная краіна, — шмат хто з сучасных вучоных, раней варожа і адмоўна ставіўшыхся да беларускай мовы, пачынаюць яе адкрыта вызнаваць і апраўдваць (гл. пазіцыю праф. Растаргуева, акад. Карскага і інш. «Маладая Беларусь»[4], с. 45).

Зара кожнага нацыянальнага адраджэння пачынаецца не розумам, а сэрцам, пачынаецца не формулай, а песняй. Паэт — вось хто звычайна з'яўляецца ініцыятарам нацыянальнага абуджэння, вось хто адкрывае першую старонку «Новага запавету». Роля вучонага — чародная і другарадная — яна выцякае, следуе за роляй паэта. Гамер у грэкаў у Афінах, трубадуры і менестрэлі ў раманскіх народаў, падобныя ім мінезінгеры і майстэрзінгеры

ў народаў германскіх; у чэхаў — паэт Пухмаер і яго школа, у сербаў — Давідовіч і яго плеяда, у харватаў — Гай, Вукаціновіч, Прарадовіч; у балгараў — Славейкаў, Гераў; у ўкраінцаў — Шэўчэнка, у латышоў — Вайдэнбаўм і Райніс «маладой Латвіі», у індусаў — Рабіндранат Тагор — і так бясконца. У нас, беларусаў, сапраўдным пачынальнікам нацыянальнага руху трэба лічыць народнага паэта Багушэвіча.

Падобнае з’явішча зусім натуральнае. Песня бліжэй стаіць да жыцця, яна пяе яго, вылятае з душы і вуснаў, так што нават элемент волі, г. зн. пэўнай духовай напружанасці, патрэбны ў іншых галінах творчасці, тут амаль адсутны. Паэт і яго песня таму з’яўляюцца першымі на ніве нацыянальнага ўсведамлення — «першымі ластаўкамі!», — што для іх узнікнення заўсёды *існуе адпаведны грунт*. Народ, які не памёр, жыве ў сваёй песні, што гаворыць аб яго сумах, радасцях, аб усім, што яго акружае. Паэту як сыну народа, што звязаны з ім нявіднымі ніцямі і адчувае яго пульс, — вядома песня народная, яе матыў і змест. Гэткім чынам, у яго ёсць ужо *гатовы матэрыял*, якому трэба толькі прыдаць адпаведны літаратурны выгляд.

Паэту, каб тварыць, не трэба спецыяльнай падгатоўкі, як, прыкладам, гісторыку, юрысту ці хіміку. Каб мець сваіх уласных вучоных, нацыі трэба прайсці доўгую школу, прарабіць значную культурную працу. Таленты хіміка, астранома, медыка рэалізуюцца не адразу, а пасля шматгадовай тэхнічнай спецыялізацыі. Талент паэта — дар Божы, і рэалізуецца ён звычайна з моманту свайго адкрыцця. Праўда, вышэйшыя дасягненні, вяршыні творчасці даюцца паэту не адразу. Багатыя зместам і дасканалыя па форме творы паэта выходзяць з-пад яго пяра толькі пасля грунтоўнага пазнання ім як сябе самога, так і ўсяго народнага быту, пасля цярплівай працы над сваім дараваннем. Але звычайна паэт пяе сваю песню, не пытаючыся ні сябе, ні другіх аб сваёй даспеласці, аб сваім «праве» на песню — у гэтым крыецца некрытычная par excellence істота паэтычнага дару.

Паэт і яго песня з’яўляюцца першымі ластаўкамі нацыянальнага адраджэння яшчэ і з другой прычыны. З’яўленне іх як першых выклікаецца не толькі ўнутранымі і вонкавымі варункамі, дзякуючы якім і сярод якіх ён творыць, — але таксама і мэтамі, якія ставіць ён прад сабой. Мэта гэта — узварушыць народ з пасіўнай астоі, прабудзіць у ім сваё «я», выкаваць у ім волю для барацьбы за будучыну. Хутчэй за ўсё і лепш за ўсё дасягае гэтай мэты песня і паэтычны верш. Гэта таму, што яна *дзеіць беспасярэдна на душу* народа, а душа народа, яго



пачуццёвыя перажыванні, як вядома, ёсць галоўны фактар у нацыянальным абуджэнні. У кожнай барацьбе найбольшую ролю адыгрывае змагарная эмоцыя, якую, ласне, і абуджае і ўзгадоўвае паэт, далёкі ад сцюдзёнага разрахунку сіл, караючы ўсё труслівае, спяваючы аба ўсім геранічным, клічучы на ахвярнае змаганне са злом, несправядлівасцю і насільствам.

На апошку — песня, гэта сапраўдны «аргумент ад сэрца»*, — дзеіць і захоплівае сабой *найбольшую грамаду* людзей. Лік асоб, што знаёміцца з імі, непараўнальна большы за той, што знаёміцца з аргументамі навукі. Гарызонт уплываў паэзіі і літаратуры — неабмежавана шырокі. Аргументам гэтым захопліваецца і пераконваецца асвечаны і неасвечаны, багаты і бедны, стары і малады. Прад натхнёным заклікам паэта, які зварочваецца да сэрца людзей, падаюць сацыяльныя, рэлігійныя, класавыя перагародкі. Для сапраўднага паэтычнага генія не існуе нават і час: са ўсіх іншых правадыроў нацыі паэт найбольш неўміручы.

Ён сее сваё зерне на агульнай народнай ніве і на ўсе часы, — вось чаму са ўсіх сейбітаў паэт выходзіць на родны палетак раней за ўсіх.

## II

Перыяд адраджэння Беларусі, сучаснікамі якога мы з’яўляемся, ёсць перыяд пераважна, а мо і выключна літаратурна-паэтычны. Мы не абмылімся, калі скажам, што да сённяшняга дня беларускі адраджэнскі рух вядзе і пасувае наперад беларускі пісьменнік ці бліжэй — беларускі паэт. Беларускай аповесці і рамана як наагул сур’ёзнай прозы яшчэ няма. Яшчэ не даспеў яе час. Тым больш не даспеў час і для беларускай навукі, —

* Я свядома не раблю розніцы паміж песняй-спевам і песняй-вершам. У даным выпадку гэта адно і тое ж: побач і разам з беларускім паэтам ідзе беларускі нацыянальны хор і наадварот, побач з хорам ідзе беларускі паэт. Для характарыстыкі даволі прачытаць аб тым, як адбіваецца «заваяванне» навадалучаных да Савецкай Беларусі ўсходніх абшараў. Калі Мінску трэба паказаць жыхарству гэтага абшару, «што мае Беларусь», — калі яму трэба ўзбудзіць у іх нацыянальнае пачуццё, — ён пасылае туды перш за ўсё беларускі хор і сваіх паэтаў. І можна быць пэўным да канца, што, ласне, яны, а не соткі прапагандыстаў, хоць бы нават шчырых і таленавітых, — узбудзяць гэты гібеючы ў нацыянальнай несвядомасці абшар.

яна ёсць справа заўтрашняга дня. Мы жывем, калі можна так характарызаваць, у эпоху свайго «нацыянальнага рамантызму», а рамантызм, як вядома, заўсёды «пяяў і будзе пяяць у вершах». Элемент глыбокага цікавання жыцця, крытычнага думання над яго праблемамі, што даецца ў выніку празаічнага твора, — усё гэта яшчэ наперадзе. Пакуль што мы маем верш, — пераважна лірычны, што таксама характарызуе рамантычны ўклон творчасці. Але тое, што мы маем у гэтай галіне, нагэтулькі багата, дасканала, свежа і арыгінальна, што мы можам быць зусім спакойнымі за сваю будучыну.

Беларусь нашых дзён прысутна пры рассвітанні свайго творчага духу. Да зеніту яшчэ далёка, — але гэтае рассвітанне нагэтулькі багата зместам і барвамі, што поўдзень нашага рэнесансу абяцае быць пагодным і слаўным.

Наша паэзія — добра завостраны меч, — духовы меч, што крышыць мур сцюдзёнасці і недаверу. Паэт нясе гэты меч — ён б'е ім у сэрца людзей, мінаючы розум, рассявае сум і цемру сучаснай гадзіны. Для ўсіх недаверкаў, для ўсіх «слабых духам» гэты меч — песня — ёсць адзінае збавенне: «Бійце ў сэрца іх, бійце мечамі, не давайце чужынцамі быць»... — гэты заклік узмацуе не адну хісткую душу і выведзе на адпаведны шлях не адзін заплутаны розум.

І сапраўды, шмат хто з інтэлігентных працаўнікоў быў скіраваны на нацыянальны шлях, ласне, гэтым мячом, — песняй і вершам, налітымі слязьмі і кроўю. У ўкраінскім адраджэнні да ліку іх належыць гэткі выдатны чалавек, як Міхайла Драгаманаў. Гэта ён прызнаваўся, што «вывучэнне ўкраінскіх песняў прымусіла яго моцна палюбіць гэты народ». Ласне, народная песня і геній Шаўчэнкі зрабіў з яго, заядлага расейскага касмапаліта, — аднаго з галоўных будаўнічых украінскай справы. Вядома таксама, што нават і зрусіфікаваны Гогаль, нават і той пісаў сваім сябрам у Кіеў: «Пришлите мне песен украинских: я задыхаюсь в здешней петербургской атмосфере».

Скептычна настроены інтэлігент можа заўважыць, што сучасная беларуская паэзія не мае вялікай вартасці дзеля таго, што яна надзвычайна аднаадменная: пераважаючую частку яе становяць сумныя песні аб горы, нядолі, нудзе і бядоце. Такі характар быццам не абяцае Беларусі нічога добрага. Доля бадзяння пад чужой прынукай, доля беднасці, забітасці, небарацтва, аб чым поўна ў нашай літаратуры, сведчыць аб заняпадзе народнае энергіі, аб пэўнай валявой дэгенерацыі. І скептыкам ды песімістам здаецца, што калі ў беларусаў



няма іншай духовай стравы, дык гэтую атруту трэба кінуць. Каб уратавацца ад духовай смерці, трэба ўхапіцца за больш бадзёрую, больш актыўную і надзейную літаратуру, хоць бы яна была чужая. Па іх перакананні, характар беларускай паэзіі сведчыць, што быццам народ беларускі як арыгінальна-творчая нацыя — нежыццёвы, а непакоіцца тым, што нежыццёва, не мае сэнсу. «Падаючага штурхні, — казаў Ніцшэ, — усё роўна з штучнага выхавання нічога здаровага і годнага будучыні не выйдзе». Нашы правінцыяльныя ніцшэанцы вельмі спагадаюць гэткім мыслям.

Мы павінны згадзіцца, што цяперашняя (не сённяшняя!) беларуская паэзія мае пэўныя аднабокасці. Яна сама ў гэтым шчыра прызнаецца. Развярніце найбольш салідны збор твораў першага паэта Беларусі Янкі Купалы: на першай старонцы вы знойдзеце эпічна-спакойную заяву, што ў ім «больш за ўсё нуды праклятай». Так яно і ёсць, і з гэтым нельга спрачацца. Паэзія — люстэрка жыцця, і калі жыццё ненармальнае і горкае, дык і паэзія будзе горкай і нуднай. Але рабіць адсюль песімістычны вывад — зусім дарма.

Мы добра ведаем, што некаторыя асаблівасці нашага нацыянальнага «я», якімі мы хацелі б ганарыцца, шмат хто з чужынцаў лічыць за вялікія хібы. Так, прыкладам, нашу прыроджаную скромнасць лічуць за забітасць, за хваравлівую, арганічную няздольнасць; адсутнасць у нас захапнасці, якая ў гісторыі ўзгадоўваецца каланізацыйнымі імкненнямі, прымаюць за адзнаку слабасці; нашу прыроджаную мяккасць і лагоднасць, што сведчыць аб гістарычнай культурнасці беларускага народа, прымаюць за адсутнасць цвёрдасці, трываласці і ўпартасці ў барацьбе. Мы добра ведаем гэтыя агідныя, абрыдлыя прыпеўкі аб «забитых белорусах», аб «biednych kmiotkach». І трэба згадзіцца, што да гэтых прыпевак мы самі — свядома ці несвядома* — дакладалі руку.

Але, паўтараем, ад гэтых прызнанняў таксама далёка да песімізму ў думках аб будучыне Беларусі, як неба далёка ад зямлі. З рэдкай праведнасцю зразумеў гэта знакаміты «гарун» Беларусі — Аляксандр Прушынскі[5]. У сваім дынамічным вершы «Паэту» ён загадвае:

* Да свядомага памяншэння свайго значэння мы залічаем вельмі няўдалы спосаб беларускіх літаратараў выбіраць сабе псеўданімы. Рэдка які з гэтых псеўданімаў (іх наагул залішне многа!) сведчыць аб упэўненасці аўтара ў сваіх сілах.

Прашу цябе, мой брат, спявай аб нашым горы,
Аб тым, што ёсць цяпер і што даўней было,
І што на ўсякі твар кладзець, як плуг, разоры,
І што ў мільёнах душ разоры правяло.
Прашу цябе, спявай аб горы песнь адну ты,
І наш гаротны лёс рабі яшчэ цяжэй. —
*Тады, убачыш сам, — парвуцца духу путы*
*І будзе ясны дзень да нас тагды бліжэй...*

(курс мой.— *Г.*).

Так, ласне, і ёсць: песня аб горы пяецца паэтам не для таго, каб народ нікнуў і занепадаў яшчэ больш, а для таго, каб ён выгартоўваў у сабе новую сілу, далейшую здольнасць перанесці цяжары сучаснасці. Гаротная песня — гэта той молат, які «дробіць шкло, куець булат».

Рука паэта часта свядома нацягвае стралу народных цярпенняў: чым больш напружанасць — тым далей паляціць страла вызвалення.

І дарма імкнуліся бы нас штурхаць нашы вучоныя схаластыкі, нашы інтэлігентныя мяшчане: заштурханыя ў вяках, мы абіліся і на штуршкі ўжо не рэагуем. Не падаць гатовы мы, а ўстаць. Устаць ва ўвесь гіганцкі ўзрост буйнога дванаццацімільённага ўваскрэслага народа. Устаць са светлым чалом, на якім яшчэ зіяюць раны ад стагодняга цярновага вянца, са словам божай праўды на вуснах, закутых у вяках пячаткай маўчання.

Слова свабоды нашай ужо грыміць, — і смешнымі здаюцца нам палахлівыя, хаваючыся, шчырачы зубы, прароцтвы. Яны загінуць як цені ночы.

Паэт наш вядзе нас да сонца! Дарогу беларускаму паэту!

***1925***



# ВЯЛІКАЕ СПРАШЧЭННЕ, ці ВЯЛІКАЕ ЎДАСКАНАЛЕННЕ

*Фрагменты кнігі*

## Рознаадменнасць і навізна найбольш цікавяць нас у творчасці народаў

У рознаадменнасці формы скрыта багацце пачуццёвага духу — вось чаму ён увесь час шукае «чароднага слова», не здаволены «словам сказаным», вітае кожную спробу адмовіцца ад прынятага і традыцыйнага. У аднаадменнасці пачуццёвы дух гіне, творчая энергія яго слабее і гасне.

Лепшай гарантыяй рознаадменнасці жыцця і забяспекай далейшай творчасці чалавечага духу ёсць сам чалавек у істоце сваёй адзіны, але ў форме сваёй і выяўленні сваім — бясканечна рознаадменны. Праявай гэтай рознаадменнасці служыць кожная сям'я ў стасунку да другой сям'і, адзін народ у стасунку да другога, славянская нацыя ў стасунку да рамана-германскай, белая раса ў стасунку да чорнай ці жоўтай. Кожны з гэтых сацыяльных арганізмаў па-свойму індывідуальны, творыць сваю асобную культуру, ідзе да дасканаласці, да ўсялюдскасці, сваімі, яму аднаму ведамымі, шляхамі. Украінскі філосаф Міхайла Драгаманаў характарызаваў гэты працэс у кароткай формуле: «нацыяналізм у здзяйсненні і касмапалітызм у мэтах». Поступ чалавецтва складаецца як з паасобных укладаў кожнага народа і нацыі, так і са ўзаемных уплываў адной нацыі на другую. Мы бачым, прыкладам, што сучасная еўрапейская культура стварылася ў выніку бясканечных узаемных уплываў насяляючых Еўропу народаў: кожнае слова ў літаратуры, мастацтве, музыцы, навуцы і г. д. аднаго народа паўтаралася суседнім на свой капыл. Гэткі лёс, як вядома, меў псеўдакласіцызм, рамантызм, т. зв. «рэалістычныя школы», перыяды панавання ідэалістычнай філасофіі, — усё, усутыч да сучасных нам мадэрнізму, футурызму і ўсялякіх іншых «шуканняў».

Вядомы таксама другі факт, што нам найбольш падабаецца ў творчасці другіх народаў акурат тое, у чым адбіваецца іх нацыянальная спецыфічнасць. Расійскі балет падабаецца амерыканцу ласне тым, што ён яму незнаёмы, што ён прыносіць з сабой выраблены стыль расійскай балетнай школы; сярод нямецкіх мастакоў першае месца займаюць мюнхенцы, якія ў сваёй творчасці найбольш адбіваюць нацыянальны дух ня-

мецкай нацыі. Інтэрнацыянальны Берлін, як і кожная сталіца вялікай дзяржавы, якая не мае нацыянальнага твару, не цікавы замежнаму падарожніку, калі ён шукае ў ім праяў творчасці нацыянальнага генія народа. Цэннае для нас тое, што розніцца ад нашага, ад прывычнага, — і толькі гэта падбівае нас спачатку на падрабленне пад чужое, а пасля, у выніку ўнутранай перапрацоўкі ўяўляемага, — на арыгінальную творчасць.

## Мова — душа народа і найкаштоўнейшы скарб усяго чалавецтва

Сярод усіх спосабаў індывідуальнага ўяўлення свету і, у звязку з гэтым, сярод усіх спосабаў праяўлення чалавечай індывідуальнасці першае месца займае, безумоўна, чалавечае слова, спрадвечны логас. Першае чалавечае слова было першай спробай перадаць акружаючаму свае перажыванні, свае думкі. Як перажыванні і думкі былі індывідуальныя, так было і слова. Першае слова чалавецтва было *індывідуальным* словам, — людскасць запамінала адразу на некалькіх мовах. Колькі іх было, — навука не ведае, і дайсці ёй гэтага немагчыма, але што іх было не адна, гэта вядома напэўна. Можна думаць, што іх было столькі, колькі розных пляменняў, ці, лепш сказаць, колькі розных грамадскіх камплектаў бытавалі ў розных геаграфічна-гістарычных варунках.

Кожны чалавек адчувае жыццё па-свойму дзеля таго, што псіхіка яго зложана інакш, як у другога чалавека. На склад псіхікі ўплываюць усялякія прычыны: акружаючая прырода, клімат, варункі гістарычнага бытавання, людская супольнасць, сярод якой народ жыве, і інш. І можна лёгка прызнаць, што ўсе асобнасці адчування чалавекам прыроды, жыцця, падзей, — лепш за ўсё і паўней за ўсё выражаюцца ў рознасці моў нашае зямлі. Праўду казаў В. Гумбальд[1], што «die sprache ist eine weltansicht» («мова ёсць светагляд»).

Рознасць моў — ёсць агульначалавечае багацце; гама моў — багацейшая гама адзінай і неаб'ятнай чалавечай душы. З параўнання іх, з процістаўлення, узаемнага распазнання і ўплываў — родзяцца новыя заваяванні культуры. Калі еўрапеец знаёміцца з арабскай літаратурай, з творамі грэцкіх і рымскіх мастакоў, — якіх ён ва ўласнай слоўнай стыхіі дайсці самастойна не патрапіў, ён узбагачае свой духоўны свет, не прарабляючы ўсёй той каласальнай працы, якая патрэбна была для вытварэння



гэтай літаратуры. Калі беларускі пісьменнік знаёміцца з чэшскай мовай, з чэшскім вершам, ён таксама знаходзіць у іх нешта такое, чаго сярод сваіх ён ніколі не знойдзе. Гэтае знаёмства дае яму магчымасць перанесці ўсё цікавае і карыснае на ўласны грунт і тым узбагаціць і аздобіць родную літаратуру. Сляды падобнага ўзбагачэння шляхам культурных уплываў і перахрышчванняў вядуць да самай далёкай мінуўшчыны, да часоў стараарыентальных і антычных дзяржаў, калі ўсходнеазіяцкія народы, колькі іх ні было (Асірыя, Вавілон, Егіпет, Персія, Мідыя і інш.), утваралі ўзаемна нейкі агульнакультурны масіў і калі афінскі нацыянальны геній уплываў на Рым, і наадварот.

Кожная асобная мова ёсць вынік усіх асаблівасцяў у жыцці кожнай нацыі. Доследы над санскрытам даводзяць, што сучасныя нам мовы еўрапейскага кантынента выйшлі з аднаго карэння, — а тое, што ласне гэтыя мовы, выйшаўшыя з аднаго карэння, гэтак розняцца паміж сабой *цяпер*, сведчыць, наколькі патэнцыяльнай рознаадменнасці захоўвалася раней у адзіным пляменні. І таму не дзіва, што культурную гісторыю кожнага народа пачынаюць гісторыяй тварэння яго мовы, гісторыяй таго, як народ, на першых кроках свайго існавання, знаходзіў і акрэсліваў самога сябе.

У той момант, калі б здзейсніліся летуценні «конскіх» касмапалітаў і на зямлі запанавала б адзіная мова, у той самы момант загінуў бы галоўны рычаг зямной цывілізацыі. Сказ аб біблейскай вежы ласне і паказвае, як жыццё выйшла мудрэйшым за рацыяналістычныя развažанні. Без розніцы моў загінулі б асобыя нацыянальнасці і «людскасць абярнулася б у мёртвы лагічны абстракт, слова без зместу, гук без значэння» (Бялінскі).

Усялюдскі інтэрнацыянал ласне і цікавы тым, што ён *інтэрнацыянал*. Уся сіла інтэрнацыяналу месціцца акурат у *рознасці* складаючых яго частак, а не ў адзінасці іх. (Мы кажам аб культурным інтэрнацыянале. Але нават і палітычны пралетарскі інтэрнацыянал, у сваёй спецыфічна класавай плашчыне, не можа стварыць той адзінасці, якой жадалі яго першыя тэарэтыкі: прамых ліній у прыродзе няма.)

Прыведзены намі схематычны перагляд агульнавядомых пастулатаў значэння мовы мы прывялі для таго, каб паказаць, каб прыпомніць чытачу, што інтэлігенцкае цверджанне аб шкоднасці разнамоўнасці ёсць ці забыццё, ці няведанне ўстаноўленых фактаў гісторыі. Разнамоўнасць ёсць не праклён над родам

людскім, а яго бласлаўленнем. *Не да знішчэння разнамоўнасці трэба імкнуцца, а да захавання кожнай мовы і развіцця яе да яе натуральнага значэння.*

Мова ёсць маці кожнага народа. Дзякуючы мове народ як асобная нацыянальнасць родзіцца, з ёю ж ён памірае. У стасунку да беларусаў гэтую думку найбольш каротка і яскрава выказаў адзін з нашых «простых людзей», умеўшых «слухаць жыццё»[2] — Мацей Бурачок: «Не пакідайце мовы вашай, каб не ўмерці!». У гэтых спакойных словах народнага песняра — цэлая філасофія, сапраўдны «Новы запавет» — цэлая праграма народнага бытавання.

### Мы павінны берагчы і ўзбагачаць свае духовыя скарбы

Пакольні мы беларусы, г. зн. не палякі, не маскалі, не літвіны, не ангельцы, — пастолькі мы павінны берагчы і цаніць усё тое, што робіць нас беларусамі, што гаворыць аб нашай асаблівасці паміж суседзямі. Берагчы ў пашане сваё, гэта значыць гарманічна сумясціць сваё з чужым, з агульначалавечым. Мы павінны берагчы і развіваць свае звычаі, сваю песню, сваю вопратку, паважаць і паглыбляць асаблівасці свайго беларускага светапогляду і інш. А ў першую чаргу мы павінны берагчы і развіваць сваю мову, бо толькі з ёю і праз яе мы здолеем асягнуць усё іншае. [...]

***1926***

# АНТОН ЛУЦКЕВІЧ

Публіцыст, літаратуразнавец, крытык, гісторык, лінгвіст, грамадска-палітычны дзеяч Антон Луцкевіч паходзіў са старажытнага шляхецкага роду герба Навіна (адсюль яго псеўданім Антон Навіна). Нарадзіўся ён 17 (29) студзеня 1884 года ў горадзе Шаўлі Ковенскай губерні (цяпер г. Шаўляй у Літве). А. Луцкевіч — малодшы брат Івана Луцкевіча, вядомага грамадска-палітычнага дзеяча, публіцыста, археолага, краязнаўца, празаіка, аднаго з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя. Пасля смерці бацькі сям'я пераехала ў Мінск. Тут А. Луцкевіч скончыў гімназію і паступіў у Пецярбургскі універсітэт на прыродазнаўчы факультэт. У Пецярбургу стаў адным з арганізатараў «Круга беларускай народнай прасветы і культуры», мэтай якога было распаўсюджанне асветніцтва сярод выхадцаў з Беларусі, стварэнне беларускай школы, выданне кніг. Разам з братам Іванам, іншымі студэнтамі, якія вучыліся ў Пецярбургу, выдаў «Калядную пісанку», «Велікодную пісанку», увайшоў у Беларускую рэвалюцыйную грамаду (з 1904 года — Беларуская сацыялістычная грамада), абіраўся членам Цэнтральнага камітэта БСГ. Актыўна ўдзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях 1905–1907 гадоў. З 1906 года — у Вільні. Быў у ліку заснавальнікаў газеты «Наша доля» (дзе ён апублікаваў свой першы беларускамоўны артыкул) і «Наша ніва». На іх старонках друкаваліся яго вострыя публіцыстычныя артыкулы, якімі ён змагаўся за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне беларускага народа. Пісаў таксама літаратуразнаўчыя і крытычныя нататкі, рэцэнзіі на творы беларускіх пісьменнікаў, артыкулы пра становішча беларускай мовы, школы.

А. Луцкевіч быў членам многіх віленскіх выдавецтваў, разам з Ластоўскім выдаваў газету «Гоман», разам з Самойлам выконваў асноўную работу ў газетах незалежніцкага дэмакратычнага напрамку «Голас беларуса», «Сялянская праўда», «Сын беларуса», «Беларуская доля». Артыкулы А. Луцкевіча рэгулярна з'яўляліся на старонках такіх выданняў, як «Беларускі звон», «Студэнцкая думка», «Беларуская справа», «Наш шлях», «Школа і жыццё», «Родныя гоні» і інш. А. Луцкевіч абіраўся старшынёй Віленскай беларускай рады (1918–1919), быў адным з арганізатараў Рады беларускай школы, якая пазней злілася з Таварыствам беларускай школы, выкладаў беларускую мову на курсах настаўнікаў. Ад Віленскай беларускай рады быў каап таваны

(разам з І. Луцкевічам) у склад Рады БНР. Якраз А. Луцкевіч у сакавіцкія дні 1918 года выступіў з прапановай абвясціць незалежнасць БНР. З лістапада 1918 года ён узначаліў Раду Народных Міністраў і быў міністрам замежных спраў БНР, але ў лютым 1920 года змушаны быў пайсці ў адстаўку.

За актыўную беларускую дзейнасць А. Луцкевіч у 1927 годзе быў арыштаваны палякамі і 8 месяцаў адбываў зняволенне на Лукішках. Хоць суд і апраўдаў яго, ганенні не спыняліся: было забаронена выдавецкае таварыства, якое ён узначальваў, потым ён быў звольнены з выкладчыцкай працы ў Віленскай беларускай гімназіі. Затое больш увагі пачаў аддаваць створанаму ім Беларускаму музею імя І. Луцкевіча, шчыльней займаўся навуковай дзейнасцю, застаючыся старшынёй Беларускага навуковага таварыства, пісаў артыкулы, якія друкаваліся ў заходнебеларускіх, нямецкіх, чэшскіх газетах і часопісах, выходзілі асобнымі кнігамі і брашурамі.

Па ўз'яднанні Заходняй Беларусі з БССР А. Луцкевіч выступіў у Вільні на сходзе культурна-асветных работнікаў з заклікам да адраджэння беларускай школы, усёй нашай культуры і мовы. Рэакцыі доўга чакаць не давялося: 30 верасня 1939 года ён быў арыштаваны органамі НКУС і этапіраваны з Вільні ў Мінск, а потым у Маскву, дзе Асобая нарада пры НКДБ СССР засудзіла яго на 8 гадоў зняволення ў канцлагерах. 23 сакавіка 1942 года сэрца слаўнага сына беларускага народа не вытрымала нечалавечых здзекаў энкавэдыстаў на этапе. Смерць напаткала яго на перасыльным пункце ў Аткарску Саратаўскай вобласці.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выданне твораў Антона Луцкевіча асобным томам.

## «МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ»

Калі беларускі нацыянальны рух толькі пачынаўся, гэта быў рух чыста сялянскі: васьмімільённая мужыцкая грамада першы раз падала свой голас, пачала сама гаварыць аб сабе і сваіх справах, выказваючы свае думкі так, як было найлягчэй, — у роднай беларускай мове.

За наш народ лішне доўга гаварылі другія: або зусім чужыя людзі, або тыя сыны беларускай вёскі, каторыя выйшлі «ў людзі» і на сваіх сярмяжных братоў глядзелі зверху ўніз. Ведама, ні адны не маглі пераказаць таго, што думае і чаго хоча народ: яны або ніколі не зналі беларускага сялянства як ніжэйшага, «простага» стану, або так ад яго далёка адышліся, што перасталі разумець людзей, між каторымі ўзрасталі змалку. Затое ўсе шчырыя дэмакраты горача віталі прабуджэнне вёскі і сталі працаваць над



тым, каб ёй лягчэй было выказваць усё, што праз доўгія гады было зачынена ў галовах сялянства цемнатой і бяспраўным палажэннем. Пачалася работа над развіццём «простай» мовы, каб беларус мог гаварыць аб усім па-беларуску: гэта — найлепшы спосаб выказваць свае думкі.

І паліліся мужычыя думкі ў вершах-песнях, гутарках-казках, у пісьмах і карэспандэнцыях, друкаваных у беларускай газеце і кніжцы. Простыя, шчырыя словы народа прамовілі да душы і сэрца ўсіх, хто не загубіў здольнасці разумець чужыя боль і гора. Загнаная, абкіданая пагардай і асмяяная родная мова разам зрабілася дарагой і мілай сэрцу не толькі селяніну-земляробу, але і яго сыну-інтэлігенту. І вось на нашых вачах родзіцца *беларуская інтэлігенцыя:* беларус, каторы зразумеў, хто ён такі, калі яшчэ хадзіў у сярмязе, ужо не можа перастаць быць беларусам, хаця сярмягу замяніў на сурдут ці мундзір.

Ёсць, праўда, людзі, каторыя даводзяць, быццам лічыць сябе беларусам і гаварыць па-беларуску можна толькі датуль, дакуль жывеш у мужыцкай хаце, у холадзе і голадзе, з жывёлай, парасятамі, курамі і т. д. Так думаюць розныя Саланевічы, каторым няўсмак пайшло нават тое, што ў беларускім тэатры і па-беларуску іграюць п'есы з жыцця не мужыкоў, а шляхты! Калі ты інтэлігент, — кажуць яны, — дык будзь расейцам, палякам або чым толькі хочаш, але не беларусам!

Жыццё разбівае ўсе хітрыя выдумкі ворагаў беларускага народа: спачатку зусім малая жменя народных інтэлігентаў з кожным днём расце і здабывае большую сілу.

Ужо даўно падымаліся галасы гэтых інтэлігентаў і ў «Нашай ніве», і шмат дзе яшчэ, што трэба чым барздзжэй узяцца за выдаванне месячніка ці іншага журнала, каб здаволіць патрэбы нацыянальна свядомых інтэлігентных беларусаў, каб яны маглі шырэй і свабадней выказваць свае думкі, разбіраць і развіваць нашы нацыянальныя і агульнакраёвыя пытанні і т. д., каб было дзе друкаваць вялікшыя і больш сур'ёзныя літаратурныя творы. Аб гэтым многа гутарылі, многа думалі. Але неяк не маглі з сіламі сабрацца.

Урэшце такі сабраліся: гэтымі днямі мы дасталі дужа радасную вестку з Пецярбурга, што тамака справа наладзілася і з канца гэтага года пачнуць выдаваць беларускія зборнікі, каторыя павінны пакуль што замяніць дужа патрэбны беларускі месячнік. Вось што нам пішуць:

«Сучасная беларуская мысль выліваецца на паперу ў «Нашай ніве», календарах і беларускіх кніжках. З гэтых выданняў

кожнае мае сваю вядомую мэту; да гэтай мэты нагібаецца і іх істота. Аднак усё болей і болей знаходзіцца між прабудзіўшыміся беларусамі думак і твораў, для каторых з розных прычын няма месца ў сучасных беларускіх выданнях, і многа ёсць такіх людзей, каторых сучасныя беларускія выданні мала здавольваюць. Вось з гэтай-то прычыны ўжо даўно чуецца патрэба такога выдання, дзе маглі б знайсці прыпынак дасюль бяздомныя творы, дзе магла б падзяліцца сваімі думкамі ўся Маладая Беларусь. Такім выданнем быў бы найбарзджэй месячнік ці часопіс. Але сягоння мы можам пачаць толькі ад зборніка. Хрысцім яго — «Маладая Беларусь».

«Маладая Беларусь» будзе выхадзіць кнігамі ў 160 с., фармату 14х21 сант. Кніжкі будуць выхадзіць адна за адной як толькі набярэцца матэрыял. Ідучы да сваёй мэты, «Маладая Беларусь» будзе мець аддзелы: 1) грамадзянскі, дзе будзем разбіраць неадложныя для ўсяго беларускага грамадзянства пытанні; 2) навучны — з асаблівай увагай на навучнае пазнанне Беларусі; 3) аддзел прыгожага пісьменства».

Усё выданне будзе вясці выдаўніцкая беларуская суполка «Загляне сонца і ў нашаваконца», вядомая ўжо тым, што пусціла ў свет багата беларускіх кніжак. Работа, за каторую суполка цяпер узялася, дужа важная і патрэбная, і мы ад усёй душы шчыра вітаем яе думку. Хай жыве і развіваецца «Маладая Беларусь»!

***1911***

## ПРАДВЕСНІКІ АДРАДЖЭННЯ

Пасля доўгіх мук, здзеку і заняпаду беларускі народ уваскрэс.

Сапраўды, іначай нельга назваць таго, што адбываецца на нашых вачах.

Бо ў беларусаў былі часы высокага расцвету, калі ў Вялікім Княстве Літоўскім народ беларускі будаваў асновы дзяржаўнага жыцця беларуска-літоўскіх зямель, калі па-беларуску гутарыла між сабой краёвая інтэлігенцыя, усе станы, усе ўраднікі і вялікія князі. Беларуская мова была мовай пануючай, мовай гасударственнай. Статут Літоўскі, уложаны і выданы па-беларуску, загадваў, каб усе дакументы афіцыяльнага характару пісаліся беларускім языком. І ў часах незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага беларусы могуць пахваліцца найбагацейшай між славянскімі народамі літаратурай. Не лічачы вялізарнага чысла пісаных памятнікаў беларускай старой літаратуры, да нас дайшла друкаваная ўжо ў 1517 годзе першая беларуская Біблія Францішка Скарыны, і гэтак на 1917 год прыпадаў юбілей беларускага друку.



Але пасля гэткага светлага перыяду расцвету беларускай нацыянальнай культуры для Беларусі, увайшоўшай разам з усёй Літвой у склад Польскай Рэчы Паспалітай, насталі ліхія дні. Нешчаслівыя для нашага народа варункі жыцця зрабілі тое, што памалу — крок за крокам — беларускую мову пачала выціскаць зусюль польская, «вярхі» народа — яго вышэйшыя станы — апалячваліся і разрывалі тую жывую сувязь з народнымі масамі, якую становіць еднасць мовы. І калі прабіла гадзіна раздзелу Рэчы Паспалітай, калі наша Бацькаўшчына апынулася пад панаваннем расейскіх цароў, дык на Зямлі Беларускай беларускім асталося толькі сялянства, часцю — дробнае мяшчанства ды работнікі па мястах. Не было нацыянальнай інтэлігенцыі, не было каму бараніць правы нашага народа перад чужынцамі.

На «паток і разграбленне» быў выданы маскалям народ беларускі. І з горкім болем трэба сказаць, што ў той час, як царскія чыноўнікі гвалтам абярталі беларусаў у маскалёў, сыны нашага народа, косць з косці і кроў з крыві яго, прыняўшыя польскую мову і культуру, нанасілі яму ўдары ззаду, стараючыся пераварочваць нашых братоў на палякаў...

Мы не будзем затрымлівацца на панурых страніцах гісторыі беларусаў у XIX сталецці, калі народ сялянскі стагнаў пад цяжкім прыгонам. Скажам толькі, што і тут ужо пачынае лунаць над зямлёй беларускай думка аб свабодзе сацыяльнай, палітычнай і нацыянальнай. А кожны раз, як узмацоўваўся тут дэмакратычны рух, разам з ім узнімалася пытанне і аб справе беларускай: у часах расцвету дэмакратычнага кірунку ў Віленскім універсітэце, у рэвалюцыйным 1848 годзе, у часах перад паўстаннем 1863 г. і падчас паўстання. Але грубая сіла царскага самадзяржаўя разбівала ўсе праявы дэмакратызму, а разам з тым нішчыла першыя беларускія расткі. У 1865 годзе было забаронена друкаваць у межах Расеі беларускія кніжкі, і гэта забарона трывала 40 гадоў — ажно да вялікай расійскай рэвалюцыі. Як найвышэйшая праява дэмакратычнага руху рэвалюцыя збудзіла ўрэшце прыспаныя масы беларускага сялянства, і вось першыя пакаленні беларусаў, радзіўшыеся і ўзгадаваныя пасля скасавання паншчыны, як вольныя людзі, прыступаюць да адбудовы сваёй нацыянальнай культуры, працуюць дзеля духовага вызвалення свайго народа — дзеля нацыянальнага адраджэння.

Беларускі народны рух, каторы гэтак шырока развіваецца нават цяпер — у часе вайны — наабапал ваеннага фронту, меў сваіх прадвеснікаў яшчэ перад рэвалюцыяй 1905 года. Пробы беларускага пісьменства сягаюць нават канца XVIII ст., калі Манькоўскі напісаў сваю «Энеіду»[1], дайшоўшую да нас толькі ў адрыўках. У другой чвэрці XIX ст. выходзяць зборнікі народных вершаў з дадаткам арыгінальных (Ян Чачот), побач з тым аповесці маральнага характару (Баршчэўскі, Рыпінскі і інш.). Між апошнімі багаты ўклад у беларускую літаратуру ўнёс Вінцук Дунін-Марцінкевіч, даўшы цэлы рад вялікшых паэтыцкіх твораў, пісаных добрай беларускай мовай, але больш цікавых з бытавога пагляду, чым з артыстычнага, — у тым ліку «Гапон», «Купалле», «Шчароўскія дажынкі», сцэнічныя творы «Залёты» і «Сялянка», да каторай напісаў музыку вядомы кампазітар зямлі нашай Станіслаў Манюшка і каторую ігралі ў 50-х гадах на мінскай сцэне. Ды ўсе творы папярэднікаў Марцінкевіча і яго самога па свайму характару вельмі далёкія ад новай беларускай ідэалогіі: памянёныя аўтары стаяць над народам, гэта — паны, каторыя пішуць дзеля навучання «простых» людзей. І хоць са шляхоцкай сям'і выйшаў такжа Мацей Бурачок (Францішак Багушэвіч — з Ашмяншчыны), ён першы ўнёс у беларускую літаратуру народны характар і гэтак заняў месца першага песняра маладой Беларусі.

Мацей Бурачок — гэта сапраўды беларускі нацыянальны паэт: ён так добра разумеў наш народ, быў так блізка да яго душой, што яго творы — заўсёды высокай артыстычнай цаны, нягледзячы на забарону расейскага ўрада, даходзілі да самых глухіх беларускіх вёсак то перадаваныя вусна, то ў загранічных выданнях (зборнікі «Dudka biełaruskaja» і «Smyk biełaruski», друкаваныя ў [18]90-х гадах), дастаўляўшыхся кантрабандай. Вершы Багушэвіча сталіся скора агульнанародным меннем: іх вучыліся на памяць зусім таксама, як арыгінальных народных песень. Мацей Бурачок — гэта інтэлігент, узгадаваны ў апалячанай шляхоцкай сям'і — у традыцыях барацьбы за палітычную волю, вучыўшыйся пасля ў маскоўскім універсітэце і вынесшы адтуль дэмакратычныя ідэі расейскіх радыкалаў [18]80-х гадоў. Ён знамятніта вычуваў біццё пульсу народнага, балеў яго болем, цешыўся яго радасцямі, усёй душой абураўся з прычыны ганебнага рабства, сляды каторага надоўга забілі ў беларускіх сялянах пачуццё чалавечай гордасці. Ён горача зваў наш народ скінуць путы духовага рабства, горда падняць галаву і смела — на ўвесь свет — заявіць, што ён толькі спаў, а цяпер збудзіўся



і трэбуе для сябе належнага месца ў сям'і братніх народаў. У першых творах сваіх Багушэвіч кліча беларусаў не кідаць роднай мовы — «опраткі душы». У сільных словах, уложаных у вусны мужыка-беларуса, ён узвялічвае тую мазолістую руку, на каторай «няма сказы»[2]. Ён з незвычайным гумарам высмейвае тое, што давала «павагу», «бляск» панам у вачах цёмных хлебаробаў, высмейвае сельскую адміністрацыю, каторая лічыць сябе перад «простымі» людзьмі за «важнае начальства» («А што ж то ўраднік за вялькі індык?»[3]). Няма, бадай, ніводнага болей-меней свядомага беларуса, каторы не чэрпаў бы поўнымі жменямі ідэі «Dudki» і «Smyka».

Між прадвеснікамі адраджэння беларускага пісьменства ёсць яшчэ другое імя, сучаснае Мацею Бурачку і блізкае яму па духу. Гэта — Янка Лучына (Неслухоўскі — з Мінска), каторы, як і Багушэвіч, не дачакаў плёну са свайго ідэйнага пасеву. Янка Лучына — гэта таксама інтэлігент-народнік, і творы яго носяць на сабе сляды ўплыву Багушэвіча. З вялікімі клопатамі ўжо пасля смерці песняра ўдалося атрымаць пазваленне цэнзуры на друк зборніка вершаў яго («Вязанка», 1913[4], Пецярбург). Многа твораў яго пагібла і да нас не дайшло, ды толькі мінскія старажылы з памяці дэкламуюць адрыўкі іх. Можна было б налічыць многа імён, пісаўшых у канцы XIX ст., творам каторых доля не судзіла выйсці на свет Божы ў друкаванай постаці. Толькі адзін Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), сучасны Багушэвічу і Неслухоўскаму, прыждаў таго моманту, калі забарона беларускага друку счэзла, калі пачалі выходзіць беларускія газеты і кніжкі, калі і яго творы, заўсёды поўныя глыбокага, шчырага чуцця, выйшлі ў свет.

Само сабой разумеецца, што забарона беларускага друку надоўга працягнула перыяд летаргічнага сну нашага народа. Наагул, да 1905 года не толькі беларуская, але і ўсякая іншая кніжка толькі з вялікім трудом пранікала ў вёску. Але не дарма XIX век лічыцца векам адраджэння нацыянальнасцяў: тая сіла, каторая адрадзіла чэхаў, украінцаў, літвінаў, латышоў, эстаў і іншых, у канцы сагнала сон і з вачэй беларусаў, — і беларускі народ, пераступаючы парог XX сталецця, меў у душы сваёй вялікі запас творчай энергіі, каторая ждала толькі адпаведнага моманту, каб выбіцца наверх.

Ждаць давялося нядоўга: такім момантам паслужыў рэвалюцыйны рух 1905–[190]6 гадоў.

Той магутны парыў, каторы тады захапіў народныя масы, прымушаў і беларусаў даць свой голас, выказацца да канца,

выявіць душу сваю. І народ беларускі выказаўся, — але не гэтулькі ў палітычных клічах і партыйных праграмах, колькі ў песні — вершы, твораных вуснамі сапраўдных сыноў беларускай вёскі: тых жа сярмяжных хлебаробаў, толькі з больш чуткай душой. Так нарадзілася тая *новая* беларуская паэзія і літаратура, прадвеснікаў каторай мы ўжо назвалі.

Мы даем тутака рад кароткіх, толькі згруба напісаных, літаратурна-сацыяльных нарысаў найбольш характэрных навейшых песняроў маладой Беларусі. Сучасныя варункі працы не даюць магчымасці абняць чысленых беларускіх паэтаў і літаратараў, каторыя зусім справядліва заслужваюць на самую сур’ёзную ўвагу, — і выбар тых, а не іншых з іх тлумачыцца толькі бліжэйшым з імі знаёмствам пішучага гэтыя строкі. Характарызуючы іх, мы карысталіся пераважна толькі творамі з перадваеннага часу, бо вайна, бясспорна, павінна адзначыць у іх творчасці асобны перыяд, аб каторым можна будзе гаварыць яшчэ не скора.

***1918***

# СЫМОН РАК-МІХАЙЛОЎСКІ

Публіцыст, педагог, палітычны і грамадскі дзеяч Сымон Рак-Міхайлоўскі нарадзіўся 2 (14) красавіка 1885 года ў вёсцы Максімаўка Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер Маладзечанскі раён). У 1904 годзе скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў у школах Свянцянскага і Вілейскага паветаў. У 1906 годзе за распаўсюджванне забароненай літаратуры быў арыштаваны ў Вілейцы і зняволены на тры месяцы. Ратуючыся ад пераследу ўлад, паехаў у Крым. У Феадосіі скончыў педагагічны інстытут. У 1914–1917 гадах служыў у расійскай арміі, вёў на фронце рэвалюцыйную агітацыю сярод салдат. У 1917 годзе ўступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ). З утварэннем БНР быў членам яе Рады. Актыўную палітычную дзейнасць працягваў і ў Заходняй Беларусі, якая пасля Рыжскай мірнай дамовы 1921 года адышла да Польшчы. У 1922 годзе абраны пaслом на Сойм Польскай Рэспублікі. У 1926 годзе ўступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі (КПЗБ). У 1927 годзе быў арыштаваны польскімі ўладамі, трапіў у турму, з якой быў датэрмінова вызвалены ў 1930 годзе. Каб пазбегнуць новага арышту, у гэтым жа годзе пастановай ЦК КПЗБ быў перапраўлены ў БССР, у Мінск, дзе заняўся асветніцкай дзейнасцю. Але ў 1933 годзе яго арыштавалі органы АДПУ, абвінаваціўшы ў контррэвалюцыйнай і шпіёнскай дзейнасці, і прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання, замененай на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Пакаранне адбываў у Салавецкіх лагерах. А ў 1938 годзе асобай тройкай НКУС БССР С. Рак-Міхайлоўскі быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і 14 лістапада гэтага ж года расстраляны ў Мінску на 54-м годзе жыцця.

Выступаў у друку як публіцыст з 1915 года. Друкаваўся ў газетах «Наша ніва», «Беларусь», «Звон», часопісе «Родны край» і іншых перыядычных выданнях. Аўтар брашуры «Гутарка аб беларускай мове» (1919), «Арыфметычнага задачніка для пачатковых школ» (ч. 2, 1923) і музыкі да «Зоркі Венеры» М. Багдановіча.

## ДА БЕЛАРУСКАЕ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ І ВЯСКОВЫХ ВУЧЫЦЯЛЁЎ

30 верасня будзе скліканы Устаноўчы Сойм (Учредит. Собр.). Туды пойдуць людзі, якіх выберам усе мы 17 верасня. Выбранымі павінны быць такія людзі, каторыя найшчырэй і найразумней будуць стаяць за інтарэсы нашага беларускага народа, найбольш, здаецца, скрыўджанага з усіх нацый Расіі за часы царскага панавання. Мы павінны цяпер жа добра абрадзіць усе пытанні нашага жыцця, нарыхтаваць варункі жаданага нам на месцы ладу і свядома выбіраць толькі тых, хто патрапіць бараніць для нас усё, што мы лічым патрэбным і карысным.

А патрэб у нас, беларусаў, не меней, чым у іншых нацый Расіі, і мы, лічачыся ўжо на парозе да Устаноўчага Сойма, не згаварыліся яшчэ, каб моцна стаяць усім за адно.

Перш-наперш нам патрэбна свая беларуская нацыянальная школа. Ведаю, што некаторыя з маіх таварышаў-вучыцялёў з гэтым не згаджаюцца, але я мыслю і маю крэпкую надзею на тое, што не далей, як праз якіх-небудзь 5–10 гадоў жыцця іх на вольнай ужо Беларусі яны, адкінуўшы той русіфіцыйны тлум, якім шпігавалі нас у семінарыях, выкінуць яго з сваёй галавы і, заняўшыся шчыра гістарычнай мінуласцю нашай перамыванай войнамі і перакіданай з боку на бок старонкі, пераканаюцца, што мы маем права на сваю нацыянальную школу і на культурна-нацыянальную аўтаномію ды нават тэрытарыяльную ў Расійскай, вядома, дэмакратычнай рэспубліцы на грунце федэратыўным.

Мне здаецца, што некаторыя яшчэ з нас, вучыцеляў-беларусаў, толькі таму не далучаюцца да пашырэння беларускага нацыянальнага руху, што не пэўны яшчэ, не маюць веры ў тое, што гэта спраўдзіцца ды ўвойдзе ў жыццё нашай старонкі. Звыкшы лічыцца з апекунамі школы — інспектарамі і з цыркулярамі начальства, мы страцілі частку сваёй волі, мы не пэўны ў саміх сабе, не верым у свае сілы і, маючы дабыты ўжо хлеб, застылі і не рыпаемся з месца, не рупімся падтрымаць здаровую ініцыятыву. Але гэта пяройдзе, гэта мінецца. Я маю веру, што, як даўней чэшскі педагагічны стан, так і нашы, у першую чаргу вясковыя, вучыцелі прымуцца за будову школы ў нацыянальным кірунку. Ад нас у будучыні будзе вымагаць гэтага само жыццё.

Памятаю я тыя споркі, што ішлі паміж намі, вучыцелямі-беларусамі, на з'ездзе ў Мінску ваенных-вучыцеляў заходняга фронту, які прызнаў патрэбным навучанне дзяцей у роднай мове. Мы, беларусы, збіраючыся часам асобна, гаварылі пра справу нацыяналізацыі ў нас школы. І як добра праціўнікаў думкі аб беларускай школе зрэзаў адзін шчыры беларус-вучыцель: «Браткі мае разумненькія! Не тое б вы спявалі цяпер, каб 55 год таму назад у нас былі заведзены беларускія вучыцельскія семінарыі. Але расійскае самадзяржаўе гэтага не рабіла, бо не пад густ яму гэта было, а цяпер вы вот і не можаце адхіліцца ад таго кірунку, якога трымалася казённая школа ў нашай старонцы. Але папомніце маё слова, што новае пакаленне вучыцеляў-беларусаў пойдзе з намі, не цураючыся свайго народа, гонару і мовы, а не з вамі — русіфікатарамі-цэнтралістамі!»



І мне дзіўным здавалася, як гэта тыя русіфікатары забываюць элементарныя правілы педагогікі: ад бліжэйшага к далёкаму, ад знаёмага да незнаёмага, ад лёгкага к цяжкаму, ад простага да складанага і г. д. З якой жа мовы пачынаюць навучанне, калі не з матчынай, у якой мове дзіця лягчэй здолее ўразумець механізм чытання, калі не ў той, на якой яно пачало гаварыць дома? Няўжо ў расійскай (для праваслаўн. беларусаў) ці ў польскай (для каталік. беларусаў) мове лягчэй усё гэта ўцяміць, як у роднай? А калі ў нас у вышэйшых і пачатковых школах і гімназіях няможна адразу завесці навучанне па-беларуску, то гэта ж не бяда! Пакуль не будзе там падручнікаў, дык нельга, ведама, выкладаць усе навукі на нашай мове, але трэба старацца, каб там перш-наперш дасканальна навучалі гісторыі, геаграфіі Беларусі, каб падрастаючае пакаленне ўперад як найлепей пазнавала сваю бацькаўшчыну, каб у сэрцы моладзі запанавала любасць да роднае старонкі, а тады ўжо вучыць іх і пра «Волгу-матушку реку», і пра «красавицу Москву белокаменную», і пра Егіпет, Амерыку і інш. А ў найвышэйшай школе на Беларусі (універсітэце) завесці на першы пачатак кафедру беларускае мовы, гісторыі, геаграфіі, культуры краю і інш.

Няўжо ж вы, вучыцелі народа беларускага, яго дзеці і інтэлігенцыя, адвернецеся ад народа свайго, як колісь выракласся беларускага народа яго баярства? Няўжо ж вы кінеце народ свой на крыжавых дарогах? Няўжо зноў пакінеце сваіх бацькоў без павадыра, як кідалі яго пры царызме рэнегаты-беларусы, крычаўшыя ў прыемных ім варунках: «Мы тоже белорусы». Відаць, што ёсць у нас беларусы і «белорусы». І цяпер, на волі ўжо, а чуваць яшчэ гэта! Няўжо ж вы аддасце панам палякам і ксяндзам-паланізатарам апалячваць да канца нашых несвядомых 3 мільёны каталікоў-беларусаў? Няўжо ж дзеля спакою свайго асабістага нам і надалей лічыцца без

свайго нацыянальнага твару? Дзе ж ваша хвалёная любасць да роднага народа, дзе ж ваша шчырасць, калі не хочаце бачыць, што каталікі-беларусы ў большасці сістэматычна апалячваюцца? Што, вы мысліце, што яны ў вольнай Беларусі пойдуць да вас у расійскую школу? Ніколі. У беларускую, калі яна пойдзе ў кірунку сцісла педагагічным і нацыянальным, яны пойдуць, а ў рускую [маскоўскую] тут, вольную, як і пры самадзяржаўі царскім у казённую, — не, не пойдуць. Няма чаго сказаць, добрая любасць да народа, калі дзеля сваіх русіфікатарскіх мэтаў вы кідаеце на ахвярны алтар гісторыі 3 мільёны беларусаў-каталікоў, якіх тутэйшыя перакінчыкі, папы-палякі спяшаюцца ўжо перапісваць з нейкай таемнаю думкай!

Кіньце спорқі, кіньце сваркі! Хто з вас, браты-вучыцелі, шчыра любіць свой беларускі народ у яго цэльнасці і хто не звязаны, як мы тут у войску, службай, шынялём, — да працы! Арганізуйце гурткі, пішыце беларускія лемантары-буквары, падручнікі, кніжкі для чытання ў школах, складайце гурткамі ці паасобку арыфметычныя задачнікі, падручнікі па гісторыі, геаграфіі, натуразнаўству, хрэстаматыі! На каго ж народ наш можа мець надзею ў выкананні гэтай працы, калі не на вас?

Ведаю, што ў некаторых з вас можа з'явіцца думка, што гэтая праца — нацыяналізацыя школы, культурная і тэрытарыяльная аўтаномія, — вядзе да разлучэння, дзяліцьбы народаў, а не да братэрства; што гэта не мірыцца з сусветным лозунгам яднання працоўнай бядноты ўсіх краёў.

Папрабуем разгледзець усё гэта.

Мы кажам, што наш і расійскі селянін або рабочы разам павінны падаць руку такому ж самаму працаўніку армянскаму, французскаму, амерыканскаму ці іншаму, клічам працаўнікоў усіх краёў злучацца дзеля агульнае барацьбы за лепшую будучыню, каб усім лепш жылося, каб скасаваць уласнасць на зямлю, на фабрыкі, заводы, машыны і на ўсе прылады, каб не было панавання тых, хто, не працуючы сам, жыве на чужую нанятую працу. Таму мы і клічам да братэрства і яднання ўсіх працаўнікоў. Але гэта не значыць, што не павінна быць асобных нацый, што ўсе павінны гаварыць адной мовай. Гэта нельга, дый такой мовы няма на свеце. Кожны з нас пачувае сябе бліжэй к свайму народу, думае ў роднай мове, спачывае душою, калі прыязджае ў сваю старонку.

Царскі ўрад усімі дзяржаўнымі інстытуцыямі застаўляў усе народы Расіі рабіцца рускімі [маскоўцамі], і ад гэтага болей усяго цярпеў працавіты люд. Некаторыя аддзельныя людзі і рабіліся



«рускімі», і часта былі людзьмі пачэснымі: рэвалюцыянерамі, барцамі за агульнае шчасце, — але ад свайго народа яны адрываліся, і яму не было дзе вучыцца, не было чаго чытаць, і ён гінуў у цемры.

Мы хочам дабра не для якой жмені такіх людзей, а для ўсяго народа; хочам, каб усе маглі жыць поўным, добрым жыццём, жыццём шчаслівым, каб ведалі, чаго ім трэба і за што яны змагаюцца, што любіць і што ненавідзець. Тут ужо лічыцца дарагім, цэнным кожны чалавек з народа, кожны індывідуум, і мы — вучыцелі з народа — павінны змагацца, каб кожнай асобе людской адчыніць шырокую браму, вывесці на роўны і шырокі шлях да ўсяго, чым можа быць аквечана шчаслівае жыццё чалавека і ўсяго народа. Дагэтуль цяжар працы несла на сабе ўся бедната, усе працаўнікі паднявольныя, а малая жменька шчасліўцаў вяла палітыку, чытала і пісала кнігі, займалася навукай, штукарствам, — адным словам, усім тым, што завецца культурай. А мы хочымо, каб культура была народная, даступная і аднакава дарага ўсім.

Вось чаму я і клічу вас усіх, таварышы-вучыцелі, што засталіся дома, шырыць паміж народа нашага думку нацыянальнага самаўсведамлення, уводзіць у жыццё навучанне ў роднай мове і весці на выбарах да Устаноўчага Сойма пытанне аб тэрытарыяльнай і культурна-нацыянальнай аўтаноміях ці хоць бы аб шырокім мясцовым самапарадкаванні. [...]

Нашы выбарныя да Устаноўчага Сойма павінны дамагацца для Беларусі аўтаноміі і тэрытарыяльнай, бо ў гэтым ёсць для нас вялікая выгода. Па статыстыцы 1887 г., патрабуючых зямлі, надзелаў і прырэзак на Маскоўшчыне лічыцца ад 40% да 60% народа, на Украіне — да 55–61%, а ў нас на Беларусі ўсяго 1%. Ёсць вядома, што тут, у абшары нашай зямлі, залічаны ўсе лясы, балоты і пяскі, але я мыслю, што з падняццем культуры мы будзем мець добры прыбытак і з такой зямлі, якая цяпер лічыцца нягоднай. Але вышэйпаказаны рахунак не ад таго выйшаў. Увесь сэнс тутака ў тым, што на абшарах Беларусі надта многа дворнай зямлі, якая павінна быць таго, хто сваёй уласнай, а не парабецкай працай будзе на ёй касіць, гараць, сеяць. Зямлі, прылучанай да нашых палеткаў, з нас, беларусаў, хваціць. А што без ніякага выкупу павінна яна дастацца нам, тут не можа быць і гутаркі. Яна спрадвеку аблівалася нашым вясковым, нашых дзядоў і прадзедаў, потам, і крапілася нашай, беларускай, крывёй. Мы, беларусы, ужо добра, занадта добра, заплацілі за яе, і яна не

можа быць не наша, яна павінна належаць да таго народа, які на ёй здавён-даўна працаваў і працуе.

Узвесяліся ж, родная зямелька! Ты, абвяваная спрадвеку на ўсім сваім абшары смутнай, гаротнай песняй беларускай, — вясновай, купальскай, жніўнай, асенняй, якая ляцела з грудзёў прыгнечанага люду, люду пакутніка-найміта на сваёй уласнай зямельцы, якая папала ў рукі захватчыкаў і багачоў, — цяпер ты пачуеш тыя ж нашы адвечныя песні, але ўжо з вуснаў вольнага беларуса, яго жонкі і дачкі, пачуеш вольную песню ўладара гэтай зямліцы, твайго спрадвечнага гаспадара! Ён, радасны, да тых сумных, калісь-то, матываў дабавіць неўзабаве новыя ноты, зыкі радасці і шчасця! Цешся, зямелька, родная Маці-Беларусь!

Ты з многавяковага палону вяртаешся маладзіцай да свайго закаханага ў цябе гаспадара...

***1917***

## АБ БЕЛАРУСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

У 1903 годзе Віленская езуіцкая акадэмія была перароблена на універсітэт[1] Было гэта яшчэ за паншчынай, і аб яе скасаванні нікому яшчэ і не думалася. Вучыцца ў гэтым універсітэце маглі вольныя і багатыя людзі, якімі былі тады паны. Паны былі палякамі, і універсітэт, напоўніўшыся іх сынкамі, напоўніўся і польскім духам. Падзел Польшчы быў яшчэ свежы ў памяці палякаў, і яны толькі і думалі аб тым, каб як выбіцца з-пад чужога панавання. Калі надзеі на Напалеона не спраўдзіліся, палякі пачалі гатавацца да паўстання проціў Расіі. У падгатоўцы паўстання важную ролю адыграў Віленскі універсітэт. Пасля таго як паўстанне 1831 года было задушана, пачалі нішчыць «гнёзды мяцежнага руху». А такім гняздом быў і Віленскі універсітэт. Цар Мікалай Першы не знайшоў другога ратунку, як толькі зачыніць яго, і універсітэт быў зачынены. Край наш застаўся без сваёй вышэйшай школы.

Пасля скасавання паншчыны дзверы вышэйшай школы адчыніліся і для дзяцей працоўнага народа. У Расіі яны маглі карыстаць з гэтага права, бо універсітэты былі недалёка, па сваіх расійскіх гарадах. Не тое было ў нашым баку. У нашых гарадах універсітэтаў не было, і хто хацеў вучыцца, скажам, за доктара, той мусіў ехаць далёка па-за межы краю, да зусім чужога горада, дзе ён не мог спадзявацца знайсці сваякоў, не мог спадзявацца на чыю-небудзь падмогу. Рабіць так маглі толькі багатыя людзі,



паны. І выходзіла так, што скасаванне паншчыны прынесла нашаму народу мала змен у справе асветы. Як і за паншчынай, навуку даставалі толькі панскія сынкі, а народ гібеў у сваёй адвечнай цемнаце.

Лепшыя людзі нашага краю ведалі канечную яго патрэбу мець хоць адну вышэйшую школу і не раз прасілі царскі ўрад адчыніць у нас універсітэт. Нашы гарады, як Мінск, Вільня, Віцебск і Магілёў, не раз высылалі да Піцера просьбы і дэлегацыі. Каб урад не мог адгаварыцца недахватам грошай, нашы земствы і гарады бралі на сябе частку коштаў. Але дарэмныя былі ўсе просьбы: цар і яго прыслужнікі нібыта вушэй не мелі. Спачатку яны баяліся, каб універсітэт у нашым краі не стаўся гэткім польскім гняздом, якім быў Віленскі універсітэт. Пасля, як беларускі народ пачаў будзіцца да лепшага жыцця, — ворагі народа, расійскія чарнасоценцы, даводзілі цару, што універсітэт на Беларусі станецца гняздом беларускага «сепаратызму», беларускага мазепства[2], што калі даць беларускаму народу вышэйшую школу, дык ён пачне дамагацца аддзялення ад Расіі.

Але надышоў час, і цар зляцеў з царства. Настала панаванне Часовага ўрада. І да яго звярнуліся беларусы і атрымалі гэткі ж самы адказ; Часовы ўрад адмовіўся даць Беларусі універсітэт. Мінск і Віцебск былі вінны, што надта блізка ад фронту, ну а Магілёў — надта маленькі горад, каб мець універсітэт, ён не варты гэткага гонару.

Але надышоў час, і Часовы ўрад паследаваў за царскім: работнікі і салдаты скінулі яго. Насталі часы Савецкага ўрада. Звярнуцца да яго з просьбаю аб універсітэце беларускім перашкодзіла заняцце Мінска немцамі. У забраным горадзе пад аховаю нямецкага войска жыла і працавала так званая Беларуская Рада[3]. Яна стварыла асобую камісію пад кіраўніцтвам акадэміка Карскага і прафесара Доўнар-Запольскага і даручыла гэтай камісіі апрацаваць пытанне аб адчыненні ў Мінску універсітэта. Не паспела камісія скончыць сваёй працы, як Беларускай Радзе прыйшлося ўцякаць з Мінска. Мінск зноў вярнуўся да савецкай Расіі. Што сталася з камісіяй акад. Карскага, нам пакуль што невядома. Трэба паклапаціцца, каб яе праца не прапала дарма. Беларускі камісарыят і Беларуская секцыя РКП павінны выслаць свайго прадстаўніка ў Мінск, каб выясніць, што сталася з камісіяй, і зноў наладзіць яе працу. Адначасна з гэтым трэба звярнуцца да Саўнаркама і ў Камісарыят народнай асветы, каб дастаць грошы на арганізаванне беларускага універсітэта. Ура! У нас цяпер не царскі і не панскі, а работніцка-сялянскі

ўрад, — значыць, можна быць пэўным, што просьба будзе споўнена. Даючы грошы на арганізаванне вышэйшых школ немаль[4] у кожным губернскім горадзе, ён павінен даць грошы і на беларускі універсітэт. Адчыніцца свет вышэйшае навукі і беларускаму працоўнаму народу, і разам з іншымі народамі ён цвёрдым крокам пойдзе да будовы лепшае будучыні як сабе, так і ўсёй Расіі, і ўсяму свету.

***1919***

# ФАБІЯН ШАНТЫР

Пісьменнік, рэвалюцыйны і грамадска-дзяржаўны дзеяч Фабіян Шантыр нарадзіўся 23 студзеня (4 лютага) 1887 года ў Слуцку ў сям'і рабочага-муляра. Пасля школы сам працаваў мулярам і з юнацкіх гадоў далучыўся да рэвалюцыйнага руху, за што быў арыштаваны царскімі ўладамі і два гады сядзеў у слуцкай турме (1905–1907). Пасля вызвалення жыў у Слуцку, Капылі, працаваў настаўнікам (1908–1910).

З 1914 года — у царскай арміі, служыў наглядчыкам палявога шпіталя ў Бабруйску. У 1916–1917 гадах прымаў удзел у рабоце клуба «Беларуская хатка» ў Мінску, куды прыязджаў з Бабруйска. У 1917 годзе быў абраны старшынёй Бабруйскага камітэта Беларускай сацыялістычнай грамады, стаў адным з лідэраў яе левага крыла. У гэты перыяд Ф. Шантыр актыўна ўдзельнічае ў беларускім нацыянальным руху. На з'едзе беларускіх нацыянальных арганізацый у сакавіку 1917 года быў абраны ў Беларускі нацыянальны камітэт, а ў ліпені — у Цэнтральную раду беларускіх арганізацый і партый, выступаў з прамовай на Першым Усебеларускім з'ездзе (снежань 1917). Быў стваральнікам культурна-асветніцкай арганізацыі вучнёўскай моладзі ў Слуцку «Папараць-кветка» (1918). Працаваў у Слуцкім павятовым камісарыяце. У час нямецкай, а потым польскай акупацыі Беларусі апынуўся ў Смаленску. Быў прызначаны загадчыкам Смаленскага аддзялення Белнацкама. У 1919 годзе з утварэннем Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі разам з З. Жылуновічам, А. Чарвяковым і Я. Дылам уваходзіў у яго склад як камісар па нацыянальных справах. Быў супрацоўнікам Мінскага губернскага ваеннага камісарыята і Асобай харчовай камісіі Заходняга фронту. У 1919–1920 гады разам з А. Чарвяковым і В. Кнорыным уваходзіў у Беларускую рэдакцыйную калегію ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, удзельнічаў у выданні першых нумароў газеты «Савецкая Беларусь».

Друкавацца Ф. Шантыр пачаў у «Нашай ніве», дзе ў 1909–1910 гадах змяшчаў празаічныя абразкі-імпрэсіі «Захар», «Ноч», «У вёсцы», «Смерць убогага», «Пад шум лесу», «У вялікі дзень», прысвечаныя жыццю працоўнага селяніна. Там жа, а таксама ў «Дзянніцы» апублікаваў некалькі паэтычных твораў («Да думак», «Санет», «У час барацьбы»). Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Зажынкі» (Масква, 1918), у якім былі змешчаны яго вершаваныя апавяданні-імпрэсіі «Родны край» і «Святы Божа». Пытанні росту нацыянальнай свядомасці

беларускага народа былі вядучымі ў публіцыстыцы Ф. Шантыра. Першыя яго артыкулы з'явіліся ў рукапісных часопісах «Заря» і «Голос низа» (Капыль, 1910–1911) пад псеўданімамі А. Святлоў і А. Хмара. Затым публіцыстычныя творы Ф. Шантыра рэгулярна друкаваліся ў «Дзянніцы». Праблемы нацыянальнага жыцця ён распрацоўваў у сваіх публічных лекцыях, адна з якіх, «Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэння народа», выйшла асобным выданнем (Слуцк, 1918). Да ліку яго значных публіцыстычных прац адносіцца і рукапіснае «Беларускае пытанне» (1918). Пераклаў на беларускую мову брашуру В. Лібкнехта «Павукі і мухі» (Смаленск, 1920). Рукапісная спадчына Ф. Шантыра зберагаецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы (апавяданні «Парахункі», «К волі»), БДАМЛіМ, у архіве яго жонкі беларускай пісьменніцы Зоські Верас. Частка рукапіснай спадчыны пісьменніка атрымана ў 1923 годзе Ц. Гартным у Слуцку ад яго сястры («Полымя», 1923. № 5–6, с. 62), аднак далейшы яе лёс невядомы.

Разгарнуцца таленту Ф. Шантыра бальшавікі-інтэрнацыяналісты на далі. Абвінаваціўшы яго ў контррэвалюцыі, у лютым 1920 года расстралялі ў Новазыбкаве на 36-м годзе жыцця. З беларускіх пісьменнікаў гэта была першая ахвяра бальшавіцкага тэрору.

## У ВЁСЦЫ

*Апавяданне*

*«Нашай ніве» ў трохлетні юбілей яе жыцця пасвяшчаю*

Вячэра бадай ужо стаяла на стале, а Ігната ўсё яшчэ не было з горада. «Дровы павёз ён заранне, пара б яму ўжо і вярнуцца», — думаў дзед, лежачы на печы. Маладзіца ўсё ўглядалася ў малое ваконца, што выходзіла на вуліцу, але не магла ўбачыць. Чорная асенная ноч закрыла сабой усё.

Трое дзетак прыкуцнулі на палу і чакалі таткі, бо казаў, што прывязе гасцінца. У хаце было цёпла і светла. На лучніку, што як звон вісеў сярод хаты, весела трэшчучы, гарэлі смалякі, а па жоўтых дзераўляных сценах бегалі цянёвыя зайчыкі. Усё было на сваім месцы. Глянуўшы вакол, адразу можна было пазнаць, што тут гаспадараць людзі, што любяць і ўмеюць працаваць і жывуць у згодзе.

— Навін у горадзе нема ніякіх, але для нас навіны, дый навіны надта вялікія вось у гэтым, — адказаў Ігнат і працягнуў Янку прывезеныя з горада кніжачкі.

— У гэтым? — здзівіўся Янка, але кніжку ўзяў і пачаў чытаць, а Ігнат з чуць прыкладным усмехам паглядаў на яго.



— Дык гэта ж па-простаму? — з здзіўленнем і неразуменнем спытаў ён гаспадара, і яго задзіў, як маланка, абляцеў хату і пакрыў твары ўсіх седзячых там апроч Ігната.

Дзед падняўся з лаўкі.

— Га! Чы ж не пара ўжо пакінуць жартаваць з нашай горкай долі!

Стаяў ля вакна і паглядаў у процьму чорнай ночы, як бы ў яе пытаючыся якогась адказу.

— Не, татку, гэта не жарты, — цвёрда, як бы выкоўваючы кожнае слова, сказаў Ігнат. — Гэта кніжкі ў нашай роднай мове, а вось і газета, таксама напісаная. Яна дбае аб нас і стаіць за нас.

Ён пазбіраў усе кніжкі са стала і сеў на зэдліку каля лучніка, і ўсе падсунуліся да яго, толькі стары дзед не пакідаў свайго месца.

Ігнат пачаў чытаць. Гладкія пекныя словы ў роднай мове, як тыя птушкі, зляталі з аддрукаванай паперы, круціліся ў мужычай хаце і звівалі сабе гнёзды ў цвёрдых мужыцкіх думках, што доўгай шэрай ніткай снаваліся ў іх галовах. Пахмурныя, пакрытыя зморшчкамі твары разгладжваліся, святлелі, рабіліся нібы дзіцячымі. З кожным словам яны рабіліся ўсё больш мяккімі. Здавалася, хацелі гэтыя людзі злавіць у рукі кожнае слова і моцна прытуліць яго да сваіх грудзей, бо было яно роднае, шмат маладых надзей будзіла ў збалелых душах.

Ціха ў хаце. Усе слухаюць уважна. Нават дзед з лаўкі пільна ўслухваецца. Весела трашчаць смалякі ў лучніку. Роўным голасам чытае гаспадар цікавыя песні. Кругом сур'ёзныя апушчаныя галовы. За вакном плача вецер, бубніць аб шкло дробны асенні дождж.

*Слуцк, 1909*

## СВЯТЫ БОЖА

*Апавяданне*

### I

Дажджлівы, імглісты, з рэзкім паўночным халодным ветрам, спускаўся над убогай вёскаю асенні вечар. Як хаўтурная шырокая чорная апона, распасцёртая нявіднаю рукою, апускаўся хутка на шэрыя, непачэсныя сялібы сялян-хлебаробаў змрок. Яны ахісталіся ў яго цёмныя жалобныя цені і недзе знікалі. Змрок гусцеў і паглынаў усё ў сваёй таемнай, непраглядңай пропасці.

Сям-там засвяціўся рад слабых аганькоў; задрыжэлі, забіліся яны ў малюпаценькіх ваконцах, як кволыя, бяссільныя думкі іх уласціцеляў...

### II

Нудна гарыць лучына, уваткнутая ў светач, у хаце Сымона. Парнее тухла-сырое паветра, паднятае з вільготнай, нічым не прыкрытай зямлі, змяшанае з едкім дымам лучыны, алавянаю хмарай калышацца ўгары. Маркотна гарыць аганёк лучыны; дрыжыць быццам ахоплены вялікім страхам; пакрыквае, нібы штось сумнае апавядае. Часамі ён разгараецца з усей сілай, як бы хочучы разагнаць пануючы ў хаце алавяны змрок, але, слабы, ізноў ападае, ізноў ціха, маркотна мігаціць і вядзе далей сваю няскончаную сумную казку.

Рассеўся змрок па кутках хаты ды пільнуе адтуль вачыма ўпуду, калі згасне свет, каб паўнаўласна запанаваць самому.

### III

Сядзіць Сымон на лаве, каля стала; апусціў безуладныя свае рукі ўніз, схіліў на грудзі сваю лахматую галаву, як бы яна не магла вытрымаць цяжару нахлынуўшых думак, і аслупелымі вачыма глядзеў на сырую чорную зямлю свае хаты, нібы дзівуючыся, што ён жыве на ёй.

У куце, на лаве, засланай абрусам, ляжыць пакойнік.

То цела апошняга Сымонавага сынка, што памёр ад «балотнай хваробы». Бязлітасная — гэтая невядомая балотная хвароба! Чатыры разы прыходзіла яна ў хату Сымона і аставіла па сабе



чатыры страшэнныя сляды ў яго мужычым сэрцы, чатыры раны, высмаленыя распаленым жалезам, — чатыры Сымонавы сыны яна вынесла на магілкі. Цяпер забрала апошняга, а з ім — і рэшту надзеі на будучыню і рэшту надзеі вызваліцца калі-небудзь з мёртвага бяздолля з маладою сілаю. Парвала, бязлітасна стаптала вянок тых небагатых дум, што віў і песціў у сваёй галаве Сымон. Згасіла той аганёк, што дзесь, у канцы бездарожнай пуціны Сымонавага жыцця свяціўся кволай надзеяй неакрэсленай будучыні, да каторай ён з такою труднасцю ішоў, падаў, ідучы, ды зноў ішоў і ля каторай меў калісьці абагрэць сваю пашматаную старэчую душу...

Усё забрала страшная хвароба! Сядзіць Сымоніха каля свайго сына і, прычытаючы і галосячы, зрошвае яго цела слязьмі. Ля печы, на прымурку, сядзіць стагодняя бабуля і сухім магільным голасам шапоча малітву: «О-отчэ наш... о-отчэ наш...» і так без канца, як непрытомная. Відаць, бабуля ад старасці забылася маліцца, а можа, столькі і знала. Часамі бабуля падымае голаў, каторая дрыжыць, як асінавы ліст, і белымі вачыма блудка водзіць па кутках хаты, нібы чаго шукаючы, што даўно згубіла.

— Не ўзро-ос! не ад-мя-ніў бацька-вых ру-ук! — галосіць Сымоніха; бабуля, у такт яе прычытанняў,ківае галавою і шапаціць-шапаціць, як сухі пажоўклы ліст, сваю старую малітву.

З мікалаеўскіх інвалідаў царкоўны дзед сядзіць на зэдлі каля лучыны і вучнёвым голасам чытае псалтыр.

Сіратліва і бяздольна ў хаце Сымона. Няма ў яго радні, а чужым — што да яго гора, калі гэтае гора звязана з «балотнаю хваробаю»? Не памагаюць Сымонісе кумкі і свахны прычытаць над пакойнікам, — адна яна ўбіваецца і стогне. Сядзіць Сымон скамянелы: не плача, не прычытае над родным дзіцем сваім. Глядзіць толькі на твар змарлага, на маленькі тварык свайго сына, — пасінеўшы і пакрыты жаўцізною. І здаецца яму, што гэта не пакойнік, а яго, Сымонаў, твар, воблік яго душы, яго мізэрнага чалавечага «я», раскрыжаванага пакутаю жыцця.

Страшны крык болю вырастае ў сэрцы Сымона — рвецца на двор, але, здушаны горам, канае ў сударгах на дне яго душы. Рука божага гневу павісла над Сымонам і парвала, паблытала шэрыя ніці яго жыцця...

«За што?!» — крычыць яго сэрца, і словы праклёнаў небу гарадь у распламянёных агнём цярпення грудзях.

— Вялікае гора маё, вялікае! Божа, Божа! — шэпчуць пакорна вусны, а ў вачах загараецца страшная злосць уміраючага ад

ран дзікага звера і паглынае ў сабе пакорлівасць і бязвольную анямеласць.

«Вялікае гора! Вялікая крыўда!.. Крыўда!» — крычыць і задыхаецца злосць. Вусны просяць благання, а праклёны рвуць душу і даўлюць горла.

Як завіруха ў зімнюю поўнач, вые, плача і б’ецца Сымоніха. Шапаціць бабуля сваю малітву; як капля са страхі ў дажджлівы дзень, падаюць у ціш адны і тыя ж словы і, як уваскрэслыя беспрытульныя душы, блудзяць у старой скрыўленай хаціне. Царкоўны дзед выгнявіць і туга цягне словы з псалтыра, нібы яны там прырасл і. І здаецца, няма гэтаму свету, што адклікаецца ўжо магілаю, ні пачатку, ні канца.

## IV

Заскрыпела закрутка ў вушаку; заенчылі дзверы і са скрыпам адчыніліся. У хату ўвайшоў тоўсты, з тлустым, адутлаватым, тупым тварам поп, а за ім худы, рыжы, жаўжакаваты дзяк. Увайшоўшы, поп стаў адзяваць рызу. Дзяк запаліў сернік і, скоса паглядаючы то на сядзячага і нерухомага гаспадара, то на папа, пачаў старанна распальваць у лятарні свечку. Царкоўны дзед змоўк, пераксціўся, спаважна пацалаваў псалтыр ды, згарнуўшы яго, засунуў за пазуху; потым падышоў з крыжам да дзвярэй і, як салдат на варце, стаў з ім, выцягнуўшыся ў струнку.

«Бяры дамавіну!» — звярнуўся поп да гаспадара і, з задышкай запяяўшы, пайшоў на двор. Наперад яму забягаючы, паспяшыў і дзячок з лятарняй.

Пайшлі... Уперадзе ішоў з крыжам дзед і сваімі салдацкімі чабатамі адважна мераў у цемнаце лужыны вуліцы. Хрыпатым, адрывістым, глухім голасам падцягаў ён за дзяком словы святой песні; часта прарываў і моцна кашляў. За ім ішоў дзяк і, тонкім кабечым голасам спяваючы, услужліва асвячаў дарогу папу.

Ззаду за ўсімі, акружаны змрокам, ішоў Сымон і нёс на плячы дамавіну з сынам.

За імі ў цемры ночы асталася крывая хаціна, што глядзела ўслед ім сваімі малымі прыслепаватымі ваконцамі, а на парозе яе, упаўшы на калені, з заломанымі і выцягнутымі ўперад рукамі, абамлелая ад енку, слабая і хворая Сымоніха. Вецер з дажджом хлістаў ёй у твар, рваў распушчаныя валасы, але яна была ўся скамянелая і нерухомая. Дзікі яе ўзрок зліўся з цемраю ночы і нік дзесь удалі. Чорны і мглісты змрок полагам звіс над зямлёю і крапіў дробнымі, частымі слядамі. Ішла, чуць асвечаная, хаўтурная працэсія, змрок поўз за ёю і не пераставаў плакаць. Здавалася, што там, у чорнай высі, нехта зжаліўся над горам чалавека і праліваў слёзы.



Падышлі к могілкам.

[...] дзесь глуха прастагнаў звон ды змоўк. Падышлі проста к яме. Сымон паставіў на кучу свежага пяску з краю ямы і стаў каля дамавіны на калені. Хутка, пераганяючы адзін другога, запяялі поп з дзяком.

— Ве-ечна-ая памяць. Вечная... памяць! — адрываючы, скончылі і змоўклі. Пачакалі, паглядзелі на Сымона, што, як аблуканы, усё стаяў на каленях і ўслупіўся ўзрокам у дамавіну, і пайшлі. За імі паплёўся і дзед...

# ПАТРЭБНАСЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЖЫЦЦЯ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ І САМААДЗНАЧЭННЯ НАРОДА

*Раздзелы з кнігі*

## I

Як ні горка і ні смешна, калі мы пачынаем гаварыць аб адраджэнні беларускага народа, аб патрэбе для яго нацыянальнага і палітычнага жыцця, нам задаюць пытанне, чы мы, беларусы, у сыпраўдзі ёсць жывы народ, чы не маем мы замеру стварыць нейкую штучную нацыю і штучнае палітычнае ўладарства? Хоць кожны добра ведае, што нацыя — гэта не прадукт творчасці чалавечай, а прадукт творчасці прыроды, што штучнымі ані мову, ані псіхафізічны тып чалавека ніхто не можа стварыць і што нармальнае палітычнае ўладарства можа быць толькі там, дзе ёсць аднародная маса па сваім бытавым, культурным і грамадзянскім укладзе, — але, відаць, наша, беларусаў, доля такая, што калі гутарка ідзе аб тым, чы мае права беларус жыць, то ўсе законы ідуць «шыварат-навыварат».

У кароткіх рысах прагледзьма той грунт шляху, па каторым ідзе адраджэнне і самаадзначэнне беларускага народа , можа, не толькі дадзім адказ «прыяцелям» і ворагам нашым, што без упынку цвярдзяць нам «мэмэнто моры», але хоць крышку кінем свету і тым нашым братам, што яшчэ дасюль бродзяць у цемры несвядомасці і цемнатою сваёю памагаюць злыдням і дэгенератам капаць магілу Бацькаўшчыне...

Найперш разгледзьма тыя асновы, каторыя сцвердзяць нам, што беларускі народ — гэта як нацыя жывы індывідуальны тып, а не штось выдуманае.

II

Ітак, кожны народ, кіруючыся к палітычнаму самаадзначэнню, мае сваё імя, сваё гістарычна-палітычнае прошлае, сваю мову, абычай і ў большай часці пануючую веру; усе гэтыя кардынальныя стораны быту мае і беларускі народ.

Разгледзьма іх па парадку.

III

Мінаючы наша ўласнае імя «беларусы», аб уласнасці нашай каторага няма ніякай спрэчкі і каторае мы спатыкаем у пісьмёнах гісторыі ўжо ў XII і XIII вяках, — мы пяройдзем адразу к прагляду нашага гістарычна-палітычнага прошлага.

Хоць нацыянальнае жыццё часамі ідзе незалежна ад жыцця палітычнага, але падобная з’явіска зусім ненармальная, — аб шкоднасці яе мы скажам ніжэй, — усё ж у першапачатку свайго быту кожны народ меў сваю палітычную самаўладнасць, што і было важнымі, фундаментальнымі варункамі нацыянальнага, т. б. культурна-паступовага развіцця данага народа.

Гістарычна-палітычнае прошлае беларускага народа настолькі багата, што памры беларускі народ цяпер як нацыя, па ім астаўся б такі вялізарны памятнік, цень каторага яшчэ многа вякоў гаварыла б аб сабе. Цяпер жа, калі мы пачалі прабуджацца, памятнік прошлага будзе для нас нашым лепшым сведкам на права народа на самаадзначэнне.

Колькі слоў аб гэтым прошлым.

У глыбіні вякоў, у незапомныя часы нашы прашчуры пасяліліся на сумнай роднай нашай зямлі, дзе жывем цяпер мы, 10-мільённы беларускі народ. Прыйшлі яны на гэту зямлю з-над Дуная асобным племенем, раней за другія славянскія плямёны, у які час, гісторыя пакуль што не ўстанавіла. На зары ж палітычнага быту, т[о] б[ок] у той час, калі людская памяць магла быць пасведчана пісьмёнамі гісторыкаў, мы спатыкаем наш народ на досыць паднятай мэце грамадзянскага і эканамічнага развіцця ў зраўнанні з акружаўшымі яго народамі.



Народ наш у гэты час амаль увесь называўся адным іменем крывіцкага; пазней у яго ўлілося племя славянскае дрыгавіцкае, што жыло ад яго на паўднёвым захадзе. Палітычным цэнтрам крывіцкага племені быў Полацк. Гэта была мітраполія ўсёй тагачаснай зямлі беларускай. А зямля беларуская спатыкае гісторыю, разлажыўшыся: з поўдня на поўнач — ад ракі Прыпяці да Балтыйскага мора і з усходу на захад — ад Дняпра да вярхоўя Заходняга Буга і да канца Нёмана. Усю гэту абшырную тэрыторыю займаў не адзін толькі наш народ: у адным месцы ён суседзіў з другімі плямёнамі, а ў другім — уваходзіў у сярэдзіну іх як каланізатар і адбудоўваў цэнтры гандлёвага жыцця, т. б. гарады. Наш народ у дагістарычныя часы і ў пачатку гісторыі ў большай частцы сутыкаўся ў жыцці з дзікімі не славянскага выхаду плямёнамі, як то: ятвяжскімі, літоўскімі, латышскімі і другімі. З аднымі з іх (ятвяжскімі) ён вёў безупынную барацьбу, а з другімі (літоўскімі) — радніўся, уплываў на іх сілай сваёй тагачаснай цывілізацыі і рабіў іх шчырымі абаронцамі свайго краю і раўнапраўнымі грамадзянамі сваіх вечаў.

Пакуль уся кіраўніцкая сіла палітычнага жыцця выходзіла з аднаго цэнтра Полацка і пакуль ступень развіцця другіх народаў была ніжэй ад крывіцкага, тэрыторыя Беларускага ўладарства шырылася і багацела. З ростам жа тагачаснай цывілізацыі ў суседніх народаў, што знаходзіліся пад палітычным і эканамічным уладарствам беларусаў (крывічан), а таксама з ростам другіх гандлёвых і палітычных цэнтраў на акраінах беларускай тэрыторыі, гэтыя акраіны адрываліся ад цэнтра, сваёй мітраполіі, станавіліся самаўладнымі і незалежнымі. І чым больш яны станавіліся незалежнымі ад мітраполіі, тым больш іх эканамічныя інтарэсы ішлі ў спрэчкі з цэнтрам і тым больш нарастала барацьба акраін і цэнтра, каторы ніяк не мог забыць аб тым багацці, якое яму давалі акраіны. Гэтыя змаганне і барацьба памагалі пераходу палітычнай улады ад вечаў к князям, каторыя да эканамічнай барацьбы самастойных частак беларускай зямлі далучалі яшчэ і свае дынастычныя інтарэсы.

Гістарычны фактар — умацаванне княжай улады над народам — згубіў беларускі народ. Аслабленая барацьбой асобных сваіх княстваў, беларуская зямля ўсё больш і больш слабела эканамічна, а з гэтым і палітычна. Эканамічная барацьба акраін і цэнтра ўступіла месца дынастычнай барацьбе князёў. Дамавыя сваркі князёў, якія канчаліся ў большай частцы самамардаваннямі і пагромамі адным княствам другога, давялі хутка беларускую зямлю да ўпадку. Зруйнаваная міжусобіцамі

дзесяткаў сваіх уладароў, беларуская зямля, зусім аслабеўшая, не магла бараніцца ад нападу другіх народаў. Першыя вякі гісторыі нам прыносяць крывавыя змаганні беларусаў з немцамі, каторыя ўсё больш і больш загарталі пад сваю ўладу Прусы і Летголы і адцяснялі беларусаў ад Балтыйскага мора. Ледзь кончылася гэта барацьба, як узгарэлася барацьба з паўднёвымі славянскімі плямёнамі, каторыя вялі таксама заборчую вайну. Вайна з гэтымі апошнімі цягнецца на працягу колькі вякоў. Але вось канец гэтай крывавай барацьбе палажыў новы гістарычны фактар.

У той час, як беларусы нязмерна расшырылі сваю зямлю і, падзяліўшыся на малыя асобныя княствы, пайшлі на звод, у гэты час узрос побач і ў нашай зямлі да тагачаснай цывілізацыі літоўскі народ.

Падзвіжныя, успрыімчывыя, энергічныя літвіны, вызваныя нашым народам, — каторы ў незапомныя часы каланізатарскімі варункамі змяшаўся з імі і аснаваў у іх зямлі ўсе пункты гарадскога жыцця, — да жыцця палітычнага з лясоў, дзе яны вялі паўгаспадарчы-паўкачавы вобраз жыцця, скора зраўнаваліся з сваімі ручыцелямі і, карыстаючы з іх упадку і бязладдзя, пачалі іх загортваць пад сваю ўладу.

Жывучы разам у мешаніне з нашым народам, літоўцы[1] пераймалі ад яго мову, абычай, парадак самаўладства, і, калі Полацкая зямля стаяла на ўпадку, гэта не была ў цэлым уся Полацкая зямля, бо тая яе частка, дзе крывічы былі змешаны з Літвою, расла і ўзмацнялася, хоць гэта ўсё рабілася пад імем Літвы. Літва, чы, праўдзівей, супольнае Беларуска-Літоўскае княства, хутка стала загортваць пад сваю ўладнасць быўшую сваю мітраполію Полацк і выдзеленыя з яго княствы. У гэтым яно не знаходзіла нават сабе апоры, бо народ, каторы гібеў і руйнаваўся ад частых звад сваіх князёў, рад быў адпачыць і пажыць спакойна пад уладнасцю моцнага апекуна. Ды і ў скутку гэта не было праўдзівае заваяванне адным народам другога, а скарэй была перамена дынастый князёў адной на другую. Уліўшы ў сябе аграмадную моц крывіцкага народа, тады, як і так яно было напалавіну разбаўлена, а мо і болей крывіцкім народам, Літоўскае княства стала зусім крывіцкім, лічы Беларускім.

Ад гэтых часоў пачынаецца гісторыя супольнага жыцця беларуска-літоўскага народа не толькі ў прываце, як было дасюль, але ў гісторыі і палітыцы. Літоўскі народ, спакойны, закаханы ў свае пушчы, усё больш і больш падпадаў пад уплыў сваіх сяброў-крывічоў, палюбіў іх і жыў з імі ў вялікай згодзе праз увесь час гісторыі. Ды і не дзіў, што пры большасці беларускага



народа, пры яго высшай цывілізацыі і перавазе ў Беларуска-Літоўскім княстве мова, уладарства і ўся афіцыйная старана жыцця былі беларускія. Гэта быў адзін з лепшых перыядаў развіцця беларускай культуры. Беларуская літаратура, якая стаяла ў той час на больш высокай ступені развіцця, чым другія, была перадавым кіраўніком; беларуская юрысдыкцыя магла па прастаце сваіх знакамітых статутаў, іх паўнаце і ўсебаковай глыбіні ахопленага быту ісці ў спрэчкі са знакамітай у той час рымскай юрысдыкцыяй. Прасвета таксама пачынала быць даступнай не толькі для «прывілеяваных».

Так жылося да часоў злучэння Беларуска-Літоўскага княства з Польшчаю. Злучэнне гэта не было ў праўдзівым сэнсе злучэннем народаў, а толькі каралёў, па-за воляй і згодай народаў, чаму яно і не дало карысці, як яно дало карысць беларускаму і літоўскаму народам ад іх супольнага злучэння, без чужой для народа палітыкі алігархіі.

Гэты гістарычны акт стаў для беларуска-літоўскага народа ракавым і, як убачым далей, гаротныя масы гэтых народаў укінуў на сотні год у ноч жыцця нацыянальнай несвядомасці.

Пасля злучэння беларуска-літоўскага князя з польскай каралевай урад польскі адразу пачаў сваю палітыку над паланізацыяй беларуска-літоўскага народа. Пуцінай подкупаў, наданнем прывілеяў высшаму класу, каланізацыі, насаджэнні езуіцтва і ўрэшце прымусаў польская палітыка дабілася таго, што праз сотню з чымсь гадоў увесь высшы слой, чы арыстакратыя, аддзяліўся ад свайго грунту нізшых класаў, званых у той час чорным і паспольствам і, пераняўшы польскую мову і культуру, залічыў сябе да польскай нацыянальнасці.

Не малую ў гэткім перавароце зрабіў падмогу і тагачасны алігархічны польскі ўрад, каторы надта да смаку прыйшоўся нашым магнатам.

У той час, як высшыя нашы грамадскія класы аддзяліліся ад народа і, прылучыўшыся да польскай алігархіі, пайшлі той дарогаю, каторай ішла гэтая апошняя, працоўны наш народ, які не стаяў тады пры палітычным жыцці, страціўшы сваіх культурна-нацыянальных важакоў, часцю пайшоў за нявучаным нізшым духавенствам, каторае стаяла на абароне беларускай народнасці, а часцю стаў простым гледачом свайго палітычнага бездарожжа і нацыянальнага сіроцтва. Наогул жа, увесь гаротны народ замкнуўся ў сабе, у сваім нацыянальным «я»; ён нібыта замёр у той ступені развіцця, у якой яго гісторыя застала на бездарожжы, і такім ён астаўся на сотні год, да нашых дзён...

Гісторыя ішла ўперад, палітычныя формы нашага жыцця мяняліся, а народ наш усё не паказваўся з сваёй унутранай замкнутасці і так жыў, пакуль гэткая замкнутасць не перайшла ў цяжкі, доўгі гістарычны сон нацыянальнай несвядомасці.

Шлі гады, дзесяткі, сотні год гэткага яго сну несвядомасці, пераплеценага чорным здзекам над ім, крывавай барацьбой за яго нацыянальную душу, за яго народнасць, а ён усё спаў, бо быў адзінокі, і не меў кіраўнікоў і абаронцаў свайго духоўна-нацыянальнага быту, каторыя прабудзілі б яго ад сну несвядомасці і ўвялі ў панства свету і пашаны свайго прыроднага чалавечага імені. Сам жа ён стаяў сіратою і яго ўласныя сілы не дараслі да моцы прабуджэння сябе. Але ўсё ж гэта быў духоўна-нацыянальны сон народнай несвядомасці, а не яго смерць. Жывы народ не мог памерці ў сваім індывідуальным нацыянальным «я», бо гэтае «я» было яго жывёлавым інстынктам, каторы сам сабою выцякаў ужо з самога факта быту народа.

Не ў меншым сне, чы, скарэй, аблудзе знаходзіліся і ішлі праз усё гістарычнае прошлае нашы высшыя класы грамадзянства. Адрокшыся ад сваёй народнасці і прыняўшы польскую мову і павярхоўны лоск польскай культуры, яны праз увесь час чулі сябе чужымі польскай народнасці, бо ў іх гаварыў уласны нацыянальны інстынкт, каторы ніякімі прывілеямі няможна заглушыць. Залічаючы сябе да палякаў, усё ж яны добра ведалі, што праўдзівымі палякамі яны не могуць быць, дзеля гэтага называлі сябе, у адметку ад першых, літоўскімі палякамі, каторых гісторыя ніколі не мела і каторых яны стварылі самі з сябе. Будучы сляпымі на факты гісторыі, на акружаючае іх жыццё таго народа, каторы карміў іх хлебам і даваў ім усё, яны стварылі нейкае паўпольскае панства ў панстве беларускім і слепа, фанатычна яго падтрымлівалі, высмейваючы родную мову, ваюючы з роднай народнасцю.

Дзіўным і непанятным казаўся наш край пры гэткай рознасці аднаго і таго ж народа. Вось у якіх фарбах рысуецца вобраз грамадзянскага становішча ўсяго нашага народа: тады, як гаротны народ, замкнуўшыся ў сабе, снаваў несвядома нітку свайго нацыянальнага быту, клас высшы ахутваецца польшчаманіяю, каторая ён у часці заразіў і сярэдні клас, так званую фальварковую і засцянковую шляхту, тую самую шляхту, што праз усю гісторыю цягнулася за велікапанскімі хвастамі, стаяла за высокамагнацкімі крэсламі і, па наказу гэтых жа магнатаў, вархоліла на сэйміках, не разумеючы часта, хто яна і за што вархоліць.



Характэрным у гісторыі паланізацыі нашага краю ёсць тое, што нашы высшыя грамадзянскія класы, лічачы наш край Польшчай, польскую мову і культуру, паколькі яна магла наружна прывіцца да іх, прымаюць толькі для сябе, як і тыя прывілеі, што надаваў ім польскі ўрад, і, залічваючы гэту мову да «панскай», коса глядзяць на дробную шляхту, калі гэта заблудзіўшая авечка часамі хоць у «свята» і «пра гасцей» прэтэндуе на польскую мову як на прыкмету належнасці сябе да «далікатнага», «панскага» класа.

Так ішло да часу падзелу Польшчы, калі наш край падпаў пад уладу расейскага ўрада.

Расейскі ўрад доўгі час па забранні нашага краю лічыў нас палякамі. Гэта тлумачыцца слабым развіццём этнаграфічна-філалагічнай навукі ў Расіі ў той час, з аднай стараны, і племянною рознасцю нашага народа ў зраўнанні з велікарускім — з другой. У першых дзесятках гадоў нашага забору расейскі ўрад не толькі не адлічваў нас ад палякаў, але нават памагаў польскім і апалячаным беларускім групам праводзіць у жыццё іх паланізатарскую працу. Паланізацыя краю беларускага ў гэты час дайшла да высшай мяжы. Ніколі ўперад так не панавала на Беларусі польска-езуіцкая прасвета, як у час 10–40 гадоў. Гэта найлепей сведчыць, што палітыка расійская ніколі не кіравалася пры заборы нашага краю жаданнем «освободить угнетенных братьев от польского ига», як то тлумачылі расійскія гісторыкі, а толькі імперыялістычнымі мэтамі.

Гэтак дзеелася да часоў польскага паўстання ў нашым краі 1863 года, калі наша сялянства не толькі не пайшло за паўстаўшымі «панамі», але нават аднеслася к паўстанню з непрыхільнасцю.

Пасля гэтага расійскі ўрад схамянуўся, што наш цёмны народ можа служыць для яго добрым матэрыялам у русіфікацыі і засіллі як нашага краю, каторы ён усё яшчэ лічыў польскім, так і прытыкаючай да яго праўдзівай Польшчы.

Ад гэтых часоў пачынаецца ў нашым краі паліцэйска-русіфікатарская праца расійскага ўрада. Была паслана ў наш край цэлая армія ўсялякіх чыноўнікаў, каторыя з помаччу казацкіх нагаек мелі наш край «ісконі рускі», як яны называлі, усё ж чамусь перарабляць на «рускі». Беларускі народ, як гаворыцца, папаў з агню ды ў полымя. Усё сваё роднае было задушана, забіта. Палякі называлі нашу мову «простаю», расейцы ж назвалі яе «искуственной смесью польской и русской речи», забыўшы на тое, што наша мова пры Іване Грозным дала ім першае пісьменства

і праблісі прасветы. Наша родная мова і народнасць былі для ўжытку забаронены; усялякі наш друк душыўся. Але што найгорш — пачалася русіфікацыя нашых дзяцей: быў сазданы па вядомых семінарыях асобы тып чыноўніцтва прасвятовага, каторы стаў самым верным вартаўніком русіфікатарскай працы ў нашым краі. Адзін з слупоў, на каторых трымаўся расійскі царызм, — «разделяй и властвуй» — на Беларусі звіў сабе самае моцнае гняздо: ён дзяцей адной маткі Беларусі падзяліў на два варожых сабе станы і казаў праваслаўным называцца расейцамі, а католікам — палякамі, натраўліваючы і нацкоўваючы адных на другіх.

Якая была праца на Беларусі русіфікатарская верных халопаў і прыслужнікаў маскоўска-татарскіх тыранаў у кароне расійскіх цароў, усе добра помняць, бо сляды яе яшчэ надта свежыя. Але сухая прыгонная праца над нашым народам чыноўнікаў і паліцэйскіх нічога не ўскурала — жывы народ беларускі астаўся тым, кім ён быў многа сотак вякоў таму назад.

Такім тэмпам жыццё нашага краю ішло да пачатку XX стагоддзя, калі наляцеўшая агульная навальніца рэвалюцыйнага руху ў Расіі скрушыла і знесла многа старых згнілых запораў і хваляй прабуджэння пранеслася і па нашым краі.

Народ наш, будучы доўгі час у паўсне нацыянальнай несвядомасці, не адказваўся ад свайго ўласнага імені, свайго духоўнага быту, хоць канкрэтна не праяўляў усяго гэтага, жывучы ім унутрана ў сваім шэрым буднічным жыцці, казцы, абычаі, мове. Тое, што беларускі народ добра разумеў сваю нацыянальную асобнасць і інстынктам аддзяляў сябе ад другіх народаў, хоць ён быў і не свядомы свайго нацыянальнага імені, нас пераконвае яго цвёрдая пастаянная трымаласць «свайго». Калі б маглі запытаць беларуса пад канец забору Расіяй Польшчы, хто ён, то пачулі б цвёрды яго адказ, што ён «тутэйшы»; гэткі адказ можна толькі пачуць ад яго і цяпер. «Тутэйшы», гэта значыць што ён не паляк, не расеец, не ўкраінец, а сын сваіх родных палёў, лясоў, вёсак, мястэчак, сын таго народа, каторы гаворыць «простай», «тутэйшай» мовай, сын усяго таго, што дало грунт яго псіхічнаму разумаванню, на каторым яно ўзрасло.

Жывучы ўнутрана сваім нацыянальным жыццём, забыўшы пад даўленнем гістарычных фактараў сваё нацыянальнае імя, беларускі народ у цэлым не перастаў быць самім сабою, народам з сваім гістарычным прошлым, з сваім уласным іменем.



## IV

Беларуская мова. Зразумелая, ясная, поўная пекнаты і харацтва родная мова. А колькі пагарды і пляўкоў яна на сабе вынесла не толькі ад чужынцаў, але нават і ад тых здрайцаў і дэгенератаў беларускага народа, каторых маткі саміх выгадавалі ў гэтай мове. І якіх толькі нападкаў, якіх толькі плётак яна на сабе не вынесла. Як ёй толькі не капалі і паланізатары і русіфікатары магілу, а яна ўсё жывая, усё па-даўнейшаму злучае дзесяцімільённы беларускі народ.

Але разгледзьма гэтыя нападкі і дадзім адказ.

Найперш адмецім той важны штрых, што з усіх нападаючых на нашу мову асоб ніводная не адважылася сказаць, што беларускага народа як асобнага славянскага племені няма: альбо прызнаючы беларускі народ, альбо абыходзячы гэта пытанне моўчкі, яны адкідаюць ад беларускага народа яго мову. Такое палажэнне само па сабе ўжо спрэчнае, бо кожны ведае, што кожнае племя як асобны індывід заўсёды мае сваю ўласную псіхафізічную структуру, каторая складаецца з састаўных частак, у тым разе і з мовы. Мова не ёсць штучным дадаткам чалавечай натуры, а тым фактарам, што бярэ свой пачатак з тых асноў чалавечага быту, якія ўскармілі яго дух і цела, працей кажучы — з самой прыроды.

Нам закідваюць, што мова наша не ёсць асобнай ад другіх, а нарэчча аднаго і таго ж народа расійскага з дадаткам польскіх слоў, — калі гэта кажа расеец, чы, праўдзівей, сябар чы вораг са стану маскоўскай арыентацыі, — і «стала польска мова, пжез часа гісторыі зэпсута домешкем москевскіх слув», — калі тое ж цвярдзіць асоба, залічваючая сябе да лагера палякаў.

Ёсць яшчэ погляд, што наша мова выфармавалася з моў украінскай, польскай і расійскай дзякуючы стыку гэтых трох народаў на нашай тэрыторыі.

І на астатак не прызнаюць нашай мовы дзеля таго, што ў ёй дасюль не выдана паважных літаратурных твораў, іначай кажучы, дзеля таго, што нібы яна бедная духоўна.

Вось тыя довады, якія нам цвярдзяць праціўнікі беларускай мовы. Пад кірункам гэтых блудных поглядаў часта знаходзіліся шчырыя патрыёты нашай старонкі, якія не маглі весці барацьбу проціў працяглага векавога паходу на беларускую мову, як, напрыклад, Сыракомля, які пачаў пісаць па-беларуску.

Праціўнасць, памыльнасць і спрэчнасць гэтых блудных поглядаў больш як вачавідная. Уперш кідаецца ў вочы, што

два працівастаўныя народы па мове і культуры, як польскі і велікарускі, залічваюць нас кожны да сваёй нацыі і аснову нашай мовы выводзяць з сваёй. Праўда, шчыры вучоны велікарус чы паляк гэтага не скажа, але гэта не мяшае ворагам муціць ваду сярод маласвядомай масы.

Паказаная спрэчнасць тлумачыць нам, што корань нашай мовы не велікарускі і не польскі, а самаасноўны, бо ў глыбіні гісторыі наша мова спатыкаецца ўжо тады ў пісьменнасці, як польская, а найбольш велікаруская пісьменнасць пачыналі толькі жыць. Што наша мова як славянская мае сходнасць з другімі мовамі нацый славянскага выхаду, то з гэтага яшчэ не трэба рабіць вываду, што яна ўзята ад польскай чы велікарускай, бо тады гэтаксама можна было б цвярдзіць аб усіх славянскіх мовах, што кожная з іх уфармавалася з другой, а не развівалася асобна, на падставе законаў быту нацыі.

Не мае ніякага пераканаўчага сэнсу і погляд, што наша мова сфармавалася з польскай, велікарускай і ўкраінскай.

Каб якая-небудзь мова мела сфармавацца з другіх моў, чаго, трэба сказаць, ніколі ў гісторыі не было, яна не павінна мець у сабе самой ніякай асновы, т. б. мовы, каторай бы даны народ карыстаў у пачатку як незалежнай ад тых моў, з каторых пад даўленнем гістарычных фактараў мела б сфармавацца штучная мова. З нашай мовай у яе гісторыі зусім не так. Даўленне гістарычных фактараў, як то паланізацыя і русіфікацыя ў палітычна-грамадзянскім жыцці, прыйшло да нас тады, калі мы ўжо мелі не толькі развітую ўласную мову, але ўласную культуру і цывілізацыю, якія стаялі ў той час вышэй ад суседніх народаў...

Пераконваць у тым, што наша мова мае сваю нацыянальную і самабытную індывідуальнасць, арганічна злучаную з бытам нашага народа, гэта значыць ламацца ў адкрытыя дзверы, і толькі дзякуючы страшэннаму нашаму бяздоллю гэта рабіць прыходзіцца.

Яшчэ пытанне: чаму наша мова не багата літаратураю і духоўным зместам? Адказ на гэта просты: кожная мова расце духоўна пастолькі, паколькі ідзе ўперад духоўны пoступ данае нацыі. Кожная мова цесна, арганічна злучана з эвалюцыяй прыроднай творчасці народа, і ў гэтым яна заўсёды раздзяляе долю гэтага народа. Звяртаючыся да беларускай мовы, мы бачым, што яна падзяляе ўва ўсім долю беларускага народа. Беларуская мова захавалася ў масах гаротнага народа ў той эры развіцця, у каторай гэты народ сотні год таму назад спыніўся ў сваім духоўным поступе, будучы здраджаным сваёй інтэлігенцыяй. Ад таго часу народ духоўна не развіваўся, не рос, не магла развівацца, расці і мова. Народ беларускі як цэльная нацыя, не змяніўшы асноўных законаў свайго быту, не мог памерці, не магла змяніцца ў другую і памерці яго і мова. Яна раздзяляе долю беларускага народа да часу ўваскрашэння яго, калі і яна, прыбраная ў светлую апратку, зойме пачэснае месца ў сям'і славянскіх моў. У аснове сваёй наша мова мае столькі чароўнай прастаты і хараства, што не пройдзе і колькі дзесяткаў год, як яна не толькі зраўнуецца з другімі цывілізаванымі мовамі, але пакажа і тую містычную глыбіню беларускага народа, якая дасюль не зразумела ў Міцкевічу і Дастаеўскім.

Заканчваючы, мусім дабавіць, што мова — гэта той цэмент, каторы спайвае народ і дае яму моц быту, і што бяздолле беларуса ўва многім залежала ад асірацелай яго мовы.

## V

Кіньма яшчэ беглы погляд на адну нацыянальную асобнасць беларуса — гэта яго абычай як праяву духоўнай творчасці.

Абычай беларуса ўва многім розніцца ад абычаю народаў сумежных нацый. Захоўваючы ў глыбіні сябе поўны паэзіі містыцызм, каторы ёсць неадлучнай патрэбай быту беларуса, патрэбай рэалізавання абстрактных праяў прыроды ў сувязі з уласным пачуццём і псіхікаю, у наружы — поўны прастаты і наіўнасці і бадай зразумелы толькі для таго, хто добра ведае душу беларуса. Толькі ў абычаі беларуса так ярка-індывідуальна выліваецца вечнае шуканне кону як неспазнанай, неадгаданай сілы быту. Спрадвечнасць таемнага і прастата будзёншчыны, два розныя шляхі, у абычаі беларуса сходзяцца ў адзін, каторы яго вядзе то на могілкі з глыбокім сумам спраўляць Дзяды, то на вяселлі ў смеху снаваць радасць быту.

Абычай беларуса — гэта культ яго нацыянальнай душы, вязанка яго чыстай народнай паэзіі, вечны пацяг з шэрых будняў гаротнага жыцця ў край неадкрытага... Гэта не адно спадак па яго прашчурах: гэта канкрэтны выплыў з быту беларуса; ён вытвараецца і расце з творчасцю і ростам душы беларуса, але ў аснове сваёй ён не зменны — гэта ўсё ж тое містычнае служэнне кону.

Абычай беларуса як духоўная творчасць яго ў большай частцы выліваецца ў казцы і песні як патрэбе маралі і хараства. Казка і песня беларуса — гэта крытэрый яго духоўнага быту,

гэта яго псіхічна пачуццёвы воблік. Гаворачы аб казцы і песні беларуса, мы не памылімся, калі скажам, што гэта ёсць шлях гістарычных перажыванняў беларускай нацыі, што гэта ёсць няпісаная гісторыя беларускага народа.

Не маючы адгалоску свайго жыцця ў творчасці, прыбранага ў літаратурныя формы, зверху ад сваёй інтэлігенцыі, народ стварыў гэта сабе сам, беручы матэрыял з цаліны свайго быту: творачы, ён даў такую шчырую і праўдападобную да адбіткаў свайго жыцця творчасць, што, разглядаючы казку і песню беларуса, захватвае падзіў, як народ-невук, народ-сірата, забыты ў панстве свету і культуры, мог так праўдзіва заглыбіцца ў кожную рысу свайго духоўнага зместу. І калі б мы маглі сабраць усю тую мараль, якая рассеяна па казках беларуса, усё тое пачуццё, каторым перапоўнена яго песня, дык перад намі вырысаваўся б воблік чалавека з аграмадным багаццем здаровага сэнсу і глыбінёю найхарашэйшага пачуцця, але і столькі ж бяздольны, і столькі ж гаротны.

Абычай беларуса, выліваючыся ў духоўнай творчасці яго, лепш як што рысуе рэльефна самабытнасць і індывідуальнасць народа.

## VI

У кароткіх і агуловых рысах мы прагледзелі найважнейшыя з кардынальных асобнасцяў беларускай нацыі, каторыя даюць ёй права ісці ў гісторыі ўласным шляхам, не будучы нічыім прыслугачом. Гаварыць аб тым, што беларуская нацыя — гэта жывая нацыя, якая мае сваё гістарычна-ўласнае імя, гэта сярод белага дня засвечваць каганец; а ўсё ж у нашым страшным бяздоллі і гэта рабіць прыходзіцца, бо, к вялікай крыўдзе здаровага сэнсу, ёсць яшчэ такія людзі і, што найбольш баліць, не сярод ворагаў, а сярод сваіх сяброў і братоў, каторыя ўсё яшчэ бачаць нас адарваным кавалкам, зблудзіўшым тулачом.

Прагаварыць да чуцця і розуму гэтакіх людзей, а таксама да тых братоў, што, атрымаўшы свет навукі, спяць у ляноце альбо блудзяць у панстве хімерычных ідэй, — вось мэта маёй працы.

Калі хоць аднаго з іх мне ўдасца прабудзіць да вялікага гарачага кахання к забытаму абяздоленаму краю, пазваць да працы шчырай на нацыянальнай раллі дзеля свету, дзеля лепшай будучыны гаротных братоў, — я буду шчаслівы з зробленага. [...]



## IX

Для нас, беларусаў, патрэбнасць нацыянальнага жыцця і самаадзначэння народа — гэта патрэбнасць усяго нашага быту.

Ні адзін народ не стаіць на такім страшным бездарожжы і нацыянальна-духоўнага жыцця, і палітычнага бясправуя, як мы, беларусы. Сотні год наш увесь бяздольны народ без свету, без свайго чалавечага імені бродзіць у цемры нацыянальнай несвядомасці, а дзеля гэтага служыць толькі ахвярай здзеку і пагарды.

Не будучы свядомым свайго нацыянальнага імені, не карыстаючы з сваіх творчых дароў натуры ў святле ўласнай сваёй душы, ён не можа выйсці на дарогу праўдзівага поступу да культуры, не можа ісці поруч з другімі нацыямі да агулова чалавечых ідэалаў, а стаіць адзінокі, сіратлівы, адгароджаны кітайскаю сцяною ад цывілізацыі, не могучы даць тых вялікіх скарбаў духу, якія носіць у сабе.

Праз чужую мову, культуру, праз чужую народнасць ні адзін народ не можа прыйсці да агулова чалавечых ідэалаў раўнапраўным сябрам; калі ён страціць сваю мову, народнасць, сваю нацыянальную душу і пойдзе па дарозе культуры, то, памінаючы тое, што ў даным разе ён будзе толькі простым слугою таго, пад чыім іменем ён будзе ісці, — ён прыйдзе не к культуры, а к сваёй нацыянальнай смерці, якая выльецца ў цяжкі векавы летаргічны сон.

Асвета і культура ў нашай мове, у духу нашай нацыі і нашай народнасці для нас цяпер патрэбны як ніколі. Яны дадуць нам можнасць падняцца з той векавой прорвы, у каторай знаходзіцца наш народ дасюль; яны з беларуса — пакорнага слугі ўсіх, зробяць раўнапраўнага грамадзяніна, без памылак могучага каваць сваё шчасце, сваю долю; яны ўваскрэсяць яго да творчай дзяржаўнай працы пад уласным нацыянальным сцягам; яны заставяць другія народы паважаць імя беларуса, а не глядзець на яго, як на нешта мёртвае, часамі з усмешкай...

Дзесяцімільённы беларускі народ працаўнічы, што снуе сваю долю па ўбогіх вёсках і мястэчках, доўгія гады чакае свету праўдзівага ў цемры сваёй несвядомасці, стогне і мучыцца пад навалай яе, аддаючы свой розум, чуццё ў карысць чужынцам, і цяпер, у час небывалай ломкі і крызісу панстваў і народаў, ён амаль стаіць забыты на расстаі бездарожжа, гадаючы, якія новыя ланцугі прынясе яму заўтрашні дзень. Цяпер як ніколі павінны прыйсці да яго лепшыя сыны, каторых ён ускарміў, узрасціў і

даў можнасць у свеце распазнаваць хараство і цемру, праўду і крыўду, — павінны прыйсці правадырамі і павесці свой народ да нацыянальнага самаадзначэння.

Найцяжэйшы час перажывае цяпер беларускі народ. Крывавымі слязамі ён піша цяпер сваю гісторыю, стоячы над зруйнаванай сваёй бацькаўшчынай....

Толькі цяпер, у час смерці і ўваскрашэння, каб наш народ ізноў не астаўся на доўгія гады нявольнікам і ахвярай здзеку, мы павінны разбудзіць яго са сну несвядомасці да разумнага нацыянальнага быту, будовы сваёй бацькаўшчыны на падставе нашай народнасці і жаданьня народа. Пакуль наш народ не будзе разбуджаны са сну нацыянальнай несвядомасці, пакуль ён не стане зусім свядомым свайго «я», свайго ўласнага імені, пашаны сваёй чалавечай годнасці, пакуль яго розум і дух не стануць на моцнай нацыянальнай падставе, не дасягнуць мэты развіцця і пакуль будзе ўсе яшчэ пагарджаным слугою другіх, мы, святлейшыя яго дзеці, павінны працаваць і працаваць не пакладаючы рук, бо калі будуць ізноў надзеты на народ кайданы несвядомасці і нацыянальнай смерці, то віною гэтаму будзем мы, і праклёны гісторыі падуць на нас.

Да працы нас павінна заахвочваць і гнаць разумаванне наша, што шчасце нашага народа — гэта шчасце ўсіх нас, а праўдзівае шчасце ёсць толькі там, дзе ёсць свет, культура, воля. Усё ж гэта можна толькі здабыць на ніве грамадзянства, свядомага сябе, свайго нацыянальнага імені.

Пры ўсім гэтым мы павінны памятаць, што разбудзіць народ да нацыянальнай свядомасці — гэта не значыць стварыць нейкую ідэю ўваскрашэння ўміраючай нацыі і даць яе народу як нешта новае, гэта — асвяціць толькі святлом нашага знання дарогу блудзячаму ў цемры гістарычнага бездарожжа народу беларускаму, падзяліцца з ім у імя справядлівасці сваім знаннем; натуралізаваць скрытае ў глыбіні народа жаданне ў канкрэтныя формы, да каторых ён рана ці позна мусіць прыйсці сам.

Збудзіць беларускі народ — гэта значыць праявіць яго нацыянальную душу, яго нацыянальнае «я» да творчага свядомага самабыту на карысць вялікіх ідэалаў чалавецтва, даць ім можнасць карыстаць з скрытых багацццяў беларускай натуры.

Збудзіць беларуса да культурна-нацыянальнага жыцця — гэта значыць пачаць для яго новую эру гісторыі, эру не сну, здзеку, пагарды, адарванасці ад усяго светлага, а вялікага грамадзянскага быту, мэтай каторага павінна быць шчырая злучнасць усіх народаў, абвенчаная праўдзіва чалавечым каханнем.



Мы павінны помніць, што жывы народ, маючы пад сабою нязменнымі асновы свайго нацыянальнага быту, не памрэ, а рана ці позна адродзіцца і сам аднойдзе свае імя.

Не памрэ і беларускі народ.

Сотні год ён знаходзіўся ў паўсне несвядомасці, а ўсё ж ён — жывая нацыя, якая мае свой уласны быт.

Рана ці позна наш народ прабудзіцца з нацыянальнага сну, але які страшны суд зробіць над намі гісторыя, якім ашчэрным імем яна нас закляйміць, калі мы не прыложым цяпер працы да прабуджэння нашага народа, да вываду яго з цемры несвядомасці к свету, — з агорнутай яго нядолі. Аб усім гэтым нам сведчаць гісторыі нацыянальнага прабуджэння другіх народаў.

Просты сэнс нашага розуму, простая рахуба здаровых разумаванняў кажуць нам, каб мы, усе тыя, хто свядомы свайго «я», хто жыве не толькі для сябе, але і для краю, для каго «народ», «бацькаўшчына» — не пустыя словы, а зык, ідучы з уласнага быту, — каб усе гэтыя не былі безвалоднымі сведкамі ў гэты крывавы час разрухі і нядолі, сведкамі гора свайго народа, не глядзелі моўчкі, як сочыцца кроў з ран бацькаўшчыны, а былі шчырымі работнікамі на роднай ніве, праўдзівымі дзецьмі свайго бацькі-народа, гатовымі прынесці яму ў ахвяру і розум, і душу, і нават, у патрэбе, жыццё.

Працаваць над прабуджэннем свайго народа, працаваць над адбудовай вольнай бацькаўшчыны Беларусі, працаваць у карысць, каб яна не была пагардай другіх. А мы не нявольнікамі сваёй цемры, а роўнымі сябрамі другім народам, вялікімі сваімі светам і культурай — якая гэта вялікая доля для мас!..

Як мы павіны быць горды тым, што гісторыя на нас ускладае гэту вялікую і святую працу.

*Слуцк, друкарня З. Барнака, 1918 г.*

## З ЛІСТОЎ ДА ЗОСЬКІ ВЕРАС (ЛЮДВІКІ СІВІЦКАЙ)[1]

*1. 10/X [1916 г.]*

Паважаная Панна Людвіка!

Як бачу, Вы надта вялікі маруднік у пісанні лістоў. А можа, гэта толькі мне? Ну, як сабе там ні было, але, як бачыце, гэта не адбівае мне ахвоты пісаць Вам. А каб напрыкрыцца Вам да канца, я пастанавіў напісаць Вам доўгі-прадоўгі ліст. Пачынаю.

Як памятаю, калісь Вы звалі мяне да супольнай працы з Вамі, каторая мелася выразіцца, калі не мыляюся, у падтрыманні руху кружка Вашага, т. б. мінскіх беларусаў, у тым цікавым руху, што выліўся ў пастанове «беларускай» батлейкі, каторую, так характарна памятаю, назваў якісь пан «балаганшчынаю» і «шарлатанствам». Гэтыя словы тады цяжкімі камянямі ўпалі на маю душу, і мне было да нявытрымання цяжка за імя маёй няшчаснай Бацькаўшчыны, за Вас... Знаеце, па ўспамінах гэтага і цяпер мяне душыць шалёная злосць за гэткі праяў духоўнага быцця беларусаў.

Не менш цікавая форма руху гэтага кружка і другая, — гэта залажэнне ткацкіх варстатаў, дзе (на манер стараслуцкіх) вясковыя кабеты і дзяўчаты-ўцекачы пад прынукай неатрымання пайка ў разе адказу, мелі ад рання да вечара прасці і ткаць. І чы ж не цікавая і вартая ўвагі форма руху? Кабеты і дзяўчаты, чы праўдзівей белыя нявольніцы, будуць прасці і ткаць узорныя дываны, а пры працы спяваць свае смутныя вясковыя песні... Дываны будуць пасылаць паны завядоўцы на выставы: на працу дзяўчат будуць дзівіцца і хваліць беларусак, да чаго яны здольныя. Якая мілая этнаграфічная ідылія! Так і ўспамінаюцца «Слуцкія ткачыхі» Максіма Багдановіча... Адно толькі самае важнае ўпусцілі з увагі, што няшчасныя ўцякачкі пры працы могуць успамінаць пра свае зруйнаваныя, спаленыя вёскі, пра сваіх гаротных дзетак, магілкамі каторых усеяна ўсё прыдарожжа роднай старонкі, успамінаць праз усё гэта і пад навалай жалю і слёз зусім не быць здольнымі да працы. Шкада, што не ведаю, як удалася да зрэалізавання гэта ідэя «руху» і меўшаеся ўстройства курсаў садаводства. Ідэя сама па сабе разумная, у прымяненні яе ў гэты час і к уцекачам паказалася б не менш нявыпаўненай і смешнай ад першай, не гаворачы ўжо аб тым, што яна сама па сабе не магла мець ніякай сувязі з нацыянальным рухам.

Не ведаю, чы там былі ў пэўным кружку якія яшчэ ідэі «руху», але даволі і выменёнага, каб рэльефна абрысаваўся маральны і духоўны воблік «руху». Праўда, цікава яшчэ ўспамянуць аб арыгінальным вербаванні несвядомых беларусаў у свой лагер — гэта суботнія вечарынкі, дзе пад мінорныя і мажорныя зыкі фартэпіяна, пад пластычныя «па» вальсаў і мазурак у «кавалераў» і «барышень» радзілася і апрадзялялася свядомасць свайго нацыянальнага «я»... Ну, падумайце самі, чы не вялікі гэта ідэёвы «рух» к нацыянальнай свядомасці?.. Чы не можа ён сабою задаволіць той асобы, каторая магла зглыбіць сваёю душою «Сум»[2]?..



Выбачайце, Вы, мабыць, чытаючы гэты ліст, думаеце, што я паставіў сабе мэтай на колькі дзён сапсаваць Ваш гумар і нервы. І не, барані Божа! Занадта я Вас знаю, занадта Ваша душа, Ваша чуццё дарагія для мяне, каб я мог дапусціць гэткі жарт. Вы не раз прасілі мяне ў сваіх лістах, каб я быў шчыры перад Вамі, і я хачу быць шчырым, і толькі. Сваёю шчырасцю я хачу пралажыць сабе дарогу к Вашаму чуццю і к Вашай думцы, хачу паказаць Вам у другім святле працу для Бацькаўшчыны, якою яна павінна быць на мой погляд. Сваёю шчырасцю я хачу адарваць Вас ад ролі манекенства ў Вашым праслаўтым «руху», ад той ролі, каторая даводзіцца чуць не да шыцця сукенак балванчыкам батлейкі... Праца вялікая, праца святая для Бацькаўшчыны, для народа зводзіцца к вывальненню сваіх братоў з няволі, к асведамненню іх ва ўразуменні свайго нацыянальнага «я», к узвядзенню ў панства кахання, брацтва і праўды... Гэта вечна старыя і вечна новыя формулы, да каторых без упынку павінна доўжыць кожная ядыностка. І для гэтага не трэба ні батлеек, ні ткацкіх варстатаў, ні вечарынак. Слова, з сэрца вынятае гарачае слова досыць для гэтага. Для нас жа, беларусаў, для адраджэння краю, гэта толькі можнае і карыснае ў нашы часы аружжа, каторым мы можам ваяваць. У нас яно павінна выходзіць з сутарг ахопленага горам Бацькаўшчыны сэрца, з полымя кахання душы, каторым яна гарыць за краем, з крыку-пратэсту скованай нявольніцтвам думкі. Гэткім сваім словам мы павінны паліць чуццё братоў, будзіць іх сумленне, іх забітую горам думку. Слова гэта павінна ахапіць у працы ўвесь прастор нашай Бацькаўшчыны. Яно не павінна знаць крыёвак. Праца з словам не павінна знаць кампрамісаў і палавінак: яна ахоплівае працаўніка ўсяго і, калі трэба, вядзе яго на эшафот. Усе святыя і вялікія ідэалы народаў пануюць дзякуючы толькі працы гэткага слова... Я слабы ў сваіх выразах, я не магу Вам абмаляваць, як чуе, як разумее гэту працу для Бацькаўшчыны мая душа, мая думка. Але Вы, каторая сваім інтэлектам, сваім чуццём патрафіла сабраць з родных палёў, лясоў, з усяго вобраза роднага краю «Сум» і ўсадзіць яго ў таемную глыб сваёй душы, Вы патрафіце зразумець мяне, зразумець, аб якой працы для Бацькаўшчыны я гавару...

Даруйце, панна Людвіка, за доўгае мазоленне лістом вачэй, але яшчэ не канец. Самае важнае, што хачу Вам перадаць, пачну толькі цяпер выкладаць. Знаеце, у паветры ўжо носіцца пачатак канца вайны. Усе народы з вялікаю гарачнасцю гатовяцца да ўсясветнага суда чалавецтва, да перагляду ўсіх вартасцей. Усе,

самыя маленькія нацыі маюць пратэставаць прад светам і патрабаваць платы за ўчыненыя крыўды. На вялікім судзе народаў усе нацыі будуць раўнапраўнымі ў сваім вялікім пратэсце за ганьбу культуры і праў чалавека, усе голасна будуць гаманіць за сябе, прэч нас, беларусаў. Адна толькі наша Бацькаўшчына ляжыць мёртвым пластом магілак паміж жывых народаў. Яна адна толькі не збіраецца выказаць, якія цяжкія крывавыя раны на доўгія гады ёй учынілі. Другія, чужыя нам народы, будуць судзіць душу Беларусі і дзяліць між сабой яе апратку. Мы мёртвыя пакорныя нявольнікі, а не жывы народ, зноў павінны вякамі ісці ў чужым ярме, араць чужую ніву. Зык кайданоў — гэта будзе голас нашага пратэсту. Другога голасу мы не можам чы не хочам выдаць... Чы не горка гэта?! Чы не акаляе боль сэрца на самую думку аб нашай бяспомашчнасці?.. Не, так быць не можа! Мы павінны падаць свой голас, беларусы павінны сказаць, што яны жывы народ, а не нявольнічая пакорная чарада. Што мы павінны для гэтага зрабіць — гэта мець свой голас, каторы бы чулі ўсе, мець сваё друкаванае слова. Цяпер, як ніколі, Беларусь мусіць стварыць друкаванае слова, у каторым бы магла выказаць усё. Беларусь мусіць мець свой шчыра-праўдзівы духоўны воблік, а не кіслае жартаўлёўства, каторым у большай часці дагэтуль было друкаванае слова Беларусі. Пытанне, хто павінен узяцца за гэту працу? Мы, усе тыя, хто любіць сваю Бацькаўшчыну над жыццё, над усё ў свеце; тыя, для каторых наш край — гэта наша душа, наша думка, каторыя для свайго духоўна-маральнага жыцця бярэм у ёй сокі. Усімі сіламі свайго быту, не астанаўліваючыся ні перад якімі перашкодамі, мы павінны старацца стварыць сучасны голас Бацькаўшчыны — друкаванае слова.

Панна Людвіка, на гэты раз будзе і гэтага. Падумайце над усім вылажаным перад Вамі і дайце шчыры хуткі адказ. Атрымаўшы ад Вас ліст, або прыеду сам, або напішу Вам падробна аб тым, што я зрабіў у гэтым кірунку, што магу зрабіць і якія будуць планы.

Пакуль жадаю Вам усяго найлепшага.

*Ф. Ш.*



*2. 8/1 [1917 г.]*

Сталася... а чом я толькі мог сніць у марах, да чаго так бясплодна столькі часу рвалася маё чуццё, па чым у адзіноцтве тамілася ў муках сутарг бяссілля мая душа. Чорная маркотнасць нястрыманых жадань рвала яе слабавольную і казала ёй сніць і сніць а гэтай ласцы — чару... І прыйшла яна неспадзяваная, мімаходная, прыйшла памімавольным магнетычным бліскам і запаліла дух і перавярнула і зруйнавала быт... Выпадковая, кволая ласка Вашых вуст...

Ціха, я не знаю, чы я цяпер прытомны... Кожная хвіліна майго тхнення, кожны палёт маёй думкі, кожная частка майго чуцця перапоўнены гэтай ласкай... Мая воля, мой розум — гэтыя найменшыя праваднікі майго быту — слабы, бяссільны паўстрымаць ураган экстазу бязмернай невыяснёнай радасці, ахапіўшай мяне. Напрасна яны цвярдзяць, што гэта не адказны агонь запаліўшайся шчырым чуццём душы, а мінута слабай волі і страчанай раўнавагі пад навалай агрому сустрэчнага чуцця, мінута гвалту аднаго чуцця над другім... Напрасна... Душа нічога не чуе і не бачыць, апроч паглынаючага яе полымя, апроч укаханага вобраза, гэтага святая святых свайго быту, апроч нястрыманага крыку радасці, запрабаваўшай шчасця.

Туман, туман ва мне і навокал мяне... Хто я, чаго я хачу, куды я іду... Ціха... ціха!.. так мне ўжо добра з вялізным агромам болю майго... Ён укалыша мой дух... Усё вышэй і вышэй уносіць ён яго ў краіны недасягаемых мар, у краіны надзмысловых чараў, дзе пуціны быту ўвіты зорацветам Суму... Вялікага, усёахопліваючага, над усім пануючага суму... Суму, тайніку глыбінь быту, Суму — прэдпрадвечнага, прадтворчага «я» першабыту... Суму-маркотнасці поцягу к хараству болю, ідэалу не збаданага...

Выбачайце, даруйце, што я пачынаю ўжо брэдзіць у непрытомнасці...

Развейце туман, у бездарожжы каторага бродзе мой дух, дайце яму сілу да барацьбы за найлепшыя ідэалы, напойце яго радасцю быту, а падзе ён к Вашым нагам і сваімі марамі-летуценнямі, што дабывае з крыві сэрца, высцеле дарогу быту Вашай душы... Будзе вечна берагчы яе ад сцюж і непагод жыццёвых і, калі яна зможана ісці, зажадае спакою, паможа ў глыбіні быту свайго, абвее скрыдламі палётаў сваіх і ўскалыша ў спакоі ціхай упойнасці яе, сваю каханку, свайго Бога...

Душа Ваша, вялікая харaством суму, поўная дзіўнага чарацвету, — гэта душа мусіць належаць да майго быту. Куды б ні ішлі б Вы, дзе б ні былі, да кага б ні належалі, дух мой вечна будзе ісці ўслед Вашай душы, агартаць яе сілай чуцця свайго і зваць і зваць да сябе. Вачыма раскрыжаванага Суму будзе глядзець ён у Вашу душу і будзе будзіць і будзіць яе да мук — жадана. Душа Ваша гэта моц і аснова быту майго духу. Я не бачыў Вас, а ўжо сніў аб Вашай душы мары, насіў яе ў сабе, будаваў ёй алтары і маліўся, маліўся мукамі адзіноцтва, маркотнасцю нездаволенай прагі жадань.

Не чыніце ж гвалту быту, аддайце ж мне сваю душу, бо яна нікому, апроч мяне, не будзе належаць. Я чакаю яе...

*Фабіян*

*З. 17/V [1917 г.]*

Маё шчасце!

Што гэта — чы сон, чы ява? Пасля пражытага ніяк не магу апомніцца. Няўжо ж гэта праўда, што ты, мой анёл, а каторым я з такой маркотнасцю, чы то ў скварны час працы, чы то ў доўгую бяссонную ноч, сніў не летуценні, няўжо ж ты стала маёй?

Няўжо ж ты аддала мне сваю душу?.. Дала ўпіцца праўдзівым чарам «Суму»? Не, не! Я надта многа мучыўся, надта перабалела ў барацьбе душа, каб яна магла пахлонуць у сабе гэта вялікае нязмернае шчасце...

Гэтае шчасце давіць мяне, рве мае грудзі, бо не змяшчаецца ў іх... Думка мая, арліная думка, што горда шыбала па-за зоры, ляжыць распластаная, бязволадная перад гэтым шчасцем і ціха, так ціха шэпча яму словы благання... Людвіка, я баюся гэтага шчасця, бо яно большае за маё чуццё, за мой быт. Такім шчасцем не могуць людзі карыстаць, яно па-за бытам іх.

Но, што б ні было, а пражытага ніякія сілы не вырвуць з маёй душы... Людвіка! Скажы ж, што гэта не сон, што ты мая, мая душою, целам, мая, пакуль будзе ў нас хоць адна іскарка жыцця... А як трудна мне без цябе! Калі ж, калі ж я цябе ўбачу, буду глядзець у мілыя вочы?..

Не, не магу быць болей без цябе!.. Пішы, тэлеграфуй!

Твой назаўсёды

*Фабіян.*

# ЦІШКА ГАРТНЫ

Паэт, празаік, драматург, крытык, дзяржаўны і грамадскі дзеяч Цішка Гартны (сапр. Зміцер Жылуновіч), якога называлі «песняром працы і змагання», першым пралетарскім паэтам Беларусі, нарадзіўся 23 кастрычніка (4 лістапада) 1887 года ў мястэчку Капыль Слуцкага павета Мінскай губерні. Пасля заканчэння двухкласнага вучылішча (1905) працаваў у гарбарнай майстэрні. Пазней у пошуках работы пабываў у многіх гарадах Беларусі, Літвы, Украіны. Вярнуўшыся ў Капыль, браў удзел у мясцовай арганізацыі РСДРП, арганізаваў літаратурна-грамадскі гурток «Самаадукацыя і развіццё», выдаваў рукапісныя часопісы.

З 1913 года (пасля года працы гарбаром у г. Вількамір Ковенскай губ.) Ц. Гартны пераехаў у Пецярбург, уладкаваўся рабочым на завод «Вулкан». Адразу ўвайшоў у грамадска-палітычнае жыццё, стаў членам рабочага культурна-асветнага таварыства «Знание», карэспандэнтам газеты «Правда». Наладзіў сувязь з дзеячамі беларускага нацыянальнага адраджэння, з яго ідэйным кіраўніком, прафесарам Б. Эпімах-Шыпілам, які дапамог яму перайсці ў выдавецтва «Новы чалавек». Тут працавала Надзея Сцяпанаўна Бялова, дачка рабочага, якая стала яго жонкай (1916). Браў удзел у рабоце Беларускага бежанскага камітэта, які быў створаны ў Пецярбургу ў пачатку Першай сусветнай вайны. Адначасова разам з Я. Нёманскім пачаў выдаваць газету «Дзянніца», якая пасля закрыцця «Нашай нівы» садзейнічала кансалідацыі беларускіх арганізацый. З 1917 года Ц. Гартны становіцца адным з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі стаў сакратаром Белнацкама пры Наркамаце РСФСР, дзе яго прынялі ў бальшавіцкую партыю. З дня ўтварэння БССР (2 студзеня 1919 года) да 3 лютага 1919 года быў старшынёй Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі, які са Смаленска пераехаў у Мінск.

У 1920 годзе стаў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь» (тады яна выходзіла на беларускай мове), а з заснаваннем у 1922 годзе літаратурнага часопіса «Полымя» быў прызначаны яго галоўным рэдактарам. Потым узначальваў Цэнтральны архіў БССР і Дзяржаўнае выдавецтва БССР, бюро Гістпарта ЦБ КП(б) Беларусі, з’яўляўся членам прэзідыума Інстытута беларускай культуры (Інбелькульта), навуковым сакратаром камісіі па вывучэнні гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, працаваў намеснікам наркама асветы і старшы-

нёй Галоўмастацтва БССР. Удзельнічаў у Другой Усебеларускай канферэнцыі (Берлін, 1925). У 1934–1936 гадах працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР, быў абраны акадэмікам АН (1928). Выбіраўся ў вышэйшыя органы ўлады: кандыдатам у члены ЦК КП(б)Б (1927–1929), членам ЦВК БССР (1920–1931), узначальваў Таварыства культурных сувязяў з замежнымі краінамі.

Пачаткам літаратурнай творчасці Цішкі Гартнага лічыцца 1908 год, калі ў «Нашай ніве» былі апублікаваны яго вершы («Бяздольны», прысвечаны Я. Купалу, «Не хіліся, дуб зялёны», прысвечаны Я. Коласу). Апавяданні, нарысы, асобныя вершы друкаваліся ў капыльскіх рукапісных выданнях, альманаху «Маладая Беларусь», настольных календарах, у газетах «Звезда», «Правда» (1912–1913). Выдаў зборнікі паэзіі «Песні» (1913), «Песні працы і змагання» (Берлін, 1922), «Урачыстасць» (1925). Янка Купала, высока ацэньваючы вершы Ц. Гартнага, пісаў: «Цішка не «майструе вершаў», а пяе, пяе ўсёй сваёй набалелай душой, усім сваім сэрцам, гарачым, кіпучым. Нойдзеце тут і галубіныя песні кахання, і сумныя жальбы, і смелыя жаданні, і ва ўсім чуваць песняра праўдзівага, вынасіўшага кожнае слова ў сваіх набалелых грудзях».

Літаратурны талент Ц. Гартнага найбольш ярка праявіўся ў жанры прозы. Ён аўтар кніг апавяданняў «Трэскі на хвалях» (1924), «Прысады» (апавяданні і п’есы, 1927), «Гаспадар» (1930), «Гоман зарніц» (1932), «Наступ на горны» (апавяданні, нарысы і вершы, 1932), аповесцяў «На новым месцы» (1930), «Зялёны шум» (1931), рамана «Сокі цаліны» (ч. I–III, 1922–1930). У 1929–1932 гадах выйшаў Збор твораў у 4 тамах.

Аўтар драматычных твораў «Хвалі жыцця» (1918), «Сацыялістка» (1924), «Дзве сілы» (1927), зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Узгоркі і нізіны» (1928), крытыка-біяграфічнага нарыса «Янка Купала — пясняр вызвалення» («Янка Купала ў літаратурнай крытыцы», 1928).

Пераклаў на беларускую мову раман А. Фадзеева «Апошні з удэгэ».

Творы Ц. Гартнага перакладаліся на рускую, украінскую, польскую, славацкую, чэшскую мовы.

Аднак Ц. Гартны сваёй дзейнасцю, скіраванай на адраджэнне Беларусі, не ўпісваўся ў таталітарную сістэму, якая з пачатку 1930-х гадоў распачала так званыя «партыйныя чысткі». Матэрыялы чысткі Ц. Гартнага публікаваліся ў «Звяздзе». Ён быў выключаны з партыі «за свядомае правядзенне нацыянал-апартуністычнай і нацыянал-дэмакратычнай лініі» і пасланы на завод на «перавыхаванне» ў рабочым асяроддзі. 15 лістапада 1936 года ён быў арыштаваны органамі НКУС. Яго цэлымі тыднямі дапытвалі ўдзень і ўночы бесперапынна («ставілі на канвеер», па следчай тэрміналогіі), прымушаючы падпісваць сфальсіфікаваныя пратаколы, пагражалі распраўай з сям’ёй. Даведзенага бесчалавечнымі катаваннямі да памяшальніцтва былога старшыню



беларускага ўрада і славутага пісьменніка перавезлі ў магілёўскую псіхіятрычную бальніцу ў Пячэрску, дзе 11 красавіка 1937 года ён скончыў жыццё самагубствам, не дажыўшы некалькі месяцаў да свайго 50-годдзя.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць асобным томам «Выбраныя творы» Цішкі Гартнага.

## БЯЗДОЛЬНЫ

*Пасвячаю Януку Купалу*

Цяжка жыць без долі,
Што рабіць — не знаю;
Хіба на свет выйду,
Долі пашукаю.
Выйду пад гаёчак,
Крыкну на ўсё поле:
Гдзе так запрапала
Ты без сэрца, доля?!.
Можа, ты, зялёны,
Родненькі гаёчак,
Схаваў маю долю
Ў цёмны вугалочак?
Эй, скажы, мой мілы,
Пашкадуй дзяціну,
Пaмажы ты гору,
Паймі сірацііну!
Дарма я пытаю:
Шуміць лес няміла...
Не пачула доля,
Эх, пачуй, магіла!..

*Капыль, 1909*

## РОДНАЙ КРАІНЕ

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе відаць на абшары кругом
Курганы, і пустыя раўніны,
І балоты, заросшыя мхом.

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе Дзвіна й чысты Нёман плывуць
Між лясоў, паміж гор, праз лагчыны
Свае воды у мора нясуць;

Дзе раскінуліс шэрыя вёскі,
А ў іх родныя песні чутны,
Песні — долі людской адгалоскі,
Песні — жальбы загнанай душы.

Я люблю гэты вобраз бясконца,
Тыя вёскі, балоты, гаі,
Бо радзіўся я ў гэтай старонцы
І памру мо у гэтай зямлі!

*Магілёў, 1910*

## КАЛЯ БОРУ СОНЦА ХОДЗІЦЬ

Каля бору сонца ходзіць
На высокіх ценкіх дыбах,
Чарадою цені водзіць
Па кустох — густых сядзібах —

Даўгакосых,
Таўстаносых,
Цемнатварых,
Грозных, ярых
Лесуноў.
З-пад кустоў,
З тайных сховаў,
Вабам, зовам
На палянкі,
На гулянкі,

На сустрэчу светлай ночы
Духаў скрытных зазывае
І ў сляпыя цемні-вочы
Сітам промень рассявае.
Вузкіх шляхаў выгіб ломкі
Машастовай рунню ўбраны,



І шнуруюць скокам ёмкім
Німфы-ведзьмі, феі-панны —

На граніцу,
Да крыніцы,
На гулянне,
Як загляне
Маладзік;
Як з-пад пік
Стройных ёлак
Рысаў голак
Ў блутнай сетцы
Напляцецца

І ўбярэ ваду крыніцы.
Гэй, хавайся, сонца, з неба!
Дай жа ночы-маладзіцы
Адчыніць сваю бяседу!

Вось і месяц
З крэмню крэсіць —
Сыпле крэйду,
Меліць пэндзлем
Воду, бор.
Стада зор
У гала гоніць
І гамоніць
Шэптам лісцяў:
Гэй жа, выйсце

На гулянку, на вяселле!..
Бор змаўкае — не шапоча,
Ралкай жаднай не шавеліць, —
На крыніцу ўстроміў вочы.
Ў вербалозах, ў пухкім моху
Завіліся карагоды;
Вадзянік адставіў лёху
У крыніцы спадысподу.

Вір віруе
І шнуруе
Градкай лёгкай,
Стужкай вохкай

Грэбень хваль.
Плецень-валь
Дымкай шарай
Туліць твары
Фей-русалак,
Што ў прагалак

Між кустамі над крыніцай
Распусцілі бросні-косы;
З хітрай мінаю глядзіцца
Ў іх лясун доўгавалосы.

Жаб капэля
Іх вяселіць
Мнагалікім
Хорам-крыкам
Певуноў,
Покуль зноў
З па-над бору
Кроўным морам
Пачне ўсходзіць
І заводзіць

Сонца спацыр жыццявейны,
Стаўшы ціха ўверх на дыбы…
І пражэцца крохкай ценню
Ўсё начовае — ў сядзібы.

*1924, Капыль*

## «ЛАЙДАК»

*Апавяданне*

Ужо падыходзіў канец дзесятае гадзіны раніцы, калі Палута вярнулася з травы. Ёй і на гэты раз пашанцавала: стражнік не ўбачыў, і яна нажала два вялікія дапаўна мяшкі добрае паплаўное травы. Янкель, рамізнік, стрэўшы Палуту з травою, нічога не кажучы, адкупіў у яе абодва мяшкі і яшчэ нават падзякаваў.

Гэта Палуту дужа ўзрадавала, бо яшчэ дагэтуль яна ні разу так удачліва не зарабляла.

Вясёлай ды здаволенай увайшла яна ў хату.



— Ну, цяпер крыху супачыну. Ужо сёння болей нікуды не пайду. Дзякуй Богу, утаргавала і хопіць для мяне на нейкі час. Вось толькі трэ было б збегаць на рынак ды купіць хаця кавалачак сітніцы Хведарку, — уголас сказала яна сама сабе.

І, успомніўшы аб Хведарку, Палута кінула паглядам у запечак. Кінула паглядам і раптам сумелася, паціснуўшы плячыма: замест Хведаркі яна ўгледзела старэйшага свайго сынка, Янку, які, скурчыўшыся абаранкам, ляжаў прытоена ў запечку. «Што то мае быць? — прабегла ў Палуцінай галаве. — Толькі тыдзень мінуў, а ён ужо і дамоў наведаўся».

— Янка, Я-а-начка-а! — уголас пазвала Палута і хутка падбегла да полу: — Ці ж гэта, Яначка, ты-ы? Чаго ты вярнуўся дадому, мой сынок? Можа, збег ад пана Замыжнага?

Але хлопчык нічога не адказаў на мацерыны запытанні: ён моўчкі, потайна ляжаў, баючыся паварушыцца, і відно было, як спуджана паморгвалі яго прыплюшчаныя вочкі.

— Ці ты чуеш, ці не? — гучней і злей гукнула Палута на сынка і штурханула яго рукою ў бок.

Янка раптам узварухнуўся, выпрастаўся і мігам падняўся.

— Мамачка, толькі не чапайцеся. Я вам сазнаюся — я збег ад пана Замыжнага. Вельмі ўжо там з мяне здзекаваліся: не кармілі зусім, білі, папіхалі, спаць не давалі. Я не мог сцярпець і... збег. Не беце, матачка-а... Не магу я служыць у Замыжнага, ні за што не магу і... не буду.

— Брэшаш, распуснік!

— Не, мамачка, дальбог не, — стукнуўшы кулаком у грудзі, пакляўся Янка.

Палута замаўчала і некалькі часу нічога не казала, але скора да яе надышло сумненне, і яна вымавіла да сынка:

— А калі ты хлусіш, што тады будзе? Вось я толькі папытаю ў аканома Сідара, чакай...

— Не, ні каліва не хлушу, ні беднага... Папытайцеся сабе ў дзядзькі Сідара... — умольна гледзячы Палуце ў вочы, апраўдваўся Янка.

Але не паспеў ён дагаварыць свайго апраўдання, як пачуўся стук у акно, а за ім і голас знадворку:

— Палута! Палута-а, га?

Палута кінула Янку, барзджэй падбегла да акна і ўгледзела ў ім Сідара, аканома Замыжнага.

— Ага-а! Сіда-ар! Чаго ж гэта вы? — запытала яна Сідара, прачыняючы акно.

Сідар усміхнуўся і адказаў:

— Чаго! Да ты, пэўна, і сама дагадалася... Гэта ж...

— А што? —запытала Сідара Палута.

— Да, простая рэч, за хлопцам прыехаў. Узяў учора ноччу і збег. Кінуў-рынуў у полі стада, а сам, займаздароў, драла. І ліха ведае, колькі ўчыніў шкоды: у сенажаць, ведаеш, рынула ўсё стада і нашчэнт здратавала з дзесяціну поплава. Эх, такі ўжо, галубка, распусны ён у цябе, такі мудрагельны хлапец, што не дай ты рады. Пэўна, заснуў у пасецы, выпусціў з ваччу стада і з пярэпалаху ўцёк дахаты... Напэўна ж, я думаю, ён у цябе ў дому?

Сідаравы словы не былі наўдою для Палуты: яна зразу, толькі што ўгледзела ў хаце Янку, думала гэта. Да кляцьбы і запэўнення свайго сынка Палута аднеслася з поўнаю няўвагаю. Нават і думкі не дапускала, што яе сынок запэўняе шчыра. Чамусьці яна верыла словам аканома Сідара. Толькі ён скончыў запытанні, як Палута адвярнулася да запечка, дзе насуплена стаяў Янка, і злосна прыкрыкнула на яго:

— Ці ты чуеш, адшчапенец, што дзядзька кажа? Каб цябе паралюш задушыў. Ну ж, я табе пакажу, зараза.

— Ша-ша! — перапыніў Палуту Сідар. — Крычаць — то ўжо ты не крычы на яго... Па-добраму лепш скажы, угавары яго болей так не рабіць...

— Го! не! Я-а яму пака-ажу! Эх, эх! І што мне рабіць з гэтым разбойнікам... светам круціць, на яго ліха...

Яна злосна скрывіла міну, сашчапіла кулакі і намерылася кінуцца на хлопчыка.

— Янка-а! Га, Янка-а! Хутка адзявайся і мігам з дзядзькам Сідарам назад да пана Замыжнага. Барзджэй! — прыказала яна хлопчыку.

— Мамачка, родненькая, што хочаце са мною рабеце, куды хочаце пасылайце — толькі пазбаўце ад пана Замыжнага. Ён замучыць мяне... Там я з голаду памру. Не адпраўляйце мяне з дзядзькам Сідарам... Я з ім не паеду; ён вам няпраўду пра мяне наказаў... — з плачам у голасе, з мінаю на твары, якая выказвала глыбокую просьбу, умольна казаў да мацеры Янка. — Я ўсё роўна там не застануся, калі мяне туды сілаю завязуць. Уцяку, кіну... павешуся лепей ці ўтаплюся, а не ўслужу... — ужо з пагрозаю дадаў ён.

— Як?! Ты мяне яшчэ страшыць уздумаў? Вось я табе дам — павешуся! Бяры андарак ды шапку і гайда назад! — узлаваўшыся да чырвані, крычала Палута.



Янка спужаўся мацеры і паслушна злез з полу, зняў з кручка халацік ды шапку і, уздзеўшы іх, паслушна выйшаў з хаты.

У дварэ сустрэў яго Сідар. Хапіўшы за руку Янку, ён жартліва сказаў:

— Кінь журыцца, нябожа; пакуль жаніцца — загаіцца... Вось забывай усё, лезь на воз і паедзем.

Янка нічога не адказаў Сідару. Галодны ад учарашняга і аслаблы, але не могшы папрасіць у мацеры есці, ён пайшоў да воза і ўсеўся на мяшку з саломаю.

— Янка, Янчка! — радасна кінуўся да яго Хведарка, прыбегшы аднекуль і ўгледзеўшы брата на возе:— Вазьмі і мяне з сабою, я хачу пад’ехаць — я так доўга не катаўся.

Янка нічога не адказаў і братку: ён мэрам і не слухаў, што яму так рад і так шчыра сустрэў яго зусім нявінны ні ў чым Хведарка. Нават і вокам не кінуў на яго, калі пакрыўджаны Хведарка адышоў ад воза, сеў на прызбе і набочыўся.

Не зважаючы на дзяцей, Сідар каля пяці хвілін аб нечым пашаптаўся з Палутаю, а пасля адвязаў каня і крануў з месца.

— Бывай здарова, Палута! — сказаў ён да Палуты і і паківаў галавою.

— Бывайце здаровы, ягамосць Сідар... — дабрадушна адказала Палута і следам дабавіла: — Вы ўжо там не патурайце яму, ушчувайце добра, калі трэба; я яшчэ падзякую вам за гэта... Што з ім цырымоніі разводзіць!..

Сідар засмяяўся і пагнаў каня.

— Што ж, Янка, засмуціўся? Баішся ехаць? Кінь нудзіцца! — абярнуўся ён да Янкі.

Янка маўчаў. Гурток цікавых дзетак, якія сабраліся вакол воза, а цяпер расступіліся і глядзелі, як той аддаляўся, крычалі ўслед Янку розныя выказы: «Вярніся, Янка», «Прывязі яблык, як паспеюць», «Прыязджай на Пётру». У грамадку дзяцей замяшаўся і Хведарка.

Палута ж, толькі Сідар пагнаў каня, пакінула надворак і вярнулася ў хату. Усё, што здарылася з яе сынком, мэрам і не было — адышло на задні план, забылася.

Удачлівы заработак і чародныя клопаты жыцця нахлынулі ёй у голаў і запаланілі Палуту.

І толькі спусціўшы якую гадзіну, — ужо паспеўшы натупацца, збегаць на рынак і вярнуцца назад, — яна выпадкова звярнулася думкамі да Янкі; звярнулася і тут жа ўспомніла, што яна нічога не дала яму есці. Палуту ахапіла мацерына пачуццё спагады да свайго дзіцяці, і яна тужліва прамовіла сабе:

— Ах, на дзіва, на ліха мне! Я ж і перакусіць яму нічога не дала! Можа, і сам ён нічога не браў? Пэўна, што не. Пэўна, што галодным паехаў, небарака, бо што ж ён мог знайсці? Ах, і прыгнала яго нядобрае, гэтага заразу Сідара!..

Прайшоў цэлы тыдзень пасля гэтага. Была нядзеля. Палута, заклапочаная штоднёвым жыццём і яго вымаганнямі, ні разу не ўспомніла пра Янку: не бачыла перад сабою, і здавалася ёй, што малы спакойліва і памяркоўна нясе сваю службу.

Але ў нядзелю зранку, зусім знянацку, штосьць нейкае перавяло Палуціну думку на Янку: «А маладзец, сынок! Бадай, прыладзіўся і цяпер паслухмяна выпаўняе службу. Не пашкодзіла, нябось, што ўшчунула добра».

І толькі Палута выпусціла гэту думку, як знадворку данёсся ў хату знаёмы голас:

— Палута-а! Палутка-а!

Палута ажно здрыганулася ўсёй постаццю і мігам кінулася да акна. Зірнула — і разам падалася назад, нібы яе хтось адпіхнуў. «Ізноў Сідар!» — прамігнула ў яе галаве палахлівая думка. А Палуце падумалася, што гэта не думка, а непрытомны міжвольны выгук...

— Сідарка-а, чаго-о вы ізноў?! — праз які час стрэла яна Сідара, які пераступаў парог у хату.

— Я... я... і нават з дрэннаю весткаю... — з нарачытаю асцярогаю, працягваючы рукі да Палуты, гаварыў Сідар.

— А што, што, што??! — не могучы ўстаяць на нагах, запытала асавелым голасам Палута.

— Палута-а... Шша-а... супакойся-а... бедная... Твой Янка-сь... утапіўся-а... Вунь на возе яго целца... Ідзём узяць. Учора вынялі з сажалкі... Толькі і знайшлі, што ўгледзелі недаплецены кошык на беразе... — казаў Сідар, бязмоцны, каб спыніцца, ад горнасці і спагады да кабеты.

Палута ж ужо не магла нічога казаць: плач сціснуў ёй сэрца да болю.

Сідар кінуўся да яе, каб падтрымаць, але і сам чуў, як калаціліся яго рукі і поцем засціла́ў вочы...

А з усходняга канца мястэчка, праз тры дробных акенцы, даносіўся ў хату гучны трызвон: то званілі на абедню.

*1918*

# АНАТОЛЬ ДЗЯРКАЧ

Паэт-сатырык і празаік Анатоль Дзяркач (сапр. Зімёнка) нарадзіўся 6 (18) красавіка 1887 года ў мястэчку Турэц Навагрудскага павета (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці). Пасля заканчэння Навагрудскага гарадскога вучылішча (1904) пераехаў у Мінск, уладкаваўся пісарам у гарадской управе. Удзельнічаў у рэвалюцыйным руху, трапіў у турму, адбываў ссылку. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў у рэдакцыях газет «Беларуская вёска», «Піянер Беларусі», быў рэдактарам сатырычнага часопіса «Дубінка» (1924–1929).

Пісаць пачаў з 1904 года. Выйшлі зборнікі сатырычных і гумарыстычных вершаў «Пра папоў, пра дзякоў, пра сялян-мужыкоў» (1925), «Бог удвох» (1930), «Качаргой па абразох» (1930), «Усім патроху...» (1930), паэма «Міколава гаспадарка» (1927) і зборнікі для дзяцей «Нашы прыяцелі» (1928), «Першы дзень у дзіцячым садзе» (1928), «Працавітая дзяўчына» (1928), «Звяры нашых лясоў» (1929). Аўтар кнігі «Интервенция и оккупация в Белоруссии» (Масква, 1932).

Перакладаў на беларускую мову вершы А. Пушкіна, С. Міхалкова, М. Асеева, П. Тычыны, У. Маякоўскага, Дз. Беднага, К. Чукоўскага, С. Маршака, А. Барто і інш.

16 кастрычніка 1936 года пісьменнік быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і пасля амаль года здзекаў і катаванняў 5 верасня 1937 года расстраляны. Было яму тады няпоўных 50 гадоў.

## АБРАЗКІ З ЖЫЦЦЯ ПАЛЕССЯ

### Рэчка Лань

Вечар хутка набліжаўся. Цямнелася, у небе зоркі пачалі свяціцца ўсё ясней і ясней. У лесе замоўклі птушкі, лес нібы збіраўся заснуць. Толькі ледзь чутна шапталіся між сабой галіны... Я мінуў гумно і апынуўся на краі вады. Што гэта? — здзівіўся я. Адкуль тутака вада? Вось дык праява! Але ўміг думка ясная, як маланка, асвяціла ўсё маё здзіўленне: гэта Лань разлілася! Памятаю, што ад гэтага хутара да рэчкі вёрст сем, а мо і болей, але вясной Лань разліваецца і затапляе вялікі абшар Па-

лесся. Трапляліся гэткія выпадкі, што іншы год Лань разлівалася так, што разліў яе злучаўся з разлівам Морачы і Случы, і ўвесь абшар паміж гэтых рэчак быў адно мора...

Прыемным халадком веяла ад вады. Вялікія сосны, акружаныя вадой, стаяць ціха, нібы баючыся зваліцца ў ваду, і глядзяцца ў яе, як у вялікае люстра, у якім то там, то сям загараюцца водсветы зорак... Наколькі хапае вачэй — усюды вада... А здалёку адкульсь нясецца ледзьве чутны грукат вады... Гэта там, далёка, дзе Лань робіць круты паварот і ломіць усё, што замінае ёй бегчы на помач Прыпяці.

Нясі ж свае воды, быстрая Лань, нясі ж хутчэй! Мо зноў з тваіх берагоў пачуем голас буйнай волі, як чулі яго нашы прадзеды!.. На тваіх берагах радзіўся Касінскі, а яшчэ і цяперака відаць курганы ваякаў за родны край, за волю! Мо і сягоння разліў твой родзіць волю... Ды ляці, ляці, Лань, хутчэй! Цябе чакаюць Прыпяць, Дняпро, дзе ўжо змагаецца за волю сын Украіны. Ляці хутчэй! Будзі ўсіх, хто заснуў на тваіх берагах, падымай. Хай устаюць, бо час настаў — вясна прыйшла і — час ужо брацца за вялікую працу....

Ноч надышла, і не відаць ужо болей нічога, вада пацямнела, толькі зоркі з высокага неба глядзяцца ў ёй ды ціхую казку шапоча цёмны лес.

Дык бывай пакуль што, быстрая Лань! Нясі поначы свае воды, а заўтра, заўтра чуць сонца праменні зайграюць іскравай брыльянцістай слязой, я ўстану і панясеш ты мяне на грудзях сваіх туды, дзе тарчаць з вады курганы забытых байцоў... Дык пакуль што — бывай!

## Чоўнам далей

Сонца ледзь усходзіла, калі Яўхім пабудзіў мяне.

— Падымайцеся, калі ласка. Ужо пара!

Я ўскочыў і хутка быў гатоў. Паснедаўшы, я прасціўся з усімі і разам з Яўхімам выйшаў з хаты. Зайшлі за гумно, тамака Яўхім з-пад паветкі выцягнуў човен з крыламі і два вяслы. Я дапамог яму ў яго працы, і хутка мы ўжо сядзелі ў чоўне ды звольна плылі па незвычайным моры, якое рознілася ад звычайнага тым, што раслі на ім сосны, елкі, бярозы ды іншыя дрэвы. Праз якіх хвіль пяць я згубіў нават і кірунак і ніяк не мог зразумець, з якога боку мы выехалі. Але прывычная і здольная рука Яўхіма круціла човен то туды, то сюды, так што мы хутка выехалі на чыстую ваду.



— Ну, цяпер ужо паедзем па сенажаці аж да сялібы Апанаса, дзе і заначуемо, стуль ён ужо павязе вас далей, а я вярнуся дамоў, — сказаў Яухім, шпарка пагнаўшы човен.

Праменні сонца ігралі на вадзе, і залатыя брызгі сыпаліся з канца вясла, калі ім узмахваў Яўхім. Над нашымі галовамі штохвілі ляцелі качкі, гусі і іншыя балотныя птушкі.

— Эх, не захапіў стрэльбы — вось бы і абед быў, — з жалем сказаў Яўхім, гледзячы ўслед праляцеўшаму статку гусей, качак. — Ну, але, мусіць, Апанас не спіць, і гусяціны смажанай мы ў яго закаштуемо, — ухмыляючыся, скончыў ён ды налёгся ямчэй на вёслы.

Сонца падымалася ўсё вышэй і вышэй і ўжо досыць добра пякло ў карак. А якая пекната была плыць па ціхай вадзе! З аднаго боку сцяной стаяў лес, адкуль несліся песні птушак, а з другога — кусты, за імі зноў вада, зноў кусты, зноў вада, а здалі зноў сінеў лес...

— Дзівы робіць вясна! — загаманіў Яўхім, гледзячы мне ў вочы і адгадваючы мае думкі.

— Та-ак, гэта праўда, — згадзіўся я з ім.

— Вось бачыце, каб не вада, дык цяпер трэсліся б па грэблі і які круг давалі, а то сеў ды паехаў наўпрасткі, — і ціха, і добра, і прыемна, і быццам у раі.

Доўга гэтак плылі мы, гамонячы з Яўхімам, і раптам ён зарагатаў і звярнуўся да мяне:

— А не чулі вы калі аб тым, як думае паляшук аб стварэнні свету і адкуль узяліся балоты?

— Не, ніколі, — адказаў я яму. — Калі ласка, раскажэце, гэта, мусі быць, вельмі цікавая байка.

— А хто яе ведае, ці цікавая, але што смешная, дык гэта праўда.

— Дык раскажэце, калі ласка! — паўтарыў я сваю просьбу.

— Ну, добра, слухайце, — згадзіўся ён.

## Апавяданне дзеда Яўхіма

— Калі нічога не было, — пачаў Яўхім, — ні зямлі, ні неба, а была толькі паўсюль вада, дух Божы насіўся наўкола гэтай вады, а за ім ляцелі вялікай грамадой анёлы. Доўга яны гэтак лёталі, ажно замарыўся Бог ды і кажа: «Слухайце: гэтак вельмі дрэнна, няма нават дзе прысесці і адпачыць. Гэта не праца, а ліха ведае што». Раззлаваўся ён і гукнуў анёла Гаўрылу: «Гаўрыла!» Той з’явіўся перуном, а Бог яму і кажа: «Вось што, сынок: нырні ты

пад ваду ды захапі ў абедзве прыгаршчы таго, што тамака знойдзеш пад вадой». «Слухаю Божухна!» — крыкнуў Гаўрыла ды з размаху ў ваду — бух! — ажно брызгі заблішчэлі ў паветры... Доўга плыў ён пад вадой і ўжо досыць упарыўся, калі стукнуўся носам, абшарпаўшы яго аб нешта шаршавае. «Мо гэта і ёсць тое, па што мяне паслаў Бог?» — памеркаваў Гаўрыла і захапіў дзве жмені, а падумаўшы троху, напхаў гэтай штукі сабе поўны рот, разважаючы: што ў руцэ — гэта будзе Богу, а што ў губе — яму, дый паплыў наверх. Выплыў, з'явіўся прад вачыма Бога і падае яму. Узяў Бог, паглядзеў на тое, што дастаў Гаўрыла, і кажа: «Га, дык гэта ж зямля! Ну дык хай яна паўсюль прыбывае, тады будзе і нам на чым-небудзь адпачыць». Толькі сказаў гэта Бог, як пачала зямля прыбываць, а ў Гаўрылы — поўная ляпа. І вось як пачало яго перці, дык ён то плюне, то дзьмухне: дзе плюне — там балоты, дзе дзьмухне — там горы. Вось адкуль і Піншчына завялася, — закончыў Яўхім і засмяяўся, здаволены.

Сонца ўжо было далей, як на поўдзень, а мы ўсё плылі і плылі...

## Ганчар

Ледзь світанне, мы былі ўжо на нагах. Апанас закамандаваў бабам хутчэй даваць нам снедаць, каб, доўга не марудзячы, крануцца ў далейшую дарогу. Паснедаўшы, мы выйшлі з хаты на бераг.

— Ну, сябры, — пачаў Апанас, — я еду з Паўлай, а ты, Ганчар, — з Дзергачом.

Ніхто не спрачаўся з ім, і неўзабаве мы ўжо сядзелі ў чаўнох.

— Бывайце здаравенькі! Заходзьце, як будзеце ў нашым баку! — крычаў нам Яўхім, махаючы шапкай.

— Дзякуем! — адказалі мы. І нашыя чаўны, кіраваныя добрай, спраўнаю рукой, панесліся па Лані.

— Эх, і дзянькі стаяць! — уцягваючы ўсімі грудзьмі свежае паветра, сказаў Ганчар. — Ніколі не было такой добрай вясны, як гэтая. Гляньце, як сонца свеціць, як птушкі пяюць у гаі! — І Ганчар увесь неяк насцярожыўся. — Во, чуеце? — казаў далей паказваючы рукой. — Гэта малінаўка заліваецца, а гэта аўсянка піскнула, а вунь там, во, чуеце, дзяцел ужо цюкае сваім дзюбам... Лепшай музыкі і не трэба! Як пачнеш вось так прыслухоўвацца да птушынага гоману, дык так прыемна, спакойна робіцца на душы, што нічога, здаецца, болей і не жадаў бы, каб толькі спакойна заўсёды слухаць, як пяе вясна... Гляньце наўкола: ці ж не да жыцця, не дзеля радасці паўстае прырода? А што ў гэты момант робіць чалавек?.. — У апошніх словах голас Ганчара змяніўся на глухі, і ў яго вачох не відаць было ўжо той радасці, з якой ён гаманіў аб птушках, лесе, аб вясне. — А што робіць чалавек?! — панура казаў ён. — А чалавек у гэту хвіліну рыхтуе стрэльбы, збірае ўсё тое, чым магчыма было б адабраць жыццё ў іншага... Замест той любасці і праўды, аб якой чытаемо ў Евангеллі, мы бачым толькі кроў, агонь і здзек! Дзе ўсе тыя запаведзі Хрыста, аб якіх нам кажуць у касцёлах і цэрквах? Дзе яны? Іх няма! Няма! Чаму няма? А таму, што растаптаў іх чалавек сваёй бруднай нагой, зніштожыў сваім нячыстым пачуццём... А чаму? Таму што няма душы ў чалавека... Няма! — горача казаў Ганчар, і слёзы бачыў я ў яго вачах.

«Божа справядлівы! Хто гэты чалавек? Адкуль ён?» — думаў я, гледзячы на яго, а ён усё казаў:

— Паглядзіце, што сталася: брат ідзе на брата і не відаць канца той бяды, якая цяпер пануе... Кажуць, што гэта пройдзе, і настане мір. Не, у гэта я не маю веры... Не маю веры, бо адвык чалавек быць чалавекам, ён цяпер горай за лютага звера, горай за дзіка, што прэ скрозь лазу, не бачачы перад сабой... Так і чалавек цяперашні: ідзе ён шляхам смерці і не спыніцца, пакуль не ўпадзе... Я бачыў сваімі вачыма такое здарэнне: гэта было тады, калі я быў на Каўказе... Сабралася невялікая купка жаўнераў вакол палонных горцаў і пачала з імі гаманіць на мігі ды іншымі знакамі — мы не разумелі па-іхняму, а яны — панашаму... Начальства забараняла гэткія размовы, але цікавасць брала сваё, і, як толькі была магчымасць выбраць момант, калі ніхто з старшых не бачыў, гаманілі з палоннымі горцамі. Раз у часе гэткай гутаркі са шчыліны ў скале вылез скарпіён і папоўз каля нас. Адзін з нашых жаўнераў хацеў яго забіць, але горац стрымаў яго і, узяўшы ў руку невялічкі кіёк, пачаў перашкаджаць скарпіёну паўзці. Той круціўся на ўсе бакі, але ўсюды спатыкаў кіёк, які не даваў яму ўцячы. Тады скарпіён пачаў скакаць на кіёк. Забава гэтая ўсіх зацікавіла. Хутка горац падаў знак, каб яму далі агню. Хтось з жаўнераў высек з крэмню агню, а другі прынёс бутэльку з газай. Горац зрабіў кійком на пяску равочак наўкола скарпіёна, наліў яго газай і падпаліў. Праз хвілю ўвакруг скарпіёна быў агнявы круг. Скарпіён зашаматаўся, забегаў, соваўся ўсюды, але адусюль полымя агню варочала яго ў сярэдзіну... Бачачы, што ратунку няма, скарпіён сваім джалам забіў сябе... Усе былі здзіўлены, а горцы пераглянуліся паміж

сабой і загаманілі: «Кунак, кунак»! Вось і цяпер, — казаў далей Ганчар, — я бачу, што мы той самы скарпіён...

Ён скончыў, а я моўчкі сядзеў і думаў аб яго гутарцы і аб ім самім. Хто ён, гэты Ганчар?

Вецер пачаў мацнець, і малыя хвалі вады пераліваліся, абганяючы адна адну на рацэ: сон хіліў маю галаву і, калышучыся ў чоўне, як у калысцы, я заснуў.

## Лес кліча!

Неба пакрылася чорнымі хмарамі, і вецер загуляў, заспяваў сваю вольную песню, гонячы прад сабой, як статак пастух, грозныя хвалі... Човен кідала то ўніз, то ўгару, і здавалася, што вось-вось ён нырне носам у ваду і згінем мы сярод хваль пад гоман непагоды... Але моцная рука Ганчара спраўна кіравала чоўнам, і ён, як птушка, ўцякаючая з лап каршуна, плыў паміж сярдзітых хваль, што наганялі яго і злосна грызлі бакі. Вось бліснула маланка і грукнуў гром.... Першы гром! Дык здароў будзь, першы гром! На роднай старонцы! Грымі грамчэй, каб чулі цябе ўсе па ўсім краі! Ты першы веснавы гром! Якія нясеш ты нам мары?! Да чагоклічаш? Але не давала адказу неба, толькі лес шумеў, біліся хвалі аб берагі ды — шапацеў сухі сітнёг.

Хутка даплылі мы да берага, прывязалі чаўны і выйшлі, каб схавацца дзе ў лесе ад непагоды. А неба чарнела, часцей на ім маланка гуляла і грукацеў гром. Вецер мацней рваў галіны з дубоў і далёка-далёка нёс іх, а потым кідаў у чорныя хвалі; лес гудзеў, хісталіся вялікія сосны, трашчалі дубы і грабы, гнуліся белыя бярозы. І вось раптам страшэнны загрукацеў пярун і пачаў ліцца буйны дождж. Кроплі дажджу каціліся па сцёблах дрэваў, нібы слёзы радасці за тую пакуту, якую неба пасылала на зямлю. Ліў дождж, а лес шумеў прыветна, дзякуючы небу за насланую ваду.

Ціха стаялі мы, прыхіліўшыся да дуба, і чакалі, пакуль сціхне непагода, каб плысці далей. Урэшце перастаў ліць дождж, вецер пагнаў цёмныя хмары, раскідаў іх па шырокім небе, праменні сонца загулялі і засвяціліся мільёнамі брыльянцістых агнёў у кроплях дажджу.

Праз хвілю мы зноў плылі па Лані, хвалі ўжо забыліся на сваю злосць і ласкава гналі сабою човен. На берагах з абодвух бакоў блішчэў абмыты лес і клікаў да сябе... Яго шум надзіў і абяцаў таму, хто прыйдзе да яго, супакой душы, шчасце і ціхую радасць.



Шумі, шумі, зялёны лес! Шумі мацней, хай пачуюць цябе людзі, бо ты клічаш, клічаш іх да сябе... Дык чакай, чакай, родны лес! Хай ніхто на кліч твой не адгукнецца, хай ніхто не працягне да цябе, як да збаўцы, рукі, але мы, мы ўжо пачулі кліч твой! Мы зразумелі яго! Чакай! Мы прыйдзем!..

## Перацяг

Сонца ледзь усходзіла, калі мы пад'ехалі да рэчкі.

Ад ракі ішоў туман, падымаючыся ўгару; недзе жаласна пішчалі кнігаўкі, пераклікаліся кулікі ў зялёных сітнягах, чырыкалі качкі, а ім усім дапамагалі, вельмі стараючыся, жабы. Над ракой стаяў такі гвалт — быццам на кірмашы.

Яўхім, застанавіўшы каня, злез з воза, паражагнаўся, зняўшы шапку, на сонца, агледзеўся і прагаманіў:

— А Базыль — на тым баку. Трэба будзе доўга крычаць, пакуль яго даклічашся.

І ён, не марнуючы часу, гукнуў:

— Ба-зыль! Давай перацяг!

Доўга крычаў Яўхім, але з таго боку ракі не было ніякага адказу, толькі мацней пачалі крычаць кулікі ды жабы часцей кракталі ў балоце.

— А каб вас агонь папаліў! — раззлаваўся на іх Яўхім. — Сціхніце, праклятыя!

Але тыя не думалі сціхаць і яшчэ больш паднялі кірмаш.

— Базы-ы-ыль!!! — цягнуў Яўхім, нагнуўшыся да вады.

Урэшце, з другога боку, аднекуль з туману, паказаўся перацяг і з яго пачуўся голас:

— Чаго ляпу разявіў? Бога не баішся!

— А ты чаго не адгукнуўся? — гукнуў Яўхім да голасу з туману.

— Адгукнуўся! — адазваўся той, перадразніваючы Яўхіма. — А ты нешта не чуеш, што ўсялякае стварэнне з сонца радуецца, Бога хваліць, а ён пражэцца няведама чаго.

Праз хвілю мы былі ўжо на перацягу і ціха плылі.

Базыль быў зусім сівы, высокі, худы, ён сваім тварам прыпамінаў мне святога Міколу. Моцна цягнуў ён касцістай рукой бярозавы канат; увесь ён нібы прыслухоўваўся да гоману, які стаяў над ракой.

— Вось, чуеце, — пачаў Базыль, — як Божа стварэнне цешыцца з сонца і жыцця, — на розныя галасы яны вітаюць дзень.

Усялякая птушка, усялякі жучок, усялякая жабка па-свойму падае голас радасці.

— Але чаму ты не адзываўся? — сярдзіта перабіў яго гутарку Яўхім.

— Не адазваўся, не адазваўся! — накінуўся на яго Базыль. — А ці магчыма мяшаць стварэнню Божаму, калі яно моліцца? Магчыма? А? Нябось маўчыш, бо ведаеш, што няможна; ну, дык вось і не адазваўся! — скончыў ён ды зноў увесь прыслухоўваўся да галасоў прыроды.

Хутка мы зноў цягнуліся з Яўхімам па грэблі, пакінуўшы старога Базыля прыслухоўвацца да гоману Божага стварэння.

— Ну, вось і рабіце з гэтакім чалавекам, што хочаце, — загаманіў Яўхім.

— І заўсёды ён гэтакі? — запытаўся я.

— Заўсёды!

І мы абодва замоўклі, нібы баючыся памяшаць стварэнню Божаму, што паўсюды наўкола нас малілася.

## Кальск

Ужо сонца праменні гулялі ў кроплях расы на лістах дрэваў, калі мы, паснедаўшы, крануліся далей у дарогу.

Мы едзем і едзем, і здаецца нам, што канца не будзе гэтай яздзе. Цягнешся то скрозь цёмны лес, то праз балоты, зноў праз лес, зноў праз балоты, а думка ў галаву прыходзе сама: чым жа тутака людзі жывуць, калі поля не відно? А людзі жывуць, жывуць і як прывольна! Погляд у іх смелы і моцная рука...

Вось, бачыш, далёка, дзе здаецца балотку канец, чырвоная страха скрозь галіны блішчыць... Што гэта? Гэта Кальск. Праз гадзіну будзем мы там. Зараз грэблі канец, пойдзе пясок, мінем апошні лясок і пойдуць палі, тутака і будзе Палессю канец...

Вось мы ўжо і ў Кальску. Выпраг Яўхім каня, а я хаджу па вялікім садзе. Каля пустога вялікага дома ліпы старыя шумяць, забіты вокны, скрозь іх нічога не відаць... Нехта ідзе высокі худы, падазрона вочы глядзяць з-пад сваіх брывоў.

— Добры вечар! — здымаю я першы перад ім шапку.

— Вечар добры! — адказвае. — Адкуль самі, ці здалёку? — пытае.

— А як вам, пане дабрадзею, сказаць? — адпавядаю я. — Здалёку ці не здалёку, але ад раніцы едзем і вось тутака прымушаны адпачыць.



— Што ж, добра, дык прашу да мяне ў хату, — адказвае мой новы знаёмы.

— Дзякую, я вось сад аглядаю, — кажу я. — Вельмі добры!

— Праўда, сад добры, — згаджаецца ён.

— А што ў гэтай хаце? — зноў пытаю.

— Эх, — уздыхае ён, — у гэтай хаце жыў вялікі чалавек — «художнік» адзін, пэўне, бачылі яго малюнкі, абразы ён усё маляваў, Катарбінскі прозвішча яго.

— Катарбінскі? — здзівіўся я. — Дык ён тутака жыў?

— Але жыў, гэта ж студыя яго, — адказаў ён і ўздыхнуў.

— Ці не можна было б паглядзець яе ў сярэдзіне? — запытаўся я.

— Чаму не? Але ўсё, што было ў ёй, знішчожана... Пойдзем, ключ разам са мной.

— Чаму знішчожана? — запытаўся я.

Мы ўвайшлі ў сярэдзіну таемнага дома праз вузкія з шыбамі дзверы і апынуліся ў вялікай зале ў два прасветы.

— Вось гэта і ёсць яго студыя, — паказаў ён на пустыя сцены.

Я стаяў і дзівіўся: на падлозе ляжалі паламаныя рамы, рваная папера, валяліся пэндзлі, фарбы, банкі з-пад аліў, ну, быццам хто пагром вялікі ўчыніў у студыі маляра.

— Што дзівіцёся? — запытаў мой правадыр. — Гэтак зрабілі тыя, што людзей да святла, да сонца вялі.

— Хто? — не зразумеў я яго.

— А яны! Тыя, што рай на зямлі абяцалі!

— А-а! — уцяміў я. — Дык вось вы, братачкі мае...

Я доўга стаяў, як акамянелы, і зразумець і да гэтага часу не магу, навошта дзеля шчасця і святла народа знішчажаць тое, на чым не раз вочы гэтага самага народа маглі б адпачыць, адпачыць на пекным малюнку мастака?

Я выйшаў адтуль з цяжкай думкай. Сонца закацілася, і замест яго месяц свяціў. На высокіх ліпах пеў салоўка. Было ціха вакол. Ветрык гуляў, лісткі калыхаў. На невялічкай сажалцы, як у люстры, з неба зоркі свяціліся.

— Пойдзем у хату, — пазваў мяне мой новы знаёмы. — Вось тутака праз сад бліжэй! — і мы пайшлі.

## Ляснік Сцяпан

З-за стала ўстаў к нам насустрэчу чалавек высокага росту, у белай кашулі, з шырокім чырвоным поясам, за якім тырчаў дубальтовы пісталет.

— Здароў, Сцяпан! — звярнуўся да яго Яўхім. — Чаго вытрашчыў буркулы? Прымай падарожных!

— Падарожных? — прыемным голасам адазваўся той. — З вялікай ахвотай; сядайце, калі ласка, — дабавіў ён, выходзячы на сярэдзіну хаты і здароўкаючыся з намі.

— Куды Бог нясе? — запытаў ён, калі мы ўсе ўселіся за стол.

— Ды вось вязу іх на станцыю, — сказаў Яўхім, кіўнуўшы галавой у мой бок.

— А-а! — працягнуў Сцяпан, зірнуўшы на мяне. — Далёка едзеце? — запытаў ён.

— У Мінск, — адказаў я.

— Вось яно што! Чаго ж так хутка ўцякаеце з нашых краёў? Цяперака самая прыгожасць настае ў лесе.

— Я хутка звярнуся, — адказаў я.

— Хіба што так, — кіўнуў ён галавой, — а то, бачыце, нават і грэх уцякаць з лесу, калі ў ім цяперака толькі і жыць. Вось я дык з яго і не вылажу, усё ў ім сяджу, толькі дамоў есці заходжу, дый то, адчыніўшы вакно, чую, як ён шуміць і гамоніць сам з сабой. Вось толькі прыслухайцеся добра, як гутарыць ён, нават другі раз здаецца, што добра разумееш, аб чым гамоніць лес. Я толькі ніяк не зразумею ўсіх тых людзей, што ўвесь свой век жывуць у горадзе і нават, магчыма, не бачылі ніколі праўдзівага лесу.

— А які такі праўдзівы лес? — запытаўся я, зацікавіўшыся яго гутаркай.

— Праўдзівы лес той, — пачаў Сцяпан гутарыць далей, — у якім будзеш хадзіць цэлы дзень і не спаткаеш ніводнага чалавека, дзе не ўбачыш нават і следу, што тутака быў чалавек. І, праўду сказаўшы, не люблю я людзей і гора таму, каго я злаўлю з сякерай у лесе! Па-мойму, лепей хай ударыць мяне па галаве сякерай, але не па жывым дзераве, — горача гаманіў ён, стукаючы па стале кулаком.

— Вось які ён у нас! — усміхнуўся Яўхім.

— Так, браток ты мой! — гарачыўся Сцяпан. — Дрэвы я люблю болей, чым сам сябе, і ў крыўду іх не дам!

Доўга яшчэ гаманіў ён, нападаючы на людзей за лес. У душы я згаджаўся з ім. Выйшаўшы з хаты, я сеў на ганку. Лес шумеў сваю песню, а за дзвярыма Сцяпан пагражаў людзям за крыўду, якую робяць яны лесу.



Ужо сонца зайшло і замест яго месяц свяціў, калі мы з Яўхімам апошні раз папрашчаліся з Сцяпанам і крануліся далей.

— Не запамятайце вярнуцца ў лес! — крыкнуў Сцяпан мне ўслед і, закінуўшы стрэльбу за плечы, згінуў у гушчары арэшніку, а мы паехалі далей.

## Чыгунка

Ужо добрая ночка была. Зоркі гарэлі на небе. Месяц ясна свяціў. Галіны шамацелі на дрэвах, дзе-нідзе крычала сава, ціха шумеў лес...

Раптам аднекуль здалёку данёсся свіст.

— Што гэта там такое? — запытаў я.

— Гэта чыгунку чуваць! — адказаў мне Яўхім.

«Чыгунка!» — мігнула думка ў мяне і жальба душу сціснула. Хутка ўжо, хутка не буду бачыць я цябе, дарагі мой лес! Ты будзеш тутака без мяне шумець, гаманіць свае цудоўныя казкі, без мяне будзеш гудзець у буру...

Але не, чую, што хоць буду ад цябе я далёка, край мой родны, аднак душа мая будзе разам з табой, думка мая будзе заўсёды тут, сярод гушчару, сярод цябе, мой родны лес!.. Хай панясе мяне цягнік далёка адсюль, але душа мая будзе разам заўсёды з табой, з табой, мой родны лес! Я хутка звярнуся да цябе, мой лес! Я толькі на хвілю цябе пакідаю! Дык чакай мяне, лес, не запамінай мяне, а я добра буду помніць казкі твае, што душу мне абнавілі. Мары-запаветы твае будуць вечна ў мяне ў душы.

*1920*

# ЯЗЭП МАЗУРКЕВІЧ

Празаік, крытык, краязнавец Язэп Мазуркевіч нарадзіўся ў 1887 годзе ў вёсцы Целякава Ігуменскага павета (цяпер Уздзенскі раён Мінскай вобласці). Скончыў Багушэвіцкую настаўніцкую школу, з 1904 года працаваў настаўнікам. Падчас польскай акупацыі (1919–1920) прымаў удзел у партызанскай барацьбе, быў арыштаваны палякамі. Пасля заканчэння вышэйшых Мінскіх курсаў беларусазнаўства выкладаў беларускую мову і літаратуру ў савецка-партыйнай школе ў Віцебску, на рабфаку, у сярэдняй агульнаадукацыйнай школе, адначасова быў супрацоўнікам Віцебскага краязнаўчага музея.

Пісаць апавяданні пачаў з 1921 года. Першыя апавяданні з'явіліся ў друку ў 1924 годзе. Друкаваўся ў часопісах «Маладняк», «Полымя», у газетах «Заря Запада», «Віцебскі пралетарый» пад псеўданімам Я. Цікавы. У сваіх творах Я. Мазуркевіч раскрываў падзеі грамадзянскай вайны, партызанскай барацьбы на Беларусі, пачатак паваеннага часу. Ён быў адным з арганізатараў і кіраўнікоў Віцебскай філіі «Маладняка» і Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), дэлегатам першых з'ездаў гэтых арганізацый і Першага ўсесаюзнага з'езда пралетарскіх пісьменнікаў (Масква, 1928), уваходзіў у склад Цэнтральнага Бюро «Маладняка» і БелАПП. Шмат пісаў краязнаўчых нарысаў, аглядных літаратурна-крытычных артыкулаў.

15 верасня 1937 года быў арыштаваны Віцебскім НКУС і 4 лістапада таго ж года расстраляны на 50-м годзе жыцця.

## ВІРАПЛЫНЬ

*Фрагменты*

### Універсітэт

Ён застаўся сіратой малым хлапчуком, як скончылася 10 гадоў. Памёр яго бацька ад воспы. Пры бацьку, бывала, кабылу паглядзіць або валоў папасе, — столькі з яго і работы было. Як памёр бацька, гаспадарка развалілася, бо Цішка не мог правіць, ды неяк і не цікавіўся ёю.



Павядзе кабылу пасвіць, возьме кніжку з сабою, як зачытаецца, дык толькі суседава пуга прывядзе яго да рэчаіснасці, што кабыла даўно ў аўсе ходзіць. Чытаць ён навучыўся неяк надта борзда — ледзь не сам сабою, а пісаць доўга не ўмеў. А калі пайшоў у школу, вучыўся вельмі добра. Толькі вучыцца доўга не прыйшлося, трэба была зарабляць.

Стаў Цішка батраком, доўга на пана працаваў, а пасля на франтах бадзяўся. Спярша пры цары, а далей і за справу пралетарыяту паваяваў з данскімі казакамі, чэхаславакамі і палякамі. Быў на Дану, быў у Сталінградзе, у Калачы, у Камышыне, Саратаве, абхадзіў амаль усю Беларусь у час барацьбы з палякамі.

Вярнуўшыся дадому, Цішка ўзяўся за гаспадарку, а разам і за грамадскую працу. Чаго толькі не рабіў Цішка ў гэтай галіне: і ў сельсавеце дапамагаў, і спісы па сельскагаспадарчаму падатку пісаў, і ў раёне працаваў і па пісарскай частцы і па адміністрацыйнай. Раз ледзь яго бандыты не забілі. Папаўся ён у лесе ім, як прадпадатак збіраў. Добра яшчэ, што конь добры быў і яму ўдалося ўцячы. Увесь час марыў аб навуцы, прасіўся ў ячэйцы, каб паслалі куды-небудзь вучыцца, але доўга гэта яму не ўдавалася.

Зноў на руках працоўныя мазалі з'явіліся, бо прыходзілася працаваць на даных яму трох дзесяцінках. Пакуль справа добра ішла, нават гаспадарку завёў. Але як на грэх з жонкаю пачаліся не лады. Прыглянуўся ёй адзін мужчына, і пачаліся спрэчкі і непаразуменні. Цярпеў Цішка доўга, а пасля вырашыў, што лепей за ўсё трэба ехаць вучыцца і такім чынам выбавіць сябе і жонку ад непрыемнага становішча. А там відаць будзе. Можа, раздумаецца, бо вельмі цяжка яму было — жонку ён дужа любіў.

Доўга не ўдавалася яму справа з вучобай, але нарэшце дабіўся свайго, і вось ён ва універсітэце.

Па доўгім калідоры універсітэта пахаджала натоўпамі моладзь. Замучаны клопатамі пры выездзе з дому, рознымі перашкодамі і бояззю, што яго не пашлюць вучыцца, Цішка Гутарэвіч адчуваў тут сябе здаволеным.

У час гэтай мітусяніны неяк знікала з кругагляду асноўнае — гэта прагнасць да навукі, але цяпер ён аддаваўся ёй увесь, стараўся ўвабраць у сябе ўсе веды, што выкладаліся тут і часта яму станавіліся незразумелымі надакучлівыя запытанні з боку некаторых няўважлівых студэнтаў, а асабліва аднаго з іх, Таўкача, які любіў задаваць «задзёрыстыя» пытанні кожнаму выкладчыку.

Мары збываліся, ён — у крыніцы ведаў, і перад ім адчыняліся шырокія, новыя кругагляды. Гутарэвіч любіў вучыцца. Асабліва падабалася яму чытаць, забраўшыся ў дзяржаўную бібліятэку, рабіць выпіскі, заметкі на тэмы пісьмовых прац або па заданні. Любіў ён слухаць лекцыі, асабліва па літаратуры, і ніколі не прапускаў выпадку прыняць удзел у дыспутах і літвечарах. За кароткі тэрмін ён пазнаёміўся амаль з усімі выкладчыкамі і сур'ёзна разглядаў канспекты заданняў з мэтаю іх распрацоўкі. Матэрыял быў вялікі, а часу для распрацоўкі — мала.

— А ты толькі слухай іх, дык кожны талкуе, што без яго дысцыпліны на свеце жыць няможна, — гаварыў Таўкач. — А трэба злавіць сутнасць, дык далей само пойдзе.

— Каб сутнасць злавіць, трэба ведаць увесь матэрыял дысцыпліны, — заўважаў Гутарэвіч.

— А ты вось паслухай і будзеш мець сутнасць па мовазнаўстве. — І, стаўшы ў позу, ён голасам прафесара прагаварыў: — Вывучэнне акання, якання, выкання, дзекання і цекання на Беларусі — мае нязмерную важнасць.

Студэнты рагаталі вясёлым залівістым смехам.

Гутарэвіч пайшоў у аўдыторыю мовы, каб упэўніцца ў словах Таўкача. Высокі важны прафесар рабіў свае тлумачэнні па мовазнаўстве.

— Назоўнікі іменныя пры дзеясловах, што азначаюць спакойнае прабыванне на месцы, заўсёды стаяць у прыладнымпрэдыкатыўным...

Было трудна разумець, але Гутарэвіч уважліва слухаў і назіраў. Рабілася ўражанне, як быццам здаровы дрывасек забівае жалезны клін у тоўсты камель палена і без натугі, але з усяе сілы, гакае доўбняй па ім зверху.

З імпэтам галоднага хватаўся Гутарэвіч за працу, і асабістыя перажыванні станавіліся маленькімі, зусім нязначнымі. Ён улез у навуку з галавой і адчуваў, што ў яго няма грунтоўных ведаў па многіх дысцыплінах. Ён напружваўся і не адставаў ад сваіх сяброў, што мелі сярэднюю асвету. Пад канец заняткаў Гутарэвіч пайшоў у другую аўдыторыю, дзе маленькі, поўны, як сьвяточны піражок, прафесар літаратуры, які выслаўляўся заўсёды кругленькімі, як і сам, словамі і выразамі, што каціліся гарохам з яго рота з мяккімі дзеяслоўнымі канчаткамі беларускага ўсходу, чытаў лекцыю па літаратуры.

— Калі наш паэт кідае свой погляд на гістарычнае мінулае, то ён ніколі не дае нам шырокіх малюнкаў, — гаварыў ён, перабіраючы маленькія лісцікі заметак, запісаныя макавымі зярнеткамі слоў. — Трэба сказаць, што гэты сімвал напамінае нам аналагічны вобраз французскага рамантыка дэ Віні, — сыпаліся гарошыны і мімавольна лезлі ў памяць.

«Ну, з гэтым прадметам я лёгка спраўлюся», — думаў Гутарэвіч пад размераны гук прафесарскай лекцыі.

З таварышамі Гутарэвіч зжыўся, і часта бывала, што ў яго групе ён з'яўляўся самым развітым і дапамагаў другім. Хоць і трудна было вучыцца, але ён першы запісаўся ў гурток ленінізму, дзе рабіў некалькі раз даволі ўдалыя даклады, а калі прыйшлося яму выступіць у падшэфнай вайсковай часці, дык там устроілі яму цэлую авацыю за прамову, якую ён сказаў дэмабілізаваным чырвонаармейцам.

Так неўзаметку прабегла зіма. Вясною настаў больш цяжкі час. Трывожыла вясна. Кругом бурліла жыццё, а на душы ў Гутарэвіча было цяжка, давіла адзінота. Нікому нічога ён не гаварыў, перажываў у сабе. Дый каму скажаш. Даволі ўжо, што з Таўкача, каторы на гэтым тыдні атрымаў павестку на суд аб разводзе, усе смяюцца.

«Не, лепей памаўчу», — думаў Гутарэвіч і замест канікулаў узяў на сябе абавязкі тэхнічнага сакратара студкама і дамоў не паехаў. Ды ніхто яго дадому і не прасіў. Лісты атрымоўваліся надта рэдка: адзін, два ў месяц, дзе паведамлялася, што дзеці здаровы, а іншы раз пісала старшая дзевачка, што вучылася ў сямігодцы.

Першае Мая сустракалі вечарынкай. Было весела, але Гутарэвічу гэты банкет напомніў вясёлыя часы радасных перажыванняў з той, што палюбіла другога і цяпер з ім п'е радасць жыцця.

«Не, трэба цвёрда рашыць закончыць асвету — вось маё заданне». І ён з удзесяцяронаю сілаю зноў кідаўся ў працу.

Заканчваўся вучэбны год.



## Раніцаю

Здранцвела рука. Ногі не варушыліся. Было неяк не па сабе. Усё цела, абгорнутае холадам, адмаўлялася служыць і выпаўняць загады мозгу. У вушах увесь час хтосьці соты раз пераказваў словы: «Гэй, мой конік, гэй, мой сівы»... Гутарэвіч адкрыў вочы. Высока пад столлю, на печы, сядзела двое дзяцей, хлопчык і дзяўчынка, ахінуўшыся дзяружкай. Хлопчык вучыў верш, трымаючы кніжку пры самым носе і нахіляючыся к маленькай газніцы, воўчым вокам блішчэўшай на гзымсе вялікага коміна.

— А што, мо ўжо паедзем? Скора раніца...

Перад ім стаяў Пятрок Бык, яго падводчык, усё ў тым жа кажусе з каўняром-засланкаю, у валёнках. Гутарэвіч устаў з пасцелі. Яго праймалі дрыжыкі ад холаду. Праз вокны, пакрытыя тоўстым кажухом белага мядзведзя-марозу, дзьмуў холад. Ложак быў цвёрды, як камень, на голых дошках была наслана кулявая салома ў палец таўшчынёю і заслана раднянай дзяружкай, не бачыўшай вады ад часу свайго нараджэння. Падушка мела многа агульнага з паўтарапудовым мяшэчкам «чатырохнулёўкі» мукі, бо была гэтак жа шчыльна напакавана сечаным пер'ем, якое, нягледзячы на густую палатняную навалачку, вылазіла вострымі асцюкамі праз швы. На гэтым ложку можна было б змясціцца свабодна тром чалавекам, і падгнілыя ўнізе дошкі сведчылі, што тут змяшчалася цэлая сям'я. У галавах ложка стаяла фаса чуць не ў рост чалавека. Як відаць, у ёй было збожжа, бо яна была пакрыта дзяружкай з дранак, якой звычайна засцілаюць сядзенне ў возе. Гутарэвіч надзеў боты і пайшоў мыцца. У кутку пад абразамі стаяў палітураваны стол, а кругом яго некалькі крэслаў. З боку ад іх была прыгожая шафа. Пакой быў даволі вялікі і чысты, з новай падлогай і перагародкай для спальні. Гутарэвіч выйшаў у пярэдні пакой, кухню.

— А вось над гэтым цэбрам мыйцеся, — сказала гаспадыня, падаючы яму конаўку з вадою і робячы прыемны твар.

Яе слановыя ногі-валёнкі нязграбна соўгаліся каля чыгуноў рознай велічыні, каторыя яна ўстаўляла ў печ пры дапамозе вілак, падкладаючы пад вілачнік дзеравяны круглячок і, як на калёсцах, закочваючы чыгун далёка ў пастку чырвона-прагнай печы, дзе круцілася бурае полымя смалякоў. У цэбры, над якім Гутарэвіч мыўся, была мякіна. Ад яе несла прэлым пахам доўгай ночы, так што нават яго нос, хворы на хранічны катар, змусіў адвярнуцца. У вадзе былі кусочкі лёду і камячкі снегу, якія шчыпалі твар. Лінуўшы некалькі разоў вадою, Гутарэвіч ступіў ад цэбра, але раптам дзверы адчыніліся і ў хату дзьмухнуў клубам пары белы снегавей. Разам з ім у хату ўплылі дзве белых здані і, нарабіўшы скрыпу на ўсю хату прамерзлымі валёнкамі, пачалі акачанелымі пальцамі страсаць з адзежы снег. Гаспадыня ўзяла венік і, як снегавыя бабы, пачала абмятаць увайшоўшых людзей. Разам з яе рукамі, увіхаючыся паспець за імі, падляталі раздзёртыя ў шматы полы і рукавы яе кажушка, уздрыгвалі вялікія поўныя грудзі, нібы імкнучыся вылезці ў прарэз кашулі, зашпіленай зверху на адзін гузік. Дзяўчынка саскочыла з печы і, узяўшы з-пад партрэта Леніна, што вісеў разам з абразамі, ручнік, падала яго Гутарэвічу. Скора ўсе разам з прыезджымі ўзяліся за снеданне.



Завіруха супакоілася. Яны выехалі ў раён.

Конь бег шпарка. За грэбляй пачынаўся лес. Старыя вялізныя елкі толькіківалі сваімі верхавінамі ў такт ветру. Дарагія ўборы снежных шатаў цяжкімі складкамі ляжалі на вецці. Дарога ляжала шырокаю пухкаю белаватаю пярынаю. Было ціха. Снег павольна тоўстым пластом укрыў усё, што не варушылася, стаяла на месцы. К вечару Гутарэвіч быў у сяле, дзе знаходзіўся райвыканкам, месца яго камандзіроўкі.

## Праверка

Стрынгель спаў дрэнна. Усю ноч яму снілася нейкая бязглуздзіца. Немаведама, чаму ён не супрацоўнік райвыканкама, а фурман і павінен злавіць вось гэтага старога, хударэбрага каня. Ён і кажа:

— Гэтага? Гэтага злаўлю!

Але чуць ён кінуўся за ім, як конь зрабіўся прыгожым жарабцом, храпянуў агнём з ноздраў, падняў трубой хвост і, ударыўшы капытамі, заржаў на ўсё поле, а пасля, адвярнуўшыся да яго, выскаліў свае конскія зубы і зарагатаў.

— Паслушай, Паша! Да вставай жэ ты, бумагу какую то із РЫКа прынеслі. Вызывают.

— Мм... Тпру, тпру, тпру!..

— Паша, да что ты? Очумел что лі? Слышыш, вставай! В РЫК вызывают!

— А, что? Вызывают! Мм... Кого вызывают?

— Цебя вызывают. Что с тобой стало? Всю ноч з какімі-то лошадзьмі возішься. Вставай!

— Ах, да кто куда вызывает? Что ты прыстала?

— В РЫК цебя вызывают. Сторож говорыл, что равізор з цэнтра прыехал, экзаменовацъ по-беларускі будзет.

Стрынгель усхапіўся і сеў. Рукі церлі вочы, што недаўменна пазіралі ўвакруг.

— Экзаменовацъ по-беларускі... Опяць. Да когда жэ, наканец, оні оставят эту камедзію. Вот уж дзейсьцвіцельна нацпаліціка. Да ведзь это што. Можэт, так, болтовня?

— Нет, бумагу прынеслі. Одзевайся і пей чай.

«Бумагу»... Нервова выцягнуў руку за паперкай. На ёй значылася. «Супрацоўніку N раёну X акругі т. Стрынгелю.

Упаўнаважаны па праверцы правядзення нацпалітыкі ў вашым раёне просіць вас з’явіцца ў РВК з дзелаводствам для асабістай праверкі па белмове. Упаўнаважаны Гутарэвіч».

Стрынгель яшчэ раз працёр вочы, прачытаў паперу, палажыў яе на падушку і пачаў нацягваць нагавіцы і суконныя панчохі на ногі. «А, ну што ж. Нада ідці. Занесу ему дзелаводсгва. Пусьць любуецца». І ён пачаў шпарка мыцца і адзявацца.

— Да ты хоць чаю выпей, ведзь ешчо рана. Ревізор тот ешчо наверна сьпіт, — гаварыла жонка

— Ну і чорт з нім. Чаю не хачу. Рана! Ужэ 10 часов. Спалось скверно. Я пойду.

Калі ён выйшаў на ганак, то ўбачыў, што з партфелем пад пахай у райвыканкам прэцца начальнік міліцыі. Параўняўшыся, апошні сказаў:

— Што, і вы на экзамен?

— А чорт его знает, прыслалі какую-то бумагу явіцца, — адказаў першы, падаючы руку, і дабавіў: — Да вам что, вы там гуторыце на мове, а я, знаеце, не могу одолець этой... Да і вообшчэ счытаю всё это временным.

Яны ішлі па раз’езджанай вуліцы. З прыгорка, насунуўшы шапку страхі, паглядаў райвыканкам. Поле бялела абрусам. Па балоце, дзе сям-там стаялі стагі сена, падымалі ў неба, як антэны радыё, свае вярхі — высокія жэрдкі на стажарнях. Узгоркі моршчылі свой твар вясёлай ухмылкай марозлівай раніцы. Каля студні дробным боем піянерскага барабана сыпалася гаворка баб. Стукалі вёдры аб зруб, абледзянелы і коўзкі. Каля кааператыву стаяла некалькі фурманак. У неба роўнымі слупамі, як працяг камінны на страсе, віўся рознакаляровы дым у залежнасці ад праменняў сонца, што пырскала з-за ўзгоркаў яскравымі дыяментамі па белым снезе, які рыпеў у ціхім паветры пад нагамі.

— А глядзеце — гэта ж там нешта ляжыць, — сказаў начальнік міліцыі і рашуча пайшоў па глыбокім снезе к чорнаму прадмету, які, як кот, ляжаў клубочкам на полі за вёскай, воддаль ад дарогі. На снезе відаць былі сляды саней і каня па непарушнай гладзі. Стрынгель застанавіўся.

— Шапка, — крыкнуў начальнік, падымаючы шапку і варочаючыся назад. — Мусіць, п’яны згубіў, — дадаў ён, стукаючы нагамі па цвёрдай дарозе, каб абабіць з ботаў снег.

Стрынгель нездаволена агледзеў простую, лахматую, авечую шапку, уласнік якой не адчуваў марозу і згубіў са сваёй хмельнай галавы ахову вушэй, і прагаварыў:



— Нехорошо. Мне во сне конь смеялся, вы шапку нашлі. Нехорошо.

— Ды кіньце вы, што тут нядобрае для нас? Глупства ўсё гэта, усё забабоны, — адказаў начальнік, і яны пайшлі ў райвыканкам.

* * *

У кабінет старшыні райвыканкама ўваходзілі па адным і прысаджваліся на рамы кушэткі з праламаным сядзеннем і на канапу з вытаракшымі спружынамі, разам з якімі з-пад кармазынавага аксаміту выглядала рагожа. На вялікім крэсле з выдаўленым сядзеннем, падобным да галоднага жывата някормленай жывёлы, сядзеў Гутарэвіч. Абапал яго былі старшыня райвыканкама і старшыня райпрафбюро. Дзелавод увайшоў бокам, правым плячом уперад і на ўсякае пытанне на экзамене крыху згінаўся наўскос, не папраўляючы свайго палажэння. Нават паперу пісаў, седзячы бокам на крэсле. Сакратар па спіску вызываў супрацоўнікаў аднаго за другім.

— Позвольце войці, — раздаўся ўпэўнены ў сабе голас, і разам з гэтым у кабінет увайшоў Стрынгель. — Вот, чэсць імею быць. Явілся, согласно распоряжэнію вмесце с дзеламі, кої напісаны по-белорускі. — З гэтымі словамі ён палажыў перад Гутарэвічам некалькі «дзел».

— Прашу садзіцца, — сказаў Гутарэвіч і, узяўшы ў рукі «дзело», запытаў: — Ваша прозвішча, таварыш?

— Это вы, так сказаць, относіцельно фаміліі? Моя фамілія Стрынгель, да, Стрынгель.

— А па паходжанню, таварыш Стрынгель, вы хто будзеце? — задаваў па парадку пытанні Гутарэвіч і пералістваў «дзело».

— Моё происхождзеніе? Происхождзеніе моё почці пролетарское, так сказаць: собственносці нікакой не імею.

Гутарэвічу станавілася весела. Яго асістэнты разгладзілі зморшчкі на тварах і падміргвалі сакратару.

— Не, вы не зразумелі, — сказаў Гутарэвіч, — к якому стану вы належалі ў царскі час?

— К какому стану. Вот уж, право, не прыпомню. Да я большэ в городзе ўчылся, всегда в участке пропісывался.

Гутарэвіч рагатаў.

— А чым вашы бацькі займаліся? — запытаў Гутарэвіч і зноў засмяяўся.

Сакратар хітра моргаў вачыма, гледзячы на Гутарэвіча і Стрынгеля. Відаць, агульны вясёлы настрой падбадзёрыў апошняга, і ён сам са здавальненнем сказаў:

— Родзіцелі земледзеліем занімалісь, но я земледзеліем не занімался. Учілся...

Гутарэвіч паморшчыўся. На старонцы «дзело» было напісана: «Приговор». «На основаньні ст.ст. №№ уголовнага Кодзекса грамадянак дзярэвні Сітноя N района, X вакрузе Юстыну Хатнюю і Параскеву Зребную за крадеж в капіратыву замка і крыніцы для адмыканьня, адсунуўшы іх свідзэцеляй Ганну Целюк і Рыпіну Кужеля, як родзсцвенікав падсудзімых, лічбіть віну іх даказанай і падлягнуць прімусовому звальненьню»...

Далей Гутарэвіч не чытаў.

— А ваша асвета? — запытаў ён у Стрынгеля.

— Это образованіе? Да, да! Я понімаю! Я с трецьего курса юрыдзічэского факульцета.

— А як вы наконт беларускасці?

— Как я знаю белорускій язык? Да я, знаеце, родзілся в дзерэвне і веліколепно понімаю кресцьянскій говор. Сам я, конечно, ешчо не совсем грамоцен, но умею, так сказаць, нічего...

— А вы вось напішэце прыгавор, — прапанаваў Гутарэвіч.

Той сеў і цераз некалькі мінут падаў лісцік. У ім значылася: «На аснові ст ст. №№ уголовнага кадэкса грамадяніна вескі Грибы Янку Біча за даказаннуй краж лошадзы ў гр. местечку X падлягнуць звальненю в доме прынудзыцельной праца на шесть месяцев і уворованага каня вярнуць яе уласьнасьці грамадяніну Илье Грабу».

Гутарэвіч прабег вачыма па паперцы і зарагатаў, узяўшыся за абломкі ручак крэсла, якое ад яго рухаў гэтаксама паводзіла сваім жыватом і адказвала на яго смех тонкім гукам паламаных спружын. Разам з ім залівауся сакратар, недаўменна з усмешкай паглядалі асістэнты. Стрынгель вінавата паглядаў на Гутарэвіча і, звярнуўшыся да ўвайшоўшага начальніка міліцыі, прагаварыў:

— Вот відзіце, ведзь я говорыл, что будет плохо.

Далей пайшло больш удачна і інцыдэнт са Стрынгелем адышоў на задні план.

***1927***

# ЯНКА ПАЗНЯК

Публіцыст, палітычны і культурны дзеяч Янка Пазняк нарадзіўся ў 1887 годзе ў мястэчку Суботнікі Ашмянскага павета Віленскай губерні (цяпер Іўеўскі раён Гродзенскай вобласці) у сялянскай сям'і. Атрымаў музычную адукацыю (імаверна, скончыў кансерваторыю), але дакладных звестак пра гэта няма. У 1918–1920 гадах служыў арганістам у Лаварышкаўскім касцёле каля Вільні, потым у Вільні (беларускім Святаянскім касцёле, дзе ксяндзом быў А. Станкевіч — яго даўні сябар). З юнацтва Я. Пазняк стаў удзельнічаць у беларускіх гуртках хрысціянска-дэмакратычнага асветніцкага кірунку. У 1913–1915 гадах у Вільні сумесна з А. Бычкоўскім, Ядвігіным Ш., Б. Пачопкам выдаваў папулярную тады сярод католікаў газету «Białarus». З моманту арганізацыі ў маі 1917 года ў Петраградзе Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці (БХДЗ) і пасля перанясення дзейнасці беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў (1921) у Вільню удзельнічаў у гэтым руху, набіраўся палітычнага і арганізатарскага вопыту, выступаў з вострымі палемічнымі артыкуламі на старонках газеты «Крыніца» (пасля «Беларуская крыніца»). Ён шмат ездзіў па вёсках, гутарыў з сялянамі, арганізоўваў беларускія тэатралізаваныя імпрэзы, змагаўся за адкрыццё беларускіх школ, выступаў супраць нацыянальнага ўціску беларусаў праз польскі касцёл і асаднііцтва. У 1928 годзе на з'ездзе Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі ў Вільні Я. Пазняк выбраны сакратаром Прэзідыума БХД. У 1928–1936 гадах рэдагаваў газету «Беларуская крыніца». У пачатку 1930-х гадоў стаў старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК), створанага ў 1919 годзе для каардынацыі ўсіх нацыянальных сіл і абароны правоў беларускага народа. Палітычная і рэдактарская дзейнасць Я. Пазняка прыйшліся на цяжкі для беларускага народа час: у канцы 1920-х і на працягу 1930-х гадоў у Заходняй Беларусі ўзмацніўся польскі шавіністычны ўціск, падагрэты сталінскай дыктатурай у СССР; паланізацыя беларусаў усё больш набывала рысы дзяржаўнай палітыкі. Развіваць незалежніцкі нацыянальны рух для БХД і БНК станавілася ўсё цяжэй. У 1936 годзе «Беларуская крыніца» канфіскоўвалася 11 разоў. На яе рэдактара было заведзена больш за 30 судовых спраў. Яго абкладалі грашовымі штрафамі, па некалькі месяцаў трымалі ў турме. У 1936 годзе для аб'яднання ўсіх беларускіх сіл і стварэння адзінага нацыянальна-вызваленчага фронту БХД была рэарганізавана ў Беларускае Народнае

Аб’яднанне (БНА), прэзідэнтам якога быў выбраны Я. Пазняк. Пасля закрыцця ў 1937 годзе «Беларускай крыніцы» з канца 1938 года ён стаў рэдагаваць «Хрысціянскую думку», дапамагаў у выданні сельскагаспадарчага часопіса «Самапомач». У кастрычніку 1939 года разам з іншымі беларускімі дзеячамі (У. Самойлам, А. Луцкевічам, В. Багдановічам і інш.) быў арыштаваны савецкімі рэпрэсіўнымі органамі, вывезены з Вільні і, магчыма, без суда і следства расстраляны. Дакладных звестак пра час, месца і абставіны яго смерці пакуль што няма.

Літаратурную дзейнасць Я. Пазняк пачаў з верша «Люблю я край свой родны» (1920). Большасць яго выступленняў на старонках «Беларускай крыніцы» зашыфравана псеўданімамі і крыптанімамі. Ёсць падставы меркаваць, што публікацыі ў «Беларускай крыніцы», падпісаныя крыптанімамі П., п., Я., Я-ка, таксама належаць Я. Пазняку, як і шэраг артыкулаў без подпісу. Тэматыка публіцыстычных выступленняў Я. Пазняка была шырокай: ён асвятляў тагачасныя палітычныя падзеі, аналізаваў сацыяльнае, рэлігійнае, культурнае становішча, у якім знаходзілася беларускае насельніцтва пад уладай Польшчы, пісаў аб гаспадарчым крызісе ў свеце, самабытнасці кожнага народа і яго праве на незалежнасць (артыкулы пра Каталонію, Абісінію), акрэсліваў кірункі барацьбы беларускага народа за свае правы (змаганне за беларускую мову ў школах і касцёлах, удзел у гмінных самаўрадах і інш.). Шмат увагі ён аддаваў палеміцы з польскімі рэлігійнымі ўладамі (выступаў супраць антыбеларускай палітыкі арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага), заклікаў да абнаўлення і аздараўлення (маральнага, палітычнага) жыцця ў беларускай вёсцы, да яе асветы. Быў тэарэтыкам беларускага хрысціянскага дэмакратызму і выступаў з праграмнымі артыкуламі, дзе тлумачыў ідэалагічныя асновы гэтага руху. З пункту гледжання філасофіі БХД разглядаў і «славянскую ідэю», бачыў яе агульны кірунак у аб’яднанні ўсіх славянскіх народаў на аснове роўнасці, незалежнасці і ўзаемадапамогі, што спрыяла калісьці перамозе пад Грунвальдам, але адмаўляў і рэзка крытыкаваў спробы ўсялякага тыпу месіянства (і расійскага, і польскага). Публіцыстычныя выступленні Я. Пазняка вызначаліся эмацыянальнасцю і адначасова лагічнай абгрунтаванасцю тэзісаў, праніклівасцю і апантанай перакананасцю ў тым, што толькі на аснове хрысціянскай маральнасці можа быць дасягнута сацыяльная гармонія і справядлівасць у чалавечым жыцці і супольніцтве народаў. У сярэдзіне 1920-х гадоў, калі ішло змаганне розных палітычных груповак за ўплыў на насельніцтва і перамогу на выбарах у польскі Сойм, Я. Пазняк пісаў своеасаблівыя інсцэніраваныя апавяданні, каб даходліва растлумачыць беларускім працаўнікам, якога кірунку ім трэба прытрымлівацца. У цэнтры апавядання, як правіла, знаходзіўся найбольш дасведчаны персанаж (Адам Канцавы, Язэп), вакол якога збіраліся людзі і гаманілі (месцам дзеяння была сялянская хата або царкоўны цвінтар). Праз жывы дыялог, рэплікі і пытанні аўтар тлумачыў асноўныя прынцыпы дзейнасці палітычных партый (Сялянска-Работніцкай Грамады, Сялянскага Саюза, БХД), галоўную накіраванасць беларускіх газет. У канцы 1930-х гадоў найбольш увагу Я. Пазняка-публіцыста прыцягвала палітычнае становішча ў Германіі і СССР. Адчуваючы небяспеку для ўсяго свету з боку гітлераўскага фашызму, бачачы жахі сталінскай дыктатуры, ён аналізаваў становішча ў суседніх краінах, выступаў супраць іх таталітарных рэжымаў. Пазітыўна ключавымі заставаліся для яго ідэалы хрысціянскага дэмакратызму, ненасілля, нацыянальнага самавызначэння і незалежнасці Беларусі.



## ДВА КІРУНКІ

Добра і кепска. Існаванне гэтых двух паняццяў і фактаў хіба ніхто не запярэчыць. Сапраўды, калі б розум і пачуццё людскасці не дасягалі да праўды, то немагчыма ж было б зразумець няпраўды і кепскага.

Калі людскасць што-небудзь зробіць карыснае для агульналюдскай справы, для кожнага народа, для кожнага класа грамадзянства, — розум і пачуццё кажуць, што гэта справядліва, добра. Усё ж тое, што зробіцца карыснае толькі для некаторых народаў, не беручы пад увагу народаў слабейшых ці культурна, ці лічбава, або для якіх-небудзь класаў, таксама не беручы пад увагу якога-небудзь класа слабейшага ці яго арганізаванасцю, ці лікам, — розум і пачуццё кажуць, што гэта не зусім справядліва, не зусім добра або і цалкам несправядліва, цалкам нядобра.

Цывілізацыя прошласці і сучаснасці, калі яна адхіляецца ад пуцяводнай зоркі Праўды, то ўводзіць агульналюдскае жыццё ў рамкі вызыску і нянавісці, раздзяляючы чалавецтва на два варожыя паміж сабой абозы — прыгнятальнікаў і прыгнечаных. Змаганне гэтых у чалавецтве двух варожых паміж сабою абозаў выклікала тое, што на сучасным палітычным і грамадскім небасхіле выразна зарысаваліся дзве ваюючыя паміж сабой формы жыцця людскага: камунізм і фашызм.

Камунізм, зарадзіўшыся з няволі, сваёй рэвалюцыйнай хваляй ломе без разбору ўвесь парадак на свеце, каб на месцы яго будаваць нейкія новыя формы жыцця, якія знаходзяцца ў фантастычных яго праектах.

Фашызм, паўстаўшы пад напорам рэвалюцыйных хваляў камунізму, імкнецца паралізаваць і затрымаць іх.

У сувязі з гэтым паўсталі дзве формы дыктатур: пралетарская і фашыстоўская, іначай кажучы — паўсталі дзве ваюючыя паміж сабой арміі, каторыя кладуць надзеі ў перамозе адна другой на

грубую матэрыяльную сілу, адкідаючы ідэал Любові, каторы вядзе да вольнасці, роўнасці і брацтва.

Будучы аднолькавымі «прыхільнікамі» як камунізму, так і фашызму, пазвольма бліжэй да іх прыгледзецца.

Калі б бальшавікі сваім рэвалюцыйным імкненнем перамаглі ды, захапіўшы ўладу, сілай фізічнай увялі людское жыццё ў форму камунізму, — ці была б дасягнута справядлівасць, дабро? Не, бо жыццё тады не было б абапёрта на добрай волі людскасці вольных людзей. А калі так, то не можа там быць вольнасці, роўнасці і брацтва, а раз гэтага няма, то няма і справядлівасці, дабра, а дзе няма справядлівасці, там пануе фальш.

Тое самае трэба сказаць і аб фашызме. Як жа не дзіўным ёсць той аб'яў асабістай самадзельнасці, калі адзін чалавек або якая-небудзь палітычная група адважваецца браць на сябе адказнасць за жыццё цэлага народа або нават і ўсяе людскасці, абзываючы сябе справядлівасцю і сілай заганяючы людскасць у тыя формы жыцця, у каторых пануе здзек і паняверка над слабейшымі!

Дык дзе ж шлях да справядлівасці?

Ставячы такое пытанне, мусім на яго і адказаць.

Праўдаў дзвюх не можа быць, а таксама і шлях да справядлівых формаў людскага жыцця ёсць адзін.

А шлях гэты ёсць у ідэалах Хрыстыянізму, аснутых на Любові, Роўнасці і Брацтве, у Хрыстыянізме практычным, дастасаваным да ўсіх галін жыцця людскога.

У гэтым жа часе змагання вышэй успомненых двух кірункаў, калі беларускі народ знаходзіцца яшчэ ў працэсе свайго нацыянальна-грамадскага Адраджэння, і ў яго малады, яшчэ не акрэплы арганізм ужо ўядаецца зараза партыйнай нянавісці, якая бярэ свой пачатак з крыніц утапійных, фальшывых, вышэй прыведзеных тэорыяў.

Дык ці не трэба над гэтым падумаць ды, спыніўшы шкодныя для нашага Адраджэння сваркі, у любові адзін да другога аддацца супольнай працы на карысць свайго народа, выпрабляючы ў ім пачуццё здаровага народнага патрыятызму і братняй любасці да ўсяе людскасці?

Здаецца, што гэтак.

***1928***



## БАРАЦЬБА БЕЛАРУСАЎ З РАСЕЯЙ

Некаторыя расейскія гісторыкі намагаюцца сведчыць аб «общерусском» паходжанні велікарусаў, беларусаў і украінцаў. Гэтак цвердзілі расейскія «вучоныя» царскіх часоў, гэтак цвердзяць і «вучоныя» бальшавіцкія. Бальшавіцкі гісторык прафесар Шастакоў дык нават намагаецца ўгаварыць беларусам, што яны толькі тады былі шчаслівыя, калі жылі ў лучнасці з «вялікім рускім народам». Але беларусы самі ведаюць сваю мінуўшчыну, якая замест таго «шчасця ў сужыцці з рускім народам» прыпамінае сучаснаму пакаленню зусім адваротнае, і нават крывавую барацьбу беларусаў з Расеяй. Не сягаючы далей у глыб гісторыі, даволі прыпомніць ахвярнасць у барацьбе беларусаў з Расеяй слаўнага нашага паўстанца Каліноўскага, барацьбіта за волю Грынявіцкага і многіх іншых сучаснікаў, каб запярэчыць угаворванню нам бальшавіцкімі «вучонымі» тую «шчаслівасць беларусаў у сужыцці з рускім народам». Ды не толькі тады беларусы змагаліся з царскай Расеяй. Гэтая барацьба не спыняецца і ў нашым часе. Пасля ўпадку расейскага царызму беларусы безупынна змагаюцца з новай, бальшавіцкай Расеяй. Барацьба гэта адбываецца не дзеля спорту, а за волю беларускага народа — за незалежнасць Беларусі ад Расеі.

Ад самага пачатку, калі бальшавіцкая Расея нанова зачапіла ўжо фармальна вольную і незалежную Беларусь, абвешчаную такой актам 25.III.1918 г., барацьба беларусаў з бальшавіцкай Расеяй пачалася таксама нанава не толькі з формай яе ўнутранага ладу, але галоўнае — за ўнезалежненне Беларусі ад Расеі. За гэты вялікі і агульнанародны ідэал беларусаў змагаюцца ўсе ідэёвыя беларускія групаванні — правыя і левыя, ідэалісты і матэрыялісты, а нават і больш рассудныя камуністы.

Словам, не мае бальшавіцкая Расея супакою ў Беларусі, таксама як не мела і тая «шчаслівая» для беларусаў пара, калі яны жылі ў лучнасці з рускім народам пад уладай царскай Расеі. Не спыняецца ссылка беларускай інтэлігенцыі за Волгу і ў Сібір. Адна за другой адбываюцца «чысткі» камуністычнай партыі, адкуль старанна «вычышчаюць» прыхільнікаў беларускай «нацдэмаўшчыны». Масава вывозяць з роднага краю беларускіх сялян і старанна абсаджваюць адносныя становішчы небеларускім элементам, каб у Беларусі «делать русский вид». Аднак усцяж вырастае ўсё новая беларуская «нацдэмаўская» апазіцыя адносна расійскага бальшавізму і далей праводзіцца

распачатая барацьба з Расеяй за вызваленне беларускага народа — за незалежнасць Беларусі.

Праўда, вялікая і адпорная сіла беларускага народа, але трэба сцвердзіць, што і наступ на яго вялікі, небывалы нават у нашай вельмі цяжкай мінуўшчыне.

Што пераможа ў гэтай гістарычнай барацьбе — Беларусь ці Расея?.. Мы, беручы пад увагу шырокую нацыянальную свядомасць і вялікую адпорнасць беларускага народа, — верым, што ў гэтай барацьбе з Расеяй беларусы вайну выйграюць, верым, што ў канцы канцоў турма народаў на еўрапейскім усходзе разваліцца і тады Беларусь будзе мець магчымасць быць вольнай і незалежнай.

*1939*

# ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ

Гісторык, пісьменнік, літаратуразнавец, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч, акадэмік БАН, Вацлаў Ластоўскі, які часта выступаў у друку пад псеўданімам Власт, нарадзіўся 27 кастрычніка (8 лістапада) 1883 года ў засценку Калеснікаў Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Глыбоцкі раён) у шляхецкай сям'і. Скончыў Дзісенскае павятовае вучылішча. Працаваў у Пецярбургу, слухаў лекцыі ў Пецярбургскім універсітэце (1904–1905). З 1909 года працаваў сакратаром рэдакцыі газеты «Наша ніва» ў Вільні, загадчыкам першай у Вільні беларускай кнігарні. У гэтыя гады пачаў друкаваць публіцыстычныя, крытычныя артыкулы, апавяданні ў асноўным гістарычнай тэматыкі.

З 1 студзеня 1910 года «Наша ніва» публікуе на сваіх старонках «Кароткую гісторыю Беларусі» В. Ластоўскага, якая асобным выданнем выйшла затым у друкарні Марціна Кухты. Напісаная на беларускай мове, кніга паслужыла фундаментам для далейшага даследавання гісторыі Бацькаўшчыны. Янка Купала вітаў выхад «Гісторыі...» вершам «Дудар», прысвяціў Вацлаву і Марыі Ластоўскім і выдатны верш «Песня званара». Творчасць В. Ластоўскага высока цаніў М. Багдановіч: «Власт надрукаваў усяго 3–4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць...» А пісаў ён у гэты час шмат апавяданняў, абразкоў. Асаблівае значэнне для развіцця нацыянальнай культуры мелі яго шматлікія публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, якія вельмі надзённа гучаць і сёння. У іх В. Ластоўскі змагаўся за правы беларусаў развіваць сваю культуру на сваёй мове, за іх «правы называцца культурным народам, каб на край свету пралунала беларускае імя...».

З пачаткам Першай сусветнай вайны і акупацыяй Вільні кайзераўскімі войскамі, В. Ластоўскі, застаўшыся ў горадзе, быў адным з арганізатараў партыі «Хрысціянская злучнасць» (1915), падтрымліваў праект дзяржаўнай «Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага» (Літвы і Беларусі), стаў ідэолагам палітычнай арганізацыі «Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі». Ён адзін з аўтараў прадстаўленага на міжнароднай канферэнцыі ў Лазане (1916) «Мемарандума прадстаўнікоў Беларусі», дзе адстойваліся правы беларусаў на стварэнне самастойнай дзяржавы.

У 1918 годзе ў Вільні была ўтворана Беларуская рада на чале з Антонам Луцкевічам, куды ўвайшоў і Вацлаў Ластоўскі. З канца 1918 года — сябар Літоўскай Тарыбы. Адначасна з гэтай грамадска-

палітычнай дзейнасцю В. Ластоўскі займаецца выданнем школьных падручнікаў і хрэстаматый, рэдагуе газету «Гоман» (1916–1917), піша глыбоказместоўныя гісторыка-публіцыстычныя артыкулы па беларускім пытанні («Дзе мы жывём і колькі нас?», «Што такое дэмакратыя», «Прычыны заняпаду беларускага адраджэння ў XIX ст.», «Духоўная каталіцкая літаратура ў беларускай мове», «Сялянскія рэспублікі канца XVIII ст. у Беларусі і Літве», «Рэфармацкі рух на Беларусі», «Што трэба ведаць кожнаму беларусу», «Нацыянальнае пытанне», «Са старабеларускай літаратуры», «Францішак Скарына», «Беларусь пад Расеяй» і шмат іншых). Многія з іх увайшлі ў кнігу «Калісь і цяпер: Гістарычна-грамадзянскія нарысы» (Вільня, 1918).

У 1919 годзе В. Ластоўскі ўваходзіў у партыю беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якія стварылі Народную Раду БНР. В. Ластоўскі ўзначальваў у ёй кабінет міністраў. У 1919 годзе быў арыштаваны польскімі ўладамі, але ў 1920 годзе вызвалены. Быў адным з арганізатараў партызанскай барацьбы супраць польскай акупацыі Заходняй Беларусі. Пасля падпісання прэлімінарнага міру паміж Саветамі і Польшчай (кастрычнік 1920) В. Ластоўскі звярнуўся да краін Антанты аказаць дапамогу БНР у барацьбе за незалежнасць Беларусі. Ён браў актыўны ўдзел у рабоце Першай Усебеларускай канферэнцыі ў Празе (верасень 1921). З дыпламатычнымі місіямі наведаў Бельгію, Германію, Ватыкан, Італію, Францыю, Чэхію, Швейцарыю (1920–1923). Пазней адышоў ад палітычнай дзейнасці, выйшаў з урада БНР (1923). Працаваў у міністэрстве беларускіх спраў у Літве, выдаваў літаратурны часопіс «Крывіч», друкаваў на яго старонках свае вершы, апавяданні, надрукаваў некалькі школьных падручнікаў. Напісаў аповесць «Лабірынты» (1923), прысвечаную гістарычнаму мінуламу Беларусі. Выдаў грунтоўны «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік», апублікаваў «Летапісца Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» і сваю самую славутую «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» — агляд беларускага пісьменства ад X да XIX ст. (усе выданні — 1924–1926).

У 1927 годзе В. Ластоўскі пераехаў у Мінск, працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, у Інбелкульце, стаў акадэмікам, неадменным сакратаром АН БССР, уваходзіў у Камісію па ахове помнікаў старасветчыны ў БССР. Працаваў у Камісіі жывой беларускай мовы, рэдагаваў «Працы кафедры этнаграфіі», арганізоўваў этнаграфічныя экспедыцыі ў розныя рэгіёны Беларусі, дзякуючы якім быў знойдзены Крыж Ефрасінні Полацкай. Разам з М. Шчакаціхіным апрацаваў «Праваднік па аддзеле сучаснага беларускага малярства і разьбярства» (1929), пачаў працаваць над манаграфіяй «Матэрыяльная культура Беларусі». Удзельнічаў у рэформе беларускага правапісу, напісаў успаміны пра М. Багдановіча, Я. Купалу, артыкулы пра творчасць беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў мінулага, займаўся перакладамі з рускай мовы (А. Талстой), англійскай (Р. Кіплінг), польскай (Э. Ажэшка), дацкай (Г. К. Андэрсан). Сапраўды тытанічная дзейнасць выдатнага вучонага, гісторыка, пісьменніка была абарвана ў 1929 годзе: у развіцці



нацыянальных культур савецкая ўлада бачыла для сябе смяртэльную небяспеку. В. Ластоўскі быў вызвалены з пасады неадменнага сакратара Акадэміі навук БССР, а ў красавіку 1930 года арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Трымалі яго ў турмах Мінска і Масквы. Пастановай Калегіі АДПУ СССР 10 красавіка 1931 года яго выслалі на 5 гадоў у Саратаў. Там быў паўторна арыштаваны і 23 студзеня 1938 года расстраляны. Яму не было яшчэ і 55 гадоў.

У 1997 годзе ў серыі «Беларускі кнігазбор» творы Вацлава Ластоўскага выйшлі асобным томам.

## САБОР СВ. МАРКА Ў ВЕНЕЦЫІ

Візантыі таўпежнай —
бліскучай, чваннай і мнагагрэшнай —
сівы мармур старэтных сцен
замацаваў пакайны гімн!
Масіў яго к зямлі прырос,
як собіна святая,
і толькі Апалонаў воз
імкнецца да нябёс.
Ўнутры вачамі грозных ўладароў
з залочанага стропу на шэры дол
святыя поснікі халодным зрокам
з суровасцю нямой глядзяць!
Яны — імперыі нябеснае княжаты,
багомасцю багаты, —
няслі ў жыцці крыжы,
дык ты... цяпер
дрыжы!
Ці будзь раўнёю ім:
або чарнец, або ўладар...
Спагаду, літасці табе
не суліць іхні зрок,
калі зняважыў неўнарок
зямны ці то нябесны цэзарызм.
Ўвесь гэты холад, пыху і суровасць
адно мякчыць: залочана асноведзь.

*[1923]*

## НА СМАЛЕНСКІХ СЦЕНАХ

Смаленскіх сцен масіў патужны
ў бяссіллі распластаўся,
забітай волі крывічоў
мне ён нагробкам здаўся!..
Андрусаўскі злачын яго ўчыніў
сатрапіяй маскоўскай,
і дзвесце з лішнім лет, цягаючы ярмо,
яго раджайны гоні
кармілі чужакоў і ворагаў пладзілі
крывіцкае Пагоні.
Аж дзвесце цяжкіх лет канання
слязьмі і потам абліваўся...
Смаленск!
Праз мукі, горасці свае
у рэшце рэшт
святым для нас ты стаўся!..

*[1923]*

* * *

Паэт, ты вольнага Пегаса
ў прыгожых дум ярмо ўпрагай
і тучны чарназём
мінуўшчыны радзімай
у скібы стройныя складай!
Бо толькі гэта глеба
дасць нам жаданы агняквет,
якім крывіцкі геній
счаруе свет.
Бо толькі родны чарназём,
цяплом духовым абагрэт,
здалее даць пітомнае красы
прадзіўны квет.

*[1923]*



## НА ОДЫ ГАРАЦЫЯ

Як старае віно, разлітае ў чары,
залотное дае яство,
што йскрыцца ў крыштале, —
так меніцца святлом дасюль,
ў яго тварэннях векапомных,
умца нясмертны дух!
І як старэтны Вакха ў чарах дар
тхне ў сэрца нам цяплом,
так верш Гарацыя акудны
дарыць красотаў
чар нязбудны!..

*[1923]*

## ЧАЛА Я НЕ ХІЛІЎ ПРАД СІЛАЙ

Чала я не хіліў прад сілай
і не качаўся полазам у порсці,
клумлівай і тупой таўпе
не біў паклонаў я,
пратораны дарожкі
з пагардай абмінаў,
ламаючы шчырэц навіны.
Вось гэта ўсе мае грахі,
вось гэта ўсё, у чым я вінны!...

*[1924]*

## ЧЫРВОНЕЦ

У меставай браме, дзе люд плыве ракой і варта моцная дзеньноч пільнуе, схіліўся я й падняў чырвонец паўнаважны з-пад ног людскіх, — якога перш не бачылі ранейшыя хадзьбіты.

Кругом мяне натоўп зрабіўся.

Казалі мне адны, што я падняў от свежую іх згубу... Другія — што я не першы звочыў, што дзель яны павінны ўзяць з маёй знаходкі.

Старожы ж, каб сагнаць натоўп, усім крычалі, што я місцюк, што я кастыг за пенязь выдаю: «Бо хто на бітым шляху па золаце таптаў бы, чакаючы «яго» прыходу з падарожы?!»

І ўсе паверылі старожы...

*[1926–1927]*

## ПАТРЫЯТЫЧНЫ МАЛІТВЕННІК

### Выданне гэктаграфаванае, без азначэння часу і месца друку

Наша патрыятычна-агітацыйная пісьменнасць у параўнанні з гэтага роду пісьменнасцю другіх, суседніх нам народаў вельмі малая, дзеля гэтага трэба вітаць кожную спробу ў гэтым кірунку, асабліва калі яна мае на мэце чыстыя крыніцы, г. зн. суверэннасць крывічанскага (беларускага) народа на крывічанскіх землях. Амаўляная брашура адпавядае вышэй пастаўленым вымогам у поўнай меры. У дадатку з'яўляецца цікавай спробай перафразоўкі штодзённых малітваў на патрыятычны лад, што для чытача з народа з'яўляецца пацягаючым аргументам. Гэткага роду спробы патрыятычнай агітацыі — не навіна. У свой час гэткага роду пісьменнасць працвітала ў палякаў (у апрацоўцы А. Міцкевіча), былі вельмі папулярны патрыятычныя малітвы і катэхізмы ў ірландцаў. Амаўленая намі брашура з'яўляецца саўсім арыгінальнай перафразоўкай малітваў. Дзеля таго, што гектаграфаванае выданне зазвычай агранічаецца некалькімі дзесяткамі адзінцоў, а сама брашура цікавая і ў поўнае меры вартая шырокага распашырання, то мы, для азнаямлення шырэйшых кругоў, у большасці яе перадрукоўваем.

«У імя крыўскага (беларускага) народа, за яго славу, шчасце і свабоду. Станься.

Ойча наш, каторы ёсць у небе, вярні нам волю і валадарства на зямлі нашай, даўно і цяжка паярэмленай. Хай не адымаюць чужынцы хлеб штодзённы ад вусн нашых дзяцей. Адпусці грахі нашым продкам, каторыя не ўмелі абараніць сваёй і свайго патомства свабоды. Не ўводзь нас у пакусу ўлегласці тым, што паярэмілі нас, але збаў нас ад чужацкай апекі. Станься.

Вітай, Крывічанская зямелька, потам і крывёй нашаю палітая, праўда з Табою. Благаслаўлена Ты паміж усімі краінамі свету, і



благаслаўлен плод лона Твайго, Крывіч. Святая зямелька, Маці наша! Табе ў ахвяру складаем мы ўсе сілы свае цяпер і ў момант смерці нашай.

Веру ў Бацькаўшчыну нашу Крывію (Беларусь) і ў Народ наш, сына яе адзінага, каторы на свет прыйшоў свабодным, радзіўся з волі нікім не паярэмленай. Замучаны быў маскалямі і палякамі, загнаны ў прыгонную няволю, памёр як дзяржаўны народ, цяпер падзелены на часці. Але хутка ўваскрэсне з мёртвых, узойдзе на пасад свабоды і будзе, магутны, паводле заслуг судзіць сваіх ворагаў і крыўдзіцеляў. Веру ў творчасць Духа народнага, у лучнасць нашых сіл грамадскіх, у аб'яднанне ўсіх крывічанскіх зямель у адну свабодную дзяржаву і ў шчаснасць векавечную. Станься.

Слава Крывічанскаму Народу ва ўсіх яго гістарычных імёнах — Крывіі, Літвы, Беларусі, — як была справеку, так цяпер і на векі вечныя. Станься.

Святая свабода, выражаная дзяржаўнай самаістасцю Крывічанскага Народа, ты наша пацяшыцелька і надзея, адзіная Мэта і Праўда наша, прыйдзі, усяліся ў нас і ачысці нас ад усякага рабства і збаў нас ад няволі. Станься».

Дзесяць загадаў народных:

«Я, Крывічанскі Народ, замучаны, распяты і падзелены, клічу да цябе:

1. Не спадзявайся, што хто-колечы з чужакоў высвабадзіць мяне з няволі.
2. Ніякага самаўрада не называй яшчэ незалежнасцю.
3. Памятай выслаўляць дзень, каторы дасць нам поўнае вызваленне.
4. Паважай тых, каторыя змагаюцца за маю лепшую будучыну.
5. Не забівай на славе тых, каторыя працуюць для мяне.
6. Не злучай сябе звязкамі жанімства з чужынцамі.
7. Не вер чужынцам.
8. Не траць веры ў народную справу.
9. Не перасаджай чужых культур на грунт свой народны.
10. Ні мовы чужой, ні паэзіі, ні грамадскіх форм, ні звычаяў, ні абычаяў, нічога, што не вырасла з народнага духу, акром тэхнічнай веды, якая з'яўляецца выразам агульначалавецкага генія».

Любі народ і край свой Крывічанскі ўсім сэрцам, усёй душой, усімі мыслямі, думкамі і подумкамі сваімі!

Любі свабоду і змагайся за свабоду, як за ўласнае жыццё і шчасце!

Напачатку была Свабода, і Свабода была ў руках Народа, і Народ быў свабодны. Свабода была напачатку ў руках Народа. Праз Народ усё сталася, і без яго нічога не сталася. Народ быў незалежны, а свабода і незалежнасць былі радасцю людзей. І памяць аб утрачанай намі свабодзе свеціць нам у паняволенні нашым, і няволя не пагасіла ў нас жадання свабоды.

*[1926]*

# АЛЕСЬ ЛЯЖНЕВІЧ

Драматург і тэатральны дзеяч Алесь Ляжневіч нарадзіўся ў 1890 годзе ў вёсцы Сенцяняты Ашмянскага павета Віленскай губерні (цяпер Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці). Скончыў народную школу, удзельнічаў у розных самадзейных тэатральных гуртках. З пачаткам Першай сусветнай вайны мабілізаваны ў армію (1914). Ваяваў на Румынскім фронце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі жыў у Адэсе, уладкаваўся ў абласны тэатр, пры якім працавала беларуская бежанская трупа «Беларускі гай». З 1917 па 1922 год — у Чырвонай Арміі, на савецка-польскім фронце, затым у палітаддзеле 16-й арміі ў Магілёве. Пасля дэмабілізацыі жыў у Мінску, быў акцёрам і дырэктарам БДТ-1 (1920–1921). Па накіраванні працаваў у Маскве дырэктарам Беларускай студыі дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва (1922), пазней інспектарам Наркамасветы БССР па справах мастацтваў. З 1927 года — на кінафабрыцы Белдзяржкіно, а потым — асістэнт рэжысёра на кінафабрыцы «Савецкая Беларусь» у Ленінградзе. Выступаць у друку з п'есамі пачаў з 1924 года. Першая п'еса «З дымам-пажарам» ставілася многімі прафесійнымі і самадзейнымі тэатрамі. На ўсебеларускім конкурсе п'ес А. Ляжневіч атрымаў другую прэмію за п'есу «Навала». Разам з Я. Купалам і Ц. Гартным быў укладальнікам анталогіі «Беларускі дэкламатар Чырвоны Дудар» (1924), складальнікам зборніка «Дэкламатар» (1928). Спрабаваў пісаць вершы, якія друкаваў пад псеўданімам Алесь Бяздольны, выступаў у друку з крытычнымі артыкуламі на тэатральныя тэмы.

20 ліпеня 1930 года пастановай АДПУ СССР А. Ляжневіч быў арыштаваны. Яго абвінавацілі ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі» і саслалі на 5 гадоў у Пашахонне-Валадарск Яраслаўскай вобласці. Там быў паўторна арыштаваны і ў 1937 годзе расстраляны. Было яму тады 47 гадоў.

# СЯЛЯНСКІ ТЭАТР

*Дарады ў пытаннях тэатральнай тэхнікі і метады пастаноўкі п'ес сялянскімі і гарадскімі клубнымі драмгурткамі*

## Уступ

Тэатр захапляе не толькі выканаўцаў, але галоўным чынам гледача, які глядзіць, слухае. У чым жа сіла тэатра? Кожны, хто быў у тэатры, хто бачыў спектакль, помніць, што найбольш тэатр захапляе тады, калі выклікае смех або спачуванне. Калі паказваюць на сцэне смешнае — камічнае, — глядач смяецца, здаволены; калі бачыць цяжкую сцэну — барацьбу, — глядач захоплены, ён спачувае таму, хто вядзе барацьбу за справядлівую справу. Чаму ж мы так любім у тэатры смяяцца і спачуваць? Ды таму, што тэатр выклікае ў нас пачуццё і смех тым, што паказвае нам жыццё людзей з усіх бакоў так, як мы вельмі часта яго і не бачым. Тэатр яскрава і выразна паказвае нам станоўчыя і адмоўныя бакі нашага жыцця. Убачыўшы што-небудзь у тэатры, мы ўжо цвёрда будзем гэта ведаць, мы ўжо не зможам гэтага забыць. У тэатры перад намі дзейнічаюць жывыя людзі, і мы бачым, куды вядзе чалавека той ці іншы ўчынак. Мы бачым усё смешнае, што перашкаджае нам, мы бачым нашу барацьбу. Тэатр навучае нас адкідаць усё тое, што перашкаджае ў гэтай барацьбе. Тэатр навучае нас, як весці гэтую барацьбу.

А ў нас, у працоўных СССР, адваяваўшых сабе права жыць так, як мы хочам, наперадзе шмат яшчэ барацьбы. І не толькі з чужаземнымі капіталістамі, з чужаземнай буржуазіяй, якая яшчэ не раз будзе памыкацца пашкодзіць нашай мірнай працы, але шмат чаго трэба перамагчы і ў сябе, у сваёй краіне, у сваёй гаспадарцы.

Царская ўлада пакінула нам цяжкую спадчыну: цемнату, беднасць. Трэба перамагчы гэтую праклятую спадчыну. Трэба стаць пісьменнымі, трэба навучыцца, як лепш пабудаваць сваю гаспадарку, трэба завесці машыну, трэба свой адпачынак, свой вольны час скарыстаць на набыццё неабходных ведаў, трэба гэтыя веды праводзіць у гаспадарцы. Трэба сказаць сабе: я не хачу жыць у цемры, беднаце, брудзе, рэлігійным дурмане, п'янстве і г. д. Трэба самому захацець палепшыць сваё жыццё. Але для гэтага трэба зразумець, адчуць і выразна ўбачыць як цёмныя бакі жыцця, так і тое, як і з чаго пачаць і, галоўным чынам, куды сваё жыццё пакіраваць.



І вось тэатр можа дапамагчы ў гэтай справе. На сцэне, у шэрагу вобразаў жывых людзей, у іх барацьбе, пройдзе перад гледачом-рабочым і селянінам частка яго жыцця, якое ён звычайна мала прыкмячае, з якім ён звыкся так, што іншага не можа сабе і ўявіць.

На вёсцы зараз ідзе і яшчэ будзе прадаўжацца нейкі час барацьба паміж працоўным селянінам і кулаком. Для бядняцтва і серадняцтва з боку савецкае ўлады ўсялякія дапамогі і ільготы, і ўсё ж ткі кулак часамі перамагае. У чым жа сіла кулака? У цемнаце і бяздзейнасці працоўнай вёскі. Вядома, што кулакі ўсюды і заўсёды забягаюць наперад і ведаюць больш аб правах беднякоў, чымся самі беднякі. Гэтыя веды і даюць кулаку мажлівасць знаходзіць абходы, націскаць там, дзе слаба. Трэба аб'яднаць у думках, у ведах, у пачуццях і ў справе бядняцкія і серадняцкія пласты. Трэба паказаць працоўнаму сялянству тую барацьбу, якая адбываецца зараз на шляху сацыялістычнага будаўніцтва, і гэтым дапамагчы з поспехам весці гэтую барацьбу.

Сялянства ва ўсім любіць паказ, мала давярае голаму слову. Такі паказ барацьбы і шляхі да новага жыцця і павінен даць селяніну і рабочаму тэатр.

Зразумела, што тэатр на вёсцы патрэбны. Але тэатр гэты не павінен быць толькі тэатрам лёгкіх агітак, павярхоўных лозунгаў, прыгожых слоў. Ён мусіць быць такім, каб змог паказаць усю глыбіню барацьбы. Каб ён падымаў актыўнасць, грамадскасць, каб заклікаў на барацьбу з кожным, хоць і маленькім злачынствам і парушэннем правоў працоўных мас. Патрэбен тэатр, які б высмейваў і ганіў рэшткі старога, цёмнага царскага, паднявольнага жыцця. У гэтым напрамку і павінны павесці сваю працу гарадскія і сялянскія драмгурткі. У нашых беларускіх вёсках, на вялікі жаль, да гэтага часу спектаклі, тэатральныя прадстаўленні з'яўляюцца справай выпадковай «так сабе», «паміж іншым». П'есы ставяцца, якія трапяць пад руку. Няма абсталяваных сцэн. Няма сцэнічнай маёмасці: дэкарацыяў, грыму, парыкоў, вопратак, бутафорыі, мэблі і г. д. Аб свядомых кіраўніках-рэжысёрах няможна і марыць. Вясковы драмгурток не можа мець платнага кіраўніка-рэжысёра.

Каб выйсці з такога становішча, трэба звярнуць асаблівую ўвагу на належную пастаноўку справы тэатраў: гарадскога, клубнага і сялянскага на вёсцы і, перш за ўсе, згуртаваць на мясцох самадзейныя драмгурткі. Трэба спадзявацца толькі на саміх сябе, выяўляючы ў гэтай справе самадзейнасць.

У мэтах першай дапамогі наладжанню гарадскога (клубнага) і сялянскага (на вёсцы) тэатраў я і хачу азнаёміць працаўнікоў драмгурткоў з самымі неабходнымі, простымі пытаннямі і мэтамі сцэнічнага мастацтва, працы над п’есай і тэатральнай тэхнікай.

*1928*

# ЯНКА НЁМАНСКІ

Пісьменнік, вучоны, вядомы грамадскі дзеяч Янка Нёманскі (сапр. Іван Пятровіч) нарадзіўся ў сялянскай сям’і 31 сакавіка (12 красавіка) 1890 года ў вёсцы Шчорсы на Наваградчыне, якая славілася вялікай царквою, прыгожым палацам і багатай бібліятэкай графа Храптовіча, дзе некалі працаваў бібліятэкарам Ян Чачот і часта бываў Адам Міцкевіч.

Пасля заканчэння школы ў Шчорсах Янка вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, працаваў настаўнікам. Адначасова настойліва займаўся самаадукацыяй, каб здзейсніць даўнюю мару — паступіць у Пецярбургскі універсітэт. Ужо тое, што ён, сялянскі сын, спадзеючыся толькі на свае сілы, змог у 1914 годзе стаць студэнтам Імператарскага Пецярбургскага універсітэта, сведчыла пра яго вялікія здольнасці і незвычайную прагу ведаў. Гэтыя веды і жыццёвы вопыт, набыты ім пазней, у гады рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, актыўнай работы ў Беларускім нацыянальным камісарыяце, ён цалкам прысвячае развіццю навукі, культуры, народнай гаспадаркі Беларусі.

Вярнуўшыся ў 1922 годзе з Петраграда на радзіму, у Мінск, Я. Нёманскі адразу ўключыўся ў мірную стваральную працу. Ён быў прызначаны сакратаром Эканамічнага савета рэспублікі, намеснікам старшыні Дзяржплана БССР, абіраўся дэлегатам VIII Усебеларускага з’езда Саветаў. Прымаючы непасрэдны ўдзел у рабоце Інбелкульта, Я. Нёманскі пасля заснавання Беларускай акадэміі навук абіраецца яе правадзейным членам, пазней неадменным сакратаром. Адначасова з ім першымі акадэмікамі нацыянальнай акадэміі навук сталі вядомыя пісьменнікі, грамадскія дзеячы Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, У. Ігнатоўскі, У. Пічэта, С. Некрашэвіч, І. Замоцін. З 1931 года Я. Нёманскі становіцца членам Прэзідыума Акадэміі навук, вучоным сакратаром Інстытута эканомікі, заснавальнікам Беларускага інстытута народнай гаспадаркі (цяпер Эканамічны універсітэт), загадчыкам кафедры і выкладчыкам. У гэты час ён актыўна выступае ў друку з артыкуламі па пытаннях гісторыі, эканомікі, культуры Беларусі, даказвае неабходнасць адкрыцця найбольшай колькасці навучальных установаў, «куды шырока былі б адкрыты дзверы для дзяцей народа» і дзе выкладанне «вялося б на роднай беларускай мове, з увядзеннем у кола агульных навук вывучэння літаратуры, нораваў і звычаяў Беларусі, яе нацыянальных асаблівасцяў, гісторыі і прыроды краіны.

Са спалучэннем простай народнай душы са святлом навук запалымнее яркая зорка шматпакутнай Беларусі...». Яго публіцыстычныя, навуковыя артыкулы пачалі друкавацца яшчэ ў «Дзянніцы», якую ён выдаваў разам з Ц. Гартным у Пецярбургу на беларускай мове (1918–1919) і дзе ўпершыню стаў падпісвацца літаратурным псеўданімам Янка Нёманскі, а пазней у мінскіх газетах і часопісах.

Разнастайная навуковая, дзяржаўная і грамадская дзейнасць не перашкаджала яму займацца і мастацкай творчасцю. Як пісьменнік Я. Нёманскі стаў вядомы з 1922 года, калі ў першым нумары часопіса «Полымя», які пачаў выходзіць з гэтага года, было надрукавана яго першае апавяданне «Над Кроманню». Мастацкія творы пісьменніка друкуюцца ў перыядычных выданнях, выходзяць асобнымі кніжкамі, перакладаюцца на рускую, украінскую, польскую мовы. Першы зборнік Я. Нёманскага «Апавяданні» выйшаў у 1925 годзе, у 1928 годзе ён быў перавыдадзены пад назвай «На зломе» ў перакладзе на рускую мову, а ў 1930-м выйшаў у Ленінградзе.

Апавяданні з шырока разгорнутым сюжэтам, аповесць «Партызан» (пра змаганне беларускага народа супраць польскай акупацыі) былі своеасаблівым подступам да рамана «Драпежнікі», які стаў адным з лепшых твораў беларускай раманістыкі 1920–1930-х гадоў. Храналагічна раман прывязаны да самага пачатку XX стагоддзя, падзеі разгортваюцца і ў Мінску, і ў беларускіх вёсках, і ў багатых родавых маёнтках князёў Друцкіх, паноў Ляскоўскіх, апісваюцца побыт і праца вясковых настаўнікаў, гарадской беднаты, акружэнне губернатара Курлова, паўстаюць вобразы дробных памешчыкаў, шляхты, рэвалюцыянераў. У беларускай літаратуры гэта быў першы значны эпічны твор, дзе пісьменніку ўдалося шырока разгарнуць жыццё беларускага грамадства, усіх яго слаёў напярэдадні катаклізмаў 1917 года.

Тагачасная крытыка высока ацэньвала творы Я. Нёманскага. М. Гарэцкі, М. Байкоў адзначалі яго багаты ўклад у літаратуру: «Нёманскі ў сэнсе агульнай адукацыі, псіхалагічнага развіцця, жыццёвага дасведчання на цэлую галаву падымаецца над нашымі маладымі пісьменнікамі... Тэмы аўтара сучасныя, тыпы герояў разнастайныя, жыццёвыя абставіны абрысоўваюцца па-мастацку, мова лёгкая і апрацаваная, псіхалагічны аналіз глыбокі і правільны...» (М. Байкоў).

У 1937 годзе рыхтавалася да выхаду другая частка рамана «Драпежнікі» — «У віры». Але 26 красавіка гэтага года Я. Нёманскага арыштавалі, усе яго рукапісы, а таксама карэктуру другой часткі «Драпежнікаў» спалілі. 30 кастрычніка 1937 года выдатны беларускі пісьменнік і дзеяч культуры быў расстраляны органамі НКУС у Мінску.

Рэпрэсавана была і сям'я пісьменніка. Жонку засудзілі на 8 гадоў ГУЛАГа, 15-гадовага сына Андрэя саслалі ў Свярдлоўск і канцлагер, дзе ён і загінуў, двое меншых дзяцей трапілі ў прытулак для дзяцей «ворагаў народа».



Толькі ў 1957 годзе, у часы масавай рэабілітацыі бязвінных ахвяр сталінізму на запыт блізкіх з КДБ прыйшло паведамленне, што «Петрович И. А. необоснованно приговорён к исключительной мере наказания». Пражыў ён толькі 47 гадоў.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць творы Янкі Нёманскага асобным томам.

## НАД КРОМАННЮ

*(З часоў 1905 года)*

*Апавяданне*

### I

Дзед Язэп патыкаў заскарузлым пальцам у люльцы, папыкаў ёю і, паправіўшыся на карчы, дзе ён сядзеў, сказаў:

— Цудоўнае гэтае возера. Ты яшчэ нядаўна тут жывеш і не бачыў яго як след. Я ж пражыў тут змалку, сярод гэтых сумных лясоў ды балот; тут навокал траха не на 20 вёрст няма ні аднае вёскі, усё лес ды лес, балоціна з правалінамі, дзе вада чорная, як сажа, і дзе ніхто не мераў дна. Гэта — «чортавы вочы», як завуць іх старыя леснікі ды смалакуршчыкі. Разгоніцца лось ці воўк, сігае па лесе, наскочыць на «чортава вока» — і загіб. Шмат гэтых «вачэй», і жудасць ад іх бярэ. Тут жа, бліжэй да Кромані, месца вышэй, замест балота — светлы, жоўты пясок, лес — чысты, хваёвы, заўсёды сумны. Само возера, як бачыш, быццам без краю; вада ў ім чыстая, як шкло, але заўсёды яно захавана туманам. Што робіцца на сярэдзіне возера — ніхто не ведае... Раз прыехаў аднекуль здалёку нейкі андуфэльт з блішчастымі гузікамі: захацеў, ведаеш, памераць глыбіню. Нашы смалакуршчыкі казалі яму: «Не рабі гэтага, бо ніхто яшчэ не смеў мераць Кромань». Не, дзе ж там! Кажа: «Вы — старыя дурні, больш нічога». Ну, добра, узяў гэта ён чайку, нейкі ланцуг з вагаю на канчары і папрасіў, каб хто-небудзь ад'ехаў з ім у возера. Вядома, ніхто з ім не паехаў. Тады ён сам адагнаў чайку ад берага і прапаў за туманам... Так мы яго больш і не бачылі — згіб.

— А даўно гэта было? — запытаўся Антон.

— Ды не, вось у гэтую мінулую восень... Але, так. Дзіўнае гэтае возера. Кожную нядзелю туман з яго каля поўдня зыходзіць

і чутно, як пад вадою звоняць, быццам у царкве. Аб гэтым спакон вякоў ідзе гамонка: кажуць, што на месцы Кромані калісь была вялізарная вёска, якая раптам правалілася скрозь зямлю і схавалася пад вадою. Шмат чаго гавораць аб гэтай з'яве, я ж чуў ад старых людзей вось што. У даўнейшыя часы на Навагрудку сядзеў ліцвінскі князь Вайшэлг, — здаецца, так яго звалі. Злосны быў, сярдзіты чалавек. Адолеў ён усіх іншых князёў, але нейкі адзін яму не паддаваўся. Тады Вайшэлгу стала патрэбна шмат войска і грошай. Сваіх падданых лупіў ён як мог, а хто яму пярэчыў, дык тых хапалі, тамілі ў мурах Навагрудскага замка, а потым катавалі. Многа людзей было загублена... Праязджаючы адзін раз у Лаўрашоўскі манастыр адмольваць свае грахі, даведаўся князь, што дзесьці ў лесе ёсць вялікая вёска, з якое ён нічога яшчэ не браў. Ну, добра. Пачалі шукаць яе, доўга шукалі — і знайшлі. Уехаў князь у вёску і пачаў наводзіць свой парадак: аддай мужчын у жаўнеры, аддай гавяду ды грошы. Усё аддалі сяляне, апроч грошай, бо яны нават не ведалі, што гэта такое. Пахапаў князь старых, перакатаваў іх, але карысці няма. Раз'ярыўся ён, як звер, пачаў заглядаць у вёску ўсё часцей і душыў, пакуль кроў не пачынала мучыць яго. Хто застаўся з сялян, пахаваліся па лесе, і вёска стала пустою; князь некалькі раз не застаў у ёй ні душы. Потым ён дазнаўся, што сяляне ў нядзелю сыходзяцца ў вёску да імшы ў царкву. Вось і наляцеў ён у адну нядзелю і сам хацеў запаліць і царкву і вёску, але раптам перад яго вачамі зрабілася вялізарнае возера. Аслупянеў князь, паехаў назад і цэлы тыдзень сядзеў, не выходзячы з свайго замка. Але зайздрасць яго не пакінула: зноў са сваёй дружынай панёсся ён сюды, за Нёман. Надыходзіла ноч, князь заблудзіўся ў лесе і праваліўся ў «чортава вока» са ўсёй сваёй ватагаю... З тых часоў і чуцён звон у Кромані: гэта сяляне правяць імшу і моляцца за вялікія грахі Вайшэлга. Гамоняць, што звон будзе да тае пары, пакуль які-небудзь чалавек не памрэ тут, на Кромані, за людзей і не выкупіць тым душы князя. Вось што кажуць старыя людзі...

— Байкі ўсё гэта, — нахмурана адказаў Антон, — чуў ты сам гэты звон?

— Сам, сам... каб не чуў, то не казаў бы табе. Ды каб і не чуў, так ці ж няможна было б паверыць, што кажуць старыя людзі, аб чым ведама з веку?

— Ну, гэта, дзеду, спрэчная справа. Мала чаго зложана было калісь... Але доўга мы курым — давай вывернем яшчэ карчоў са два ці тры.



Дзед Язэп крахтануў, устаў і, узяўшы рыдзель, пачаў падкопваць тоўсты хваёвы пень.

— Трохі рана яшчэ карчаваць, бачыш — зямля мёрзлая, — сказаў ён Антону, які ў гэты час падлажыў калоду пад бому, а канец апошняе — пад акопаны пень.

— Яно-то нічога, толькі прыходзіцца карэнні абсякаць блізка каля пня... Ну, ідзі — наляжам.

Дзед падышоў да Антона, і яны абодва налеглі на верхні канец бомы. Корч крахтануў, захістаўся, але моцна яшчэ трымаўся ў зямлі. Раз пяць напружваліся яны, але корч усё не даваўся. Нягледзячы на халодны вецер і сырасць ад неадтаўшае зусім зямлі, заскарузлыя ад поту і гразі, як цырата, сарочкі іх сталі мокрымі. Аддыхнуўшы трохі і падсекшы яшчэ некалькі карэнняў, яны вырвалі корч, махнатыя чорныя лапы якога бязвольна растапырыліся ва ўсе бакі. За гэтым такая ж чарга чакала другі, трэці...

Пачынала змяркацца. Ужо стала трудна разглядзець карэнні, не відно было і саміх карчоў.

— Ну, кідай! Пойдзем дахаты, — прапанаваў дзед, — ужо позна, дый рукі больш не слухаюць.

Апрануўшыся і забраўшы сякеры і рыдлі, яны пайшлі па сцежцы, якую ведалі толькі адны смалакуршчыкі. Ад узмокшых потных сарочак было вільготна, скрозь лыкавыя лапці праходзіла да ног вада, і абодва рупіліся ісці як найхутчэй. Уперадзе ішоў дзед, Антон — ззаду, і кожны думаў свае думкі.

— Вось ты, дзеду, казаў мне сёння казку аб Кромані, аб нейкім князі, які катаваў людзей. Што князь мучыў людзей — гэтаму я веру, а што там у возеры звон якісь-та, то гэта проста байка. Першаму я веру праз тое, што такія казкі кожны дзень бываюць і ў нашым жыцці. Чым не казка тое, што зрабілася, напрыклад, са мною? Чаму я тут, у гэтым балоце, лесе? Дзецца больш некуды, хоць свет і вялікі. Бацька мой, дзед і ўсе старэйшыя не мелі свае гаспадаркі, але жылі парабкамі ў паноў. Бацька памёр і пакінуў нас траіх на панскую волю. Сястру, старэйшую за мяне, узялі да пакоя, я застаўся парабкам, а матка — удоўкаю. Працы было шмат, але мы трывалі. Трываў і я, хоць часта і біў мяне прыганяты... Але зрабілася тое, пасля чаго трываць ужо было нельга: сястра мая была зняважана панічом, затаўсцела і была выгнана з пакоя. Яна з гора павесілася, а матка ў скорым часе памерла памешанаю. Я не ўтрываў і, сустрэўшы раз паніча, кінуўся душыць яго, але адратавалі, на яго ліха. Мяне засудзілі, і тры гады я адсядзеў у астрозе. Цяпер мяне, як астрожніка,

можа прыняць толькі гэты цёмны лес ды балота... ці ж гэта не казка, ці ж нашы паны — не тыя самыя князі? Эх, многа, дзеду, такіх казак на свеце, і шмат трэба добрых людзей загубіць, каб выкупіць, як ты кажаш, душы гэтых злодзеяў... Ох, шмат!

— Ну, гота другая рэч, — адказаў дзед Язэп і больш за дарогу не прамовіў ні слова.

Смалакуршчыкі адышлі ўжо далёка ад Кромані і праходзілі паміж «чортавых вачэй». Было зусім цёмна, і дзед цікава азіраўся па баках, каб не згубіць сцежку. Адусюль тырчалі лапы старога вывернутага дрэва, над галавою была цемра лясное глушы. У гэтым месцы ніхто ніколі не жыў, і нават старыя смалакуршчыкі, правёўшы ўвесь свой век у лесе, ставілі свае хаткі далей адгэтуль, бліжэй да Нёмана. На вярсту ці паўтары ад берага Нёмана па сухім лесе былі раскіданы невялічкія хаткі ўсіх тутэйшых смалакуршчыкаў, якія ледзь не ўвесь год жылі тут, рэдка адлучаючыся на вёскі.

Хатка, у якой жылі дзед Язэп і Антон разам са сваім дзесяткам, перагародкаю дзялілася на дзве роўныя часткі: адна была для ўсяго дзесятка, другая — для дзесятніка. У першай палавіне хаты быў доўгі стол, дзве лавы з тоўстых негабляваных дошак, умацаваных на калодках, пол, які займаў паўхаты, і гліняная печ з умураваным у прыпек чыгунным катлом. З левага боку ад уваходу да сцяны была прыроблена палічка, на якой стаялі шаршавыя дзеравяныя міскі. У кутку за палічкаю стаялі заўсёды свяцец і пук хваёвае лучыны. Два маленькія акенцы з забраснеўшымі шыбкамі цьмяна глядзелі з хаты.

Дзед і Антон падышлі да хаты, кінулі каля дзвярэй на прызбу свае сякеры і рыдлі і ўвайшлі. Усе іх сябры былі ўжо дома: хто ляжаў на палу, хто ўмываўся, два ж маладыя хлопцы пяклі ў печы картоплі.

Лучына, дагарэўшы да сука, дыміла так, што нельга было тхнуць. На жэрдачцы над печчу віселі мокрыя чорныя анучы і раскудлачаныя лыкавыя лапці з вяровачнымі аборкамі. Па ўсёй хаце стаяў кіслы дух ад мокрых кажухоў і світак.

— Дзе гэта вы так доўга бадзяліся? — запытаў увайшоўшых рыжы Цімох, папраўляючы лучыну ў святцы. — Мы ніяк не можам дачакацца вячэры.

— Мы скончылі работу толькі на змроку, — адказаў дзед.

— За грашамі ганяецеся? — уставіў адзін з хлопцаў, што таўкліся каля печы.

— Але, але, за грашамі, хлопча. Хоць і ноччу працуй, не толькі ўдзень, то і тады за імі не патрапіш. Грошы нас баяцца, дак ганяйся не ганяйся за імі — усё роўна не зловіш, — прамовіў Антон.



— А ці праўда гота, што, кажуць, у Чапскім лесе даюць пяць капеек з карча? Вось добра было б, каб і ў нас так плацілі; тады можна было б выгнаць у дзень саракоўкі са дзве або і ўсе тры злоты.

— Там добра, дзе нас няма, — сказаў дзед Язэп, размотваючы з нагі ўсю ў гразі анучу. — Я шмат пражыў на свеце, у гэтых лясах працую ўжо трыццаты год і ведаю, што нам прыбаўляюць па грошыку на пень год праз пяць ці шэсць. Каб даехаць да пяці капеек з нашых трох, трэба чакаць яшчэ найменш дваццаць год. Я, вядома, не дажыву да такой ласкі.

— Ці доўга ж гэта так будзе? — пачуўся з печы хрыпаты голас Піліпа. — Пры маім здароўі мне нельга больш выкорчваць, як пяць пнёў, зараблю толькі залатоўку ў дзень, а дома — там нават нішчымнае капусты няма.

Ён закашляўся, нешта доўга хлюпала ў яго грудзях.

— Дзейкаюць, што зараз адбяруць зямлю ў паноў і дадуць яе сялянам, тады не трэба будзе гніць нам у гэтым балоце, — сказаў адзін з кутка на палу.

— Хто ж гэта адбярэ ў паноў зямлю? Мы ўсё спадзяёмся, што нехта там, вышэй, будзе такім ласкавым да нас і вось так сабе падаруе нам зямлю, — сказаў Антон, вешаючы свае анучы каля печы. — Дзе ж гэта было відана, каб паны згадзіліся па добрай волі дапамагчы беднаму люду? Ім нельга адцурацца ад свайго багацця, нельга дазволіць, каб народ стаў на свае ўласныя ногі, бо тады некаму будзе на іх, паноў, працаваць. Усё гэта байкі, што дадуць. Мы гібеем ад голаду, ад холаду, страцілі чалавечы дух і жывём па лясах, балотах і расхляпаных вёсках, знішчаныя, бязвольныя, і не можам паправіць сваё жыццё, чакаем, спадзяёмся, што нас хтосьці адратуе. Я ж вам кажу, што вызваліць сябе можам мы толькі самі, больш ніхто.

— Малады яшчэ ты, каб кпінкі рабіць над намі, — раззлаваўся Цімох, — мы сабе паможам самі, да мы паможам самі сабе. Чуў гэта я ўперад за цябе, ды нешта не бачыў яшчэ, каб жабрак зрабіў багатым другога жабрака. Ну, чым я памагу табе ці ты мне, калі ў нас, апроч вось гэтых чорных рук, нічога няма?

— Стары ты чалавек, а досыць дурны, — адказаў Антон, — ты кажаш, што ў нас толькі чорныя рукі, больш нічога. А да таго ты не дадумаўся, што гэтымі чорнымі рукамі не толькі смала выганяецца, але імі зроблены панскія палацы, урабляецца ўся зямля і капаецца золата, якое ў гэтыя рукі потым ужо не пападае.

Чорных рук на свеце надта многа, і каб яны працавалі на сябе, а не на паноў, то было б зусім другое.

— Вядома, мы ўжо старымі дурнямі сталі — дзе ж нам да вас. Але, як відаць, і разумныя сядзяць у тым балоце, як і мы, дурні! — агрызнуўся Цімох.

— Даволі вам спрачацца, — прапанаваў дзед Язэп, — будзем вячэраць.

Маладыя хлопцы, што кошкаліся каля печы, пачалі збіраць вячэру. Адзін з іх наліў у вялізарную міску халоднае, з гаркаватым смаловым прысмакам, вады, усыпаў туды жменю рудое солі і пачаў крышыць хлеб; другі выграбаў з печы картоплі, браў кожную з іх між далонямі, качаў яе і здзьмухваў попел. Як толькі хлопцы скончылі сваю работу, дзед Язэп сказаў:

— Ну, проша да вячэры!

З усіх куткоў хаты смалакуршчыкі пачалі сыходзіцца да стала і займаць свае месцы. Дзед Язэп, як старэйшы, сеў у кутку. Хлопец паставіў на стол міску з цурою. Усе з лыжкамі ў руках чакалі, пакуль не пачне старэйшы. Дзед стукнуў тры разы лыжкаю па краі міскі і зачэрпнуў. Адразу за гэтым у міску сталі апускацца адна за другою ўсе дзесяць лыжак. Як ні пахла смалою вада, як ні трашчаў на зубах пясок у хлебе, але міска апаражнялася надта хутка. Пасля цуры на стале паказаліся картоплі.

— Добра было б хоць солі да картопель, — сказаў адзін хлопец.

— Мала чаго-добра, — адказаў Цімох, — соль каштуе дваццатку гарнец, так дзе ж нам ёю кідацца.

Грудка картопель станавілася ўсё меншаю, а перад кожным з вячэраўшых вырастала купка лупін. Было ціха, гаварыць ніхто не меў часу.

Раптам знадворку пачуўся гоман і тупат, а потым хтосьці пачаў лапаць дзверы. Праз хвіліну на парозе паказаўся рослы чалавек, увесь у гразі і мокры. Зняўшы аблезлую шапку і пераводзячы дух, ён прамовіў:

— Добры вечар, людцы... Калі ласка, прыміце нашага плытніка, хоць на адну ноч!

— Чаму? — запытаўся дзед з-за стала.

— Ведаеце, ён захварэў, і надта моцна; там, на беразе, ён пры такой халадзіне не вытрывае і ночы — пампрэ.

— Вось якая справа, — сказаў Цімох, — а як ён тут пампрэ, што ж мы будзем рабіць? Пойдуць усякія следствы, допыты — клопату не абярэшся.

— Зжальцеся, браты, — прасіў плытнік. — Гэта яшчэ зусім малады хлопец, другі раз толькі пайшоў на плыты. Учора ўвечары мы сталі тарнавацца: яго паслаў стырнік браць плыты на барбару. Усё ішло добра, але ў адным месцы, дзе зямля яшчэ была мёрзлая пад лісцем, гартоль склізнуў поверху, і наш хлопец паляцеў у ваду. Яго ледзьве выцягнулі. Перш ён быў без памяці, потым адышоў трохі, але самі ведаеце, якая пара цяпер — лёд толькі сышоў. Хлопца б'е і трасе, на двары яго нельга пакінуць. Прыміце, будзьце ласкавы!



Паміж смалакуршчыкаў падняліся спрэчкі. Маладыя хлопцы стаялі, каб прыняць хворага, старыя агрызаліся і баяліся быццам чагось, хоць і маўчалі аб гэтым. Але дзед Язэп скончыў гэтыя спрэчкі.

— Трэба памагчы людзям, што вы, хлопцы! Вядзіце хворага, — сказаў ён.

Праз некалькі хвілін два другія плытнікі ўняслі ў хату маладога хлопца. Твар яго быў зялёны, каля вачэй — чырвана, увесь ён дрыжэў, як ліст. Яго распранулі. Усё цела было чорнае, як чыгун.

— Нядоўга ён пражыве, — сказаў хтось з смалакуршчыкаў.

Хворы заенчыў і хрыпатым голасам папрасіў вады. Усе, хто быў у хаце, забыўшыся аб нядаўніх спрэчках, прагліся памагчы хлопцу.

— Што тут за гоман?! — раздаўся зыкаваты голас.

Усе азірнуліся: на парозе стаяў дзесятнік Сымон Гуз.

— Хворага плытніка прынеслі сюды, — адказаў Цімох, гледзячы ў зямлю.

— Хто прынёс? Хто дазволіў прыняць? — пачырванеўшы ад злосці, закрычаў дзесятнік.

— Прынеслі вось яны, а прымалі мы ўсе, — ціха сказаў дзед.

— Усе прымаеце? Прэч яго адгэтуль! Не дазволю я! — крычаў Гуз, і ў яго з рота ўжо ляцелі кавалкі сліны.

— Як хочаш, ты тут старшы, мы павінны табе пакарыцца, — прамовіў дзед Язэп.

Плытнікі, прынёсшыя хворага хлопца, моўчкі пераглядаліся між сабою і апускалі ў зямлю вочы, не ведаючы, што рабіць. У хаце зрабілася зусім ціха, толькі хворы хлопец стагнаў несустрымна, як яго апаноўваў прыпадак трасцы.

— Доўга я буду чакаць? — рыкнуў зноў Гуз.

Плытнікі пачалі апратваць хлопца і ўдвух ужо паднялі несці яго назад. Антон, моўчкі стаяўшы дагэтуль каля стала, падышоў, быццам сарваўшыся з месца, да хворага і сказаў:

— Палажыце яго зноў, браты. Куды вам несці? Дзядзька Гуз, я прашу цябе не лаяцца на людзей і пакінуць тут гэтага хлопца.

— Я ўжо сказаў, што не пакіну, а ты хадаком не лезь, — агрызнуўся Гуз.

— Дак няўжо ж ты можаш выкінуць свайго брата, хоць бы ён паміраў?

— Які ён мне брат, шмат было б занадта братоў, — не сунімаўся дзесятнік.

— Але і запраўды, што ні ён, ні мы табе не браты. Я абмыліўся, сказаўшы гэта. Сымон Гуз мае валоку зямлі, мае добрую гаспадарку, знаёмы панам і ўсім гандлярам. І сюды зайшоў ён не спросту для працы на хлеб, але каб сесці на чужым карку і класці сабе ў кішэню грошы, зробленыя чужым потам. Вядома, гэты хлопец, якога пагнаў голад на плыты, не брат Гузу. Але ён наш брат, і мы не дазволім, каб ты выкідаў яго на двор перад яго смерцю. Чуеш гэта, дзядзька Гуз?

— Як, ты будзеш мною камандаваць? Астрожнік ты! Я і цябе выкіну, не толькі што гэтую галоту! — зароў Гуз.

— Не надта разыходзься: рукі кароткія, — спакойна сказаў Антон.

— Кароткія, кароткія ў мяне рукі... пачакай, пачакай, шэльма, — задыхаючыся ад злосці, барматаў Гуз. — Мяне ўжо не слухаць!..

Каля запечка стаяў цяжкі жалезны лом, якім падварочваюць карэнні пры карчаванні. Гуз схапіў гэты лом і замахнуўся на Антона. Усе замерлі, не дыхалі. Але лом так і павіс у руцэ Гуза. Антон трымаў яго за абедзве рукі і, гледзячы проста яму ў вочы, казаў:

— Ты брудны чалавек, дзядзька Гуз. Пра ўсё ты забыўся; забыўся, што ты такі самы мужык, як і ўсе мы; забыўся, што ў горы трэба дапамагчы чалавеку. Успамянеш ты аб гэтым часе некалі, але будзе позна. Твая доля — панская доля цяпер і некалі. Адцураўся ты ад нас, пагнаўся за нажываю на чужым горы — пашкадуеш аб гэтым, будзе такі час. Ідзі, я цябе не трымаю, а то можаш зноў замахнуцца і прыкончыць мяне.

Антон пусціў рукі Сымона, які пачаў азірацца на ўсіх, не ведаючы, што рабіць далей.

— Ну, пачакай, я цябе ўпяку, — апомніўшыся, сказаў ён Антону, павярнуўся ў сваю хату; бразнуў за сабою дзвярмі.

Як толькі зачыніліся за дзесятнікам дзверы, усе старыя смалакуршчыкі, нават і кволы Піліп, навалііся на Антона. Толькі дзед Язэп маўчаў і, сеўшы каля стала, ківаў галавою, быццам гаварыў сам з сабою. Але як ні ўпікалі Антона, усё ж плытнікам не дазволілі вынесці назад свайго хворага сябра.



Пакрысе гамонка пачала сціхаць, і ўсе сталі ўкладвацца спаць — хто на печы, хто на палу. Хворага хлопца палажылі на печы і накрылі кажухом; прынёсшыя яго плытнікі пайшлі да сваіх на Нёман.

— Антон, табе тут нельга больш заставацца, — шапнуў кладучыся дзед. — Гуз не такі чалавек, каб дараваць табе, і ён пажаліцца на цябе цівуну, а там, хто ведае, што будзе.

— Дзякуй табе, дзеду, за ласку, — адказаў Антон, кладучыся ў самы куток.

Хутка ўся хата заснула. Не спалі толькі хворы хлопец на печы, які стагнаў і барматаў нейкія няясныя словы, ды Антон, якога займалі цяжкія думкі. Не маючы свае хаты, ніякае радні, з «воўчым» білетам — куды ён мог выйсці з гэтых лясоў. Але і тут нельга было больш заставацца. Праўду кажа дзед Язэп: Гуз не даруе яму, Антону, сваявольства, данясе пану — і астрог зноў зачыніць яго надоўга. Такое долі Антон сабе не хацеў, асабліва ў такі час, калі ўсюды, па чутках, пачынае падымацца рух за вольнасць. Не, у гэты час трэба быць сярод народу, а не ў астрозе праз нейкага Гуза. Антон ціха ўстаў, абуўся ў макраватыя яшчэ анучы і лапці, узяў свой пінжак і выйшаў з хаты. На тым баку за Нёманам шырокія поймы прынялі яго ў сваё лона, а за імі пачыналіся вялікія і частыя вёскі, у якіх у хуткім часе Антон знайшоў сабе працу шмат большую, чымся ў кроманскіх смалакурнях.

## II

На Кромані хутка ляцелі дзень за днём. Аб Антоне сталі забывацца, бо, як кажуць, за працаю не бачылі свету. Чуць займалася зара, усе ўставалі і па двое разыходзіліся ў розныя бакі па лесе. Толькі дзеду Язэпу не было пары, і ён далучыўся да хваравітага Піліпа і яго сябра. З кожным днём работы ўсё прыбывала, бо, як насталі цёплыя, сухія дні, Гуз загадаў пачаць гонку смалы. Карчы, што былі загатаваны раней, звалаклі да кучы і пусцілі кацёл. Разам з гэтым трэба было гатаваць новы яшчэ запас карчоў, каб не прыпыняць курава. Бывалі такія выпадкі, што з-за недастачы карчоў дзень ці другі выганкі не было, і тады дзесятнік скідаў частку заработку з кожнага. Вядома, што некаторыя смалакуршчыкі лезлі са скуры, прагнучыся зарабіць як найбольш. Тады ж, як скідалі і за прастой катла, асабліва заўзятыя глядзелі косым вокам на тых, хто мог менш вырабіць. З-за гэтага надта цяжка было дзеду, бо яго гуртом з трох чалавек

не мог зраўняцца ў працы нават з іншымі двума чалавекамі. Астатнія смалакуршчыкі заўсёды, як затрымоўваў Гуз частку грошай за прастой, упікалі гэтым дзеда Піліпа і напарніка, што быў з імі. Сам Гуз часта пакрыкваў на іх, ахвяруючыся прагнаць: ён таксама атрымоўваў свой заработак з катла выгнанае смалы, і яму было моташна, як які-небудзь рубель праходзіў міма яго кішэні.

У нядзелю звычайна ўсе малодшыя хадзілі хто ў вёскі на той бок Нёмана, хто ў мястэчка, каб закупіць для ўсяго дзесятка харчоў на тыдзень. Заставаліся пры смалакурні толькі дзед Язэп, Цімох ды Пілiп. Цімох цёрся каля хаты, папраўляў штонебудзь з адзежы. Пілiп і летам у такія дні ўсё ляжаў на печы, праклінаючы сваё жыццё. Дзед жа Язэп браў сваю сукаватую ялаўцовую палку і выходзіў у лес. Ціха хадзіў ён у гушчыні, прыслухоўваючыся да таемнага ляснога шуму. Заўсёды канцом яго дарогі была Кромань. Як толькі ён даходзіў да берага, выбіраў сабе пень, садзіўся на яго і сваімі старэчымі вачыма ўтупляўся ў туманную аграмаду вады... Над возерам віліся чайкі ды вадзяныя ластаўкі, якія падымалі піск, як паказваўся каршун ці арол. Навокал — простыя, як свечкі, стаялі высокія хваіны, зялёныя шапкі якіх лёгка хісталіся на тонкай вяршынцы. Дзесьці, як з-пад зямлі, чуцен быў гук вадзянога бугая. Хваля налётвала на бераг, аблівала з чмокам пясок і запынялася. Чалавечага голасу — нідзе... Перад вачыма дзеда праходзілі ўсе сказы аб возеры, праходзіла і ўсё яго жыццё ў гэтым лесе: доўгая цяжкая праца, старанне зарабіць сабе на хлеб і содзевак, злада з панскімі дзесятнікамі; трыццаць год такое працы. Цяпер жа, як ён стаў нядужым, як нагнаў за свой век смалы столькі, што ёю можна было б заліць усё пекла, яго ўжо ганьбуюць, Сымон хоча прагнаць. Жабраваць ісці засталося, больш нічога. А можа, і ў возеры жыць можна, жыве ж там цэлая вёска і, можа, гора не ведае. Не, Бог павінен дапамагчы. Але чаму ж ён не дапамог таму хвораму хлапцу-плытніку, а, наадварот, скараціў яго жыццё?.. Глядзеў дзед у возера і не знаходзіў адказу на гэтае пытанне. Дацямна праседжваў ён, слухаючы глухі шум возера, — і чуліся яму нейкія галасы, зразумець якія ён не мог...

Раз — гэта было ў апошнюю нядзелю перад Пятром, — вярнуўшыся ўвечары дахаты, дзед застаў нешта незвычайнае. Пасярэдзіне агульнае палавіны хаты стаяў, узяўшыся ўбокі, Гуз і здзіўлена пытаўся:

— Як гэта паўтара рубля ў дзень? Ці ж вы ачумелі, ці што? Паўтара рубля ў дзень! Ды ці ўмееце вы лічыць да паўтара рубля?



— Ну, гэта не твая справа, умеем мы ці не, — адказаў адзін з маладых хлопцаў, быўшых у дзесятку.

— Ды адкуль жа я вазьму іх вам? — зноў пытаўся Гуз.

— Вось гэта твая справа: дзе хочаш, там і бяры; толькі калі не дасі, то мы больш працаваць табе не будзем, — сказаў хлопец.

— Не будзеш ты, другія знойдуцца.

— Пашукай... Дзядзькі і ты, дзеду, слухайце: сягоння мы з Пётраю былі ў мястэчку і пабачылі, што робіцца на свеце: па ўсіх валасцях сяляне ўмовіліся не ісці да паноў ні жаць, ні касіць, ні на другую працу, калі не будзе платы паўтара рубля ў дзень.

— Паўтара рубля? Да ты ў сваёй галаве, хлопча, ці не? — здзівіўся дзед.

— Але, паўтара! — казаў хлопец. — І вось цяпер у маёнтках ужо ўсе кінулі працаваць, апрача лёкаяў ды некаторых парабкаў. Чаму ж мы павінны ламаць свае спіны за якую-небудзь саракоўку? Калі і нам не дадуць, як хочуць усе людзі, то мы павінны кінуць работу.

— Як кінуць? А на што ж мы будзем жыць? — сказаў Цімох.

— Не слухайце вы гэтых смаркачоў, — сказаў Гуз, — ці ж гэта можна, каб просты, чорны чалавек зарабляў такія грошы? Гэта проста марочаць народ.

— Трэба было б дабавіць нам трохі, — сказаў дзед.

— Дабавіць, табе дабавіць! Карысці мне ад твае працы як ад казла малака! Ну, але добра, накідаю вам па залатоўцы на дзень.

— От-то дзякуй табе, — кінуўся да Гуза Пілiп.

— Не дзякуй яго, дзядзька Пілiп, ён купляе цябе за залатоўку; ты, можа, трохі больш варты, — сказаў хлопец. — Дак ты, дзядзька Сымон, будзеш чакаць ды глядзець на паноў, а плаціць не згодзен паўтара рубля?

— Чакай, можа, два атрымаеш, — прабурчаў Гуз.

— Ну, пойдзем! Хто яшчэ з намі?

Тры хлопцы і двое малодшых мужчын сабралі свае мяшкі, торбы, лыжкі і развіталіся з тымі, хто заставаўся. Дзед засмучана паглядзеў ім услед, апусціў галаву і прамовіў:

— Што яны зробяць з панамі? У паноў шмат грошай і дапамогі, абыдуцца і без нашых сялян, а сяляне толькі пашкодзяць сабе.

— Добра ім хвардыбачыцца, — сказаў Пілiп, — узялі вось свае мяшкі і пайшлі — куды? — К сабе дадому. А я куды пайду? Да пустое хаты? Не, дзякуй.

— Сымон прыбавіў нам па залатоўцы — і то добра. Чаго лепш цяпер хацець?

Гуз усё ж такі засмуціўся адыходам смалакуршчыкаў і сярдзіты пайшоў у сваю хату.

З кожным днём работа на смалакурні ўсё больш горшылася. Кацёл пачаў пуставаць па некалькі дзён падрад. Гуз траціў свае барышы, і яго ахвяра павысіць плату так і засталася толькі ахвяраю, бо ён не хацеў траціць свае грошы, а прасіць у пана дабаўкі баяўся, каб яго не залічылі да «сацыялаў». Гэтага слова Гуз баяўся горш, як агню. З усіх жа смалакуршчыкаў асабліва кепска было дзеду. Некалькі раз ён успамянуў аб Антоне. Гуз, пачуўшы гэтае імя, узненавідзеў дзеда так, як і самога Антона.

— Што ж, ідзі і ты за Антонам у сацыялы, — падсмехваўся ён, — будзеш паўтара рубля зарабляць у дзень; хоць боты сабе на смерць заробіш.

Дзед усё часцей пакідаў хату і сядзеў каля Кромані, думаючы нейкую цяжкую думу.

Прайшло яшчэ тыдні два ці тры. Была самая сярэдзіна лета. Пагода стаяла ясная і душная, і нават у самай гушчыні лесу было горача. Стомленыя сонцам і пылам смалакурні, нашы працаўнікі падселі пад яліну перадыхнуць. З боку хаты пачулася гутарка. Адзін голас быў не чый іншы, як Гуза, а другі — незнаёмы. Хутка на лажок, дзе была смалакурня, выйшаў Гуз і з ім панскі цівун.

— Ды не, паночку, не давайце больш, і так пойдуць, — пачулася рэч Сымона.

— Добра, добра! Паглядзімо, — гаварыў цівун, падыходзячы да смалакуршчыкаў.

Усе ўсталі, пазнімалі шапкі і чакалі, што скажа цівун.

— Дзень добры, браточкі! Ну, як ідзе ў вас работа? Я бачу, што вы не такія гультаі, як другія. Такіх гультаёў у апошнія часы развялося надта шмат: яны самі не працуюць і другім перашкаджаюць. Узбунтавалі ўвесь народ, а панскі хлеб застаецца не сабраным. Ці ж можна так?

— Дзе ж, паночку, дзе ж гэта можна! — гнусавіў Цімох.

— Дык вось што: кіньце вы валэндацца з сваёю смалою, а ідзіце касіць туды, за Нёман; будзеце атрымліваць па пяць злотых у дзень.

— Паночку, дарагі! Па пяць злотых! Вось ласка, — але Антон казаў, што паны нас не пашкадуюць. Брахаў гунсват, — не гаварыў, а больш мармытаў Піліп.



— Не радуйся, Піліп, — сказаў дзед Язэп, — не пражывеш век за пяць злотых.

— Ну, ты маўчы, стары чорт! — агрызнуўся на дзеда Гуз. — Бачыце, паночку, што яны за такія грошы куды хочаш пойдуць. У другіх смалакурнях вы наберыцё таксама шмат людзей і перад Антонаваю ватагаю кланяцца не трэба будзе.

Гэта казаў Гуз цівуну, як яны ўжо адышлі ад смалакуршчыкаў. Адгэтуль цівун паехаў на другія смалакурні наймаць на касьбу тых, хто заставаўся на рабоце ў лесе. І Цімох, і Пілíп зразу сталі вясёлымі, гаварылі бясконца аб панскай ласцы і цешыліся з таго, што цяпер заробяць шмат грошай. Дзед Язэп маўчаў і не мог глядзець проста ў вочы сваім сябрам. Ён адвярнуўся ўбок, і цяжкая дума была на яго твары. Потым ён павярнуўся да Цімоха і прапанаваў скончыць дзённую норму, каб не пакінуць смалакурню ў непарадку.

На другі дзень зранку апусцела хатка смалакуршчыкаў. Гуз, якому зусім было не па руцэ займацца падзёншчынаю на панскіх лагах, усё ж такі ўсхапіўся першым і пачаў будзіць сваіх падлеглых. Праз некалькі хвілін ён вёў іх да Нёмана. Пераправіўшыся на той бераг, яны ўбачылі прастор роўных зялёных лагоў. Трава ўжо паспела і нават пераспела, і праз гэта рабілася ўражанне, быццам на зялёны мошаст наляцела лёгкая празорная плёнка, сатканая з чырвонага шоўку. Сонца толькі што выйшла з-за лесу і адбівалася ў кожнай кропельцы расы. То там то сям варушыліся каля зямлі кавалачкі белае ваты — туману, зыблючыся над лагчынамі. І далёкая шыр, і яснае сонца, і яркасць лагоў асляпілі дзеда, які прывык да лясное цемры і тонкіх колераў. Ён прыжмурыў свае слабыя вочы, вытраўленыя дымам, і дзіваваўся на свет, быццам толькі ўчора радзіўся.

Хоць ужо было і позна, але на лагах нідзе не было відаць людзей. Здавалася, што гэта была пустка, на якой ніколі не ступала чалавечая нага. Толькі недзе далёкаківалася некалькі касцоў ды стракаталі, як конік у летні вечар, дзве ці тры машыны. Падышоўшы туды, даведаліся, што касцы былі не тутэйшыя, а прывезеныя з Магілёўшчыны; за машынамі ж былі прыганятыя з маёнтка. Смалакуршчыкі далучыліся да касцоў і пачалі новую, трохі не звычайную для іх працу.

Дні праз два ці тры ўвесь лог пярэсціўся копамі сена. Як пашабашылі работу, Гуз падышоў да смалакуршчыкаў і сказаў:

— Плаціць будуць па чатыры залатоўкі.

Цімох вытарашчыў вочы і не мог вымавіць слова.

— Вось бачыш, Цімох, за пяць залатовак не пражывеш век, — сказаў дзед.

Работа на лагах ішла поўным пэнтам. Трава была ўжо скошана, усюды былі копы, а ў некаторых месцах пачалі ўжо ўздымацца стагі.

У адзін дзень, каля паўдня, з вёскі, што была між полем і логам, выйшаў гурток сялян, чалавек з пятнаццаць. Гэты гурток ішоў па дарозе ў панскія лагі, а потым павярнуўся туды, дзе больш было за работаю народу, да стагоў. Якраз тут працавалі смалакуршчыкі.

— Дзень добры, браты! Калі ласка, падыдзіце ўсе сюды! — гучна сказаў адзін з прыйшоўшых.

Працаваўшыя кінулі работу, і хто з цікавасці, хто проста, каб пастаяць, сышліся да месца, дзе прыпыніліся сяляне. Дзед Язэп з сваімі сябрамі таксама падышлі.

— Глядзіце, наш Антон тут, — сказаў Піліп.

— Дзе, дзе? — ажывіўся дзед.

Антон у гэты час узлез на капу сена, абвёў вачыма навакол і сказаў:

— Браты! Мы прыйшлі сюды ад сялян усіх бліжэйшых валасцей прасіць вас не перашкаджаць нам у барацьбе з панамі і далучыцца да нас! Вы ведаеце, як цяжка нам усім жыць, якую працу і пакуту нясём мы для таго, каб жыць, — хоць у голадзе і ў холадзе, але жыць. Паглядзіце на гэтыя лагі, а там далей — на палі: чые яны? Панскія, але палітыя нашым потам. За гэты пот, за сваю працу мы нічога не маем. Далей так не павінна быць. Уся зямля павінна быць у таго, хто на ёй працуе. Здабыць жа сабе зямлю можам мы толькі самі, ніхто яе нам не дасць. Вось мы і парашылі перш за ўсё прыціснуць паноў аплатаю нашае працы і не згаджаемся ўрабляць іх зямлю так танна, як гэта было даўней. Вас панскія слугі сабралі з усіх месцаў, падманілі добрымі заработкамі, ашукалі ўсякімі абяцанкамі. Перш вам палажылі па пяць злотых у дзень, але, як убачылі, што вы пагналіся за гэтымі пакутнымі грашамі, ужо і іх скінулі; праз дзень ці другі вам будуць даваць яшчэ менш, а потым сойдзе на тое, што вы зарабілі і ўперад кожны на сваім месцы. Дык ці ж варта за лішні рубель, які вы заробіце за тыдзень, паганіць справу ўсяго працоўнага народа па вёсках і гарадах? Тым, што вы не ўтрымаліся і пайшлі рабіць, вы губіце нас і не зробіце ніякае палёгкі сабе. Кіньце ж гэтую працу: калі паны не схочуць згадзіцца з намі па ласцы, дык мы прымусім іх да таго сілком.

— Праўду ён кажа, — пачулася між народу.



— Гэй, сябры! Кідайце работу! Няхай нам плацяць, як умовіліся, — чутно было ўжо падалей.

— Браточкі! Падумайце, што вы хочаце рабіць! — ліслівa загаварыў цівун. — Большая частка з вас прыехала сюды здалёк. Калі вы кінеце работу, то на што ж вы будзеце тут жыць? Нябось, карміць вас ніхто з іх не захоча. Адумайцеся.

— Вядома, хто вас будзе карміць! — падхапіў Гуз. — Той, хто прапануе вам кінуць працаваць, вам хлеба не дасць, бо сам не мае, а калі вы будзеце слухаць пана, дак не толькі заробіце на хлеб, але і дадому грошы панесіцё. У кожнага з вас ёсць гаспадарка, трэба яе падтрымаць; а ў гэтага бунтаўшчыка нічога няма, дык ён і раіць вам быць такімі гультаямі, як і ён сам.

— Гэта ты, дзядзька Сымон? Няўжо ж і ты ў падзёншчыкі пайшоў, маючы валоку свае зямлі? — запытаўся Антон, каб яго чулі ўсе.

— Глядзіце, глядзіце, што гэта за дым над вёскаю! — пачуўся чыйсьці голас.

Усе павярнулі галовы на вёску.

— Не, гэта не дым, а слуп пылу... Ён становіцца ўсё бліжэй сюды.

Слуп рабіўся ўсё большым і наносіўся бліжэй і бліжэй. Хутка пачуўся тупат, і праз пыл сталі паказвацца людзі вярхом на конях. Хтосьці ціха сказаў — «жандары!».

Хоць боязна і прыдушана раздалося гэтае слова, але ўсе яго пачулі. Крайнія сталі разыходзіцца, бралі свае граблі, вілы, пачалі варушыць сена. Антон і яго сябры, быўшыя ўсярэдзіне, не ўспелі агледзецца, як жандары наляцелі і тыллём сваіх шабель пачалі біць народ. Дзед Язэп стаяў убаку і бачыў, як на Антона наляцеў тоўсты вусаты жандар і два разы агрэў яго сваёю шабляю. Антон зваліўся з ног, і яго не стала відаць, бо пачалася такая таўкатня, што ўсё змяшалася ў кучу. Разагнаўшы народ, жандары павярнулі коней убок і паехалі скрозь па лагу. Антон ледзьве ўстаў: з рота і з носа ў яго цякла кроў; у другіх таксама твар быў ці ў сіняках, ці ў крыві.

— Ну, што, прыйдзеш сюды больш падбухторваць людзей? — падскочыў да Антона Гуз. — Уцякай адсюль, астрожнік!

Пабітыя, пакрыўджаныя, быццам аплёваныя, пайшлі дэпутаты назад у вёску.

Дзед Язэп доўга пазіраў услед Антону, потым павярнуўся, знайшоў сваю торбачку і ціха, ні на кога не гледзячы, пайшоў да лесу. Дабраўшыся да хаты, ён увесь канец дня праляжаў на палу. «Ніхто не дапаможа бедным людзям, бо яны самі не ве-

даюць, што робяць: адзін б'е і катуе другога, а трэці стаіць ды насмехваецца. Цяжка Антону, бо ён адзін; каб усе такімі былі, то інш было б у нас», — думаў дзед. Увечары, прыйшоўшы з работы, Цімох запытаўся:

— Што ж ты, Язэп, уцёк? Ці не хочаш ты забастоўшчыкам быць, як і Антон? А можа, ты хворы?

— Але, брат, хворы, і больш да сена не пайду, — адказаў ён.

У апошнія дні Гуз звычайна начаваў у вартаўніка на лагах і ў лес не заходзіў. У гэты ж дзень ён прыйшоў па нейкай сваёй патрэбе. Зайшоўшы ў хату смалакуршчыкаў і ўбачыўшы дзеда, ён сказаў, каб той ужо больш не хадзіў на работу, бо цівун загадаў не прымаць старых, каб не плаціць грошы за іх нявартую працу. Дзед сказаў, што ён і сам ужо не пойдзе.

— Ну, а калі ты не будзеш рабіць там, ды няма працы і тут, на смалакурні, дак нечага і блукацца табе ў чужой хаце: ты павінен пакінуць яе.

— Сымон, шмат я бачыў ад цябе крыўды, але гэтага не чакаў. Няхай сабе гэтая хата не мая ўласная, але я будаваў яе, жыў у ёй, як ты яшчэ толькі на свет радзіўся. Дак пасаромейся ты сябе! Ці ж табе таксама чужое і для цябе хаты шкода? Ды куды ж я на старасці пайду, не маючы нікога і нічога?

— Куды хочаш — гэта твая справа, — адказаў Гуз, — але каб цябе праз два дні тут не было.

Гуз быў такі чалавек, што, заеўшыся, не адыходзіў. Знарочыста прыходзіў ён нанач у лес, начаваць у хату смалакуршчыкаў, каб мець пагляд, калі пакіне хату дзед. Апошняму да таго цяжка і млосна было на душы, што ён не мог знайсці сабе спакою і цэлы дзень сядзеў каля Кромані, быццам баючыся затрымоўвацца ў хаце. Толькі вольны цёмны лес ды возера, з якімі ён знаўся з маладых год, варочалі яму колішні спакой і ціхі настрой душы. Нават і людзей яму не хацелася бачыць, толькі Антон заўсёды стаяў перад яго вачыма то моцны і спакойны, то знішчаны, з крывавым тварам.

## III

Усё неба чырванела і зіхацела. Вечар ужо даўно настаў, але нават і ў лесе было зусім відна. Скрозь веткі чырвоны бляск праходзіў да зямлі і афарбоўваў усё ў жудасны крывавы колер. Дзед Язэп сядзеў адзін на прызбе, глядзеў на неба скрозь шчылінкі між вяршынямі. На душы была трывога, якую чуем



мы заўсёды, як бачым агонь і стыхію. Чырвоны бляск то як бы патухаў, то зноў пашыраўся, то пераходзіў у другое месца. Дзед Язэп бачыў, што гэта пажар, але дзе — ён не ведаў. Зараз прыйшлі Піліп і Цімох з работы.

— Дзе гэта пажар? — запытаўся дзед.

— Гэта панскія стагі гараць, — сказаў Цімох. — Мы ледзьве выбраліся дахаты: прыганятыя не пускаюць, прымушалі тушыць сена. Але ж як ты будзеш тушыць стог? Пакуль увесь не згарыць, да яго не падступішся. Толькі наш Гуз там гайсае ад стога к стогу, быццам можа ўсе іх захаваць ад агню...

На другі дзень яшчэ зранку Гуз вярнуўся ў лес. Ён быў стомлены за ноч і нават забыўся пакрычаць на дзеда. Цімоху і Піліпу ён сказаў не ісці ў лог, бо там больш працы не будзе. Гэтыя апошнія былі незадаволены такім становішчам, але рабіць больш было нечага.

Гуз жа цэлы дзень спаў у сваёй каморцы.

Увечар, як толькі пачаў падаць змрок, зноў чырвоны бляск адбіўся на небе. Гэта дагаралі стагі. Трохі пазней пажар усхапіўся далей за логам — каля маёнтка і вёсак. Не паспяваў агонь сціхнуць у адным месцы, як ён уздымаўся ў другім — і гэтак цэлую ноч. Дзед усё сядзеў на прызбе, глядзеў на бляск і ківаў галавою, быццам хваліў кагосьці... Ужо перад раніцаю між дрэвамі хіснуўся цень, потым выйшла кабета.

— Ці не ведаеце вы, дзе тут Сымон Гуз? — запыталася яна ў дзеда.

Дзед увёў яе ў хату.

— Сымон! Мы пагарэлі, — зараўла яна.

— Што? Што ты кажаш? Мы пагарэлі?! Як жа гэта, а больш ніхто з суседзяў?

— Не, толькі на нас адных такая напасць... Усё згарэла!

— Усё згарэла: і гавяда, і дабро... Адны пагарэлі. Ну, я ведаю, чыя гэта работа. Не кончыў тады я гэтага астрожніка — кепска зрабіў, сабе назло. Ну, пойдзем на вёску, — сказаў Гуз жонцы.

Больш Гуз не мог тут заставацца. Яго чакала дома свая праца.

Пажары не сціхалі і далей. За стагамі дайшла чарга да маёнткавых будынкаў. Былі спалены папоўскія гумны; чыёюсь рукою падкладаўся агонь і пад сялянскія хаты, пры гэтым тут быў нейкі выбар: гарэлі ўсё такія, як Гуз. Але пажары ў вёсках нарабілі шмат смутку. Нават Піліп, які лічыў сваю хату пустою і які ніколі не цікавіўся ёю, пайшоў на сваю вёску вартаваць, як ён казаў, сваю хату.

Дзед застаўся адзін каля смалакурні. Цімох, лічачы, што смалакуршчыкам ужо ў гэтае лета нічога не заробіш, кінуў лес і пайшоў шукаць сабе працы дзе-небудзь у маёнтку. Малады хлопец, што заставаўся пры Піліпе, уцёк разам з ім. Хата зрабілася надта вялікаю, і дзед часта не знаходзіў сабе месца, не ведаючы, што рабіць. Уперад ён хацеў пашукаць у лесе, ці не засталіся людзі на іншых смалакурнях. Потым яму не захацелася сыходзіцца са свежымі людзьмі. Аднаго ён чакаў — пабачыцца з Антонам і пайсці з ім сказаць людзям праўду.

На адвячорку аднаго з бліжэйшых дзён да хаты дзеда падышоў хлопец у гарадской адзежы. Ён азірнуўся навакол і пастукаў у акно. Дзед выйшаў на двор. Акінуўшы вокам прыйшоўшага, ён прыжмурыўся, быццам штосьці ўспамінаючы.

— Здрастуйце, дзеду! Гэта вы будзеце Язэп Гарэлы? — запытаўся хлопец.

— Я... Пачакайце, вы, здаецца, увосень былі тут, хацелі Кромань мераць?

— Быў, быў.

Дзед задумаўся: мусіць, праўду казаў Антон, што нельга верыць старым сказам аб возеры; вось гэты хлопец, якога ён лічыў згібшым у возеры, жывы і стаіць перад ім.

— У вас тут больш нікога няма?

— Не, я застаўся адзін, — адказаў дзед.

Хлопец неспадзявана для дзеда павярнуўся і прапаў у лесе. Праз некалькі хвілін ён вярнуўся, але не адзін, а з трыма сябрамі, сярод якіх быў і Антон.

— Вось, дзеду, зноў прыйдзецца жыць разам, — сказаў вітаючыся Антон. — Цяпер зноў стаў свет вузкі, і толькі гэты лес прыгортвае, хавае і шануе нас.

— Нічога, свет шырокі і будзе нашым, не гаруй, Антон, — сказаў адзін з хлопцаў.

Увайшлі ў хату. Хлопцы пазнімалі з сябе вопраткі і мяшкі, Антон дастаў з скураное торбы кніжкі і паклаў іх на стол. «Каморнік», як думаў аб прыйшоўшым першым хлопцы дзед, зняў сарочку і стаў аглядаць вышэй локця сваю руку, дзе былі яшчэ свежыя крывавыя падцёкі.

— Завяжы мне чым-небудзь руку, — папрасіў ён Антона.

— Колькі разоў казаў я табе не лезці на ражон, мала ад гэтага карысці, — казаў Антон, абмотваючы яму кавалкам хустачкі пабітае месца.

— Не лезь, не лезь! Што з імі рабіць, з гэтымі бязглуздымі людзьмі? — узгарэўся «каморнік».



— Не, я не згодзен з табою, — гаварыў Антон, скончыўшы перавязку. — Што ты зробіш гэтымі пажарамі ды нападамі на сялян? Пажары зрабілі тое, што нават і разумнейшыя з бедных сялян сталі баяцца нас і не верыць нам. Трэба навучаць іх, аб'яднаць, каб яны зразумелі, што працоўны чалавек усюды той самы бедны, на якім ездзяць паны на вёсцы, гандляры і фабрыканты — у горадзе. І так ва ўсіх землях. І калі селянін зразумее гэта, то не пойдзе сюды магілеўскі на заработкі, ведаючы, што тутэйшы паўстаў супраць прыгону. Вось у чым павінна быць наша праца.

— Некалі цяпер навучаць, трэба расшматаваць, навясці вусціш на паноў і на тых, хто ім служыць, — адказаў «каморнік».

— Трэба супачыць крыху, а то зараз пачне цямнець, — сказаў адзін з хлапцоў.

Як толькі пачаў падаць змрок, «каморнік» пабудзіў сваіх сяброў, і яны ўсе трое выйшлі ў лес. Антон застаўся адзін з дзедам. Доўга за поўнач сядзелі яны: Антон чытаў кніжкі, запісваў штосьці, як пачынаў зморвацца, гаварыў дзеду, як працоўны народ можа сябе вызваліць ад цяжкое долі. У цёмнае акно было відаць чырвонае неба... Сябры Антона вярнуліся дахаты толькі на зары.

Каля паўдня на другі дзень усе хлопцы сядзелі на прызбе і вялі гутарку, як ім наладзіць зносіны з горадам і іншымі сваімі гурткамі. Дзед Язэп, пайшоўшы за дрывамі ў лес, раптам выскачыў адтуль і чутным шопатам са страхам сказаў:

— Хлопчыкі, там едзе шмат людзей на конях і з стрэльбамі!

Усе кінуліся ў хату, схапілі свае мяшкі і адзежу і праз хвіліну прапалі за лесам. Дзед не паспеў яшчэ зачыніць дзвярэй, як у хату ўляцеў Антон: ён забыўся сваіх кніжак. Пакуль ён збіраў іх, між лесам перад хатаю паказаліся жандары, якіх вёў Сымон Гуз.

Антон ледзьве выскачыў з хаты. Гуз, ішоўшы крокаў на дзесяць паперадзе жандараў, кінуўся на Антона, але праз момант паляцеў на зямлю.

— Лавіце, лавіце яго, гэта ён! — закрычаў ён жандарам, зноў устаючы на ногі.

Жандары пагналіся на конях за Антонам, які ўжо ўцякаў у лес. Пачалася шалёная дагоня. Антон, прыгнуўшыся, бег уперад, а за ім ззаду крокаў за пятнаццаць ляцелі жандары.

Гушчарняк не дазваляў ім разагнаць коней, веткі чуць не збівалі іх, у некаторых месцах ногі коней грузлі ў балоце. Дзед, сам не ведаючы для чаго, бег за жандарамі.

— Антон, Антон! Бяжы на Кромань! — крычаў ён.

Антон ужо некалькі разоў, зачапіўшыся за корч ці карэнне, падаў, але хутка ўставаў і ўцякаў. Жандары, бачачы, што ім на конях не дагнаць Антона, злезшы і аддаўшы сваіх коней двум, пусціліся за ім бежкам. Месца пайшло вышэй, праз прагалле паказалася Кромань.

— Божа, зратуй яго! Дапамажы яму! — маліўся дзед, ледзьве паспяваючы за жандарамі.

Вось ужо і бераг.

— Антон! Улева бяры! Кромань цябе схавае!

Але сіла пакідала Антона. Жандары, якія беглі толькі некалькі хвілін, не былі зморраны і праз гэта ўсё бліжэй і бліжэй былі да Антона...

— Чаго мы за ім ляцімо? — сказаў адзін з жандараў. — Варт з-за такое брыды сабе ногі ламаць!

— І то праўда, давай стрэльбу! — адказаў другі.

— Не страляйце, браточкі! Не страляйце: ён ні ў чым не вінаваты, — кінуўся да іх дзед.

— Прэч ты, старая шэльма! — піхнуў яго жандар.

Раздаўся адзін стрэл, зразу за ім — другі. Дзед бачыў, як Антон хістануўся, узмахнуў рукамі і віхлява апусціўся на зямлю. У нагах у дзеда зрабілася раптам страшэнная млявасць, у вачах пайшлі то жоўтыя, то зялёныя кругі, і ён сеў на зямлю... Ачнуўшыся, дзед ледзьве ўстаў. Кругом яго ўжо нікога не было, і ў лесе было ціха, як заўсёды, толькі хваіны штосьці боязна шапталі ўверсе. Дзед падышоў да берага. Антон ляжаў у трох кроках ад яго, раскідаўшы рукі, і шклянымі вачыма глядзеў у неба. З левага боку цякла кроў і чырвонаю стужкаю паўзла па пяску. Дзед стаў на калені і з жальбаю глядзеў у белы, як крэйда, твар Антона. Раптам адна рука забітага рванулася, ён маргнуў вачыма і крануў галаву.

— Хто гэта? Ты, дзеду?

— Я, я, сынок! — устрапыхнуўшыся ад радасці, сказаў дзед.

— Помніш, ты тут мне казаў казку аб Кромані... Помніш? Вось табе новая казка... Ой, дзеду!..

Левая рука Антона ўчапілася за бок і заскрэбла пясок.

— Шмат казак на свеце...

Усё цела Антона затраслося, выцягнулася. Ён глыбока уздыхнуў і заплюшчыў вочы — назаўсёды.

У дзеда хлынулі слёзы.



— Ашукаў ты мяне, Божа! Не памагаеш ты беднаму! Паможам мы толькі самі сабе, казаў ты, Антон. І памёр за другіх.

Ашукала дзеда і возера, не захавала Антона ад ворагаў. Цьмяной плямай глядзела яно, і не было ўжо ў ім нічога таемнага. На свеце зложыліся новыя, іншыя казкі, казкі аб Антоне.

Будзе дзед гэтую жывую казку складаць для маладога і пакалення.

***1922***

# АЛЯКСЕЙ ТРАЕЦКІ

Паэт, празаік, драматург Аляксей Траецкі нарадзіўся ў 1900 годзе. Біяграфічных звестак захавалася мала. Першыя вершы і байкі з'явіліся ў друку ў 1925 годзе ў газетах «Беларуская вёска» і «Савецкая Беларусь». З 1926 года ў часопісах «Чырвоны сейбіт» і «Маладняк» друкуюцца апавяданні А. Траецкага «Апошні дзень», «Працерабіў шлях», «Туманныя ночы», «Бор высякалі», «Сабачы сын», а ў 1930 годзе ў часопісе «Узвышша» — аповесць «Старасельшчына». У 1932 годзе асобным выданнем выйшла яго камедыя «Нашы козыры», якая была перакладзена ў Харкаве на ўкраінскую мову і апублікавана ў 1936 годзе. У сваіх творах пісьменнік імкнуўся праўдзіва адлюстроўваць жыццё з усімі яго складанасцямі, якія абумоўлівалі неардынарныя, часта драматычныя ўчынкі герояў.

6 мая 1937 года А. Траецкі быў арыштаваны і 23 верасня 1937 года расстраляны ў Мінску ў 37-гадовым узросце.

## БОР ВЫСЯКАЛІ

*Апавяданне*

Гнуцца, размашыста ёрзаюцца каля камля дзве спіны. Адна шырокая, плячыстая, як камель. Другая тонкая, смыкаватая, і худыя лапаткі папераменку выкрэсліваюцца з-пад рубашкі, калі цягне к сабе альбо падае ад сябе пілу.

Шах-шах-шах... з ліпкім цягучым пахам смалы разносіцца ў паветры.

Пілуюць сасну.

Высокая падгалістая стаіць, нібы ў якімсьці задуменні. Стаіць і трывожна шэпчацца ў высь, у ясноту бяскрайняга неба. Навокал яе такія ж самыя падгалістыя ў ціхай маўклівасці, у затаёнасці выжыдаюць свайго чароду.

Выжыдаюць, каб потым у апошні раз трывожна прашумець галлём, хропнуць, зламацца, пакінуць паўсотняю гадоў наседжанае месца і толькі на ўспамінак аставіць пасля сябе шырокі, стрыжнёвы пень, які яшчэ дзесяткі год будзе сядзець, абрастаць



мохам, будзе ўзбуджаць туманныя ўспаміны аб сасне, аб трывожным зімовым ропаце бору, аб сумных асенніх напевах.

Здалёк дружна пераклікаліся сякеры, шахкацелі пілы, з трэскам і шумам валіліся сосны.

Глухі стогн ракатаў у галлі.

Бор высякалі...

— Стой, — адазваўся худы з птушыным носам і разагнуў кастлявую спіну, ад чаго яна стала яшчэ вузей і вострыя лапаткі яшчэ больш вытыркнулі на плячох.

— Годзе, кажу!

— То шчэ ж не падае, — буркнуў шыракаплечы, курносы і налёг на пілу.

— Дармо — выцягвай!

Стаялі каля сасны: адзін высокі, перахвацісты ў поясе, як аса, другі каранасты, нізкі.

Тапары гулка пераклікаліся здалёк, і бор трывожна шумеў, напаўняўся цягучым пахам смалы. Шумела сасна. Шумеў бор. Шархацелі навокала пілы.

— Хадзем, брат Мікола, пасядзім каля ракі, — гаварыў высокі, з птушыным носам, і глядзеў некуды ў даль, у глыб лесу, цераз галаву нізкага, каранастага.

— Хадзем, дружа, пагаворым троху...

— А хто будзе пілаваць?

Птушыны нос пачмыхаў, сабраў маршчынкі і яшчэ глыбей паглядзеў цераз голаў, у глуш, у нетру.

— Та-а-к, браце. Не хочацца верыць, што песенька наша спета. А выходзіць, што так... І хто ж мы пасля ўсяго?.. Сабачыя сыны?.. Эх Мікола, Мікола, як ты, брат, не разумееш нічога.

— А што разумець? Пілі — ды і ўвесь табе розум.

— Пілі... пілі... хадзем!

Калі ішлі, то ступаў няўпэўнена, блытаўся і доўгая рубашка хісталася, як на калу, на худых кастлявых плячох. І лапаткі вострымі грабянямі тырчалі, падымалі рубашку, ад чаго яна рабілася ззаду шмат карацей.

Услед ішоў другі — каранасты, нізкі — шагаў цяжка, цвёрда. І пад тоўстымі босымі нагамі трашчала, храбусцела сухое сучча.

Ішлі між пнёў, між калод па шырокай, як скінуць вокам, пасецы. Пні блішчэлі, пераліваліся смоллю на сонцы. І гэта ж самая смоль плыла ў паветры — пахучая, гострая.

Паселі на шурпатай калодзе, на круцізне абрыву ў вір, у чорнае бяздонне. Перад вачыма плыла рака — шырокая, спакойная. Плыла, шапталася з берагамі, падлізвала іх, роўная, ціхая.

Плыла рака. Праплывалі па ёй карынкі, трэскі зялёныя, ніткі багавіння. І здавалася тады птушынаму носу, што і сам ён плыве. Плыве разам з шурпатаю калодаю, што пад ім, разам з берагам, разам з белымі пнямі, з ламаччам, што як будынкамі ўсейвала лаўжамі ўсю пасеку.

Плывуць яны ў далёкі пакінуты край, дзе засталіся лепшыя сябры, жонка, дзе засталася самая лепшая частка жыцця.

Моршчыцца нос. Звісаюць валасы камякамі на лоб, і на язык просяцца цёплыя, любыя словы.

І мімаволі, сам для сябе, пачынае:

— Эх, брат Мікола, як быў я калісь студэнтам, э-эх, жыццё...

Мікола знае, аб чым будзе гаворка, — не раз чуў ужо — але не перабівае, бо і самому ахвота ўспомніць што-небудзь з бывалашняга. Але не ладзяцца ў Міколы думкі. «Мяшае», — рашыў Мікола і плюнуў на свой тоўсты шурпаты кіпець на назе. Сліна пацякла на траву, як па кары, на мазолістай скуры пальца. Пацякла і завісла на кончыку травіны, як павуковае гняздо. Загойдалася, заварушылася. І ад гэтага яшчэ раз захацелася плюнуць Міколу на кіпець ды ўжо спусціць на другую травіну. «Няхай будзе два павучыныя гнязды».

А птушыны нос усё гаварыў і гаварыў. Галава схілялася нізка ў калені. І вочы глядзелі між ног у адну кропку ў траву, на мурашку, што капашылася ў траве з шыпулінаю.

— Выедам, бывала, вось гэтак на раку. Вясна, пах, шырыня. Абтыкаем лодку чарэмшынаю — і пашлі і пашлі... Сядзім поруч — яна туліцца да мяне, а я да яе... А насупроць на лавачцы другая пара... Усе маладыя, вясёлыя... Э-эх, жыццё!..

Мікола плюнуў на другі кіпець. Сліна пацякла, расцяглася ў струну, пагойдалася, павісела над абрывам і, нашчупаўшы ўнізе травінку, сабралася на ёй у камок, у павучынае гняздо.

Птушыны нос яшчэ ніжэй спусціўся ў калені. Адно было прашмуленае, і скрозь ніткі свяцілася голая скура, другое — палатанае з махрачамі.

І вось нос захаваўся між іх, звіснуў к зямлі, к траве, к мурашцы, што паўзла ўжо цяпер па барляшу, па рыжай нямазанай дзёгцем халяве.



Сачыў за мурашкаю, за думкамі і яшчэ за чымсьці, што падымалася, расло, шырылася ўнутры.

І ад таго, што сядзеў перагнуўшыся, рубашка падымалася ўверх, і ад паясніцы відаць было голае цела, вострая гарбаватая спіна. Быў толькі ў адным верхнім адзенні.

Другім адзеннем было неба чыстае, сіняе. Адзявала яно луг, лес, раку і ўсё, што жыло, варушылася пад ім. Па небе плыло воблачка белае, як снег, як ком ваты. Плыло над ракою, плыло ў рацэ, у глыбіні, у бяздонні. Бо і там было неба, такое ж самае шырокае, бяскрайняе.

Плыў і разліваўся над вадою гостры цягучы пах смолі.

Пах бору — вясны.

І здалося худому з птушыным носам, што ён чамусьці ўжо не плыве, што ён дзесьці з боку гэтае агульнае плыні, што ён прыліп, прыклеіўся. Прыліп, як мурашка, якую вось толькі што раздавіў на халяве, як нешта лішняе, нікому не патрэбнае, «і як яны, як... як яны могуць, сволачы!» хочацца камусьці крыкнуць, схваціць за горла і раздушыць як мурашку, як раздушылі яго. «Але не... хто кажа, раздушылі?.. Ён яшчэ моцны, яго жылістыя кулакі яшчэ зжымаюцца да болю, да крыві. Ён паверне яшчэ ў другі бок гэтую плынь, ён не паплыве, а паімчыць на хвалях яе ў туманы, у цемень гісторыі. Ён будзе рухавіком усяго».

— Мікола!.. — вынырнуў птушыны нос. Вочы заіскрыліся дзікаю кошкаю, упіліся ў шырокі вуграваты Міколаў твар.

— Мікола, бра-а-це... чаго сядзець?.. чаго ждаць? Пара, брат, за дзела... Я рашыў... Я сёння пайду хоць да самага Пілсудскага за сродкамі. Пара-а... Го-о-дзі-і... Мы павінны зарганізавацца... Выступіць... Мы павінны р-разграміць, разбушаваць усю Расію. Мы адамсцім... М-м-ы-й...

— Цьфу, — харкнуў Мікола з круцізны ў вір, і покуль сліна ляцела да вады, устаў з калоды і зацяжна зяўнуў на сонца.

— Ты не верыш... Я. Я...

— От, хадзем пілiць...

Як скрозь сон прабурчаў і падаўся ў глыб пасекі плячысты, каранасты, увесь пахож на камля.

Чалавек з птушыным носам усхапіўся, перагнуўся асою і ў тры скокі нагнаў каранастага.

— Чакай! — учапіўся за плечы, за рубашку, зашыпеў, заскіргітаў зубамі... — Дык кажаш, трэба пілiць!.. Мікола?.. і да магілы так. І ўсё гэта не наша... А мы?.. Мы мурашкі, расціснутыя калясом... Дык навошта ж пілiць... Усё роўна... Мікола, і яна мяне кінула, я адзін... Хе-хе-хе... думалі быць варацiламі

гісторыі, а выйшла смяццё... Мікола, скажы — хто мы? Усё жыве, плыве, радуецца, дыша жыццём, дыша вечнасцю... А мы дажываем, мы, агідныя пляўкі жыцця... Дык навошта ж піліць?.. Каму?..

Чалавек, як аса, перагнуўся, ушпіліўся за рукаў, за крысу, затопаў барляшамі і ад усёй сілы падубіў Міколу на бераг, на круцізну, на абрыў.

— То куды ты дубіш?

— Мікола! а можа, наступіць яшчэ наш чарод?.. Можа, мы яшчэ пагуляем з табою?.. Помніш, як тады ў мястэчку? Э-эх, рубанулі хлопцы...

Птушыны нос, як руль, накіраваўся цераз галаву Міколы. І кашачыя вочы глядзелі ў даль, цераз пні, цераз пасеку, у бор, у глыбіню.

А перад вачыма сівая барада, пейсы і другія вочы, глыбокія, слязлівыя. І няўжо гэта тая барада, што трашчала ў яго кіпцях... Няўжо тыя вочы, што глядзелі ў яго душу, у каламуць, у бруд?.. Няўжо гэта ён — нягодны, паршывы жыдзюга?.. А вось другі і трэці, і многа, многа іх...

Паскладалі рукі, пасхілялі пакорліва галовы і ўсе глядзяць на яго, на птушыны нос, у кашачыя вочы, усе шэпчуць нешта — просяцца...

А пад імі плыве рака шырокая, паўнаводная.

І над ракою, і ў рацэ неба чыстае, сіняе.

І ўсё кудысьці плыве, плыве...

Плыве рака.

Плыве неба.

Плыве воблачка па небе.

І здаецца птушынаму носу, што і сам ён вось-вось паплыве — з ракою, з небам, з белымі пнямі, з гострым цягучым пахам смалы...

Паплыве ў даль, у прасторы, у далёкі пакінуты край... Паплыве да яе, да прыгожае... Паплыве да жыцця, да шчасця...

Э-эх, няхай бы ўсё гэта быў сон. Сон вясны, хараства, сон пахучага бору... Але вось бароды, бароды, пейсы, вочы і ўсё просяцца, шэпчуцца...

— Ну, то хадзем пілаваць, — буркнуў Мікола, плюючы ў вір, у глыбіню...

— Пілаваць?.. А як туды — за слінаю... і мы ж такія самыя пляўкі, і нас выплюнула...



І толькі бачыў Мікола, як засвяціліся кашачыя вочы, як перагнулася худая, вострая спіна, як з-пад рубашкі блiснула на ляту голае цела і потым усё зашумела, закіпела ў віры.

Пабеглі кругі. Струсанулася неба ў рацэ, захісталася, паплыло.

Яшчэ раз плюнуў Мікола ў вір, у муць, у кіпячыя бурбалкі і пайшоў каранасты, шырокі, як камель.

Потым раздаліся гучныя водгукі тапара.

Сек размашыста, цвёрда. Здалёк адклікаліся другія...

Сасоннік з трэскам, з рокатам валіўся на дол.

Бор высякалі.

*1927*

# АДАМ СТАНКЕВІЧ

Гісторык, публіцыст, літаратуразнавец, выдавец, асветнік, грамадска-палітычны дзеяч, беларускі каталіцкі святар Адам Станкевіч паходзіў з сялянскай сям'і вёскі Арляняты Ашмянскага павета Віленскай губерні (цяпер Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці). Нарадзіўся 24 снежня 1891 года (6 студзеня 1892 года). Вучыўся ў Барунскай школе, у гарадскім вучылішчы ў Ашмянах. Пасля заканчэння Віленскай духоўнай семінарыі (1914) быў рэкамендаваны ў Пецярбургскую каталіцкую духоўную акадэмію. У Пецярбургу адразу ўвайшоў у грамаду беларусаў, якія гуртаваліся вакол прафесара Б. Эпімах-Шыпілы, а ў 1916 годзе стаў старшынёй беларускага гуртка. Пасябраваў з Я. Купалам, Ц. Гартным, Б. Тарашкевічам, Я. Варонкам, В. Гадлеўскім. Супрацоўнічаў з беларускімі выданнямі «Светач», «Гоман», «Дзянніца», дзе друкаваў свае артыкулы («Крыху аб ролі Беларусі», «Думкі аб роднай Беларусі» і інш.), стаў сябрам Беларускай хрысціянскай злучнасці з моманту яе ўтварэння (1917), удзельнічаў у з'ездзе беларускіх святароў у Мінску, на якім выступіў з рэфератам аб беларускім адраджэнскім руху, быў адным з заснавальнікаў газеты «Крыніца» (1917–1940). Ксёндз А. Станкевіч адным з першых пачаў ужываць беларускую мову ў сваёй пастырскай дзейнасці. Спачатку на Дзісеншчыне, потым у Віленскім касцёле святога Мікалая (за што праследаваўся польскімі ўладамі), пісаў артыкулы па гэтай праблеме («Духавенства і народ: Да беларусаў трэба гаварыць казанні пабеларуску»).

У Вільні кс. А. Станкевіч знаходзіўся ў цэнтры беларускага адраджэнскага, культурна-асветніцкага і літаратурнага руху. Арганізоўваў прытулак для беларускіх дзяцей-сірот, разам з І. Луцкевічам, А. Сакаловай-Лекант, Л. Чарняўскай, Ю. Мэнкэ ўваходзіў у ініцыятыўную групу, якая дамаглася адкрыцця Віленскай беларускай гімназіі, і з моманту яе заснавання (1 лютага 1919 года) выкладаў там рэлігію і лацінскую мову. У 1922 годзе быў абраны дэпутатам ад беларусаў у Сойм Польскай Рэспублікі, стаў намеснікам старшыні Беларускага пасольскага клуба. Яго пастырская, асветніцкая і палітычная дзейнасць стваралі адно цэлае, ён змагаўся за беларускую мову ў касцёлах і цэрквах, за правы беларускіх сялян, за беларускае прадстаўніцтва ва ўладных органах. Узначальваў ТБШ (1924–1926), быў рэдактарам і выдаўцом штомесячнага рэлігійнага часопіса «Хрысціянская думка» (1927–1938),



многія гады супрацоўнічаў з беларускімі выданнямі («Калоссе», «Шлях моладзі», «Сялянская ніва», «Сцяг волі», «Беларуская доля» і інш.), разам з іншымі беларускімі дзеячамі заснаваў у Вільні беларускую друкарню імя Ф. Скарыны «Беларускае каталіцкае выдавецтва» (1926). За актыўную беларускую дзейнасць ксёндз А. Станкевіч быў высланы палякамі з Вільні ў Слонім (1938).

Восенню 1939 года, пасля далучэння Віленскага краю да Літвы, кс. А. Станкевіч зноў вярнуўся ў Вільню, узначаліў тут Беларускі цэнтр, аднавіў выданне газеты «Крыніца», працягваў выконваць святарскія абавязкі ў касцёле, а калі ў 1940 годзе Літва была далучана да СССР, А. Станкевіча звольнілі з працы дырэктара і выкладчыка Беларускай прагімназіі. Аднак, нягледзячы на гэта, беларуская грамадскасць шырока адзначыла 25-я ўгодкі яго святарскай дзейнасці. Падчас вайны А. Станкевіч жыў у Вільні, выкладаў рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі, змог захаваць у сутарэннях свайго касцёла найбольш каштоўныя экспанаты з Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ад вывазу немцамі. З вызваленнем Вільні савецкімі войскамі ў ліпені 1944 года былі ліквідаваны апошнія беларускія ўстановы — Віленская беларуская гімназія, Беларускі музей, як гэтаму ні пярэчыў А. Станкевіч.

Аўтар кніг (усе выйшлі ў Вільні) «Доктар Францішак Скарына, першы друкар Беларусі (1525–1925)» (1925), «Беларуская мова ў школах Беларусі XVI–XVII ст.» (1928), «Родная мова ў святынях» (1929), «Францішак Багушэвіч: Яго жыццё і творчасць (у трыццатыя ўгодкі смерці (1900–1930)» (1930), «Вітаўт Вялікі і беларусы» (1930), «Казімір Сваяк: Нарыс аб ягонай ідэалогіі (у пятыя ўгодкі смерці)» (1931), «Кастусь Каліноўскі. «Мужыцкая праўда» і ідэя незалежнасці Беларусі» (1933), «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» (1935), «Праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцця і працы» (1935), «З жыцця і дзейнасці Казіміра Сваяка (у дзесятыя ўгодкі яго смерці)» (1936), «Магнушэўскі, Паўлюк Багрым, Баброўскі (да вытокаў беларускага адраджэння)» (1937), «Божае слова ў нядзелі і святы» (1938), «Міхал Забэйда-Суміцкі і беларуская народная песня» (1938), «У чэсць 950-годдзя хрышчэння Беларусі» (1938), «Беларускі хрысціянскі рух» (1939), «Вучыся маліцца» (1940), «Хрысціянства і беларускі народ» (1940), «На свята маткі: Увагі аб дастойнасці і значэнні маткі» (1940).

У снежні 1944 года кс. А. Станкевіч быў арыштаваны супрацоўнікамі НКДБ. Аднак, не прыдумаўшы ніякай віны, святара хутка выпусцілі. Паўторна арыштавалі выдатнага беларуса-гуманіста ў красавіку 1949 года, разам з ім забралі яго кнігі, газеты, часопісы, асабістую перапіску, фотаздымкі, рукапісы, нататнікі. У абвінавачым дакуменце гаварылася, што А. Станкевіч — «славуты кіраўнік беларускага буржуазна-дэмакратычнага руху». Асудзілі яго на 25 гадоў лагераў і выслалі ў Азерлаг Тайшэцкага раёна Іркуцкай вобласці, дзе ён і загінуў 4 снежня 1949 года на 58-м годзе жыцця.

На радзіме А. Станкевіча ў Арлянятах яго прыхільнікі паставілі помнік з такім надпісам:

«Кс. Адам Станкевіч. 1891–1949. Выдатны грамадзка-культурны дзеяч, палымяны патрыёт Беларусі. Памёр у Іркуцкай вобласьці. Вечная яму чэсьць і слава!

Высока ў буру і ў нягоду
Ты родны сьцяг і крыж трымаў,
Між беларускага народу
Сьвятую праўду засяваў».

У 2008 годзе ў серыі «Беларускі кнігазбор» выйшла «Выбранае» Адама Станкевіча.

## «MUŽYCKAJA PRAUDA» І «ГОМОН»
*Сінтэтычны нарыс*

У мінулым 1934 г. прайшло 70 гадоў ад смерці слаўнага барацьбіта за вызваленне зямель быўшага Вял. Кн. Літоўскага з-пад маскоўскага панавання Кастуся Каліноўскага, з імем якога звязаны першы ў беларускай мове рэвалюцыйна-вызвольны часопіс «Mužyckaja Prauda». У тым жа мінулым годзе споўнілася 50 гадоў ад часу паяўлення, хоць пісанага па-расейску, але зместам беларускага, такжа палітычна-вызвольнага часопіса «Гомон». З гэтай нагоды часопісам гэным і пасвячаю гэты кароткі, сінтэтычны нарыс свой.

Абодва гэтыя часопісы — гэта першыя ластаўкі беларускага палітычнага вызвалення. Але не паявіліся яны на беларускім небасхіле ні з сяго, ні з таго — зрадзіў іх дух часу, імкненні і ідэалы, якія ў той час панавалі ў Еўропе. Цёплы, поўны жыццёвай радасці і творчых свежых сіл рамантызм, які паявіўся ў канцы XVIII і ў пач. XIX ст., замяніўшы суровы і акасцянелы класіцызм у прыгожым пісьменстве і ў некаторых галінах навукі, узбудзіў новыя літаратурныя і навуковыя творы будзячыхся да нацыянальнага жыцця народаў. У тым жа часе, апрача рамантызму ў літаратуры і навуцы, паявіўся ў Зах. Еўропе і рамантызм народна-палітычны, які, замест песняў аб красе і нядолі жыцця народаў, замест навуковых доследаў над гісторыяй і мовай народаў, радзіў барацьбу за лепшае, вольнае палітычнае і сацыяльнае жыццё іх. Вялікая французская рэвалюцыя, напалеонаўскія войны, нацыянальна-вызвольныя рэвалюцыі многіх паднявольных народаў у Еўропе ў першай



палове XIX ст. народна-вызвольныя ідэалы гэтыя разнеслі па ўсім свеце, а ўрэшце — спярша праз Віленскі універсітэт, а пасля праз універсітэты расейскія, данеслі і да Беларусі. «Mužyckaja Prauda» і «Гомон» з'яўляюцца роднымі дзецьмі гэтых рамантычна-палітычных ідэалаў.

Беларускія адраджэнска-вызвольныя імкненні шчыльна звязаны з тым грамадскім класам, на якім беларускае культурнае і палітычнае самастойнае жыццё замёрла. Фармальна палітычная самастойнасць нашага народа перастала існаваць на Люблінскай уніі, а фактычна значна пазней, бо аж да канца XVIII ст. Беларусь і Літва яшчэ шмат мелі палітычных і іншых правоў, якія яны стойка баранілі.

Апошнім, сапраўды дастойным абаронцам астаткаў палітычнай і культурнай асобнасці нашага народа і ўсіх беларуска-літоўскіх зямель быў слаўны Канцлер Вял. Кн. Літ. вялікі Леў Сапега. Беларускія магнаты як пануючы і кіруючы клас у народзе былі апошнімі абаронцамі палітычных правоў беларускага народа. Першымі пачынальнікамі палітычнага адраджэння гэтага народа былі ўжо прадстаўнікі дробнай шляхты, як класа ўсё ж такі асвечанага і вольнага, непрыгоннага, пры тым абяднелага і гэтым зближанага да народа. Гэтая дробная і абяднелая, аканчальна не апалячаная беларуская шляхта была адзіным свайго роду інтэлігентным класам у нашым народзе, які збярог памяць аб яго мінуўшчыне і аб яго нацыянальнай асобнасці і пры нагодзе ўзноў стаў на чале гэтага народа. Гэткім быў К. Каліноўскі і многія з тых людзей, пры пасрэдніцтве якіх нарадзілася «Mužyckaja Prauda».

* * *

Часопіс — ці лепш зародак часопіса — «Mužyckaja Prauda» пачала выходзіць у Гарадзеншчыне, праўдападобна ў Беластоку, у 1862 г. Друкаваная яна лацінкай, на двух бачынах аднаго лістка, размерам васьмёркі, у беларускай мове, з асаблівасцямі Гарадзеншчыны, з невялічкай дамешкай полёнізмаў. Крыху большым фарматам розніцца ад іншых нумар сёмы. Наперадзе «Mužyckaj Praudy» азначаны парадкавы нумар, а ў канцы цана: «hrošy 5». Усе нумары падпісаны мянушкай — Jaśko haspadar z pad Wilni. Усіх дагэтуль ведамых нумароў выйшла сем. З ведамых дагэтуль літаратурных крыніц вынікае, што пад успомненай мянушкай крыецца слаўны паўстанец, дыктатар Літвы Кастусь Каліноўскі.

Галоўная палітычна-грамадская мэта «Muž. Pr.», да якой яна заклікае беларускіх сялян, гэта: пазбыцца расейскага цара, пазбыцца паноў і паншчыны, здабыць для сялян зямлю на ўласнасць, не плаціць вялікіх і крыўдных падаткаў, служыць у краёвым войску і ваяваць толькі за волю свайго краю, калі хто на яго нападзе, мець вольнасць трымацца той веры, якой трымаліся прэдкі народа і быць вольнымі людзьмі, як гэта было ўжо ў многіх, а ў многіх заводзілася, дэмакратычных дзяржавах Еўропы.

«Muž. Pr.» заклікае беларускіх сялян да паўстання разам з палякамі проціў расейскага цара і проціў польскіх паноў. Палітычным сваім зместам яна такім чынам адгараджваецца ад Расеі, як такой, з Польшчай жа не зрывае, а зрывае толькі з панскім пануючым класам.

Мэта беларускага ўчасця ў польскім паўстанні — здабыць вольнае і шчаслівае жыццё, вольнае ад паншчыны і вольнае ад палітычнага польска-дзяржаўнага цэнтралізму.

У часопісе гэтым, праўда, не спатыкаем ані разу слоў: Беларусь, беларускі народ. Гаворыцца там толькі аб «нашым народзе» агулам, гаворыцца аб «мужыкох», аб «мужыцкай долі», аб «мужыцкім народзе», аб «нашым краі». Але край гэты і народ ягоны, хоць дужа агульна, дужа асцярожна, разважаецца як нешта асобнае і рознае ад Польшчы і палякаў. Заклікае гэты часопіс беларускіх сялян да паўстання разам з Польшчай, але з той, якая ідзе за «мужыкоў» і якая гарантуе вольнасць беларускаму народу і краю.

Ілюстрацыяй палітычнага і грамадскага характару «Muž. Pr.» няхай паслужаць вось гэтыя з яе выбаркі: «O, zahrytnić naša prauda i jak małanka pralacić pa świecie»... «Ad maskala i panou niema czeho spadziawacisia, bo jany nie wolnaści a hłumu i zdzierstwa naszeho choczuć... No niedouha jany nas budué abdziraci, bo my paznali hdzie siła i prauda i budziem wiedać jak rabić treba, kab dastać ziamlu i wolu» (№ 1), «Kab narod nasz na wiek wiekau byu wolny i szczaśliwy» (№ 2).

«Człowiek wolny, kali maje kusok swajej ziamli, za katoru ani czynszu i abroku nie płacić, ani panszczyny nia służyć»...

«Nam wolnaści treba nie takoj, jakuju nam car schocza daci, no jakuju my sami mužyki pamież saboju zrobimo... Niama czaho ždaci ad niekaha, bo toj tolki žnie, chto pasieje» (№ 3).

«U nas adno wuczać pa szkołach, kab ty znau czytaci pa maskousku, a to dla taho, kab ciabie sausim pierarabili na maskala» (№ 4).

«...Pad maskalom zabyci treba, szto jość u nas nasza baćkauszczyna» (№ 5).



«...U Polszczy mužyki taksama, jak i wy spadziejaliś na cara...»

«...Pamoh-by i nam Prancuz, jak pamahaje mužykom u Polszczy, ale mužyki mauczać, a car kaža, szto jany dawolny...»

«Nia tak dumali mužyki u Polszczy...»

«Stańmo družna razom za naszu wolnaść, jakoj nia było naszym dziedam i baćkam» (№ 7).

Беларускі народніцкі характар «Muž. Pr.» пацвярджае такжа і факт адносінаў яе да рэлігіі. Яна (№ 6) горача выступае ў абароне уніі. І гэта зразумела. Праваслаўе было тады, як і цяпер, аружжам маскоўшчыны, а лацінскае каталіцтва аружжам польскасці. Адно і другое было сімвалам народнага ўціску. Унія ж наадварот: гэта была фактычна мужыцкая народная вера, пагарджаная пануючымі, як і сам «мужык» беларускі.

Словам, «Muž. Pr.» гэта тыповы беларускі пачаткова-народніцкі часопіс. Праўда, у ім яшчэ пануюць традыцыі Вял. Кн. Літоўскага, але праз гэтыя традыцыі, асабліва на тле часу яго выхаду ў свет, відацца ўжо зародкі новых беларускіх вызвольна-нацыянальных ідэяў. «Muž. Pr.» гэта прадвесніца і пачынальніца палітычна-сацыяльнага вызвалення беларускага народа, як складовай часткі ўсебаковага нацыянальнага адраджэння ягонага, гэта ранішняя зорка на беларускім небасхіле, якая азнаямляе беларускаму народу ўсход сонца і будзіць гэты народ да долі і волі.

* * *

Думка беларускага палітычна-сацыяльнага вызвалення, засеяная «Muž. Praudaj», марна не прапала, а жыла і развівалася далей. На дваццаць другім годзе пасля выхаду яе ў свет паявіўся новы беларускі палітычны часопіс «Гомон». Часопіс гэты сапраўды ёсць прадаўжэннем «Muž. Pr.» і яе дапаўненнем.

«Гомон» быў органам беларускіх народнікаў-рэвалюцыянераў, меўшых сваю секцыю пры расейскай «Народнай волі», сярод якіх бадай галоўную ролю іграў слаўны Ігнат Грынявіцкі, згінуўшы ад бомбы, якую кінуў у цара Аляксандра II у 1881 г. Часопіс гэты выйшаў на трэцім-чацвёртым годзе па смерці Грынявіцкага.

Выдаваўся «Гомон» шапірографскім спосабам, у расейскай мове, фармату больш-менш нармальнага сшытка. Дзе выходзіў — напэўна няведама. Можна дагадвацца, што ў Пецярбургу, дзе быў галоўны цэнтр беларускай студэнцкай рэвалюцыйна-народніцкай моладзі.

Усіх нумароў «Гомону» было толькі два. Ведамым ёсць толькі № 2 з датай 15 лістапада 1884 г. Аб нумары першым, што ён быў выйшаўшы, успамінаецца ў № 2. Ці ён аднак дзе захаваўся — няведама.

Адзін арыгінальны экземпляр «Гомону» нумара другога і такжа адзін экземпляр копіі з яго, — якой я карыстаўся для гэтых нарысаў, — знаходзіцца ў Беларускім музеі ў Вільні.

«Гомон» складаецца з наступных артыкулаў: Белорусское революционное обозрение, Внутреннее обозрение, Корреспонденции і з артыкула неазагалоўленага аб нацыянальнай праблеме.

Ідэёвы змест «Гомона» вылажаны цалком выразна ў артыкуле першым і апошнім — гэта барацьба за палітычную і эканамічную самастойнасць Беларусі ў агульнарасейскай федэрацыі.

Першы артыкул, абгаварыўшы тактыку барацьбы беларускіх нарадавольцаў і іх адносіны да расейскай «Народнай волі» і труднасці, якія яны ў сваіх пачынаннях напатыкаюць, канчаецца гэтак: «Но как бы ни велики были эти трудности, мы, поскольку это будет в наших силах, положим первый камень для фундамента федеративной самостоятельности Белоруссии...»

Беларускія нарадавольцы, як гэта відаць з «Гомону», з боку многіх расейцаў напатыкалі нямала перашкод і сумніваў у вартасць іх працы. Ужо тады яны нашых барацьбітоў за Беларусь страшылі нацыяналізмам і сепаратызмам. Вось жа артыкул аб нацыянальнай праблеме адбівае закіды, абасноўвае паняцце нацыі агулам і беларускай у асобнасці, а такжа пасвойму бароніць правоў беларускага народа на палітычную і эканамічную самастойнасць у агульнарасейскай федэрацыі. Вось хоць некаторыя даслоўныя выбаркі з апошняга артыкула ў «Гомоне», які яскрава пацвярджае вышэй сказанае.

«Считаем необходимым энергично защищать Белоруссию как от польского, так и от великороссийского насилия... Все особенности Белоруссии дают право на автономную федеративную самостоятельность в семье других народностей России в будущем...»

У новаўзгадаванай беларускай інтэлігенцыі «не будет того бессознательного узкого национализма, который называется обыкновенно «духом», — у нее не будет — белорусского духа, — но зато она будет проникнута сознательным народничеством...».

Беларуская інтэлігенцыя павінна звярнуць сваю ўвагу не на «развитие белорусскога языка и на развитие белорусской народной гордости и сепаратизма», але яна павінна выставіць «на первый план экономическое улучшение и политическое развитие страны... При такой постановке белорусского вопроса белорусов нельзя было бы назвать сепаратистами... Нынешний исторический момент является наиболее удобным для пробуждения Белоруссии, которая при дружной работе и борьбе нашей интеллигенции переродится для новой самостоятельной жизни и займет почесное место среди других федераций России на началах свободного соглашения с ними...»



Маем мы ўжо, такім чынам, агульнае паняцце аб «Mužyckaj Praudzie» і аб «Гомоне». Для поўнасці нашых нарысаў дакінем слоў колькі параўнання між імі.

Цэнтрам і апорай імкненняў «Muž. Pr.» была Польшча. Каля яе, як каля свайго ядра, мела тварыцца федэрацыя, — аб якой там яшчэ выразна не ўспамінаецца, — народаў бышага Вял. Кн. Літоўскага. У «Гомоне» ўжо яўна спатыкаем ідэю федэрацыі, але ўжо з Расеяй, чаго вымагалі тагачасныя гістарычна-палітычныя варункі Беларусі.

«Muž. Pr.» пісалі і выдавалі беларусы-каталікі польскай культуры, а сярод беларускіх нарадавольцаў-гоманцаў ужо паяўлялася беларуская інтэлігенцыя праваслаўная. Першыя яшчэ аглядаліся на Польшчу і на традыцыі Вял. Кн. Літ., а другія лучылі лёс Беларусі з Расеяй і ўжо аб традыцыях Вял. Кн. Літ., калі не лічыць Грынявіцкага, бадай не помнілі нічога. Гэтыя інтэлігенты ўжо не называлі сябе літоўцамі, як гэта рабіў Каліноўскі і нават яшчэ Грынявіцкі, але выразна беларусамі. Яны ўжо перасталі жыць традыцыямі Вял. Кн. Літоўскага.

Можна смела сказаць, што на беларускіх нарадавольцах, што групаваліся каля «Гомону», ці мо яшчэ лепш, на самым «Гомоне» — традыцыі польскія, шляхецкія, літоўскія адмерлі цалкам. Такім чынам «Гомон» — гэта сапраўды далейшы і зваротны пункт у беларускай палітычна-вызвольнай думцы. «Гомон», як мы ўжо бачылі, усе беларускія землі заве беларускімі, а ўвесь народ наш беларускім і снуе выразныя думкі аб яго палітычнай, сацыяльнай і эканамічнай самастойнасці, чаго так выразна і ў такой меры ў «Muž. Pr.» яшчэ не спатыкаем.

Заходзіць такжа розніца між «Гомоном» і «Muž. Pr.» і што да ідэалагічных асноваў іх. «Muž. Pr.» — гэта часопіс, які можна было б сяння назваць беларускім радыкальным і сялянскім або народным радыкальна-дэмакратычным, а «Гомон» — гэта ўжо часопіс з ідэалогіяй — хоць яшчэ не марксаўскай, — але па-

свойму сацыялістычнай, які ў аснову будучай Беларусі кладзе, як выразна аб гэтым сам кажа, «научный социализм».

Калі ж урэшце ідзе аб беларускі нацыянальны элемент, як такі, дык яго ў «Muž. Pr.» можна бачыць толькі ў тым, што яна была пісана па-беларуску і што бараніла палітычныя і эканамічныя правы беларускага народа.

У «Гомоне» ж шмат больш беларускага нацыянальнага «духу», хоць ад гэтага ён энергічна адкараскваецца. У «Гомоне» беларускі народ — гэта народ самастойны, розны ад іншых славянскіх народаў, а такжа мова яго, псіхіка, абычаі, — усё рознае, асаблівае, беларускае. Ужо гэткі пагляд на беларускі народ сапраўды мае ў сабе нямала беларускага нацыянальнага элементу. Праўда, «Гомон» ці з пракanання, ці мо з тактычных пагляdaў, каб не дражніць расейскіх патрыётаў-імперыялістаў, якія здараліся сярод нарадавольцаў, заяўляе, што Беларусь да сепаратызму не імкнецца, што справу развіцця беларускай мовы і культуры трэба пакінуць «любителям», бо галоўнай мэтай бел. нарадавольцаў павінна быць федэрацыйная самастойнасць Беларусі і эканамічны яе дабрабыт, — то ўсё ж такі гэта ўсё не змяншае ў ім — наадварот, павялічвае — вялікую дозу беларускага нацыянальнага элементу. Сам факт разважання нацыянальнай беларускай праблемы і адгароджванне ад беларускага нацыяналізму гаворыць аб яго існаванні, аб патрэбе з ім лічыцца і аб патрэбе заняць да яго адпаведнае становішча.

Дык пытаем урэшце, што важнейшае для беларускага народа: «Mužyckaja Prauda» ці «Гомон»? Здаецца, не памылімся, калі скажам, што абодва гэтыя часопісы важныя кожны ў сваім часе, у сваіх варунках і ў сваім значэнні. «Muž. Pr.» — гэта першае зерне, першы пачатак беларускай палітычна-вызвольнай думкі, а «Гомон» — гэта той жа думкі прадаўжэнне. Тое, аб чым «Muž. Pr.» пісала дужа агульна, імглiста, «Гомон» называў па імені. «Muž. Pr.» да беларускага нацыянальнага прынцыпу як такога, да паняцця бел. народа як нацыі яшчэ дужа далёка. Зусім да яго блізкі «Гомон», на які прынцып гэны ўжо насядае, хваляй сваёй яго залівае, але і «Гомон» ад яго поўнага зразумення, ад яго прыняцця ў сваю палітычную ідэалогію яшчэ ўхіляецца і адмаўляецца.

Але нядоўга ўжо прынцып беларускай нацыі дабіваўся ў дзверы беларускага вызвалення, каб даць яму новыя творчыя сілы і скіраваць беларускі народ на шлях усебаковага нацыянальнага адраджэння і сацыяльна-палітычнага вызвалення. Калі расейскія нарадавольцы, а ў іх ліку і беларускія, гінулі на царскіх шыбеніцах, тады разлягаўся новы творчы кліч да беларускага народа слаўнага Ф. Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі».



Кліч жа гэны якраз і выражае той нацыянальны прынцып, які лёг у аснову сучаснага адраджэння і вызвалення беларускага народа.

*1935*

## У «ПАЛОНЕ» ПАЭЗІІ ЯКУБА КОЛАСА

*(з нагоды 30-летняга юбілею яго літаратурнага творства)*

Па-за асабістым жыццём чалавека бываюць на свеце факты, жыццёвыя праявы, якія на некаторых людзей маюць асаблівы і рашучы ўплыў, якія трымаюць яго як бы ў палоне і якія як бы заварожваюць псіхіку чалавека праз усё яго жыццё.

Бываюць такжа і ў асабістым жыцці чалавека здарэнні, аб якіх ён ніколі не забываецца, якія жывы і вечны след пакідаюць на яго душы. Мінаюць гады, мінае і змяняецца з імі жыццё чалавека, а гэтыя здарэнні, як жывая пячаць, астаюцца нязменнымі і непарушнымі. Больш таго — гэтыя здарэнні асаблівую яшчэ праяўляюць дзейнасць у душы чалавека — успаміны аб іх твораць у нас усцяж нешта новае, лучаць мінуўшчыну з сучаснасцю, узбагачаюць псіхічнае жыццё наша.

У маім жыцці, калі яго разглядаць з пункту беларускай адраджэнска-вызвольнай ідэі, асаблівым, аб’ектыўным і суб’ектыўным фактам, ад пачатку аж да сяння, ёсць вылучнае і рашучае дзеянне літаратурна-мастацкага творства Якуба Коласа на маю псіхіку і маё з ім асабістае спатканне.

У 1910 годзе я ўступіў у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. Агулам кажучы, быў я ўжо сведамым беларусам. Сведамасць, аднак, гэта была яшчэ дужа сырая, неглыбокая, нявыканчаная. Праўда, процiўставiцца польскай нацыянальнасці, нягледзячы на атмасферу польскага каталіцтва, у якім я гадаваўся, надзіва і для мяне самога, удалося мне лёгка. Жыццё, аднак, праз увесь час майго юнацтва ўсцяж стаўляла прада мною спакусы, што накіроўвалі мяне ў бок польскасці. Але нямнога трэба было мне змагання з імі, каб астацца верным беларускай стыхіі. Крыху інакш справа выглядала з расейшчынай. Прабыўшы ад 1905 да 1909 года ў расейскай гарадской школе ў Ашмяне, я пачынаў

звыкацца з казённай навукай, што рускі народ дзеліцца на тры пададдзелы: на велікарусаў, маларусаў і беларусаў, і што я дзеля гэтага сапраўды беларус, але што мая гэта нацыя не самастойная, а ёсць толькі часткай агульнарускай нацыі. «Беларуская Дудка» Багушэвіча, асабліва яго прадмова да яе, упорыстыя, часта аж да забыцця аб усім іншым, студыі і з гэтага боку дапамаглі мне мінуць небяспеку і абедзвюма нагамі цвёрда стаць на беларускі шлях. Гэтак нацыянальна скрысталізаваўся я ў першых двух гадах маёй навукі ў семінарыі ў 1910–11 гадах. Далейшае шліфаванне і развіванне маёй беларускай сведамасці і ідэалогіі адбывалася асаблівым спосабам пад уплывам паэзіі Коласа.

Ад восені 1906 года ў Вільні выходзіла «Наша ніва». Тайком ад улады семінарысты даставалі яе і чыталі. Найбольшае на мяне ў гэтым часопісе рабілі ўражанне вершы Коласа. Высока мастацкія і адначасна фатаграфічна праўдзівыя малюнкі беларускай прыроды і беларускага быту, глыбока-спакойныя і поўныя безграічнай любові да ўсяго гэтага настроі паэзіі Коласа, змушалі біцца ў такт з ёй маё сэрца, выклікалі ў мяне нейкую дагэтуль няведамую любоў да Беларусі і беларускага народа і парывалі ў краіну лепшага, ідэальнага беларускага свету. І іншыя семінарысты беларусы дазнавалі падобнага ўражання ад паэзіі Коласа. Больш таго — нават рашучыя нашы праціўнікі, слухаючы ці чытаючы Коласа паэзію, задумваліся, псіхічна разаружваліся і мякчэлі ў сваім упорстве і нянавісці да справы беларускага адраджэння.

Але не толькі праз яго паэзію ў «Нашай ніве» пазнаў я Коласа, які ўзяў у «палон» душу маю. Час ад часу ўдавалася бываць у рэдакцыі «Нашай нівы». Адзін раз, здаецца, у 1911 г., падчас такіх адведзінаў гэтай рэдакцыі, якая мясцілася ці на Віленскай 20, ці на Завальнай, 7 у Вільні, я спаткаў Івана Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага. З імі знаўся я ўжо добра. Але апрача іх быў там чалавек, якога я спаткаў першы раз. Сядзеў ён у кутку пад акном маўкліва і задуменна, уважна прыглядаючыся да мяне. Якое ж маё было здзіўленне і радасць, калі Іван Луцкевіч падвёў мяне да гэтага незнаёмага і сказаў: «Будзьце знаёмы, гэта беларускі паэт Якуб Колас». Радасці маёй не было канца. Я глыбока быў узварушаны. Хацеў нешта Коласу сказаць прыемнае, але нічога не выйшла. Колас не быў словаахвотлівым, уважна і пытальна глядзеў на мяне і маўчаў. Відзячы наш клопат, Іван Луцкевіч бліжэй тлумачыў, хто я такі, і адначасна паказваў нам старадаўнія беларускія забыткі, сабраныя ім для беларускага музея. Прамовіў і Колас. Цешыўся, што я стаў на беларускі



шлях і жадаў вытрываласці. Мне ж толькі гэтага і трэба было. Чытаючы паэзію Коласа, мне часамі прыходзілі сумнівы, што гэта, можа, паэзія і толькі, што, можа, і сам Колас у сапраўднасці інакш глядзіць на свет. Асабістае спатканне, як змору, развеяла ўсякія сумнівы, усякія чорныя думкі.

Гэта было маё адзінае спатканне з Коласам, якое ў памяці, аднак, маёй асталося назаўсёды. Здаецца мне, што Колас тады, гледзячы на мяне, як бы пытаўся: няўжо ж ты вытрываеш у беларускай стыхіі, няўжо ж ты выпутаешся з чужых цянётаў і сапраўды пойдзеш па беларускім шляху? Тым часам для мяне ўжо тады не было ніякіх у гэтай справе сумніваў. Колас і яго паэзія даканалі ў гэтай справе ў душы маёй рэшты. Было гэта 25 гадоў таму, а помніцца як сёння.

Асабістае спатканне маё з Якубам Коласам яшчэ больш узмацавала дзейнасць ягонай на мяне паэзіі, якая назаўсёды асталася «дамай» майго сэрца. Калі выйшаў у свет друкам зборнік яго вершаў «Песні жальбы», я з імі ўжо не расставаўся ніколі. Пасля семінарыі, апынуўшыся на студыях у Духоўнай акадэміі ў цяперашнім Ленінградзе, а тады яшчэ Пецярбургу, а пасля Петраградзе, я далей знаходзіўся пад рашучым уплывам чараў паэзіі Коласа, далей не расстаючыся з «Песнямі жальбы» і прагавіта прачытваючы па некалькі разоў такжа вершы Коласа, што друкаваліся ў тагачасных беларускіх часопісах, асабліва паэму «Новая зямля», фрагменты якой друкаваліся на пачатку рэвалюцыі ў беларускіх газетах, што выходзілі тады ў Менску.

Лацінская пагаворка кажа: «Bonum diffusivum est» — гэта знача, што яно з натуры сваёй імкнецца да таго, каб удзяліцца каму. У акадэміі існаваў гурток беларускіх студэнтаў. Такі ж у тым жа Петраградзе існаваў гурток беларусаў у семінарыі. Адзін гурток з другім былі ў кантакце. Удавалася нават часамі прабірацца з семінарыі ў акадэмію на ўзаемныя нарады і нават часам наладжваць рэфераты. З такім рэфератам быў я ў семінарыстаў 31.III.1918 г.,за пару месяцаў да аканчальнага майго выезду з Петраграду. І дзіўная рэч. Тэма майго рэферата была гэткая: «Якуб Колас і яго паэзія». Сёння знаходжу ў сваім архіве гэты рэферат і вось што між іншым у ім чытаю. «Прыемна быць разам, жыць супольна людзям, у каторых адны думкі, адны жаданні, сэрца каторых б'ецца ў адзін тон і адна іх ажыўляе душа... Я, можа, думаеце, што гэта няпраўда, што я з фантазіі такую думку выснаваў? Не. Вось чатыры гады мінае, як я тут у Петраградзе, і праз усе гэтыя гады ў вашых асобах і ўва ўсіх тых, што мяне апярэдзілі, я знаходжу пацвярджэнне

сваіх думак. Бо як жа! Падчас сумнага настрою душы, падчас цяжкога духовага перажывання, падчас завірухі ў сэрцы, — мы адны другіх найлепш разумелі, мы, у каторых супольная ідэя. Дык вось сёння, у час майго з вамі развітання, хацелася б з вамі, браточкі, яшчэ раз, раз апошні, пагаварыць шчыра, ад сэрца. Але хто ж раскалыша гэта сэрца, хто яго струны паруша, каб яшчэ жывей і больш суладна яны зайгралі? Я калі жаданні нашы споўняцца, дык хто ж утрымае тон гэтай музыкі на адной вышыні, на адной роўнай, не фальшывай ноце? Загаловак тэмы вам адкажа. Зробіць гэта той, хто як вецер у асеннюю цёмную ноч жаласна плача ў пушчы-Беларусі, галосячы над народа сконам, хто як родная маці над калыскай дзіцяці свайго бяссонна ночку каратае, пяець аб долі-нядолі свайго роднага народа, яго будучыню гадае, хто сам жывой ёсць Беларусяй, люстрам пакутнага жыцця яе, той, хто будучы вучыцелем-народнікам шмат і вельмі шмат супольнага мае з намі... Зробіць гэта паэтычная думка аб пакутнай Беларусі, аб долі-нядолі дзетак яе... паэтычная думка таго, каму імя Якуб Колас...»

І далей, аж да сёння, паэзія Коласа мела і мае на мяне асаблівую, вылучную дзейнасць. У 1918 і 1919 гг. прыйшлося мне за беларускую справу пабываць за рубяжамі этнаграфічнай Беларусі аж у Драгічыне над Бугам, куды мяне саслала мая духоўная ўлада. І тут нішто так мяне не цешыла, не падтрымлівала на духу, як паэзія Коласа, вершы якога заўсёды меў я пры сабе і чытаў іх па некалькі разоў, разводзячы тугу па Бацькаўшчыне і забываючыся аб дазнанай крыўдзе. І цяпер, у хвіліну сумніваў і духовай прастрацыі, у хвіліны духовай знямогі, паэзія Коласа прыводзіць мяне да раўнавагі, супакойвае, улівае новыя сілы і варочае веру ў здзяйсненне вялікага нашага ідэалу — адраджэння і вызвалення беларускага народа.

«Ой вы, дарожанькі людскія, пуцінкі вузкія, крывыя!.. Прасторны шлях! калі ж, калі ты закрасуеш на зямлі і злучыш нашы ўсе дарогі?» — пытае Колас, канчаючы сваю паэму «Новая зямля».

Прасторны беларускі шлях ужо красуе, ужо злучаюцца нашыя дарогі ў Тваіх песнях, у Тваёй паэзіі, Вялікі Пясняр наш, і, пакрысе, у рэальнасці.

Вышэйсказанае няхай будзе маім скромным лаўровым лістком у вянок на галаву Вялікага Беларускага Народнага Песняра з нагоды 30-годдзя мастацка-літаратурнага Яго творства.

*1919*

# МАКАР КРАЎЦОЎ

Паэт, літаратурны крытык, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч Макар Краўцоў (сапр. Косцевіч) нарадзіўся 6 (18) жніўня 1891 года ў вёсцы Баброўня Гродзенскага павета (цяпер Гродзенскі раён) у шматдзетнай сялянскай сям'і. Ён даводзіцца дзядзькам вядомаму беларускаму паэту Міхасю Васільку (М. Косцевічу).

Пасля вучобы ў царкоўнапрыходскай школе і ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі працаваў выкладчыкам мовы і літаратуры. З пачаткам Першай сусветнай вайны ваяваў на Паўночна-Заходнім фронце (1915–1917), быў абраны салдацкім камітэтам на Першы Усебеларускі кангрэс, які праходзіў у Мінску (1917), зноў працаваў настаўнікам, падрыхтаваў да друку «Беларускі лемантар». Літаратурную дзейнасць пачаў з вершаў і апавяданняў, якія з 1918 года друкаваліся ў газеце «Вольная Беларусь» пад псеўданімам «Макар». Знаходзіўся ў самай гушчыні рэвалюцыйна-грамадскіх падзей таго часу, браў удзел у абвяшчэнні БНР і яе незалежнасці, уступіў у Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, уваходзіў у Беларускую вайсковую камісію. Газета «Беларусь» 30 кастрычніка 1919 года апублікавала верш Макара Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», музыку да якога пазней напісаў кампазітар У. Тэраўскі. Гэты славуты верш стаў беларускім гімнам, гімнам Слуцкага збройнага чыну, удзельнікам якога быў М. Краўцоў (1920). Ён быў дэлегатам Першай Усебеларускай палітычнай канферэнцыі ў Празе (верасень 1921).

З 1921 года жыў у Вільні, актыўна займаўся літаратурнай і грамадскай дзейнасцю, у роднай вёсцы наладжваў літаратурныя вечары, спектаклі, сам выдатна іграў на скрыпцы. 1920–1930-я гады наогул былі надзвычай плённымі у творчасці М. Краўцова. Ён аўтар многіх публіцыстычных артыкулаў, фельетонаў, апавяданняў, вершаў, якія публікаваліся ў мінскіх і віленскіх газетах і часопісах. Ужо самі назвы гэтых публікацый сведчаць пра шырыню грамадскіх і літаратурных інтарэсаў аўтара — «З чаго пачаць будаванне беларускага войска», «Дыктатура пралетарыяту на Беларусі», «Кніжны голад», «Нашае студэнцтва на эміграцыі», «Што перакладаць на беларускую мову», «Што чытаць па-беларуску», «Трымайся родных назоваў», «Час аб'яднаць сілы», «Беларускі выдавецкі рух у Вільні» і інш. Вельмі цікавыя артыкулы і ўспаміны М. Краўцова пра дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэння і пісьменнікаў — «Успаміны аб Іване Луцкевічу»,

«Аляксандр Астрамовіч», «Мае ўспаміны аб Жылцы», «Адна ноч» (успаміны з сусветнай вайны), «Алесь Гарун», «Уладзімір Жылка як мастак слова», «Уладзімір Дубоўка як Жылка Усходу», «Мая ліра» К. Сваяка», «К. Сваяк як паэт рэлігійны», «Пясняр беларускай вёскі (З нагоды 20-летняга юбілею літаратурнай творчасці Якуба Коласа)», «Новы Багдановіч», «Паэтычная творчасць Я. Купалы», «Пяснярка кахання: аб любоўным элеменце ў творчасці Канстанцыі Буйло», «Літаратурная творчасць Ядвігіна Ш.», «Аб сапраўдным месцы Цёткі ў беларускай літаратуры», «Царэвіч цудоўнае казкі: у 10-я ўгодкі смерці М. Багдановіча», «Акадэмік Я. Ф. Карскі», «У літоўцаў Мажвыдас — у беларусаў Скарына» і інш.

У многіх фельетонах, абразках, замалёўках, апавяданнях, вершах, якія М. Краўцоў публікаваў пад рознымі псеўданімамі і крыптанімамі, раскрываецца выдатны талент пісьменніка-патрыёта.

М. Краўцоў быў тэарэтыкам і практыкам перакладу, пісаў артыкулы пра перакладчыцкае майстэрства («Лермантаў па-беларуску»), сам пераклаў на беларускую мову «Алесю» А. Купрына, паэмы «Мцыры» і «Дэман» М. Лермантава, «Тараса Бульбу» М. Гогаля, «Сляпога музыканта» У. Караленкі, «Прынца і жабрака» М. Твэна, творы Л. Талстога, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, Г. Сянкевіча, С. Надсана, М. Салтыкова-Шчадрына, М. Зошчанкі і інш.

За сваю беларускую дзейнасць і за сувязь з Беларускай сялянска-работніцкай грамадой М. Краўцоў быў арыштаваны палякамі ў 1926 годзе. Ягонай сям'і ў гэты час матэрыяльна дапамагаў С. Рак-Міхайлоўскі (праз З. Верас). З 1939 года, калі Заходняя Беларусь была далучана да БССР, пісьменнік працаваў у рэдакцыі газеты «Віленская праўда». У канцы 1939 года яго як беларускага патрыёта арыштавалі органы НКУС і вывезлі ў Беластоцкую турму, дзе ў хуткім часе М. Краўцоў быў закатаваны савецкімі турэмшчыкамі.

## ПАВАРОТ ДА ГОРАДНА

Ізноў я тут. Цябе вітаю,
Мой родны Горадзен стары.
Ізноў па вуліцах лятаю
Да самай позняе пары.

З цябе нацешыцца няможна
Пасля разлукі ў тры гады!
Як міла плітачка тут кожна,
Дамы, бульварчыкі, сады.

Хрыбты мастоў пераламаных.
Ахвяры скончанай вайны,



Шкада мне вас, параскіданых,
Ўдалыя Нёмнавы сыны!

І ты — нямога пасяджэння
Магутны замак — як жывеш?
Праб'е часіна адраджэння —
Ізноў ты, мілы, загудзеш!

А ты... ты — Нёман бела-сіні...
Ой, як харошы, дарагі!
Старыя хвоі, як багіні,
Твае бароняць берагі.

Цяпер нядоляй пілігрыма
Сюды загнаны незнарок,
Твой быстры бег лаўлю вачыма,
Гляджу і ўдоўж, і ўпапярок.

Вітай жа, Горадзен, дзяціну
Тваіх муроў, твае раллі,
Хоць ты прытулішчам будзь сыну —
Выгнанцу роднае зямлі!

## РАМАНС

Ціха спаў стары лес недалёчка,
На балоце кулік чыркацеў.
Той вясны была цёмная ночка,
Што не вернецца зноў, каб хацеў.

Хутка недзе схавалася вёска,
Ўсё гусцела й гусцела імгла:
Твая мілая, доўгая коска
Чорнай стужкай на плечы лягла.

Яшчэ зоркамі вочкі свяцілі.
Шчасце-моладасць грэла душу...
Тыя думкі, што нас засмуцілі,
Я дагэтуль, як шчасце, нашу.

«Нас нядоля ліхая злучыла,
І ў наплыве сляпога чуцця

Ўсю атруту пазнаць навучыла»...
Дый заплакала ты, як дзіця.

Было жудасна нам сярод ночы,
Лёд нядолі застыў каля нас.
Ты, як ангел, мне глянула ў вочы
І пачула: «Расстацца нам час»...

*1918, Менск*

## МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ

*Ваяцкі гімн*

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны наш прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!

Хай аджыве закамянелы
Наш беларускі вольны дух;
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрыў сабой народны рух!

На бой! За шчасце і за волю
Народа слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі.
На бой! — усе да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто смее нам нясці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
Ў крывавых муках мы народзім
Жыццё Рэспублікі сваей!

*1919*



## МАРШЛЮТ

*Апавяданне*

Гэта не было яго праўдзівым прозвішчам. Празывалі гэтак небагатага селяніна аднае досыць вялікае вёскі, які сапраўды зваўся Сцяпан Казун, меў каля чатырох дужых, маладых сыноў і мог узорна весці з гэткай сілаю сваю гаспадарку, але ж любіў ён страшэнна гарэлку і праз яе гінуў.

Што значыла слова «маршлют», якім празвалі Сцяпана, я і цяпер не ведаю, дый ведаў гэта, мусіць, толькі той, хто гэтае слова выдумаў. Аб Маршлюце хадзілі розныя дзейкі* пра здарэнні, якія трапляліся з ім тады, калі ён пачынаў піць, махнуўшы на ўсё рукою.

Рэч у тым, што піў Маршлют не кожны дзень, а неяк часінамі, калі на яго накідзь нейкая находзіла. Трапляючы ў мястэчка ў гандлёвыя дні, Маршлют не выязджаў з яго іншы раз тыдняў два, пакуль не прапіваў усіх, якія меў, грошай. Тады конь яго, сам ведаючы дарогу да хаты, цягнуў соннага Маршлюта па шырокім гасцінцы на пустым возіку, а іншы раз завозіў яго ў падарожныя вёскі, дзе знаёмыя людзі давалі Маршлюту чарачку-другую пахмяліцца і пры гэтым чамусьці лічылі кожны раз за патрэбнае параіць Сцяпану не піць гэтак.

Маршлют быў бойкі розумам і востры на язык мужчына. Высокі, прыгожы тварам, ён меў звонкі прыемны голас і, гаворачы самыя смешныя рэчы, заўсёды трымаўся зусім роўна і спакойна. Родны брат яго Трахім быў добрым музыкаю і толькі пад старасць граючы на скрыпцы, адбіваў моцна тахту абедзвюма нагамі, каб выходзіла ў яго кадрыля альбо полька раўней. Трахім не любіў гарэлкі гэтак, як Сцяпан, і ніякага лішняга прозвішча ніхто яму не даў. Аднаго разу Сцяпанаў конь завёз яго зусім не ў падарожную вёску, а ў бок ад гасцінца, што вёў з мястэчка да роднай Сцяпанавай вёскі.

Калі адна знаёмая гаспадыня, пачаставаўшы Маршлюта чаркаю настоенай на нейкіх карэннях гарэлкі, пачала ўгаворваць яго, каб гэтак не піў, дык Маршлют зусім спакойна адказаў:

— Але, саколачка, праўду кажаш. Хоць яно бяда невялікая, што я, вось, дзесяты дзень ужо, як з хаты, бо сыны мае — малайцы; яны гаспадаркі не збэсцяць. Добра толькі, што коніка майго па дарозе воўк не распрануў.

На Маршлютовай мове гэта значыла: не злупіў скуры.

* Гаворкі, плёткі.

— Э, лепей вось, каб цябе самога хто калі-небудзь распрануў, — сказала гаспадыня, засмяяўшыся.

— Ну, гэта ты мне анэгды* ўжо казала, — па-ранейшаму спакойна сказаў Маршлют. — Вось, ці не маеш ты яшчэ чарачкі?

Сцяпан быў адважны і жартаўлівы не толькі з простымі кабетамі і таварышамі-сялянамі, а іншы раз дзівіў усіх сваёю адвагаю ў абхаджэнні нават і з начальствам.

Местачковыя жыды вельмі ўжо рады былі, як запіваў Маршлют. Яны зусім дарэмна карысталіся канём яго, каб навазіць вады і дроў да лазні на цэлы тыдзень.

Аднаго разу, скарыстаўшы гэтак Маршлютовага каня, жыды закінулі недзе вожжы і вотрубі, што былі зняты з воза. Калі агледзеўся Маршлют, што не ўсё на яго возе ў парадку, дык проста пайшоў разам з канём пад жыдоўскую школу (гэта у нас сінагога завецца), калі жыды там разам з рабінам маліліся.

Сцяпан пёрся з канём проста ў школу і крычаў:

— А дзе мае вожжы і вотрубі?

Жыды нічога не маглі парадзіць. Справа дайшла аж да рабіна, які загадаў жыдом знайсці і аддаць Маршлюту яго вожжы і вотрубі.

Яшчэ цікавейшае здарэнне было з Маршлютам у князевым садку.

Зараз жа па выездзе з мястэчка, у якім часамі прападаў Маршлют, стаялі палацы князя Чацвяртынскага. Брама каля палацаў чамусьці была адчынена, і Маршлютаў конь завёз свайго п'янага гаспадара пад самы палац у садок, ды якраз у раскошныя розных гатункаў краскі. За кароткую летнюю ноч Маршлютаў конь, убіўшыся з возам у кветкі, дашчэнту здратаваў іх, і нараніцы гароднік затрымаў каня за гэтую шкоду.

Сцяпан і гаварыць не хацеў з гароднікам, а дамагаўся пабачыць самога дворнага камісара (гэтак у нас звалі таго, хто кіраваў князёўскай гаспадаркаю).

Камісар сказаў Сцяпану, што падасць яго ў суд, калі не заплаціць за знішчаныя краскі.

— А, паночак мой! — спакойна заявіў Маршлют. — За гэтакае глупства, ды каб я грошы плаціў. Барані, Божа! Забірайце лепш каня з возам, а я пайду сабе дахаты пехатою, бо яшчэ ж аднаго каня маю. Той дык наўрад ці завязе мяне калі ў князевы краскі.

* Анадовечы, колькі дзён раней.



І, сказаўшы гэта, Сцяпан не на жарт скіраваўся дадому, ды пайшоў сабе гасцінцам.

Камісар пачакаў крыху, ці не вернецца Маршлют па каня з возам, а пасля загадаў дворным парабкам дагнаць Сцяпана і аддаць яму каня. Маршлюта наганялі аж за тры вярсты ад мястэчка, бо на ходу ён быў нязгоршы.

Як ні запіваў Маршлют, а грамадскія павіннасці свае ўсё ж такі спаўняў, ды толькі напалову неяк, гэтак цікава, што аж людзі дзівіліся, які ён хітры.

У вёсцы, дзе жыў Сцяпан, была школа. Была і царква. Але свяшчэнніка свайго не было, і трэ было сялянам чаргою прывозіць яго з суседняга сяла за вярстоў дзесяць.

Калі дайшла чарга да Маршлюта прывезці ў школу бацюшку, дык ён і не ўпіраўся зусім, а толькі сказаў сялянам:

— Вось, дурныя! Што гэта за мода нашымі худымі коньмі папа да школкі вазіць? Ён жа свае коні, вунь якія, мае. Хай сабе сам і прыязджае. Я дык паеду, але больш ён напэўна на вазы нашыя сядаць не захоча.

Усе задумаліся, бо не маглі згадаць, якую гэта штуку Маршлют выверне. А што выверне, дык напэўна!

Было гэта ўвосень. Сцяпан вазіў на поле гной ды проста на тым самым возе, нават не паслаўшы саломаю, а паклаўшы дошчачку ўпоперак воза, паехаў да сяла па бацюшку.

— Паедзем, бацюшка, да школкі. Мне чарга выпала сягоння вас прывезці, — заявіў свяшчэнніку Сцяпан.

— Ды што ты, здурэў? — здзівіўся бацюшка. — Ці маеш ты, Сцяпане, розум? Каб я на гэтай запэцканай дошчачцы дзесяць вярстоў ехаў, каб пасля мяне людзі засмяялі, а матушка ды ў хату не пусціла?

— Ну, калі не падабаецца вам, бацюшка, ехаць са мною, дык я і адзін дарогу ведаю. Бывайце здаровы!

І Сцяпан так і вярнуўся паражніма дадому. А бацюшка згадзіўся браць нейкі падатак замест таго, каб сяляне сваімі коньмі яго да школкі прывозілі, і ездзіў туды сваімі ўласнымі коньмі ў брычцы.

Улетку раз адбываліся нейкія ваенныя манеўры, ці што, бо з валасной канцылярыі да старасты ў Сцяпанаву вёску прыйшоў строгі прыказ усім гаспадаром выехаць «пад салдаты», а хто не паслухае, дык будзе аштрафованы.

Маршлют пабажыўся, што ён нізашто не паедзе, але і штрафу ніякага не заплаціць.

— Каб ты так жыў, — заўважыў на гэта бойкі Маршлютаў сусед Захар, — мелеш языком, ды годзі; як пасядзіш у халоднай тыдняў пару, дык і штраф рад будзеш заплаціць, і пад салдаты паедзеш.

— Давай у заклад, — сказаў Маршлют, — калі паеду, дык я табе гарнец гарэлкі пастаўлю, а калі не — дык ты мне і ўсім вось, хто чуе.

— Давай! — адказаў Захар. Пляснулі па руках і чакалі, што будзе.

У назначаны дзень Маршлют, як і ўсе суседзі, запрог каня і выехаў да валаснай канцылярыі.

— Ну, чый гарнец гарэлкі п'ём сягоння ў Боруха? — смяшліва спытаўся Захар у Сцяпана, калі ўсе выехалі за вёску.

— А гэта яшчэ невядома, браце, — спакойна адказаў Маршлют, — паглядзім яшчэ, што будзе ў валасці.

— У Боруха, а не ў валасці, сказаў бы лепш, — паправіў Захар.

— Будзе і ў Боруха, будзе і ў валасці, — мнагазначна пацвердзіў Маршлют.

Прыехаўшы да сяла, дзе знаходзілася валасная канцылярыя, Маршлют, доўга не думаючы, павёў Захара і сведкаў, што былі пры закладзе, як быццам прапіваць у Боруха прайграны ўжо ім гарнец гарэлкі.

Як толькі ўсе добра падпілі і ў карчме стала весела, дык ніхто не прамінуў пажартаваць з таго, што Сцяпан, як ні хітры, а на гэты раз за гарэлку мусіць заплаціць.

— Пачакайце тут крыху, а я пайду даведаюся, каму за гарэлку плаціць, — паважна абвясціў Маршлют.

— А дзе ж ты даведаешся, — спытаўся нехта, — можа, у Борухавай Соркі?

— Ой, не, браточкі! У самога валаснога старшыні даведаюся. Ён жа ж начальнік на тое і мідаля носіць, каб усе справы ведаць.

— Начальнік, але ж не ў карчме, — гукнуў нехта...

Але Маршлют ужо быў за дзвярыма і, шатаючыся, пайшоў да старшыні.

— Як ты сабе хочаш, пане старшыня, а я пад салдаты не паеду, — заявіў Маршлют.

— Як-то не паедзеш? Вось важная персона знайшлася. Думаеш, што калі выпіў, дык на цябе і рады ўжо няма?

— Больш я выпіў, як табе здаецца, пане старшыня, а пад салдаты каго іншага замест мяне пашлі. Не паеду. Хоць бы і сам станавы прыстаў прыказваў, а не паеду. Бывай здароў, дадому трэба ехаць.



Старшыня абурыўся, пачуўшы ад Маршлюта, што ёсць яшчэ большае начальства, і проста загадаў:

— Годзі жарты клеіць. Ідзі ў халодную. Пасядзіш дзён два, гарэлка з галавы выйдзе, дык тады паедзеш, куды табе кажуць.

— Дзе ж там у халодную, калі ў ёй ужо і так, як у бочцы селядцоў, людзей набічкована. На ліха мне твая халодная? — злосна адказаў Маршлют.

— Ну, для гэткага пана ў нас яшчэ знойдзецца месца, дзе пасядзець, — у хлеў зачыню, — пагразіў старшыня.

— Я табе, пане старшыня, не скаціна, каб у хлеў зачыняць.

Усердаваўшыся, старшыня і сапраўды распарадзіўся пасадзіць Маршлюта пад арышт у хлеў, дзе пісарава карова стаяла.

Як толькі ўпіхнулі Маршлюта ў хлеў, ён яшчэ больш прыдаўся п'яным і адразу паваліўся на гнаі, нягледзячы на тое, што світка на ім была белая, навюткая, мусіць, апранёная назнарок. Выкачаўшыся ў гнаі на ўсё бакі, Маршлют закурыў сабе люльку ды чакаў, што будзе далей.

Калі вырушалі усе пад салдаты, старшыня спомніў замкнёнага у хлеў Маршлюта і загадаў яго выпусціць, каб ехаў разам з іншымі.

— Пад салдаты я ўсё ж такі не еду, пане старшыня, — заявіў Маршлют перад людзьмі, — дзе ж мне гэткаму ўробленаму ў людзі паказвацца! Я паеду цяпер туды, куды і не думаў зусім ехаць. Я і да міравога пасрэдніка дарогу ведаю. Дзе гэта відана, каб людзіну ў быдлячы хлеў заганялі! Хто даў пану старшыне гэткае права? Я гэтага не магу даравацъ. Што мне пісарава карова: жонка, ці што, — каб з ёю разам клалі мяне? Выбачайце, паеду пасрэдніку скардзіцца.

Сказаўшы гэтае перад усімі суседзямі проста ў вочы старшыне, Маршлют, не жартуючы, скіраваўся ехаць да мястэчка, дзе жыў міравы пасрэднік, старшы начальнік валаснога старшыні.

Рады не было. Старшыня загадаў злавіць Маршлюта, сцягнуць з яго світку ды, абмыўшы яе ў рэчцы, апрануць яго палюдску. Ды хай сабе едзе, куды сам хоча.

Ведама, што ў абмытай світцы Маршлют паехаў дадому, а не пад салдаты, і выграў заклад, датрымаўшы сваё слова.

Колькі ж хітрасці меў Сцяпан Казун, празваны Маршлютам!

І якім людскім мог быць ён чалавекам, каб хітрасць яго скіроўвалася ў лепшы бок ды каб не піў ён горкае, праклятае гарэлкі з гэткім смакам і заўзятасцю.

*[1927]*

## 20 ГАДОЎ НАЗАД
*(Успамін пра Усебеларускі з'езд 1917 г.)*

> Адною магутнаю грамадой, з'яднаўшыся ў адзін моцны, непераможны маналіт, павінны дружна мы стаяць на варце дзяржаўна-палітычнай незалежнасці, вольнасці і шчасця Бацькаўшчыны. Бо хмары, якія адвечна засцілалі ад нас неба і сонцаву яснату, робяцца вось бялейшымі. Яны радзеюць.
>
> Беларусы! Нам трэба бараніць сваю долю і незалежнасць самім...
>
> *М. Краўцоў. Наш голас (Звон. 1919. 27 жніўня).*

Шмат хто з цяперашняй нашай моладзі чуў, напэўна, што быў у Мінску некалі з'езд з усёй Беларусі, які хацеў лепшай долі свайму народу, што дасягнуць яе не ўдалося, бо сіла перамагла права: бальшавікі з'езд разагналі, дэмагагічна трубячы, быццам складаўся ён... «из помещиков и буржуазии». А тым часам нават і цяпер, праз 20 гадоў, лягчэй хіба было б сустрэць сярод беларусаў негра, як абшарніка або сапраўднага капіталіста.

Што ж гэта быў за з'езд? Як і скуль папаў на яго я? Што там рабіў, чуў і бачыў?

Шмат можна было б паставіць падобных пытанняў, шмат што напісаць. Хочацца ўспомніць пра кардынальнае з'явішча ў незайздроснай долі роднага народа, успомніць тое, што моцна трымаецца ў памяці.

Дый ці можна гэта з памяці выкінуць?..

Густы, малады хваёвы лес каля Рожышча (на Валыні). У зямлянках і бараках сярод гэтага лесу стаяў штаб 44-га расійскага корпуса, у якім мяне ўсе добра знаді як старшыню корпуснага



камітэта. Зналі таксама, што я беларус, маю кантакт з мінскімі беларусамі, атрымліваю сваю родную літаратуру і г. д.

Украінцаў у корпусе была цэлая 72-я дывізія. А беларусаў трудна было выявіць. Аказаліся яны самі. У першых чыслах снежня (паводле старога стылю) клічуць неяк мяне на сход беларусаў, быўшых у корпусе. Сход сабраўся недалёка ад корпуснага штаба ў 46-м інжынерным палку. Заходжу ў прасторны барак. Каля сотні паўтары чалавек (а можа, і больш) пад прэзэсоўствам штабс-капітана (прозвішча не помню, раз у жыцці тады яго я толькі і бачыў); радзяцца, каго пасдаць у Мінск, на Усебеларускі з'езд, а таксама і ў Кіеў на з'езд беларусаў-ваякаў былога расійскага Паўднёва-заходняга фронту (абодва з'езды збіраліся ў адзін і той жа самы час). Павінен зазначыць, што корпусны камітэт, на чале якога я тады стаяў, выбраны быў месяцы за два да бальшавіцкага перавароту, на 20 з нечым сяброў сваіх меў гэты камітэт толькі 2 бальшавікоў, органам новай (бальшавіцкай) улады не быў... Землякі мае, сабраныя (не ведаю, з чыёй ініцыятывы) у 46-м інжынерным палку, таксама не былі бальшавікамі. Сярод сабраных пераважна былі салдаты, пара афіцэраў, некалькі вайсковых урадьнікаў і пісараў. Скідаю шапку, вітаю землякоў па-беларуску. Нейкі ўраднік заікнуўся пра тое, што Беларусь, дык справа зразумелая, але каб мову сваю ў яе інстытуцыях заводзіць, дык гэта, можа, і крыху нешта лішняе. За родную мову выступіў адзін маладзенькі пісар і прачытаў цэлую лекцыю пра слаўную мінуўшчыну нашай мовы ў старадаўняй Літве... Мне запрапанавалі на выбар: ехаць дэлегатам у Мінск або ў Кіеў, а калі спраўлюся, дык пабываць на абодвух з'ездах. Я выбраў Мінск. У Кіеў паехалі іншыя дэлегаты.

У Мінск прыехаў я, калі з'езд яшчэ збіраўся. Адразу кінулася ў вочы зусім слабая арганізацыя гэткага вялікага народнага веча. Не было ніякай рэальнай збройнай сілы, якая давала б гарантыю таго, што з'езду магчыма давесці сваю работу да канца. Думку гэткую я выказаў старшыні Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады Рак-Міхайлоўскаму. Ад яго пачуў, што няма нават вартых жалю фінансаў, каб паслаць чалавек пару ў Кіеў на з'езд фронту. Цешыла толькі тое, што прафесіянальныя саюзы паштавікоў і чыгуначнікаў, а таксама іншая працоўная інтэлігенцыя, не выключаючы акружнога камітэта расійскіх эсэраў і гарадскіх ды губерніяльных самаўрадаў (яшчэ тады бальшавікамі не паразганяных), былі на баку беларускага кангрэсу.

Адкрыць з'езд у гарадскім тэатры 5 (18) снежня 1917 года выпала на долю Рак-Міхайлоўскага. Ад прыроды не аратар,

гаварыў ён неяк вяла, пачаў па-беларуску, з'ехаў на расейскую мову... Энтузіязм, любоў да свае роднай зямлі, да лепшага заўтра свайго народа выклікалі сярод блізка што двухтысячнага з'езда прывітальныя прамовы армейскіх дэлегатаў і прадстаўнікоў розных мінскіх арганізацыяў. Громам воплескаў пакрываў з'езд прывітанне ўкраінца Кавердынскага, калі, паміж іншым, вырвалася з вуснаў яго: «Нашае гора — вашае гора, нашае свята — вашае свята...» Грымеў з'езд на словы нашага паэта Алеся Гаруна, прамаўляўшага ад імя Беларускай сацыялістычнай грамады. Паважна, на другі дзень (ужо ў зале былога Шляхоцкага дома), віталі з'езд два прамоўцы ад мясцовага польскага грамадзянства.

Святочны бок справы мінуў, і з'езд пачаў энергічна працаваць у розных секцыях. Дыспанаваў з'езд вялікім будынкам Шляхоцкага дома, у зале якога збіраўся яго пленум; секцыі і камісіі з'езда працавалі ў былым Губернатарскім доме. Бальшавікі стараліся, як маглі, раскласці з'езд унутры яго, зманулі на свой бок Шантыра і Фальскага ды аднаго з магілёўцаў. Кідалася ў вочы русафільства магілёўцаў з «Областного Белорусского Комитета», існаваўшага ў час керэншчыны ў Петраградзе. Земскія (самаўрадавыя) дзеячы з гэтага Камітэта — Канчар, Вазіла і іншыя абвясцілі нават збор беларускага з'езда ў Менску на 10 дзён пазней (Вялікая і Вайсковая Беларускія Рады склікалі Усебеларускі з'езд на 5, а гэтыя паны на 15 снежня (паводле ст. стылю). Шантыру ўдалося на адзін вечар адкалоць меншую палавіну з'езда, якую ён сам ахрысціў як «левое течение». Вазілу з кампанамі ўдалося разбіць з'езд на гэтак званыя «зямлячаствы» (паводле губерняў — Менскай, Магілёўскай, Віленскай, Гарадзенскай і г. д.).

Мушу ўспомніць, што ў часе прывітанняў віталі з'езд і два народныя камісары «Западной области и фронта»: Берсан (нацыянальных спраў) і Рэзаускі (унутраных спраў). Першы з іх выступаў ад ППС-левіцы, а другі — ад імя партыі бальшавікоў. Прамова Берсана была выслухана з'ездам спакойна, Рэзаускаму да канца дагаварыць не ўдалося. Калі ў часе прамовы ён узяў за ражок вісеўшага над аратарскай трыбунай (на сцэне Гарадскога Тэатра) нацыянальнага беларускага штандара, назваў гэты штандар «национальной тряпкой» і заклікаў замяніць яе «красным знаменем Интернационала», дык на сцэну выйшлі два здаравяцкія матросы (адзін з іх вядомы ўсяму з'езду сваім грымотным голасам левы эсэр Дулін), узялі фігуру наркама Рэзаускага пад рукі і вывелі вон. Адзін з мінскіх наркамаў, таксама левы расійскі эсэр і матрос, Муха (сацыяльнай апекі), як дэлегат і беларус, быў увесь час на з'ездзе.



Характарным было тое, што ніводзін з выступаўшых на з'ездзе магілёўцаў па-беларуску не гаварыў. Будучы, гэтак трагічна закончыўшы сваю кар'еру, «прэзідэнт» Савецкай Беларусі Алесь Чарвякоў хітранька маўчаў і трымаўся зусім незаўважаным, нічым не адрозніваючыся ад цэлага мора сялянскіх шэрых світак і кажушкоў ды не менш шэрых салдацкіх шынялёў, у якія вайна апранула тых жа сялянскіх сыноў Беларусі. Чорнаю вопраткаю выдзяляліся работнікі-петраградцы, жменя народных настаўнікаў, не ўзятых на вайну, ды яшчэ меншая колькасць прадстаўнікоў іншых інтэлігенцкіх прафесіяў, а таксама і групка матросаў. Дзве-тры адзінкі жанчын, напэўна, чуліся сіратліва сярод вялізарнага з'езда. Некаторыя з менскіх беларусаў, з наіўнасцю чэхаўскіх герояў з мяшчанскага вяселля, цешыліся з таго, што быў на з'ездзе нават сапраўдны генерал (ген.-лейтэнант Аляксееўскі — былы начальнік артылерыі ўсёй Фінляндыі), выбраны дэлегатам ад сваіх салдатаў і беларусаў-маракоў Балтыйскага флоту.

Быў момант, калі нашэпты бальшавікоў зрабілі немалы ўплыў на загадкавы сфінкс маўклівай наагул сялянскай масы з'езда, і, апаражніўшы ад правізіі свае торбачкі, дзядзькі голасна заяўлялі, што ім пара ўжо ехаць дамоў. Адкрытыя контрвыступленні лепшых аратараў з'езда сярод сялян пераканалі іх, што галоўная задача яшчэ не вырашана.

Надходзіў фатальны момант — ноч з 30 на 31 снежня (нов. стыль). Справа будучыні Беларусі абгаворана была ў «зямлячаствах», і ў кожным з іх апрацаваны былі дэкларацыі. Зарысаваліся два кірункі: смаленцы, мінчукі, віленцы і гарадзенцы выказваліся за як найбольшую самастойнасць Беларусі, а віцябляне і магілёўцы не маглі развітацца з сваім усерасійскім патрыятызмам, снуючы думкі аб Расіі дэмакратычнай, якая надоўга, як аказалася, была пахавана бальшавікамі. Ясна помніцца, што на пасяджэнні гарадзенцаў Я. Варонка заявіў: «Я ўжо цэлы тыдзень нашу ў партфелі праект універсалу аб незалежнасці...»

Пад канец з'езда з'явіліся з Петраграда эмісары Сталіна-Джугашвілі (ён быў тады ўсерасійскім наркамам па справах нацыянальнасцяў). Рознымі абяцанкамі нейкі салдат і два ці тры работнікі-беларусы стараліся дабіцца ад з'езда прызнання ўсерасійскаю ўладаю петраградскай рады народных камісараў. З гэтых стараннеяў нічога не выйшла.

Дэкларацыі «зямлячастваў» зводзіліся юрыстамі ў адну абшырную рэзалюцыю, і гэткія кампрамісныя людзі, як адвакат Цвікевіч, стараліся хоць на паперы прымірыць масквафілаўмагілёўцаў з самастойнікамі. У бакавым пакоі вялікай залы Шляхоцкага дома ішлі гарачыя спрэчкі сяброў Рады з'езда вакол усялякіх формулаў Цвікевіча. Каля гадзіны першай уночы з 30 на 31 снежня як быццам быў знойдзены нейкі кампраміс. Янка Серада — старшыня з'езда — адкрыў яго пленум. У нарадзе над формулай Цвікевіча (пункт першы, як бы дэкларатыўна-ўступны, рэзалюцыі) умоўлена было, што за і проці гэтага пункта рэзалюцыі (з папраўкай аб поўнай беларускай самастойнасці) выступіць толькі па адным аратары. Гаварыць за рэзалюцыю Цвікевіча вызначаны быў магілёўскі жыдок (здаецца, Гольдман), процi формулы Цвікевіча, значыцца процi федэрацыі з неіснаваўшай Расійскай дэмакратычнай рэспублікай, выступіць вызначылі мяне. Старшыня даў слова Гольдману. Той пачаў гаварыць. Я сышоў уніз, пад эстраду прэзідыума, скуль Гольдмана вельмі добра было чутно, і натаваў слабыя месцы яго аргументацыі, адначасна накідаючы кароткі канспект сваёй прамовы. Да мяне спусціўся магілёвец Канчар і з буйнымі слязьмі на вачах прасіў не падрываць кампрамісу, прыдуманага Цвікевічам. Момант высока-драматычны. Нейкі малітвенны настрой. Маўчу і лаўлю кожнае слова з трыбуны. Хвалі невымоўных адчуванняў распіраюць грудзі. Ні я, ні Канчар не ведаем, што над з'ездам павіс фатум.

Гольдман гаварыў мінут пяць ці дзесяць. Раптам сціх... Каля прэзідыума выраслі дзве шэрыя фігуры: успамінаны ўжо тут наркам унутраных спраў Рэзаускі і п'яны, у шапцы з вялізарным бліскучым брылём, незвычайна хамаваты выглядам, начальнік мінскага бальшавіцкага гарнізона Крывашэін.

— Кто вы? Ваш мандат, товарищ? — энергічна пытаецца старшыня з'езда д-р Серада.

— Я начальник гарнизона! — выкрыкнуў сярод агульнага гоману Крывашэін. — Прошу слова! — паўтарае ён.

Старшыня звоніць. У зале крыху цішэй.

— Я под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели... — пляце нейкую бязглуздзіцу Крывашэін. Магутны гул пратэсту заглушае яго... Віцэ-старшыня Вазіла закрывае з'езд... Серада звоніць, пазбаўляе Крывашэіна слова і ўзнаўляе пасяджэнне, на якім усе трымаюцца стоячы, не вылучаючы самога старшыні. Сядзіць толькі сакратар Калядка і ўвесь час піша. З маестатычнай павагаю ўзносіцца сярод прэзідыума фігура прафесара Карскага. Вазіла брыкнуў назад галавою... Прыкінуўся ці сапраўды самлеў?.. Страшэнны гоман і мітусня... Улавіўшы моманцік некаторай цішыні, Рэзаускі абвяшчае з'езд распушчаным, а Прэзідыум яго арыштаваным... Матрос Муха голасна пратэстуе і заяўляе, што ён больш не камісар апекі... Тым часам урываюцца ў залу ўзброеныя салдаты Рамнёва і, разыходзячыся направа і налева, стараюцца ахапіць з'езд. Дэлегаты супраціўляюцца, настаўляючы грудзі, іншыя пасярэдзіне грымяць крэсламі, барыкадаю адгароджваючы Прэзідыум. Калонаю ў два рады салдаты ўціскаюцца ў сярэдзіну з'езда. Дайшоўшы да барыкадаў, Рамнёў вымае з похвы рэвальвер, паднімае ўгару і колькі разоў націскае цынгель... Але стрэлу не чутно... Пара труслівых світак бяжыць за раяль, што стаіць па левай руцэ прэзідыума. Магутная фігура селяніна ў жоўтым расшпіленым кажусе становіцца на крэсле пасярэдзіне залы, сціскае свае мазолістыя кулакі і крычыць: «Раззброіць іх!» — паказваючы на чырвонаармейцаў...

Усё бачанае апісаць немагчыма... З'езд разганяецца пагрозаю штыхоў... Нехта заспяваў беларускую марсельезу. З ёю выходзім, паміж шпалерамі збройных салдатаў, па сходах на Падгорную вуліцу... На скрыжаванні Скобелеўскай і Падгорнай — ваякі на белых конях... Два панцырнікі грозна маўчаць...

Паход разагнанага з'езда скіроўваецца ў бок рэзідэнцыі бальшавіцкай улады — будынка Камерцыйнай школы... З тысячы грудзей разлягаецца матыў хаўтурнага маршу: «Вы жертвою пали в борьбе роковой...»

З заміраннем гукаў чужой трагічнай песні гінула воля народная, сярод мяккай зімовай ночы, ахінаўшай сэрца Беларусі ценямі рабства...

*1938*

# АРКАДЗЬ СМОЛІЧ

Дзеяч беларускага нацыянальнага дзяржаўнага адраджэння, вучоны, публіцыст Аркадзь Смоліч нарадзіўся 29 верасня 1891 года ў вёсцы Бацэвічы Бабруйскага павета (цяпер Клічаўскі раён). Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1905), Нова-Аляксандраўскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах (Польшча, 1916), вучыўся ў Кіеўскім політэхнічным інстытуце. З 1910 года — член Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). На канферэнцыі БСГ у чэрвені 1917 года ўвайшоў у склад яе часовага ЦК, быў рэдактарам газеты «Грамада». Удзельнік Усебеларускага з'езда 1917 года ў Мінску. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), народны сакратар асветы ў першым яе ўрадзе. Пасля распаду БСГ арганізаваў Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю. З 1919 года — у Вільні, дзе выдаў вучэбны дапаможнік «Геаграфія Беларусі», эпіграфам да якога былі словы: «Каб Беларусь перастала быць краем, невядомым для саміх беларусаў». Удзельнічаў у стварэнні Таварыства беларускай школы, быў першым старшынёй. З 1922 года — у Мінску. Займаў розныя кіруючыя пасады, займаўся навуковай дзейнасцю. У 1924 годзе пад яго кіраўніцтвам быў створаны часопіс «Плуг» для сельскіх гаспадароў і Цэнтральнае бюро краязнаўства. У 1927 годзе яму было прысвоена званне прафесара. У 1928 годзе абраны правадзейным членам Рускага геаграфічнага таварыства, узнагароджаны яго залатым медалём за навуковыя працы «Размяшчэнне насельніцтва на тэрыторыі БССР» і «Сельскагаспадарчыя раёны БССР у 1927–1928 гг.». Удзельнічаў у стварэнні на базе Інбелькульта Акадэміі навук Беларусі. Выступаў у друку з навуковымі даследаваннямі і публіцыстычнымі артыкуламі.

У 1930 годзе быў арыштаваны ДПУ па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і высланы ў Сібір. У 1937 годзе яго арыштавалі паўторна і прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. 10 чэрвеня 1938 года 46-гадовы А. Смоліч быў расстраляны.



## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

25 сакавіка 1918 г. — 25 сакавіка 1921 г.

Цудоўная вясна была тры гады таму назад. Першы раз дачакалася цэнтральная Беларусь, што з яе абшараў зляцелі ланцугі маскоўскага панавання і, хоць трапіла яна адразу ж у новыя путы, ды былі гэта путы толькі на целе яе... Дух жа застаўся вольны. І пасля вякоў заняпаду пачала ўваскрасаць Беларусь. А ў месяц па выйсці з Мінска апошняга маскоўскага салдата пачуўся беларускі народ ужо гэтак моцным, што парваў апошнія путы сваёй даўнейшай дзяржаўнай залежнасці. У скромнай зале, дзе збіралася Рада рэспублікі, празвінелі тады прарочыя словы: адгэтуль Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржаваю. Празвінела і даляцела да мас народных і грымотамі веснавога адраджэння пракацілася праз усю Беларусь...

Незалежнай і вольнай... А ці знаем мы веліч гэтых двух слоў, ці бачым іх хараство, ці ведаем цану, якую яшчэ трэба заплаціць за іх? О, шмат хто яшчэ гэтага не ведае і не бачыць!

А мінула ўжо тры гады. І трэцяя вясна ідзе на змену той. І бачаць людзі, што не збыліся дагэтуль прарочыя словы, бачаць зямлю сваю пад чужым панаваннем, а брата свайго — парабкам на ўласным загоне. І пачынае іх браць сумляванне: а ці не зарана снег сышоў, ці не надарэмна празвінелі тады словы вольнасці. Бо здавалася ім, што годзе сказаць слова — і станецца незалежнасць; і дзеля таго стараюцца яны і цяпер яшчэ дапамагаюць яе здзяйсненню толькі рэзалюцыямі ды пратэстамі. Але не гэтак здабываецца незалежнасць.

Незалежнасць — гэта не фраза, не праграмны параграф, не якісь Вільсанаўскі пункт. Незалежнасць — гэта найвышэйшая мэта, да якой ідуць народы, той кумір, якому ў ахвяру аддаюць яны сваіх лепшых сыноў. Незалежнасць — гэта рэзультат напружанай працы пакаленняў. Тыя народы, што былі страцілі яе, а цяпер зноў здабылі, — яны ведаюць ёй цану. А мы яшчэ не ведаем.

Але мы мусім гэта ведаць, каб разлажыць сваю працу і не кідацца ад вялікай надзеі да безнадзейнасці. Мусім быць прыгатаванымі да тае вялікае і святое працы, якая нас чакае. Мусім здабываць незалежнасць, будуючы школы, арганізацыі, друкуючы кнігі, збіраючы і павялічваючы культурнае багацце і духоўныя сілы нашага народа. Мусім быць прыгатаванымі і да той цярністай дарогі, на якой не адзін з нашых братоў упадзе,

заліваючыся ўласнаю крывёю, не адзін прыхарошыцца вянцом мучаніцкім: гэта ёсць дарога да незалежнасці. Мусім, урэшце, быць прыгатаванымі і да ўсякіх акупацый, раздзелаў нашай Бацькаўшчыны, страшнага нацыянальнага прыціску, каб магчы і пры гэтых — можа, найцяжэйшых — варунках будаваць далей гмах незалежнасці. Мусім разумець, што не словамі, але жывою арганічнаю работаю пры ўсякіх варунках ствараецца незалежнасць, гадуюцца творчыя сілы народа.

Калі наша грамадзянства да ўсяго гэтага будзе прыгатавана, калі яно зразумее, якія ахвяры ад яго вымагаюцца, і захоча іх даць, тады яно будзе варта незалежнасці. Тады сціхнуць у ім галасы наракання, сумлявання. І тыя, што сумляваліся і наракалі, скажуць: у цёмнай ночы на хвіліну запалілася святло і пагасла. Але яно асвяціла дарогу нам, і мы ўжо ведаем, куды ісці. Яшчэ мо і няскора дойдзем мы да нашай мэты і трудна ісці нам вобмацкам у пацёмках. Але мы ведаем належны кірунак. Справа незалежнасці Беларусі ёсць цяпер толькі справа часу. Няхай жа будзе благаслаўлёны той момант, калі запалілася нам тое святло, калі пранесліся тыя словы аб вольнасці, што дагэтуль не здзейсніліся.

Няхай жыве вольная і незалежная Беларусь!

***1921***

# МІХАСЬ МЯЛЕШКА

Публіцыст, паэт, празаік, гісторык, этнограф Міхась Мялешка нарадзіўся 27 красавіка (9 мая) 1892 года ў вёсцы Скары Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер Мядзельскі раён Мінскай вобласці). З 1910 года жыў у Пецярбургу, працаваў на фабрыцы, уваходзіў у гурток прафесара Б. Эпімах-Шыпілы, што прадвызначыла яго далейшую беларускую дзейнасць. У 1915 годзе М. Мялешка — у Віцебску. Быў адным з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) у горадзе, працаваў у губернскім архіве (1917–1918). Пасля заканчэння археаграфічнага факультэта Маскоўскага археалагічнага інстытута (1921) М. Мялешка пераехаў у Мінск, працаваў у Цэнтральным архіўным упраўленні БССР. З 1923 года — член Інбелкульта. Чытаў курс лекцый па этнаграфіі ў Віцебскім педінстытуце (1923–1924), выкладаў гісторыю Беларусі ў Камуністычным універсітэце Беларусі (1926–1928). Укладальнік грунтоўнага тома «Сацыялістычны рух на Беларусі ў пракламацыях 1905 года» (1927).

Першае апавяданне М. Мялешкі «Родныя абразкі» было апублікавана ў 1913 годзе ў альманаху «Маладая Беларусь». З гэтага часу на старонках розных перыядычных выданняў (газеты «Наша ніва», «Вольны сцяг», часопісаў «Полымя», «Наш край») рэгулярна друкуюцца яго апавяданні, вершы, нарысы, публіцыстычныя і навуковыя артыкулы, гістарычныя даследаванні, рэцэнзіі на кнігі беларускіх пісьменнікаў.

18 ліпеня 1930 года М. Мялешка быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і ў 1931 годзе высланы на 5 гадоў у Самару. Другі раз М. Мялешку арыштавалі ў 1938 годзе. «Следства» доўжылася амаль два гады. Калі высветлілася, што М. Мялешка захварэў на рак, яго адпусцілі паміраць дома.

## ДЗЁННІК

*22.IX.1915 г.*

Сягоння пачынаю пісаць свой дзённік. Цяпер я ў Віцебску. Дужа такі маркотна. Што ў роднай старонцы? Што цяпер там дзеецца, ці жывы ўсе родныя. У паўдзённай частцы воз. Нарач ідуць бойкі, было ў газетах. Хоць бы якую вестку атрымаць з дому, быў бы спакайней. Сягоння напісаў ліст да Г. М-ы. Ад сяброў ужо каторы час не атрымаю ні адной пісулькі. Можа, ужо каторых і ў жывых няма. Сягоння праз горад многа ішло войска, песні пяюць, а ў вачах слёзы. Цэлы ўжо тыдзень добрая пагода: сонейка, прыгожа. Лісце пажаўцела, сыпецца з дрэва. Ой, каб ды дамоўкі цяпер бы дастацца, ды, як даўней бывала, у свой лясок забрацца. Захадзіўся ў вошпіталь даведацца (Аніпа). Праца кожан дзень адна ды і тая. Цяпер ужо вечар. Пасля дзевятай не пазваляюць нікуды ні шагу, чаго яны баяцца, — гэта ўжо іх дзела. Увечар чытаю кніжкі. Заўчора кончыў Мельшына «В мире отверженных» 1 том. Цяперака ўзяў чытаць вершы Някрасава, ды нешта няма ахвоты нізашто брацца. Даў бы Бог усмірэння, было б тады лепей. Надта ж многа жалі вайна нарабіла. Збэсцілі Беларусь, доўга не ўваскрэсне мая старонка; бедна і так ты была, убогі куточак на зямлі твой быў. Доўга не зайграюць «Струк» у сваю скрыпку і не скора запяюць дзяўчаткі. Дай жа Божа долю лепшую Ты нам.

*24.IX.*

Устаў сягоння рана. На дварэ сухая сіберная пагода. Дзень прайшоў за работай. Між часу напісаў ліст М. С-кой, жаліўся на маркотнасць. Гаманілі пра вайну, пра тое, што нас, пісараў, скора пашлюць у запасны батальён, некаторыя бядуюць, праўды, і мне не саўсім ахвота. Сягоння ніўзначэйку прыпхаў брат Янка з г. Кацельніч у Віцебск служыць. Ці доўга прабудзем разам — невядома. Пачуў, што немцаў адагналі за Кабельнік (10 вер. ад нашай вёскі). Неяк весялей. Як прагоняць яшчэ далей — паеду шукаць родных. Дзе яны? Што з імі? Ці жывы хаця. На душы цяжка, ні да чога не цягне, хоць ты ўмірай. Позна. Пара спаць. Сумна. Эх!



*27.IX.*

Раніцай — добры марозік. Удзень стаіць ціхая вострая пагода, павольны час з 2 да 5 пасля абеду хадзіў з сябрам Дамброва шпацыраваць за горад. Зашлі ў фальварчык да Разувайкі, выпілі па чарцы малака і пайшлі яшчэ далей у поле каля лесу. Ізноў успомніўся свой родны вугалок, палеткі, што раскрыліся перад маімі вачыма, паказаліся мне роднымі ўзгоркамі і лугавінкамі, успомнілася родная хатка, родная сямейка, праўда, рэдка калі я забываю пра іх, і як нажом у грудзі дрыганулі, як успомніў, што там цяпер «вайна», што, можа, ад усяго таго, што цешыць маю думку, асталіся руіны, толькі і мо ў жывых ці астаўся хто, ах, Божачка, як цяжка пра гэта думаць, спіраецца дыханне ў грудзях і выступаюць слёзы з вачэй...

Саўсім не хочацца думаць, што мяне адправяць у запасны батальён, там будуць вучыць са стрэльбай, а пасля пагоняць на пазіцыю... катаржныя страданні: адчуваць у душы сваёй, як прыгавораны на смерць, і ўсё гэта моўчкі трэба пераносіць і ... памерці. Няўжо гэтак і быць павінна і няма спасення, я ж жыць хачу! Людцы добрыя, я жыць хачу, няўжо вы гэтага не знаеце, я ж віжу як, панове, калі жыццё ваша становіцца на план жыць — памерці, вы гатовы поўзаць па зямлі як ... абы толькі вам жыць. Мне кажуць: чалавек сам сабе куе долю-шчасце, і, здаецца, гаварылі разумныя людзі, як жа я магу каваць сабе шчасце, калі я звязан ланцугамі па руках і нагах, калі я молатам не магу смела ўдарыць па каваддлу, бо гэтага звону баяцца «старшыя». Я аджыў на свеце 23 гады і не меў шчасця ў жыцці, век свой б'юся, гарую, працую, а за працу сваю што я маю? крыўду, здзек, насмешку, як увесь наш народ, ад тых, каго мы кормім хлебам сваім. Я віжу кожан дзень, як людзі-гулякі, не прыносячы ніякай карысці на алтар народны, як яны кожан дзень направа і налева раскідваюць багацце і самі тонуць у п'янстве, і іх чамусь то завуць «залатыя», адкуль жа бяруць яны гэта багацце, калі самі палец аб палец не стукнуць? Яны купаюцца ў золаце, ходзяць у шаўках і аб'ядаюцца смачным ядзеннем, жывуць у прасторных палацах, а каля іх вокнаў, можа, кожан дзень і цяпер праходзяць цэлымі гуртамі ўцекачы, абдзёртыя, галодныя, замораныя ... у бядзе, начуючы на панадворку ў халодную пагоду. Так жывуць людзі і я між імі неўзаметку. Досыць пра гэта. Пра беларусаў нічога не чуваць, мусі, і з друку нічога не выходзіць, і лепшых працаўнікоў адарвала вайна, ці пачуюць калі іх голас за свой народ. Думка, што наспела... ніколі не замрэ. Маркотна, няма куды дзецца, жыву, як мядзведзь на ланцугу ў скамарольніка,

душа збалела, зныла, адзін — няма ні сяброў блізкіх, ні людзей, з якімі мог бы думкай падзяліцца шчыра, і гэта надта цяжка. Ад Юзіка Л-га атрымаў пісульку, жаліцца, што ўжо другі месяц туга яго апанавала, і ён далёка, аж ля Персідскай граніцы ў маскалёх. Пытае пра родных, а я сам ужо 4 нядзелі ні весткі не маю. Сягоння ж яму адпісаў аб усім. Успамінаючы, як гулялі мы з ім калісьці ў дому. Разам гадаваліся, разам і красаваліся, хадзілі на вечарыны, нам іграў Купрэн (Пасанскі), цяпер яго забілі ў акопах. Абодва мы неяк стыдаліся з дзяўчатамі жартаваць, ён такі наўчыўся танцаваць, а я так і не ўмею, разам ездзілі на начлег, слухалі ўвечар, як дзяўчаткі пяялі, з жніва ідучы, а потым ён залюбіўся і жаніўся, і ўзялі ў маскалі яго і мяне 1914 г. увосень. Ці сойдземся з табой, мой ты браце, калі на родных сцежках? Вайна, вайна, якое страшнае слова, як яно змучыла людзей усіх, калі ж канец ёй прыйдзе? Буду цярпець, сашчаміўшы сэрца, покі буду жыў ды не вырваўся на волю, адслужыўшы, а канец яшчэ далёка...

*29.IX.1915 г., серада.*

Ізноў ясная вясёлая пагодка, як і тыя дні, шчыра свеціць сонейка, хоць не саўсім грэе і ў душу ўносіць іскрачку надзеі. Зрання маркотна, нешта не здароў, папсавалася «машына», ды і катар сціснуў, галава, як жалезная, хоць ты з ложка не ўставай, але начальства не паверыць, што хворы, трэба ісці на службу. Рабіць мала ёсць што, чытаць жа што-колеч за працаю боязна, а чытаць пра жыццё святых няма ахвоты. Сядзіш, вандрueш, пакалякаеш з кім што-колеч, паслухаеш, як другі, гледзячы праз вакно на захад сонца, запяе, што нудная, нудная, мусі, успомніць што з мінуўшага, думка наляціць і выльe гэта ўсё ў песню. Хадзіў гуляць ўдзень. Быў у млыне, прайшоў каля цагельні, каля рэчкі, каля вёсачкі (Качаргі) з Сямёнавым, ды і дадому вярнуліся піць гарбату, купіўшы па піражку. К вечару атрымаў ліст ад Ю. К-га, піша пра дарагоўлю ў сталіцы, гэтаксама паведамляе, што м. Куранец наўпэт зніштожана, асталіся толькі агаркі. Ніяк ні ад кога не пачую пра старану, нікога не спаткаю нідзе, у каго б распытацца пра сваіх. Кончыўшы работу, ідзем дахаты, марозік пацiскае, цёмна, глядзіш, каб не «нарвацца» на афіцэра. Дома вячэралі: булён, бульба і мяса, жыдкі, нясмачны, павячэраўшы, п'ем у сваёй кануры гарбату, я за гарбатай чытаю ў моц «Княгіня Трубецкая» Някрасава, другія слухаюць і часам устаўляюць і самі слоўца, то ругнуць губернатара, то пахваляць княгіню і



Някрасава, што складна злажыў. Так і канчаецца дзень; скора лажуся ў пасцель; укруціўшыся ў адзеяла, думаю, як нядобра ў сібірную пагоду сядзець у акопах. Пра дом успомню і сплю.

*30.IX. 1915 г., серада.*

Такая ж любая пагода і так жа маркотна, як і кожан дзень, устаю, мыюся, ваксую боты, п'ю гарбату з хлебам і іду ў канцылярыю. Тут адно і тое кожан дзень, толькі тыя і навіны, што начальнік каго не ў чарод паставіць дзяжурыць на суткі на канцылярыі. Напісаў ліст Я. Л-ву, адкрытачку К-му, работы мала, душа не спакойна, ды не толькі ў мяне, дык ва ўсіх, калі прыгледзецца. Хацеў ісці ў баракі к уцекачом: мо ці не знайшоў бы каго са свайго боку, каб паспытацца аб сваіх, ды адлажыў назаўтра. Па абедзе зайшоўся к брату, хадзілі разам гуляць каля млына, праз вёсачку, успаміналі з братам пра знаёмых, дзе хто цяпер, хто жыў, каго прыняла вайна, успомнілі пра бацькоў, і ў абодвух душа забалела. Брат маркотны ходзіць, як зарэзаны, гаворыць, каб скарэй на пазіцыю, скарэй ці сюды, ці туды, дома як быў, усягды, бывала, весел, пяе, усіх развесяліць, не дасць нікому засмуціцца, усягды што-небудзь ды прыдумае, жартамі з кім схваціцца, дык толькі глядзі, а цяпер усягды маўчыць, адзін сабе стаіць паводаль ад другіх і, здаецца, каб ніхто не відзеў, гатоў бы расплакацца. Нідзе не быўшы, цяжка ў людцах прывыкаць, ой цяжка, а колькі нашых дзецючкоў цяпер маладзенькіх, адарваных ад маткі, ад бацькі, ад сваёй вёсачкі, колькі яны мучацца, як цяжка ў іх на душы, і сэрца кроўю запяклося. Гэй, не плачце, хлопцы, збяромся ізноў у сваю старонку, пабудуем хаткі, заіграюць скрыпкі, дзеўкі запяюць, уваскрэсне старонка, будзе жыць Беларусь.

*3.X.1915 г., субота.*

Усё ішло як ішло, як той казаў, пакуль не дайшло. Зрання неяк было і вясёла сягоння, і ўсё, здаецца, было добра. Чытаў Герберта Спэнсэра «Воспитание». Абедаў са смакам, потым трохі аддыхаў, хадзіў па рынку, купіў фунт яблыкаў, потым брат прыйшоў, пагаварылі, і пад канец сабраўся знесці ў вошпіталь (Аніпу) лісты, якія прыйшлі яму ад знаёмых у канцылярыю. Па дарозе спаткаўся з Радзівонавым, падхэнціў яго схадзіць даведацца, ну, і пайшлі сабе. Доўга не марудзіўшы, вярнуліся ўскорасці ў канцылярыю, ды якраз на пяць хвілін вазьмі ды і спазніся, а

тут толькі дзверы адкрыў, — начальнік. Ну і давай распякаць перш, пасля і наказваць, старшы знёс кнігу ўзыскання, куды нас з спазніўшыхся і зацягнулі: за тое-то і за тое-то мяне як радавога, на адзін раз не ў чарод дзяжурыць, другім, раздабрыўшы, падкінуў болей. Дзеля гэтага мой просты начальнік, адазваўшы мяне ў старану, стаў гразіць, што і ён сам ад сябе мяне накажа, калі я яшчэ спазнюся. Я маўчаў. Сказаць жа мне, што я саўсім не думаў спазніцца, што не хацеў, што гэта выйшла без умыслу, што я не магу прасіць прабачэння і «морально» ад гэткай кары за сваю віну не буду цярпець, гэтага я нічога не мог сказаць, бо мяне б узгрэлі за няўмесныя разгаворы з начальствам. І я моўчкі выслухваў настаўленні «абразованага» чалавека і мысліў: ну, цяпер прапаў, так і пішы. Пасля ўсё ўціхла. Хадзіў раней сягоння вячэраць, увечар быў паддзяжурны, усё было спакойна, увечар заселі ў 66 ад няма чаго рабіць ды ад маркотнасці і прабавіліся так, пакуль захацелася спаць. Лёгшы ў пасцель, доўга ўспамінаў пра сваіх родных, ці маюць яны які-колеч прыпынак у гэтыя ціхія халодныя ясныя ночы, усе свае мясцінкі ў думках відзеў як жывыя і ніяк не мог уцяміць, што можа там цяпер рабіцца. Думаў пра Петраград, пра знаёмых, як жыў калісь там і, укруціўшыся цяплей у коўдру, — заснуў.

*4.X.1915 г., нядзеля.*

Сягоння свята, але разбору ад будня не відаць. Па вуліцах гуляюць, прыбраўшы, паненкі, на іх тварах гуляюць усмешкі і жывы інтарэс к жыццю. Лятуць самакаты з афіцэрамі, запрогшы парку ў карафашку, праязджае пан, праходзяць салдаты з песнямі пад каманду, пяюць, а глянеш у твары іх: чорныя, высмактаныя, забітыя прыніжаныя, замардаваныя, у кожнага на твары лягло кляймо жальбы, чуць не ідуць слёзы, а пяюць. Каля рынку бродзіць галыцьба, абарвышы, прадаюць, разлажыўшы торбачкі, бедныя кабеты арэхі, усё гэта неяк кідаецца ў вочы пры яснай пагодзе сягоння... Саджуся за працу. Салодкія думкі ўносяць далёка ў будучыну, чаго мо і не будзе ніколі, але думкі дрымаюць мой чэрап і лятуць далёка. Вот я адслужыў, вярнуўся з маскалёў у сваю вёску і пачынаю жыць у бацькі. У нас будзе сіла: паладзім лепей гаспадарку, прыбавім зямлі, я працую ў полі за сахой, бараную, кашу, важу снапы з поля, шчырасць да ўсяго, ахвота бярэ. Сонейка заходзіць. Прыходжу вячэраць, мая маці дасць мне малака, агуркоў з гарачай бульбачкай, праўда, мы ўсе тут за сталом, і мама, як бы заплакана ці то з гора, ці то з радасці, глядзіць на нас. Павячэраўшы, наскора праглядаю



беларускія газеткі і іду ў пуньку спаць. Прыходзіць хто з сяброў, і ляжым, гавэндзім сабе, успамінаем, дзе якія здарэнні былі калі на ігрышчы, як дзед Сцяпан лаяўся, як упусціў з (вобара...) з 20 шчупачка, як Максім да дня напужаў лесніка ў бару, доўга гаворым аб сваіх знаёмых дзяўчатках, дагадваемся, у якую пуньку яны ходзяць спаць, якраз падхадзілі да іх хлопцы з Пасонак, як адзін з тарпы зваліўся, чуць устаў, вот смяяліся ў сяле. Пасля Юзюк Максімаў раскажа, як музыка наш Струк упіўся на кірмашы, прапіў усё, астаўся толькі ў адной кашулі, як ішоў дамоў, як вычмураў, а пасля ў суботу як іграў ён, што хлопцы парабіліся, як мачонкі, што нізашто не ўседзіш, калі ён зайграе, і ўсе мы дзівімся, што ці не чорт яго смыкам водзіць па струнах. Мы доўга гэтак гаворым, а потым смачна спім у пахучым сене. Раненька бацька будзіць, трэба ісці араць, а спаць хочацца, я пацягваюся, сплюскваю вочы, каб яшчэ толькі мінутку салодка задрамаць... Ізноў будзяць... Я ўстаю, спаць ахвота... непамысна. Іду на шнурок, працую. Бачу, як сонца з-за бору, з-за Бірагаты ўсходзіць, выплывае вялікім чырвоным кругам на ружовым небе. Жаўручкі запялі, ручаёк звініць у каменю. Скора і снеданне... Ем са смакам... Сонца ўжо добра прыпякло, суседзі адпраўляюць на абед, клічуць і мяне. Путаю каня і сам іду дамоў. Думкі, думкі, чаму вы гэтак далёка скокнулі... А вот і зіма наша беларуская! Я вучу рабятак у вёсцы ў школцы, вучу іх любіць сваю бацькаўшчыну, быць прымернымі сынамі яе. Доўга па вечарах гаманю я з імі аб долі-нядолі людской. У свята ў саначках еду з сястрой у царкву. Белыя палеткі. Бор. Угоркі. Гасцінец. Вун і крыж царквы відаць. Тут багабойныя людзі здымаюць шапкі і кладуць крыж. Конь малады, высокі, сівы, добра (упасланы) ляціць, ані задзержаць. Люба праехаць на ім! Захаджуся да вучыцялёў тутэйшых. Доўгія споркі па вечарах аб літаратуры. А вось і культурна-асветны гурток, кнігі, газеты. Чытаем ля народа, строім кааператывы. Глядзіш, жыццё нашых вёсак, люду нашага ўбогага зразу перамянілася к лепшаму. Што гэта? Ці не сон? Прэч ляціце, думкі, ні таміце сэрца, дайце супакой! Завуць да начальніка... Што такое? Кара: 2 гадзіны стаяць пад стрэльбай з усёй укладкай. За што? Засмяяўся ....... у гутарцы. Ды саўсім не так, пачакайце. Маўчаць! Душа забалела, абышла жаль, злосць агарнула. Але маўчу, сцяўшы зубы. Здзеквайцеся, людзі, засвеціць і мая зорка. А як абідна, і слова не можаш сказаць, чаму. Увесь дзень да вечара нейкая дрыжка па целе ад такой неспадзяванай кары, разбалелася галава, таварышы жалелі ўсе, што напрасна наказалі. Скарэй бы заснуць, забыцца, ды вось думкі чорныя, злыя доўга трывожаць.

## ШЭПТЫ

*Апавяданне*

Быў ціхі і цёплы вясновы вечар. Спяваў салавейка ў зялёным гаю, і, слухаючы яго песню, усё прыціхла ў полі. Слухалі, здаецца, красачкі, да якіх тулілася буйнымі кропачкамі расіца, ахаладжаючы лісточкі ад дзянной спякоты. Слухалі сталетнія дубы і малады хмызняк, ціха зрэдку шапочучы лісточкамі сваімі. Адзін дзяргач, залезшы ў жыта, крычаў наўмоц, стараючыся паказаць сябе спеваком, лепшым за салаўя.

Прыгналі з поля пастушкі скаціну. Роўнай аборачкай, зюзюкаючы, прайшлі дамоў па вуліцы гусачкі. Гудзелі ў паветры жукі. Мігацелі ластаўкі, гонячыся за машкарой. Сабраўшыся кучкай, у апошнім праменні сонца «таўклі мак» камары. На дварэ весела дурэлі дзеці, гулялі ў коні, у палачку, лёталі і заліваліся бяспечным дзіцячым смехам. У сажалцы пастушок, падкасаўшы калошы і агаліўшы пасіверылыя ногі, мыў анучы і мачыў берасцяную трубу, каб ямчэй трубіла,ззываючы раніцай скацінку. У хатках старыя вячэралі ды прыбіраліся спаць.

Ціха, як зачараваная, стаіць вёска Гарадзішча. Хаткі апусцілі нізка свае старыя стрэхі, як скрыдлы, пад якімі на ноч прытуліўся працоўны народ. Пахілены крыж на старой Сасноўскай царкве свянціў, здаецца, ад усякага ліха і напасці вёску.

У канцы вёскі стаіць старэнькая, з падгніўшымі вугламі, з маленькімі ваконцамі хатка Мацея Канцавога. Каля хаткі пад ваконцам расце разложыстая вішня. Праз адчыненыя вокны ў вечарковы змрок углядаецца Мацеева жонка Марыся, прыслухваючыся ў ціхія шэпты вішні, і думкі яе з жалем і ўздохам болевым лятуць кудысьці далёка, — да сваіх родных, мілых дзетак... На прызбе пад ваконцам сядзіць стары Мацей, апёршыся на кіёк, разам з ім — сусед Сымон і Базылёў Яська, вясковы хлопец, вярнуўшыся нядаўна з вайны, шмат чаго ўжо бачыўшы і паражыўшы.

— От, вашэці, — загаварыў Мацей, — да чаго дажылі, якіх прыйшлося пад старасць дачакаць часоў на свеце, якое ліха на рэшту дзён маіх наляцела! Не думаў калі, не сніў, не гадаў, і вот на табе, — цешся, чалавеча! Ох, доля, долечка наша...

І, паматаўшы сівой галавой, стары пачаў скаргу сваю выказваць далей.

— Чатырох я меў сыноў, як ведаеце, вашэці, чатыры ў мяне былі саколікі, і на іх я не мог нацешыцца, не мог нагледзецца. Былі малыя — біўся дзень з ночкай, соўкаў, гадаваў, усюды



дастрэнчваў, то, бывала, у дарогу з возам у халодную зімку, за колькі міль, цягнуўся к месту, то, ушчаміўшы ў сані кабыліцу, шліпары возіш купцу, то ідзеш да неваду за залатоўку, усё ж для іх стараўся. Бывала, самі як са старой ні абыходзімся, усё добра, толькі б дзеткі былі дагледжаны, выйшлі б яны ў свет людзьмі: толькі і думалася пра іх будучыну, пра іх жыццё...

І тут Мацей задумаўся, звесіўшы галаву на кіёк, а Марыся стала хустачкай выціраць слёзы са сваіх упалых вачэй.

— Чуць небаракі падраслі трохі, — стаў успамінаць далей Мацей, — у поле пачалі скацінку ганяць; чуць святочак — трэба ўстаць, абуцца ў лапці, выгнаць на выган каровак, ды і цэлы дзень склець у полі, сівераць да позняй ночкі. І навальніца, і грымоты, і маланка заставалі іх у полі. Крэплі на сцюжы ў непагодку, сівер, дождж халодны заліваў да рубачка. Дамоў прыгоняць у вечар, баляць ножкі пасіверальыя і рукі, заплача часам, і ежа не лезе; сцюцюрыцца ў куточку на ложку ды і ляжыць.

Гэтак гадуюцца дзеці селяніна, гэткая доля нашая.

— Прыйдзе зімка — у школку пабягуць. Хацелася ж, каб не былі такімі цёмнымі, як мы вось, старыя: хацелася ж, каб відзелі сцежку ў жыцці, каб лягчэй было змагацца з доляй нашай пакутнай. «Нічога, дзеткі, — скажаш ім даўней, — што цяпер так дрэнна, падрасцеце большыя, пазнаеце свет, людзей, будзеце дзецюкамі, будзе жыць лягчэй».

— Цешыліся дзеткі, раслі і чакалі лепшых дзён, ды ўжо, дзякаваць Богу, былі са старой мы дачакаўшы сабе змену. Гады нашы ўжо не тыя, падышла пара, вашэці, сесці на печы, за гатовы кусок... А тут вот яно як выйшла: адкуль што ўзялося. Божачка ласкавы! І трэба, трэба ж гэта... Тры мае сыны, мае мілыя сыночкі злажылі косці ў чужым полі, у брацкай магілцы пад высокім курганам. Былі — і няма іх, суседкі... І на магілку бацькі на прыйдуць, не выплачуць горайка свайго, не паставяць крыжыка, не пасадзяць красачак. Хоць бы ў роднай зямельцы, у сваім пясочку гнілі костачкі, дык і то бацьком было б лягчэй. Гэткая доля маіх трох сыноў. Чацвёрты ж — яшчэ жыў, нядаўна мелі ліст, а другое, Бог святы ведае, мо і гэтага ўжо куля звяла са свету?

— Помню, як цяжанька было расстацца з імі, вось, здаецца, скрозь зямельку праваліцца лепей. Маці — тая, за шыю абчапіўшы, нема галасіла, за вёску гналася, лямантуючы, сілай суседзі ўгаманілі. А яны заплакалі, абышлі садочак, гумянцо, пагладзілі коніка, на якім вазіліся, развіталіся з суседзямі, з роднымі, перажагналіся і пайшлі ў паход сцежкай роднай,

таптанай дзядамі. Аглянуліся апошні раз з палеткаў на вёсачку і схаваліся за пагорак. Пакінулі навекі і бацькоў, і сяброў, і родныя палеткі... Дзе ні пойдзеш цяпер, дзе ні глянеш — усюды іх праца відна. І зажурыла нас, старых, суша-туга, не мілы свет нам стаў.

Гаварыў стары Мацей, а з вачэй яго каціліся слёзы і трэслася сівая галава ад страчанай надзеі.

Ціхі змрок з таемнымі шэптамі поўзаў па будынках і па зямлі, а за ім апускалася ноч з чароўнымі снамі і цудоўнымі казкамі. Загаралі зоркі ў высокім небе і адтуль мігцелі на грэшную зямельку.

Марыся сядзела, аблегшыся на ваконца, і слухала жальбу дзеда свайго. У шэрым змроку ночы насіліся вобразы сыноў яе перад ваконцам, і ёй на момант здавалася, што яна бачыць іх, што яны дома і скора прыйдуць у хатку, і прагукаюць да яе.

Хто ж горай бядуе, як не маці па дзецях?

— Эх, суседка, суседка, — загаманіў Сымон, запаліўшы тытун у люльцы, — цяжка табе, Мацей, са старой, — гэта вядома ж, але ці адзін жа вашэць на свеце такі? Ці знойдзеш цяпер дзе такую сямейку, дзе б не плакалі аб кімсьці ў хаце? Усюды цяжэнька. Зацягнууся свет цэлы хмарамі цёмнымі. Паўсюды енкі, стогны, ляманты, і Бог ведае, калі акрыляе старонка наша, калі сонца лепшай долі блісне на зямельку ласкай уцехі... Але немаведама, ці будзе калі што лепшае на свеце?

— Бывала — што? — гаварыў ён далей. — Выйдзеш у гэткую пару на вуліцу, дык не наслухаешся: там пяюць дзяўчаты, там падцінаюць начлежнікі за сялом, там грыміць дудар, яму падуджваюць, бывала, на скрыпцы, ударыць хлапчук у цымбалы, — куды табе, загуляе моладзь, аж усё трасецца. А якіх, бывала, жартаў ні прыдумаюць, якіх песняў ні пачуеш; дый ці мала чаго... А цяпер дзе ж гэтая краса? Ціха, глуха, пасмурнела ўсё, другія песні, другія байкі... Эх, няма, няма дабра на свеце!..

Сымону хацелася выказаць усё, што даўно ляжала ў яго на душы, але тут перапыніў яго Яська.

— Эх, дзядзькі, дзядзькі! — адазваўся ён. — Што ж паможа плач у нашым горы, і той, хто лёг у сыру зямельку, да нас ужо не вернецца. Не ўсё ж гэтак будзе. Пранясецца крывавая прыгода, згіне ліха, і над зямелькай узыдзе зорка лепшай долі. Залечым раны старонкі нашае, уцешым сірацінку, і зноў зарунеюць палеткі. Скончыцца вайна, і пасля гэтай крывавай працы чалавек аглянецца навокала, убачыць, што ён нарабіў, што ён акрывянеў, і спужаецца самога сябе. Людзі пасля гэтай



вайны зразумеюць, што вайна — гэта разня не павінных ні ў чым людзей, не патрэбна працоўнаму люду, што яна трэба царом — крывавым рыцарам, мільёншчыкам і багачам усялякіх фарбовак. Зразумеюць людзі, што няможна паліць і знішчаць тое, што соткамі гадоў потам і крывёю, мазалістай рукой будаваў чалавек для карысці сваёй...

— Падумаць толькі. Нашто ж клалася людская моц, людскія сіла і розум?.. Жалезныя каваліся крэпасці, тачыў за варштатам люд рабочы шрапнелі, рабіў гарматы, міны, жывучы без просвет, без шчасця і долі, і ўрэшце злажыў косці свае ад гэтых куль і гарматаў.

Доўга гаварыў яшчэ Яська, як дрэнна чалавек уладзіў жыццё сваё на зямлі: як дужэйшыя злыя людзі заўладалі слабымі і заставілі дабываць на іх хлеб, набудаваць палацаў за сухую скарынку чорнага хлеба...

Апусціўшы галовы ў цяжкай задуме, слухалі дзядзькі гутарку Яські. Слухалі, як гэты хлопец, сын ім па гадох, — гаварыў аб жыцці людскім, аб лепшай будучыні чалавека, аб чым яны ніколі не задумваліся, апроч сваёй хаткі, дзетак, гаспадаркі ды кавалка хлеба.

— Эх, сынок, сынок, — загаманіў Сымон, — дзе ж гэта чуваць было, каб усе людзі роўна жылі, як піша закон Боскі. Ты вот, праўда, шмат чаго казаў тут і, калі памысліш, дык глядзіш — і праўда выходзіць на тваім: шмат чаго нядобрага ёсць у жыцці людскім, але ж гэта ідзе ад пачатку свету, мусі, ужо на гэта Боская ласка такая. А ці будзе, сынок, лепей, ці зразумеюць гэта людзі і ці выкінуць з сэрца свайго злосць, зайздрасць і несправядлівасць?

— Жыць так, дзядзька, няможна далей, і жыццё сваё людзі перахіляць на новы лад. Пойдзе другая праца, пойдзе барацьба за вызваленне з тых кайданоў, якімі народ бедны скаваны. Людзі пачнуць тагды працаваць дзеля прыгажосці, дзеля хараства свайго жыцця.

Глянеш навокала... Шыр, прастор вольны кругом. Шуміць барок, звініць рэчка... А колькі багацця дае зямелька чалавеку! Глянеш на палеткі, глянеш на дуброўкі, — жыць бы, здаецца, прыпяваючы; дык не, чалавек не хоча на гэта глядзець, ён лезе ў гразь, у брыдоту, душыць адзін аднаго, і гінуць людзі на свеце, як мухі, не бачачы ні долі, ні шчасця ў жыцці.

— Я хоць і малады, а ўжо з драўлянай нагой. Аслабелі рукі, высахлі грудзі, не ўсюды ўжо дастрэнчу, як бывала, але душа мая поўна надзеі, што запануе доля і над нашай зямелькай. Загояцца

раны жыцця, падрастуць вось гэтыя хлапчукі, і пойдуць яны шырокім, вольным шляхам, і будуць жыць шмат лепш, як мы.

Па дварэ саўсім ужо змерклася. Кінулі гульню дзеці і разышліся спаць. Густа ў небе загарэлі зоркі. Маладзічок невялічкім сярпком выглядаў з-за гаю і як бы дзівіўся: чаго людзі да гэтай пары сядзяць на прызбе? Сівымі хвалямі слаўся па лузе туман. Невялічкі кавалак хмаркі праплыў па небе, нібы жораў малады, шукаючы стада.

Змоўкла гутарка на прызбе. Мацей сядзеў, апёршы на кіёк. Не ўсё ён дачуў, пра што казаў Яська. Яго думкі далёка віталі, — там недзе, каля сыноў. Ён увесь увайшоў у думкі, увесь аддаўся ім, і сыны яго, як жывыя, стаялі перад ім... То здавалася яму, што яны дома, — здаровыя, вясёлыя дзецюкі, а ён глядзіць на іх і цешыцца. На момант забываецца ён, і на душы і сэрцы робіцца лягчэй, і на твары сачыцца радасць... То думка, як бы падсміхаючыся над старым, пераносіць яго дзесь далёка, дзе бачыць ён раненага сына, то Язэпа, то Янку ці Антося, цяжка, хрыпла стогнучых у вялікіх муках. То вялікі курган, свежа насыпаны, вырастаў перад яго вачыма і думалася старому, што тут пахаваны сыны яго... Сціскалася яго сэрца, і з грудзей вырываўся цяжкі ўздых...

Што яму да таго, што казаў Яська, калі свет яму завязаўся, горка жыць стала, цяжка і нудна, бо адабралі яго ўцеху, а заміж гэтага далі суму-тугу на старасць, і не чакае ён у жыцці сваім ні лепшай, ні святлейшай гадзінкі.

— Ці не пара дзядзьку было б дамоў? — адазваўся Яська. — Але вось дык ночка, вот пагодка — адна любата!

І, развітаўшыся, пайшоў дамоў, стукаючы кульбай па вуліцы.

За ім разам пайшоў спаць і Сымон.

Мацей астаўся адзін, апанаваны жудасцю і непрытомнасцю, нічога не памятаючы і не ведаючы, што яму трэба рабіць.

— Чаго ж ты тут сядзіш адзін? — клікнула Марыся. — Ідзі ў хатку, пара спачываць.

Перажагнаўшыся і трасучыся ад непрытомнасці, апіраючыся на кіёк, пайшоў праз сенцы ў хату Мацей. Лёгшы на ложку, доўга ён не мог заснуць. Балесныя думкі ляцелі адна за адной, разбіваючы ў раны старое сэрца...

Гарачыя слёзы цяклі па твары Марысі. Яна добра ведала, аб чым так бядуе Мацей, хоць не ўсё ён ёй і выказвае. Праз слёзы яна шаптала словы да Бога: «Божа ласкавы! Чым жа прагнявіліся мы перад тваёй ласкай... За што ж Ты пакараў нас так цяжка?!.»



А пад вакном ціха шапацела вішня лісточкамі, нібы пераказваючы людскую скаргу Найвышэйшаму.

Ціха... Ясна мігацелі зоркі ў небе...

Ноч спавівала зямельку цудоўнымі начнымі малюнкамі...

*1917*

# БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ

Пісьменнік, літаратуразнавец, публіцыст, вучоны-мовазнавец, грамадска-палітычны дзеяч, акадэмік НАН Беларусі Браніслаў Тарашкевіч нарадзіўся 8 (20) студзеня 1892 года ў засценку Мацюлішкі Віленскага павета (цяпер Віленскі раён Літвы) у сялянскай сям'і. Скончыў Віленскую гімназію (1911) і паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Пасля яго заканчэння (1916) застаўся на кафедры рускай мовы, займаўся навуковай працай пад кіраўніцтвам акадэміка А. А. Шахматава. Распрацаваў курс граматыкі беларускай мовы. «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча была выдадзена ў Вільні (1918) кірыліцай і лацінкай, перавыдавалася 7 разоў. Гэта першапраходніцкая праца маладога вучонага, граматычныя катэгорыі, правілы, правапіс, тэрміналогія і сёння ляжаць у аснове сучасных граматык нашай мовы. Акадэмік С. Некрашэвіч у 1920-я гады пісаў, што «Беларуская граматыка» Б. Тарашкевіча «заснавала цэлую эру ў гісторыі нашай граматыкі і правапісу».

З восені 1919 года Б. Тарашкевіч чытаў лекцыі па беларускай мове ў Мінскім педінстытуце, з 1920 года узначальваў Беларускі аддзел у дэпартаменце асветы так званай Сярэдняй Літвы, дзе разам з Я. Станкевічам арганізаваў беларускія настаўніцкія курсы, адкрыў больш за 200 беларускіх школ. Працаваў выкладчыкам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі (1921–1922), быў адным з арганізатараў Таварыства беларускай школы. Увесь гэты час не спыняў пісьменніцкай працы, пісаў артыкулы, рэцэнзіі на творы беларускіх паэтаў, празаікаў (на беларускай, польскай, рускай мовах), публіцыстычныя артыкулы (друкаваўся пераважна ў газетах і часопісах «Рунь», «Беларускі звон», «Вольны сцяг», «Наша будучыня»).

З 1922 года канчаткова пераходзіць да грамадска-палітычнай дзейнасці: быў абраны дэпутатам ад Заходняй Беларусі ў Сойм Польскай Рэспублікі, узначаліў Беларускі пасольскі клуб, выступаў з яскравымі, доказнымі прамовамі на пасяджэннях Сойма. У выступленнях гаварыў пра каланіялісцкую сутнасць польскай улады на беларускіх землях, паланізацыю насельніцтва, пра гвалтоўнае насаджэнне польскага асадніцтва, палітычны пераслед беларускіх дзеячаў, пра закрыццё беларускіх школ, гімназій, настаўніцкіх семінарый, змагаўся за аграрную рэформу на карысць сялян, настойваў на прыняцці праграмы Беларускага пасольскага клуба. За чатыры гады дэпутацкай дзейнасці,



да арышту і шасцігадовага зняволення ў польскіх турмах, Браніслаў Тарашкевіч — выдатны прамоўца, дасведчаны публіцыст-палеміст — 34 разы выступіў у парламенце Польшчы, змагаючыся за жыццёвыя інтарэсы свайго паняволенага народа. У 1925 годзе ён адзін з ініцыятараў-заснавальнікаў і старшыня Беларускай сялянска-работніцкай грамады, сябрамі якой сталі каля 100 тысяч беларускіх сялян, інтэлігентаў, рабочых. За сваю актыўную беларускую дзейнасць Б. Тарашкевіч у 1927 годзе быў арыштаваны палякамі і прыгавораны да 12 гадоў зняволення. Сядзеў у турмах Вільні, Вронках, Грудзёнцы, Беластоку. У яго абарону выступіла грамадскасць усёй Еўропы, у Мінску камітэт у абарону Б. Тарашкевіча і Беларускай грамады ўзначальваў Я. Купала. Усё гэта паўплывала на тое, што Б. Тарашкевіч быў датэрмінова вызвалены ў 1930 годзе. Нягледзячы на папярэджанні ўладаў, не спыніў палітычнай барацьбы. У 1931 годзе быў зноў арыштаваны і асуджаны на 8 гадоў. У турэмным зняволенні Б. Тарашкевіч займаўся літаратурнай, перакладчыцкай дзейнасцю, грунтоўна перапрацаваў «Беларускую граматыку», прыстасаваўшы яе для самастойнага вывучэння. Рукапіс быў перададзены на волю і апублікаваны. У турме Б. Тарашкевіч напісаў гімн Беларускай грамады «Сто тысяч нас было сяброў». Яму належаць беларускія пераклады шэдэўраў сусветнай класікі «Іліяды» Гамера і «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча. Іх ён перакладаў у турме горада Грудзёнц і ў Гродзенскім астрозе. У 1933 годзе вязень польскай турмы Б. Тарашкевіч быў абменены на вязня савецкай турмы Ф. Аляхновіча, прывезенага з Салаўкоў. Б. Тарашкевіч адразу быў накіраваны ў Маскву. Працаваў у Камінтэрне. Даводзіў, шліфаваў пераклад «Іліяды», які быў апублікаваны ў 1935 годзе (час. «Полымя», № 3) з яго ўступным артыкулам. Рыхтавалася выданне беларускамоўнай «Іліяды» да друку, нават была ўжо карэктура кнігі. Аднак кніга не пабачыла свет: 5 мая 1937 года аўтар перакладу як «агент польскага генштаба» быў арыштаваны органамі НКУС і этапаваны для суда ў Мінск. 5 студзеня 1938 года Б. Тарашкевіч выракам «двойкі» НКУС быў расстраляны.

## НЕ ПАКІДАЙЦЕ СВАЁЙ МОВЫ

...каб не памерлі — гэта праўдзівая перасцярога павінна пастаянным рэхам адбівацца ў душы кожнага беларуса і зрабіць яго слугой хараства слова. Так, хараства праўдзівага слова! Не пужайцеся толькі ж, не заву я да якога там «букваедства» — не, крый мяне Божа,— хай сабе розныя вучоныя, калі ім ахвота, разбіраюць усё па рэбрах, скуль што і якое — яны анатомы, у трупах шукаюць загадку жыцця, і добра, калі што знаходзяць. А я вось што хачу сказаць.

Зык, літара — гэта толькі цень, а слова — кроў і косць, жывое цела ў нашых душах, дарагое, майстэрнае начынне — у ім наш духовы набытак.

Кожны народ мае сваю асобную мову, і асобнасць яе ні ў самых зыках — тое самае здаецца, а не — от, бач, не тое, нейкі асобы змест, што і аб'ясніць не ўмееш, хоць і добра чуеш. Вот гэтае «нешта неякае», звязанае неразрыўна з душой народа, прыдае кожнай мове той асобны цэмент, што звязвае ў адно народнае, «нацыянальнае» ўсе яго думкі і перажыцця. Праўдзівей было б гаварыць «перавярнуць» з адной мовы на другую, чым «пералажыць». Дарагое, але крохкае, кволае начынне гэта мова, дык глядзіце сцеражыце, стройце яго квяцістымі аздобамі, бо змест нашых думак нашае «я» можа разліцца і паплыць у прочкі... Скажыце, ці ж харашэйшая была бы зямля, каб гэтак усе што ні ёсць рэкі і азёры — шусь і пераліліся ў акіяны!.. Усё абярнулася б у нейкую Сахару.

Але не ўсе ж мы такія ўжо майстры, можа, хто скажа, каб добра знацца на слове.

Праўда, мала ў нас майстроў прыгожага слова, ці ў пісанні, ці проста сабе ў звычайнай гутарцы. Але ёсць на гэта адна і, мусіць, адзіная рада: уважна прыслухайцеся да таго, як гамоніць сабе «просты» наш народ. Толькі ж умець прыслухацца — колькі ў гэтай прастаце хараства, сілы і багацця тонаў! Дый што тут лішне распісваць — хто мае вушы, каб чуць — хай слухае. Кіньце ўсе там розныя граматыкі ў кут, калі шкода ў печ, і самыя вучыцеся гаварыць ад народа. Затое вазьмёце ў рукі аловак і кусок паперы і пастарайцеся запісаць казку, легенду, песню, прыказку, загадку, цікавае слова зусім так, як гаворыцца, без усякіх «правільнасцяў» і граматычнасці. Усё гэта можа даць вельмі шмат цікавага, этнаграфічнага матэрыялу, збагаціць мову. Запісваючы ўсё гэта, трэба падробна сказаць, дзе запісана, ад каго (баба, дзед, хлапец, дзяўчына, век, граматны ці не). Часта бывае, што цікавей і патрэбней запісваць ад старых, бо гэта можа з імі ўцячы на той свет, але ведама, і маладыя часта расказваць гáды. Толькі яшчэ раз кажу — *нічога не выкідаць і нічога не дадаваць ад сябе*. Добра было б запісваць песні, хто можа, з нотамі — але што зробіш, як хто не ўмее; трэба толькі напісаць, калі песня пяецца, значыцца, пры якім здарэнні. Цікавыя словы трэба запісваць ні адным, асобна, а з цэлым зваротам мовы, каб лепш можна было зразумець, што яно азначае; не забывацца паставіць націск. Такія словы з іх цікавейшымі адменамі можна перапісваць на картачкі ў алфавітным парадку — бач, і ўжо месны слоўнік, вельмі важны і патрэбны матэрыял да агульнага вялікага беларускага слоўніка. Хай кожны збірае тое, што яму па душы — хто што любіць: хто песню, хто казкі і легенды, а хто кароткія рэчы — прыказкі, загадкі... ці мала што каму да ўпадобы.



Шмат эстэтычнага і маральнага задавальнення дае такая работа, шмат навукі дайжа, толькі трэба ўчуцца, услухацца і любіць хараство прастаты...

Сабраныя матэрыялы, калі хто не можа сам выкарыстаць, прысылаць можна хоць у Вільню: Беларуская кнігарня, Завальная 7, хоць у якое-колечы навуковае таварыства, калі б такое знайшлося.

*1914*

## ПРАДМОВА ДА «БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАТЫКІ ДЛЯ ШКОЛ»

Мінула роўна дзесяць год, як выйшла ў свет «Беларуская граматыка для школ». За гэты час беларуская мова сталася не толькі мовай прыгожага пісьменства ды разнароднай публіцыстыкі, але і мовай дзяржаўнаю або прызнанаю дзяржавай у публічным жыцці. «Народнае нарэчча» сілаю сталася «літаратурным языком». Гэта бессумліўны факт незалежна ад тае ці іншае ступені зродненасці беларускае мовы з іншымі славянскімі.

Вялікае грамадскае значэнне беларускае мовы вымагае ад культурных работнікаў асабліва ўважлівага апрацавання яе як з боку навуковага, так і для школьнага ўжытку.

«Беларуская граматыка для школ», выдадзеная першы раз у 1918 годзе, мела сваім заданнем замацаваць і ўпарадкаваць выясніўшыяся ўжо тады граматычныя асновы беларускай літаратурнай мовы ды ўстанавіць сталы правапіс.

Практыка жыцця і прысвечаная [кніжцы] крытыка за дзесяць гадоў прызналі, што «ўсё найважнейшае зроблена добра». Правапіс усталіўся і мае за сабою некаторую традыцыю.

Але тая самая практыка і крытыка паказалі на некаторыя пахібы, а нават, хоць толькі часткова, і паправілі іх.

Аўтар «Бел. грам. для школ» сам цяпер бачыць дужа выразную цэлую чараду яшчэ сур'ёзных пытанняў (у аканні, у правапісе чужаземных слоў і інш. ...), бачыць патрэбу і магчымасць спрашчэння правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-

колечы паважнейшыя змены такім індывідуальна-партызанскім спосабам, накідаючы свой праект праз школьны падручнік. Гэта павяло б толькі да шкоднага хаосу.

Рэформа правапісу, калі мае быць праведзена, мусіць быць праведзена ў цэласці ды ў сувязі з рэформай пісьма і пераглядам граматычных формаў (марфалогія). Адпаведныя праекты павінны быць апрацаванымі паасобнымі адзінкамі, але прайсці праз публічнае сіта грамадскай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзенымі ў жыццё аўтарытэтам культурных устаноў. Бо тутака паспех, сапраўды, можа быць людзям на смех.

Горш за тое: ненавязаныя паасобныя змены «на лепшае» могуць заграмаздзіць і загарадзіць дарогу да сапраўды добрай рэформы. Дзеля гэтага аўтар устрымаўся ад увядзення і тых змен, якія прыняла «Акадэмічная канферэнцыя па рэформе правапісу і азбукі», скліканая Інстытутам беларускае культуры 14 лістапада 1926 г. у Менску.

Ёсць над чым падумаць і папрацаваць, дык можна і трэба пачаць, высцерагаючыся, каб лепшыя новыя дэталі не псавалі больш-менш неблагога цэлага, якое ўжо існуе.

Цяперашняе выданне «Беларускай граматыкі для школ» мае на ўвазе неабходныя патрэбы беларускай школы і ўсіх тых многіх, што жадаюць вывучыць беларускую мову шляхам саманавучання.

Гэтае выданне спаўна перароблена і значна пашырана ў параўнанні да ўсіх папярэдніх выданняў...

*Грудзёндз, 13.8.1928*



## ПЕРАКЛАДЫ

*Гамер*

### Іліяда
*Фрагмент*

Ускрыкнуў старэнькі Прыям, ухапіўся рукамі за голаў.
К небу далоні падняў і, галосячы, дай жа прасіці
Гектара, мілага сына. А той, перад брамаю стаўшы,
З месца не рухаўся: так зажадалася біцца з Ахілам.
Выцягнуў рукі стары і прамовіў такімі славамі:
«Мілы мой, родны мой Гектар, пакінь, не чакай ты Ахіла
Ў полі адзін без другіх, каб цябе не спаткала пагібель
З рук Ахілеса, бо ён за цябе шмат сільнейшы, страшэнны.
Ах, каб багом неўміручым, як мне вось, ён гэтак і быў мілы,
То скора яго груганы і сабакі бы з'елі
І спала б мне з сэрца цяжкая бяда і згрызота:
Колькі сыноў маладых і магутных ён мне абязвечыў,
Пазабіваўшы ці на астравы запрадаўшы далёка.
Вось і цяпер Лікаона няма, ды няма й Палідора,
Іх я не бачу вярнуўшыхся паміж траянцамі ўсімі,
Мілых сыноў, што радзіла жанчына з жанчын Лаафея;
Але калі яны ў стане жывым, то выкупіць зможам,
Даўшы і медзі, і золата, многа бо гэтага маем,
Многа пасагу мне даў за дачкой стары Альт знамяніты;
Ну, а калі ўжо памёршы й абое пайшлі да Аіда,
Гора і матцы, і мне, што радзілі на смерць іх бяздольных.
Але народу траянскаму меншае гора было б,
Толькі каб ты не загінуў бы, здужаны сілай Ахіла.
Ну дык, сыночку ты мой, увайдзі за муры ўжо, бо мусіш
Быць абаронцам траян і траянак, каб славы не даці
Сыну Пелея ды мілай душы і жыцця не згубіці.
Урэшце падумай і злітуйся хоць нада мной, над няшчасным
Бацькам, якога змушае Зявес на парозе магілы
Вынесці столькі згрызот і пабачыці гэтулькі гора:
Як забіваюць сыноў і як цягнуць дачок у няволю,
Апусташаюць каморы і дзетак маленькіх нявінных
Вобзем кідаюць і б'юць, азвярэлыя ў лютым змаганні;
Бачыць, як цягнуць сыноў маіх дзікія воі ахеян.

Сам я апошні паду, і мяне на парозе сабакі
Жадныя там разарвуць, калі нехта вастрэннаю меддзю
Тне ці прапора мяне і з суставаў мне выжане духа;
Тыя сабакі прыдзверныя, што пры бяседах карміў іх.
Піць маю кроў яны будуць, а после, напіўшыся, лягуць
З сумнай душою у сенях. Прыгожа ляжаць маладому,
Нават забітаму востраю меддзю ў баі-ваяванні:
Хораша ўсё ў яго, на што толькі вачмі ні паглянеш;
Але сівую калі галаву, бараду й срамаценне
Ў мужа забітага злыя сабакі крамсаюць і бэсцяць,
То ўжо за гэтае горай і ў марных людзей не бывае».
Гэтак стары гаварыў і, схапіўшы рукамі за голаў,
Рваў валасы, але просьбамі Гектара не перайначыў.
Маці і тая таксама давай галасіць-прымаўляці,
Грудзі яна расхіснула, рукою ўзяўшы адну з іх,
Плачучы слёзна, казала такія крылатыя словы:
«Гектар, дзіцятка маё! Ушануй ты хоць гэта, май літасць
Хоць нада мной, што грудзьмі ціхамірыла плач твой дзіцячы,
Мілы сыночку, успомні ты й гані Ахілеса
Згэтуль, схаваўшыся ў горад, не йдзі на яго адзінокі,
Бо як заб’е ён, шалёны, цябе, то не ўдасца й аплакаць
Мілую родную краску на марах ні мне, ані жонцы
Дужа пасажнай: ад нас, ад абедзвюх няшчасных, далёка
Пры караблях пры ахейскіх з’ядуць цябе злыя сабакі».
Гэтак абое яны прамаўлялі да мілага сына
Й вельмі прасілі, а не перайначылі Гектара духа:
Стойка стаяў і чакаў ён на бой Ахілеса страшнога.
Так, як дракон, што ў горнай нары чалавека чакае,
Зелля благога нажоршыся, з ярасцю й злосцю страшною,
Ўецца ў логаве толькі й страшэнна ў бакі паглядае, —
Гэтак і Гектар у злосці нястрымнай трымаўся на месцы:
Шчыт абапёршы бліскучы аб выступ высокае вежы
І уздыхнуўшы, прамовіў сабе да душы да адважнай:
«Гора ж маё! каб схавацца цяпер мне за браму, за сцены.
Першы тады Пулідам мяне лаяць і ганіць пачаў бы,
Бо і казаў жа ён мне, каб траянцаў у горад увесці
Ў тую праклятую ноч, як Ахіл ваяваці ўзняўся;
Я не паслухаў тады, а было бы ўсім куды лепей,
Ну, а цяпер я шаленствам дурным загубіў увесь горад.
Сорамна мне ад траянцаў і доўгападолых траянак,
Каб не сказаў аба мне і найгоршы які грамадзянін:
«Гектар народ загубіў, на сваю спадзяваўшыся сілу!»
Гэтак і скажуць. Дык мне куды лепей паспрабаваць будзе



Працістаяць і, Ахіла забіўшы, дахаты вярнуцца,
А калі не, то самому хоць слаўна памерці за горад».

*Адам Міцкевіч*

**Пан Тадэвуш**
*Фрагмент*

Літоўскіх вялікіх князёў вы равеснікі, дрэвы
Панар, Белавежы і Свіцязі, і Кушалева!
У вашым цяньку спачывалі каронны галовы
І грознага Вітаўта й воя страшнога Міндовы.
І князь Гедымін на Панарскай гары неаднойчы
На скуры мядзведжай ляжаў пры агні сярод ночы,
Ляжаў ён заслуханы ў песнях вяшчальных Ліздзейкі,
А відам Вяллі і ўсыпляючым шумам Вялейкі
Ухутаны, сніў аб ваўку аб жалезным прароча;
Прачнуўшыся, выканаў Божы загады ахвоча:
Паставіў тут Вільню, якая сядзіць між лясамі,
Як воўк між зубрамі, дзікамі і між ведзмядзямі.
З той Вільні, як з рымскай ваўчыцы, бы з маткі,
Пайшлі і Кяйстут, і Альгерд, і Альгерда нашчадкі,
Вялікія роўна лаўцы, як і рыцары слаўны,
І сцігаваць ворага й звера аднолькава спраўны.
Лавецкі той сон адкрыў тайну нам прошлых часоў,
Што трэба Літве заўсягды і жалеза й лясоў.

О пушчы! Апошні да вас прыязджаў на уловы
Апошні кароль, што насіў шчэ каўпак Вітаўтовы,
Апошні, што быў з Ягелонаў ваяка шчаслівы,
Апошні ў Літве і манарх, і лавец прамыслівы.
Радзімыя дрэвы мае, мае другі старыя!
Як неба дазволіць вярнуцца да вас, дарагія,
Ці там вас знайду я яшчэ? Ці дагэтуль вы жывы?
Я ж поўзаў калісьці між вас у маленстве, шчаслівы.
…………………………………………………..

А колькі жа вінен і я вам, радзімыя дрэвы!
Стралец я няўдалы, ўнікаючы смеху калегаў
За хібленне, колькі між вашых зялёных пялехаў
Я дум спаляваў, у зацішнай глушы заблудзіўшы,

Прысеўшы на купіну й зараз пра ловы забыўшы,
Наўкола мяне серабрыўся там мох барадаты
Памятай чарніцы крывёю абліт, сіваваты;
А там чырванеліся верасу яркія ўзгоркі,
На іх жа — буйныя брушніцы, караляў пацёркі.
Кругом было цёмна, а зверху галіны густыя
Звісалі, як хмары зялёныя, дужа нізкія;
Віхор толькі дзесь над скляпеннем шумеў нерухомым,
Выццём сваім, шумамі, енкамі, ляскатам, громам.
Дзіўны, ап'яняючы гоман! Аж сэрца шчымела,
Нібы нада мною вісячае мора шумела.

У доле ж — як места разваліны: выварат дуба
З зямлі вытыркаецца відам вялікага зруба:
На ім абапёршыся, як паламаны калоны,
Камлі сукаватыя й згніўшыя ў моху калоды,
Травой абгароджаны; глянуць у звалішчы тыя
Ўсярэдзіну страшна, бо гаспадары там лясныя:
Дзікі, ведзмядзі і ваўкі; паабгрызваны косці
Ляжаць пры варотах; ахвярай — няўважныя госці.
Падчас вымыкаюцца з гэтае траваў зялені,
Як два вадапырскі фантана — рагі два аленні
Й мігне паміж дрэвамі жоўтаю звер паласою,
Як сонца, бліснуўшы у лес залацістай касою.

І ціха ізноў. Толькі дзяцел з гары на яліне
Пастукае злёгку, далей адлятае і гіне;
Схаваўся, а дзюбай пастукваць усё не кідае,
Як тое схавана дзіцё, што шукаць заклікае.
Вунь села вавёрка, гарэхі у лапах лузгоча,
Грызуха, кітою завесіла хвост на узвочча,
І, як кірасір той пяром над шаломам махае,
Хоць так засланіўшыся, але кругом спазірае;
Пабачыць гасця й пераскаквае, лесу скакуха,
Із дрэва на дрэва: мігне, як маланка-бліскуха;
Пасля ў патайным невідочным дупле прападае —
Ну нібы у роднай стыхіі дрыяда якая.
.............................................................

Хто ж зведаў бяздонныя краі літоўскіх тых пушчаў
Да самай сярэдзіны, аж да ядра іхных гушчаў?
Весць толькі ці казка нам кажа пра іхныя чары.
Папробуй прайдзі праз бары і падшыты гушчары.
.................................................................



Галоўнае княства звяроў і раслінаў сталіца,
Дзе зложана дрэваў і зелля ўсякага семя,
З якога на свет разрастаецца кожнае племя;
У ёй, як у Ноевай скрыні, з усякага роду
Хаваецца пара, прынамсі, адна для расплоду.
Чувацца, што маюць двары усярэдзіне гушчаў
І тур стары й зубр, і вядзмедзь — імператары пушчаў.
Ля іх жа, на дрэвах, там рысь загняздджаецца быстра,
За ёй расамаха, яны — як чуйныя міністры.
А далей, як бы падуладны васальны паняты,
Жывуць там дзікі і ваўкі, і ласі расахаты.
А над галавой сакалы і арлы там дзікія,
Жывучыя з панскіх сталоў, як нахабнікі тыя.
Галоўныя й патрыярхальныя гэтыя пары
Для свету нявідныя. Скрытыя ў самым гушчары,
Дзяцей сваіх шлюць на сяліну за лесу граніцы,
А самі ўжываюць свабоднага часу ў сталіцы;
Не гінуць ніколі аружжам ні сечным, ні пальным,
А толькі, старыя, ўміраюць канцом натуральным.
І могілкі маюць свае, дзе ўжо, блізкія смерці,
Кладуць свае перыйкі птушкі, звяры — свае шэрсці.
Вядзмедзь — калі зубы ўжо з'еўшы, не пеpажавае,
Алень — як згрыбеўшы, старэнькі, ледзь ногі сувае,
І заяц — калі яму кроў ужо ў жылах закрэпне,
Крумкач — калі ўжо пасівее, сакол — як аслепне,
Арол — калі дзюбу старую у лук гэтак скрыве,
Што болей адкрыць не здалее і горла не жыве, —
На могілкі йдуць; нават меншы той звер, калі з ранай
Ці хворы, стараецца быць пры бацьках пахаваны.
Таму між даступнага лесу, дзе людзі як госці,
Ніколі не знойдуцца мёртвы звярыныя косці.
Чувацца, што ў пушчах старых між звярамі
Звычаі не горшы, кіруюць сабою бо самі.
Прагрэсам людскім зверына там не сапсавана,
Не знае праў собства, каторым наш век збусаваны.
Ані паядынкаў, ніякай ваеннае штукі,
Бацькі — як у раі жылі, так жывуць і унукі,
Дзікія і свойскія разам у міласці, згодзе.
Адзін не бадзе, не кусае другога, не шкодзе.

# АНДРЭЙ МРЫЙ

Празаік, публіцыст, сатырык Андрэй Мрый (сапр. Шашалевіч) нарадзіўся 1 (13) верасня 1893 года ў шматдзетнай сям'і валаснога пісара ў вёсцы Палуж Чэрыкаўскага павета (цяпер Краснапольскі раён Магілёўскай вобласці). Пасля заканчэння Магілёўскай духоўнай семінарыі (1914) вучыўся ў Кіеўскай духоўнай акадэміі. З трэцяга курса мабілізаваны ў расійскую армію (1916), накіраваны ў Кіеўскую школу прапаршчыкаў, ваяваў на германскім фронце, з 1918 года — у Чырвонай Арміі. У 1921 годзе вярнуўся на радзіму, выкладаў у Краснапольскай школе гісторыю і французскую мову. У гэтай школе працавалі брат Андрэя Васіль Шашалевіч, які стаў вядомым беларускім драматургам, і сёстры Аксіння і Анастасія. Па ўспамінах С. Грахоўскага, які напісаў пра братоў Шашалевічаў аповесць «Два лёсы — дзве трагедыі», «уся сям'я Шашалевічаў была вельмі таленавітая... Шашалевічы стварылі першы ў раёне драматычны тэатр, у школе арганізавалі драматычны і літаратурны гурткі, выдавалі рукапісны часопіс «Пралеска». Сатырычны раздзел у ім вёў Андрэй Шашалевіч... Яны ставілі спектаклі па п'есах Астроўскага, Горкага, Чэхава, для школьнай самадзейнасці пісалі аднаактоўкі...»

Як празаік А. Мрый пачынаў з газетных нататак, карэспандэнцый, допісаў, краязнаўчых і дарожных нарысаў, невялікіх апавяданняў. Усяго ім было напісана больш за сорак апавяданняў самай рознай тэматыкі. Надаючы вялікую ўвагу мове, ён збіраў народную лексіку, пасылаў яе ў Слоўнікавую камісію Інбелкульта ў Мінск, куды ў 1926 годзе і сам пераехаў. Працаваў інструктарам у Цэнтральным бюро краязнаўства, з 1933 года — у газеце «Звязда» стыльрэдактарам. Стаў сябрам літаратурнага аб'яднання «Узвышша», друкаваў на старонках часопіса «Узвышша» свае апавяданні, навелы, якія сведчылі пра самабытнасць і адметнасць яго творчай індывідуальнасці.

А. Мрый ішоў традыцыйным шляхам, характэрным для беларускіх празаікаў, — ад малых жанравых форм да вялікіх маштабных рэчаў: аповесці, рамана. Яго славуты твор «Запіскі Самсона Самасуя» (1929) — першы ў беларускай літаратуры сатырычны раман, які многімі сваімі якасцямі (пашырэннем аб'екта сатыры, універсальнасцю мастацкага смеху, парадзіраваннем мёртвай казённай мовы, спалучэннем двух моўных пластоў — жывой гутарковай мовы і палітычнага жаргону, мовы лозунгаў, палітычных брашур і дырэктываў, быційных



пластоў — жывога і казённага, чым дасягаецца камічны эфект) блізкі да твораў сусветна прызнаных майстроў сатыры. Выкрывальны смех А. Мрыя ў «Запісках...» — гратэскным, універсальным творы — адпавядае мастацкаму свету і вобразнай сістэме твора, які заселены людзьмі з імёнамі ці то рыб, ці то птушак (Сом, Лін, Самчык, Беларыбка, Курыца, Галавасцік, Зязюлькава, Крутарожка, Юрлік і інш.),што жывуць у вёсцы Шапялёўка. Яны «будуюць» наменклатурную будучыню, прыстасоўваюць сацыялізм да сваіх інстынктаў. З іх асяроддзя вылучаецца Самсон Самасуй — сатырычны герой, чалавек «перакаці-поле», прыстасаванец, з шэрагу такіх герояў, як Мікіта Зносак у «Тутэйшых» Я. Купалы. У рамане знайшлі адлюстраванне першыя прыкметы сталінізму, культу асобы, праявы «вялікага пералому», «абвастрэння класавай барацьбы», што надае твору рысы антыутопіі з адзнакамі прароцтва і папярэджання. Заслуга А. Мрыя перад літаратурай, грамадствам найперш у тым, што ён убачыў і паказаў, як дыктатарская сістэма абесчалавечвае чалавека, вынішчае ў ім лепшыя якасці — дабрыню, спагадлівасць, сумленнасць і ператварае ў бяздумных служкаў рэжыму, гатовых выканаць любы загад. Нездарма публікацыя «Запісак...» ва «Узвышшы» была спынена на другой частцы рамана, а трэцяя частка да нас не дайшла. Пасля нападак на аўтара і яго унікальны твор, які быў аб'яўлены «злосным пасквілем на савецкую ўладу», празаік пачынае пісаць «савецкі» раман «Май» пра шчаслівае калгаснае жыццё, але гэта яго не ўратавала — 22 лютага 1934 года А. Мрый быў арыштаваны. У пастанове «о предъявлении обвинения и избрании меры пресечения» пісалася: «Шашалевич Андрей Антонович достаточно изобличается в том, что является активным членом существующей в БССР контрреволюционной фашистской организации, ставящей своей целью свержение Советской власти вооруженным путем и установление фашистской диктатуры. Проводил подрывную работу в области народного образования, руководил низовыми звеньями контрреволюционной организации на периферии, давал членам организации вести шпионскую работу...» А. Мрыю прысудзілі 5 гадоў канцлагера ў Карагандзе, але пасля апеляцыі ён быў адтуль вызвалены і высланы на 3 гады на пасяленне ў г. Вельск Валагодскай вобл. пад нагляд мясцовага НКУС. У чэрвені 1940 года беларускі пісьменнік быў зноў арыштаваны Мурманскім НКУС і зноў асуджаны на 5 гадоў канцлагера. З пачаткам вайны А. Мрый разам з канцлагерам быў эвакуіраваны спачатку ў Архангельскую вобл., потым у Комі АССР. Апошнія звесткі ад яго дайшлі ў лісце да сястры Аксінні Антонаўны, дзе ён пісаў, што медкамісія 1 сакавіка 1943 года дала яму, 50-гадоваму пісьменніку, І групу інваліднасці і што яго павінны выпусціць з канцлагера. Але дамоў А. Мрый не вярнуўся.

## ЗАПІСКІ САМСОНА САМАСУЯ

*Раздзелы з рамана*

Я скажу ўсім, хто гэтага пачаў бы дамагацца, што я — сучасны чалавек. Маё імя Самсон Самасуй.

Я з мужыкоў.

Мой бацька, дзед, прадзед, прапрадзед, прапрапра... і г. д. усе былі мужыкамі. Я надзвычайна горды тым, што маю мужыцкі твар і асабліва нос у форме бульбы. У залежнасці ад гэтага і розум мой ёсць розум выразна мужыцкі. Мне могуць сказаць, што няма такой катэгорыі, як мужыцкі розум, а я скажу, што ў мяне толькі такі і ёсць.

Далей смела ўсім заяўляю, што бацька мой не кулак. Даю фактычную даведку.

Дзве каровы, конь, жаробка, свіння, здаецца, 4 ці 7 прадстаўніц курынага роду, хата з трыма вакешкамі ды яшчэ рознае не стандартызаванае хаўбосце. Такім чынам, па эканамічнай адзнацы майго бацьку ніяк нельга залічыць да ганебнага стану кулакоў. А з пункту гледжання ідэалогіі, дык не ведаю, як зарэгістраваць яго. Хто можа аб гэтым упэўнена сказаць, калі, як кажа мой прыяцель, філосаф Торба, заблытана чалавечае жыццё і няма ў ім строга акрэсленай наменклатуры.

Другі мой прыяцель, настаўнік Цыба, сказаў мне, што мой бацька, магчыма, і ёсць кулак, бо пытанне аб прыналежнасці да гэтага заалагічнага тыпу вырашаецца часта не лікам кароў ці коней, а настроем і эксплуататарскай чыннасцю.

Вось гэта як у сук улеплена.

Пра сябе скажу, што іншы раз я вельмі абураны ангельскімі імперыялістамі, здаецца, горла ім перарэзаў бы, а ў другі раз салодка мару аб прынадах буржуазнага жыцця. Так салодка мару, што пасля і самому сорамна робіцца. Нават чырванею.

Мой лепшы сябра, настаўнік Мамон, жартуючы кажа:

— У цябе ўсё мужыцкае, а пуза панскае!

«І праўда!» — думаю я і хачу высветліць прычыны гэтага. Знаходжу толькі адно тлумачэнне для гэтай дыспрапорцыі: прырода вядзе гандаль з маім целам — яна дае мне сыр, масла, хлеб, розныя іншыя карысныя і некарысныя ферменты (не ведаю, ці можна так гаварыць: у мяне нейкі пал да чужаземшчыны). У замену за гэта прырода адбірае ад мяне зусім не вартыя для мяне рэчы, за якія ніхто і шэлега гарэлага не дасць. І вось гэты гандаль з прыродай выклікае ў мяне такую пярэстую разнастайнасць маіх настрояў, эмоцыяў, хаценняў, жаданняў, перажыванняў.



Адна не вельмі разумная жанчына, якую я аднойчы ў вочы назваў індыйскім просам дурро, атэставала мяне як дэкласаванага мешчаніна. Зразумела, гэта зусім не так. Гэта назва выклікана помстай за маю досыць удалую атэстацыю. Праўда, памянёны філосаф Торба адзначыў мяне як класава нявытрыманага байца, сказаў мне, што я неўраўнаважаны (а ён ураўнаважаны?!) чалавек. Няхай сабе так. Скажу толькі, што я сам лічу сябе сучасным і здавальняюча разумным чалавекам, хоць павінен з вялікай неахвотай памянуць пра шапялёўскіх яўрэяў, якія пад нос завуць мяне «мішугэнэ». І гэта нягледзячы на тое, што я ў райвыканкаме ў сваіх руках трымаю важныя спружыны культуры і ведаю, што раблю!

Пра мінулае маўчу.

Скажу толькі: я бывалы чалавек.

Мяне матка часта ўпікае:

— Трынку, валынку, свету палавінку аб'ездзіў, свет абкалаціў, ды сюды вараціў!

Некалькі разоў сядзеў я пад арыштам і карміў сваёй чырвонай кроўю блох ды іншых шасцікрылых і шасціногіх херувімаў і сарахвімаў. Ды і не магло быць інакш з маім тэмпераментам.

Спамяну пра адзін выпадак.

У 20 годзе я быў прадагентам. Прыязджаю ў Гомель, і на кожным кроку мне анкеты запаўняць даюць. Хто мой бацька, хто мая матка, што яны рабілі да рэвалюцыі і пасля яе, ці была ў мяне маёмасць, і калі была, дык куды яна дзелася? Да 300 запытанняў было ў той анкеце, якую падсунулі мне ў заезджым доме № 3. На мяне ўссеў д'ябал нейкі. Думаю: дай жа я пажартую з імі, пагляджу, што з іх будзе.

Пішу: да рэвалюцыі быў буйным землеўласнікам, меў 300 000 акраў чарназёму, быў сакратаром пасольства ў Лондане. І шмат яшчэ чаго нахлусіў.

Яны, галубчыкі, і сцапалі мяне. Пасадзілі ў блыхарню і трымалі там, пакуль добра высветлілі, што я ніякім буйным землеўласнікам не быў.

Выпусцілі мяне, але кар'ера мая была сапсавана, і я доўга не мог знайсці сабе месца, якое адпавядала б маім здольнасцям. Праз год я знайшоў сабе пасаду, і пра гэта будуць гаварыць мае запіскі.

Цяпер жа скажу, чаму я сеў за стол і пачаў пісаць.

Яшчэ тры гады назад я неяк напісаў у газету карэспандэнцыю аб выбрыках старшыні кааператыву і прачытаў яе асобе, якая для мяне даражэй за ўсё на свеце. І яна сказала мне:

— Пішы, пішы! З цябе, можа, і выпішацца што!

Гэтыя словы, як маланкай, спалілі мяне. Як вар'ят, хадзіў я па пакоі і мармытаў сабе гэтыя словы:

— Пішы, пішы! Можа, што і выпішацца! Цяпер я і пішу.

Але я не паперапсуй, пішу зусім не для таго, каб бачылі ўсе напісанае мною. Розум мой даўно прайшоў эмбрыянальную стадыю ў жыцці. У маім цяперашнім пакоі я павесіў на сцяне плакат са словамі аднаго вучонага, які сказаў:

— Каб мы ведалі ўсе дробязі жыцця якой-небудзь казюлькі, мы шмат якіх памылак маглі б не зрабіць!

Вось я і пішу свае запіскі. У іх буду гаварыць аб дробязях свайго жыцця: як я з бацькам пасварыўся, як паехаў я шукаць свайго шчасця, як хацеў там пашыраць сваё фізічнае я і як з гэтага нічога не выйшла.

Сам я не надаю ўсяму гэтаму вялікага значэння. У сусветныя маштабы не веру.

Але мой сябра, настаўнік Мамон, каторы ўвесь час штурхае мяне на шлях славы, кажа мне, як Мефістофель:

— Твае мемуары будуць перакладзены на нямецкую, ангельскую, французскую і нават готэнтоцкую мову! Каб я меў час і здольнасць, я зараз пачаў бы перакладаць на гэтыя 4 мовы.

Заўважце, што ў настаўніка Мамона ёсць вельмі складаныя абавязкі мужа, бацькі, сына, загадчыка, рэвізора 7 установаў і прамоўцы на ўсіх пасяджэннях і нарадах. Калі ён гаворыць так, значыцца мае запіскі маюць значэнне, якое выходзіць за межы маёй асобы.

Гэта мне паддае жару, і ў поўнай свядомасці і цвёрдай памяці я пачынаю свае запіскі.

## I. Ад роднай хаты

— Ты ж глядзі, глядзі, мой сынок! — гаварыла мне маці, калі я пасля доўгага беспрацоўя атрымаў пасаду ў Шапялёўскім выканкаме.

— Ты ўжо не хлапчук. Час падумаць на сябе ды аб нас старых... Жаніцца б табе ды супакойна гадаваць дзетак. І я з радасцю пачукала б тваіх дзетак! Глядзі ж, сынок, хоць цяперака трымайся, каб зноў не ўкарацілі!

На гэтае матчына выступленне я самаўпэўнена адказаў:

— Я ведаю, маці, як сябе трымаць! Ці я людзей не бачыў? Ці мне гэта ў першы раз?

Маці сумна памахала галавою:



— Заўсёды, сынок, так кажаш, а як дадуць справу, дык фартэль і выкінеш. Ой, баюся я за цябе! Па бацькавай вудылі пайшоў.

Мой бацька, раўнадушна зірнуўшы на матку, пыхкаючы люлькай, у нос прамармытаў:

— Па маёй вудылі? Каб па маёй, дык сядзеў бы на зямлі. А то свет аб'ездзіў, усе гарады абнюхаў, ды нідзе прыстану не знайшоў. Казаў і кажу: лепш кінуў бы вандраваць ды ўзяўся б за зямлю.

Я выйшаў на сярэдзіну хаты, растапырыў ногі, як крынжалы, задраў нос уверх і, прыплюснуўшы правае вока, тэатральна запытаў у бацькі:

— Як жа? Буду калупацца ў пясочку вашым? Няхай троху пачакае! Якое тут жыццё? Бачыўшы цывілізацыю, які разумны чалавек пачне рабіць гэта калупайства ваша? Краты вы, а не людзі! Які сэнс у вашай крацінай працы?

Не адзін раз бацька слухаў мае разважанні аб адсутнасці матэрыяльнай базы ў яго вытворчасці і, трэба сказаць, слухаў іх з вужацкім спакоем, а цяпер раптам закрычаў на мяне высокім голасам:

— Ах каб ты выпруціўся, чортаў сын, вучоная раскірэка! Дык я крот? І матка краціха? Рыемся ў зямлі і свету не бачым?

— Ты — не крот, а праца твая крацiная!

— Калі так, чаго ж ты, Хадора святая, як дадуць табе перцу, зноў хвост падтуліўшы сюды ляціш ды на бацькавай шыі сядзіш? І працаваць не хочаш, хочаш дурыкам жыць! Над бацькавымі мазалямі смяешся... Вучыў цябе, начай недасыпаў, хацеў, каб сын вучоным быў, а ты цяпер і смяешся з бацькі, з маткі...

Бацька не на жарты ўсхадзіўся. Гэта параўнанне з кратом фарсіравала яго кроў.

— Калі ж так, — кінуў ён ужо нізкім тонам, — не дам табе кабылы! Едзь на сваіх, на дваіх! Цягні, як хочаш, свае прычындалы! Досыць з мяне! Наслухаўся твайго мудрагельства!

Бацька грукнуў дзвярыма і выйшаў на двор. Там ужо стаяла ў поўнай баявой гатоўнасці запрэжаная кабыла.

Бацька пачаў нервова распрostваць яе, нешта злосна бубніў сабе пад нос, некалькі разоў абазваў ні ў чым нявіннае стварэнне «шэльмай гарбаносай». Кабыла зусім не хацела разумець бацькавай крыўды і здзіўлена пазірала на слаба каардынаваныя рухі свайго гаспадара і яго палітычна нявытрыманую тактыку.

Распрогшы кабылу, бацька ў пуню яе не загнаў. Адышоў ад кабылы і сеў на калоду. Кабыла пастаяла хвіліну і падышла да бацькі, нюхаючы паветра.

Бацька даў ёй шэраг запытанняў:

— Чаго прыйшла? Чаго стала тут? Ідзі ў пуню! Не паедзем мы з табой, кабылка!

Зірнула на яго здзіўлена сваімі добрымі вачамі і ціха пасунулася ў адчыненую пуню.

Я злосна пазіраў у вакно на бацьку, кабылу і каламажку, у якой мусіў быў ехаць, каб не гэты нікчэмны крот. З практыкі ведаў, што цяпер не хутка наладзіш дыпламатычныя зносіны з бацькам.

Матцы я сказаў, вачамі паказваючы на бацьку:

— Вунь сядзіць, надзьмуўся, як сава! Здаецца, каб быў бацька маладзей, пайшоў бы я туды ды адкалатушыў бацьку!

Матка ласкава сказала мне:

— Кінь злавацца! Бацька адходлівы! Пасля абеду паедзеш, а нанач там будзеш. А цяпер лепш сабраў бы ўсё сваё да кучы. Я табе памагу.

Я паслухаў маткі і пачаў упакоўваць свой гардэроб. За 15 гадоў бадзяння па свеце шмат чаго сабралася ў мяне.

Дзве футры, адна лісіная, другая ваўчыная, дзве бекешы, шынелька вельмі пралетарскага крою, прастрэленая ў некалькіх мясцох; пахаджэнне гэтых дзірак я добра ведаў і ўсім гаварыў, што кулі белагвардзейскай сволачы прастрэлілі яе на дзянікінскім фронце. Было яшчэ паліто даімперыялістычнай эпохі, куртатае і цеснае для маёй асобы. Іншы раз я апранаўся ў яго, і, як заўважыла мне тэлефаністка адна, паліто смешна выпучвала мае заднія формы. Шмат было ў мяне і нагавіц: галіфэ розных колераў і фасонаў, рэйтузы, клёшы, спрынджыкі (апошні крык амерыканскай моды), шаравары і нават беларускія споднікі з «сеслам» для эфектных выступленняў у спектаклях.

Увесь мой гардэроб і апісаць нельга. Бацька называў усе мае рэчы «прычындаламі» і часта гаварыў маёй матцы:

— Тысячы паўтары можна было б скалаціць за гэта прычындалле! Але што ты зробіш сыну, калі ён носіцца з цацкамі ды хварэе на пана? А можна было б паправіць гаспадарку!

Уся вопратка ляжала ў кучы і была перасыпана нафталінам. Матка, парадкуючы яе, увесь час чмыхала, круціла носам і бубніла:

— Каб табе праваліцца, нячыстая сіла! Не звыкнуся з гэтым смуродам! І выдумаюць жа людзі!

Я сачыў за кожным рухам маткі і даваў інструкцыі.

Матка адгаворвала:

— Нашто ты забіраеш усе рэчы?



— Я там асяду. Апошні раз цягнуся з дому. Можа, ажанюся там, маці!

— Няхай жа Бог пасылае, сынок!

Матка зірнула на мяне, статнага, бялявага з вельмі пухнатымі вусамі і дужа кірпатым тварам мужчыну, і мімаволі з вачэй яе сыпнулі слёзы.

«Прычындалы» былі ўпакаваны. Я зірнуў у вакно. Бацька ўсё сядзеў на калодзе.

— Пакладу яшчэ кніжкі і розную дробязь, тады ўсё будзе ў парадку! — сказаў я сам сабе і пачаў даставаць з паліцы кніжкі.

Чатыры кніжкі я лічыў настольнымі і ніколі з імі не разлучаўся:

1) падручнік, як гаварыць мала і важка,
2) культура трох камераў цела,
3) як размяркоўваць свае функцыі і
4) падручнік па агульнаму кіраванню.

Апрача гэтых кніжак я ўзяў яшчэ іншыя падручнікі ў розных галінах нашага жыцця і «Палітэканомію ў пытаннях і адказах». Узяўшы апошнюю ў рукі, я задаў сабе некалькі пытанняў і, зачыніўшы вочы, адказаў на іх.

Паверх кніжак я паклаў яшчэ складаны зэдлік і столік і ўсё гэта ўціснуў вяроўкамі. Ад натугі засопся і сеў на лаву.

— Сапрон, ідзі палуднаваць! — клікнула маці бацьку.

Елі моўчкі. Мне хацелася распачаць спрэчкі, але матка, як відаць, своечасова мірганула бацьку і дала яму дырэктывы маўчаць.

Як падмацаваліся, матка, прыбіраючы стол, запыталася ў бацькі:

— Паедзеш ты ці не? Калі думаеш, дык трэба думаць. Каб не было позна? Усё роўна трэба ж ехаць!

— Каму трэба, няхай едзе! Няхай ідзе ды сам запрагае.

— І пайду! Запрэгчы нядоўга, — сказаў я і выйшаў на двор.

Але я не ведаў усіх тонкасцяў бацькавага рамяства і развучыўся вазёкацца. На вучоныя лез! Доўга я марудзіў, шукаючы даўно знойдзеныя амэрыкі. То гужы кароткія, то кляшчы не сходзяцца, то яшчэ якая хвароба. Нават не з таго боку пачаў дугу ўстаўляць.

Выйшаў з хаты бацька і з пагардай глядзеў на мае апарацыі.

— Куды ты снуеш? Не гэтак! У другую дзірку! Мацней нацягвай! Нагою ўпірайся.

Бацька злосна плюнуў, падышоў да кабылы і перарабіў усё па-свойму.

— Гэта табе не рэзалюцыі выносіць! — закончыў ён і пайшоў у хату.

На развітанне са мною прыйшлі з поля мае сёстры. Яны мяне вельмі паважалі, глядзелі на мяне, як на вялікую шышку. Цалуючы старэйшую сястру Ганульку, я сказаў:

— Замуж не спяшайся, асабліва за Яўмена. Я табе знайду добрую пару!

Ганула троху адукаваная, тры зімы хадзіла ў школу. Як прыбярэцца калі, дык вельмі падобна да інтэлігенткі, хоць бацька і дражніць яе ў гэты час «чыпірадлай». Я не разумею, які сэнс бацька ўкладае ў гэта слова, але Ганулька вельмі не любіць гэтага слова.

Матка троху слёзак скінула і зноў наказала мне, каб быў асцярожным і трымаўся за пасаду.

Пад акампанемент матчыных знаёмых мне спеваў узлез я на воз. З правага боку да мяне падсеў бацька, і нашы калёсы выкаціліся з двара.

Праз хвіліну мы ўжо трухам ехалі па шляху на Шапялёўку.

## II. На новым месцы

Кабылка наша хоць і была задаволена на ўсе 100 прац., але вельмі слаба пасоўвалася ўперад. І маці мая, такім чынам, памылілася. Мы нанач не прыехалі ў Шапялёўку. Мала гэтага. Усю ноч ішоў моцны дождж. Мы ехалі вярстоў з 20 лесам, і некуды было схавацца ад залевы. Ніякае дрэва не магло быць хаўруснікам у нашым змаганні з нябесным самагонным апаратам, бо ўвесь лес яшчэ толькі пачынаў абрастаць лісцем, і яно не ратавала нас.

Прыехалі мы на месца, як пачало развідняць. Былі мы мокрыя. Ранне выдалася прыгожае, светлае, бліскучае. Усе мае рэчы прамоклі дашчэнту, і ад гэтай незадачы настрой мой і тэмпература цела значна знізіліся.

Усё ранне сушыўся я, скінуўшы з сябе вопратку і застаўшыся ў чым маці нарадзіла. Я зрабіў прапанову, каб і бацька на гэткі манер прасушыўся, але ён зарагатаў.

— Не хачу сядзець голым апосталам, як ты! І так падсохне, ды яшчэ хутчэй, як у цябе!

Сон не ішоў да мяне, і я голы шпацыраваў па пакоі. Бацька глядзеў на мяне ды ўсміхаўся ў сваю сівую бараду. Што да маіх рэчаў, ці «прычындалаў», як кажа бацька, дык аб іх я падумаў у першую чаргу і зрабіў такія практычныя мерапрыемствы. Я вынес іх на заезджы двор і пачаў развешваць на частаклеце, досыць новым і яшчэ не запэцканым.



А бацька ў гэтым кірунку прытрымліваўся наплявізму і нават угаворваў мяне:

— Не саром сябе прад людзьмі, цэлы гамазын паразвешваў тут!

— У цябе, бацька, кунктатарская тактыка! Прапусціш час — і рэчы папсаваны.

Зразумела, што мае рэчы прыцягнулі ўвагу самых шырокіх мас. З самага рання народ кучкамі праходзіў каля заезджага дома і ва ўсе вочы глядзеў на «прычындалы». Мне гэта троху псавала кроў, асабліва калі я на свае вушы чуў мяшчанскія пракламацыі, што «прыехаў альбо пан, альбо а грэйсэ шышкэ». О, чэрці перапялёсыя, гнойнікі мяшчанскія! Каб у вас на носе села а грэйсэ шышкэ!

У выканкаме праца ўжо ішла, калі я прыйшоў туды. Я лічыў пытаннем выключнай важнасці разведаць пра сваё начальства ўсё, што можна, і яшчэ ў заезджым доме мяне інфармавалі, што старшыня РВК цяпер у раз’ездах па раёне, што ён з сялян, зусім просты чалавек, жанаты, здаецца, і прыплод ёсць, здаравяк — махіна і ўпарты, як вол. Яго нядаўна сюды прыслалі, бо ведалі, што толькі ён можа знішчыць галавацяпства шапялёўскіх устаноў. «Як бачу, маналітны чалавек!» — падумаў я.

Некаторыя дадатковыя неабходныя весткі атрымаў я ад кур’ера РВК, якога я сустрэў, ідучы ў РВК, і якому сказаў, што я прыехаў на пасаду загадчыка культаддзела.

Першае, што я ўзяў на ўвагу, калі ўвайшоў у агульную канцылярыю выканкама, была машыністка. Яна сядзела каля вакна і задуменна татахала на машынцы.

Каля дзяўчыны мітусіліся дзелаводы, перапісчыкі, падсоўвалі ёй свае паперы і спрачаліся між сабою за чаргу. Кожны з іх пахмыляўся, нахабна глядзеў ёй у вочы, блізка дыхаў на яе, часам мармытаў ёй два-тры словы. Яна давала гэтаму мінімум увагі і, мусіць, канкрэтна разумела сваю задачу.

Яе аблічча адразу ўціснулася ў маю памяць. Троху ўдоўжаны твар, з шырока адчыненымі, чорнымі і троху гуллівымі вачамі, кучаравыя, чарнявыя, абчыкрыжаныя на гарадскі манер валасы, нос з невялікім горбікам і зграбная постаць з прыгожымі курганчыкамі грудзей — усё гэта адразу асвяжыла маю кроў, надало мне бадзёрасці, якую я страціў быў у мінулую мокрую ноч.

А вакол гудзеў народ, шчырчэлі пёркі скрыбаў, з шолахам пераварочваліся аркушы паперы, рыпалі дзверы шафаў, са стогнам перакладваліся з месца на месца вялізныя, тоўстыя кнігі з лічбамі сялянскага жыцця.

Я спыніўся на хвіліну і моўчкі завастрыў сваю ўвагу на дзяўчыне. Яна павярнула сваю галаву ў мой бок і зірнула на мяне. Хацела зноў узяцца за справу, але я ўпарта глядзеў на яе і хацеў накіраваць яе думку на сябе. Я выцягнуўся і стаяў перад дзяўчынай высокі, уважысты з свежым мужным (праўда, кірпаносым) тварам чалавек. Я наўмысна разглядаў яе як цікавую, але непатрэбную ў нашым будаўніцтве рэч.

У першы момант дзяўчына нібы засаромелася, лёгкі налёт чырвані прабег па яе абліччы, але потым яна, відаць, урэгулявала сваю кроў. Дзяўчына смела і нават з пагардай глядзела на мяне.

Некалькі хвілін цягнулася наша вочнае спаборніцтва. І, вядома, перамога была на маім баку. Дзяўчына адвяла ўбок свае прыгожыя вочы, і яе пальчыкі няўпэўнена пачалі скакаць па машынцы, а грудзі парыўна заварушыліся пад тонкай кофтай.

Мне хацелася пагаварыць з ёю.

Я пайшоў да яе.

— Пакажэце мне сакратара РВК!

— Ён у кабінеце старшыні.

— Старшыні яшчэ няма? Не ведаеце?

— Не бачыла. Здаецца, яшчэ не прыехаў!

Я прайшоў у кабінет, адчуваючы, што ў спіну мне глядзелі яе вочы. Адзначыўшы гэтыя станоўчыя вынікі маёй кароткай размовы з дзяўчынай, я ішоў у кабінет шырокімі, упэўненымі крокамі і нават сімуляваў некаторую распусную развальцу ў хадзе, чаго звычайна ў мяне не прыкмячалася.

Дзяўчына памылілася. Старшыня тав. Сом ужо вярнуўся з раёна і сядзеў у кабінеце. Я назваў сябе. Старшыня сустрэў мяне досыць раўнадушна.

У яго нізкі груздзы голас, самы звычайны, з усімі адценнямі, сялянскі голас. Ні кроплі адукацыі не бачна. Калі ён гаворыць, ад яго слоў у агульным і цэлым пахне жытам, полем, непарушнай моцай лясоў і сенажацяў. І я канкрэтна разумею прычыну ўплыву яго на людзей.

Тав. Сом нядоўга гаварыў са мною. Я пайшоў у агульную канцылярыю прыняць справы. У маім веданні два сталы, дзве шафы і тры зэдлі.



Тут адразу вызначыўся шлях маіх дачыненняў з машыністкай. Мае сталы стаялі побач з яе столікам. Дзякуючы гэтаму, можна было без перашкод наглядаць за ёю.

Я на сябе зазлаваў не на жарты. Як жа? Прыйшоў у савецкую ўстанову, атрымаў важную пасаду і з першага моманту больш цікаўлюся спадніцай, чымся дзяржаўнымі справамі. Мне трэба адразу размежаваць свае функцыі ад функцый дзяржаўных.

Хачу зрабіць гэта, але ў першы дзень мне не хочацца займацца справамі, і ўсю ўвагу прыцягвае яна.

Даведваюся, што завуць дзяўчыну Крэйна Шуфер.

«Надзвычайна прыгожая яўрэйка!» — падумаў я і пасля шалёнага змагання з сваім тэмпераментам вынес рэзалюцыю: зрабіць крокі да ажыццяўлення самай шчыльнай сувязі з ёю. Я нават пачаў у галаве намячаць трохгадовы перспектыўны план майго закахання ёю і не заўважыў, як да яе століка падышоў малады белагаловы з блакітнымі вачыма чалавек.

Крэйна яму прыхільна ўсміхнулася, неяк дзіцяча расчыніла рот і кіўнула галавой, а ён меланхольна працягнуў ёй у рукі паперу.

Я запытаў у дзелавода, што гэта за Джэк — вантробшчык дзявочага сэрца. Дзелавод сказаў:

— Гэта аграном Агнісцік.

Аграном прысеў на рог стала і неяк сумна пазіраў на Крэйну.

Прыйшоў яшчэ настаўнік Юрлік, які, сказаўшы мне пяць слоў у галіне культпрацы, падсеў потым таксама каля Крэйны і пачаў чытаць інструкцыю аб карыстанні жыццём. Ён павольна скруціў вялікую таўшчэзную цыгарку, прыляпіў яе да ніжняе губы, запаліў і, не вымаючы яе з рота, гаварыў, гаварыў і гаварыў, апраўдваючы сябе ў нейкім злачынстве.

— Я быў п’яны тады, Крэйна! — паўголасам гаварыў ён. — У нелегальнай форме. А ты дурненькая... У цябе палітычная вірлавокасць, калі ты прымаеш гэта ўсур’ёз.

— У цябе грубы падыход да жанчыны, — сказала Крэйна ціха. — Думаеш, што яна жывёла... Вось і наляцеў, цяпер самому сорамна ў вочы глядзець...

— Крэйна, пагодзь мяне з ёю! Я не буду больш так рабіць! Ведаеш, я не вінен у гэтым... У школе 3 настаўніцы, а я адзін хлопец, ну і шчыплю іх. А яны склоку між сабой завялі.

Пасля я даведаўся пра гэту гісторыю. Юрлік незадоўга перад гэтым на нейкай вечарыне наладзіў сістэматычнае паляванне на жанчын. Першай ахвярай была настаўніца Зязюлька, якая

публічна, у прысутнасці шырокіх савецкіх мас, абразіла яго, па-першае, абазваўшы яго высокакваліфікаваным хамам, падругое, змазаўшы яго па твары нечаканай і выразнай па гуку поўхай; па-трэцяе, не паспеў Юрлік ачухацца і нейкую абарону ці рэабілітацыю прыдумаць, як Зязюлька новую поўху прыляпіла ўжо левай рукой і хутка знікла з вачэй усіх прысутных. Гэты інцыдэнт меў дзіўныя вынікі: настаўнік Юрлік загарэўся нястрыманым імкненнем да Зязюлькі і шукаў выпадку зноў пасяброўску гаварыць з ёю.

З кабінета выйшаў старшыня тав. Сом, прайшоў каля нашых сталоў, спыніў свае вочы на аграноме і настаўніку і роўным голасам заўважыў:

— Сталы ў канцылярыі зроблены не для сядзення. Таксама і курыць нельга: калі кожны будзе курыць, тут немагчыма будзе працаваць. Мне прыйдзецца штрафаваць за парушэнне правілаў.

Сказаўшы гэта, старшыня пайшоў далей.

Аграном замітусіўся і адразу страціў усю сваю меланхолію.

— Калі ў вас і зэдляў няма, — апраўдваўся ён перад Крэйнай і пачырванеў.

— Чаму ўсе дзелаводы кураць, ім дык можна! — сказаў і Юрлік.

— Ім можна, яны ўвесь час працуюць тут, а вы... — заўважыла Крэйна.

— А я набрыдзь? — усміхаючыся, запытаў настаўнік і пакінуў канцылярыю.

А мне дык вельмі спадабаўся гэты інцыдэнт. Я падумаў: правільна, трэба з дробязяў пачынаць, трэба ўсё браць на ўвагу. Па-мойму, у гэтым і ёсць агульнае кіраванне, неабходнае ў нашым некультурным жыцці.

Прыйшоў яшчэ начміл Какоцька і, пабыўшы хвіліну каля Крэйны, прайшоў у кабінет старшыні.

Я таксама пайшоў туды. У мяне з'явілася шмат запытанняў, якія трэба было зараз жа вырашыць.

Тав. Сом слухаў справаздачу начміла.

— Мною праводзіцца ў жыццё такая пастанова, — пачаў гаварыць начміл, — каб да 1 траўня ўсе грамадзяне нашага мястэчка паставілі перад дамамі ліхтары, каб на вуліцах праклалі тратувары. На камунальныя сродкі і часткова за прыватніцкія думаем вясною забрукаваць вуліцу да РВК. Па-другое, неабходна забараніць каровам хадзіць па тратуварах. У мястэчку каля 30



штук такіх інтэлігентных кароў, якія лічаць ніжэй свайго гонару ісці па вуліцы. Мы думаем аслухных штрафаваць і першы раз браць у каровы 1 р., другі раз 2 р. і трэці раз 3 р.

Т. Сом ледзьве ўсміхнуўся і звярнуўся да мяне:

— Якога вы погляду адносна гэтага?

— У мяне будуць такія дадаткі і змены да сказанага т. Какоцькам, — сказаў я. — Неабходна яшчэ зусім пазбавіць свінняў права паказвацца на вуліцы. Беспрытульных валачобнікаў заганяць на выканкамаўскі двор і браць па 1 р. за экземпляр, калі знойдзецца ўласнік жывёлы. Апрача гэтага, неабходна зарэгістраваць у 3-дзённы тэрмін усіх сабак і кошак і гэтым даць магчымасць статорганам ведаць лік сабачага і кацінага насялення рэспублікі ў мэтах экспартных магчымасцяў.

Старшыня зірнуў на мяне і забарабаніў пальцамі.

— Урэшце, — сказаў я, — міліцыі неабходна заастрыць увагу і на такім факце: на вёсцы з'явіліся хлапцы, нават камсамольцы, якія таўкуцца ў народзе ды запісваюць стары быт. У гэтым няма выстарчаючай планавасці. Запісваюць усё, што пад руку пападзе, — песні, прыказкі, забабоны і ўсякае непатрэбнае глупства. Неабходна, каб міліцыя мела за гэтым нагляд і дазваляла рабіць толькі тым, у каго будзе ад культаддзела паперка.

Т. Сом засмяяўся і сказаў:

— Вашы дадаткі і змены яшчэ рана ўносіць. А наконт вашых, — сказаў ён, звярнуўшыся да начміла, — пакуль што патурбуйцеся аб тратуварах, ліхтарах ды забрукаванні вуліцы. Усё іншае кіньце.

Мяне гэта задзівіла.

«А каровы, а свінні, сабакі? — падумаў я. — Ніякай культуры. Нават дарогі не ўступаюць. Поўнае раўнапраўе з людзьмі!»

*1929*

# КАСТУСЬ ЕЗАВІТАЎ

Паэт, публіцыст, гісторык, дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння Кастусь Езавітаў нарадзіўся ў 1893 годзе ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс, Латвія) у сям'і капітана царскай арміі. У 1916 годзе скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут і Паўлаўскае вайсковае вучылішча ў Пецярбургу. У чыне паручніка ўдзельнічаў у Першай сусветнай вайне. У 1917 годзе арганізаваў у сваім пяхотным палку беларускую групу. Ад яе быў выбраны дэлегатам на з'езд беларусаў Паўночнага фронту (г. Віцебск). Увайшоў у склад Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады. Быў дэлегатам Першага Усебеларускага кангрэса. За ўдзел у яго рабоце і за стварэнне беларускага войска быў у студзені 1918 года арыштаваны ВЧК. Але ў лютым яму ўдалося ўцячы ад чэкістаў. Пасля адступлення бальшавікоў быў прызначаны камендантам Мінска і Мінскага гарнізона і ўзначаліў беларускі полк. У сакавіку 1918 года ўвайшоў у Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, удзельнічаў у абвяшчэнні дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. У першым урадзе БНР быў народным сакратаром унутраных спраў, а потым — сакратарам асветы, атрымаў званне палкоўніка. У 1919–1920 гадах узначальваў вайскова-дыпламатычную місію БНР у Латвіі і Эстоніі. У 1920 годзе ўрад БНР прысвоіў яму званне генерал-маёра. У 1921 годзе К. Езавітаў прыняў латвійскае грамадзянства, распачаў арганізацыйную і культурна-асветніцкую працу сярод этнічных беларусаў Латвіі. Заснаваў у Дзвінску культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына». Працаваў дырэктарам беларускай гімназіі ў Дзвінску, потым у Люцыне. У хуткім часе яго намаганнямі былі адкрыты ў Латвіі дзесяткі беларускіх школ і настаўніцкія курсы, а пры Міністэрстве асветы створаны Беларускі аддзел. Аднак у 1923 годзе ў Латвіі пачаўся ўціск беларускай нацыянальнай меншасці, школы зачыняліся, бо латвійскія ўлады западозрылі, што беларусы жадаюць далучыць частку латышскіх зямель да БССР. Сярод беларускіх дзеячаў пачаліся арышты. К. Езавітаў быў зняволены на 11 месяцаў у турме да суда, бо не здолеў выплаціць вялікага залогу. У красавіку 1925 года адбыўся суд, які апраўдаў усіх абвінавачаных. К. Езавітаў зноў стаў займацца грамадскай і культурна-асветніцкай працай: рыхтаваў і выдаваў падручнікі для школ, ладзіў беларускамоўную прэсу («Голас беларуса», «Беларуская школа ў Латвіі»), арганізоўваў таварыствы («Беларуская хата», «Прасвета», «Рунь» і інш.). У 1930-я гады ён старшыня Беларускага нацыянальнага аб'яднання ў Латвіі, настаўнік. Эміграцкі



пісьменнік К. Акула прыгадвае ў аповесці «Змагарныя дарогі»: «вучні беларускіх школ у Латвіі ўспамінаюць Езавітава не толькі як выдатнага настаўніка. Для іх ён быў перш за ўсё... нацыянальным бацькам». Арганізацыяй беларускіх школ у Латвіі К. Езавітаў займаўся да чэрвеня 1944 года — да таго, як быў адкліканы Беларускай Цэнтральнай Радай у Мінск для ўдзелу ў II Усебеларускім кангрэсе. На кангрэсе ён быў выбраны членам Рады, рэферэнтам па вайсковых справах. Вярнуўся ў Рыгу. У жніўні 1944 года выехаў у Берлін. У рангу генерала займаўся мабілізацыяй беларусаў у Беларускую Краёвую Абарону і пяхотную дывізію «Беларусь». 15 красавіка 1945 года яму зрабілі аперацыю ў гарадскім шпіталі г. Фінстэрвальдэ. Пры наступленні савецкіх войскаў 26 красавіка 1945 года К. Езавітаў быў арыштаваны контрразведкай «Смерш» 1-га Украінскага фронту, перавезены ў Маскву на Лубянку, а ў кастрычніку 1945 года па патрабаванні Цанавы — у Мінск, дзе і быў загублены ў 1946 годзе ў турме МУС БССР ва ўзросце 53 гадоў. Паводле афіцыйнай версіі, памёр у турэмнай бальніцы «ад сухотаў пры дыстрафіі 3-й ступені».

Творчая спадчына К. Езавітава досыць разнастайная: гісторыка-папулярныя нарысы, публіцыстыка, вершы, успаміны. Упершыню выступіў у друку ў 1918 годзе ў часопісе «Варта» з гістарычнымі нататкамі «Вызваленне Мінска: запіскі каменданта». Валодаючы літаратурным талентам, ён імкнуўся дакументальна зафіксаваць развіццё нацыянальна-адраджэнскай справы сярод беларусаў у Латвіі і Літве («Беларуская школа ў Латвіі», «Беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына» ў Латвіі», «Да арганізацыі беларускае нацыянальнае меншасці ў сучаснай Літве» і інш.), папулярызаваў сярод беларускага настаўніцтва гісторыю Беларусі («Беларусь у мінулым і сучасным»), на фактагічнай аснове ўзнаўляў гістарычныя адносіны паміж беларусамі і палякамі («Беларусы і палякі»). Адным з першых К. Езавітаў заняўся вывучэннем беларускай дыяспары («Беларусы ў Сібіры і на Далёкім Усходзе», «Беларусы ў Літве», «Беларусы ў Латвіі»). Пазней сталі вядомыя яго дакументальна абгрунтаваныя ўспаміны пра I Усебеларускі кангрэс, іншыя ўзоры мемуарнага жанру.

К. Езавітаў перакладаў з латышскай мовы творы Я. Райніса, А. Упіта, А. Курці і інш., пісаў пра іх у беларускім друку («Полымя»).

### НЕ НЫЙ! НЕ ПЛАЧ!

*(Братам Заходняй Беларусі)*

Не ный! Не плач!
Не дзіва свету слёзы:
Іх цэлы акіян праліў ён сам!
Тапор і нож вайстры,

Зрабі дубіну ты з бярозы,
Гвалтоўнікаў забі і выкінь цела псам!

Не ный! Не плач!
Слязою не адхіліш рук зладзея.
Румзаку-слюнцяя не будзе шкадаваць.
Дубіна, нож, тапор — вось дзе твая надзея!
Бі, рэж, палі!
Хай хаты ворагаў згараць!

Не ный! Не плач!
У страху не крычы.
Вазьме жуда — маўчы!
У катаў выжмі плач!
Хай з дрожжу свету пракрычаць:
«Паўсталі крывічы!»
Тады пачнуць нас шанаваць.
Тады людзьмі нас будуць зваць!
Не ный! Не плач!

*12 лютага 1925 г., Рыжская турма*

## СОНЦУ Ў НЯДЗЕЛЮ

Сённека ты, сонца, і свежа і чыста, —
Не вісіць ў паветры хмарна-руды дым!
З блакітных глыбіняў глядзіш прамяніста,
Нібыта схіліўшысь над вакном маім!

Пад твае праменні я твар падстаўляю...
Праз краты, праз шыбы, праз зімнае шкло —
Асвяці, сагрэй ты!.. Чуеш?.. Заклікаю!
Дай мне далучыцца да жыцця ўсяго!

За мурамі, ў садзе, крычыць і смяецца
І спявае гімны вераб'іны хор.
Пад рытм птушых спеваў моцна сэрца б'ецца,
Сніць лясоў гушчары і палёў прастор!

*22 лютага 1925 г. Рыжская турма*



## У КУЦЕ БОЛЬШ НЕ МАЮ БАЖНІЦ!

У куце больш ня маю бажніц —
Мапа там. А на ёй — Беларусь.
Ёй адной я цяперка малюсь,
Перад ёй штодня падаю ніц.

Прад вачыма маімі абшар
Скатаванай, згвалчонай зямлі...
Незасохшыя лужы крыві...
Панавання чужынцаў цяжар...

З паўначы на паўдзень, як злы гад,
Працягнулась падзелу мяжа...
Дрот калючы... Слупы дзеляжа...
Штыхі... Ўціск... І чужацкі салдат...

Слёзы й кроў. І малітвы, і стогн!
Катаванне! Турма! Кайданы!
Знішчыць нас захацелі паны!
Горы трупаў насыпаў патрон!

Ды — дарма! —
Ўжо ніхто не заб'е беларускай душы!
Ў цяжкіх муках яна акавалась бранёй!
Не зрачомся мы светлае Волі сваёй —
На свет вольны мы выйдзем з глушы!

*Снежань 1925 г. Рыга*

## АБВЯШЧЭННЕ БНР

У ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 года ў Менску пасля доўгіх абгавораў і спрэчак Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла незалежнасць Беларусі ад Расеі і выдала з гэтага повaду «Трэцюю Устаўную Грамату» да жыхарства Беларусі.

Памеры і характар нашага часопіса не даюць нам магчымасці падрабязней спыніцца на гісторыі гэтага акта, а таму мы абмяжуемся толькі галоўнымі фактамі і этапамі, падрыхтаваўшымі гэты гістарычны акт.

...Усебеларускі Кангрэс, які адбыўся 5–18 снежня 1917 года (па старому стылю), абвясціў Беларусь Народнаю Рэспублікаю

і абраў Раду Кангрэса і яе Выканаўчы Камітэт, якім даручыў скласці першы ўрад Беларусі і ўвайсці ў перагаворы з расійскім і ўкраінскім урадамі аб фармальным замацаванні федэрацыі з гэтымі рэспублікамі. Выконваючы даручэнне Кангрэса, Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Кангрэса ў канцы снежня 1917 года звярнуўся да Масквы і Кіева з прапазіцыямі аб канстытуцыіраванні Федэрацыі. Але і Масква, і Кіеў, кожны з розных прычын, прапазіцыю гэтую адкінулі: Масква жадала і надалей панаваць над Беларуссю як сваёй калоніяй, а Украіна, якая толькі што абвясціла сваю незалежнасць ад Масквы, не жадала сябе звязваць ніякімі новымі дзяржаўнымі звязамі з Маскоўшчынай. Такім чынам працягнутая Беларуссю рука асталася ў паветры.

Беларускае грамадства, летуцеўшае ў той час аб Усеславянскай Федэрацыі і глядзеўшае на федэрацыю з Маскоўшчынай і Украінай як на першы крок у гэтым кірунку, — было дужа расчаравана гэткім адношаннем да прапазіцый Усебеларускага Кангрэса і змушана было зрабіць належныя вывады. І вось ужо 31 снежня 1917 года (па старому стылю, новы стыль на Беларусі ўведзены быў з 1 лютага 1918 года) на навагоднім банкеце, які адбыўся ў Менску ў Клубе «Беларуская Хатка», сябрамі Прэзідыума Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады было рашуча пастаўлена пытанне аб абвяшчэнні незалежнасці Беларусі. Пасля адпаведных прамоў быў пушчаны ліст з кароткай дэкларацыяй: «Хай жыве Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!» Ліст гэты быў падпісаны ўсімі прысутнымі на банкеце беларускімі дзеячамі.

Гэты банкет і праведзенае на ім шляхам падпісання ліста папярэдняе галасаванне канчаткова вырашылі пытанне абвяшчэння Беларускае Народнае Рэспублікі незалежнаю. Аставалася толькі належным і аўтарытэтным чынам аформіць гэтую важную справу.

Разглядаючы падзеі 1917 і 1918 гадоў на Беларусі, трэба ўвесь час памятаць, што цераз усю Беларусь праходзіў нямецка-расейскі фронт, які адрэзаў Заходнюю Беларусь ад Цэнтральнай і Усходняй Беларусі, ды што ўся Цэнтральная Беларусь была набіта расейскімі вайскоўцамі і living рознымі расейскімі грамадскімі арганізацыямі, абслугоўваўшымі армію. У беларускіх гарадах, асабліва ў Менску, дзе стаяў штаб Заходняга фронту, расейская прыезджая інтэлігенцыя ўваходзіла ў значнай лічбе ў гарадскія і нават земскія самаўрады, дзе мела вялікі ўплыў і ў хаўрусе з яўрэйскімі домаўласнікамі ды польскімі і расейскімі



абшарнікамі ўсімі спосабамі перашкаджала працы Выканаўчага Камітэта Усебеларускага Кангрэса.

Прайшло некалькі тыдняў, пакуль Выканаўчы Камітэт і Рада Усебеларускага Кангрэса настолькі ўмацаваліся, што здолелі з дапамогай Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады ўзяць уладу ў Менску ў свае рукі і стварыць першы Урад Беларусі — Беларускі Народны Сакратарыят. Здарылася гэта 19 лютага 1918 года, калі Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада, скарыстаўшы абставіны і абапершыся на беларускіх вайскоўцаў і свядомую моладзь у Менску, захапіла горад і яго ваколіцы ў свае рукі і стварыла ў Менску Беларускую Камендатуру і 1-шы беларускі пяхотны полк.

Расейская армія, у якой панаваў тады поўны развал, адступіла на Усход, за Оршу, на лінію Дзвіна – Дняпро і беларусам не перашкаджала. Затое на маладую беларускую ўладу адразу ж зрабілі напад польскія абшарнікі з Паўднёвае Меншчыны, якія мелі ў раёне Бабруйска сканцэнтраваны польскі корпус генерала Даўбар-Мусніцкага. Частка гэтага корпуса адразу была кінута на Менск з паўднёвага боку, каб зліквідаваць беларускую ўладу і захапіць Цэнтральную Беларусь і беларускую сталіцу ў польскія рукі. Аднак гэтыя захопніцкія планы палякаў на той раз не ўдаліся, бо хутка ў справу ўмяшаліся немцы, якія павялі наступ на Менск з захаду і акупавалі яго.

Нямецкая акупацыйная армія спыніла беларуска-польскія сутычкі ў дужа арыгінальны спосаб: яна абяззброіла як палякаў, так і беларусаў, пры гэтым польскія вайсковыя часткі былі перавезены з Беларусі ў Польшчу, а беларускія вайскоўцы былі інтэрнаваны. Зліквідаваўшы польскую пагрозу, акупацыйная армія не спыніла працы Народнага Сакратарыяту Беларускай Народнай Рэспублікі, які застаўся ў Менску і нягледзячы на розныя абмежаванні і перашкоды з боку акупантаў лічыў сябе і ўважаўся ўсім жыхарствам за адзіную законную ўладу на Беларусі.

Пасля стварэння Беларускага Народнага Сакратарыята і пераходу ўлады ў рукі беларусаў расейскія і яўрэйскія партыйныя арганізацыі, а таксама Менскі гарадскі і земскі самаўрады зрабіліся больш лагоднымі і выказаліся за поўнае супрацоўніцтва з Радай Усебеларускага Кангрэса і яе арганізацыямі Выканаўчым Камітэтам і Беларускім Народным Сакратарыятам. У выніку гэтае беларускае перамогі аказалася магчымым сканструяваць Беларускі Прадпарламент, які аб'яднаў у сабе: 1) Раду і Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Кангрэса, 2) Беларускую Цэнтральную Вайсковую Раду, 3) прадстаўнікоў ад беларускіх гарадскіх і земскіх самаўрадаў і 4) прадстаўнікоў ад усіх

палітычных партый на Беларусі. Створаны на гэткім шырокім прадстаўніцтве Беларускі Прадпарламент быў названы Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. У ёй былі рэпрэзентаваны ўсе краёвыя нацыянальнасці, самаўрады, кірункі і партыі, за выключэннем невялічкае групы беларускіх хрысцігаў і абшарнікаў, якія згрупаваны былі каля беларускага абшарніка Рамана Скірмунта і ўскладалі надзею на тое, што сваімі даносамі на Раду даб'юцца ад акупаваўшых Менск немцаў разгону Рады. Немцы, аднак, добра бачылі, што Рада штодзень болей набывае ў Краі папулярнасці і сімпатыяў, а таму разагнаць яе не адважваліся, хаця ж у Радзе і была непажаданая ім сацыялістычная большасць.

Хаця беларускія партыі і арганізацыі мелі ў Радзе большасць, аднак з актам абвяшчэння незалежнасці Беларусі яны не спяшаліся, бо хацелі, каб гэты акт быў вынесены як мага большаю лічбаю галасоў. З гэтай мэтай вяліся адпаведныя перагаворы з партыямі іншых нацыянальнасцяў у Радзе ды разам з тым чакаліся «беларускія рэзервы» з Заходняй Беларусі, якой таксама былі прадугледжаны 10 мандатаў у Радзе БНР.

24 сакавіка з'явіліся ў Раду прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады, лічба беларускіх галасоў павялічылася, апрача таго, атрымана была згода на абвяшчэнне незалежнасці Беларусі ад некаторых расейскіх і яўрэйскіх груповак. І пытанне аб прыняцці дэкларацыі з абвяшчэннем незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі было пастаўлена ў парадак дня. Пасля доўгіх спрэчак з расейскімі сацыялістамі-рэвалюцыянерамі, польскімі сацыялістамі і некаторымі яўрэйскімі групамі пад самую раніцу быў зроблены перапынак, а на світанні пераважнай большасцю галасоў была прынята «Трэцяя Устаўная Грамата» з абвяшчэннем незалежнасці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Калі абвешчаны былі вынікі галасавання, у зале запанаваў урачыста-ўзняты настрой, беларускія сацыялісты заспявалі рэвалюцыйны беларускі гімн «Ад веку мы спалі, і нас разбудзілі!..». Уся Рада ўстала і дружна падхапіла гэтую хвалюючую магутную мелодыю з яе захапляваючымі, як прысяга, словамі.

У гэты момант праз вокны ўдарылі першыя залатыя праменні наступаючага 25 сакавіка, і ўся зала афарбавалася ў нейкі містычна-ружовы колер. Захопленыя агульным уздымам, нават прадстаўнікі расейскіх с.-р. і яўрэі пасля адспяванага гімна зрабілі ўрачыстыя заявы, у якіх падкрэслілі, што, лічачыся з стаўшымся фактам, яны таксама ўсімі сіламі будуць падтрымоўваць Беларускую Дзяржаву.

*1933*



## СЛУЦКАЕ НАРОДНАЕ ЗМАГАННЕ

У публіцыстыцы, а нават і ў некаторых гістарычных працах, якія закранаюць падзеі канца 1920 года на Случчыне, усе аўтары неяк ужо прызвычаіліся называць гэтыя падзеі Слуцкім паўстаннем. Мы не хочам тутака змяняць усім ведамы назоў і ламаць прынятае традыцыі, аднак не можам не аднатаваць, што назоў гэты не ёсць цалкам правільны. Тое, што адбылося ў 1920 годзе на Случчыне, фактычна было не паўстаннем супраць урада, бо паўставаць могуць народ або войска супраць сваіх правадыроў і ўлады, якую яны перад гэтым, хаця б нават і кароткі час, лічылі сваёю і якой спачатку падпарадкоўваліся. Вось жа, што датычыць беларускага народа ў цэлым, а случчакоў у асаблівасці, дык увесь народ наш, і асабліва случчакі, ніколі не прызнавалі бальшавіцкай улады, ніколі не жадалі ёй падпарадкавацца і заўсёды змагаліся з ёю за сваю нацыянальна-дзяржаўную незалежнасць. Слуцкія падзеі, фактычна, былі народнаю вайною, якую случчакі пад кіраўніцтвам сваіх собскіх арганізацыяў і камандзіраў і пры ўдзеле афіцыйнага прадстаўніка ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі пасправабавалі весці супроць наступаўшых на Беларусь войскаў РСФСР.

Як жа развіваліся падзеі на Случчыне ў лістападзе і снежні 1920 года?

Пасля таго, як увосень 1920 года савецкія арміі былі адбіты з-пад Варшавы і пры ўдзеле беларускіх частак генерала Булак-Балаховіча адсунуты з Польшчы праз усю Заходнюю Беларусь аж па Менск, у Заходняй Беларусі і ў Меншчыне аднавілі працу беларускія мясцовыя арганізацыі, а нацыянальны эміграцыйны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі зараз жа паслаў ва ўсе галаўнейшыя цэнтры звольненай часткі Беларусі сваіх упаўнаважаных прадстаўнікоў. Прадстаўнікі гэтыя павінны былі чыннічаць патаемна і скрыта, бо польскія ўлады былі супраць незалежнасці Беларусі, а значыць, і супраць урада БНР.

12 кастрычніка 1920 года ў Рызе была падпісана прэлімінарная ўмова паміж РСФСР і Польшчай. Умова гэта падзяляла Беларусь на кавалкі і аддавала беларускі народ на здзек ворагам. Эміграцыйны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі супольна з урадам Украінскай Народнай Рэспублікі і ўрадам Галіччыны склалі ў Рызе вострыя пратэсты супроць гэтага падзелу, а адначасна далі загад сваім прадстаўнікам, каб яны арганізавалі на мясцох збройнае змаганне за незалежнасць сваіх краінаў і каб бараніліся супроць абодвух акупантаў.

Вайна на тэрыторыі Беларусі працягвалася ўжо 6 гадоў, яна вялася спачатку паміж царскай Расеяй і кайзераўскай Нямеччынай, пасля — паміж рэвалюцыйнай Расеяй і Нямеччынай, нарэшце — паміж савецкімі і польскімі ды беларускімі нацыянальнымі войскамі. Народ стаміўся і летуцеў аб супакоі. Аднак, калі вестка аб падзеле Беларусі ў Рызе дайшла да беларускага народа, ён здрыгануўся ад роспачы і гневу, а лепшая частка яго зразумела, што супакою на Беларускай Зямлі яшчэ наступіць не можа, што змаганне не скончылася, а фактычна толькі пачынаецца ў новай стадыі і ў новай форме.

Асаблівае абурэнне было ў Віцебшчыне, у Меншчыне, у Случчыне і ў Гомельшчыне, якія, згодна з Рыжскаю дамовай, павінны былі перайсці да Саветаў. Аб падзеях у кожнай з гэтых мясцовасцяў трэба даць весткі паасобна. На Случчыне ж падзеі развінуліся гэтак.

У Слуцку ад 1917 года існаваў Беларускі Нацыянальны Камітэт. Склад ягонае ўправы змяняўся ў залежнасці ад розных палітычных і вайсковых абставінаў, але галоўны напрамак і дух працы заўсёды быў адзіны — імкненне ўсімі сіламі дапамагчы стварэнню сапраўднае незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі.

Калі да Слуцка дайшла вестка аб падзеле Беларусі паміж РСФСР і Польшчай, у горадзе і акрузе наступілі агульнае абурэнне ды непакой. Калі ж праз некалькі дзён Слуцкі Беларускі Нацыянальны Камітэт даведаўся яшчэ, што польскія войскі, згодна з Рыжскаю дамовай, павінны адысці за Случчыну і аддаць яе бальшавіком, абурэнне і непакой яшчэ больш павялічыліся. Абурэнне гэтае было тым большым яшчэ таму, што польскія акупацыйныя ўлады свой намер аддаць Случчыну бальшавіком старанна ўтойвалі ад мясцовага жыхарства.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Слуцку ўхваліў зараз жа склікаць З'езд Случчыны. Трэба тутака зацеміць, што ў самым Нацыянальным Камітэце Случчыны ў сувязі з вайскова-палітычнымі абставінамі распачалася нутраная барацьба паміж двума напрамкамі: беларускім незалежніцкім напрамкам на чале з адвакатам Пракулевічам, і палянафільскім напрамкам на чале з доктарам Паўлюкевічам, які хацеў далучыць Беларусь да Польшчы. Аднак абсалютную перавагу мелі прыхільнікі незалежнай Беларусі.

З'езд адкрыўся 14 лістапада 1920 года. На ім было 107 дэлегатаў ад 15 валасцей і горада Слуцка. Адбыўся з'езд у вялікай зале будынка Вайніловічаў. Зала была прыбрана бел-



чырвона-белымі сцягамі і зеленню. У прысутных быў сур'ёзны і ўсхваляваны настрой, але разам з тым рашучы і ўрачысты. Прамовы былі кароткія, але палкія і рашучыя. З'езд шкадаваў час і словы, бо ведаў, што надышлі гадзіны змагання.

Старшынёй З'езда быў выбраны Васіль Русак, а ягоным заступнікам — адвакат Уладзімер Пракулевіч. Першае слова было дадзенае эмісару беларускага эміграцыйнага ўрада БНР Паўлу Жаўрыду, які абвясціў З'езду дэкрэт Урада Беларускае Народнае Рэспублікі аб сваім прызначэнні на Случчыну і аб нададзеных яму ўрадам паўнамоцтвах. З'езд горача вітаў прадстаўніка свайго Урада.

Прамоўцы, якія выступалі пасля эмісара БНР, В. Русак, адвакат Уладзімер Пракулевіч, капітан Анцыповіч, капітан Самусевіч, Юльян Сасноўскі, Рыгор Грынько ды іншыя, рашуча падкрэслілі, што Случчына ніколі не прызнавала і не будзе прызнаваць на сваёй тэрыторыі іншае ўлады, апрача беларускага нацыянальнага Урада Беларускай Народнай Рэспублікі. Усе яны горача заклікалі З'езд зараз жа арганізаваць збройны адпор падрыхтаваным да наступу бальшавіцкім палкам і выкарыстаць з гэтай мэтай у першую чаргу беларускую міліцыю, якая раней была ўжо арганізавана Беларускім Нацыянальным Камітэтам на Случчыне.

З'езд аднагалосна далучыўся да гэтых заклікаў, вынес адпаведную пастанову і выбраў Раду Случчыны, якой перадаў усю ўладу на Случчыне і даў самыя шырокія паўнамоцтвы ў справе арганізацыі вайсковае арміі. У Раду Случчыны былі выбраныя 17 асобаў: старшыня — адвакат Уладзімер Пракулевіч, Юльян Сасноўскі, Рыгор Грынько, капітан Анцыповіч, Паўло Баня, капітан Сокал-Кутылоўскі ды яшчэ 8 асобаў, прозвішчаў якіх цяпер не маем пад рукамі.

Беларуская міліцыя, якая ахоўвала парадак на Случчыне, мела ўсяго адзін узброены батальён з 500 міліцыянераў, якія былі параскіданыя ротамі, звязамі, дружынамі і групамі па ўсёй Случчыне. Камандаваў батальёнам беларускай міліцыі капітан Анцыповіч. Рада Случчыны даручыла капітану Анцыповічу папоўніць батальён новымі добраахвотнікамі і разгарнуць яго ў 1-шы Слуцкі полк.

З'езд Случчыны закончыў сваю працу ў адзін дзень, і ўжо ўвечары дэлегаты, атрымаўшы на рукі тэкст пастановы з'езда аб збройным змаганні з бальшавікамі, а таксама паўнамоцтвы на вярбоўку добраахвотнікаў, — раз'ехаліся па ўсіх валасцях, каб арганізаваць даручаную ім працу.

З Быстрыцкай, Вызнянскай, Грозаўскай, Грэскай, Нараўскай, Капыльскай, Раманоўскай, Чапліцкай, Старобінскай і Цімкавіцкай воласцяў пачалі збірацца добраахвотнікі. Усюды на мясцох, па вёсках і мястэчках утварыліся нацыянальныя камітэты, якія дапамагалі Радзе Случчыны праводзіць вярбоўку добраахвотнікаў і арганізоўваць сваю збройную сілу.

У некалькі дзён укамплектаванне паасобных ротаў 1-га Слуцкага палка было закончана, і іх пачалі падцягваць бліжэй адна да адной. Аднак і савецкае войска не марудзіла і падыходзіла ўжо да Асіповічаў ды Старых Дарог. Толькі што сфармаваным і недастаткова ўзброеным ротам утрымаць Слуцк было не пад сілу. Таму 24 лістапада давялося Слуцк пакінуць і распачаць адыход на захад. Зборны пункт для новых добраахвотнікаў быў перанесены далей на захад, у Семежава, дзе пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Гаўрыловіча пачаў фармавацца 2-гі полк, які атрымаў назоў Грозаўскага.

Пачаліся баёвыя сутычкі з савецкімі часткамі. З абодвух бакоў былі ахвяры, але ў случакоў, якія добра ведалі мясцовасць, гэтыя ахвяры былі меншымі. Ад 27 лістапада баёвыя аперацыі ўзмацніліся і адбываліся штодня. Асабліва значныя баі адбыліся пры вёсках Садавічы, Дошнава, Быстрыца, Вызна і Лютавічы ды пад мястэчкам Капыль.

У гэтую самую цяжкую для Слуцкае брыгады хвіліну адбылася ў ёй ганебная здрада: камандзір брыгады капітан Генеральнага Штаба Чайка кінуў брыгаду і перайшоў да ворага, перадаўшы бальшавіком усе весткі аб брыгадзе і ейных планах.

Здрада капітана Чайкі была цяжкім ударам для слуцкіх змагароў, але яна не зламала іхнага змагарнага духу. Ніхто з жаўнераў не пайшоў за капітанам Чайкай. Рада Случчыны зараз жа выклікала ў Семежава капітана Сокал-Кутылоўскага і 3 снежня перадала яму камандаванне брыгадай.

Баёвыя аперацыі прадоўжваліся. Брыгада не толькі адбівалася, але часам пераходзіла і ў контрнаступ, адбіваючы ад ворага паасобныя вёскі ды забіраючы ў палон чырвонаармейцаў. Аднак агульнае становішча брыгады ўсё больш пагоршвалася. Зброі для ўсіх добраахвотнікаў не хапала, і яе даводзілася адбіраць у ворага. Набояў было па 3–5 на кожнага стральца. Трохі лепш было з ежай, бо яе давозілі з усіх бакоў беларускія сяляне з собскай ініцыятывы, а таксама збіралі беларускія нацыянальныя камітэты.

Польскія ўлады і польскае войска, якое мела ўсялякую падтрымку ад Антанты, магло б шмат чым дапамагчы Слуцкай



брыгадзе, але палякі, пабачыўшы, з якім запалам беларуская моладзь пайшла ў сваё войска і з якой адвагай білася за сваю Бацькаўшчыну, не пажадала падтрымаць Слуцкую брыгаду, бо стварэнне сапраўднае беларускае збройнае сілы зусім не супадала з планам польскай захопніцкае палітыкі. Узброены беларускі народ не падпарадкаваўся б падзелу ягонае зямлі паміж суседзямі. Таму палякі спакойна назіралі, як пад напорам савецкага войска ўвесь снежань месяц адбівалася і адыходзіла на захад Слуцкая Беларуская брыгада.

Покуль брыгада яшчэ знаходзілася на тэрыторыі Случчыны і на ўсход ад толькі што праведзенае ў Рызе мяжы падзелу Беларусі, палякі абмяжоўваліся толькі назіраннем і выведам аб стане брыгады. Калі ж Слуцкая брыгада змушана была адысці за раку Лань і заняла лінію фронту Мядзведзічы, Сіняўка, Ляхавічы, Клецк, — палякі ў канцы снежня 1920 года нечакана абкружылі і абяззброілі брыгаду, а ў лютым 1921 года ўсіх афіцэраў і стральцоў інтэрнавалі ў Беластоцкім канцэнтрацыйным лагеры.

У Беластоцкім лагеры беларускія змагары Слуцкае брыгады прабылі за дротам ад пачатку лютага да паловы красавіка, а пасля былі перавезены ў Даратуск над Бугам, дзе знаходзіліся вялікія лагеры ваеннапалонных часоў 1-е Сусветнае вайны. Тут іх трымалі да канца траўня 1921 года. Пасля гэтага тэрміну пачалі паасобку адпускаць на волю.

Гэтак закончылася жыццё Слуцкае Беларускае брыгады. Але змаганне случакоў і ўсяго беларускага народа за сваю волю і незалежную беларускую дзяржаву не спынялася і далей. І яно ніколі не спыніцца, пакуль беларускі народ не здабудзе сабе Вольную і Незалежную Беларусь.

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ

Класік беларускай літаратуры, выдатны дзеяч нашага нацыянальнага адраджэння Максім Гарэцкі нарадзіўся 18 лютага 1893 года ў вёсцы Малая Багацькаўка на Мсціслаўшчыне ў сялянскай сям'і.

Скончыў Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча (1913). Працаваў каморнікам у Літве. Улетку 1914 года прызваны ў армію. У час Першай сусветнай вайны быў на фронце, ва Усходняй Прусіі. Пад Сталупененам паранены. У 1916 годзе скончыў Паўлаўскае ваеннае вучылішча. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі жыў у Смаленску, супрацоўнічаў у «Известиях Смоленского Совета», у газеце «Звезда», з рэдакцыяй якой у пачатку 1919 года пераехаў у Вільню. Займаўся выдавецкай і навуковай дзейнасцю, працаваў настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі. Быў рэдактарам і выдаўцом газет «Наша думка» (1920–1921) і «Беларускія ведамасці» (1921–1922). За сувязь з віленскімі камуністамі трапіў у 1922 годзе ў Лукішскую турму. У 1923 годзе мусіў выехаць у БССР. Чытаў лекцыі на рабфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта, загадваў кафедрай беларускай мовы і літаратуры ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, займаўся літаратурнымі даследаваннямі ў Інстытуце беларускай культуры, а потым у БАН.

Друкаваўся з 1912 года (допісы, карэспандэнцыі). Першае апавяданне надрукаваў у 1913 годзе ў газеце «Наша ніва». У 1914 годзе выдаў у Вільні зборнік апавяданняў «Рунь», у 1919 годзе — драматызаваную аповесць «Антон». Выйшлі кнігі прозы: зборнік апавяданняў «Досвіткі» (1926), аповесці «Дзве душы» (Вільня, 1919), «Ціхія песні» (1926, другое, дапрацаванае і пашыранае выданне пад назвай «Ціхая плынь» у 1930), дакументальна-мастацкія запіскі «На імперыялістычнай вайне» (1926).

Працаваў і ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства, а таксама мовазнаўства. Напісаў першую «Гісторыю беларускае літаратуры» (Вільня, 1920; 4-е выданне. — Мінск, 1926). Аўтар літаратурна-крытычнай працы «Маладняк» за пяць гадоў. 1923–1928» (1928), «Хрэстаматыі беларускае літаратуры. XI век — 1905 г.» (Вільня, 1922), «Руска-беларускага слоўніка» (з Г. Гарэцкім; Смаленск, 1918; 2-е выданне. — Вільня, 1920), «Беларуска-расійскага слоўнічка» (3-е выданне, 1925), «Практычнага маскоўска-беларускага слоўніка» (з М. Байковым, 1924; 2-е выданне — 1926). Выдаў зборнік «Народныя



песні з мелодыямі» (запісаныя ад маці; мелодыі запісалі А. Ягораў і М. Аладаў, 1928).

Напісаў драматычныя абразкі, якія ставіліся самадзейнасцю, «Атрута» (1913), «Мутэрка» («Вучыцель Мутэрка», 1920), «Чырвоныя ружы» (1923), «Жартаўлівы Пісарэвіч» (1925), «Не адной веры» (1928), «Гапон і Любачка» (1929) і інш.

Пераклаў на беларускую мову паасобныя працы У. І. Леніна (пад псеўданімам А. Мсціслаўскі), творы Ю. Лібядзінскага «Камісары» і «Тыдзень», А. Фадзеева «Разгром», апавяданні М. Горкага «Зброднік», «Канавалаў» і «Чалкаш», «Слова аб палку Ігаравым».

Не ўсё з напісанага М. Гарэцкім у тыя гады выходзіла на старонкі друку. Напрыканцы 1920-х гадоў, з усталяваннем сталінскай дыктатуры, узмацняюцца беспадстаўныя абвінавачанні, ганенні на творчую інтэлігенцыю, беларускіх пісьменнікаў, якія змагаліся за нацыянальнае адраджэнне. М. Гарэцкі быў арыштаваны адным з першых — 19 ліпеня 1930 года. Яго абвінавацілі ў прыналежнасці да міфічнага «Саюза вызвалення Беларусі» і выслалі на 5 гадоў у Вятку (Кіраў). У гэтым жа годзе быў арыштаваны і яго брат Гаўрыла Гарэцкі і асуджаны да расстрэлу, замененага на 10 гадоў ГУЛАГа.

У выключна цяжкіх умовах высылкі, страшэнных перажываннях за лёс жонкі, сына, дачкі (яны пазней пераехалі да яго ў Вятку, затым у Пясочню, дзе М. Гарэцкі змог уладкавацца настаўнікам у школе), пісьменнік толькі ў творчасці знаходзіў хоць нейкае заспакаенне. Ён скончыў раман «Віленскія камунары» (1932), які стаў адным з першых буйных твораў нацыянальнай прозы, працягваў працу над «Камароўскай хронікай», якая, паводле задумы аўтара, павінна была раскрыць маштабную карціну жыцця беларускага народа ад часоў прыгону да XX стагоддзя. Паралельна з «Камароўскай хронікай» пісаліся і такія мастацкія творы, як «Лявоніус Задумекус» (своеасаблівая споведзь аўтабіяграфічнага героя ўсёй творчасці пісьменніка — Лявона Задумы пра жыццё ў высылцы, пра здзекі розных чыноўнікаў з так званых «ворагаў народа») і «Скарбы жыцця» (працяг «Задумекуса», філасофская прытча, роздум над лёсам мастака ў паняволенай Бацькаўшчыне).

У лістападзе 1937 года пісьменнік быў зноў арыштаваны і з Пясочні вывезены ў Вязьму. 10 лютага 1938 года пастановай «тройкі» НКУС класік беларускай літаратуры за 10 дзён да свайго 45-годдзя быў расстраляны органамі НКУС.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць асобным томам «Выбраныя творы» Максіма Гарэцкага.

## РУСКІ

*Апавяданне*

А таму хвораму на грудзі салдату-беларусу, што прывезлі з аўстрыйскага фронту, болей выпадае ляжаць у бальніцы для нервовахворых, чым тут, у нас. Ён ляжыць на Саксанавым месцы.

Наша палата празвала яго Рускім, бо ён, калі яго забірае хвароба, крычыць шмат разоў бесперастанку:

— Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!..

На выгляд гэта ёсць даволі здаровы мужчына. Ён сярэдняга росту, добрага складу, шыракаплечы, і грудзі ў яго звычайныя. На твары ніякай хваравітасці не відаць, — пэўна ж, калі ўважаць на тое, што чалавек прыехаў не з гасцей, а з акопаў. І толькі ў вачах гаротніка ё штосьці такое, што выдае і цяжкую хваробу, і муку, і безнадзейнасць. Вочы ў яго праваліліся, зрабіліся маленькімі. Галоўнае ж, яны страшэнна змарнаваныя, нейкія змятыя, сцёртыя. Трэба прыгледзецца да іх, і тады відаць у іх боль.

Дзіўная гісторыя выйшла з гэтым нешчаслівым чалавекам.

З пэўнасцю можна сказаць, што да вайны ці, лепей кажучы, да мабілізацыі — Рускі быў звычайным земляробам Магілёўскай губерні: быў здаровы, але крышку павольны; здольны ад прыроды, але цёмны, грубы. Апрануты па-салдацку, ён нічым не змяніўся, толькі прытарнаваўся да свайго новага жыцця.

І на пазіцыі, у часе доўгага і спакойнага стаяння ў зацішку малаважнага фронту, болей за другіх сваіх таварышаў любіў Рускі туляцца па пустых, кінутых сялянскіх дварах і поркацца там, шукаючы пажытку.

Увечары, першым змрокам, ішоў ён цягацца па зрытых акопамі палях, знаходзіў пустое бульбянішча — капаўся там сваёю маленькаю пехацінскаю лапатачкаю дзеля якога дзесятка непадабраных гаспадаром і свіннямі бульбін. Хаця яму за гэта дакаралі, не кідаў свайго блукання ў цёмным полі, і тая памаўзлівасць згубіла яго.

Аднойчы Рускі, няўпрыцям для самога сябе, забрыў лішне далёка ў бок аўстрыяцкіх пазіцый, за сваю перадавую старожу, і так забавіўся, шукаючы пажытку, што было ўжо зусім цёмна.

Троху спалоханы, асцярожна плёўся ён назад, заткнуўшы лапатачку за пояс і маючы ў адной руцэ кацялок з накапанаю бульбаю, а ў другой — стрэльбу на ўсякую неспадзяванку.

Толькі ўзняўся ён на нейкі невялічкі ўзгорачак, як знянацку ашаламеў: перад ім стаяў аўстрыяк... Абодва разам прыселі да зямлі: Рускі прысеў ад страху, а той, мусіць, таксама. Дзеелася адзін момант, а здалося дужа доўга. Аўстрыяк тады першы кажа:



— Руськый! Я маю горілку...

— Я табе нічога не зраблю! — адказаў Рускі зусім лагодна, смела ўстаў і пайшоў да яго бліжэй.

Аўстрыяка таксама падняўся, разы два ступіў і падаў руку. Ворагі прывіталіся, як даўнія сябры. Потым ізноў селі, толькі ўжо побач — і стрэльбы паклалі, кожны пры сваім баку.

Хаця блізу што зусім не гаманілі, бо языкі варочаліся туга, дый мала чаго яны разумелі ў словах той таго, але так выйшла неўзабаве, што выпілі аўстрыякаву гарэлку, заелі яго падсітным хлебцам і закурылі па кручонцы з махоркі Рускага. Гарэлкі было — адно толькі званне: па чарцы, можа, ці па дзве на брата. Пілі нагбом — спярша аўстрыяк, а тады Рускі. Калі зрабілі ўсё і трэба было расхадзіцца, пачулі нейкую прыкрасць. Ды аўстрыяк падбодрыўся і сказаў:

— Чы веды менэ до Русіі, чы разойдэмся.

Рускі паскроб ля вуха, як бы і сапраўды разважаў, што тут рабіць. Паглядзеў, задраўшы галаву, і адказаў:

— Не, братка, ідзі сабе да сваіх.

Аўстрыяк быццам трохі, нябачна, замаркоціўся. Але падаў руку. Рускі пацiснуў яе. І завярнуліся ў свае бакі.

Аўстрыяк адыходзіў шпарчэй. Рускі павалюхаў марудна і няскладна, як мядзведзь. Яго прыціснула тое, што не меў часу падумаць, як гэта што было. Ён хапаўся ўцяміць, ці ўсё добра ён рабіў. І раптам бліснула яму ў галаве, і ён, каб не спазніцца і каб пасля не шкадаваць, што быў варонаю, ён, ужо ступіўшы разоў дзесяць, сказаў сам сабе: «О, што ж я за ваяка». І не сказаў, толькі бліснула яму так у галаве... Павярнуўся, злажыўся стрэльбаю і без дум націснуў пальцам:

— Тах!

Гул быў глухі і невялікі. Аўстрыяк спачатку зарыўся носам і бразнуў бляшанаю пляшкаю, з якой пілі гарэлку, аб сваю стрэльбу. Потым перавярнуўся тварам дагары — і вельмі жаласна і з працягам застагнаў.

Калі Рускі падбег і нахіліўся над яго чубатаю шапачкаю і даўна падстрыганымі вусамі, дык у цямноце мала чаго ўбачыў, але пачуў, як ён яшчэ дадаў, гаворачы быццам аб нейкім трэцім:

— Шчо ж цій москаль наробыв... Зостанэцца моя жынка і діты...

Безнадзейная крыўда чулася ад яго; апошнія словы ледзь выдыхнуў, бо ўжо канаў. Раскінуў рукі і ногі. Рускаму здалося, што смяротная пялёнка, як у той курыцы, засцілае яго жаўтавыя бялкі.

— А колькі ж іх маеш? — з апалым сэрцам спытаўся Рускі і мімаволі, выглядаючы сабе падмацаванне, агледзеўся наўкол, у начным змроку.

— Ді-ты...

Забіты яшчэ раз пацягнуўся, замкнуў паволі вочы і быў гатоў.

Рускі перахрысціўся над мёртвым і палез у яго кішэню ў штанах. Выцягнуў адтуль пакамечаны ад доўгага часу і замаслены ліст у канверце. Болей нічога не было, і ён расчаравана ці нездаволена падраў яго на колькі частак. Абдумаўшыся, падняў іх з зямлі, каб пасля скурыць. І зноў кінуў. Аж рукі трохі дрыжэлі, і было брыдка, што так блазнуе, быццам не ворага забіў, а якога свайго. Смялей памацаў у яго за пазухаю, ува ўсіх кішэнях і ў шапцы і ізноў нічога добрага не знайшоў. Аглядаючы яго боты, ці варта здзіраць, гляну незнарок у цямноту ночы, спалохаўся... Схапіў кацялок з бульбаю ў адну руку, дзве стрэльбы за раменне — у другую і пусціўся бегчы што ёсць духу, да сваіх.

У роце яму не далі веры, што забіў аўстрыяка, і думалі, што прост у полі дзе знайшоў гэтую аўстрыяцкую стрэльбу. Але, праўда, была яна нядаўна ношаная, «цёплая» і пачышчаная. Можа, і забіў.

Толькі чалавек з гэтага часу перамяніўся. Быў дужа маркотны, кінуў брадзіць па дварах і бульбоўніках, упадабаў ляжаць на зямлі з раскінутымі нагамі і рукамі... Урэшце зазябіў сабе грудзі, і яго адправілі з пазіцый і прывезлі спярша ў нейкі паўднёвы горад, а потым у наш шпіталь, глыбей у тыл.

Тут не ведаюць, як яго разумець. Доктар Гэрмэер, немец з Дзвінска, якога мы ўсе не любім, лічыць Рускага за прыкідаку, інача не заве, як «сімулянтам», і нават у вочы яму кажа:

— Ты, прахвост, прыкідаешся! Ты ўсё гэта выдумаў! Падлечым табе грудзі і ўсё роўна паедзеш ізноў на фронт.

Другі доктар, старшы, на прозвішча Квяткоўскі, а родам, як кажуць, з-пад Баранавіч, старанна лечыць яму грудзі рознымі ўдыханнямі і паветранымі ваннамі, а на яго нервы зважае мала і быццам не чуе, калі таго пачынае забіраць хвароба:

— Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!..

— Ну-ну-ну, гэта не столь важна, — гаворыць старшы доктар Рускаму, пераходзячы да другіх хворых і раненых.



«Не столь важна! Не вельмі важна, гм!» — думаю сабе я.

Я на свае вушы чуў ад Рускага аб тым, як ён забіў беднага аўстрыяка, і спярша таксама не паверыў: ці мала хітрых бестый бывае паміж салдат. Аднак я на свае вочы бачыў, у першую ж яго ноч у нашым шпіталі, як ён горка плакаў і жаліўся, што яму ўсё нешта здаецца. Няшчасны, нягледзячы на бром і падскурнае ўпырскванне, заліваўся слязьмі так шчыра і жаласна і так доўга, што ніяк няможна было яму не верыць...

***1925***

## УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД 1917-ГА ГОДА

*Апавяданне*

Вясною 1918 года, прыгожым цёплым раннем, дакляраваўшым добры дзень, пакінуў я Смаленск, выязджаючы дамоў на лета.

Падвозілі мяне каапературыўшчыкі, прыязджаўшыя ў Смаленскі Саюз па тавары.

Знайшоў я іх проста на рынку, дзе па нашскіх шэрых вопратках, па мяккаму абліччу, па гаворцы і нават па конях і вазах пазнаў, што людзі з нашага боку.

Яны ўсе аказаліся з воласці сумежнай з нашай, і адзін з іх зараз згадзіўся падвезці мяне за самыя малыя грошы.

Чалавечак гэты быў з сухой рукою, шапку насіў ссунутую з лоба назад, гаварыў казліным тэнарком і быў надта зюклівы. Зваўся Кузьма.

Вёрст дваццаць праехалі ўжо мы, а ён не сціх ні на мінутку і шмат чаго паспеў пераказаць аб цяперашнім жыцці ў нашых краях.

Разы два пачуў я ад Кузьмы, што іх каапературыў завецца «Беларус». Гэта мяне здзівіла. «Але, — падумаў я, — гэта, відаць, не мае ніякіх звязкаў з нашым адраджэннем», і з той назовы разінуўся на мяне страшэнны чупірадла яць (ѣ) і закруціліся сабачымі хвастамі два русіфікатарскія эсы (с)...

Але ўсё ж было цікаўна. Аб'ехаўшы бязмальна ўсе буйнейшыя на бацькаўшчыне гарады, я толькі ў Магілёве відзеў гасцініцу з назваю «Беларусь», а то скрозь нічога не было ў падобных назвах, што б нагадала імя беларуса ў «Сѣверо-Западномъ Краѣ Россіи матушки». Былі «Масквы», «Краковы», нават «Парыжы» і «Неапалі», а «Беларусі», за адзіным выключэннем, не было. Дык назва каапературыва мяне зацікавіла.

Тым часам пад'ехалі мы пад гару, і ўсе вылезлі з калёс. Вазы паціхеньку паўзлі наверх, падводчыкі ж сабраліся ў адзін груд і заняліся кручэннем папіросак, каб, уз'ехаўшы і сеўшы, шпарчэй паехаць і курыць.

Аж неўспадзеўкі пытаецца ў мяне Кузьма пры ўсіх:

— А што цяпер з Беларуссю пасля таго леташняга з'езда?

— Якога з'езда? — яшчэ балей здзівіўся я, што зямлякі мае нават і пытаюцца аб Беларусі, бо прызвычаіўся раней да поўнай несвядомасці. Думаў, што ў нашай старонцы толькі наша ваколіца трохі ведае цераз мяне аб сваіх нацыянальных справах.

Хлопцы ж паглядзелі на Кузьму і засмяяліся.

— Мы пасылалі яго летась дэлегатам на з'езд у Менск рабіць сваю рэспубліку, — сказаў адзін байчэйшы.

— Чаго ж, дурні, смяіцёся? — дабрадушна загневаўся Кузьма.

— А чаго ж ты ўцякаў са з'езда? — пажартаваў другі.

— Ці я казаў вам, што ўцякаў? — абурыўся Кузьма і потым з гонарам дадаў: — Як леў, бараніўся, а яны — «уцякаў»...

Бойкі хлопец прыжмурыў вока, ссунуў шапку на патыліцу, добра ўдаўшы Кузьму, і ягоным казліным тэнарком, махаючы па-ягонаму сухой рукою, раптам зацягнуў:

Спрадвеку мы спалі, і нас узбудзілі,
Сказалі, як трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі-і-і..

Нават я не мог удзержыцца ад смеху. Смяяўся і сам Кузьма.

— Вот-то дурань, — плачучым галаском загаварыў Кузьма, — думаець, што з мяне смяецца... Ты, браце, сам над сабою смяешся!

— А дзе вы наўчыліся пяяць нашу марсельезу? — спытаўся я ў хлапца.

— Ды ён жа, ён усю валасць навучыў, — увідзеў я палец, выстаўлены штыхам у грудзі Кузьмы.

Кузьма ударыў яго па руцэ, хлопец засмяяўся:

— Гэта ж наш герой! Рэспубліку сваю рабіў!

— Вот-то цемната! Божухна-бацюхна, вот-то наша цемната! Што з вамі з такімі зробіш, — лямантаваў Кузьма, шукаючы ў мяне спагады.

Калі мы селі на вазы, ён закурыў, забыў на жарты і спакойна сказаў:



— А я хоць трошкі іх усведаміў. Самі захацелі назваць кааператыў наш «Беларусам»...

Усё чутае было для мяне незвычайнай навіною. Нічога падобнага не чакаў я сустрэць у глухім закутку Смаленшчыны, ад якога бліжэйшая жалезная дарога за сто вёрст. Я не пазнаваў сваіх сялян.

— А дзядзька даўно... такі? — спытаўся я.

— З леташняга, браце, года, пасля таго з'езда.

— Цікаўны быў з'езд? — прыкінуўся я нязнайкам, каб пачуць большую беспасярэднасць.

— Ці ж вы нічога не ведаеце? — з захованым дакорам павярнуўся да мяне Кузьма.— А я, прызнацца, падумаў, што вы з «народных». Вучоны, з Смаленска едзець і па-беларуску гамоніць, — верна, думаю сабе, народны чалавек...

— Каго вы прызываеце народнымі людзьмі?

— А гэтых жа, што хочуць, каб наша ўсё было, каб, значыцца, на ногі паставіць Беларусь.

— Га! Чаму ж дзядзька аб тое не спытаўся?

— Ждаў, можа, вы што скажаце. Дый цяпер...— патупіўся ён, — відзіце... свае ж смяюцца.

— Ну, хлопцы жартавалі, на іх няможна крыўдзіцца.

— А ці ж я думаў крыўдзіцца?! Вядома, хлопцы маладыя, ім абы з чаго дурэць. Дый яны не такія, як вы, можа, падумалі... Дружныя хлопцы... З мяне яны смяюцца, але каб вы ім, браце, што сказалі супроць беларусаў... пачулі б што іншае.

— А як на вас глядзяць бальшавікі вашае воласці?

— А хай сабе глядзяць як хочуць, я іх не баюся! Якія там бальшавікі — гора адно. Я добрых бальшавікоў яшчэ не відзеў. А таго п'янага чарнамазага падлу, што з'езд наш разагнаў, каб дзе злавіў, то зараз бы яму каюк зрабіў, хоць душагубства не люблю.

— За што ж такая злосць?

— За тое, браце, што ён біў нашых людзей, дэлегатку біў. Дзяўчына такая, што ён і ў падмёткі ёй не варты, а ён біў яе выспяткам, ботам, таптаў нагамі...

Кузьма ўздыхнуў.

— Як жа так? — паддаў яму ахвоты апавядаць.

— Быў гэта астатні дзень з'езда. Позна ўжо, ноч, а ў нас у тым тэатры ну вось якраз як на Вялікадні ў царкве. Неяк і радасна, і смутна, і хто ведае, што з табою робіцца, хрыстосавацца хочацца з усім народам. Гэта ж не жарты: рэспубліку сваю, Беларусь няшчасную, на ногі ставім, зараз правіцельства народнае выбіраць

будзем... Аж тут і крыкні нехта: бальшавікі прыехалі нас разганяць. Што за ліха, — думаем сабе, — здаецца ж, супроць іх нічога не пастанаўлялі, контррэвалюцыянераў сярод нас няма: усё мужыкі, салдаты, народныя людзі з мужычкоў. Хочам, каб усё пайшло народу, і зямля, й лясы, і ўласць, — за што ж яны разганяць нас будуць? Па-іхняму ж хочам, толькі каб, знацца, без непарадку, без глуму. Мы ж на сваёй зямельцы, а сярод іх — усякія прыблуды, што чужога краю не шчадзяць, без патрэбы нішчаць, вядома, за вайну сабралася іх на фронце розных, не столькі добрых, як нягодных. Не! крычаць: выхадзі! стрэльбамі пагражаюць, прысыпала іх да дзвярэй, як нячыстае сілы. І ўсё народ не нашскі, дзёрзкі, не панімаючы. Крычаць, гоняць, а чарнамазы, начальнік іхны, узлез наўперад і нешта п'янае там бруздзіць. Відаць, што чалавек упіўшыся і не разумеець, куды залез. Не дадзімся, думаем сабе! Загарадзіліся лаўкамі, хатылькамі сваімі харчавымі. Дзе ж там, хіба ж з голымі рукамі абаронішся супроць такой навалы. Віджу я з бліжэйшымі каля сябе, што кінулася гэтае звяр'ё, каб забраць нашых народных людзей. Кінуліся й мы наўперад ратаваць. Аж там цэлая бойка! Схапіліся нашы салдаты з тымі, што з'явіліся разганяць. Тузгаюцца, цягаюцца. Віджу я, што тут жа, дзе прадстаўляюць тэатры, наўперадзе бароніцца тая дэлегатка, бойкая дзяўчына, такія прамовы на з'ездзе казала, што прост за сэрца хапала. Тады падходзіць да яе чарнамазы падла і нешта, пасміхаючыся, ёй кажаць, відаць, зняважлівае нешта для яе. Раптам шчуп яна сабе ў кішэню, выцягнула маленькі чорны левальверчык і наставіла на яго, — аж мае сэрцайка замлела, кляпсь, — асечка. Тады яна тым левальверчыкам як тахнець яго па санках, аж пахіліўся. І што тады ўзнялося там, то й пераказаць мне трудна. Кінуліся салдаты на дзяўчыну і з ім разам. Павалілі, б'юць чым пападзя, прыкладамі, нагамі, за валасы цягаюць. Насілу нашы вырвалі бядпягу з іхных рук. Бараніў трохі і я, не стаяў рукі злажыўшы. Але зараз дастаў сабе такі ўдар у спіну, ці не прыкладам толькі, што думаю: хоць бы жывым ад гэтых бесцій вырвацца. Гляджу, а ўжо вядуць некаторых народных людзей пад канвоем ды на двор. Прапала наша справа, трэба ратавацца, уцякаць. Бягу ў дзверы: стой, кажуць, і ты там біўся? Я, доўга не думаўшы, шмык назад, схапіў на галаву нейчую вялікую чорную папаху, пад нагамі валялася, і йду назад. Стой — крычаць, і ты там біўся? — Не, кажу, таварышы, я не той, я не біўся, той з другімі разам выскачыў у заднія дзверы. Паверылі, не пазналі і пусцілі на вуліцу. А там уздоўж дзвярэй поўна грузавікоў-аўтамабіляў з кулямётамі, з салдатамі, і па вуліцы поўна салдатаў, не разабраць, хто свой, хто не. Тут мяне зलавілі і пагналі з другімі арыштаванымі ў нейкі склеп. Праседзелі мы ноч. Крэпка ўзяло ўсіх за сэрца: вот табе, Беларусь няшчасная! — думаем сабе: біў цябе цар з панамі, а цяпер простыя прыблуды за тое ж узяліся. Не падняцца табе на свае ногі, бедная...

— А цяпер жа дзядзька спадзяецца, што будзе Беларусь?

— Цяпер! Цяпер, браце, уся наша воласць, як адзін, паставіцца грудзямі за яе. Як жа ёй не быць? Не мы, дык нашы дзеці паднімем-ткі яе на свае ногі.

Кузьма змоўк, гэйкнуў на каня і пагнаў яго, як бы хацеў ляцець — захоплены, узварушоны, смелы.

*1922*

# ЛЕАПОЛЬД РОДЗЕВІЧ

Драматург, празаік, паэт, публіцыст, грамадска-рэвалюцыйны дзеяч Заходняй Беларусі Леапольд Родзевіч нарадзіўся 12 чэрвеня 1895 года ў шляхецкай сям'і, якая валодала фальваркам Кур'янаўшчына ў Вілейскім павеце Віленскай губерні (цяпер Лагойскі раён Мінскай вобласці). Скончыў гарадское вучылішча ў Вілейцы (1909), з 1914 года жыў у Вільні, працаваў на фабрыцы, займаўся самаадукацыяй, завочна вучыўся, захапляўся літаратурай, сам пачаў пісаць вершы, апавяданні, краязнаўчыя нарысы, фельетоны, абразкі, якія з 1912 года друкаваліся на старонках «Нашай нівы». Увайшоў у Віленскае асяроддзе беларускіх дзеячаў, удзельнічаў у тэатральных пастаноўках І. Буйніцкага, у Беларускім музычна-драматычным гуртку, акцёрам і рэжысёрам якога быў Ф. Аляхновіч. У сувязі з Першай сусветнай вайной і акупацыяй Вільні кайзераўскімі войскамі вымушаны быў пайсці ў бежанства. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі быў мабілізаваны ў войска, але, перакананы ў бессэнсоўнасці вайны, пакінуў службу і прыехаў у Мінск, затым вярнуўся ў Вільню (1921). Працаваў у рэдакцыях газет «Беларускія ведамасці», «Беларускі звон», «Наша будучыня», дзе друкаваліся многія беларускія пісьменнікі (У. Жылка, М. Гарэцкі, У. Дубоўка і інш.). Л. Родзевіч шмат пісаў і друкаваўся сам. Акрамя апавяданняў, у якіх раскрываў жыццё простых людзей («Падданы», «Гаротнік», «Немач і жыццё», «На вёсцы», «Жабрак»), асуджаў самаўпраўства, прадажнасць чыноўнікаў, імкнуўся хоць неяк спрыяць паляпшэнню становішча народа, садзейнічаць перамозе беларускіх кандыдатаў ад Заходняй Беларусі пры выбарах у польскі Сойм (1922), увайшоў у Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю (БРА), быў ініцыятарам яе ўступлення ў КПЗБ (1923). Стаў членам КПЗБ, абраны сакратаром Гродзенскага падпольнага акругкама КПЗБ і прадстаўніком ЦК КПЗБ пры Камінтэрне. Арыштоўваўся палякамі ў 1923 годзе. Гэтая рэвалюцыйна-грамадская дзейнасць не перашкаджала займацца літаратурай. Л. Родзевіч выдаваў творы беларускіх пісьменнікаў, кіраваў Беларускай драматычнай майстроўняй, пісаў рэцэнзіі, публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, дзе асэнсоўваў шляхі развіцця беларускай літаратуры. Яго працы гэтага часу ахоплівалі шырокае кола праблем беларускай рэчаіснасці, духоўнага жыцця і лёсу Беларусі, творчасці беларускіх дзеячаў і пісьменнікаў («Памяці Івана Луцкевіча», «Слова аб нашым тэатры», «Ахвярую чарадзею



беларускай лірыкі — Янку Купалу», «Міхась Чарот», «Калі беларускі селянін дачакае зямлі», «Пагроза беларускай школе ў Латвіі», «Паход проціў беларускіх паслоў», «Развага аб нашым жыцці», «Слова аб літаратуры», «Акупанты: З жыцця Заходняй Беларусі», «Беларуская прэса ў Польшчы», «Польская каланізацыя на «Усходніх Крэсах» і інш.). У своеасаблівай паэме-сказе «Беларусь» пісьменнік змог выявіць той душэўны настрой, якім жыла беларуская творчая інтэлігенцыя пад уражаннем падзелу Бацькаўшчыны на Заходнюю і Усходнюю часткі, калі спынілася адбудова дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі. «У гразь утоптана ляжыш, зыходзіш кроўю з свежых ран...» На такой драматычнай ноце пачынаецца паэма «Беларусь», але яна прасякнута ўсё ж аптымізмам і верай аўтара ў адраджэнне Бацькаўшчыны. Паэму высока ацэньваў І. Дварчанін, асабліва надзённасць яе праблематыкі і вобразнай сімволікі.

Найбольш талент Л. Родзевіча праявіўся ў драматургіі. Пісаць п'есы, драматычныя абразкі, сцэны ён пачаў з 1912 года: драмы «Блуднікі», «Пакрыўджаныя», драматычны абразок «Марцовы снег». Вядомыя п'есы-жарты Л. Родзевіча «Збянтэжаны Саўка», «Пасланец», «Конскі партрэт», «Багаты і бедны», сцэнічныя абразкі «Кавалі», «На Каляды» і інш. Выйшлі кнігі Л. Родзевіча «Пакрыўджаныя» (1921), «Сцэнічныя творы» (1921), «Беларусь» (вершы, паэма, 1921), «Досвіткі» (1922). Творы Л. Родзевіча былі надзвычай папулярныя ў Заходняй Беларусі, яго п'есы ставіліся прафесійнымі і самадзейнымі тэатрамі.

З 1925 года Л. Родзевіч жыў у Мінску. Працаваў рэдактарам газеты «Чырвоны сцяг», затым часопіса «Бальшавік» (1933–1935), быў членам камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР. Друкаваўся ў часопісах «Чырвоны сейбіт», «Полымя», іншых выданнях. У гэтыя гады ў Мінску выходзяць яго кнігі «На паняволеных гонях» (вершы), «Рэвалюцыйным шляхам. Апавяданні з жыцця Заходняй Беларусі», «Вогнішча барацьбы. Апавяданні з жыцця Заходняй Беларусі».

18 ліпеня 1933 года Л. Родзевіч быў арыштаваны, асуджаны на 5 гадоў і высланы ў Саратаўскую вобласць. Працаваў у лясніцтве. Паўторна арыштаваны ў 1938 годзе. Загінуў у канцлагеры. Дакладная дата смерці невядомая.

* * *

Працуй, Беларусь,
На хвалу для людзей.
Кажы, Беларусь,
Сваю праўду смялей.
Удар, Беларусь,
У вечавы гулкі звон.
Узары, Беларусь,

Свой забыты загон.
Гэй, скінь, Беларусь,
Ярмо цьмы прошлых лет!
Жыві, Беларусь,
Каб жылі: воля, свет!

*[1912–1922]*

* * *

Ты расцеш, як дзень світаннем,
З верай, характвом, пяяннем,
Бо люблю Цябе я.
Што нам ноч і панства пана!..
Наша моц непаканана,
Бо любоў нас грэе.
Для мільёнаў я надзея,
Сонца прада мной бляднее,
Бо люблю Цябе я.

*[1912–1922]*

БУСЛЫ

У садочку пры дарозе,
З часоў даўных на бярозе
Буслы завяліся.

Вельмі было дарагое
Ім сваё гняздо старое —
Навек з ім зжыліся;

Але людзі захацелі,
Каб то буслы пераселі
На другі бок саду;

Для таго слуп укапалі,
Барану прымацавалі,
Розную прыладу.

Але буслы больш цанілі
Гняздо, што дзяды зрабілі, —
На ім засталіся.



Лепш, мілей свая руіна,
Чымся пекная чужына...
Беларус! Свой родны край
На чужыя не мяняй!

*1913*

* * *

Хто душой і шчырым сэрцам,
Хто так родны край кахае!
Пекным чынам, цёплым словам
Хто ў бядзе нас суцяшае?

Хто нас вучыць мовы, песень,
Долі моліць са слязамі,
Беражэ пры першых кроках
І душой заўсёды з намі!

Хто ж, як пчолка, любіць працу,
Чыстату душы і цела!
Хто парадкам дыванамі
Хату здобіць так умела!

Хто прыпевак стварыў столькі!
Хто ёсць гэткі слаўны геній —
Так балесна адчуць жаласць
Пры хаўтурах у галашэнні.

А хто церпіць столькі ліха
Ад бурлівых падзей веку,
Ад таго, што Край забраны
Гіне сярод цемры, здзеку?

Хто надзея, гордасць наша,
Праўды нашай каляіна?
Хто натхніў стварыць верш гэты?
Беларуская жанчына!

*1922*

## МІНІЯЦЮРЫ

### Лён

Нікне ночка, сон,
Зоркі пайшлі ўпрочкі...
Хісткі стройны лён
Раскрыў сіні вочкі.

### На касьбу

З касой вострай, з песняй зычнай
Іду сонца сустракаць.
Пяюць пеўні. Луг расісты —
След далёка мой відаць.

### Меланхолія

Дзень пануры, дзень шэры.
Усё хтось стукае ў дзверы:
— Стук! Стук! — чую раз у раз, —
Гэта лезе благі час.

### Зіма

Там, дзе грэчка красавала,
Тоўстым пластам снег ляжыць;
Дзе зязюля кукавала —
Вые воўк, мароз трашчыць.

### Пэўна што

Каля вольхі віўся хмель,
Абнімаючы камель,
Каб не зімка, не мароз,
Ён бы вольху перарос.



### Юнацтва

Хоць мароз — маланкі ў вочах,
Моц каўшом вясна ліецьь, —
Сэрца радаснае хоча
Песняй розум разагрэць.

### Сінь

І вабіць і суліць надзею
Прасторная сіняя даль.
Іду — не ісці я не смею:
Сініць
        васілёк даль
                і сталь...

## ЯК У КАЗЦЫ
*Апавяданне*

— Ой, браточкі, расказаць вам, дык не і дасцё веры, бо ўсё роўна, як у казцы. Ну і давялося мне пераждыць сёння на кірмашы! — захапляўся Мікіта між сваіх аднасяльчан, вярнуўшыся вечарам з мястэчка.

— Бачым, што перажыў нямала, калі галаву прывёз усю і ў дзірках, усю абматаную.

— Гэта дрэнь, аб гэтым пасля. Важна, што вось уласнымі вушамі чуў Чарвякова, старасту Савецкай Беларусі — на кірмашы да ўсіх прамаўляў.

— Пакінь плявузгаць. Ты, мабыць, хлебануў там лішняга.

— Куды там, даўно ўжываў гэтага зелля, няма за што. Пагана нам, браточкі, жывецца, хай на яго бязгонне, такое жыццё. А вось табе сённяшні дзень здаецца змахнуў усё гора, крыллі вырaслі. І кажу вам: не дзе яно дзенецца, даб'ёмся свайго, ужо мы ім пакажам кузькіну маць, мы іх загонім, дзе Макар цялят ганяе.

— Ды ты, брат, без толку кудлычыш, кажы, каб усім было ясна.

— Во ліхаманка, чуў, кажу, Чарвякова, ды што тут няяснага.

— Да душы, звар'яцеў чалавек.

— Ну дык слухайце, пачну па парадку. Заладзіў я ўсе свае справы, дамоў ехаць яшчэ рана, а дзецца няма куды, дай, думаю, зайду ў царкву, — даўно ўжо там бываў. Стаў сабе тамака ў куточку, паглядаю ўбакі, і ўспомнілася мне, як я тут калісь шлюб браў са сваёй бабай, а там далей і паплылі розныя грэшныя думкі. Ажно гляджу я, што гэта народ без часу выходзіць з царквы, валам верне. Пажар, думаю сабе. Рушыў і я, ды прыслухоўваюся да гутаркі, чую, кажуць, Чарвякоў гаворыць да народа на рынку. Тут я, браткі, локцямі раз-раз, шамятнуўся туды-сюды і шась на рынак. А там ужо народу так набіта, што камар носа не ўточыць. І рабочыя з гуты прываліліі ўсе местачковыя. Народ адзін другога цісне і ўсё ціснецца наперад. Паўзлазілі на вазы, дзяцей пабралі на плечы, там хтось пішчыць, што яго задавяць, аднак не ўцякае, а наперад праціскаецца. Ведама, кожнаму цікава на беларускага старасту паглядзець. А яго нідзе не відаць, але голас добра чуваць. Па-беларуску так табе і жарыць. Ну, я гэтак і пытаю: скажыце, браточкі, а дзе ж ён, як жа гэта яго прапусцілі? Дык мне і тлумачаць: бачыш, вунь на тэлеграфным слупе труба — гэта радыё, вось ён праз паветра і гаворыць у гэтую трубу. А дзе ж ён сам? — пацікавіўся я зноў. У Мінску, кажуць, быццам на з'ездзе Саветаў гаворыць. Во яно як, думаю, але каб што ўцяміць, дык ніяк не магу, бо як гэта, з Мінска ды аж да нас. А тым часам слухаю і лаўлю кожнае слова, не дыхаю — усё каб больш пачуць. А тут народ «ура» крычыць, пляскаюць у далоні, я таксама ім памагаю, хоць гэта і перашкаджае слухаць. Раптам, браткі мае, паліцыя. Піск, гам, скогат, і мяшчанства рассыпалася ва ўсе бакі ды з вугла наглядаюць. А наш брат цясней у круг каля той трубы. Так і рашылі стаяць сцяною, не здавацца і слухаць савецкага голасу. А тут конная паліцыя разагналася ды проста на нас — ударылася, а мы не дрогнулі, ані з месца. Другі раз — тое самае. Праўда, той ці іншы лапае акрываўленую галаву, падняў стаптаную нагу... Дасталося і мне. Тым часам паліцыя ад'ехалася на шагоў сто і наводзіць вінтоўкі, а іхні камандзір крычыць, каб разыходзіліся, бо будуць страляць. А тут і труба ўжо замоўкла. Бачу, зарухаліся нашыя людзі — відаць па ўсім, што разыдуцца. А паліцыя, як толькі згледзела, што ў нас замяшанне, зноў наскочыла і давай хрысціць бізунамі направа і налева ды арыштоўваць. Бачу я, што непярэліўкі — трэба ратаваць Чарвякова, дабяруцца, думаю, і да яго. І я, браткі мае, як белка, сам дзівіўся сваёй лёгкасці, узабраўся на той слуп, хрась, трубу адарваў і наўцёкі. Думаў, прывязу ў вёску і будзем слухаць. Але адабралі, сволачы — добра, што ад арышту яшчэ выкруціўся — уцёк.

— Ну, скажы ж нам, а хто гэта пусціў Чарвякова гаварыць?

— Гэта, брат, нашыя людзі ў гміннай радзе так падстроілі. Гмінная рада, бачыш, устроіла гэтую трубу, а нашыя людзі падкруцілі там нейкую спружынку, каб гаварыў Мінск, а ён з намі гаварыць ахвоч.

***1928***



## П. С. Х.

*Фацэцыя на адну дзею*

### ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Г а с п а д а р.
Г а с п а д ы н я.
Ч ы р в о н а а р м е е ц.
К і т а е ц.
С у с е д.

Сялянская хата. Смешны безлад: напрыклад, на стале ляжыць лапаць, на печы табурэт, вядро на ложку і г. д. З аднаго боку сцэны сядзіць Г а с п а д ы н я і клепле касу альбо сячэ дровы, з другога — Г а с п а д а р, які латае аграмадную дзіру ў нагавіцах і насвістае на матыў якой-небудзь рэвалюцыйнай песні. Якісьці час ідзе мімічная ігра.

Г а с п а д а р. Цьфу! Дзе гэта відана, каб жанаты чалавек латаў сабе нагавіцы.

Г а с п а д ы н я. Ох, дзе гэта відана, каб замужняя жанчына секла дровы штодня.

Г а с п а д а р. А зусім зразумела. Не сяку дроў, бо не маю часу — мушу латаць нагавіцы, мушу рабіць тваю работу.

Г а с п а д ы н я. Брэшаш, гэта я раблю і тваю і сваю работу, а ты толькі бадзяешся па сходках ды дурыш людзей. Падумаеш, у партыю запісаўся! Арацер! Камуністы! Цьфу! Пустадомак ты, а не гаспадар! Паглядзі, да чаго ты хату давёў: як пасля пажару. Ужо хай бы валачыўся па чужых кутах, валакіта паджары, дык не: навёў груганнія, а тыя ўсё ўверх дном паставілі. *(Парадкуе ў хаце.)*

Г а с п а д а р. Ай, ёй! У калена ўкалоў. Сціхні ты, хай цябе люндар свісне — заслухаўся і ўкалоў. Вельмі ўжо складна язык твой завіхаецца. Глядзі, каб ён цябе на камісара не выкіраваў.

Г а с п а д ы н я. Гэта ты дамагаешся такой чэсці, а ў мяне камісар і атопка не варты.

Г а с п а д а р. Ой, не разганяйся вельмі. Цябе, таварыш жонка, як відаць, буржуйскае натхненне апанавала.

Г а с п а д ы н я. Ты свае настаўленні сабе на снеданне пакінь, бо мне ад іх толькі духі падводзіць.

Г а с п а д а р. Вось я табе і кажу, што гэтыя паскудныя буржуйскія духі лепш выпусці, бо я як партыйны не пацярплю, каб...

Г а с п а д ы н я. Ах, каб ты затануў, во чаго дачакалася. Прыйшоў гэта ў маю хату прымаком, прыйшоў, як кажуць, на ўсё гатовенькае, усё змарнаваў, усё праеў...

Г а с п а д а р. Брэшаш, не ўсё праеў... было так, што і прапіў.

Г а с п а д ы н я. Нават пад бок няма чаго падлажыць...

Г а с п а д а р. І добра: не будзеш доўга спаць.

Г а с п а д ы н я. У хаце пуста, і аруды пустыя...

Г а с п а д а р. Дужа добра. На выпадак пажару меншая страта будзе.

Г а с п а д ы н я. Вельмі ўжо ты разумны, як абора ад лапця.

Г а с п а д а р. Ды я табе паказаў бы свой розум, але ты яго не патрафіш убачыць.

Г а с п а д ы н я. Ну ўжо і розум — з хлеба гузікі рабіць.

Г а с п а д а р. Ану давай падужаемся. Вось скажы ты мне, сарока-белабока, што такое калакціў?

Г а с п а д ы н я. Дурань ты!

Г а с п а д а р. У дурня ўсё дурное. Слухай жа: калакціў — гэта такая машына, зробленая з людзей. І калі яе пусціць у равок, рэвалюцыйны, значыць, камітэт, дык яна наробіць такі тарарах, што ажно ўвесь свет вушы падыме...

Г а с п а д ы н я. І калі ва ўсім свеце будзе такі парадак, як у нас у хаце, і калі ў жываце кожнага будзе вурчэць ад голаду, як у мяне, дык гэта будзе не свет, а пекла.

Г а с п а д а р. Калакціў што хочаш зробіць: з неба пекла і з пекла неба. Праз яго мы, паднявольныя, працоўныя, загаспадарым на ўсім свеце, запануем над панамі і дазволім сабе аддыхнуць, бо ўжо годзі напрацаваліся. Вось як!



Г а с п а д ы н я. Нос лепш свой вытры ды навучыся перш быць гаспадаром у сваёй хаце, а пасля думай аб усім свеце.

Г а с п а д а р. Не я гаспадар, увесь народ гаспадар, бо я што — гузік. Ды ў мяне нічога свайго няма. Хата, жонка, душа і нават люлька не мая, а ўсіх, агульная. Цяміш, сарока-белабока? Ёсць такі таварыш Пардон*, дык ён кажа, што ўласнасць — гэта кража.

Г а с п а д ы н я. Вось пачуў ад нейкага галадранца і чаўпець, як у пустую бочку.

Г а с п а д а р. Вось жа! У галадранца найчасцей бывае голая праўда.

Г а с п а д ы н я. Ох, каб я ведала, што ты пераварнешся ў камуністу, дык лепш бы галавой у прорубку кінулася, чым за цябе замуж выходзіць.

Г а с п а д а р. Каб я ведаў, што ты абуржуішся, дык аб'ехаў бы цябе, як дзірку ў мосце. І зачашы сабе на носе, што калі мы збудуем камуністычны рай, дык цябе, паганае зелле, і на вярсту не падпушчу.

Г а с п а д ы н я. У ваш рай толькі здохлых катоў кідаць.

Г а с п а д а р. Вось каб ты была так разумная, як дурная, дык я крыху мог бы падурнець і далей з табой пагутарыць. А так няма аб чым, бо ты — калода трухлявая.

Г а с п а д ы н я *(плачучы).* Я ведаю, што я табе не жонка, а калода. О, доля мая! І смертухны на мяне няма. Думала, дзетачак дачакаю, жонкай і гаспадыняй буду, а тут на табе — калода, наймітка...

Г а с п а д а р. Маніш. Найміткай я цябе не абзываў, бо і па дакрэту найміты не палагаюцца.

Г а с п а д ы н я. Усе суседзі жывуць, як людзі, а мы, як на папасе, — проста рукі ападаюць. Ох, няма ў цябе нічога святога. Поўзаеш ты, як крот, точышся, куды не трэба, як жук. Ты толькі падумай: ці ж мы на тое будавалі гэтую хатачку, каб у ёй панаваў безлад і папасвалася розная нечысць. Верабей і той будуе сабе гняздзечка, бароніцца і дзетак гадуе, а тут... сэрца толькі крывёй абліваецца.

Г а с п а д а р. Гэта ўсё на праўду як бы і падобна, але калі, бачыш, ужо час такі: беспартыйнаму, хоць трэсні, аніяк няможна быць. Трэба альбо туды, альбо сюды.

Г а с п а д ы н я. А ты і не туды, і не сюды, а будзь тут, тутэйшы, і пільнуй сваёй хаты.

---

* Прудон.

Г а с п а д а р. Яно-то справядліва, але цемната наша вельмі ўжо надакучыла. Хочацца выбіцца ў людзі. Свет, бачыш, не толькі ў акне, але і за акном ёсць.

Г а с п а д ы н я. Калі сам сабе цаны не знаеш, дык людзі цябе не ацэняць.

Г а с п а д а р. Былі б залатыя твае словы, але ты іх так мочыш слязьмі, што выходзіць адна гразь. Вось пакінь лепш плакаць. Давай папалуднуем — мо я і палепшаю.

Г а с п а д ы н я *(дае есці)*. А ўжо дабраты ад цябе не дачакаешся — добра, каб ты хоць паразумнеў крыху.

Г а с п а д а р *(есць)*. Ты толькі не плач — усё будзе добра. І хата не перакуліцца, і дзяцей як бобу будзе, і пойдзе спор і прыбытак.

Гаспадыня голасна уздыхае.

Што так жаласна ўздыхаеш?

Г а с п а д ы н я. Цяжка мне, што няма ў нас гаспадарскага жыцця: ніколі ты не абнімеш, не пакахаеш мяне.

Г а с п а д а р. Дай во заціркі пад'есці, дык і пакахаю.

Г а с п а д ы н я. Ну дык і я табе памагу, каб хутчэй. *(Есць зацірку.)*

Г а с п а д а р. Спраўлюся я і адзін... Паможаш ты мне, як кашаль хваробе...

Маўчанка.

Г а с п а д ы н я. Ці ты чуў, што Тамашыха рассыпалася? Дзяўчынка — як анёлачак.

Г а с п а д а р. А ты мне глядзі, каб хлапцоў.

Г а с п а д ы н я. Гэта ўжо прасі бусла.

Г а с п а д а р. Каб хлапцоў і каб па двое. *(Ушчыпнуў гаспадыню.)*

Гаспадыня ойкае і рагоча.

І каб па мне пайшлі...

Якісьці час жартуюць. Стукат у акно.

Г о л а с  с у с е д а. На сходку! На сходку!

Г а с п а д а р. *(кідае есці)*. Ужо! Ужо іду! *(Бяжыць, завіхаючыся, але гаспадыня ловіць яго за падалы.)*

Г а с п а д ы н я *(крычыць)*. Гвалту! Каравул! Замучыць ён мяне, заб'е, загубіць!..



Убягае  с у с е д.

С у с е д *(да гаспадара)*. За што ты яе б'еш? Шэльма ты! Чым яна табе правінілася?

Г а с п а д ы н я. А табе, дабрадзею, што за інтарэс? А можа, я сама хачу, каб ён мяне біў!

С у с е д *(адступаючы)*. Ды мне што — вось пачуў гвалт, дык і прыйшоў.

Гаспадар выбягае.

Г а с п а д ы н я. І сам прыйшоў гвалтаваць?.. Што гэта, па-твойму, муж не мае права біць сваёй жонкі?! Апякун які вырваўся, як Піліп з канапель. Можаш сабе выходзіць з чым прыйшоў, ды жывей, каб твайго смуроду не было, бо зараз чапялой...

С у с е д *(уцякаючы)*. Вось ведзьма кіеўская!

Г а с п а д ы н я *(адна)*. Гэта мужыкі называюцца! Адзін уцякае ад жонкі з хаты, а другі не дазваляе жонку біць. Цьфу! Вось і жыві цяперашнім светам. І што мне рабіць, беднай галаваньцы? Ізноў адна ў хаце. Хоць ты ў пятлю лезь... Ох, як гэта цяжка, калі муж ёсць і ён не муж, а валакіта. Былі тыя, паны, дык глядзеў, рукі сашчапіўшы, як яны ўсю дамову глумілі, поўзалі на ўслужэнні, прадаваўся за тры грошы... А цяпер з гэтымі камуністымі заюрыў, на партыю захварэў, зыкуе па сходках... Ну, але я не буду, калі табе гэта не адкінецца.

Убягае  ч ы р в о н а а р м е е ц, за ім  к і т а е ц. У абодвух нашытыя зоркі на шапках і рэвальверы напагатове.

Ч ы р в о н а а р м е е ц *(акцэнтуе па-маскоўску)*. Руки вверх!

Г а с п а д ы н я. Дык у нас няма нічога... Было калісь, але...

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Бандиты?

Г а с п а д ы н я. Ведаю, што вы бандыты, толькі ж я кажу, што нічога няма. Жыццё мілей — усё б аддала.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Молчать! Где контрреволюционеры?

Г а с п а д ы н я. Як?

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Чаво?

Г а с п а д ы н я. Як, пытаю.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Буржуев здеси нетути?

Г а с п а д ы н я. Буржуяў, кажаце... Гм... буржуяў... дзе тут бы выдлубаць буржуя... У вёсцы дык няма... А тут, гм... Ча-

кайце! Ёсць! Вось у гэтай хаце жыве! Страшэнна буржуяваты, боўдзіла.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Живет? Подать его сюда!

Г а с п а д ы н я. Ды дзе ты яго цяпер зловіш. Прыйдзе сам, дзе ён дзенецца. Але гэткі, ці ведаеце, закаранелы буржуй, што мне проста ад яго жыцця няма. Добра, што вы прыйшлі. Сядайце, калі ласка. Я вас не пазнала з перапуду — прыйдзецца падкурываць. Сядайце. Буржуй страшэнны — мой муж. Ён грaзіць цэламу свету — машыну нейкую выдумаў,— хітра так называецца...

Ч ы р в о н а а р м е е ц *(да кітайца).* Слыхал?.. Машину... Будет жарко...

Кітаец замычаў.

Г а с п а д ы н я. І гэтай машынай хоча ўвесь свет пад сваю ўладу закаціць. Да душы, праўда. Надоечы мне хваліўся — як жонцы, дык ён аб усім хваліцца.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. А где он теперича буржуйничает?

Г а с п а д ы н я. Паляруш яго ведае, дзе ён... Мо гэтую машыну пускае ў ход... Толькі вы не звяртайце на яго ўвагі, калі будзе хваліцца, быццам ён камуністы. Хавай Божа, ён ім ніколі не быў і не будзе. Трэба толькі добра яго пужануць бізуном ці чым іншым — у момант прызнаецца. Я ўжо яго натуру знаю.

Ч ы р в о н а а р м е е ц *(трасе нагайкай).* Не извольте беспокоиться, товарищ, мы яго приведем в христианство. Слушай ты, попугай китайский, ежели он будет сопротивление оказывать, так стегай его поразмашистей. Понял?

К і т а е ц. Дау, туарышч.

Г а с п а д ы н я *(глядзіць на кітайца, падпёршы галаву рукой).* Божа моцны, якіх гэта толькі стварэнняў няма на свеце! Вось паставіць бы яго на ворыва замест пугала. *(Да кітайца.)* Скажы, ці гэта твой народ есць людзей? Ай, ай... не падходзь... стой... баюся... Згінь ты, прападзі!..

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ха-ха-ха? Боишься смерти, голубушка? Ну, красавица, пока суд да дело, попотчуй-ка нас чеперича чайком.

Г а с п а д ы н я. Нічога, галубочкі, не маю: ні хлеба, ні да хлеба.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Да-а... Дело, значит, лафа... А знаешь, курносая, ты мне больно ндравишься.

Г а с п а д ы н я. Не ведаю. Не цямлю.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. То есть как так «не цямлю»?



Г а с п а д ы н я. А так, што каб вас уцяміць, дык трэба бочку жалезнага бобу з’есці.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Да-а... А меня поцелуешь, жисть ты моя?

Г а с п а д ы н я. Ну так ужо зразу і цалавацца.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ну, а какое такое тебе удовольствие составить, чтобы расположение иметь?

Г а с п а д ы н я. А вось трэба паставіць моцную гарэлку і палажыць смачную закуску, дык тады і пагутарыць весялей будзе. Тады гэтае вашае распалажэнне і састаўленне будзе.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ха-ха-ха!.. Эх ты, моя разлапушка! Ну, раскосый, замечаешь бабу-то? Как тебе?

К і т а е ц *(цмокае ў пальцы).* Цк, туарышч!

Ч ы р в о н а а р м е е ц. То-то, оно-то! А если бы у тебя не были раскосые глаза, так ты бы еще больше толк взял в этой разлапушке. Ну, так валяй к подводе и тащи... Понял? И чтобы без промедления обратно возвратился.

К і т а е ц. Дау, туарышч! *(Выходзіць.)*

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ну, а ты песни играть-то умеешь?

Г а с п а д ы н я. А як калі давядзецца.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Черт! Вот уж ни бельмеса не понимаю. Скажи, пожалуйста, это ты польским изречением разговоры разговариваешь?

Г а с п а д ы н я. Ды куды там — па-польску інакш.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ану, жарни по-польски-то.

Г а с п а д ы н я. Пся крэв, прошэн пана...

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ха-ха-ха!.. Очень мудрено. А вот каким языком ты изъясняешься?

Г а с п а д ы н я. Якім... па-беларуску.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Какой такой белорусский?

Г а с п а д ы н я. Па-беларуску, ну, па-тутэйшаму.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ха-ха-ха!.. Чудно, ей-богу! Долго странствовал, многих видывал, но таких, так сказать, переплетов не слыхивал, ей-богу.

Кітаец уносіць выпіўку і закуску.

Ура, китайский попугай!

Гаспадыня падае чарку.

Итак, начнем трапезу. Выпьем за расположение и составление, ха-ха-ха... *(Выпіваюць. Чырвонаармеец заспяваў.)*

Сидит Ванька на заборе
С выражением во взоре.

Г а с п а д а р *(уваходзіць).* Го-го! А гэта што за баль?
Г а с п а д ы н я. Вось ён...
Ч ы р в о н а а р м е е ц. А ты кто будешь? Ты хозяин?
Г а с п а д а р. Гм. Калі што добрага, дык я.
Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ты, голубчик, поддерживай свое словоизлияние и отвечай на самую-то суть относительно касательного факта.
Г а с п а д а р. Які хвакт? Адкуль ён?
Ч ы р в о н а а р м е е ц. Опять своротил на окольную... Говори: ты буржуй?

Гаспадыня выйшла.

Г а с п а д а р. Ха-ха-ха!.. Я — буржуй, ха-ха-ха!.. Ну і смехатун!
Ч ы р в о н а а р м е е ц. Чево «смехатун»? Буржуй, спрашиваю?
Г а с п а д а р. Што-о? Ты, таварыш, не лайся, бо я, таварыш, таксама таварыш. Я нават таварыш самага важнага тут, у вёсцы, таварыш... Змалку з ім грушкі кралі, свіней пасвілі...
Ч ы р в о н а а р м е е ц. Нет, голубчик, не ускользнешь — мы тоже знаем, что ты знаешь. *(Да кітайца.)* Ану, вяжи его, да покрепче!
Г а с п а д а р. Як, мяне, гаспадара... за што? Нашто?
Ч ы р в о н а а р м е е ц. Говори: ты — буржуй?
Г а с п а д а р. Хавай Божа, ніколі ім не быў. Стойце, чаго вы прысталі... Які я буржуй... Вось нядаўна латаў сабе лату ды зацірку хлябаў.
Ч ы р в о н а а р м е е ц *(да кітайца).* Зашпандоривай ему в задние обстоятельства.

Кітаец б’е гаспадара.

Г а с п а д а р. Ай, ай, стойце! Што гэта вы, таварышы, пашалелі, ці што? На якога чорта здалася вам мая скура? Па дэкрэту не палагаецца біць.
Ч ы р в о н а а р м е е ц. Сознавайся, аль еще мало всыпали?
Г а с п а д а р. Цьфу, напасць! Калі вам так трэба, каб я быў буржуй, дык хай сабе буржуй. У мяне ўжо розум за розум заходзіць. Мо я і сам не заўважыў, як зрабіўся буржуем...



Ч ы р в о н а а р м е е ц. И динамо-машиной обладаешь?
Г а с п а д а р. Ці чуў?! А-я-я...
Ч ы р в о н а а р м е е ц. И всему пролетариату угрожаешь?
Г а с п а д а р. Во як? Няўжо?
Ч ы р в о н а а р м е е ц. Сознайся, мразь африканская!
Г а с п а д а р. Чакай, дай успомніць, нешта мне гэта не ў памяці.
Ч ы р в о н а а р м е е ц. Эй, раскосый, дай ему на память-то!
Г а с п а д а р. Ай, ай... Ужо, ужо ўспомніў: угражаю, усяму пралетарыяту ўгражаю, як ёсць. Цьфу! Ну і папаўся, як таракан у саладуху.
Ч ы р в о н а а р м е е ц. Ставь, раскосый, буржуя к стенке. Расстреляем собаку. *(Бяруць на прыцэл.)*
Г а с п а д а р. А браточкі, а даражэнькія... за што, за якое?.. Я ўжо ўсё, што вы хочаце... Я ўжо нічога, нікому, ніколі, ніякага... Каравул! Ратуйце!
Г а с п а д ы н я *(убягае).* Таварышы, таварышы! Уцякайце — паўстанцы! Паўстанцы з лесу выходзяць і проста на вёску валяць.

Чырвонаармеец і кітаец рупна ўцякаюць.

Ха-ха-ха!.. Вось ашукала. Цяпер іх каменем не дагоніш і сабакамі не зловіш.
Г а с п а д а р. Ох, дзякуй табе, мая ты збавіцелька! Яшчэ момант — і мяне не стала б.
Г а с п а д ы н я. Вось, бачыш, я да цябе заўсягды з дабром, заўсягды шкадуючы, а падзякі ад цябе як няма, так і няма.
Г а с п а д а р. Як жа я табе падзякую — бачыш, рукі і ногі звязаны. Вось развяжы мяне, мая шчабятушка-весялушка.
Г а с п а д ы н я. А за што гэта яны цябе так спавілі?
Г а с п а д а р. Ах, глупства. Ну, ведама, партыйныя справы: я сваё, а яны сваё, далей — болей, і мяне чуць не замучылі. Ох, напужалі...
Г а с п а д ы н я. Горш яшчэ будзе, калі не будзеш жонкі слухаць.
Г а с п а д а р. Ой, развяжы...
Г а с п а д ы н я. Няма мне часу. Ты тут паляжы, аддыхні, папільнуй хату, а я тым часам пайду на сходку курэй ды парасят.
Г а с п а д а р. Жоначка, развяжы...
Г а с п а д ы н я. Паспееш з козамі на торг. *(Выйшла.)*

Г а с п а д а р *(злосна).* Жонка! Жонка! Ці я табе болей не гаспадар? Га? Развяжы, кажу! Чуеш, бо дрэнна будзе. Гэй, хто там жывы, выручайце! *(Маўчанка.)* Ах, хварэць вашай галаве! Што гэта вам я на смех радзіўся?.. Калі ж так, дык вам давяду, што я не лыкам шыты! *(Рве вяроўкі.)* К чорту вашыя путы! Вось як! Калі сам сабе не паможаш, дык ніхто табе не паможа. Ну, дрыжы, вораг! Вррр!.. Я, пабіты, абакрадзены, аблаяны, завурчэў са свайго логава, з хатачкі маёй апушчанай, пакрыўджанай... Ух, задам такога пытлю, што... *(Чапляецца за венік.)* А ты што, таксама ў іх хэўру запісаўся? *(Ломіць, топча.)* Вось табе, во, знай свайго гаспадара! Чакайце, спраўлю я вам усім такую балёўку, што ўнукі будуць помніць! Пачну ад жонкі. Дзе жонка? Жонка! *(Выбягае.)*

Г а с п а д ы н я *(убягае; чуваць крык гаспадара, які пагражае гаспадыні і кліча яе).* Ловіць мяне, шукае... Прапала я цяпер, заб'е, загінула...

Г а с п а д а р *(убягае з сукам).* Ага! Вось дзе я цябе прыпасціў...

Г а с п а д ы н я. Ціха, ссс... Яны...

Г а с п а д а р *(перапужаны).* Яны... як... сюды, ізноў... дзе яны? *(Выпускае сук, ногі трасуцца, язык заплятаецца.)* Дзе б мне схавацца, во напасць... Праклятры дзень... *(Торкаецца ўсюды, каб схавацца, урэшце хаваецца пад ложак ці пад прыпечак.)*

Г а с п а д ы н я. Ціха, ужо, здаецца, прайшлі, абмінулі... Вылазь!

Г а с п а д а р. Не, я ўжо, каб бяду абмінуць, лепш пасяджу тут.

Г а с п а д ы н я. Кажу табе, што прамінулі. Вылазь! Маеш для смеласці выпіць чарку.

Г а с п а д а р *(вылазіць са сваёй схованкі і выпівае чарку).* Яшчэ, котачка!

Г а с п а д ы н я. Маеш.

Г а с п а д а р. Яшчэ, рыбачка!

Г а с п а д ы н я. Пі, толькі не пужайся.

Г а с п а д а р. Яшчэ, ягадка!

Г а с п а д ы н я. А ці не хопіць ужо?

Г а с п а д а р. Яшчэ, яшчэ...

Г а с п а д ы н я. Не перабірай меркі.

Г а с п а д а р. Эх, жоначка, бачу я, што ты ў мяне міністр, ты — мучаніца, а я — цьфу, ды нагой расцерці... *(Слязліва.)* Ох, немарасць мучыць мяне. Да чаго я дажыў... Што са мной сталася... Сорам на свет паказацца.



Г а с п а д ы н я. Глупства, не маркоцься. Нагавіцы я сама падлатаю, а як вытку тканіну...

Г а с п а д а р. Ды не тое... Душу мне трэба латаць, душа мая дзіравая... У пазыкі яе аддаваў. Знасілі, абкаравілі яе... Ты думаеш, што гэта слёзы з маіх вачэй цякуць?.. Гэта жаль цячэ, боль цячэ...

Г а с п а д ы н я. А ты думаеш, мне лёгка... *(Хныча.)*

Г а с п а д а р *(зглядзеўшы вядро на ложку).* Во, гэта ўсё атрута для мяне... Вочы мае адкрыліся на праўду... Стаіш ты, ложак пакінуты, забыты, як човен, дзіравы ў затоцы, а рака жыцця майго бяжыць міма цябе, міма... Ох, замест зіркатых дываноў і пухавых падушак я бачу — чорт яго ведае, што я бачу! Замест гарачых шэптаў, рыпаў-скрыпаў, охаў-уздохаў стаіць на табе вядро вады. Дзе гэта відана? А ўсё я вінаваты, я ўвёў у хату свайго прыяцеля — безлад. Эх, заслужаны, выгадны ложак мой, даруй ты мне! *(Валіцца на ложак і камічна ўсхліпвае.)*

Г а с п а д ы н я *(здымае вядро).* Ну, сціхні, я ўжо ўпарадкую.

Гаспадар сціхае, пэўны час маўчанка, потым ён пачынае смяяцца.

Чаго там гагочаш?

Г а с п а д а р. Мне смешна. Ха-ха-ха...

Г а с п а д ы н я. Чаго табе смешна?

Г а с п а д а р. Што я дурны.

Г а с п а д ы н я. Во гэта, хоць дурны, але праўду сказаў.

Г а с п а д а р. Ведаеш, стрэльнула ў галаву вельмі цікавая думка, але так трэснула, што аж зашчакатала.

Г а с п а д ы н я. Што такое стрэльнула?

Г а с п а д а р *(смяецца).* Ну, як да гэтага я перш не дагадаўся! Такая звычайная рэч і такая моцная праўда. Хадзіў каля гэтага, шчупаў, бачыў і не разумеў. Вось дурны!

Г а с п а д ы н я. Аб чым гэта ты ўсё чаўпеш?

Г а с п а д а р. Слухай. Мы, гэта значыць ты і я, бульбаеды і дамаседы, закладваем сваю партыю. І ведаеш, як яе назавём?

Г а с п а д ы н я. Ну?

Г а с п а д а р. Не «ну», а «Пільнуй сваю хату».

Г а с п а д ы н я. Цьфу! Амерыку адкрыў. Я табе даўно аб гэтым казала.

Г а с п а д а р. Не, ты сціхні... ты паслухай. Ты казала, а я зраблю... Я давяду, дзе праўда... *(Узлазіць на зэдлік; тонам казальніка.)* Грамадзяне! Час грамадзіцца! Бо што зробіш сягоння, таго ўжо заўтра не асіліш. Ратуйце свае хаты, у якіх

стрэхі захварэлі на воспу, вокны — на слепату, пад печкай, бо нячыстая моц хатай камандуе. Грамадзяне, запісвайцеся ў партыю «Пільнуй сваю хату!» Памятайце, што ў аб'яднанні — моц, а ў моцы — шчасце, бо хто дуж, таму мора па калена. Гэтая партыя бароніць хату ад усялякіх такіх чыкаў-брыкаў. Яна дае гаспадару тое, што гаспадар сам возьме, бо даведзена ўжо, што абяцанка — цацанка, а дурному радасць. Апрыч таго, яна дае, ну, вы разумееце, што яна — гэта тое... ну і ўсё такое. Верце мне, я — стары верабей! Перапрабаваў я ўсе партыі: справа налева і злева направа. Тыя мне папсавалі ўсю скуру, як сабаку таго, клікалі рознымі найменнямі, абдзёрлі, як ліпку...

Г а с п а д ы н я *(плачучы).* Апошнюю кароўку забралі, пяць хунтаў воўны ўкралі, нізкі сушаных баравікоў...

Г а с п а д а р. Але, але... А гэтыя... падаць мне іх сюды... чуць капут не зрабілі. Дык я і кажу, што гэтая партыя П.С.Х. найлепш нам пасуе. Не кажучы аб іншых выгадах, тут табе нават і жонка ёсць. У якой партыі вы гэта знойдзеце? Праўда, жонка? *(Абдымае гаспадыню.)*

Г а с п а д ы н я. Праўда, міленькі, праўда!..

Г а с п а д а р. Дык чаго ты плачаш?

Г а с п а д ы н я. Калі ж ты ўжо вельмі жаласна, вельмі хораша гаворыш.

Г а с п а д а р *(выпівае чарку і зноў прымае тон казальніка).* І хай толькі цяпер хто ткне нос у нашы хатнія крэнту-мэнту, дык з тым вось як! *(Разбівае чарку аб падлогу.)* Хай красуе гаспадар на покуце сваёй хаты!

Г а с п а д ы н я. Хай красуюць і ручаць хатнія справы!

Р а з а м. Хай жыве партыя «Пільнуй сваю хату»!

З а с л о н а.

*1923*

# ІГНАТ ДВАРЧАНІН

Паэт, літаратуразнавец, доктар філасофіі, удзельнік заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху Ігнат Дварчанін нарадзіўся 27 мая (8 красавіка) 1895 года ў вёсцы Погіры Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён Гродзенскай вобласці) у сям'і арандатара. Скончыў Дзятлаўскую школу вышэйшай ступені і атрымаў дыплом народнага настаўніка. Тры гады (1912–1915) настаўнічаў у в. Хмельніца на Слонімшчыне. У 1915 годзе быў мабілізаваны ў войска, скончыў школу прапаршчыкаў, ваяваў на фронце (1915–1916), служыў у запасным палку ў Маскве. З 1917 года жыў у Мінску, актыўна ўключыўся ў грамадска-палітычную дзейнасць, стаў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, удзельнікам яе з'езда (кастрычнік 1917), дзе пазнаёміўся з Б. Тарашкевічам, іншымі дзеячамі беларускага нацыянальнага руху. Быў адным з арганізатараў Усебеларускага з'езда (снежань 1917), прымаў удзел у рабоце Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. У 1918 годзе па прапанове камісара Беларускага нацыянальнага камітэта ў Маскве А. Чарвякова працаваў у культурна-асветным аддзеле Белнацкама. У гэтым жа годзе вярнуўся ў Беларусь. Вёў практычную асветніцкую работу, адкрываў беларускія школы, аддаючы вялікую ўвагу навучанню там беларускай мове, літаратуры, гісторыі.

Калі Заходняя Беларусь апынулася пад польскім панаваннем, І. Дварчанін за беларускую дзейнасць быў арыштаваны польскімі ўладамі, але даволі хутка вырваўся з беластоцкага канцлагера. У Вільні здаў экстэрнам экзамены за курс Віленскай беларускай гімназіі. Чытаў лекцыі па беларусазнаўстве ў культурна-асветных гуртках і настаўніцкіх курсах Латвіі. Для паглыблення сваёй адукацыі паехаў у Прагу, дзе вучыўся ў Карлавым універсітэце (1921–1925), які скончыў са ступенню доктара філасофіі. Вярнуўшыся ў 1926 годзе ў Вільню, выкладаў беларускую літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі. Уваходзіў у Галоўную ўправу Таварыства беларускай школы (1926–1930). У 1928 годзе выбраны паслом у Сойм Польскай Рэспублікі. Разам з іншымі пасламі стварыў у Сойме самастойную фракцыю — беларускі рабоча-сялянскі клуб «Змаганне». Быў сакратаром Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні. У 1930 годзе арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 8 год турмы.

У 1932 годзе ў выніку абмену палітвязнямі паміж СССР і Польшчай прыехаў у Мінск. Працаваў у АН БССР у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі.

Першыя вершы апублікаваў у 1917 г. (газеты «Беларуская рада», «Вольная Беларусь»). З паэтычнымі творамі выступаў у газетах і часопісах «Дзянніца», «Наша думка», «Беларускі звон», «Маладое жыццё», «Перавясла», «Маланка», «Наш шлях», «Прамень», «Студэнцкая думка» і інш. Выступаў і як публіцыст. Напісаў і абараніў дысертацыю, прысвечаную дзейнасці і светапогляду Ф. Скарыны. Склаў «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 года). Для старэйшых класаў беларускіх сярэдніх школ» (Вільня, 1927).

Спакойна жыць і працаваць у Савецкай Беларусі актыўнаму дзеячу беларускага нацыянальнага адраджэння І. Дварчаніну не далі органы НКУС. У 1933 годзе ён быў арыштаваны і нібыта «за сувязь з буржуазнай Польшчай і з Беларускім нацыянальным цэнтрам» высланы на 10 гадоў у Салаўкі. А 8 снежня 1937 года яго расстралялі як «ворага народа». Было тады І. Дварчаніну 42 гады.

## ПОКЛІЧ

Каля нас бушуе мора,
Хвалі хлешчуць цераз край:
Разам усё заварушылась
І крычыць: маё мне дай!

Украіна стала вольнай.
Кажа фін: я аддзялюсь,
Мне не трэба больш апекі,
Я й без руса абайдусь.

Польшч даўно ўжо адлучылась.
Адхіснулася, ўцякла,
Ўспамінаючы пра тое,
Пад Масквою як жыла.

Латышы, літоўцы, эсты,
Як бы там ні мала іх,
А і тыя закрычалі:
«Будзем жыць мы без чужых».

Але мора так бушуе,
Так хвалюецца, шуміць,



А нас быццам не чапае;
Ўсё маўчыць, і ціш стаіць.

Беларусь наша святая
Чагось думае, маўчыць,
Нібы спіць сабе ці дбае,
І не просіць, не крычыць.

Ты маўчыш, мая старонка,
Чаму ж так? Скажы ты мне,
Чаго жджэш? Здаецца, сонца
Засвяціла у акне.

Ці ў цябе няма раднога
Або прошласці няма,
Што не хочаш ты нічога,
Мая родна старана?

Не, дасюль цябе, здаецца,
Не пакрыўдзіў Бог саўсім:
Ёсць свая культура, мова, —
Пахваліцца ёсць нам чым!

Але, будучы ва ўціску
У сваіх братоў радных,
Ты сваё усё забыла,
Стала наймітам у іх.

І цяпер, як рух падняўся,
Як стаяць ўсе на сваём,
Ты адна ўсё спіш, старонка,
Летаргічным моцным сном.

Дык прасніся, мая маці,
Паглядзі каля сябе, —
Зноў цябе пакрыўдзяць людзі,
Зноў пакінуць у бядзе.

Загукай усім ты моцна,
Што жывеш на свеце ты,
Што й табе прыйшла свабода,
Што не хочаш крыўды ты.

Пад свой сцяг чырвона-белы
Пасклікай усіх сыноў,
Параскіданых па свеце,
Каб вярталіся дамоў.

Мае сябры-беларусы,
Адгукніцеся, браткі:
На пазоў сваёй матулі
Сабірайцеся ў гурткі!

Пад яе сышоўшысь сцягам,
Будзем з горам ваяваць,
Будзем дома працаваці,
Сваю хату будаваць!

*1917*

## БЕЗРАБОТНЫ

Э, невясёлыя весці!
Зноў мне сказалі там: не!
Есці мне хочацца, есці...
Божа! дай есці ты мне!

Хто мяне гнаў сюды ў горад?
Дзесь малаціў бы ў гумне, —
Еў бы, не знаў бы, што голад...
Есці, ах, хочацца мне!

Вось магазын повен хлеба
Там на паліцах, акне...
Смачны такі, белы... Неба...
Хоць бы чуць, хоць скарыначку мне.

Цьфу, дзе іду? Не дадуць жа,
То не для нас, бедакоў, —
Стой ... а куды ж холад, сцюжа,
Божа, я ўпасці гатоў.

Далей... ад хаты... Дзе хата?
Ну, за другімі... Бог мой,



Пах нейкі з сала... Як часта
Лезе у ноздры, у кроў...

Цёмна... нічога не знаю...
Стой жа, а дзе гэта я?
Я на беразе, саменькім краю,
Мост вунь, дарожка... Вілля.

*1921*

## ЛЯ МОРА

Мора шырокае, чорнае мора,
Хвалі нясуцца адна за другой.
Там разбіваюцца з трэскам аб горы —
Рэха ж ідзе па пустыні глухой.

Эх, я адзін. Ні душы чалавечай
Тут навакола нідзе не відно...
Толькі над дзікай, бурлівай галечай
Кнігі сваё ўсё скрыгочуць адно.

Човен прывязаны моцна на моле,
З жахам гляджу я. Агортвае жаль.
Кроў жа іграе. Ірвецца да волі,
Рвецца да мора... ў бурлівую даль.

Досыць развагі душы разбалелай,
Стой, замаўчы ты, мой голас ціхі —
Еду у мора адважна і смела...
Гэй, на спатканне вам, хваляў вярхі!

*1921*

# ВАСІЛЬ СТАШЭЎСКІ

Празаік і драматург Васіль Сташэўскі нарадзіўся 23 сакавіка 1895 года ў вёсцы Свінка Слуцкага павета Мінскай губерні (цяпер в. Лугавая на Капыльшчыне) у сялянскай сям'і. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1914). Ваяваў на франтах Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, пазней супраць польскіх акупантаў на Случчыне (1920). Працаваў настаўнікам (1918–1920 і 1923). Пасля заканчэння Мінскага інстытута народнай асветы выкладаў гісторыю і літаратуру ў Оршы на настаўніцкіх курсах і рабфаку. З 1926 года ў Мінску, дзе стаў сябрам літаратурнага аб'яднання «Маладняк», яго адказным сакратаром, працаваў у рэдакцыі «Савецкай Беларусі» (1928–1929), з 1929 года адказным сакратаром літаб'яднання «Полымя».

Талент В. Сташэўскага найбольш праявіўся ў драматургіі і прозе. Яго пяру належыць каля дваццаці п'ес, у тым ліку і для дзяцей, якія друкаваліся з 1927 года («Бацька і сын», «У цемры», «Беспрытульная», «На другі дзень», «Сашка-будаўнік», «Кацярына», «Музыка «Цвілеўскі», «Спявай, вясна», «Архангелы з крэсаў», «Прысяга ў лесе: шэсць сцэн з 1919–1920 гадоў», «На варце», «Самсон і Людміла» і інш.). Па жанры гэта былі драмы, камедыі, аднаактовыя, двухактовыя п'есы, якія ставіліся прафесійнымі і аматарскімі тэатрамі. Адна з лепшых п'ес В. Сташэўскага «Мікола Гоман» ішла ў Беларускім тэатры юнага гледача некалькі сезонаў. Драматургічнае майстэрства В. Сташэўскага высока ацэньваў К. Чорны. Адначасна з п'есамі пісьменнік шмат публікаваў нарысаў («Гаворыць Асінстан» , «Койданаўская МТС», «Па сонечным шляху», «Каласіцца зямля» і інш.), якія выходзілі асобнымі кнігамі ў 1930–1931 гадах. Вынікам яго паездак па Беларусі, назіранняў за жыццём былі не толькі нарысы, але і многія апавяданні («Што восень, то не вясна», «Чорная ноч», «Гісторыя аднае лазні», «У сваім палацы (З мінулага часу)», «На золку вясны», «Палюбоўная ўмова» і інш.). У аповесці «Пад местачковым месяцам» пісьменнік, паглыбляючыся ў паўсядзённае жыццё простых людзей, стварыў праўдзівыя, каларытныя малюнкі местачковага побыту, напоўненага рознымі цікавымі падрабязнасцямі і запамінальнымі сцэнамі. Аповесць выйшла асобным выданнем у 1931 і перавыдавалася ў 1932 і 1935 гадах. У 1933 годзе выйшла кніга апавяданняў і аповесцяў В. Сташэўскага «Шуміць бярэзінка». Пісаў В. Сташэўскі літаратуразнаўчыя артыкулы, рэцэнзіі («Вандроўны тэатр і Галубок», «Магутны фронт (пра кніжны



рух на Украіне)», «На шляху творчага росту», «Прывітанне Я. Коласу з выпадку 30-годдзя яго літаратурнай дзейнасці (у сааўтарстве з М. Зарэцкім і А. Вольным)», займаўся перакладамі твораў англійскіх, рускіх, украінскіх пісьменнікаў. Друкаваўся ў газетах «Савецкая Беларусь» «Звязда», «ЛіМ», «Чырвоная змена», часопісах «Аршанскі маладняк», «Беларуская работніца і сялянка», «Чырвоны сейбіт», «Полымя», «Маладняк».

4 лістапада 1936 года В. Сташэўскі быў арыштаваны органамі НКУС за «связь с украинскими националистами» (прыпомнілі яго творчыя паездкі на Украіну, дзе ён сустракаўся з вядомымі ўкраінскімі пісьменнікамі) і 29 кастрычніка 1937 года, амаль праз год допытаў і катаванняў, расстраляны ў Мінску. Пражыў ён усяго 41 год.

У серыі «Беларускі кнігазбор»势 плануецца выданне твораў Васіля Сташэўскага асобным томам.

## ГІСТОРЫЯ АДНАЕ ЛАЗНІ

*Апавяданне*

У глухім кутку Палесся, у балотным закутку, але на пескавым узгорку — вёска Баравінка. Адзіны праезд, адзіны шлях, што злучае гэтую вёску з іншымі — грэбля. Кажуць, што толькі баравінчанін мог сядзець на каламажцы і трэсціся па гэтай двухвёрстнай грэблі. Чалавек жа з другой вёскі, паляскаўшы крыху зубамі, абавязкова злазіў з воза ды пехатою дабіраўся ў вёску. Калі ў першыя гады савецкай улады ўсюды ўзяліся за адбудову гаспадаркі, а значыцца, і дарог — баравінчане спакойна трэсліся на каламажках і яшчэ больш спакойна адказвалі на запытанне — чаму не правіце грэблі: «Эт, таварыш, яна нас не трасе, прывычныя мы, гэтага...» Чалавек, які не ведае баравінчаніна, можа чакаць, што пасля слоў «прывычныя мы, гэтага...» ён скажа яшчэ нешта, бо тон зусім не сцвярджальны і выраз твару такі, нібы ён падбірае словы, каб далей выказваць сваю думку. Ну, а так — народ працавіты, упарты, але павольны. Чамусьці ў суседніх вёсках, калі ў якога селяніна ў хаце брудна, сам ён павольна рухаецца, павольна гаворыць — тады яму часамі казалі: «Ты шляхціц з Баравінкі». Можа, тут быў перагіб, а мо гэта якраз адпавядала сапраўднасці. Адно было бясспрэчна: баравінчан расшавяліць не так лёгка. Яны, напрыклад, не вельмі спяшаліся з калгасам, гады два «асазнавалі», калі часамі пытаўся хто: «Чаму не арганізоўваеце калгаса», — яны адказвалі: «Братка дарагі, калгасы добрая справа, гэтага... мы не супраць, але ж трэба чалавеку асазнаць, гэтага...» Цяпер у іх ніштаваты

калгас, ну і, вядома, змянілася грэбля. Яна добра высыпана, утрамбавана, абапал — канавы, а праз рэчку мост з дубовымі парэнчамі — любата. А нядаўна закончана пабудова планавай школы. Змянілася вёска Баравінка. Але ўсё гэта ідзе звычайным парадкам, і пабудова ў Баравінцы такой прыгожай школы не зрабіла на іх асаблівага ўражання, бо савецкая ўлада і ў суседніх вёсках таксама панастаўляла, ды нават раней, чым у іх. А вось будынак, што над рэчкаю, каля моста — гэта памятка навекі, бо ў ім спалучылася і гордасць і крышку сораму баравінчан. А гэта ж звычайная лазня, а толькі гісторыя яе незвычайная.

Лазня. У кожнай вёсцы павінна быць лазня — лозунг старшыні РВК таварыша Круглікава. А быў гэта 1928 год. Многа думак у Круглікава: школы, лазні, Асаавіяхім, заём індустрыялізацыі, правыя, левыя загібы, патрошку калектывізацыя. Апартунізм!

Поўны камплект твораў Леніна вось тут ён, на этажэрцы. «Капітал» косіцца на Круглікава. А калі чытаць? «Адзін настаўнік папраўку дае мне ў часе дакладу. Ды я цябе практыкаю ра-азаб'ю ў дошку. Рэвалюцыю я рабіў. Вось мая школа і тэорыя. Лазня — другая рэвалюцыя ў гэтым брудным Палессі, і я выйду пераможцам».

А тут у райкаме партыі кажуць Круглікаву: «Трэба падвышаць сваю граматнасць, мацней узбройвацца Маркса-Ленінскай тэорыяй». «Не супярэчу, — кажа Круглікаў, — трэба». А за дзвярыма: «Тэорыя не карова, малака не надоіш». Але пасля адных палітзаняткаў задумаўся Круглікаў. Пачаў крыху заглядаць на палічкі сваёй этажэркі. Углядаецца аднаго разу на мнагатомнік Леніна: «Што гэта, тэорыя ці практыка? Падрыхтоўваць рэвалюцыю, ствараць партыю, Акцябр? Уся ўлада Саветам! Разбіць інтэрвенцыю! Стварыць новую рэспубліку і кіраваць гаспадаркай... і напісаць столькі кніг!.. Даруй, дарагі Ільіч, і ты, дружок Маркс. Я гэтага зрабіць не магу. Галава мая... ды я і пісаць, каб надта граматна, не вельмі што. І рукі мае не да пяра, а да вінтоўкі, нагана больш прывычныя і яшчэ да сякеры, да струга. Чым магу, тым справе памагу. Будую ў сваім раёне лазні, школы, млыны, пільні, ваюю з кулакамі, нэпманамі. Закладаю арцелі. Вось яна мая тэорыя і практыка. Мне толькі правільную дырэктыву, а мой выканкам выканае на ўсе сто. Кажуць, што лазні — мая фантазія. Няхай сабе і так. Няхай палаюць, а пасля будуць дзякаваць. Вось каб знайсці ў Леніна хоць тры радкі пра лазні, я тады ўцёр бы нос сваім супраціўнікам. Закажу мастацкія плакаты і расклею па ўсім раёне».



Круглікаў пачаў па парадку разглядаць тамы і шукаць на старонках змест адпавядаючага артыкула. Не знайшоў. «Быць не можа, каб Ленін не закрануў і гэтага пытання. Можа, загаловак не такі. Каму б даручыць пашукаць? Можа, нават беспартыйнаму, але такому, каб не вельмі ляпаў языком пра гэта».

І спыніў сваю ўвагу Круглікаў на настаўніку Мазарыку. «Гэты пастараецца». Выклікаў Мазарыка да сябе.

— Вось што, таварыш Мазарык, ты хоць пакуль што беспартыйны, але чалавек блізкі нам, актыўны. Я раю табе больш сур'ёзна займацца тэорыяй: чытаць Леніна, Маркса, і наогул філасофію. Сядай.

— А я, таварыш Круглікаў, чытаю. Я лічу, што без гэтага настаўнік не настаўнік, — адказвае Мазарык.

— Чытаеце? Добра. А скажыце, што казаў Ленін пра лазні?

Мазарык пачаў шавяліцца.

— Я, уласна, дакладна не памятаю, але ведаю, што аб культуры, аб быце, перабудове яго шмат сказана.

— А як вы лічыце, у брудных вёсках, мястэчках, у якіх людзі ніколі не мыюцца ў лазнях, бо і лазняў няма, хварэюць на розныя скулы, — пабудаваць лазні — гэта гаспадарчае ці культурнае пытанне?

— Я лічу, што гэта важнейшае культурнае мерапрыемства.

— Значыць, вы падзяляеце маю лінію гэтых культурных мерапрыемстваў?

— Цалкам, таварыш Круглікаў, гэта надзвычайна вялікая справа, за якую масы будуць вам толькі ўдзячны.

— Вазьміце Леніна, прачытайце што-небудзь... Вы час маеце?

— З прыемнасцю, — адказаў Мазарык і пачаў перабіраць тамы.

— Вазьміце дваццаць пяты том, колькі мне помніцца, там ёсць надзвычайная прамова на адной беспартыйнай рабочай канферэнцыі.

Мазарык пачаў пераглядаць.

— Ды вось, на канферэнцыі Прэсненскага раёна.

Пачаў чытаць. Круглікаў курыць люльку. Спачатку ўважліва слухаў, але хутка думкі яго пераскочылі ў эпоху 20-га года. Схамянуўся ён толькі тады, калі Мазарык прачытаў: «Мы начали великую войну, которую мы не скоро окончим; это — бескровная борьба трудовых армий против голода, холода и сыпняка, — за просвещенную, светлую, сытую и здоровую Россию».

— Памятаю гэтыя словы,— сказаў Круглікаў, моцна трымаючы ў руцэ англійскую люльку.

«...но мы кончим эту войну, — чытае далей Мазарык, — такой же решительной победой, какой окончили и борьбу против белогвардейцев...»

— А што, хіба не так? — спытаў Круглікаў.

— Безумоўна так, таварыш Круглікаў.

— Ну, давайце далей, давайце сёння перабяром гэты том.

Мазарык надзвычайна старанна чытаў, дайшлі да рэзалюцыі IX з'езда РКП(б), і вось тут у адным з раздзелаў, дзе пералічваюцца галоўныя віды партыйнай работы, названа работа «па рамонту і правільнаму функцыяніраванню лазняў».

— Ну вось, — кажа Круглікаў, — а думаеце, на сённяшні дзень гэта не мае сілы? Вядома, многа ўжо зроблена, ой, многа, але яшчэ не ўсё. У раёне нашым яшчэ многа работы і якраз іменна ў гэтай галіне — з лазнямі. Тут няма чаго рамантаваць, бо іх тут не было спрадвеку. Тут новенькія трэба майстраваць усюды, ды яшчэ ў некаторых пунктах трэба правесці агітацыю за тое, каб першы раз зацягнуць памыцца. А пасля першага разу пойдуць у лазню, як некалі на вадохрышча, ха-ха!

Гэтым вечарам былі задаволены і Мазарык і Круглікаў. Мазарык дома сказаў жонцы: «Сённяшні вечар я лічу першым пэўным крокам у камуністычную партыю».

Назаўтра Круглікаў з'явіўся ў райкам да сакратара:

— Чытаў дваццаць пяты том твораў Леніна?

— Чытаў. А што?

— Значыцца, павінен ведаць, што Ленін сказаў пра лазні?

— Хм, — усміхнуўся сакратар. — Я хацеў бы, каб заўтра былі лазні ў кожным населеным пункце, таварыш Круглікаў.

— Ну і будуць.

— Пачакай. Ёсць план гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ўсяго раёна. Ёсць цэлы рад задач, якія патрабуюць гарманійнага вырашэння. А ты — захапіўся адной справай і ўпускаеш другую. Партызаншчына, таварыш Круглікаў. А партыя нас вучыць і ўказвае — умець своечасова з усіх задач вылучаць важнейшую, знайсці галоўнае звяно. Не лазня вузлавое пытанне на сённяшні дзень.

— Я вузлавых пытанняў не пакідаю, а лазні будую ў парадку мясцовай ініцыятывы. А партызаншчынай упікаць мяне няма чаго.

— Добра, зайдзі вечарком на кватэру, за шклянкаю чаю ці піва раскажаш мне, як у 19–20 годзе чысціў белых, а я табе раскажу пра партызаншчыну сённяшняга дня. Добра?



— Ладна. Зайду.

Выйшаў Круглікаў. Ідзе, думае. Ён жа сёння меўся быць у Баравінцы. Там прызначан сход пра пабудову лазні. Дрэва вывезена. Гніе. Не хочуць баравінчане будаваць. Рашаючы сход.

Увайшоў у РВК. А тут у калідоры Мазарык насустрач. Ён часта наведвае кіруючыя ўстановы.

— Зайдзі, — кажа яму Круглікаў. Мазарык за ім увайшоў у кабінет.

— Сёння ў Баравінцы рашаючы сход: быць лазні ці не быць. Я меўся паехаць, але якраз сёння не выпадае, дык няма каго паслаць, народ мой у раз'ездзе. Можа з'ездзіш, правядзеш сход? На маім кані, туды і назад.

— Раз трэба, не маю права адмовіцца, — адказаў Мазарык.

— А калі зрыў, — перапішы зрыўшчыкаў і запісачку мне. Дагаварыліся?

— Калі ласка. З савецкай уладай я не спрачаўся ніколі, калі ласка.

Выехаў Мазарык у Баравінку, сход адбыўся і ўхвалілі лазню будаваць. Баравінчане не надта горача выказваліся за пабудову і не надта горача супярэчылі, хоць гадзіны дзве парыліся ў кажухах. Як ні намагаўся Мазарык, каб вызначыць тэрмін пабудовы, — нічога не выйшла. «Калі дазволіць час, гэтага...» А гэта значыць — калі ім захочацца.

Дзевяць чалавек трапіла на запіску Мазарыка, з гэтым ён і вярнуўся назад.

Пачытаў Круглікаў, падзякаваў Мазарыку і выклікаў да сябе стоража.

— З Баравінкі сёння ёсць хто-небудзь, не заўважыў?

— Аднаго бачыў, — адказвае стораж.

— Пакліч да мяне.

Праз некаторы час з'явіўся баравінчанін да Круглікава.

— Вось вам запіска, — кажа Круглікаў, — абвясціце гэтым грамадзянам, што тут запісаны, каб заўтра ўсе былі тут, скажы, каб кожны ўзяў па пары бялізны, ну і, вядома, кавалак хлеба і сала ў торбачку.

На другі дзень восем баравінчан з'явіліся ў РВН. Адзін не прыйшоў, бо скулы так панасядалі, што не толькі ісці альбо ехаць цяжка, а нават сесці чалавеку нельга.

Здарылася так, што гэта быў выхадны дзень. Але Круглікаў не забыўся пра баравінчан. Ён не пайшоў у РВК, але перадаў сторажу, каб а другой гадзіне прывёў баравінчан у лазню.

Са старое мураванае сінагогі, што стаяла над рэчкаю, добрая выйшла лазня. Прасторная, чыстая. Па заказу Круглікава

напалена яна сёння. Увайшоў Круглікаў з Мазарыкам — душа радуецца. Успомніў Круглікаў словы сакратара райкама: «партызаншчына» і заспяваў родную партызанскую. Рэха ломіцца ў вокны. Звініць лазня. І Круглікаў адчуў такую сілу голасу, якая была тады, калі спяваў конна, едучы з атрадам чырвонаармейцаў пасля разгрому адной белабандыцкай шайкі. Шабулдыхнуў шайку з вадою на галаву. Тады не было калі мыцца, а ў гэтай мясцовасці і не было дзе. Далоняй зграбалі з падранай кашулі тыфозную заразу.

— Я іх памыю касалапых, — кажа Круглікаў Мазарыку.

— Гэта надзвычайна, таварыш Круглікаў.

Адзін за адным уваходзяць баравінчане. Чатыры чалавекі ўвайшлі. Круглікаў вылівае на сябе шайку за шайкаю і непрыкметна для іх паглядае. А яны голыя, нібы саромеюцца адзін аднаго.

— Вы што? — пытае Круглікаў.

— Памыцца перад смерцю, таварыш старшыня, — адказвае адзін. Другія натапырыліся: «Няўжо і старшыня тут?»

— Навошта перад смерцю мыцца?..

— Закон такі, гэтага...

— Нямытага і ў рай не пускаюць, — дадаў другі. Увайшлі яшчэ два чалавекі.

— А гэтыя таксама вашы?

— Нашы. Там яшчэ два раздзяваюцца. Восем чалавек затрэбавалі.

— Хто?

— Казалі, што вы, гэтага...

— Першы раз чую.

— Тады трэба разабрацца, таварыш старшыня, гэтага...

— Я тут не старшыня, а такі самы голы чалавек, як і вы. Але трэба высветліць, — сказаў Круглікаў і выйшаў у раздзявальню. Баравінчане за ім. Падняліся эпошнія два.

— А вы таксама мыцца? — звярнуўся Круглікаў да гэтых двух.

— Таксама, — целяпнуў барадою адзін з іх.

— А чаму ў кашулю ўглядаешся, поўзае што?

— А калі поўзае, дык гэта не навіна. Свая поўзае, а не твая.

Баравінчане міргаюць старому, каб так не адказваў. У гэты момант у лазню ўвайшоў міліцыянер.

— Тэрміновая тэлеграма, таварыш старшыня.

Круглікаў паглядзеў тэлеграму, пачухаў левы бок, падміргнуў міліцыянеру, кіўнуў у бок баравінчан:



— Слухайце, гэта вашы людзі мыюцца тут? Вашы, канечна.

— Гэтыя? Нашы, таварыш старшыня, — адказаў міліцыянер.

Круглікаў яшчэ раз паглядзеў на баравінчан.

— Ну дык заходзьце ў лазню і мыйцеся, а я тут сам высветлю. — Баравінчане адзін за адным пайшлі ў лазню. Круглікаў яшчэ раз глянуў на тэлеграму. Звычайная службовая тэлеграма, толькі пазнавата падышла. Сёння 11, а ў «Мінску дванаццатага нарада старшынь жывёлагадоўчых раёнаў».

— Поезд калі? У гадзіну ночы?

— У гадзіну ночы.

Аддаў Круглікаў міліцыянеру тэлеграму.

— Вось што, браток, ты праз паўгадзіны падыдзі сюды, возьмеш гэтых дзядзькоў, а я гэтым часам памыю іх.

— Слухаю, таварыш старшыня, — адказаў міліцыянер з усмешкаю і выйшаў. Круглікаў увайшоў у лазню. Баравінчане з венікамі, мылам збіліся ў гурт, раяцца.

— Ну, грамадзяне, — звярнуўся да іх Круглікаў, — раз прыйшлі ў лазню, дык давайце мыцца. Сюды! — сказаў Круглікаў, прачыніўшы дзверы ў парнае аддзяленне.

Ткнуліся баравінчане, а тут парнасць дух займае. Той, што з барадою, назад.

— Стой, стары! — гукае Круглікаў. — Табе якраз тут і трэба.

— Не вытрымаю, галубок, пусці, няхай маладзейшыя.

А Мазарык на верхняй паліцы хвошча сябе і запрашае:

— Сюды, сюды, грамадзяне!

Адзін з іх адважыўся, ускочыў, лыпае, трымаецца і кажа:

— Усё ж роўна трэба адпакутаваць.

— Кладзіся, — кажа яму Круглікаў, — і летняю вадзіцаю пакрапляй сабе галаву. Давай свой венік.

Пакараецца чалавек. Узмахнуў Круглікаў венікам, патрос яго ўгары, лёгенька прайшоў ім, зашоргаў гарачым лістам ад пятак да галавы і назад, ударыў па найбольш пукатым месцы. «Ах-х...» «Што?» «Нішто». Зноў патрос Круглікаў венікам угары і з поўным усведамленнем свае віртуознасці іграе ім па закарузлым целе.

— Пераварачвайся дагары.

— Братка, можа хопіць?!

— Ого, трэба паважаць кожную частку цела. «Ах-х...» «Што?» «Нішто».

— Злазь. Наступны.
Баравінчане пачалі высоўваць кандыдата.
— Нічыпар.
— А чаму не Рыгор? — бароніцца Нічыпар.
— Ну, дык Мікіта.
— Што вы, я хіба апошні, можа, пара крыху сыдзе, а то я і тут ледзьве дыхаю.
А Круглікаў грозна:
— Наступны.
Палез Нічыпар. Круглікаў падняў венік.
— Таварыш старшыня, — просіцца Нічыпар. — Я хацеў бы паліцаю ніжэй. Я вось тут лягу.
— Хочаш тут? Ладна. Пачакай крыху, падбавім градус.
У гэты момант Мазарык лінуў у печ вады на гарачыя каменні. Прыгнуліся баравінчане. Мікіта шмыгнуў за дзверы і там да таго, што выпарыўся:
— Па-мойму, дык мы трапілі ў пекла.
А выпараны ляжыць, пакручвае вусы:
— Канешне, парнасць спачатку расслабляе чалавека, але касцей не ломіць, так што ідзі назад, прасі, значыць, знісхаджэння на ніжэйшую паліцу, але папарыцца трэба.
— Нічыпар папрасіў знісхаджэння, дык Мазарык паддаў пары.
— Нічога, яна касцей не ломіць. Я вось крыху адпачну, ды мо яшчэ папаруся.
Круглікаў папарыў Нічыпара, а гэтым часам Мазарык намыліў двух кандыдатаў і ўзяўся за барадатага.
— Наступны! — гукнуў Круглікаў.
— Мыла ў вочы ўядаецца, — адазваўся адзін з кандыдатаў. І другі нешта мнецца.
Круглікаў ступіў паліцаю ніжэй:
— Ды што ж гэта такое? Га? Для каго пабудавана гэта лазня, для каго напалена яна сягоння? Вы думаеце, што паўшуркі дроў дарма прападзе? Не, грамадзяне баравінчане, калі ласка, мыцца. Мыла, кажаце, шчыпле? Правільна. Гразь не любіць мыла, а таму і шчыплецца. Таварышы! — Стаў на паліцу вышэй. — Мы павінны паставіць сваёй задачай змыць векавую гразь, што ад царызму трымаецца на вас. А там, дзе гразь,— там хвароба, там зараза. Таварышы баравінчане! Вы сталі на шлях новага, сацыялістычнага жыцця. Не забывайцеся, што лазня гэта не раскоша, лазня, чыстая бялізна — ёсць першая неабходнасць для аздараўлення чалавецтва ва ўсім свеце. Няхай жыве лазня ў Баравінцы і няхай жывуць чыстыя, здаровыя баравінчане! Хто наступны на паліцу?



Павольна пачаў узлазіць адзін з кандыдатаў. Гэтым часам увайшоў сюды той, што першым парыўся.
— Тады дайце і мне пару слоў, гэтага... Мужчыны! Я згодны на тое, канешне, што сказаў старшыня, бо я там ляжаў і ўсё чуў, гэтага... Парыцца чалавеку трэба. Толькі я хачу сказаць таварышу старшыні, што за адзін раз у год толькі скуру раздражніш, а кожны месяц не пойдзеш.
— А ў царкву хадзілі? — запытаў Круглікаў.
— Даўней, канешне, гэтага... — замяўся прамоўца. Круглікаў парыў.
Апошнім выпарыўся барадаты дзядзька. Скончыўшы гэту работу, Круглікаў і Мазарык выйшлі ў вялікі пакой.
— Цела тады яно чыстае, калі рыпіць, — сказаў Круглікаў і паказаў, правёў далоняю па сваіх грудзях. Выйшаў ён з Мазарыкам адзявацца, і баравінчане пачынаюць вылазіць.
— Можа б, вы крыху пачакалі, ды лепей апаласкаліся б, — кажа ім Круглікаў.
Баравінчане падаліся назад. А прамоўца затупаў на месцы і пачаў:
— Мы, канешне, сагласны, а толькі не павінны, канешне, заставацца свіннёю і, канешне, падзякаваць Таварыша старшыню, а таксама і вас (да Мазарыка), бо хоць жа мы і не ведаем, куды нас адправяць, ну, так што не супраць савецкай улады і, канешне, гэтага...
— Вы што на сход прыйшлі? — запытаў Круглікаў.
— Яно, канешне, не на сход, але тым часам, гэтага... — кашлянуў прамоўца і падаўся назад.
Увайшоў міліцыянер.
Выходзячы з лазні, Круглікаў сказаў яму:
— Пабудзь тут, пакуль адзенуцца. Паказвай від строгасці. А як адзенуцца — вядзі ў сталоўку. А далей — скажа загадчык.
Вось пачалі ўжо адзявацца і баравінчане. Пачалі жартаваць адзін з аднаго. А міліцыянер ім:
— Грамадзяне, прашу не перагаварвацца.
Сцішыліся. Надзяваюць чыстую бялізну, разгладжваюць вусы. Ва ўсіх такі настрой, што хочацца выказацца, а тут міліцыянер не дае. Звычайна яны маглі б і не паслухаць, бо яны ж нічога дрэннага не хочуць сказаць, але, усвядоміўшы сваё

ўмыванне як выключнае, нават цікавае, — падначальваюцца і стараюцца быць паслухмянымі дзецьмі. Толькі міжволі прарываюцца словы: «рыпіць», «дык вось яна лазня», «сем пудоў скінуў», «я за лазню, любата». А той дзядзька з вялікаю барадою скамячыў сваю брудную бялізну і суне яе ў торбу з хлебам. Міліцыянер заўважыў:

— Хто гэта, дзядзька, так робіць?

— І я скажу, — адазваўся Нічыпар.

Стары моўчкі заціснуў бялізну ў кішэню свайго палітона.

Праз невялікі час міліцыянер прывёў баравінчан у сталоўку. Асобны стол у кутку. Паселі. Міліцыянер пагаварыў з загадчыкам, а гэтым часам баравінчане пачалі развязваць торбы.

— Прэкраціць развязванне торбаў, — загадвае міліцыянер.

Пераглянуліся баравінчане, пазавязвалі.

Дзве дзяўчыны прыносяць і ставяць на стол талеркі, раскладваюць лыжкі. З вялікае пасудзіны наліваюць буракі.

— Наядайцеся, — кажа міліцыянер, — бо дарога вам вялікая прадстаіць.

Сёрбаюць баравінчане. У кожнага белая талерка, алюмініевая лыжка. Не паспелі яны ўвабраць буракі — падносяць дзяўчаты на талерках тушаную бульбу, і там мяса па кавалку пакладзена. Паглядзелі адзін на аднаго, на міліцыянера. Стаіць ён, успёршыся на падаконнік, службу нясе. Нічыпар не вытрымаў:

— Каб сюды хаця на двух паўлітра, гэтага...

А Мікіта адказвае:

— А мне здаецца, што я сплю. Бо яно так у сапраўднасці не бывае.

Толькі сказаў ён гэта — падносяць дзяўчаты і ставяць на стол куфлі з півам.

— Ну вось, бачыш, — кажа зноў Мікіта, — ёй жа богу сплю.

А той прамоўца, што першым парыўся, пагладзіў вусы, узяў куфель.

— Ну што ж, па рублёў пяць прыйдзецца заплаціць.

Барадаты стары адсунуў ад сябе куфель.

— Я піва не ўважаю і плаціць за яго не буду.

Нічыпар падсунуў гэты куфель да сябе і адказвае:

— Усё роўна: піў не піў, у кампаніі быў, значыцца, і заплаціш.

— Прашу не перагаварвацца, — голас міліцыянера, — канчайце.

— А ці няможна, каб яшчэ бакал заказаць, пасля лазні яно добра ідзе? — пытае Нічыпар міліцыянера.



— Не палагаецца.

— Ну, то па колькі з нас?

— Ні па колькі. Папалуднавалі? Выходзьце на вуліцу.

Павылазілі баравінчане з-за стала. Добры настрой некаторых пачынае патрошку адыходзіць. Выйшлі на вуліцу.

— За мною, — сказаў міліцыянер і шпарка пайшоў у РВК. Баравінчане ледзьве паспяшаюць за ім. Увайшлі ў РВК. Міліцыянер адчыніў дзверы ў кабінет старшыні.

— Заходзьце сюды.

Увайшлі. Сядзіць старшыня Круглікаў, чытае нейкую паперу, не глядзіць на іх. Каля стала нейкі таварыш разглядае газету. Нарэшце Круглікаў падняў галаву.

— Што скажаце, баравінчане?

Закалыхаліся яны.

— Не ведаем, што скажаце вы, гэтага... — адказаў прамоўца.

— Я? Я чуў, што вы ў лазні былі.

Засмяяліся ўсе. Не ўстрымаўся і суровы дзядзька з барадою.

— Былі.

— Рыпіць?

— Любата!

— Здароўе.

А Круглікаў:

— Пасля лазні вельмі добра сёрбнуць талерку баршчу.

— Было і гэта.

— Ды нават з півам.

— Чакайце, — перабіў баравінчан прамоўца. — Тут больш сораму, канешне, чым смеху. Гэта ж нам брыдка паказвацца ў вёску.

— Можа, яно і так, — кажа старшыня, — а я думаю, што вам сорамна ад таго, што лес гніе на выгане ля рэчкі, што ўсюды будуюцца лазні, а ў вас няма...

— Будзе і ў нас.

— Будзе.

— Будзе, кажаце? — пытае Круглікаў.

— Заўтра пачынаем.

— Ну, тады з лёгкаю параю вас, — кажа, падняўшыся з крэсла, Круглікаў і падае кожнаму руку. — Ідзіце дадому, пачынайце. Як будзе гатова — прыеду памыцца, папарыцца.

— Гэта ўжо няйначай, — адказвае прамоўца,— і фурманку прышлём.

— Буду вельмі рад, — кажа Круглікаў на развітанне, — не злуйцеся толькі. Да пабачэння ў вашай новай, прыгожай лазні.

Выходзяць баравінчане з РВК, хацелася яшчэ пагаварыць з Круглікавым. Затупалі па ганку.

— А як жа за полудзень, за піва? — спыніў іх прамоўца. — Выйсці, канешне, свіннёю не штука, а падзякаваць, канешне, і не здагадаліся.

— Мікіта, прачніся, — штурхае ў спіну Нічыпар,— куды ты павалачэш торбу хлеба?

Выйшаў на ганак міліцыянер. Мікіта да яго:

— Таварыш дарагі, вазьмі баханку хлеба, цяжка будзе валачы.

— Нічога, завалачэш, — адказаў міліцыянер і шпарка пайшоў.

Пайшлі баравінчане дадому. Круглікаў стаяў каля акна, глядзеў на малады, пасаджаны пры яго старшынстве садзік перад будынкам РВК, прыемнаю ўсмешкаю, ласкавым поглядам праводзіў ідучых цэнтральнаю алеяй баравінчан. Раптам званок тэлефона.

— Слухаю. Хто? А каго вам трэба? Круглікава? Я сам і ёсць. Зайсці да цябе? А што такое? Ёсць справа? Зараз зайсці? Ладна. Іду.

Паклаў Круглікаў трубку, пачухаў вуха і пайшоў. Праз некалькі хвілін ён увайшоў у кватэру сакратара райкама партыі.

— Што будзе? — сустрэў сакратар запытаннем Круглікава.

— А ты пра што? — у сваю чаргу пытае Круглікаў.

— Усё пра лазні, таварыш Круглікаў.

— Ага, захапіўся і ты, — адказвае Круглікаў.

— Ну так, я страшэнна захоплены. За такі метад «Кракадзіл» не адмовіцца цябе прэміраваць. Ніколі. Гэта ж нешта выключнае.

— Іменна выключнае, — адказвае Круглікаў.

— Ну, а як будзе далей? Заўтра каго збіраешся парыць?

— Заўтра нікога, я ж не баншчык.

— Ну, скажы, ты думаеш што-небудзь ці не?

— Думаю, браток, — адказвае мякка, задушэўна Круглікаў, — думаю: якая слаўная будзе лазня ў Баравінцы! Думаю яшчэ — абедаць пара. Валодзька званіў: «Папа, скарэй, а то мама злуецца».

Сакратар хвілінку памаўчаў, затушыў у попельніцы недакурак і сказаў:



— На цябе трудна злавацца, ты сам гэта ведаеш... Але вось за сённяшняе тваё «выключнае», як ты кажаш, заўтра ж будзем парыць на бюро райкама. Здарова адхвошчам.

У пакой паспешна ўвайшоў Валодзька. Круглікаў развітаўся. На ганку Валодзька асядлаў бацькаву шыю — паехалі.

Ішлі баравінчане лесам, пералескамі. Пятнаццаць кіламетраў трэба прайсці. Ішлі, жартавалі, спрачаліся, разважалі пра сваё жыццё, самі сябе крытыкавалі. Нічыпар, уваходзячы ў вёску, сказаў:

— Хоць і сорамна прызнацца, што нас вымылі, як малых дзяцей, але лазню пабудуем, так што факт.

Успамінаюць сёння калгаснікі вёскі Баравінка былога старшыню РВК таварыша Круглікава.

— Важны быў чалавек, практык вялікі, галава. Слых маецца, што недзе ў Маскве ён абучаецца. Каб адрас, дык усім калгасам напісалі б, каб пад'ехаў. Калі б згадзіўся, дык і за старшыню выбралі б за дзесяць мінут. А то няхай бы пагасціў які з месяц, хваліць бо... гэтага... ёсць чым прыняць.

*1935*

# ПАВЕЛ КАРАВАЙЧЫК

Літаратурны крытык, публіцыст, паэт і драматург Павел Каравайчык нарадзіўся 3 (15) чэрвеня 1896 года ў мястэчку Любча на Наваградчыне ў сялянскай сям'і. Вучыўся спачатку ў Наваградку, а ў 1911 годзе здаў уступныя экзамены ў мінскую гімназію, якую скончыў у 1916 годзе з залатым медалём ужо ў Маскве, куды гімназія была эвакуіравана з пачаткам Першай сусветнай вайны.

Вярнуўшыся ў Мінск, П. Каравайчык удзельнічае ў Таварыстве дапамогі ахвярам вайны, адначасна працуе ў рэдакцыі газеты «Вольная Беларусь», на старонках якой з 1917 года друкуе свае крытычныя і публіцыстычныя артыкулы («Беларускі тэатр», «Выбары гласных у Мінскую народную думу», «Лісты з Петраграда», «Дэмакратычная нарада і беларусы»). У 1917 годзе паступіў у Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Петраградзе, хутка навязаў сувязі праз Наркамат нацыянальнасцяў РСФСР з Беларускім нацыянальным камітэтам, стаў сакратаром яго агітацыйна-выдавецкага аддзела. У 1917–1919 гадах друкаваўся ў газеце «Дзянніца» (быў некаторы час яе рэдактарам) і часопісе «Чырвоны шлях» («Будучыня Вільні», «О белорусском литературном языке», «Аб беларускім клубе і яго задачах», «Дарэмна, панове», «Аб беларускім універсітэце», «Настрой беларускай шляхты», «Беларусь жыла і будзе жыць» і інш.). У «Дзянніцы» быў надрукаваны і першы верш П. Каравайчыка «Ламайце згніўшае» (16 студзеня 1919).

У 1919 годзе П. Каравайчык быў прызваны ў Чырвоную Армію. Пасля службы вярнуўся ў Мінск і скончыў медыцынскі факультэт БДУ (1925). Чытаў лекцыі па беларускай літаратуры на настаўніцкіх курсах у Бабруйску і Мінску (1921–1923). Пазней выдаў падручнік «Выпісы з беларускае літаратуры (у сааўтарстве з М. Гарэцкім і У. Дзяржынскім): 1. Вусная народная творчасць. 2. Старадаўняе пісьменства» (Мн., 1925). Працаваў сакратаром Беларускага бюро Наркамасветы РСФСР, у цэнтральным аддзеле Галоўмастацтва, загадчыкам аддзела замежнага друку газеты «Савецкая Беларусь» (1922–1926). Як член-карэспандэнт Інбелкульта (1926) стаў адным з арганізатараў яго медыцынскай секцыі, пачаў распрацоўваць беларускую навуковую медыцынскую тэрміналогію (тэрміналагічныя слоўнікі выдаваліся з 1926), працаваў лекарам у клініцы нервовых хвароб медфака БДУ (1926–1930).



Шматгранны талент П. Каравайчыка асабліва яскрава праявіўся ў літаратуры. Гэтаму садзейнічаў нацыянальна-адраджэнскі рух 1920-х гадоў. Ён выступаў найперш як публіцыст («К пытанню нацыянальна-культурнага адраджэння беларусаў за межамі ССРБ», «Беларуская выдавецкая праца ў Берліне», «Беларуская культурная праца на Усходзе Беларусі», «Цяжкае становішча беларускіх школ у Заходняй Беларусі», «Першыя краёвыя курсы беларусазнаўства», 1922–1928). Як літаратурны крытык П. Каравайчык напісаў шмат артыкулаў, рэцэнзій пра творчасць многіх беларускіх пісьменнікаў (друкаваліся ў газетах «Вольны сцяг», «Савецкая Беларусь», часопісе «Полымя»). Пісаў рэцэнзіі на тэатральныя спектаклі, на кнігі Я. Купалы «Спадчына», Я. Коласа «Водгулле», А. Гаруна «Матчын дар», Ясакара (З. Бядулі) «Пад родным небам», на творы Ц. Гартнага, М. Багдановіча, даследаваў творчасць Ф. Багушэвіча, А. Гаруна, Л. Талстога. Напісаў драму ў 2-х актах «Да новага жыцця», пісаў і публікаваў вершы.

Літаратурная творчасць П. Каравайчыка была абарвана 10 красавіка 1931 года раптоўным арыштам. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў міфічным «Саюзе вызвалення Беларусі». Асудзілі беларускага пісьменніка на 5 гадоў зняволення і выслалі ў Чэбаксары Чувашскай АССР. За дзень да канца высылкі П. Каравайчык быў паўторна арыштаваны і 21 лістапада 1937 года расстраляны ў Чэбаксарах, калі яму быў 41 год.

## ЛІСТЫ З ПЕТРАГРАДА

### «Самаадзначэнне народаў»

Як ведама, расійская рэвалюцыя парушыла нацыянальнае пытанне, выгаласіла прынцып самаадзначэння народаў. Памятаю, якім былі мы ўсе напоўнены энтузіязмам і радасцяй у першыя дні рэвалюцыі. Тагды нам сапраўды здавалася, што вот мы пакончылі з абрыдзеўшым нам старым жыццём, паставілі над ім крыжык і пачынаем новую пекную страніцу гісторыі. Тагды ўся наша жыццёвая практычнасць неяк забылася і моцна тагды верылася ў шчырасць і дабрату людзей. Так мы верылі і так мы спадзяваліся. Але хутка надзеі нашы былі апляваны і ўтаптаны ў балота. Далей голай фразы справа не пайшла. Выгаласілі пекную формулу, выкінулі штандар з пекным надпісам і... супакоіліся. Пацешыліся і кінулі надаеўшую цацку. А для нас, недзяржаўных нацый, справа ішла не толькі аб пекных лозунгах, але аб нашым жыцці і нашай смерці. Мы не маглі так жыва нацешыцца пекнымі словамі «права народаў на самаадзначэнне» і кінуць іх. Наадварот, ідэя гэтая расла і крэпла сярод нас. Многамільённыя народы, стогнам стагнаўшыя праз цэлыя вякі царскага панавання,

не маглі здаволіцца аднымі пекнымі абстрактнымі формуламі. Ім патрэбна было праўдзівае лякарства, якое б прагнала смагу і залячыла болькі ад царскага самаўладдзя. Нацыянальны рух выбухнуў з новаю, неспадзяванаю сілаю. Пачаліся спробы спраўдзіць, правесці ў жыццё даўно наспеўшыя патрэбы, якія былі санкцыянаваны выгалашанай у часы рэвалюцыі формулай самаадзначэння народаў. Пачалі расці, як грыбы, нацыянальныя арганізацыі, пачалі яны гатавацца да будавання новага жыцця.

І вось тут прыйшлося спаткацца са старой праўдай, што словы — гэта адно, а справа — гэта другое. Рэвалюцыйны ўрад Расійскай Рэспублікі не ішоў насустрач наспеўшым патрэбам недзяржаўных нацый, але ўсякімі спосабамі стараўся ўвільнуць, ухіліцца ад адказу, а калі бываў прыпёрты да сцяны, стараўся даць як мага менш, таргаваўся з усіх сіл, як старая таргоўка на рынку. На ўсё ён меў гатовы адказ: «Цяпер у нас вайна, цяпер не час займацца грунтоўнаю ломкаю вякамі зложанага ўкладу жыцця, не час займацца перабудаваннем Расіі, калі непрыяцель ломіцца ў дзверы. Трэба спачатку супольнымі сіламі адкінуць ворага, а тагды мы парахуемся».

Так то яно так, але калі рабілі рэвалюцыю, ніхто не думаў, што цяпер не час займацца грунтоўнай ломкаю. Ламалі, бо далей у гэтым укладзе было немагчыма жыць, бо людзі ў ім задыхаліся. Чаму ж там было можна, а тут раптам — не? Чаму там было па часе, а тут не па часе? Чаму ўрад не падумае аб тым, што калі пасылаць людзей на бітву, калі вымагаць ад іх найбольшай ахвяры, якую яны могуць даць, ахвяры жыцця, — дык трэба сказаць ім аб мэце, дзеля каторай яны павінны ахвяроўваць сваё жыццё: трэба, каб гэтая мэта была варта той страшнай ахвяры, якая за яе вымагаецца. Даўней недзяржаўныя нацыі Расіі, падганяемыя казацкімі нагайкамі, ішлі ваяваць за веру і за цара. А цяпер за што ім ісці? Можа, за Керэнскага? Можа, «за великую, неделимую Россию», за правы насіць і надалей ярмо ўціску, здзеку, паняверкі і русіфікатарства? Чаму нічога не гаворыцца аб далейшай долі народаў, якія насяляюць Расію? Чаму нічога не гаворыцца аб тым, што правы недзяржаўных нацый цяпер не будуць так таптацца ў гразь, як гэта было за царом? Чаму нічога не гаворыцца аб пэўных гарантыях, што гэтага больш не будзе?..

Адной абяцанкі: «Парахуемся пасля» — нам мала. Трэба быць пэўнымі, што нас на гэты раз не ашукаюць, як ужо не раз ашуквалі. Ахвяр ад нас вымагаюць вялікіх, а аб тым, што мы атрымаем за іх, — маўчок. Нават самая формула самаадзначэння народаў неяк счэзла ўжо з памяці рускіх (велікарускіх) людзей: нешта не чуваць яе, нешта выйшла яна з рахунку. Формула гэтая была добрая і харошая тагды, як яе меркаю думалі вымяраць Нямеччыну і Аўстрыю, калі думалі аб тым, як «самаадзначыць» Чэхію, Боснію, Трансільванію, Трэнціно, Познань, Галіцыю... Нават «Новое время» тагды спявала гімны новай формуле, складала хвалебныя дыфірамбы расійскай рэвалюцыі. Але, калі прыйшлося «самаадзначыць» Польшчу і калі на чаргу дня стала пытанне аб долі Літвы, Украіны, Беларусі, Фінляндыі, Латвіі, Грузіі, Арменіі і г. д., калі прыйшлося падумаць аб іх «самаадзначэнні», — хараство новай формулы страціла сваю даўнейшую вагу ў вачах рускіх людзей.



Разуменне «великой единой матушки России от финских хладных скал до пламенной Колхиды», разуменне, з якім яны зжыліся ад самага свайго дзяцінства, аніяк не ўкладалася ў галаве разам з нейкімі там аўтаноміямі нейкіх хахлоў, каторыя ядуць галушкі, пінскіх лапацонаў, што ходзяць з каўтуном на галаве, і нейкіх ужо зусім нечуваных літоўцаў, эстонцаў і «міфічных латгальцаў»*.

Урад не клапоціцца аб папаўненні абстрактнай формулы самаадзначэння народаў якім-небудзь рэальным зместам, а ўсе «истинно русские» людзі стараюцца як-небудзь схаваць, засунуць як мага далей і самую ненавісную цяпер ім формулу...

Але «шыла ў торбе не схаваеш», — яно ўсё ж такі вылазіць наверх на злосць і рускім людзям, і рускім газетам. Лямантуюць цяпер яны, аж страх, злуюць на «непамяркоўныя трэбаванні» недзяржаўных народаў. Як гэта можа быць, каб якіясь там «хахлы» маглі трэбаваць, каб вучэнне ў школах альбо царкоўная служба адбываліся ў іх па-хахляцку? Гэтага ж быць не можа і не павінна!..

І чаго-чаго толькі буржуазна-расійскі друк ні гаворыць аб недзяржаўных расійскіх народах! Якім толькі брудам ні стараецца абліць іх нацыянальныя ідэалы! Дзеля прыкладу перапішу некалькі радкоў з газеты «Русская воля» (вячэрні выпуск, № 235), дзе грамадзянін Борух Гіршавіч Міркін-Гецэвіч (падпісваецца: Борис Мирский), узяўшы на сябе ролю абаронцы вялікарасійскага нацыяналізму, так піша аб прамовах прадстаўнікоў нацыянальнасцяў на Дэмакратычнай Парадзе:

«...Однако самое тягостное и поистине трагическое впечатление производят не большевики, а представители национальностей. Характерно: все эти великодержавные агенты малых

* Як выславілася вячэрняя газета «Русская воля», № 235.

народностей выступают только с требованиями. Они не просят, они не жалуются, — они требуют... «Мы требуем от Временного правительства» — вот почти шаблонное начало всех *косноязычных деклараций национальных представителей*...» «...все эти латыши, эстонцы, литовцы, украинцы, латгальцы (есть и такие) назойливо выступают вперед и только требуют, требуют и требуют...» «...читая *шершавые речи всех этих инородческих завоевателей*, читая их требования, их вопли о правах, без единого указания на обязанности, невольно подумаешь, что это не представители России съехались, — а полувраждебные государства послали своих делегатов на предмет объявления России войны...»

«...И вот *вылезает какой-то* украинский «*представитель*» и начинает требовать, требовать, требовать...»

Вот як піша расійскі нацыяналіст з Палесціны аб украінцах, беларусах, літоўцах, эстонцах і г. д., каторыя складаюць больш чым палавіну Расіі. І яго словы знаходзяць водгук у расійскім сэрцы.

З гэтага відаць, што надта пакладацца на расейцаў нямажна. Расія на краі пагібелі свае, Расія гіне, а расійскія нацыяналісты як з Яраслаўскай і іншых губерняў, так і з Палесціны не толькі што не хочуць пазбыцца панавання над іншымі недзяржаўнымі нацыямі, але яшчэ хочуць заставіць іх ісці ўміраць за вялікадзяржаўныя апетыты маскоўскіх нацыяналістаў і прыстаўшых да іх палесцінскіх перавертняў. І яны яшчэ дзівяцца, калі недзяржаўныя народы не выказваюць ахвоты ісці на смерць дзеля таго, каб абараніць права далейшага нашэння маскоўскага ярма на сваёй шыі...

Недзяржаўныя народы ўжо нямала паклалі свае працы і пралілі свае крыві над падтрыманнем цэласці і дабрабыту Расіі. Палавіна нашай маткі Беларусі спустошана вайною, сотні тысяч дзяцей яе на выгнанні ў чужыне, сотні тысяч сыноў яе сядзяць у акопах і бароняць... каго і за што? Павінны ж яны пачуць, што яны кладуць сваё жыццё не толькі дзеля чужых мэтаў, але і за свае ўласныя. Трэба, каб у іх было за што ваяваць і што абараняць.

Бо іначай... гора Расіі!

*4.X.1917 г.*



## «ВОЗДАЙТЕ КЕСАРЕВО КЕСАРЕВИ, А БОЖИЕ — БОГОВИ»

### *Фрагмент*

Яшчэ не паспелі немцы выступіць з Беларусі, яшчэ нават самая магчымасць іх адходу астаецца пад знакам запытання, а тым часам у некаторых беларускіх дзеячаў «усходняе» арыентацыі пачынаюць разгульвацца не зусім то пахвальныя апетыты. Мне ўжо даводзілася чуць выразы накшталт такіх: «Эх, з якою радасцю я б перавешаў гэтых «незалежнікаў»[1] сваёю ўласнаю рукою!» Ясна, што калі людзям так настроеным давядзецца пабедна ўступіць у забраную цяпер часціну Беларусі, дык яны, даўшы волю сваім «вешательским» апетытам, наробяць надта шмат благога для нашай бацькаўшчыны, а разам і для рэвалюцыі. І вось я хачу перасцерагчы іх, сказаць ім, покуль не позна, што трэба ўмерыць свае апетыты і больш слухацца голасу розуму, чым сваіх пачуванняў. Моцна мыліцца той, хто кажа аб вешанні ўсіх «незалежнікаў». «Незалежнічаства» ёсць пэўны кірунак беларускай палітычнай думкі і патрабуе да сябе пільнай увагі. Я зусім адкідаю прынцып палітычнай помсты кары чалавека толькі за тое, што ён іначай думае, бачыць дабро свае бацькаўшчыны ў іншых формах быцця, чым другія. І дзеля гэтага я не магу пахваліць тых неўмеркаваных вешацельскіх апетытаў, аб якіх ішла гутарка трохі раней.

Але разам з гэтым я зусім не думаю заступацца за розных прахвостаў, наспех афарбаваўшыхся ў беларускі колер і прыкрыўшыхся фігавым лістком беларускага незалежнічаства толькі дзеля таго, каб мець магчымасць як найлепш уладжваць інтарэсы свае і сваіх блізкіх, прадаючы і глумячы інтарэсы многамільённага народа. Вот аб такіх «незалежніках» даўно ўжо плача вяроўка горкімі слязьмі ад нуды расстання.

Трэба адрозніваць палітыку ад угалоўшчыны. І наскольки я стаю за нечапанне шчырых, чэсных сыноў свае бацькаўшчыны, хаця, быць можа, і памыляючыхся, але не пакладаючы рук і не шкадуючы ні сябе [ні] нават свайго гонару ў невымоўна цяжкіх варунках працуючых над адраджэннем бацькаўшчыны, — настолькі ж горача я стаю за бязлітасную кару тых, хто, прадаючы народную долю, купляе сваё ўласнае шчасце. А такіх мазурыкаў шмат прыліпла да ці абрабляе свае «дзялішкі». Але прыйдзе час суду, калі ўсё патаемнае стане яўным і ім прыйдзецца расплачвацца за ўсе свае «гешэфты»[2]. І ніхто не мае права гаварыць аб літасці да такіх людзей.

Бяда толькі ў тым, што «плевелы» і «пшаніца» так перамешаны паміж сабою, што трэба найвялікшае асцярожнасці, каб разам з плевеламі не вырваць і «пшаніцы». Ніва наша духоўная надта рэдзенькая, ураджай на ёй надта слабенькі, і мы мусім шанаваць яго, як сваё ўласнае вока. І ў няясным выпадку лепш прасціць, чым караць. Нават некаторыя, напрыклад, здавалася б самыя пэўныя факты прыйдзецца пакідаць без увагі.

Ёсць пэўны лік шчырых беларусаў, незамянімых працаўнікоў на народнай ніве, у якіх нацыянальная ідэя засланяе сабою ўсё. Гэта іх слабая струнка, і хто патрапіць зачапіць гэтую струнку, той можа весці іх за сабою хоць у пекла. Палітычныя аферысты розных колераў, зляцеўшыся на Беларусь, ведаюць гэта і карыстаюць. І вот калі прыйдзе час расплаты, дык трэба быць надта асцярожнымі, каб не нарабіць непапраўнае бяды, разам з благім нішчачы і добрае. «Воздайте кесарево кесареви, а Божие — Богови!»[3]

*1918*

# УЛАДЗІСЛАЎ КАЗЛОЎШЧЫК

Паэт і публіцыст Уладзіслаў Казлоўшчык (сапр. Казлоўскі) нарадзіўся 29 чэрвеня 1896 года ў вёсцы Залессе Сакольскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Падляшскае ваяводства ў Польшчы). Вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі, але не закончыў яе. У 1918–1919 гадах арганізаваў беларускія школы ў сваім родным Сакольскім павеце, потым займаўся наладжваннем кааператыўнай дзейнасці на Міншчыне. У 1921–1930 гадах служыў у Войску Польскім, але працягваў трымаць лучнасць з беларускім нацыянальным рухам. Звольніўшыся са службы ў рангу паручніка, прыехаў у Вільню, дзе арганізаваў гімнастычнае таварыства «Гайсак», выдаваў часопіс «Новы шлях» і займаўся стварэннем Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (разам з Ф. Акінчыцам). У гэты перыяд У. Казлоўскі шмат піша, друкуецца ў часопісах «Шлях моладзі», газеце «Крыніца», асобнымі кнігамі выдае зборнік «Беларускія народныя песні з Сакольскага павета» (1930), вершаваны раман «Путы кахання» (1932), паэтычны зборнік «Шляхам змагання» (1935).

З пачаткам Другой сусветнай вайны У. Казлоўскі пераязджае ў Мінск, дзе з 1942 года рэдагуе «Беларускую газету». Здольны беларускі літаратар У. Казлоўскі, на жаль, зняславіў сваё імя супрацоўніцтвам з нямецка-фашысцкімі акупантамі, антысеміцкімі выступленнямі ў друку. За гэта і паплаціўся. Проста ў рэдакцыі сярод белага дня 13 лістапада 1943 года ён быў застрэлены савецкімі партызанамі.

## УСТАНЬ, РЫЦАР СЛАЎНЫ

Распутай Пагоню,
Устань, рыцар слаўны!
Вазьмі у далоню
Наш герб, сцяг дзяржаўны.

Акрый гэтым сцягам
Пакутну старонку,
Ляці роўным шляхам
За воляй ўдагонку.

Ляці, не спыніся,
Стаўляй ўсіх на ногі,
Каб зараз ўзяліся
Наладзіць нарогі.

Наладзіць нарогі
І ехаць у поле,
Араць ўсе адлогі
І чысціць з куколя;

І сеяць на плоднай
Зямельцы зярняты,
Каб быў кожны ў роднай
Старонцы багаты.

*[1929–1930]*

## ЦІ Я ЦЯБЕ ЛЮБЛЮ...

Ці я цябе люблю, пытай тых ночак цёмных,
Што ў мроях аб Табе да сну мяне кладуць,
Калышуць так мяне, нясуць у край таёмны,
Пасля мне пра Цябе ўсе сны мае снуюць.

Ці я цябе люблю, хай скажуць зоркі ў небе,
Што вечарам спяшаць прыгожа нам ірдзець
І бачаць, як не раз ў душы маёй патрэбе
Іду я, каб здалёк ў вакно Тваё глядзець.

Ці я цябе люблю, хай скажуць мае вочы,
Што свецяцца агнём, як бачаць дзе Цябе,
І доўга йшчэ пасля той вобраз Твой дзявочы
Трымаюць мне яны ў лятунках аб Табе.

Ці я цябе люблю, хай скажа маё сэрца,
Што б'ецца весялей на думку аб Табе.
І з думкай так маёй к Табе яно ўсцяж рвецца
Й знаходзіць шчасце там тады яно сабе...

О, так! люблю Цябе я, моцна закаханы;
За што, дык нават я сказаць не мог бы сам.
Адно цвярджу, што я Табой ачараваны
Й ніколі я Цябе нікому не аддам.



І толькі сам Тварэц забраць Цябе мне зможа.
Калі пакліча мо ў сваіх анёлаў лік,
Тады скажу Яму: й мяне бяры о, Божа!
Бо мне ўжо на зямлі праменьчык шчасця знік.

*1930*

## ЛЯВОН
*Апавяданне*

Вольна на сваёй зямлі гаспадарыў Лявон. Перад ягонай сілай уступалі непраходныя пушчы і ператвараліся ў ураджайныя палі. Ад ягонай працы красаваліся збожжам палеткі і рунелі сенажаці.

Рупліва даглядаў Лявон свае родныя гоні і мазолістымі далонямі песціў свае палеткі, дабываючы з іх сабе і сваёй сямейцы кусок чорнага штодзённага хлеба. Сэрцам і душой любіў ён сваю гаспадарку і быў шчаслівы.

Прыйшлі злыя суседзі. Яны забралі Лявонаву гаспадарку, дзяцей і братоў ягоных парабілі парабкамі, а самога яго прагналі з роднай хаты.

Дужы быў Лявон і дужыя былі браты ягоныя. Але загубіла іх іхняя мляўкасць сэрца, іхняя ўступлівая душа.

— Бараніце сваю зямлю! Не йдзіце ў няволю! Праганяйце ворагаў! — казала ім прыродная жыццёвая сіла. Але душа і сэрца іхняе былі апанаваны духам рабскай мляўкасці. І дух гэны казаў ім: «Не стаўце заядлага апору злому...»; «А хто бы цябе прымушаў тысяча крокаў — ідзі з ім яшчэ раз столькі...»; «Як хто табе дасць у шчаку — падстаў яму другую...»; «А хто бы дзеля сукні хацеў цябе вадзіць па судох — адступі яму і плашч...». «Багаслаўленыя ўбогія ў духу...»

І Лявон адступіў. Стаўся ўбогім духам. Ягоныя дзеці, браты і сёстры цягнулі цяжкую лямку няволі; потам і крывёю аблівалі родную зямліцу, працуючы на сваіх злыдняў.

Калі Лявону захацелася есці, ён пайшоў у лес, сеў там пры рухлівай дарозе і, выцягнуўшы, рукі прасіў міма праходзячых.

Звяры і птушкі, абачыўшы так дужага, здаровага і маладога жабрака, не маглі надзівіцца з гэткай супрацьпрыроднай з'явы і з агідай паглядалі на сядзячага чалавека. Калі Лявон падняў угару вочы, убачыў, як вялікі арол хлынуў з гары на пралятаючага голуба, злавіў яго ў капцюры, сеў на горцы, пачаў смачна есці яшчэ цёплае галубінае мяса і, кіруючы зрок на Лявона, казаў:

— Трэба сапраўды чалавекам стацца, каб упасці так нізка: маючы гэткую сілу, здароўе і маладосць — не браць, а прасіць. Нашто яму зрок і розум, калі ўсё гэта ён так марнуе?!

— Дурны ж ты, Лявоне, калі думаеш знайсці жаласць у прыродзе, — казала лісіца, смачна заядаючы птушку, злоўленую спадцішка ў кустох.

— Цяр-пі, цяр-пі — не выцерпіш! Прасі, прасі — не выпрасіш! — шчабяталі ластаўкі, пражорліва хапаючы на ляту мухі і камары.

— Глянь-нь-нь-нь як трэба! — дундзеў камар на вуха Лявону і смактаў ягоную кроў.

— Як ніс-с-с-ка ўпаў чалавек, — шыпела змяя, душачы злоўленую мышку.

Разгалісты стары дуб шырока разгарнуў свае галіны, каб закрыць сонца стаўшым пад ім кволым кусцікам. Ён заглушае іх, каб яны не забіралі з зямлі патрэбных яму сокаў. Шуміць стары дуб, глядзіць на Лявона і задумваецца над гэтай супроцьпрыроднай з’явай: сільнае, здаровае і разумнае стварэнне просіць ласкі, каб не ўмерці з голаду.

— Такі малады і здаровы, а просіць! — казалі праходзячыя міма людзі, ківаючы галовамі, і нічога не давалі Лявону.

— Рабі так, як я: не прасі, а бяры! Не будзь жабраком! Схамяніся! — крычаў з гары арол.

— Праўда, праўда! — шумеў лес.

— Але, але, — паківала прырода.

Схамянуўся Лявон. Устаў бадзёра. Выпрастаў свае шырокія грудзі і зрокам волата паглядзеў уздоўж дарогі. Па дарозе ехаў чацвёркаю адзін з тых, што забралі Лявонаву гаспадарку, што ягоных дзяцей, братоў і сёстраў парабілі нявольнікамі, што выгналі Лявона з ягонай хаты.

— Шкада мне цябе, Лявоне. Ідзі да мяне і працуй, так, як робяць твае браты і сёстры. Я цябе за тое карміць буду, — сказаў пад’ехаўшы ажырэлы крыўдзіцель.

Лявон маўчаў. Яго ўжо пакінула рабская пакора і мляўкасць. У душу ягоную ўвайшла тая бадзёрая, прыродная сіла, якая кажа арлу дзерці голуба, ластаўкам хапаць жывыя мухі, камару смактаць кроў.

— Вон з маіх палеткаў, або тут табе смерць! — крыкнуў Лявон, падскочыўшы да свайго гнабіцеля і сціснуў яго за горла.

— Прыйшоў да розуму! — сказала лісіца.

— Ужо годны нашага роду! — крычаў арол.



— Ужо не памрэ ён з голаду! — цвердзіла прырода.

— Даруй жыццё! — пішчэў ажырэлы крыўдзіцель і, неяк вырваўшыся з рук Лявона, папёр наўцёкі.

Калі Лявон прыйшоў дамоў, убачыў, як уся радня ягоная абліваецца крывавым потам, працуючы на карысць гнабіцелям пад бізунамі цівуноў.

— Браты, даволі здзеку! з нашай гаспадаркі, з нашай працы — усе плады нам! Мы гаспадары нашай зямлі! Далоў крыўдзіцеляў! — галасіў Лявон. Але ягоныя браты і дзеці не разумелі яго. Яны дзівіліся з такіх клічаў і казалі яму:

— Ці ж ты, Лявоне, забыўся, як нас вучылі: «Любіце крыўдзіцеляў вашых, рабіце дабро тым, якія вас ненавідзяць, і маліцеся за тых, якія вас праследуюць і з’агіджаюць».

— Браты! — гэта навука мляўкасці і смерці, навука для рабоў і нявольнікаў.

— Ды ж гэта, кажуць, Божыя словы!

— Не! — гэта словы людзей, што хочуць панаваць над намі! Бог інакш уладае, ягонае іншае права! Я быў у лесе, бачыў там жыццё стварэнняў, якімі кіруе сам Бог. «Айцец ваш нябесны жывіць іх». І я не бачыў там жаласці і міласэрдзя. Там права сілы. Там смерць слабейшага ёсць шчасцем дужэйшага. Там уступлівага і мляўкага чакае смерць. Там сільнейшыя або хітрэйшыя пажыраюць слабейшых.

Так «Айцец ваш нябесны жывіць іх».

Такім Бог стварыў свет. Такая ёсць ягоная прырода. І мы як частка прыроды не ў сілах супрацьставіцца ёй. Каб не ўмерці з голаду, каб не згінуць у ланцугах няволі — мусім біцца з крыўдзіцелямі, адбіраць, што ёсць нашае, каб магчы вольна гаспадарыць, ні прад кім не гнуцца! Бо лепш умерці за свабоду, чымся гніць у няволі!

Вось дзе словы жыццёвай праўды, словы дзеючай прыроды!

І змянілася радня Лявонава, зразумела жыццёвую праўду, пачула сілу непераможную і пайшла праганяць крыўдзіцеляў, каб зноў вольна загаспадарыць на сваіх родных палетках.

*1935*

## Старыя прывычкі

Расейскія царскія чыноўнікі, дарма што былі пераважна рэлігійна індыферэнтнымі ці нават нігілістамі, паддаваліся ў некаторых рэчах цалкам пад уплыў маскоўскага праваслаўнага духавенства, якое пад поглядам культуры і светапогляду стаяла на даволі нізкай ступені. Усе гэтыя чыноўнікі разам з расейскім духавенствам уважалі, што добрым расейцам можа быць толькі праваслаўны. Гэта самае яны прытарноўвалі да беларусаў і ўкраінцаў, якіх залічалі да «общерусского» народа.

Думаючы гэткімі прымітыўнымі катэгорыямі, яны чыстакроўных беларусаў, якія вызнавалі каталіцкую веру, залічалі да палякаў, і толькі тады, калі гэткі «паляк» прымаў праваслаўе, — ён раптам рабіўся ў вачох гэтых чыноўнікаў расейцам, ці «тоже белорусом».

Гэтак царкоўнае крапіла, паводле «розуму» царскіх тупіцаў, цудоўна ўплывала на біялагічную змену чалавека, перараджаючы яго з «палякаў» у «расейцы».

Спадкаемцы царызму — бальшавікі шмат чаго перанялі ад яго ў спадчыне. Насамперш яны бралі тое, што памагала ім далей праводзіць маскоўскую «общерусскую» палітыку.

Пагляд, што каталік ёсць паляк, бальшавікамі не быў развеяны, ды і больш таго, яны рабілі высновы з гэтага. Прыкладам, увесь Койданаўскі раён у Меншчыне, выкарыстоўваючы польска-касцельную чмуту тамтэйшых беларусаў-каталікоў, зрабілі польскім, заводзячы там у адміністрацыі польскую мову.

Праўда, некаторыя атуманеныя польскім касцёлам сяляне-беларусы праз сваю цемнату самі называлі (і цяпер яшчэ часам называюць) сябе «палякамі», разумеючы пад гэтым словам каталіцкасць. Але кожны сумленны чалавек павінен растлумачыць такім адзінкам, у чым іхняя памылка.

Гэтыя рэчы ўжо належаць да мінуўшчыны і, здавалася б, не трэ было б пра гэта гаварыць. Але рэч у тым, што і цяпер у некаторых беларусаў і нават у нашай сталіцы псіхічны стан вельмі блізкі да стану былых царскіх боўдзілаў. І тут некаторыя маюць нахіл глядзець на беларуса-каталіка з пэўным недаверам. Іхныя ісціна праваслаўныя сімпатыі хацелі б у каталіку бачыць паляка. «Як жа, ён скончыў ксяндзоўскую гімназію ў Друі — значыцца, пэўны паляк», — характарызуе свядомага беларуса-каталіка такі ўзгадаваны ў «общерусском православном» духу «тоже белорус».



Вось тут і вылазіць шыла з мяшка. Які-небудзь стары царскі афіцэр «добрага» старога ўзгадавання, думаючы даўнейшымі катэгорыямі, аніяк не можа яшчэ пазбыцца гэнага царкоўна-царскага туману. А якраз жа тая ўспомненая Друйская гімназія была ў руках ксяндза Абрантовіча, ведамага беларускага дзеяча, які быў кіраўніком каталіцкага ордэна г. зв. «марыянаў». Усе гэтыя Друйскія «марыяны» польскімі адміністрацыйнымі ўладамі былі ў свой час за беларускую працу мусам выселеныя ў цэнтральную Польшчу без права звароту на бацькаўшчыну. З гэтай Друйскай гімназіі выйшла вельмі многа сялянскіх сыноў і дачок — патрыётаў свае Бацькаўшчыны-Беларусі. Паводле такога «общерусского», усе мы «палякі», бо «каталікі», ды яшчэ гадунцы каталіцкае гімназіі.

Але гэта толькі адзін дробны прыклад з прыватнае гаворкі з адным з сённяшніх курсантаў афіцэрскіх курсаў. Агулам кажучы, добра было б не пытацца ў сведамага беларуса, якой ён рэлігіі, бо гэта ягоная вылучна прыватная сямейная справа, але таму што ўсё ж такі старэйшае беларускае грамадзянства было ўзгадаванае ў дзвюх рэлігіях, праваслаўнай і каталіцкай, дык цікава разгледзець тую псіхалагічную эвалюцыю, якую перажываў кожны свядомы беларус у залежнасці ад свайго рэлігійнага ўзгадавання змалку.

Як ведама, даўней беларускіх школаў не было. У беларускасці ўсведамляліся лепшыя адзінкі, якія, дзякуючы сваёй прыроджанай інтэлігенцыі, патраплялі самадзейна і крытычна думаць і рабіць адпаведныя высновы.

Сын несвядомага беларускага селяніна-каталіка быў яшчэ перад адданнем у расейскую школу вучаны сваімі хатнімі чытаць і пісаць па-польску, што ўважалася за абавязак рэлігійнае маткі, якая рупілася, каб ейнае дзіця магло маліцца з кніжак да набажэнства, што былі толькі ў польскай мове. Гэткую польскую навуку ахвоча даваў ксёндз, арганісты або іхняе абкружэнне, і яно разам з польскай кніжкай і чытаннем усочвала ў душу дзіцяці польскі дух.

Шмат бескрытычнай беларуска-каталіцкай моладзі пад уплывам такога ўзгадавання рабілася польскімі патрыётамі. Больш самадзейна думаючая частка беларускай моладзі бачыла недарэчнасці гэткай эвалюцыі і пры першым стыку з беларускім рухам сэрцам і душою захаплялася ім. Уся ксяндзоўская польская патрыятычная агітацыя, уся духовая пачуццёвасць да польшчыны ўпала на беларускую глебу і зацвіла прыгожаю беларускаю краскай. Усё, што ён чуў пра няшчасную Польшчу,

пра ейныя мукі, душа беларуса-каталіка пасля ягонага нацыянальнага ўсведамлення ў беларушчыне накіроўвалася да Беларусі. Такі свядомы беларус-каталік пачынаў любіць і любіў сваю Беларусь так, як немец Нямеччыну, як паляк Польшчу і г. д. Ён не меў больш ніякага сантыменту да Польшчы, а наадварот, палякі знялюбелі яму за іхнюю ману праз касцёл. Таксама нічога супольнага не меў ён і з Расеяй. Ён рабіўся стопрацэнтавым беларусам-незалежнікам-нацыяналістам.

Разгледзім цяпер псіхічную эвалюцыю нацыянальнага ўсведамлення беларуса-праваслаўнага з царскіх часоў.

Насамперш, беларускае праваслаўнае дзіця не атрымлівала ніякага нацыянальна-патрыятычнага ўзгадавання. Праўда, яму казалі пра «веру, цара і ацечаства», але гэтае «отечество» нацыянальна не было выразна выяўленае, бо агулам у царскай Расеі ў школах нацыянальнага духу ў цяперашнім разуменні не давалі. Там вучылі любіць вялікі геаграфічны абшар Расеі — адну шостую часціну свету, якая мае ў сабе Беларусь, Малую Русь, Вялікую Русь і «прочыя». Усё гэта было нешта падобнае, як у бальшавікоў, якія хацелі тварыць патрыятызм нейкага неазначанага «савецкага народа».

З нястачы нацыянальнага патрыятызму царскія ўзгадавальнікі клалі нацiск на сваё праваслаўе. Яно было паказнікам расейскасці. Расейская палітыка не цвердзіла, што беларусаў няма, наадварот, падчырквала, што беларусы ёсць і што яны толькі з'яўляюцца складоваю часткаю вялікага расейскага праваслаўнага народа.

Перажыўшы ўсё вышэйсказанае, трэба сцвердзіць, што ў даўнейшага праваслаўнага свядомага беларуса не было так вялікай цвёрдай псіхічнай асновы для нацыяналізму, як гэта было ў свядомага беларуса-каталіка.

Канчаючы, трэба сказаць, што для беларускага нацыяналіста рэлігійнае пытанне не павінна існаваць.

Беларусы — адна душа. Дабро свае нацыі — рэлігія гэтай душы.

***1942***

# МІХАСЬ ЧАРОТ

Паэт, празаік, драматург, грамадскі дзеяч Міхась Чарот (сапр. Кудзелька) нарадзіўся 7 лістапада 1896 года ў вёсцы Крыніца (каля Рудзенска) Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер Пухавіцкі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1917), а далей яго універсітэтамі стала само жыццё: афіцэр у царскай арміі, сведка і удзельнік падзей Лютаўскай, Кастрычніцкай рэвалюцый, грамадзянскай вайны, нямецкай і польскай акупацый Беларусі. З 1918 года жыве ў Мінску, устанаўлівае сувязі з падпольнымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі Беларусі, удзельнічае ў стварэнні партызанскіх атрадаў, з'яўляецца адным з заснавальнікаў Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА), адначасова працуе настаўнікам, вучыцца ў педінстытуце. Ён быў адным з арганізатараў літаратурнага руху ў Беларусі, «духоўным бацькам «маладнякізму» (Ю. Віцьбіч). Працаваў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь». Вучыўся ў Маскве ў Інстытуце журналістыкі (1925–1929), дзе пазнаёміўся з многімі рускімі паэтамі, у прыватнасці, з С. Ясеніным. У гэтыя гады ён займаў высокае становішча ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі: кандыдат у члены (1922–1924) і член ЦВК БССР (1924–1931). Працаваў у Дзяржаўным выдавецтве, кансультантам па рабоце з маладымі аўтарамі ў Саюзе пісьменнікаў БССР.

Адназначна прыняўшы Кастрычніцкую рэвалюцыю, М. Чарот пазней неаднойчы падкрэсліваў, што стала заняўся літаратурнай працай з часу заснавання ў Беларусі савецкай улады. У сваёй творчасці заклікаў абараняць свабоду, быць гаспадаром на ўласнай зямлі, змагацца за рэвалюцыйныя і нацыянальныя ідэалы. Адам Бабарэка бачыў характэрную асаблівасць творчасці М. Чарота ў тым, што яго вершы «сваім гучным шумам унеслі ў беларускую народніцкую па духу паэзію першую плынь новасялянскай рэвалюцыйнасці...» Гэтым рэвалюцыйным напалам прасякнута яго першая кніга вершаў «Завіруха» (1922), лейтматывам якой сталі радкі з верша «Бунтар»:

Я шумлівы чарот, я мяцежны бунтар
Я балота буджу гучным шумам...

У славутай паэме «Босыя на вогнішчы» (1921), якая ў 1922 годзе выйшла асобным выданнем і якую параўноўвалі з паэмай А. Блока

«Дванаццаць», М. Чарот адным з першых пачаў услаўляць «музыку рэвалюцыі», поступ новага жыцця. Гэтай тэме ён застаўся верны да канца жыцця.

Пасля «Завірухі» і «Босых на вогнішчы» М. Чарот выдае ўсё новыя і новыя кнігі: «Выбраныя вершы» (1925), «Карчма», «Ленін», «Марына» (паэмы, усе ў 1926), «Беларусь лапцюжная» (паэма, 1927), «Чырванакрылы вяшчун» (паэма-фантазія, 1927), «Паэмы» (1928), «Сонечны паход» (1929), «Выбраныя вершы і паэмы» (1935), Збор твораў у 3 тамах (1933–1936). Выдаў таксама зборнікі апавяданняў «Веснаход» (1924) і «Выбраныя апавяданні» (1926). Апублікаваў п'есы «Мікітаў лапаць» (апублікавана і пастаўлена ў 1923), «Дажынкі» і аднаактоўку «Сон на балоце» (1924), дзіцячыя п'есы «Пастушкі. Данілка і Алеська» (Клімавічы, 1925). Напісаў музычную драму «На Купалле» (адноўлены тэкст апублікаваны ў 1982, пастаўлена ў 1921, кампазітар А. Туранкоў стварыў на тэкст п'есы оперу «Кветка шчасця»). Па аповесці «Свінапас» стварыў з Ю. Тарычам сцэнарый першага мастацкага фільма «Лясная быль» (пастаўлены ў 1926).

У 1930-я гады М. Чарот адыходзіць ад літаратуры. Ён стаў ахвярай таго ладу, які шчыра апяваў ўсё жыццё. 23 студзеня 1937 года яго арыштавалі органы НКУС. Арыштоўваў і дапытваў паэта самы бязлітасны кат-следчы лейтэнант Быхаўскі, які склаў такое «обвинительное заключение»: «Куделько-Чарот обвиняется, что 1) является активным участником объединенной антисоветской террористической шпионско-диверсионной организации в Белоруссии, ставившей своей задачей создание национал-фашистского государства под протекторатом Польши. 2) Являлся организатором боевой террористической группы, подготавливающей в сентябре 1936 г. убийство маршала Советского Союза Ворошилова. 3) Был связан с польскими разведывательными органами и был осведомлён о всей проводимой организацией шпионской диверсионной и террористической работы по заданию поляков. Во время белопольской оккупации в Белоруссии по заданию польской разведки активно боролся против советской власти. 4) По заданию организации установил связь с троцкистско-зиновьевской организацией Белоруссии и польской организацией войсковой «ПОВ». 5) По заданию организации совершил поездку и установил связи с националистической эмиграцией в Берлине, Риге, Праге. 6) Является одним из организаторов нелегальных совещаний членов антисоветской организации. 7) Вербовал членов антисоветской организации. (Следственное дело № 9031. Начато 23 янв. 1937. Окончено 6 сент. 1937)». Абвінаваўчае заключэнне зацвярджаў наркам унутраных спраў БССР Б. Берман. Выязная сесія закрытага судовага пасяджэння ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР прыгаварыла М. Чарота да вышэйшай меры пакарання. 29 кастрычніка 1937 года самы славуты пралетарскі паэт Беларусі быў расстраляны на 41-м годзе жыцця.



## ЗВОН

Зазвані моцна, звон, загудзі,
Каб пачулі цябе на ўвесь край,
Беларуса хутчэй разбудзі,
Хоць цяпер яму спаць ты не дай!

Прыйшоў час, калі сорамна спаць;
Ўсе так шчыра за працу ўзялісь,
Ўсе жыццё пачалі будаваць,
А ты спіш... Хоць ад звону праснісь!

Паглядзі, як сусед пачаў жыць,
Што нядаўна нявольнікам быў.
Ён не спаў,— і цяпер ён не спіць,
Усім кажа, што ён яшчэ жыў.

А чаго, беларус, ты маўчыш?!
І табе годзе, братка, драмаць:
Калі можна гукаць — ты маўчыш,
Каб пасля не прыйшлось шкадаваць...

Кінь саромецца мовы сваёй,
Зваць сябе беларусам пачні,
Папрацуй над сядзібай сваёй,
А пасля з ціхатой адпачні!..

Дык звані моцна, звон, і гудзі,
Сваім гукам трывож увесь край!
Хто шчэ спіць — ты таго разбудзі,
Хто не спіць — тых да працы збірай!

*1919*

## ЖЫВЫЯ АКОРДЫ

Спакойна спі, пясняр, далёка на чужыне...
Нашто пакінуў край, які быў сэрцу міл?
Ці, можа, ты хацеў, каб на палёх краіны
Стаяла менш крыжоў і менш было магіл?

Кахаў ты родны край, дзе цемра, здзек пануе;
З народам плакаў ты, як лепшы яго сын...

Цяпер ты замаўчаў... А ўсё ж акорды чуе
Гаротны люд... Не змоўк іх дзіўны гімн.

Ў акордах чуюцца ўсё сумныя напевы;
Адбітак тваіх дум — у іх можна ўгадаць,
Шмат жальбы ў іх чуваць, і радасці, і гневу.
І звоны ланцугоў нявольніка чуваць.

Ты спевам разбудзіў народ свой напрадвесні,
Якому на алтар свой дыямент прынёс...
Яшчэ акорд не змоўк тваёй прыгожай песні,
Хоць струны абарваў жыцця паганы лёс.

Лье слёзы па табе народ і гай, і поле,
І вераць у прамень, які ты ўсім паслаў...
Акорды будуць жыць — твой дар, паэт, — на волі,
А з імі будзе жыць, хто плакаў і стагнаў...

*1920*

## СЕНАЖАЦІ І ПОЛЕ АСНЕЖАНЫ

Сенажаці і поле аснежаны,
Рэкі высланы гладкім памостам.
Воўк з гушчару дарогай няезджанай
Бяжыць к вёсцы няпрошаным госцем.

Лес у шлюбным адзенні, а хмурыцца,
Не вітае ён песнямі рання...
А у вёсках завеяны вуліцы,
Ў мяккіх гурбах купаюцца сані.

Сівалапы гуляе пад вокнамі,
Пазірае хаціне у вочы,
Толькі ў поўдзень часамі замоўкне ён,
А як вечар — у шыбы стукоча.

Дзеці пальцамі шыбы з узорамі
Размалёўваюць, тулячы плечы.
Згорнуць ў жменю сняжыначкі-зоры
І бягуць пасмактаць у запеччы.



Ноччу печ заспявае ім комінам,
Сон салодкі ў пасцелі ім сніцца,
Што ў садку яны з крыкам і гоманам
На сіле ловяць гуртам сініцу.

*1922*

## ВЯСНУ ПЯЮ

Зямлю цалуе неба сінь
Сваім чырвоным сонцатварам,
І песню ночы «ква-кум-бінь»
Пяюць мне сонныя выгары.

У высі зорак сенажаць
Вартуе месяц — дзед двухрогі,
Не хоча раніцу спаткаць
І лесам хмар ідзе, бязногі.

Капліца белая, як здань,
Ў тумане плавае за вёскай,
І сонцам спуджаная рань
Прысела зайцам за бярозкай.

Дзянніцы зірк на небе стух,
Вясковых хат дымяць галовы,
У лапцях з пугаю пастух
Трубою плача на каровы.

Пяе у полі хор калёс,
Як старац з ліраю разбітай...
Загоны вузкія авёс
Убраў зялёным аксамітам.

Вясёлы птушак перазвон
Гудзе на воблачнай званіцы...
Бязмоўнай цішы гіне сон,
Як сонца выплыве крыніцай.

І сыпле промень вогнесталь,
К вачам схілю сярпом далонь я

І пазіраю моўчкі ўдаль,
У шыр блакітнага бяздоння.

*1922*

## РАЗБУДЖАНАЯ

Беларусь,
Захутаная ў вопратку туману,
Пакорная і здзеку, і прымусу,
Удаль пайшла к няведамаму стану,
Як дзён мінулых здань.

А тут жыве крывёю вымытае цела —
Працоўных Беларусі... І цяпер
Мы ў вопратку прыгожую яе адзелі...
Не сну ўчарашняму, а праўдзе сёння вер...
Калі прачнуўся — глянь!

Раскутая,
Імкнецца ўдаль... назад не пазірае
Усё змогшая магутная,
Працуе на зямлі над пабудовай раю...
Жыцця змывае бруд.

І ставіць новыя на межах маякі,
Старанна ўвысь вядзе працоўныя палацы...
І вольна жывучы, мінулыя вякі
Дзянніцай знішчаны і болей
не прысняцца...
На Беларусі тут!

*1928*

* * *

Заціхла бура, і сонца гляне
Над родным краем балот і ніў,
К жыццю наш вольны край паўстане
І свету скажа, што ён шчэ жыў.



Няхай і стогне, няхай і плача,
Слязьмі хай мые падзелаў след.
Як моцным стане — у бой паскача
І крыўду скажа на цэлы свет.

Няхай рагочуць, няхай не вераць,
Што ты, магутны, усіх змяцеш...
Мужык працоўны сам будзе мераць
Сваю зямельку ад меж да меж.

Паўстань жа дружна за нівы, хаты,
За зліты кроўю і потам шнур....
Арлы мо згінуць, але арляты
Збудуюць моцны краіне мур.

*1922*

## ПРЫПЯЦЬ

Там, дзе сонца агнёвымі крыллямі
Хоча слёзы балота выпіць,
Шэпча хвалямі ціха гуллівымі
Чараўніца —
Прыгожая Прыпяць.

Зачараваны...
Чую, штосьці мудрае —
Мне гамоняць ўсплёскі ракі...
Я плыву...
Неба сінь... Зелень кудрая...
Берагі з вербалоз ды ракіт.

Як прыгожа!..
Ды толькі па лесе
Стогнуць цяжка сталеткі-дубы...
Ой, радзімае наша Палессе,
Хараство таё хто загубіў?..

Чую сказ:
Дрэвам жаляцца хвалі,
Што з няволі бягуць —
З пазамежаў...

Ой, не раз дрэвы з ветрам паслалі
Свой паклон
У гушчар Белавежы...

Ну, а хвалям
Назад не пабегчы,
Каб сказаць,
Што жывецца тут люба...
Заўтра іх у вішнёвы вечар
На Украіне Дняпро прыгалубіць.

Ой, Дняпро!
Хлапец сінябровы!
Буду я аб тым, што і ты, пець...
Бо кахаеш ты нашы дубровы
І яе —
Сіня-русую Прыпяць.

Ой, як моцна абнімуцца й шчыра
У краіне прыгожай, блакітнай...
Шлях, што далей —
Шырай і шырай
У стэповых прасторах раскінуты.

Ой, Дняпро!
Прыгалубі, мілы,
Сіня-русую дзеўчыну Прыпяць,
Хутчэй сонца
Агнёвымі крыллямі
Зможа слёзы балота выпіць.

Я плыву...
І плывуць летуценні...
Іх ніхто не пасмее стрымаць...
Рэчкі твар
Цалавалі цені,
Як дзіцятка цалуе маці.

А дубы
Шапацелі нясмела,
Нібы слухалі мудрае веча...
Па-над рэчкай
Туманам белым



Спаць лажыўся
Ружовы вечар.

Толькі хвалямі,
Хвіля за хвіляй,
Калыхала пяшчотна Прыпяць...
Там —
Дзе сонца агнёвымі крыллямі
Хоча слёзы балота выпіць.

*1926*

* * *

Я не чакаў
І не гадаў,
Бо жыў з адкрытаю душою,
Што стрэне лютая бяда,
Падружыць з допытам,
З турмою.

Прадажных здрайцаў ліхвяры
Мяне зацiснулі за краты.
Я прысягаю вам, сябры,
Мае палі,
Мае бары, —
Кажу вам — я не вінаваты!

*1937*

## ДЗІЎНАЯ ЗАЯВА

*Апавяданне*

### I

Здарылася гэта ў Пятроўку. Была нядзеля. Сонца пачало пячы з самага рання. Уся вёска пацягнулася ў цэркаў.

Стары Апанас Гарбуз хаця і лічыў сябе набожным, але ў цэркаў хадзіў рэдка. Ён больш маліўся дома дзеля таго, што

недалюбліваў папоў. «Гавораць у цэркаўцы адно, а робяць зусім другое», — адказваў ён, калі яго пыталі, чаму не любіць папоў.

Сёння, як заўсёды ў святую нядзельку, пад'еўшы добра бліноў з верашчакаю і вычысціўшы міску беленай зацiркі, Гарбуз выйшаў у садок, сеў на лаўцы пад кустом агрэсту і стаў пазіраць на агарод. Ён вельмі дзівіўся, што, нягледзячы на сухую вясну, варыва на градах «шалела».

— Вось толькі агуркі трохі заняпалі, мусіць апошняя спёка пашкодзіла, — прагаварыў ён сам сабе і пагладзіў рукою па жываце, які ўжо зверху стаў награвацца ад сонца.

У гэты час сусед Мікола Шклянка, ідучы з поля, убачыў, што ў яго агародзе рыецца Гарбузова свіння.

Шклянка быў чалавек сярдзіты. Гэта можна было ўгадаць па тым, што ён заўсёды кусаў свае «каціныя» вусы і жаваў канец барады. Ён мог ні за што ні пра што наваліцца на чалавека, абляяць яго апошнімі словамі, пасля прасіць прабачэння і ў канцы зноў пачынаць лаяць.

Убачыўшы чужую свінню, Шклянка ўхапіў здаравенны кол каля загарадкі і стаў ганяцца за ёю. Свіння кінулася на Лыску, якога жонка Шклянкі ўспела выпусціць з хаты, пачуўшы голас гаспадара.

— Лыска, кусі! Каб яе ваўкі задушылі! — крычаў нечалавечым голасам Шклянка.

Свіння, не бачачы ратунку, рынулася ў плот, каб выскачыць у свой агарод, але плот быў моцны, і яна, прасадзіўшы галаву, ніяк не магла выцягнуць другой палавіны сваёй асобы.

Шклянка гэтым часам падбег да яе і так аперазаў калом па спіне, што яна з болю заглушыла піскам усю вёску.

У гэту хвіліну Гарбуз якраз ганяў з лысіны мух. Ён хацеў нешта на іх казаць, але, пачуўшы такі піск, так і астаўся з расчыненым ротам.

— Божухна! — закрычаў, апамятаўшыся, Гарбуз. — Ці не маю Перапалосую хто пачаставаў.

З апошнімі словамі ён пабег на месца крыку.

Свіння так і асталася ляжаць у плоце, а Шклянка стаяў з калом у руках і з пераляку не ведаў, што рабіць.

Пабачыўшы Гарбуза, ён хацеў кінуць кол у крапіву, але Гарбуз закрычаў:

— Стой! Стой, каб цябе пярун забіў! Што гэта ты зрабіў? Апошнюю свінку...



— А навошта пускаеш у чужыя грады? Для тваёй свінні сеяў, ці што? Лысая падла! — адказаў Шклянка і пайшоў на свой двор.

— Дык ты думаеш, гэтым усё і скончыцца? — крычаў услед яму Гарбуз. — Я гэтага не дарую! Яшчэ ёсць воласць, суд!..

Пачуўшы гэты крык, Гарбузіха кінула паліць у печы і выскачыла з чапялою ў руках, забыўшыся, што на гаршках дапякаўся апошні блін.

Яна, даведаўшыся ў чым справа і пабачыўшы, што Шклянка з жонкаю на сваім дварэ, выбегла на вуліцу і пачала крычаць і клясці іх на чым божы свет стаіць:

— Недавярак! Арыштант! Злодзей! Гэта табе не каноплі Васілёвы цягаць з падсвіронка!.. Каб ты да святога Пятра не дажыў! Каб ты гэтак поўзаў жыватом, як мая свінка поўзае!..

— Годзе! годзе ўжо! — сутрымліваў яе Гарбуз. — Пашануй святой нядзелькі.

На гэты крык выскачыла на вуліцу Домна, кума Гарбузіхі. Яна не разбірала, хто і ў чым вінаваты, а зразу навалілася на жонку Шклянкі і пачала яе лаяць.

— Добра, добра ведаю, што ты за штучка! — крычала Домна.

— А ты не сунь носа, куды не трэба! Ты нічога не бачыла! — агрызнулася жонка Шклянкі.

— Што? — мацней закрычала Домна. — Ты яшчэ агрызацца ўздумала? Не бач ты свету, калі я не бачыла, як твой «ваўкалака» (Шклянку за яго сярдзіты від у вёсцы звалі «ваўкалакам»)... як твой «ваўкалака»... — прагаварыла яна яшчэ раз, але далей не ведала, што казаць, бо не ведала, за што сварацца. Сваю гутарку Домна кончыла тым, што павярнулася задам... і пабегла да Гарбузоў, каб распытаць, што такое здарылася.

Хутка Гарбузы пакаціліся на свой двор; толькі людзі, якія збегліся на гэты лямант, гутарылі паміж сабою, хто больш вінен. Як трэ было і чакаць, большасць вінавацiла Шклянку.

Кончыўся ўвесь гэты кірмаш тым, што стары Сцяпан, выкурыўшы тры люлькі чужога тытуню, сказаў:

— Што нам да іх? Няхай самі разбяруць, хто больш вінен, і пагодзяцца, а нам час разысціся. Толькі дай, Сымон, яшчэ на люльку тытуню.

— Закурвайце, мужчыны! — адазваўся Сымон, выняўшы з-за пазухі вялікі капшук з тытунём.

Усе закурылі і разышліся.

## II

Прайшло некалькі дзён. У воласці адбываліся суды. Сходавая была перапоўнена сялянамі. Адны з іх былі закліканы павесткамі, а другія прыйшлі проста так, каб пачуць навіны. Хаця яны паміж сабою гутарылі і «ціхенька», але часам падымаўся такі гвалт, што прымушаў высоўваць галаву аднаго з суддзяў з пакоя, дзе разбіраліся справы, і крычаць на ўсё горла:

— Мужчыны, не крычыце! Бо старшыня вон павыганяе!.. І што за народ! — і галава гэта зноў знікала.

Ад дыму ў сходавай нікога не было відаць, калі ўкаціўся ў яе Гарбуз, трымаючы ў руках нейкую паперу.

— А браточкі мае! Вось накурылі, і бацькі роднага не распазнаў бы, — забурчаў пад нос Гарбуз і стаў працiскацца да тых дзвярэй, якія вялі да пана старшыні.

Дзверы гэтыя ён ведаў добра, бо не раз прыходзілася іх адчыняць. Толькі ён даціснуўся да іх, пацягнуў за клямку, як зараз нехта закрычаў:

— Куды не ў чаргу прэшся! Паклічуць, як будзе пара!..

Але Гарбуз на гэта не звярнуў увагі: ён ведаў, што яго не паклічуць, бо заявы аб яго справе там не было, — ён трымаў яе ў руках.

Пастаяўшы трошкі ля дзвярэй, Гарбуз першым увайшоў у канцылярыю, як толькі адтуль выйшла якаясь баба — уся чырвоная, як рак печаны.

Нічога не кажучы, ён падышоў да стала і палажыў сваю паперу пад самы нос старшыні.

— А ты чаго не ў чаргу? — пачаў быў старшыня, але, спазнаўшы Гарбуза, таго самага Гарбуза, з якім пару дзён назад выпіваў у Залмана, ён дабавіў: — Хіба такая пільная справа?

— Вельмі пільная, паночку! Калі ласка, каб зараз і разабраць... Буду вельмі дзякаваць, і як кончыцца суд...

Але старшыня не даў яму дагаварыць, а сказаў, каб выйшаў у сходавую і пачакаў, пакуль будуць разглядаць гэту паперу. Гарбуз выйшаў.

Дзеля таго, што старшыня быў няграматны, то ён адразу гэту паперу падсунуў да пісара і запытаў:

— Аб чым там?

Пісар глянуў на паперу, раскінуў яе і здзіўлена стаў ківаць плячыма. На паперы нічога не было напісана, але нешта было намалёвана.



— Нічога я тут не разбяру! — сказаў пісар, — разбірайце яе самі. Гэты чалавек, мусіць, звар'яцеў: падаў не заяву, а чорт ведае што! І чаго толькі не пачуеш і не пабачыш ад гэтых паганых мужыкоў! Ох, ох, — і стаў пісаць далей, перадаўшы яе старшыні. Старшыня доўга круціў яе ў руках, нават пад святло паглядзеў, але каб зразумець што, дык нічога. Усе суддзі папарадку разглядзелі, і ніхто нічога не мог паняць.

— Я восьмы год суддзёю, але яшчэ такой заявы не бачыў, — загаварыў адзін суддзя, які да таго быў п'яны, што сеў у куточку паміж дзвюх сцен, каб толькі, пахіснуўшыся, не паляцець на падлогу.

Вы не дзівіцеся, што суддзя быў п'яны. Тут усе суддзі былі п'янымі, а таксама і старшыня і пісар. Бо суды цягнуліся ўжо трэці дзень, а пасля кожнай разабранай справы, як бы яна ні канчалася, на чым бы баку ні была праўда, ім усім прыходзілася ўставаць з крэслаў, ісці ў пакой, які адзначаўся для судоў, калі прыязджаў земскі начальнік, і там выпіваць некалькі бутэлек гарэлкі. Але, нягледзячы на тое, што былі ўсе п'яныя, яны рабілі сваё і судзілі так, як на гэта паказвае «стацця», якая ўжо даўно стаяла ў вышэйсказаным пакоі. Яны думалі, што з такою самаю «стаццёю» прыйшоў і Гарбуз, дзеля чаго «дзела» яго «без паследства» астаўляць няможна было.

— Пазваць яго сюды! — закрычаў старшыня. — За каго ён нас лічыць, каб падаваць заместа заявы чорт ведае што!..

Зараз з'явіўся Гарбуз.

— Ты гэта што? Смяяцца ўздумаў над начальствам? — закрычаў зноў старшыня і націснуў слова «начальствам».

— Барані божа, паночку! — нясмела загаварыў Гарбуз. — Ды што гэта? — запытаў пісар, паказваючы на яго паперу.

— Гэта... гэта заява, каб вы разабралі маю справу з суседам Шклянкам.

— Ці ж тут што-небудзь напісана? — загаварыў пісар мацней, коса паглядаючы на Гарбуза.

— А ці ж вы, паночкі, няграматныя, што пытаеце мяне?

— Дурань! З канцылярыі паганю! — закрычаў старшыня і высмаркаўся ў кулак. — Хто табе напісаў?

— Там не напісана, пане старшыня, а намалёвана, — паправіў пісар, які быў цверазейшы за ўсіх.

— Гэта мне Юрка Арцёмаў напісаў, бо сам я, як ведама, няграматны...

— А ён граматны... Юрка той? — запытаў адзін суддзя...

— Таксама не, але за залатоўку ўзяўся напісаць... Ён казаў, што ў судзе разбяруць, хоць трохі галовы і паломяць.

— Каб ён сабе ногі паламаў, — прамармытаў п'яны суддзя, седзячы ў кутку.

— Бачыце, мае паночкі, — казаў далей Гарбуз, — усё сяло абышоў, нікога граматнага не знайшоў. Андрэй Базылёў умее пісаць, але ён нейкі пляменнік Шклянкі, дык ні за якія грошы не ўзяўся напісаць заявы на свайго дзядзьку... Думаў не судзіцца, але, дзякуй яму, Юрка зрабіў ласку, напісаў...

— Вось каб яго палажыў на лаўку ды дубцамі спісаў, каб дзве нядзелі сядзець не мог. Ведаў бы, як пісаць! — сярдзіта прабасіў суддзя, які ўжо даўно меціў у старшыні і заўсёды стараўся актаваю ніжэй гаварыць за другіх суддзяў.

— Дык ты растлумач, што ўсё гэты малюнак азначае... Людзі... свіння, і ўсё такое... — запытаў зноў старшыня, — што гэта такое?

— Гэта і ёсць тая самая заява, што Юрка пісаў...

— Цьфу! Свінячая морда! — гукнуў старшыня і плюнуў якраз на пісараў камаш, але той як бы ненарокам выцер яго аб крысо світы суддзі, які сядзеў радам з ім. — Растлумач нам, у чым справа? Чуеш?! А то...

— Гэта ўсё аб свінні, што сусед Шклянка забіў, — пачаў гаварыць Гарбуз, а пра сябе думаў, што і тут усе няграматныя...

— Ну, дык як далей? Кажы, кажы!..

— Вось я і кажу, — тлумачыў ім Гарбуз, — тут аб усім напісана. Вось гэты чалавек, што з калом у руках, гэта мой сусед Мікола, а шклянка намалёвана — гэта яго прозвішча. А гэта плот... і вось тая самая дзірка, кудэю свіння лезла. Вось гэта самая свіння, што тут намалёвана, і ёсць мая Перапалосая, якую сусед і забіў у гэтай дзірцы, што вы бачыце, і вось гэтым калом, што ў руках трымае... А ўнізе, бачыце, намалёваны чалавек — гэта я сам — Апанас, а каля мяне гарбуз намазаны — гэта маё прозвішча Гарбуз...

— Значыцца, і тут непісьменныя, — падумаў услых Гарбуз і цяжка ўздыхнуў.

Усе ўвесь час сядзелі з расчыненымі губамі, а як Гарбуз кончыў тлумачыць, разам сказалі:

— Разумеем. Вось яно што!!

— Як жа будзе? Апошнюю свінку...

— Добра, добра! — пачаў старшыня. — Мы пасля разбярэм гэту справу і адповедзь дамо... Павестку пашлем...



— Але дзіўная твая заява! — у адзін голас загаварылі. — Відаць, што няграматны пісаў, — дабавіў пісар і сунуў гэту паперу пад сукно...

«Або няграматныя чыталі», — падумаў Гарбуз і, пакланіўшыся да пояса, выйшаў з канцылярыі.

Ідучы дамоў, ён увесь час думаў: «Хто граматнейшы: Юрка, што гэту заяву пісаў, ці суддзі, што не маглі яе прачытаць».

Ужо пачынала змяркацца, калі Гарбуз узышоў на двор. Першая яго спаткала жонка, якой ён і стаў расказваць, як было ў судзе.

*1921*

# ВАСІЛЬ ШАШАЛЕВІЧ

Драматург і празаік Васіль Шашалевіч нарадзіўся 9 студзеня 1897 года ў вёсцы Мхінічы Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Краснапольскі раён Магілёўскай вобласці) у сям'і валаснога пісара. Вучыўся ў Магілёўскай духоўнай семінарыі (1910–1914). З пачаткам Першай сусветнай вайны апынуўся ў Яраслаўлі, паступіў там у юрыдычны ліцэй. Не скончыўшы яго, вярнуўся на радзіму, працаваў у пачатковай школе в. Ясенцы. З 1919 года выкладаў літаратуру ў Краснапольскай школе, дзе настаўнікамі былі яго старэйшы брат Андрэй (які пазней стаў вядомым празаікам Андрэем Мрыем) і сёстры Аксіння і Настасся. Шашалевічы знаходзіліся ў цэнтры грамадска-культурнага жыцця Краснаполля: яны арганізавалі ў школе літаратурны і драматычны гурткі, выдавалі рукапісны часопіс «Пралеска», збіралі фальклор, выступалі з лекцыямі на навукова-папулярныя тэмы, стварылі хор і аркестр народных інструментаў, народны тэатр, для якога В. Шашалевіч пісаў аднаактовыя п'есы. Потым В. Шашалевіч пераехаў у Мінск, працаваў на кінафабрыцы, стаў сябрам Беларускага таварыства пісьменнікаў і кампазітараў, уступіў у літаб'яднанне «Узвышша», заняўся творчай працай.

16 мая 1925 года Беларускай драматычнай студыяй у Маскве была пастаўлена першая яго драма «Апраметная» («Зруйнаваная цемра»), якая мела вялікі поспех. У аснове яе — фальклорны сюжэт пра зачараваную ведзьмаком красуню Алёну, якую абуджаюць тры браты-асілкі. Сцэнічны поспех «Апраметнай» (на жаль, тэкст яе не захаваўся) паспрыяў стварэнню новых п'ес — «Змрок», пастаўленай у 1927 годзе ў БДТ-1 (цяпер тэатр імя Янкі Купалы), і «Воўчыя вочы» (надрукавана ў 1929 годзе ў часопісе «Узвышша), якія раскрывалі жыццё паслярэвалюцыйнай вёскі.

У ліпені 1930 года В. Шашалевіч быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» (СВБ), але ў лютым 1931 года яго вызвалілі з турэмнага зняволення. Пасля гэтага ён паспеў яшчэ напісаць п'есы «Рой» і «Сімфонію гневу», якая была ў 1935 годзе пастаўлена ў БДТ-1. Крытыкі і рэжысёры-пастаноўшчыкі трактавалі «Сімфонію гневу» як антыфашысцкі твор. Але ў ім яскрава праглядваюцца падзеі ў нашай краіне, раскрываецца лёс творчай інтэлігенцыі ва ўмовах дыктатуры. Рукапіс п'есы быў знойдзены ў Маскве і апублікаваны ў часопісе «Тэатральная Беларусь» (1992, № 4).



У кастрычніку 1936 года В. Шашалевіч арыштаваны паўторна і асуджаны на 10 гадоў канцлагераў. 23 кастрычніка 1941 года таленавіты беларускі драматург загінуў на лесапавале, не дажыўшы да 45 гадоў.

## СІМФОНІЯ ГНЕВУ

### Акт III

### АБРАЗ 8

Парадныя мармуровыя сходкі кансерваторыі. Прафесар С а л ь к падымаецца ўгару. На адну з пляцовак выбягае шумлівы н а т о ў п студэнтаў і студэнтак, воплескамі і крыкамі сустракаюць Салька.

К р ы к і. Віват прафесару Сальку! Віват! Віват! Няхай жыве прафесар Сальк! Віват! Вітаем прафесара Салька!

С т у д э н т. Прафесар Сальк! Мы рады, што вы зноў вярнуліся да нас і зноў мы будзем вашымі вучнямі!

С а л ь к. Добры дзень, добры дзень, дарагія мае сябры! Я яшчэ болей рад, што бачу вас, што вы не забыліся на мяне! *(Вітаецца.)* Зноў я сярод вас, зноў буду вучыць вас!.. Так, так... Гэта вялікае шчасце!.. Вось бачыце, мы зноў сустрэліся з вамі... Ну, выбачайце, мне трэба ісці гутарыць з дырэктарам, а потым я зайду да вас...

С т у д э н т. Прафесар Сальк! Мы просім вас, каб вы выкладалі ў нашай групе.

Г а л а с ы. І ў нас, і ў нас!

С а л ь к. Добра, добра. Я скажу дырэктару.

Сальк ідзе вышэй. Перад ім расчыняюцца дзверы круглага «пакоя прафесараў» кансерваторыі. За сталом сядзяць некалькі прафесараў, сярод якіх д ы р э к т а р і А л ь т н е р. Убачыўшы Салька, усе ўстаюць і вітаюць яго.

Д ы р э к т а р. Прафесар Сальк! Заходзьце, будзьце ласкавы. Мы рады Вас зноў бачыць у сценах кансерваторыі.

Сальк уваходзіць, вітаецца з усімі. Ён не можа справіцца з хваляваннем.

С а л ь к *(працягнуўшы руку Альтнеру)*. Прафесар Альтнер. Я глыбока вінаваты перад вамі. Я абразіў вас, прафесар Альтнер... Прашу прабачэння...

А л ь т н е р. Калі ласка. Я не злапамятлівы.

С а л ь к. Я з’явіўся, пане дырэктар, згодна вашага запрашэння.

Д ы р э к т а р. Прашу садзіцца. Мы адчыняем у кансерваторыі яшчэ адну раўналежную групу па класу тэорыі музыкі і кампазіцыі. Рада прафесараў кансерваторыі пры абмеркаванні кандыдатуры выкладчыка застанавілася на вашай.

С а л ь к. Я вельмі рад і глыбока ўдзячны за гонар, які мне аказала рада прафесараў. Але я прасіў бы, каб мне далі магчымасць займацца з маімі былымі вучнямі. Толькі што яны прасілі мяне аб гэтым.

Д ы р э к т а р. Я разумею вас. Рада прафесараў разгледзіць вашу просьбу і, я думаю, не будзе супярэчыць. Між іншым, у гэтай новай групе будуць вучыцца студэнты найбольш здольныя. Вядома, сярод іх будуць таксама і вашыя вучні. Так што, я думаю, прафесар Сальк не будзе супярэчыць прызначэнню яго ў новую групу.

С а л ь к. Я згодзен.

Д ы р э к т а р. Гэтая новая група ў нас амаль што гатова і аформлена, так што заняткі можна распачаць хоць заўтра. Наконт матэрыяльных умоў...

С а л ь к. Адносна матэрыяльных умоў я ніколі не спрачаўся.

Д ы р э к т а р. Вашая ранейшая пенсія павялічваецца на 25 працэнтаў. Такім чынам вы будзеце атрымліваць у нас найбольшы аклад.

С а л ь к. Скажу шчыра, мне непрыемна такое вылучэнне.

Д ы р э к т а р. Таксама мы нават можам выдаць вам за месяц наперад вашу пенсію, каб вы маглі прывесці сябе ў больш прыстойны выгляд.

С а л ь к. Я вельмі ўдзячны і прашу прабачэння за мой выгляд. Цяжкія матэрыяльныя абставіны... Ваша запрашэнне было зусім нечаканае.

Д ы р э к т а р. Калі ласка... Зараз гэта не мае значэння... Так... Ёсць яшчэ некаторыя абставіны, пра якія я павінен сказаць, прафесар Сальк. Абставіны, як бы сказаць, крыху непрыемнага характару...

Альтнер і іншыя прафесары выходзяць.

С а л ь к. Я слухаю вас, пане дырэктар.

Д ы р э к т а р. Я думаю, пану Сальку вядома, што наша кансерваторыя амаль на 80 працэнтаў знаходзіцца на дзяржаўным утрыманні. Без дзяржаўнай субсідыі мы не праіснавалі б і пары дзён... Гэтыя абставіны, прафесар Сальк, прымушаюць нас быць вельмі пільнымі ў адносінах нашага лектарскага складу. Зусім зразумела, урад не дапусціць, каб кансерваторыя, на якую трацяцца такія значныя сумы, з’яўлялася рассаднікам антыдзяржаўных і антыпалітычных ідэй.

С а л ь к. Я разумею, пра што пан дырэктар хоча сказаць...

Д ы р э к т а р. Я буду гаварыць зусім канкрэтна. Дырэкцыя кансерваторыі пастаўлены ў неабходнасць патрабаваць ад прафесараў, каб іх палітычная добрасумленнасць была на вышыні... На жаль, я павінен паведаміць прафесару Сальку, што яго палітычная рэабілітацыя недастатковая... недастатковая.

С а л ь к. Калі дырэкцыя лічыць мяне палітычна нядобрасумленным, мне дзіўна, што мяне запрасілі на перамаўленні...

Д ы р э к т а р. Прафесар Сальк не павінен абражацца на мае словы. Я прымушаны гаварыць зусім адкрыта. Мы запрасілі вас у кансерваторыю, будучы ўпэўненыя, што вы гэтую рэабілітацыю набудзеце. Дзеля гэтага вам патрэбна будзе зрабіць такі нязначны крок, што мы не сумняваемся, што вы гэта зробіце.

С а л ь к. Што я павінен зрабіць?

Д ы р э к т а р. Прашу прабачэння, прафесар Сальк, пра вас ходзяць самыя разнастайныя чуткі... Нібыта ваша кампазітарская дзейнасць за апошні час набыла характар, непажаданы ў палітычных адносінах.

С а л ь к. Адкуль такія весткі? Наколькі мне вядома, ніхто з прафесараў кансерваторыі не знаёмы з маёй апошняй творчасцю.

Д ы р э к т а р. Ходзяць чуткі, прафесар Сальк, што ў апошні час вы пішаце сваю музыку для вуліцы... Не мая справа асуджаць вас за гэта і, магчыма, у вас ёсць свае апраўданні. Аднак павінен сказаць, што да гэтага часу ў нас яшчэ не было падобнага прэцэдэнту. Усё гэта прымушае нас з пэўнай пільнасцю паставіцца да паступлення вашага на службу ў кансерваторыю.

С а л ь к. Я думаю, што прыйшоў у кансерваторыю... Аднак я цяпер бачу, што трапіў у аддзяленне «Канторы сакрэтнага нагляду»...

Д ы р э к т а р. Прафесар Сальк!

С а л ь к. Чаго ж патрабуе ад мяне дырэкцыя?

Д ы р э к т а р. Вы павінны адмовіцца ад сваёй творчасці за апошні час і напісаць аб гэтым ліст у газету. Вы павінны шчыра прызнацца ва ўсіх сваіх палітычных грахах.

С а л ь к. Я хацеў бы ведаць, якія мае палітычныя грахі?

Д ы р э к т а р. Прафесару Сальку гэта больш вядома, як нам... Аднак самай галоўнай умовай вашага паступлення на службу ў кансерваторыю мы ставім падпісанне вамі гэтага дакумента...

С а л ь к *(чытае)*. «Невядомымі злачынцамі ўкрадзена мелодыя майго апошняга маршу, якая дастасавана да антыдзяржаўных і рэвалюцыйных слоў і спяваецца на вуліцах, як песня, у якой нібыта адбіваецца настрой беспрацоўных. Ганьбуючы такі ўчынак, я сам знішчаю гэтую сваю мелодыю, якая зрабілася песняй бадзяг і злодзеяў». Гэта няпраўда! Абсалютная хлусня! Ніхто не краў у мяне мелодыю!

Д ы р э к т а р. Аднак гэта ж ваш марш спяваюць на вуліцах беспрацоўныя?

С а л ь к. Беспрацоўныя, а не бадзягі і злодзеі. Я не падпішу гэтага дакумента.

Д ы р э к т а р. Прафесар Сальк. Вы павінны зразумець, што гэта — пустая фармальнасць...

С а л ь к. Не, не пустая фармальнасць. У гэтым дакуменце мой лёс! Я бачу гэта.

Д ы р э к т а р. Калі так, навошта вы свой лёс і жыццё стаўляеце на карту?

С а л ь к. Калі б я падпісаў яго, я ненавідзеў бы сябе ўсё сваё жыццё.

Д ы р э к т а р. Прафесар Сальк! Мне шкада вашага генія. Вы павінны падпісаць гэта і застацца ў кансерваторыі.

Сальк ідзе да дзвярэй.

Прафесар Сальк! Я не пушчу вас! Не губіце сябе. Мы цэнім вас, мы ідзем да вас насустрач. Перад вамі зноў адчыняюцца дзверы храма мастацтва. Няўжо ж вы прамяняеце гэтае вялікае мастацтва на гразь, голад і галечу? Каму вы хочаце служыць? Каму ў ахвяру прыносіце вы сваё жыццё і геній? Няшчасным абшарпанцам, якія страцілі вобраз людзей? Ці варты яны гэтага? Мы даём вам усё — славу і грошы, — што яшчэ патрэбна мастаку? А што дадуць яны вам, апрача сваіх бед і няшчасцяў? Ці разумеюць гэтыя людзі мастацтва? Ці патрэбна яно ім? Рабы і плебеі старадаўняга Рыма крычалі: «Panemet circenses» — «Хлеба і відовішчаў»! Іх звярыная душа патрабавала мастацтва. А цяпер вы чулі, гэтыя людзі крычаць: «Хлеба і працы»! Хто з іх просіць мастацтва?

С а л ь к. Няпраўда! Вы хлусіце! Смешна было б ім прасіць у вас мастацтва.



Д ы р э к т а р. Прафесар Сальк! Вы прыйшлі да нас, так? Значыць, у вас была думка вярнуцца да нас?

С а л ь к. Каюся... Вельмі моцная была спакуса. Але цяпер ужо сам бачу, што для мяне няма звароту... *(Ірве паперку, якую трымаў у руках. Дырэктар, акамянеўшы, глядзіць на яго.)*

Паўза.

Д ы р э к т а р. Прафесар Сальк! Што вы зрабілі! Гэта самагубства!

С а л ь к. Бывайце... *(Выходзіць і спускаецца па сходнях. Студэнты зноў сустракаюць яго шумнымі галасамі.)*

Г а л а с ы. Прафесар Сальк! Прафесар Сальк! Зайдзіце да нас!..

С а л ь к *(хмура)*. Не кратайце мяне... я не служу у вас...

Студэнты прыціхлі і змоўклі. Паўза. Прафесар Сальк моўчкі ўваходзіць у свой змрочны пакой.

Пераключаецца святло ў пакоі кампазітара. Уваходзіць Я ў г е н я.

Я ў г е н я. Ромусь, ты дома? Дзе ты? *(Паўза.)* Ромусь! *(З жахам кідаецца ў глыбіню цёмнага пакоя.)* Сальк! Сальк! Што ты хацеў зрабіць?.. Аддай рэвальвер!.. *(Цягне яго за рукі на сярэдзіну пакоя, Сальк бязвольна ідзе за ёю.)* Што з табою? Што здарылася? Пакінуць жыццё! Родны мой! А я? А я? Ты на мяне забыўся.

С а л ь к. Даруй мне. Я не вытрываў здзекаў жыцця.

Я ў г е н я. Што зламала цябе? Скажы мне.

С а л ь к. Я не магу музыкай заклікаць у рабства людзей!.. Я адмовіўся.

Я ў г е н я. Сальк! Сальк! Што табе кансерваторыя? Няўжо ж з-за гэтага развітацца з жыццём?

С а л ь к. Мая місія скончана: я напісаў «Сімфонію гневу». Далей мне жыць не важна.

Я ў г е н я. Не, не скончана твая місія: ты павінен сыграць сваю сімфонію. Ніхто яшчэ не чуў яе.

С а л ь к. Так, гэта праўда. Але мне цяжка, так цяжка!

Я ў г е н я. Сядзь за раяль, музыкай развей сваю роспач. Ну, я прашу цябе, сыграй якую-небудзь імправізацыю. Табе і мне лягчэй будзе на сэрцы. Навошта адчайвацца? Хіба вечна будзе цягнуцца ноч?.. Альбо ты думаеш без кансерваторыі нам свет завязаўся?.. Я ж знайшла сабе працу... Хлопчык і дзяўчынка — такія слаўныя!.. Вучыць па-французску і па-нямецку. І я, такая

дурная, адмовілася! Заўтра ж пайду і скажу, што згодна... Бачыш, я адмовілася, бо доктар прызнаў мяне хворай, што ў мяне сухоты. Можа, гэта няпраўда? Ён сказаў, што ёсць пагроза, нібыта мае сухоты могуць перайсці ў хуткацечныя. Гэта глупства, я не веру. Вось пакладзі мне руку на лоб, бачыш, як гарыць мая галава?

С а л ь к. Ты хворая, бедная мая...

Я ў г е н я. Гэта мігрэнь, звычайная мігрэнь... А калі і смерць? Ну што ж? Хто можа зачыніцца ад смерці і крыкнуць ёй «мяне няма дома»?

Уваходзіць Ж у р н і ц к і.

Хто там?

Ж у р н і ц к і. Гэта я. Прафесар Сальк, добры вечар.

С а л ь к. Добра, што вы зайшлі.

Ж у р н і ц к і. Я дачуўся, што вы адмовіліся...

С а л ь к. Вы прыйшлі выказаць спачуванне?

Ж у р н і ц к і. Я ведаю, што вам цяжка, але я чакаў гэтага. Прафесар Сальк, я зноў прыйшоў да вас ад групы беспрацоўных музыкантаў. Вы ўжо чулі, што пачаўся вялікі галодны паход з правінцыі ў сталіцу. Ідуць дзесяткі тысяч людзей і праз два тыдні яны будуць у нас. Мы хочам свой канцэрт дастасаваць да дня прыходу галодных. Што са сваіх твораў вы дасцё нам выканаць на канцэрце?

С а л ь к. Я аддам вам сваю апошнюю рэч, «Сімфонію гневу». Калі яна можа замяніць аплявуху таму свету, які я пакінуў, — выканайце яе.

## МУЗЫЧНЫ АБРАЗ 12

У абсалютнай цемры парывы і дзікае скавытанне ветру. Тупат людзей, якія ўвесь час некуды бягуць. Далёкі гул натоўпу. І раптам заляскатаў кулямёт і як бы ў адказ адчайным дысанансам, як раненыя насмерць, закрычалі скрыпкі і сціхлі. Сярод скавытання ветру ціхая далёкая музыка «галоднага маршу».

Асвятляецца эстрада. С а л ь к кіруе аркестрам. Музыка расце. Аркестр набывае моц. Аркестр іграе. У гуках медзі, ва ўдарах барабанаў чуюцца магутныя, страшныя крокі мільёнаў галодных і рабоў. Ідуць абураныя людзі, якім нічога не страшна, ідуць з горада ў горад, з краіны ў краіну. Ідуць і руйнуюць усе перашкоды на шляху. Марш гневу запоўніў сабою залу...



І тут у зале здарылася нешта нечуванае, чаго яшчэ не было ні на адным канцэрце: група гледачоў, пачуўшы знаёмую песню, падняўшыся з месц, запела: «Галодныя сем'і, ідзіце на вуліцы»...

Твар Салька асвятліўся радасцю, ён кіруе аркестрам і хорам.

Ш э ф *(з ложы крычыць)*. Даволі. Забараняю. Спыніць сімфонію. *(Музыкі і спевакі як бы не чуюць яго.)* Даволі! Арыштаваць гэтага чалавека! *(Паказвае рукою на эстраду. На сцэну выбягаюць некалькі паліцыянтаў. У зале крыкі абурэння. На сцэну бягуць беспрацоўныя. Паліцыянты бяруць Салька за рукі.)*

К р ы к і. Пусціце музыканта! Пусціце яго зараз жа! Ганьба! Ганьба!

Салька вядуць... І раптам з вуліцы данеслася магутная песня. Велізарная дэманстрацыя акружыла тэатр. Дэманстранты спявалі марш, які змоўк у тэатры.

С а л ь к *(надрывістым голасам)*. Што? Чуеце? Вы спынілі маю сімфонію тут, але там сімфонію гневу вы не спыніце! Не задушыце! Вы яшчэ пачуеце яе фінал! Яго пачуе ўся Еўропа!..

*1933*

# АНДРЭЙ КАПУЦКІ

Пісьменнік Андрэй Капуцкі нарадзіўся 2 траўня 1897 года ў Маладзечне. Пасля школы паступіў у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, дзе пасябраваў з М. Чаротам. Пазней удзельнічаў у Першай сусветнай і грамадзянскай войнах, у 1917 годзе апынуўся ў Петраградзе. З 1918 года — зноў на радзіме, змагаўся супраць нямецкай, а потым польскай акупацыі Беларусі. Быў арыштаваны немцамі, сядзеў тры месяцы ў Мінскай турме, другі раз яго арыштавалі ў Вільні палякі (1921). Пасля кароткага турэмнага зняволення ён стварае Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю (1922), становіцца сябрам КПЗБ, затым членам ЦК КПЗБ. Разам з дэпутатамі Сойма Польскай Рэспублікі, вядомымі беларускімі дзеячамі П. Мятлой, С. Рак-Міхайлоўскім, Б. Тарашкевічам А. Капуцкі абараняў правы беларусаў у Польшчы. У кастрычніку 1925 года быў зноў арыштаваны палякамі. Год з лішнім яго без суда трымалі ў турмах Вілейкі і Вільні. Да гэтага часу ён ужо быў жанаты, меў траіх дзяцей. Сям'я вымушана была заплаціць вялікі выкуп, каб яго выпусцілі з турмы пад нагляд паліцыі. У ліпені 1927 года разам з сям'ёй нелегальна перабраўся ў БССР.

У Мінску А. Капуцкі скончыў Камуністычны ўніверсітэт (1931). Працаваў у рэдакцыях «Звязды», «Полымя», потым яго прызначаюць дырэктарам універсітэта марксізму-ленінізму, загадчыкам сектара друку ЦК КПБ, пазней — сектара Заходняй Беларусі ў Інстытуце гісторыі партыі.

Літаратурнай творчасцю А. Капуцкі пачаў займацца з другой паловы 1920-х гадоў. Выступаў спачатку як паэт. Першы верш «У дарозе» быў апублікаваны ў 1929 годзе ў часопісе «Паляўнічы Беларусі» пад псеўданімам Я. Пралеска. Адначасна ён спрабуе свае сілы і ў прозе. У 1930–1933 гадах адно за адным з'яўляюцца апавяданні: «Парабкі», «На расцяробе», «Абрэз», «Усё ж такі будзе...», фельетоны «І выюць, і когці вострацъ», «Уласная, беларуская, «цудоўная» і інш., якія друкаваліся ў часопісе «Полымя», газеце «Савецкая Беларусь». У 1932 годзе выходзіць зборнік апавяданняў з жыцця Заходняй Беларусі Язэпа Пралескі «Паноў трэба знішчаць гуртам», прадмову да якога напісаў А. Сталевіч (Л. Родзевіч), а рэцэнзіяй на яе адгукнуўся Алесь Салагуб. Некаторыя апавяданні А. Капуцкага (Я. Пралескі) змяшчаліся ў «Хрэстаматыі рэвалюцыйнай літаратуры Заходняй Беларусі» (1933). Ён заявіў пра сябе як добры апавядальнік з глыбінным веданнем жыцця,



жывой каларытнай мовай, уменнем будаваць дыялог, сюжэт. Але, як і многія пісьменнікі 1920-1930-х гадоў, вымушаны быў падпарадкавацца ідэалагічным установкам партыі, прытрымлівацца пэўнай схемы ў раскрыцці тагачаснай рэчаіснасці.

Тым не менш А. Капуцкі адным з першых у беларускай літаратуры пачаў адлюстроўваць падзеі ў былой Заходняй Беларусі. У літаратуру ўваходзіў сапраўдны пісьменнік. Талент яго толькі пачынаў разгортвацца, калі яго накрыла чарговая хваля сталінскіх рэпрэсій. У 1933 годзе, нягледзячы на высокія партыйныя пасады і прыхільнасць да савецкай улады, ён быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС, абвінавачаны па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра» і ў студзені 1934 года расстраляны. Было яму тады 36 гадоў.

## НА РАСЦЯРОБЕ

### З жыцця Заходняй Беларусі
*Фрагмент апавядання*

...Шматвяковы дуб шырока распусціў свае голлі, каля яго спыніліся пільнікі. Разглядаюць, мяркуюць, радзяцца.

— Лес таварны.

— Ёсць дзе развярнуцца.

— Лепшай мясціны нідзе не знойдзеш, — стукаючы абухам каля карэнняў дуба, хваліў Спірыдон. — Са мной не прападзеш, я лес знаю... Вось тут і застановімся. Сцяна адна ёсць пэўная: ні бура, ні мароз не пройме. На тавар не гожа, крывая. На метры пойдзе. Адсюль не скора нас сівы прагоніць у баракі.

Алесь вызваляўся ад торбы. Вяроўка ўелася ў плечы, рукі адранцвелі і не хочуць слухаць, а выдаць сваю слабасць стыдаўся. Што падумаюць дружакі? Хто захоча мець такога хаўрусніка?

І хоць не зусім падабалася яму выбраная Спірыдонам мясціна для шалаша, але не пярэчыў, а ківаў галавой. Добра, толькі хутчэй, а дзе — усё роўна.

Невысокі, у моцна падношанай крамнай вопратцы, беспрацоўны тытунёвец з Горадні ўпалымі блакітнымі вачыма шукаў нізіны.

— Вады тут ці здабудзем? — спакойным роўным голасам запытаў Спірыдона. — Здаецца, што тут высокая мясціна, можа, лепш пройдзем туды... бліжэй будзем і да вады, і да іншых шалашоў, весялей будзе.

— Вады хопіць не толькі піць, а нават і памыцца конаўку можна будзе вымеркаваць. Я лес знаю. З малых дзён з пілою, з сякераю — гэта мая спецыяльнасць. А вясёласці тут ніякай не трэба, абы аддыхнуць дзе было.

Хваёвыя галінкі пераплятаюцца, сцелюцца каля наўкоса пастаўленых жэрдак. Дзірачкі старанна канапацяцца лісцём, мохам. Сцяна пухне. Раўкі пад шнур адведзены да ямак. Дзверы — пляцёнка, бярозавай закруткай прывязаны. Засоўка — дубовы сучок, абчэсаны — ляжала пры дзвярах. На падлогу насеклі таўсцейшых сукоў.

— Не я казаў, што палац выйдзе шык! — прыкідаючы тапарышчам таўшчыню сцяны, любаваўся Спірыдон. — А нары яшчэ прыладзім. Во, зажывем, дамоў не захочацца. Я заўсёды люблю зрабіць адразу добра. Найбольшы дождждык, а ты, як у хаце, сухі ляжыш на нарах: і цёпла, і добра.

— Што тут добрага? Мядзведжая бярлога, а ты хваліш... Сказаў бы, што прымушан перабівацца, абы пражыць. Ці ж тут адпачнеш пасля працы? Бадзёрся — гэта добра, але не расхвальвай, не люблю я гэтага, — гаварыў з націскам беспрацоўны ткач з Беластока. — Гэта, браце, добраахвотная катарга, а не жыццё, не заработкі.

— Нідзе не дзенешся, мусіш ісці, калі не хочаш згінуць з голаду.

— Я ж кажу, што не бачыш, як цябе гоняць, а адчуваеш, вось чаму я і называю яе добраахвотнай, а розніца невялікая. Працуем не на сябе, а на паноў.

— Не займайцеся, братка, палітыкай. Баюся я гэткіх людзей, і сам не агледзішся — пападзешся. Тады пакутуй немаведама за што...

— Не бойся, дзядзька Спірыдон, — палітыка не такая ўжо страшная рэч. Прывыкай, вучыся.

— Вы людзі гарадскія, разумнейшыя, — адбаярваўся Спірыдон, — лепш ведаеце, як і што, а я вясковы, непісьменны. Чуў, што за палітыку б'юць, у астрог садзяць. Дык навошта яна мне? Неяк дажыву свой век і без палітыкі. Мо калі і палепшае.

— Не пражывеш, дзядзька. Прымусяць цябе выбіраць, з кім ты: з намі ці з імі?

— Я з панамі? Нізавошта! Я заўсёды з вамі, толькі без палітыкі.

— Ну і дзіўны, Спірыдон. Калі ты з намі, дык, значыцца, супроць паноў, дармаедаў.



— Вядомая рэч, супроць, асабліва супроць памешчыкаў. Вось гэтых гадаў перадавіў бы... Не здрыгнула б рука. Мо зямліцы які загон дасталася б, а то пакутую на дзесяціне — восем душ; трэба пракарміцца вось з іх. — І Спірыдон выцягнуў правую руку з суцэльным мазалём-падэшвай: — З іх жыву..

— Не ты адзін корміш дармаедаў, у каго рукі, як пампушкі.

— Яно то так, але што ты зробіш. Трэба гараваць.

— Усё можна зрабіць, ідзі толькі з намі, навучышся... Супольна будзем будаваць жыццё...

Спірыдон спачатку нічога не адказаў, а потым, беручы Алесеву сякеру, у поўны голас, нібы просячы прабачэння, сказаў:

— Пайду шукаць вады.

«Разумныя людзі, але боязна з імі, — меркаваў Спірыдон. — Мне нічога, я воўк бывалы, выкручуся. А што будзе з Алесем? Ён жа слухае ўсё, растапырыўшы вушы. Нядобрая хеўра, сапсуюць хлопца».

— Во, паралюш, сукі перашкаджаюць, а здаецца добрае месца.

Сякера роўна біла па шнуры; далёкім водгуллем адбівалася: га-га. Прысеў на калена, падважыў тапарышчам. Стаўбунок крануўся, ён схапіў за залабніцу і выкаціў, схіліўся, хутка вылятала ліпучая гразь. Рука па паху залазіла ў студню і наводзіла парадак, пасля сякера: папераменна.

— Вада ёсць.

*1930*

# ЮРКА ЛІСТАПАД

Беларускі палітычны дзеяч, публіцыст, пісьменнік-перакладчык Юрка Лістапад нарадзіўся ў красавіку 1897 года ў вёсцы Варкавічы Слуцкага павета Мінскай губерні (цяпер Слуцкі раён). Пасля сканчэння ў 1914 годзе Панявежскай настаўніцкай семінарыі працаваў у школах Случчыны і потым у самім Слуцку. У 1918–1919 гадах вучыўся ў Мінску на Першых беларускіх педагагічных курсах, дзе выкладчыкамі былі Язэп Лёсік, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Усевалад Ігнатоўскі, Антон Трэпка і іншыя. Там адкрыліся і літаратурныя здольнасці Юркі Лістапада. «Слуцкае вяселле» было з дапамогай Язэпа Лёсіка надрукавана ў газеце «Беларусь». Увосень 1919 года Ю. Лістапад быў накіраваны школьным інспектарам на Случчыну, дзе арганізаваў восем беларускіх школ, актыўна ўдзельнічаў у беларускіх суполках. У лістападзе 1920 года стаў сябрам Беларускай рады Случчыны, прымаў удзел у Слуцкім збройным чыне. Пасля разгрому паўстання перабраўся ў Заходнюю Беларусь, быў інструктарам беларускіх школ на Віленшчыне. У 1922 годзе вярнуўся ў БССР, працаваў выкладчыкам Слуцкіх агульнаадукацыйных педагагічных курсаў, рэдактарам у Дзяржвыдавецтве БССР. Многа працаваў як перакладчык мастацкай літаратуры, пераклаў на беларускую мову творы У. Караленкі, А. Астроўскага і інш. У кастрычніку 1925 года быў арыштаваны ДПУ БССР нібыта як кіраўнік «контррэвалюцыйнай арганізацыі» і асуджаны на 5 гадоў турэмнага зняволення. Праз два гады яго амніставалі. Але потым зноў неаднаразова арыштоўвалі паводле ілжывых абвінавачванняў. А 31 сакавіка 1938 года Юрка Лістапад быў расстраляны на 41-м годзе жыцця.

## УЗБІЛІСЯ НА СВОЙ ШЛЯХ

Адраджэнне Беларусі, як вядома ўсім, стала расці з кожным часам шырэй з 1905 года. Саўсім зразумела, што працаваць пад уладаю расейскага імперыялізму магчыма было, і то з надта вялікімі перашкодамі, толькі на культурна-прасветнай дарозе. Такая праца вялася аж да рэвалюцыі 1917 года. Трэба заўважыць, што, нягледзячы на царскі рэжым, беларускія адраджэнцы до-



сыць часта, бывала, з культурна-прасветнай працы пераскаквалі і на палітычную, за што і адседжвалі ў каталажках. З часоў рэвалюцыі 1917 года справа беларуская стала шырыцца ўжо не за гадамі, а нават з кожным тыднем. То былі толькі арганізацыі ў месцах вялікіх: Вільні, Менску, а гэта ўжо сталі з'яўляцца розныя беларускія гурткі па павятовых месцах і мястэчках. Дзеля таго, што пасля гэтай рэвалюцыі стала крыху вальней, праца беларуская пайшла не па адным ужо шляху, а распаўзлася ў розныя кірункі і распаўсюдзілася амаль не па ўсёй Беларусі.

Мне вельмі хочацца пазнаёміць паважаных чытачоў з тым, як узбіліся беларусы Случчыны на свой шлях і да чаго яны дайшлі.

Беларуская арганізацыя на Случчыне стала падымацца на ногі з пачатку Расейска-Нямецкай вайны. Праўда, былі людзі, каторыя працавалі і да гэтага часу, але іх было вельмі мала. Вось у вайну нехта Астроўскі[1] адчыніў беларускую гімназію, але гэтая гімназія тады звалася не беларускаю, а проста земскаю гімназіяй. Сам дырэктар гімназіі пан Астроўскі ў той час быў надта шчыры працаўнік на ніве беларушчыны, дзякуючы гэтаму, ён і паставіў справу беларускую ў гімназіі на свае ногі. Кіраваў ён гэтаю гімназіяй, здаецца, да бальшавіцкай ужо рэвалюцыі. Потым пан Астроўскі якім-то парадкам, пунктуальна не скажу, папаў у Дэнікінскую армію. Там ён сапсаваўся дарэшты, саўсім стаў другім чалавекам. Пра Беларусь і ўспамінаць не хоча, нават родным сёстрам-гімназісткам забараніў пры ім гаварыць па-беларуску. Але, нягледзячы на гэта, пан Астроўскі мае свае заслугі ў тым, што з яго вучняў-гімназістаў шмат выйшла свядомых беларусаў, дзякуючы якім усё сялянства Слуцкага павета зразумела, хто яны такія, і цяпер кожны селянін-случанін, стары і малы, вам смела скажа, што ён і не маскаль, і не паляк, а кроўны беларус.

Вось улетку 1917 года адчыняецца беларускі культурна-прасветны гурток «Зарніца» ў вёсцы Старыцы. З дзеячаў гэтага гуртка сцемлю Аляксея і Янку Каўпакоў, Пётру і Янку Зенюкоў, Л. Стагавічанку, Зенькавічанку і Пётру Бабарэку. Статут, апрацаваны гуртком «Зарніца», быў потым прыняты Беларускім Нацыянальным Камітэтам Меншчыны.

Увосень 1917 года адзін з вучняў гімназіі Астроўскага С. Бусел задумаў арганізаваць культурна-прасветны гурток «Папараць-кветку». Шукаў ён сабе сябрукоў сярод інтэлігенцыі, але да каго ні звяртаўся, усюды чуў адно: выкінуць з галавы гэтую дурную думку. Нарэшце ён спаткаў аднаго вучня, не ведаю якой шко-

лы, гр. Ракуцьку, які далучыўся да яго, — і пачалі супольную працу. Гэты Ракуцька хацеў, каб гурток «Папараць-кветка» быў на камуністычнай падкладцы, але Бусел не згадзіўся. Дзеля таго, што яны не знайшлі сабе балей сталых сяброў, дык С. Бусел прымусіў вучняў ніжэйшых класаў прыйсці на першы сход, каб выбраць праўленне гуртка. Бальшавікі дазволу на сход не далі, тады гэта куча дзяцей-вучняў рэвалюцыйным парадкам адчыніла сход і выбрала праўленне, толькі ўжо гэты гурток назвалі не грамадзянскім, як раней думалі, а вучнёўскім культурна-прасветным гуртком, бо, як я казаў, саўсім не было спачуваючых беларускаму руху сталых людзей. Потым, калі вучні-сябры гуртка задумалі зрабіць першае ігрышча, дык усе слуцкія музыканты адмовіліся пайсці пайграць на гулянні беларускай моладзі. К гэтаму прыехаў звольнены з войска вядомы беларускі дзеяч на Случчыне В. Русак. Ён быў у беларускіх арганізацыях на Віцебшчыне. Вось гэты В. Русак памог вучням паставіць як след гэтае першае ігрышча слуцкай моладзі.

Потым у склад сяброў гуртка сталі запісвацца некаторыя зацікаўленыя грамадзяне, як, напрыклад, вядомы беларус, які працуе з 1905 года, п. Асвяцімскі, Жаўрыд і іншыя. Такім чынам, «Папараць-кветка» існавала ўвесь час нямецкай і бальшавіцкай акупацыі на Беларусі. Далей у кастрычніку 1919 года, калі гурток перапоўніўся сталымі людзьмі, дык зрабілі перарэгістрацыю гуртка, значыцца, адкінулі ўсіх дзяцей і назвалі ўжо гурток грамадзянскім. З працаўнікоў гэтага ўжо новага гуртка шчырымі беларусамі з'явіліся: А. Бараноўскі, У. Дубіна, Фёдараў і іншыя. Неўзабаўні за гэтым Беларуская Школьная Рада Меншчыны прыслала на Слуцкі павет інструктарам беларускіх школ нейкага п. Абрамовіча, каторы заняў сабе пасаду пісара ў польскага інспектара і заўсім забыўся на даручаныя яму Беларускай Школьнай Радай Меншчыны абавязкі. Тады Рада прыслала другога інструктара Ю. Лістапада, які да працы аднёсся прыхільна і адчыніў восем (8) пачатковых беларускіх школ на павеце. У палавіне лістапада (наябра) таго ж года сябры гуртка «Папараць-кветка», атрымаўшы інструкцыю з Менску, назвалі сябе ініцыятыўнай групай і сазвалі сход прыхільнікаў беларускага руху, каб выбраць Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны. На сход з'явіліся толькі шаснаццаць (16) асоб, якія і выбралі Б. Н. Кам. Случчыны, у склад якога ўвайшлі гэткія асобы: Пракулевіч, Петрашкевіч, Асвяцімскі, Бараноўскі і Русак.

Камітэт распачаў сваю працу, але працаваць было вельмі цяжка, бо не было ніякай дапамогі ніадкуль. Камітэт выпрасіў пазвалення ў Старасты павета адчыніць пры Камітэце «Бюро безработных» і аднадзённага збору ахвяр на ўсім павеце. Якраз гэтымі безработнымі і былі сябры «Папараць-кветкі» і Камітэта.

Гурток, трэба заўважыць, кожны святочны вечар ставіў прадстаўленні. Зборы заўсёды былі вельмі вялікія. Нават ставілі такія вечары, за каторыя вясковае грамадзянства мела права прыходзіць дарэмна без платы за ўваход. Усёй гэтай секцыяй кіраваў В. Русак, які паставіў ужо болей за тысячу вечароў. Тым часам гурток «Папараць-кветка» выдаў два нумары часопіса «Наша каляіна», якія вельмі добра разышліся сярод сялянства. Вось такім парадкам Н. Камітэт і гурток разжыліся на грошы. Яшчэ арганізацыі Случчыны гэтым не засталіся здаволены, папрасілі «Хор Тэраўскага»[2] з Менску прыехаць у Слуцак і паставіць штокольвек. Тэраўскі з хорам не адмовіўся пяяць на абедні ў Слуцкім саборы. Людзей было паўнютка царква, усіх гэта перш-наперш надта здзівіла, а потым і вельмі зацікавіла. Многія кабеты, стоячы ў царкве, плакалі, а выйшаўшы, гаварылі, што яны думалі пра беларусаў абмылкова, аж выявілася, што і яны тыя самыя беларусы, бо яны чулі, што сябры хору таксама гамоняць паміж сабою па-просту. Потым п. Тэраўскі з хорам даў адзін вечар-канцэрт, а другі спектакль. Прысутных было гэтулькі, што не толькі нельга было сядзець, а нават павярнуцца немагчыма было.

Праз некалькі часу ў Слуцк прыехаў вядомы драматург-акцёр Галубок, які таксама паставіў два вечары і яшчэ балей зацікавіў публіку. З гэтага часу справа беларуская на Случчыне пайшла шмат уперад. Сяброў у гуртку было ўжо да трох соцень, амаль што не ўся інтэлігенцыя слуцкая аб'ядналася вокала гуртка. Тым часам гурткі на мястэчках і вёсках таксама сталі расці. Дзе ні паехаць, дзе ні пайсці, толькі і чуеш гутарку пра Беларусь. Тады Камітэт разаслаў яшчэ агітатараў, якія пабывалі ў кожнай вёсцы і растлумачылі сялянству, як належыць, пра справу беларускую, так што з таго часу Камітэт быў перапоўнены народам, які прыходзіў па розныя спраўкі і рады, не зважаючы на пагрозы мясцовай польскай улады. Тады палякі ні з сяго ні з таго зачынілі гурток «Папараць-кветка», павесілі да шахваў замкі, прыляпілі пячаткі, і баста, але, трэба прызнацца, адарвалі ззаду шахваў сябры гуртка дошкі і дачыста выбралі ўсё тое, што там знаходзілася, пакінулі толькі ім пад замкамі трохі старых газет. Літаратуру ўсю разаслалі па вёсках, школах і другіх гуртках. Праўда, літаратуры з Менску прывозілі штомесяц дзесяткі

пудоў, але яе ніколі не хапала, бо надта скора распрадавалася. Так гурток «Папараць-кветка» і застаўся зачынены аж да другой паловы лістапада 1920 года.

Нягледзячы на гэта, Камітэт дастаў аднекуль дазвол клапаціцца або, як кажуць, браць на парукі зарыштаваных беларусаў. Як хваля, людзі ішлі, і шмат-шмат хто, дзякуючы Камітэту, быў вызвалены з-пад арышту. Былі выпадкі, што нават угалоўнікаў Камітэт браў на парукі, і палякі згаджаліся. Працаваць толькі ў Камітэце і ставіць вечары — гэтага мала. Сябры Камітэта задумалі адчыніць беларускі кааператыў «Зара». Вось гэты кааператыў так шчыра ўзяўся за працу, што нават шмат адабраў пайшчыкаў ад польскіх кааператываў і стаў самым найбольшым кааператывам на ўсёй Случчыне. З працаўнікоў гэтага кааператыву вядомы: К. Бараноўскі, Асвяцімскі, Дубіна, Фёдараў і Кяцка. Нацыянальны Камітэт увесь час вёў арганізацыйную працу і такім парадкам дажыў да прыходу бальшавікоў улетку 1920 года. Як толькі прыйшлі бальшавікі, Камітэт зачыніўся, а разам з ім і кааператыў «Зара» таксама перастаў існаваць. Здавалася б, што справа беларуская на Случчыне ўжо памерла, але ж не. Партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў адчыніла свой Камітэт ды якраз у тым самым памяшканні, дзе быў спачатку Нацыянал. Камітэт. Грамадзянства, як згаварыўшыся, ізноў тоўпіцца ў гэтым сац.-рэвал. Камітэце. Прыйшла восень, сталі адчыняцца школы. Вядомая рэч, дзе толькі адчыняецца школа, дык абавязкова беларуская, а калі расейская, дык каб выкладалася і беларуская мова, але гэта цягнулася нядоўга, бо скора зноў прыйшлі палякі. Мушу заўважыць, што вельмі многа сяброў з беларускіх арганізацый стараліся, калі бальшавікі мабілізавалі, заставацца ў якой-небудзь установе ў Слуцку альбо блізка да яго. Вельмі перапрашаю, што не ў пару ўспамяну, але лічу патрэбным адзначыць у кароткіх словах беларускія курсы для вучыцялёў, якія адбыліся з 25 красавіка па 3 чэрвеня 1920 года ў Слуцку.

Якім жа парадкам Школьная Рада Меншчыны дастала ад польскай улады шмат грошай на гэтыя курсы? Прытым загадчыкам гэтых курсаў назначыла паважанага пана Я. Станкевіча[3]? На курсы, нягледзячы на працоўны час на полі, з’ехалася з усяго павета сотні чатыры вучыцялёў з вольнымі слухачамі. З Менску ў той час прывезлі шмат літаратуры, і вось вучыцялі заклалі кніжны кааператыў. Значыцца, усе гэтыя слухачы курсаў цэлы дзень ля гэтых кніжак, а лекцыі на курсах пачыналіся а трэцяй гадзіне папоўдні. Як толькі падыходзіць гэты час, дык уся грамада ідзе да Камерцыйнай школы, дзе чыталіся лекцыі, і так расцягнецца, што здаецца — полк ідзе. Вось гэта ўстрывожыла палякаў, і зараз жа Польскі Школьны інспектар зачыняе курсы. Доўга не чакаючы, паслалі да Менску тэлеграму і праз дзён колькі атрымалі дазвол адчыніць курсы. Мясцовыя польскія ўлады гэтым былі надта не задаволены, але хоцькі-не-хоцькі мусілі згадзіцца. У зале на лекцыях часта можна было бачыць духавенства і падчас польскіх афіцэраў, якія выслухоўвалі ўсе чатыры лекцыі. Беларускія курсы скончыліся, а зараз жа за імі вучыцельства прымушана было ісці на польскія курсы, якія трывалі толькі адзін дзень. Сталася гэта таму, што палякі ўжо ўцякалі ад бальшавікоў.



Такім чынам, справа беларуская на Случчыне ўсё пры новых акупантах ішла наперад і дачакала апошніх дзён кастрычніка 1920 года, калі палякі з’явіліся да Слуцка другі раз.

З прыходам палякаў другі раз на Случчыну Беларускі Нацыянальны Камітэт зараз жа распачаў сваю працу. Дзякуючы таму, што Слуцк у гэты час быў адрэзаны ад другіх беларускіх цэнтраў, Камітэт паслаў ад сябе прадстаўніка ў Варшаву дзеля зносін з Цэнтральным Беларускім Нацыянальным Камітэтам — п. Жаўрыда. Сяброў з гэтага Камітэта засталося толькі два, а два, баючыся палякаў, выехалі з бальшавікамі. Склалася новая ініцыятыўная група беларусаў, якая склікала грамадскі сход, каб папоўніць Камітэт новымі сябрамі. На гэтым сходзе было 450 прысутных асоб, і яны да старога Камітэта давыбралі яшчэ 7 сяброў. Такім чынам, у склад камітэта ўвайшло 12 асоб, але стары Камітэт не прызнаў некаторых новых сяброў, лічачы іх русіфікатарамі. Значыцца, пайшлі спрэчкі, стары Камітэт адмовіўся працаваць да прыезду пасланага прадстаўніка. Старшынёй новага Камітэта застаўся доктар Паўлюкевіч, надта энергічны працаўнік, але на ніве бацькаўшчыны чалавек новы.

Давыбары Камітэта адбыліся 2 лістапада 1920 года. З гэтага часу і пачаліся спрэчкі паміж сябрамі новага і старога Камітэтаў. Час не чакаў: трэба было як найхутчэй арганізаваць грамадскую ўладу. Камітэт адразу арганізаваў міліцыю і разаслаў яе па ўчастках павета. Начальнікам павятовай міліцыі быў назначаны п. Мацэльлі. Ён неафіцыйным парадкам адчыніў запіс у рэзерв народнай міліцыі. У кожнай воласці былі арганізаваны, замест польскіх войтаў, беларускія Камітэты, а ўжо воласці арганізавалі Камітэты ў кожнай вёсцы. Так што ўвесь павет стаўся чыстым беларускім з сваім праўленнем і г. д. Нацыянальны Камітэт

Случчыны ўжо не мог трываць далей, а трэба было што-небудзь шырэйшае. Вось Камітэт пастанавіў склікаць павятовы з'езд па пяць прадстаўнікоў ад кожнай воласці і па адным ад кожнай культурна-прасветнай арганізацыі. З'езд назначаны быў на 14 лістапада. Калі выбары прадстаўнікоў па валасцях прайшлі як належыць, дык Камітэт разаслаў па валасцях інструктараў, якія і зрабілі выбары. На з'езд з'ехалася 107 прадстаўнікоў з правам пастанаўляючага голасу і 10 прадстаўнікоў з правам дарадчага голасу.

З'езд адчыніўся а 12 гадзіне дня 14 лістапада, перад пачаткам якога была прапета беларуская марсельеза і гімн. Старшынёй з'езда быў выбраны грам. В. Русак. Пасля розных дакладаў беларускіх дзеячаў і дакладаў з месцаў была вынесена рэзалюцыя выбраць Раду Случчыны Беларускай Народнай Рэспублікі.

З даклада прадстаўніка Жаўрыда, якога паслаў Нацыянальны Камітэт у Варшаву, выявілася, што ён мае нейкія паўнамоцтвы ад Цэнтральнага Камітэта і што ў Раду трэба выбраць 17 асоб.

Прытым з'езд вынес рэзалюцыю падняць сцяг узброенай барацьбы проціў маскоўскай акупацыі за незалежнасць Беларусі.

Якім та чынам на гэты з'езд папалі два афіцэры ад Булак-Балаховіча, каб з'езд прызнаў Балаховіча, але жаднай увагі на іх звернута не было.

З'езд выбраў Раду, у склад якой увайшлі гэткія асобы: Пракулевіч, Жаўрыд, Паўлюкевіч, Мацэльлі, Біруковіч, Сасноўскі, Русак, Лістапад, Каўпак, Бабарэка, Раковіч, Радзюк, Барысавец, Рабы, Анцыповіч, Дубіна і Няронскі.

Радзе прадстаўніцтвам народным і была даручана грамадская ўлада і арганізацыя войска.

З'езд цягнуўся ад 12 гадзін дня 14 да 10 гадзін вечара 15 лістапада 1920 года.

Я першы раз на сваім жыцці быў на такім з'ездзе: ніводзін прадстаўнік за ўвесь час нікуды не адлучыўся, і ўсе пытанні абгаворваліся і зацвярджаліся так удачна, як быццам гэта рабіў адзін чалавек. Цікава, вельмі цікава з'езд прайшоў і зачыніўся пад спевы марсельезы і гімна.

Такім чынам Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны перастаў жыць, а на месца яго арганізавалася Рада Случчыны Беларускай Народнай Рэспублікі.

Значыцца, з 16 лістапада Рада адчыніла свае функцыі. Раней за ўсё трэба было фарміраваць войска. Тады з Рады вызначылі трох сяброў: Жаўрыда, Анцыповіча і Мацэльлі, яны і склалі вайсковую тройку, а рэшта сяброў Рады павінна была ўзяцца за арганізацыю розных грамадскіх установаў. Вайсковая тройка апрацавала адозву, ці, вярней, кліч, да моладзі з тым, калі каму дарага бацькаўшчына, каб ішоў у беларускае войска.



Такім чынам, вайсковая тройка залажыла за тры дні першую Слуцкую брыгаду стральцоў войск Беларускай Народнай Рэспублікі.

Трыста карабінаў дасталі збоку і соцень пяць стрэльбаў жаўнеры прынеслі з дому. У гэты час, 24 лістапада, польскае войска на аснове дагавору ў Рызе пакінула места Слуцк. Беларуская брыгада, дзякуючы таму, што яшчэ не ўпарадкавалася, як належыць, прымушана была адысці з м. Слуцка ў мястэчка Семежава. Разам з брыгадаю выехала і Рада Случчыны.

У мястэчку Семежаве брыгада арганізавала два палкі: 1-ы Слуцкі і 2-і Грозаўскі. Цяжка апісаць гэты адход беларускіх войск з Слуцка. Уся шаша на працягу трыццаці пяці вёрст была пакрыта кучамі маладых людзей з мяшкамі за плячамі, уцякаючых ад маскоўцаў да беларускага войска. Так праз тыдзень у 1-й Слуцкай брыгадзе стала сем тысяч жаўнераў, а стрэльбаў толькі восем соцень. Аднак, нягледзячы на брак аружжа, брыгада заняла пазіцыю па працягу шасцідзесяці вёрст. Але калі трымаць войска, то трэба яго і карміць. Рада Случчыны разаслала агентаў па ўсёй мясцовасці, падуладнай ёй, збіраць ежу для войска. Рэквізіцый не рабілі, а збіралі толькі ахвяры. І вось кожны дзень ахвяр на склад прывозілася да семдзесят пудоў хлеба і да дваццаці пудоў мяса, не гаворачы ўжо пра іншыя харчы. Справа ішла надта добра. Першая спатычка з маскоўцамі была ў м. Капылі, дзе беларусы захапілі ў палон маскоўскі Рэўкам і цэлую роту маскоўскіх чырвонаармейцаў з канцылярыяй і ўсёй амуніцыяй. Тут аднаго беларускага жаўнера цяжка ранілі, так што пажыў толькі адны суткі і памёр. Родам ён з м. Старобіна — Валодзька Піліп. Гэта была першая ахвяра за незалежнасць Бацькаўшчыны. У гэты час ужо былі ў брыгадзе прысланыя беларускія афіцэры, паміж іншымі маёр А. Якубецкі, які крыху пазней заняў пасаду Камандуючага беларускімі войскамі, і капітан Борык, які быў шэфам штаба брыгады. Вось 30 лістапада ў Семежаўскай царкве адбылася паніхіда па забітым жаўнеры. Царква была паўнютка людзей, ва ўсіх у руках гарэлі свечкі, і многія сяляне горка плакалі. Выносілі цела з царквы пад гукі музыкі хаўтурнага маршу. Прад спусканнем нябожчыка ў магілу былі сказаны чатыры прамовы. Потым далі тры залпы і насыпалі

курган. Па нябожчыку паставілі крыж, на якім павесілі тры вянкі і сцяг з надпісам: «Ты памёр, а памяць аб табе ў сэрцах беларускіх жыць будзе векі» — «Першая Слуцкая брыгада войск Беларускае Народнае Рэспублікі». Яшчэ заўважу, што пахавалі гэтую першую ахвяру ля Семежаўскай царквы ўпоравень з магіламі пахаваных там духоўнікаў.

Потым пачаліся вялікія баі з маскоўцамі ў розных месцах, але заўсёды былі ўдачны для беларусаў. Палонныя казалі, што маскоўцы спачатку не ведалі, хто мы такія, а лічылі нас балахоўцамі. Здавалася б, справа ішла добра, але ж не, прыйшлося атрымаць вялікую няўдачу.

Камандзір 1-га Слуцкага палка аказаўся здраднікам Бацькаўшчыне. Гэта быў капітан Чайка, быўшы «Ваенрук». Ён знайшоў аднаго дзядка гадоў семдзесят, даў яму ліст да маскоўцаў, каб той занёс у іхны штаб. Але гэтаму дзядку не ўдалося прайсці, яго на фронце затрымалі патрулі і знайшлі гэты ліст. У гэтым лісце капітан Чайка апісаў усе недахваты беларускага войска. Значыцца, каб гэта яму ўдалося, дык у адзін бы нядобры час уся беларуская арганізацыя папала б чорту ў зубы. Гэтага камандзіра арыштавалі і аддалі ў контрразведку. Начальнікам контрразведкі быў паручнік Міхановіч, добры прыяцель капітана Чайкі. Паручнік Міхановіч, бачачы, што жаўнеры вымагаюць смерці прадаўцы Чайкі, паставіў справу так, што Чайка ўцёк. Рада Случчыны зараз жа зрабіла «Надзвычайны патаемны сход» і вынесла пастанову арыштаваць камандзіра брыгады капітана Анцыповіча за халодныя адносіны да вайсковых тайнаў і паручніка Міхановіча за ўцёкі Чайкі, а на іх месца назначыла другіх афіцэраў. Камандзірам брыгады — капітана Сокала-Кутылоўскага, чалавека вельмі праўдзівага, якому і дала часова права дыктатарскае ўлады, начальнікам контрразведкі — паручніка Янушэнка, а камандзірам 1-га палка — падпалкоўніка Гаўрыловіча. Прытым арыштаваных аддалі пад Ваенна-палявы суд, старшынёю якога быў сябра рады Б. Вядома, па суду арыштаваныя афіцэры атрымалі толькі судовы выгавар.

Назаўтра, пасля таго, як уцёк Чайка, маскоўцы павялі наступленне на ўсім нашым фронце. Беларускае войска прымушана было адступіць з м. Семежава на захад восем вёрст. Трэба яшчэ заўважыць, што да таго часу, пакуль быў Чайка, усіх палонных адпускалі на волю, але мала іх назад ішло да маскоўцаў, а заставаліся ў беларускім войску. Потым, калі там ужо ў маскоўцаў быў капітан Чайка, да беларускага штаба даляцела вестка аб пяці беларускіх разведчыках, папаўшыхся да маскоўцаў у палон, якім там адрэзалі нос і вушы і вазілі па вёсках на паказ. Пасля гэтага беларусы палонных на волю не пускалі. Бывалі выпадкі такія, што палонны маскоўскі чырвонаармеец, якога пусцілі на волю, ішоў назад у свой полк, падгаварваў балей таварышаў, абкрадвалі амуніцыю і аружжа ў сваіх ротах і пераносілі да беларускага войска. Такіх выпадкаў было нямала. Гэта рабілася датуль, пакуль на бальшавіцкім фронце былі і чырвонаармейцы-беларусы, а не толькі адны маскоўцы, — мешаніна. Але бальшавікі заўважылі гэта і прыслалі на наш фронт татараў, кіргізаў. Тут ужо справы пагоршалі. У гэты час беларускае войска атрымала трыста стрэльбаў, адзін кулямёт Максіма і два Кольтаўскіх у Лунінцы, — ды сваё аружжа, — так што ўжо ўсяго разам сабралася да двух тысяч стрэльбаў і да дзесяці кулямётаў. Беларускае войска пасля гэтага не вытрывала і павяло наступленне на мястэчкі Семежава і Вызну. Наступаць на мястэчка Семежава згадзіўся ісці паручнік Міхановіч з кавалерыйскім аддзелам, а капітан Самусевіч з пешым аддзелам. Зайшлі яны да вёскі Новыя Макраны і застанавіліся начаваць, бо яны рыхтаваліся напасці на маскоўцаў раніцай. Вось ноччу ў гэтых Новых Макранах здарыўся такі выпадак. У конным аддзеле тады служылі два вядомыя на Случчыне бандыты: Міронччык з вёскі Ячава Слуцкай воласці і павета, і другі, прозвішча не помню, з Шацкай воласці Ігуменскага павета. У гэту ноч яны задумалі крыху нажыцца. Падгаварылі яны больш сабе кумпаньёнаў і ўкралі дзесяць коней у сялян той вёскі, шмат палацён, бялізны, сала і наагул забралі ўсё, што папалася ім у рукі. Забраўшы ўсё гэта, яны звярнуліся назад, не пайшлі, значыцца, з другімі ў наступленне, і думалі, што будзе ўсё крыта. Раніцаю дайшла вестка аб гэтым да штаба, і ўсіх гэтых грабежнікаў арыштавалі, а разам з імі і паручніка Міхановіча за тое, што ён не звярнуў увагі на сваіх падданых у час грабяжу. Камандзір брыгады дыктатарскай уладаю разжалаваў паручніка Міхановіча ў шарагоўцы, а двух бандытаў загадаў расстраляць. Расстрэльвалі іх публічна а другой гадзіне папаўдні 14 снежня ў гліншчах ля вёскі Грыцэвічы, у якой стаяў штаб Беларускіх войск. Праз суткі пасля гэтага аддзел пад камандаю капітана Самусевіча, падмацаваны ротамі, якія стаялі па пазіцыі, выгнаў маскоўцаў з мястэчка Семежава, адабраўшы ў іх кухню, трое каней, кулямёт, дваццаць стрэльбаў і семдзесят пудоў збожжа. Штат брыгады тады павінен быў пераехаць з вёскі Грыцэвіч бліжэй да фронту, але глыбей на Палессе, у вялізную вёску Морач. Адсюль ужо былі пасланы лепшыя сілы на мястэчка

Вызну. Вызна была занята беларусамі, дзе маскоўцы страцілі шмат забітымі і раненымі і сто сорак папалася да беларусаў у палон. Гэта быў адзін з найбольшых баёў беларускіх паўстанцаў з маскоўцамі. Значыцца, абодва мястэчкі засталіся ў руках слуцкіх паўстанцаў, толькі не прыйшлося ў іх доўга пастаяць, бо, як вядома, Іофе[4] ў Рызе на канферэнцыі дастаў дазвол увесці чырвоныя войскі ў нейтральны пас на 72 гадзіны дзеля таго, каб выгнаць адтуль паўстанцаў. Тады маскоўцы прыслалі на фронт тры дывізіі войск, якія складаліся з людзей жаўтаскурых. Павялі яны наступленне па ўсім фронце, так што паўстанцы адначасна аддалі ім м. Семежава і Вызну. У м. Вызне быўшы паручнік Мірановіч апраўдаў сябе. Яго маскоўцы абкружылі, але ён адзін сярод іх пусціўся на хітрыкі. Наляцеўшы на камандзіра маскоўскае роты, ён адразу ложаю разбіў яму галаў, маскоўцы рассыпаліся ва ўсе бакі, а ён тым часам уцёк да сваіх. За гэта Міpановічу было вернута яго афіцэрства. Пры адступленні ад м. Семежава быў такі выпадак: адзін жаўнер-паўстанец утаміўся ўцякаючы; тады паварочваецца ён да маскоўцаў і пяе: «Ад-ве-ку мы спа-лі...» і ў гэты час страляе, адыходзячы задам. Такім чынам штаб беларускіх войск пераехаў з вёскі Морач у в. Заастравечча, а жаўнеры не трымалі ўжо фронту, а без усякага парадку ішлі ўслед за штабам. Такім чынам, слуцкія паўстанцы папалі ў польскі нейтральны пас, у якім палякі забаранілі збіраць ахвяру. Значыцца, становішча саўсім дрэннае: біцца з маскоўцамі ўжо немагчыма, бо пасля такіх няўдач упаў дух у жаўнераў, карміцца няма чым, шмат другіх непрыемнасцяў. Рада Случчыны, параіўшыся з вайсковымі, рашыла перайсці на польскую тэрыторыю. У гэты час першы Слуцкі полк атрымаў палкавы сцяг (знамя), які каштаваў 156 000 польскіх марак. Вось 23 снежня паўстанцы Случчыны перайшлі польскую мяжу. Палякі на мосце раззброілі ўсё войска. Выходзіць так, што ўсё беларускае войска інтэрнавана. Але ж слова «войска» шырокае: у войску можа быць пяцьсот жаўнераў, а можа быць і некалькі мільёнаў. Брыгада выдзеліла з свайго складу да дзесяці партыяў, узброіла іх і адаслала ў глыбокі тыл маскоўцаў, а рэшта войска засталася інтэрнаванаю пад ведаю 41-га польскага палка. Рада Случчыны пераехала ў м. Баранавічы, дзе і сядзела праз цэлы месяц без жаданай працы. Працаваць яна не магла, бо не было ніадкуль падмогі з боку матэрыяльнага. За гэты месяц шмат прыйшлося чаго непрыемнага перажыць ад агентаў генерала Булак-Балаховіча, якія стараліся, каб перацягнуць да «Бацькі», але ім не ўдалося гэтага зрабіць. На абяцанкі Балаховіча ні адзін паўстанец не згадзіўся, і войска як было беларускім, так і засталося. Вось 20 студзеня 1921 г. на пасяджэнні частка сяброў Рады Случчыны прызнала сваім важаком Балаховіча і паехала да яго. Другая частка Рады прымушана была распаўзціся хто куды: некаторыя засталіся ў Баранавічах, трохі паехала да Вільні, каб часова знайсці прытулак, і такім чынам Рада Случчыны фактычна не існуе. Інтэрнаваную частку брыгады з штабамі палкоў палякі 23 снежня завезлі ў м. Беласток у канцэнтрацыйны лагер. Там небаракі паўстанцы-слуцакі, першыя на ўсёй Беларусі падняўшыя сцяг ўзброенай барацьбы за незалежнасць бацькаўшчыны, сядзяць цяпер паўгалодныя, босыя, голыя, у адных трамцях. Нягледзячы на свой марны лёс, яны цешацца, што зрабілі вялікую працу, якая будзе залічана ў будучыне. Жывуць яны адною надзеяй на тое, што Беларусь не згіне, што Беларусь уваскрэсне.

*1921*

# АДАМ БАБАРЭКА

Літаратуразнавец, крытык, празаік, паэт, ідэолаг, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў літаратурна-мастацкіх аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша» (1923–1926) Адам Бабарэка нарадзіўся 15 кастрычніка 1899 года ў сям'і беззямельных сялян вёскі Слабада-Кучынка Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён Мінскай вобласці). Бацька, працавіты чалавек, памёр рана ад сухотаў. Адам Бабарэка як сірата вучыўся ў Слуцкай школе, потым скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1918). Працаваў настаўнікам у вёсках Случчыны, вёў актыўную работу сярод вясковай моладзі. Падчас акупацыі Беларусі белапалякамі — удзельнік партызанскага руху супраць акупантаў на Случчыне. У 1920 годзе арыштаваны палякамі, пасля турмы ваяваў у Чырвонай Арміі (1921–1922), затым вучыўся ў БДУ на этнолага-лінгвістычным аддзяленні (1922–1927), выкладаў у школах беларускую мову і літаратуру, адначасна працаваў у газеце «Савецкая Беларусь». У 1926–1929 гадах працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Камуністычным універсітэце Беларусі.

З пачатку 1920-х гадоў актыўна выступаў у друку. Пісаў вершы, апавяданні, артыкулы, рэцэнзіі на кнігі беларускіх пісьменнікаў, аналізаваў творчасць Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Лучыны, Цёткі, Купалы, Коласа, Чарота, Бядулі, Чорнага, Дубоўкі, Крапівы. Невычэрпную скарбніцу эстэтычных каштоўнасцяў бачыў у фальклоры. Адным з першых у БССР А. Бабарэка пачаў распрацоўваць тэарэтычныя пытанні эстэтыкі, метадалогіі літаратуразнаўства, плённа вучыўся ў такіх славутых вучоных, як І. Замоцін і Я. Барычэўскі, засяроджваў увагу на эстэтычных поглядах пісьменнікаў, праблемах таленту і літаратурнага майстэрства, культуры творчасці.

Высока ацэньвалі дзейнасць А. Бабарэкі многія пісьменнікі, яго сучаснікі. Я. Колас адзначаў, што ён «чужых думак не пераказваў, свае меў». У. Дубоўка пісаў пра А. Бабарэку: «Гэта быў шчыры, сардэчны чалавек, выдатны крытык, цудоўны сябра... Усе свае раманы і аповесці нябожчык Кузьма Чорны папярэдне абмяркоўваў з Адамам. Не цураліся гэтага і другія былыя сябры «Узвышша», а пра маладзейшых няма чаго і казаць. Рабіў ён нямала каштоўных і трапных заўваг мне, як па асобных маіх вершах, так і па большых творах (паэмах)».

М. Лужанін гаварыў пра «натхнёнасць разваг А. Бабарэкі, чалавека таленавітага сэрца, хто даў не адну пуцёўку ў друк першым вершам маладых, у тым ліку маім»...



Слушна адзначаў У. Конан у сваёй кнізе «Адам Бабарэка», што ён «ставіў і, у меру сваіх сіл і магчымасцей, спрабаваў вырашаць пытанні, якія і сёння маюць не толькі гістарычную, але і актуальную тэарэтычную цікавасць. Гэта перш за ўсё такія праблемы, як суадносіны паміж эстэтычнай каштоўнасцю мастацтва і яго сацыяльнымі функцыямі; сутнасць мастацкай творчасці, гнасеалагічны і семантычны аспекты мастацтва, крытэрыі ацэнкі мастацкага твора і ўсёй творчасці таго ці іншага пісьменніка і многія іншыя метадалагічныя пытанні літаратурна-мастацкай крытыкі. Адам Бабарэка быў першым сярод тых, хто ў складаных умовах 30-х гадоў выступіў у абарону паэта і паэзіі ад нападкаў вульгарна-сацыялагічнай крытыкі».

Першы раз А. Бабарэка быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» (СВБ) і высланы на пяць гадоў у Кіраўскую вобласць (г. Слабадскі). Пяцігадовая высылка была без аніякіх падстаў падоўжана на два гады, а ў 1937 годзе па сфабрыкаваным абвінавачанні чэкісты асудзілі беларускага пісьменніка яшчэ на дзесяць гадоў зняволення. Адбываў пакаранне ў пасёлку Княж-Пагост Комі АССР, потым на Поўначы, дзе і загінуў у 1938 годзе.

Пра трагічны лёс А. Бабарэкі праўдзіва расказаў М. М. Ількевіч у кнізе «Адам Бабарека. Арест — лагерь — смерть», выдадзенай у 1999 годзе ў смаленскім выдавецтве «Посох».

## ЯК КРАСНАЗОРЦЫ ЗЯМЛІ СЦУРАЛІСЯ
*Апавяданне*

Чакайце бо, вось мне набегла на памяць! Вы ўсё жаліцеся на долю: «Мусіць, доля наша такая. І цяпер праўды няма. Казалі: зямлі будзе ўсім удосталь. Казалі: усе будуць роўнымі, а дзе ж яно ўсё гэта? Палёгкі ніякай няма. Ліхая наша доля...» А вы?.. Але, пэўна, не ведалі Міхаля Старога з Красназорак, што за балотам, за галамі. Памёр і не дачакаўся таго часу, пра які ён, бывала, любіў часта казаць: «Эх, прыйдзе час, — але я ўжо, мусіць, не прычакаю, — прыйдзе і ўсіх параўнае. Усе будуць роўна гараваць, будуць роўна і панаваць. І мужыкі самі сцураюцца сваёй зямлі, сваёй уласнасці. От успомніце некалі маё слова. Сабакам назавеце, калі будзе няпраўда». Дык але ж, на ліха яму, і праўда. Гэтак сталася ў тых жа Красназорках. Я сам на свае вочы бачыў, на свае вушы чуў. Каб хто казаў — не паверыў бы, а то сам. Дык ось слухайце, раскажу вам, як гэта сталася, дык мо і нам льга будзе што пераняць.

Неяк гэтым летам жонка прыстала: паедзь і паедзь у Прыдолле. «Аднак ухадзіліся з сенам, а там мо паможаш нашым,

ды што і дастанеш». Падумаў я, падумаў — і хлеб выходзіць, а дзе яго так скора варвеш, і адзетку няма, — запрог каня і паехаў. А ехаць у Прыдолле трэба праз Красназоркі.

Даўно я ўжо праз іх не ехаў. А была гэта звычайная вёсачка, ну двароў мо з сорак.

Будынкі, быццам апенькі, каля пня-цэркаўкі паскучваліся-паскручваліся. Пасярэдзіне — вуліца. Сям-там, як тыя тычкі ці пужалы на агародах, тарчалі старэнькія бярэзіны ды кляны. Як буслы на аднойназе, гуськом, пазіраючы ўніз вочапамі, папрытульваліся «бабы» з «жураўлямі» і нудна скрыгіталі, п'ючы раніцою ваду са студняў. Абгароджвалі вёску вузкія стужкі палеткаў і сенажацяў. З аднаго боку, ушчапіўшы на шыю пацеркі-праслы, пластом разлягаўся выган — міска з паўбіватаю, перамешанаю травою-кашкаю. Штодзень тут таўклося — збіралася — гаўяда. Дык я кажу, звычайныя былі Красназоркі, як і наша вёска.

Я гэта еду сабе, напоркваю свайго цюхцяя гнядога ды паглядаю паабапал дарогі — любуюся на збажынку людскую. А дзень быў лагодны.

От як цяпер памятаю, сонейка сабе песціцца, палыскаецца ў белых, пухленькіх аладках-воблачках. Паветра над палеткамі калышацца, гойдаецца, і здаецца, быццам за вушы падцягвае жытнія калосікі на шнурочках, што звязваюць сіне-смуглыя наміткі лясоў і краскі — рассыпаныя каралі лугоў. Еду і сам сабе думаю: «Добрае жытца, а і ярына паказвае на ўраджай. Добра, у каго многа зямелькі, а вот мне і прырэзку далі, і то не ведаю — ці стане на той год свайго. Жытцо маё нешта хібіла. Але і як яму не хібіць — без гною. А яго ж і не збярэш шмат з гэтага вось цюхцяя ды з аднае кароўкі. Ды які і ёсць, дык хаця б на сваё, а прыдатак... ці будзе шчэ мой...» Так сабе раздумліваю, не ўгледзеў, калі і ў Красназоркі прыехаў, а гэта ж такі ў аб'езд балота, дык, мусіць, вёрст з пятнаццаць будзе.

Аб'ехаў я гэта — і што за ліха, няўжо мой гняды дзе звярнуў у другую дарогу — не пазнаю Красназорак, дый годзе. Гэтак адмяніліся з таго часу, як я колісь праз іх праязджаў. Нават аж папытаўся, бо кажуць жа: «Хто пытае, той не блудзіць». Кажуць: Красназоркі.

— А-а, адмяніліся, — падзівіўся я.

Шмат новых будынкаў паабапал шырокай вуліцы, як яблычкі зіхацяць. Хораша так гэта паабгароджваны новымі частаколамі, а то і дошчачкамі. За хатамі відаць садзікі пазасаджваны. Так вось і трапечуць сваімі лісточкамі, нібы ўжо вучацца прыманьваць



да сябе ў спёку-гарачыню. Не відаць штось і цэркаўкі. А дзе, як мне памятаецца, быў выган — здаля відаць — калосіцца жытцо, быццам наша балота чаротамі.

«Шмат адмянілася», — думаю сабе. Толькі з прыезду нашага, нібы якія здыхляціны, валяецца кучак некалькі асунуўшыхся, асівеўшых будынкаў. Гэта, як я потым дазнаўся, былі гнёзды даўнейшых багацеяў, што камандавалі, бывала, усёй вёскаю.

Тут мне захацелася піць, ведама, улетку ад гарачыні. Дай, думаю, забягу ў якую хату. Прыпыніў каня, закінуў лейцы за частакол і заходжу.

— Дзень добры!

— Дзень добры! — адказвае якаясь бабулька.

Папрасіў вады, напіўся. Бабулька папытала, адкуль і куды я еду, папытала, што на свеце чуваць. Я гэта адказаў, як звычайна, і дадаў: «А, ад ліха ціха, дый дабра не чуваць».

— Але ж, мой саколік, — загаварыла бабулька.— Вось у нас ліха ведае што выдумляюць. Цэркаўка пазалетась згарэла, а кажуць, што яе тут нехта з нашага ж сяла падпаліў. А новай і не думаюць будаваць. Нейкіх камітэтаў навыдумлялі, прадстаўленні нейкія робяць. Ды ці чуў, чалавеча, амаль не ўсе зямлі свае паадцурваліся, ды ўсё нейкім хаўрусам — і не разбярэш. Але ж кажуць, — хаўрусна — гнюсна, так і гэта. Адступіўся Бог ад нашых красназорцаў. Не той свет пайшоў.

Мо б яна і яшчэ што нудзіла, але ж відно, як чалавек нудзіць, дык неяк слухаць ахвоты няма. Бачыш чалавек адно, а табе напяваюць другое.

— Няма мне часу, бабулька. Трэба ехаць, хаця б да вечара заехаць, — завярнуўся і пайшоў.

Еду я.

На вуліцы адно дзеці сям-там дурэюць, смяюцца. І да майго вуха не раз далятаў пісклівы галасок:

— Я бальшавік, а ты?..

— Ты будзь нібы пан, а мы цябе праганяць...

«Вось наліха вас, як вы ўсё скора пераймаеце», — падумаў я, і неяк весела на душы зрабілася.

Праязджаю.

Бачу будынак большы, як звычайныя хаты. Нават гонтамі накрыты. Нешта і напісана на ім, але, ведама, як няграматны, я і не разабраў што.

Але мяне больш за ўсё заняла думка, як гэта яны ад зямлі адцураліся, як казала тая бабуля. Вот хочацца ў каго распытацца,

як улетку піць. Аж бачу, перада мной ідзе чалавек з касою. Я гэта тарькануў свайго гнядога. Думаю, напэўна красназорац.

— На сенажаць?.. Прысядзь, пад'едзеш крышку, — а ў самога на вуме, каб распытацца, дык так і смажыць-карціць.

— З Красназорак? Касіць?..

— Але. Балота там кавалак быў, дык сёння трэба скончыць.

— Каму ж гэта косіце?.. Я чуў, вы зямлі адцураліся.— Не верылася мне, як.убачыў я чалавека з касою.

— Ды яно так, можна сказаць, адцураліся, але ж косім сабе.

— Як гэта «адцураліся і косім»?

— А так, браце. Бывала, корпаліся мы па сваіх загончыках, корпаліся, а далей і абрыдзела. Ты і туды, ты і сюды, а яно ўсё — няхваткі, а яно ўсё — недастаткі. Як прыйшла гэта савецкая ўлада, то нам і прырэзалі крыху зямлі, але ж што, калі ўзбіцца на гаспадарку трудна. Тое ёсць, таго няма. Як кажуць, — хлеб ёсць, квасу няма. Так і мы — не спытвалі таго і другога разам. А багатшыя за нас усё пасміхоўваліся — падкепвалі. Але ж толькі таго — смейцеся, калі вам смешна, хоць вам-та плакаць хочацца, думалася нам. А мы будзем рабіць, як нам розум дыктуе. Ды прыязджалі да нас з месцаў з рознымі парадамі, але ўсяго было — і верылі і не верылі.

Але вось скончылася вайна, і пачалі нашы хлопцы варочацца з Чырвонай Арміі. А ведама, што салдат — то не баба. Перш за ўсё яны паўлазілі, бач — мы іх павыбіралі ў сельсавет, у валасны савет. А там і пайшло ўсё іначыцца. Пачалі гаіцца балючыя нашы болькі. От так струп за струпам і пачаў злазіць з нашага цела. У фурманках парадак увялі, зямлю нанава памеркавалі, з падаткамі стала менш непаразуменняў. Адным словам, пачалі дбаць. Настаўніка сабе выпатрабавалі. Адчынілі школку тут у адной хаце. Газеты пачалі атрымліваць. Пачалі мы варушыцца.

Але ж цяжка, патом, жылося. Усё на хлеб, калі што прыдабыць. А тут яго і заобмаль. Вось гэта неяк раз настаўнік, як мы ўсё бедавалі, што ярына хібіла, вазьмі ды і падай нам думку пра інакшае вядзенне гаспадаркі, вазьмі дый прачытай нам кніжачку, як мужыкі вядуць хаджайства. А мы і ўхваціся за тую думку. Але ж як тут прыступіцца. На ўсё, бач, трэба сродкі. Давай гэта мы абгаварваць ды распытваць, дык і даведаліся, адкуль іх узяць і якім чынам на дарогу ўзбіцца.

Вось мы і залажылі сельскагаспадарчае таварыства. Злажыліся і перш-наперш адчынілі краму, каб замест таго, што пераплачваць розным гандлярам, хаваць гэтую пераплату ў сябе ды скарыстаць на паляпшэнні ўсякія. А таксама і сваё што, калі выгадна, дык выгадней збыць. А тут нам горад дапамог — плугоў, барон, наогул сіх-тых гаспадарскіх прылад напавер даў. Насення добрага дасталі. Ды нам параілі папару не пускаць, а засяваць канюшынаю. Ось так гэта памаленьку і пачалі ўзбівацца на ногі.

З свайго таварыства мы і не разбіралі ўсяго, а так згаварыліся — карыстацца за невялікую плату. Пры гэтым жа ўтварылі камітэт узаемадапамогі. Тут таксама злажыліся, каб было пра чорны дзень. Мала што можа здарыцца. Але галоўным чынам мы даручылі камітэту наглядаць, каб ва ўсіх была аброблена і засеяна зямля. А дзеля гэтага ён вёў парадак — то таму, то другому загадае, каб каня даў, каб сам пайшоў памог, — але больш за ўсё дык сам камітэт рабіў прыклад.

Ось так за год, другі дык і прывыклі, каб гэта пра ўсё абгаварваць (а мы кожную нядзелю збіраліся ў школу, там у нас было ўсё) ды гуртам і рабіць свае справы. А тым часам вачавідкі ўсяго і прыбываць стала і перайначвацца.

Наша таварыства з камітэтам завялі супольную гаспадарку. Узялі ды ўзадралі выган дый засеялі. Парасло жыта лепшае як ва ўсіх. Вось мы гэта пагглядзелі дый згаварыліся — апроч пяці гаспадароў — усё поле абрабляць супольна. Бач, і палеткі льга зрабіць большыя, ды з машынаю льга праехацца, а таварыства наша к таму часу ўжо і прыдбала жняярку ды двухлямешных плугоў са тры, ці што; дык з таго часу і пайшла гаворка, што красназорцы зямлі сцураліся. А мы не то сцураліся, я яшчэ мацней да яе прытуліліся.

— Дык вось яно як у вас, а я думаў, што і сапраўды адцураліся ды куды выехалі, ці што, як мне тая баба нагаварыла, — загаварыў я і запытаўся:—А калі ж гэта вы пазабудоўваліся гэтак?

— А вось за гэтыя ўсё ж гады. Скора, як стала савецкая ўлада, мы дзерава дасталі. А цяпер памаленьку і будуемся... Ну, я ўжо злезу: мне трэба вось гэтаю дарожкаю. Гэта ж вось было балота, а гуртам ужо асушылі, цяпер хоць з канём едзь.

— То бывай здароў, — адазваўся я і заматаў пугаю, а сам сабе падумаў: «Вось як мужыкі адцурваюцца зямлі». І ўспомніліся словы нябожчыка Міхаля: «А розум хоць ціха, памаленечку, ды ўсё расце і паднімаецца на ногі сярод мужыкоў».

Дык ось, браткі, і смякайце ды самі на дарогу выбівайцеся!

*1922*

# МІКОЛА ШКЯЛЁНАК

Публіцыст, гісторык і юрыст Мікола Шкялёнак нарадзіўся ў 1899 годзе ў вёсцы Пякоціна на Мёршчыне ў сям'і буйнога землеўласніка. У 1932 годзе скончыў юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта. Падчас вучобы прымаў актыўны ўдзел у працы беларускіх студэнцкіх і грамадскіх арганізацый: уваходзіў у праўленне Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, у Беларускае навуковае таварыства, у прэзідыум Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні, узначальваў Беларускі студэнцкі саюз і рэдагаваў ягоны друкаваны орган — часопіс «Студэнцкая думка». Займаўся адвакацкай практыкай, друкаваў гістарычныя і публіцыстычныя артыкулы ў часопісе «Калоссе», у «Запісах» Беларускага навуковага таварыства. У 1936 годзе М. Шкялёнак разам з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім быў сярод заснавальнікаў арганізацыі «Беларускі нацыянальны фронт», якая ставіла сваёй мэтай незалежнасць Беларусі. Пасля захопу Вільні савецкімі войскамі М. Шкялёнак выехаў у Варшаву, затым у Берлін, дзе стаў галоўным рэдактарам беларускай газеты «Раніца» і кіраўніком Беларускага камітэта самапомачы. У 1943 годзе вярнуўся ў Беларусь, заняў пасаду першага віцэ-прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады, выступіў з асноўным дакладам на Другім Усебеларускім кангрэсе, які адбыўся ў Мінску 27 чэрвеня 1944 года. У 1945 годзе М. Шкялёнак быў арыштаваны савецкімі спецслужбамі на тэрыторыі Польшчы, прывезены ў Мінск і ў 1946-м расстраляны.

У 2003 годзе ў Беластоку выйшла кніга М. Шкялёнка «Беларусь і суседзі», падрыхтаваная С. Чыгрынам.

## КУЛЬТУРНАЕ РАБСТВА

Маем на мэце тых беларусаў з паходжання, каторыя асіміляваліся культурна, прыняўшы «высшую» польскую або расейскую культуру. Гэткіх беларусаў асабліва шмат можна спаткаць між нашай інтэлігенцыяй, як даваеннай гэтак і пасляваеннай. Людзі гэтага тыпу лічаць сябе нават беларусамі, але кажуць, што культурна яны расейцы або палякі. Гэтае ненатуральнае злучэнне паняццяў магчыма толькі пры поўнай негацыі



самастойнасці беларускае культуры. Апошняя ў іх разуменні мае змясціцца ў рамах польскасці або маскоўшчыны, як нешта рэгіянальнае, нязначнае, над чым не варта спецыяльна працаваць. Зразумела, што гэта культурная асіміляцыя вядзе няўхільна і да асіміляцыі дзяржаўнай, інакш палітычнае. Гэткія беларусы пераважна з'яўляюцца больш ці менш выдатнымі расейскімі і польскімі дзеячамі. З пільнасцю, уласцівай усякім неафітам, яны шыраць у нас расейскую і польскую культуру энергічней ад сапраўдных палякаў і расейцаў.

Гэткага адносіна да чужых культур няможна інакш назваць, як *рабствам,* а засіміляваных культурна беларусаў — рабамі. Паняцце раба супануе заўсёды паняцце пана. Немагчымы раб, які б нікому не служыў. Панам можа быць не толькі фізічная асоба, але і адарванае паняцце, як, прыкладам, чужая культура. Характэрнай адзнакай узаемаадносінаў між рабом і панам ёсць сляпое, бескрытычнае служэнне *чужым,* панскім інтарэсам. Раб, які пачынае крытыкаваць свайго пана або разумець, што служыць чужым інтарэсам, ужо не будзе рабом. Побач з гэтай слепатой і бескрытыцызмам у раба наглядаецца заўсёды *пагарда* да сябе, да свайго. Дзякуючы гэтым адзнакам у старажытнасці раба лічылі проста прадметам. І гэта правільна, бо немагчыма лічыць паўнавартасным чалавекам адзінку, якая сама сябе чалавекам лічыць не хоча, а прыраўноўвае сябе да панскае жывёлы, мэбляў і г. д. Кажуць: «рабы ненавідзяць сваіх паноў». Вось жа гэткіх рабоў немагчыма лічыць рабамі. «Узбунтаваныя» рабы — ужо не рабы. Гэта людзі, якія пачынаюць разумець свае інтарэсы і імкнуцца да вызвалення. Маем на мэце толькі рабоў сляпых, адданых бескрытычна пану. Гэткім панам, як зацемлена вышэй, можа быць і чужая культура.

Рабоў у апошнім разуменні мы, беларусы, маем поўна. Хіба не знойдзецца свядомага беларуса, які б не стыкаўся з беларусамі — рабамі чужых культураў. Адданасць гэтых беларусаў сваім панам ёсць часта здзіўляючай. Дзе карані гэтага духовага рабства часткі нашае інтэлігенцыі і ў чым практычна яно праяўляецца?

Мы не будзем звяртацца ў мінуўшчыну, каб вытлумачыць гэтае з'явішча, хоць і тады ўжо ў нас гэтае рабства пашыралася. Досыць успомніць ведамы сказ тагачасных напалавіну засіміляваных культурна беларусаў гаварыўшых аб сабе: «gente Ruthenus, nation Polonus», ды ведамы зварот з прамовы смаленскага кашталяна Мялешкі, сказаўшага аб гэткіх рабох, што яны хоць і свая косць, але абрасла сабачым мясам і ваняець.

Здаецца, што культурнае рабства часткі нашае інтэлігенцыі можна выясніць іншымі дзейнікамі, а галоўна псіхалагічнымі.

Інтэлігенцкім культурным рабом у некаторай ступені трэба нарадзіцца. Трэба ад нараджэння мець *прэдыспазіцыі* да рабства. Рабская псіхіка ў чалавека з псіхічнымі склоннасцямі да нявolі, калі ён апынецца ў спрыяючых умовах, багата разаўецца. Нявольніцкія прэдыспазіцыі будуць пхаць абдзеленага імі інтэлігента да шукання *сілы-пана,* у рабства якой гэткі інтэлігент дабравольна ідзе коштам рэзігнацыі з сваёй людской годнасці. Гэтае рабства дае яму духовы супакой, парадкавае яго сумленне. Гэткі інтэлігент пачынае глядзець *на сябе самога,* вачамі свайго пана, будзе згадваць яго волю і паступаць са сваімі гэтак, як паступаў бы пан, калі б быў на ягоным месцы. А якія ж спрыяючыя ўмовы патрэбны дзеля развіцця рабскіх прэдыспазіцыяў. Ясна, ідзе тут аб умовы, створаныя дадзеным панам, трэба трапіць у сферу ягоных уплываў.

Гэткім парадкам культурнае рабства беларускага інтэлігента з нявольніцкімі склоннасцямі азначыцца паводле таго, у якога пана ён апынецца. Беларусы *расейскае* культуры маглі б быць дужа добра *польскай,* і, наадварот, бо іхняя культурная асіміляцыя залежыць ад таго, куды яны перш трапілі і якой атмасферай перш дыхалі. Гаворачы аб людзях з псіхічнай склоннасцю да культурнае асіміляцыі, мы, зразумела, не маем на мэце тых, якія з карысных мэтаў пакрываюць сваю прыналежнасць да расейшчыны ці польшчыны. Маем на мэце толькі тых культурных рабоў, якія працуюць на свайго пана безынтэрэсоўна, сумленна. Гэткія беларусы ў кожных найнепамыснейшых абставінах будуць працаваць на карысць асіміляваўшае іх культуры. Годзе ўспомніць для прыкладу, колькі беларусаў з усёй адданасцю працуе між расейскай эміграцыяй без усякай матэрыяльнае нагароды. Ведама агульна, што ўмовы іхняе працы з кожнага гледзішча вельмі цяжкія, аднак гэта іх не пужае. Тут якраз мы маем класічны прыклад культурнага рабства часткі беларусаў з паходжання, прыклад сляпой адданасці свайму пану.

Ці апрача псіхічных склоннасцяў да рабства ёсць іншыя яго прычыны, — гадаць не будзем. Лічым гэтую прычыну найважнейшай. Іншая рэч, скуль бяруцца гэтыя рабскія прэдыспазіцыі ў натуры чалавека. Магчыма, тут мае сваё значэнне пераймо ў спадчыне свайго роду «комплексу нізшасці», як плоду паравяковага залежнага жыцця беларускага народа. Комплекс собскае нізшасці перадаваўся з пакалення ў пакаленне, як заразная хвароба, і стварыў гэтыя нявольніцкія склоннасці ў псіхіцы некаторых беларусаў.



Мы сказалі, што беларускі культурны раб азначаецца пагардай да сябе і свайго і на ўсё глядзіць вачамі пана. Пан жа «літуецца» над рабамі і даказвае ім, што яны не з'яўляюцца поўным нулём, але нейкай часткай яго панскай істоты. Пан дапушчае рабоў у сваю культурную грамадскасць, як радню, а не купленых дзесь на міжнародных рынках чужаземных іншапляменных нявольнікаў. Падчырківаем гэты момант «радні» з панам, бо ён для культурных рабоў мае каласальнае значэнне ў сэнсе ўспакаення іхняга рабскага сумлення. Ведаць, што сам пан міласціва залічвае іх побач з іншымі чужапляменнікамі, якіх у яго многа, да свае супольнасці, для нявольніка важна. Тады раб не чуе сябе ізаляваным, нейкім прыблудай, а толькі «сябрам» панскай культурнай цэласці. Лічачы раба «сваім», пан загадвае яму прапагандаваць гэтае «ганаровае радство» між сваімі аднапляменнікамі і адначасна шырыць пагарду да тых, каторыя гэтага «радства» выракаюцца. Гэткім парадкам асіміляваныя культурна беларусы наперабой заганяюць беларускую культуру да расейскай або польскай. Сам тэрмін «беларуская культура» выклікае ў гэтых людзей абурэнне. «Какая может быть белорусская культура»? — «Co to jest kultura białoruska»? — іранічна пытаюцца гэтыя асобы, паходзячыя часта з аднае беларускае сям'і, і ў найлепшым прыпадку паціскаюць плячамі. Згодна з загадам сваіх паноў, яны прызнаюць беларускую культуру, як малазначную народную творчасць у рамах вялікіх польскіх або расейскіх культурных дасягненняў. У сляпой адданасці сваім панам гэтыя асіміляваныя беларусы не хочуць бачыць абсурдальнасці сваіх вывадаў, пайменна, што беларуская культура, якая б ні была яе параўнальная вартасць, не можа быць адначасна польскай і расейскай. Залічанне яе да расейскай тым самым выключае думку аб яе польскасці і наадварот. Але гэтая супярэчнасць, як аказваецца, зусім не псуе адносінаў між нявольнікамі розных паноў. Ідзе аб тое, што паны гатовы лепш дапусціць гэтую абсурдальную супярэчнасць, над якой можна падыскутаваць, чымся пагадзіцца з існаваннем асобнай беларускай культуры і гэтым дапусціць у сваё асяроддзе небяспечнага бунтаўніка. Негацыя беларускасці, як нейкай апрычонай культурнае цэласці, лучыць паноў і рабоў. Успомненая ж абсурдальная супярэчнасць выклікае толькі «навуковую» дыскусію, ведзеную галоўна беларускімі рабамі. Паўстаюць вялізарныя томы «навуковае» макулатуры, з помаччу каторай

беларусы «дзвюх культур» у помач сваім паном стараюцца даказаць польскасць або расейскасць беларускае культуры. Гэтая макулатура ёсць паказальнай для ўсіх і, як вочы змяі на птушку, дзеіць на душы тых жа беларусаў з рабскімі склоннасцямі.

З пачуцця радні з «панскай» культурай плыве пагарда раба да сваёй. Інтэлігенцкі беларускі раб хоча ўва ўсім быць падобным свайму пану. Пляма, аднак, «няпанскага» культурнага паходжання мучае раба і магчыма ад часу да часу ўзварушыць яго сумленне. З тым большым разгонам кідаецца ён на нішчэнне слядоў собскага паходжання. Іменна слядоў паходжання, бо пакуль яны будуць відавочны, датуль раб спакойна жыць не можа.

Жаролы беларускай культуры, яе багацце і самастойнае значэнне між культурамі расейскай і польскай, найлепш паказвае наша гісторыя. Вось жа дзеля апраўдання культурнай асіміляцыі беларусаў неабходна беларускую гісторыю знішчыць, інакш з яе можна будзе заўсёды даведацца аб паходжанні і ролі беларускасці. З гэтай мэтай паны і іхнія беларускія рабы з асаблівай энергіяй стараюцца вычыркнуць беларусаў з гісторыі. З усёй пэўнасцю можна казаць, што беларуская гісторыя адчула наймацней разбураючую руку рабоў-беларусаў. У сваёй разбураючай працы рабы карыстаюцца аружжам, выдуманым панамі. Гэтак рабы расейскага пана паўтараюць за ім, што ніякага беларускага народа няма і не было, быў і ёсць «единый русский народ», складовай часткай якога з'яўляюцца між іншымі і беларусы. Ніякай апрычонай гісторыі беларусы не мелі, была толькі гісторыя «общерусская». З гэтай мэтай расейскі пан папросту ўкраў багатую беларускую і ўкраінскую гісторыю і далучыў яе да маскоўскай. Менш аб тое, што з гэтага механічнага злучэння нічога не выходзе і што нават да апошніх часоў расейскія гісторыкі не могуць выпрацаваць сінтэтычных асноў гэтай «общерусской» гісторыі, інакш даказаць арганічную цэласць яе. Рабом гэта не патрэбна. Для іх хопіць бязмыснага паўтарэння за панам, што сталіцамі Расеі былі Ноўгарад, Кіеў, Уладзімір на Клязьме, Масква, Пецярбург, што Полацак, Менск, Смаленск, Пскоў і іншыя беларускія цэнтры былі толькі «общерусскими уделами». Гэты механічны збіцень чужых гісторыяў імпануе беларусам з рабскімі прэдыспазіцыямі. Хіба праўдзівыя «слёзы умиления» выклікала ў іх заява расейскага цара на эміграцыі Уладзіміра Кірылавіча, які, запярэчыўшы магчымасці каранавання яго на асобнага ўкраінскага цара, сказаў, што хто б



дапушчаў гэта, той: «совершенно не знал бы истории императорской России. Ведь Киев — это колыбель России».

Рабы польскай культуры карыстаюцца такжа дадзеным ім у рукі аружжам. Тут гаворыцца, што Вялікае Княства Бел.-Літ. было настолькі агорнута польскай культурай, што лічылася не больш, як польскай правінцыяй. Міцкевіч, Сыракомля, Касцюшка, Крашэўскі назаўсёды злучылі землі Вял. Княства з Польшчай. Толькі польскі дух быў тут творчым і рабіў гісторыю. Усё, што ў яго рамы не ўкладалася, — было ўсходам, барбарствам, негістарычным.

З гэткім аружжам нашыя рабы чужых культур стараюцца, хоць і дарэмна, збурыць собскую гісторыю, зацерці сляды свайго паходжання... А гэта мела б для іх каласальнае значэнне. Тады яны з усёй пэўнасцю маглі б гаварыць, што беларускі рух гэта нешта новае, сезонавае, негістарычнае, а у найгоршым прыпадку выдуманы варожымі агентурамі. Сумленне рабоў у гэткім прыпадку было б чыстае.

Рабы працуюць для чужой культуры з поўнай адданасцю і сентыментам. Характэрна, што для беларускай культуры яны не маюць не толькі ніякае спагаднасці, але прагавіта жадаюць ейнай смерці. Можа іх узварушыць загуба — скажам — мексіканскай, абісінскай культур, але ніколі беларускай. Трагедыя апошняе можа выклікаць у іх толькі ціхую радасць. Адданасць у працы для чужой культуры, спатыканая ў рабоў, ёсць зразумелай з вышэйшых разважанняў. Але скуль бярэцца тут пачуццё, сентымент да яе?

Рабы-інтэлігенты, з беларускага сялянства або мяшчанства, стыкаюцца з чужой панскай культурай у рамантычным апрацаванні. Рамантызм, «багацце», «шляхетнасць» польскае культурнае творчасці выдаецца ім настолькі захопліваючымі і настолькі процілежнымі да ўбогасці собскага культурнага асяроддзя, што безапеляцыйна дэцыдуюць аб іхняй культурнай душы, будзяць у ёй сентымент да сябе. «Бедная» беларуская сялянска-мяшчанская культура выдаецца ім простай, грубой і гэтым самым няздольнай выклікаць і адрабіны таго пачуцця, якое рабы маюць да чужой. Гэта некарыснае параўнанне забірае ў іх далейшую цікавасць да здабыткаў беларускіх культурнікаў. Змаганне беларускіх культурнікаў з чужымі культурамі, прыняўшае апошнімі часамі шырокі размах, будзіць у іх душах нясмак да беларускасці і яшчэ большы сентымент да чужыншчыны, з якой зрасліся.

Мы стараліся паказаць прычыны паўстання і практычную дзейнасць беларускіх рабоў. А якой мае быць ацэна гэтага з'явішча?

Тут шмат гаварыць не прыйдзецца. Культурныя рабы — гэта іменна і ёсць той «гной», на якім мае буйна ўзрасці на беларускай ніве чужая культура. Усе імкненні чужынцаў да культурнае асіміляцыі беларусаў асноўваюцца іменна на дапушчэнні існавання гэтага «гною» — рабства ў асіміляваным асяроддзі. Асімілятары аблічаюць, што гэтыя рабы знойдуцца, ідзе ім толькі аб тое, каб было іх як найбольш. Існаванне гэтага «гною» ў значнай ступені апраўдвае нават прымусовую «культурную» асіміляцыю ў вачох ейных праваднікоў. А праз «нявінную» культурную асіміляцыю вядзецца ўжо лягчэй і палітычная, што зусім зразумела. Грамадзянства, асіміляванае палітычна і культурна, не ёсць жывым. Да гэтага імкнуцца чужыя культурныя асімілятары, або, якіх называюць часцей, «культуртрэгеры» ў адносінах і да беларусаў.

Гэткім парадкам, ведаючы, што асіміляцыі паддаюцца людзі з рабскімі склоннасцямі, што існаванне рабства ў грамадзянстве з'яўляецца моцна небяспечным, бо рабы — гэта першыя праваднікі чужой культуры ў сваім асяроддзі, а тым самым і першыя ворагі гэтага асяроддзя, усё роўна — свядомыя ці несвядомыя, — разгляданая тэма заслугоўвае на пільную ўвагу грамадзянства. Культурнае рабства — гэта хвароба ў грамадскім арганізме, з якой неабходна змагацца.

У канцы — каб не было памылак, — хочам падчыркнуць, што да культурных рабоў, само сабой разумеецца, няможна аднесці тых беларусаў, якія хоць і ўзгадоўваліся ў чужой — расейскай або польскай культуры, але асталіся *думаючымі па-беларуску.* Гэтыя беларусы нічога супольнага з рабамі ў разгледжаным сэнсе не маюць, бо культурны раб паводле пададзенага тут азначэння — гэта адзінка сляпая, думаючая крытэрыямі свайго пана.

*1939*

# ДЗМІТРЫЙ КУРДЗІН

Драматург і паэт Дзмітрый Курдзін нарадзіўся 1 (13) кастрычніка 1899 года ў вёсцы Дзмітрычукі Каменскага раёна Пензенскай вобласці. Пасля школы скончыў Саратаўскі ветэрынарны інстытут (1925) і быў накіраваны на працу ў Беларусь. Падчас службы ў арміі прызначаны ваенным ветэрынарным урачом у Мінску, затым у Віцебску. Працаваў выкладчыкам Віцебскага ветэрынарнага інстытута.

У беларускай літаратуры Дз. Курдзін больш вядомы як драматург. Першая яго п'еса «Міжбур'е» была пастаўлена Е. Міровічам у БДТ-1 у 1929 годзе, дзе ролі выконвалі вядомыя беларускія акцёры. З поспехам ішла яна на Усесаюзнай тэатральнай алімпіядзе ў Маскве (1930). Ставілі яе таксама тэатры Ленінграда, Баку, Смаленска, Саратава, Чэбаксар, Ульянаўска. П'есы Дз. Курдзіна «Контратака» (1932), «Чалавек вырашае» (пастаўлена ў БДТ-2, 1934), «Алюр тры крыжы» (1934), «Азеляненне цэха» (1935) значныя і цікавыя сваёй праблематыкай, уменнем аўтара ўбачыць і паказаць тыповыя абставіны праз тыповыя характары, раскрыць складаныя моманты псіхалагічнай пераарыентацыі чалавека ва умовах рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, супярэчлівую, неадназначную сутнасць гэтых падзей.

12 жніўня 1937 года пісьменнік быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС, абвінавачаны як польскі шпіён і 12 снежня 1937 года расстраляны ў Віцебску ва ўзросце 38 гадоў.

## МІЖБУР'Е

Падзеі п'есы «Міжбур'е» адбываюцца ў армейскім асяроддзі ў 1924–1925 гг., у той перыяд, калі ішла рэарганізацыя Чырвонай Арміі.

Галоўнымі персанажамі твора з'яўляюцца камандзір стралковага палка Шчураў і камандзір узвода конных разведчыкаў Дыбаў. Яны даўнія сябры, абодва мужна, храбра змагаліся з інтэрвентамі ў грамадзянскую вайну. Але час змяніўся, змяняюцца і ўмовы барацьбы з ворагам. Каб адолець праціўніка ў будучых бітвах, мала толькі адвагі і геройства, патрэбны вялікія веды. Шчураў гэта добра зразумеў і ўзяўся за вучобу.

Выкарыстоўваючы кожную вольную хвіліну, ён вучыцца сам, абавязвае вучыцца і усіх іншых. Дыбаў жа займае процілеглую пазіцыю: маўляў, добра ваявалі без навукі ў грамадзянскую вайну, добра будзем ваяваць без яе, калі спатрэбіцца, і ў будучым. Ён з вялікай неахвотай праводзіць палітзаняткі, у час вучобы з салдатамі займаецца зусім не тым, чым трэба.

На гэтай глебе паміж Шчуравым і Дыбавым узнікаюць сутыкненні, якія паступова перарастаюць у канфлікт. Дыбаў, які ўпарта працягвае стаяць на сваіх пазіцыях, падае ў адстаўку. Толькі значна пазней, папрацаваўшы ў розных установах, Дыбаў зразумеў, што памыляўся.

## Другі акт

*4-ты эпізод*

### ГРАМАДЗЯНСКАЯ ВАЙНА І ЧАМУ ЯНА ПАЧАЛАСЯ

Казарма ўзвода конных разведчыкаў. Піраміда са зброі. Абарваныя лозунгі. Ч ы р в о н а а р м е й ц ы: хто іграе ў шашкі, хто размаўляе. М а л і н о ў с к і чытае з групай чырвонаармейцаў газету. Р ы с і х і н рамантуе гармонік. Уваходзіць Д ы б а ў.

Б а б а е ў *(камандуе)*. Змі-рна! *(Рапартуе.)* Таварыш камандзір! У час майго дзяжурства здарэнняў ніякіх не адбылося.

Д ы б а ў. Здарова, ліхі, непераможны конны ўзвод!

Ч ы р в о н а а р м е й ц ы. Здрасце!

С м а г і н *(увайшоў)*. Садзіся на палітгадзіну!

Чырвонаармейцы садзяцца на лаўкі. Рысіхін працягвае рамантаваць гармонік.

Д ы б а ў *(садзіцца ля стала)*. Смагін.

С м а г і н. Я вас слухаю.

Д ы б а ў. Глянь у расклад: якая там тэма сёння?

С м а г і н *(глядзіць у сшытак)*. Сёння: «Чаму пачалася грамадзянская вайна». Можна ісці?

Д ы б а ў. Ідзі. Ітак, таварышы, сёння ў нас: «Грамадзянская вайна і чаму яна пачалася». *(Пазяхае, гаворыць манатонна, сумна.)* У 1917 годзе, пасля звяржэння царскага самадзяржаўя, ні храна ў нас, у Расіі, не атрымалася. Рабочы клас і клас сялянства па-ранейшаму цярпеў усялякія крыўды з боку памешчыкаў і капіталістаў. Тады рабочыя і сяляне, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, на чале з таварышам Леніным, стукнулі па буржуазіі і зрабілі кастрычніцкі пераварот. Сталі рабочыя з фабрыкамі, а сяляне з зямлёю. *(Падышоў да Рысіхіна, крануў гармонікам.)* Зразумела?



Ч ы р в о н а а р м е й ц ы. Зразумела. *(Шумяць.)*

Д ы б а ў. Злосна закіпелі таўстасумы. Захацелі яны вярнуць страчанае дабро і з розных бакоў папаўзлі на Савецкую Русь. *(Весела.)* І пачалася грамадзянская вайна. 1 такая тут, братцы мае, пайшла завaруха, што не толькі чарцям, самому Богу з Багародзіцай, у душу іх, млосна стала. А я, брацішкі, у гэты самы час сяджу на беразе Волгі з мартышкай на спіне, семкі лушчу ды лушпінне ў ваду спускаю.

Ш к л я р а ў. А што гэта за мартышка, таварыш камандзір?

Б а б а е ў. Мартышка — гэта снасць такая, каб спіну не церла.

Д ы б а ў. Во-во! Бацька мой усё жыццё купецкія баржы грузіў і, калі памёр, пакінуў мне ў спадчыну гэтую мартышку. Нядоўга мне на купцоў грузіць давялося. Стала Волга савецкая, і грузу стала мала, а таму і сядзеў я на беразе без справы. Шмат я тады семак перагрыз, многа дум усялякіх перадумаў, і, як пачаў Калчак на Волгу зарыцца, уступіў я ў чырвонаармейскі полк імя Сцяпана Разіна. Многа тады дабравольнага люду пайшло ў чырвоныя палкі. Ужо нашто бабы, а і тыя на белага адмірала распыхаліся. Ішлі з намі ў нагу, хто з марляй, хто з кніжкай, а хто з вінтоўкай. Многа іх было: Ленкі, Алесі, Маруські ды Зінкі. Цяжкія дні былі — вашывыя ды заразныя. Вы вось цяпер, калі ў вас у супе лаўровы лісток прыгарыць, — адразу ж у насценную газету, у «Красную звезду» пішаце, а тады бывала: што конь есць, тое і мы. Але духам не падалі. Ідзём, а спераду ў нас два правадыры — Ільіч ды Сценька Разін. Паўтары, Кудзелька.

К у д з е л ь к а. Ільіч і таксама... Сценька Разін.

Д ы б а ў. Правільна! Укакошылі мы Калчака. А тут Юдзеніч вылупіўся. Змазалі Юдзеніча — Дзянікін прэ. А ўжо на Урангеля, браточкі мае, ехаў я з пяцццюстамі ліхіх рабят на сваім верным кані Грамабоі, які цяпер у нашай канюшні стаіць ды на ладан дыхае. *(Сярод чырвонаармейцаў смех.)* Вы вось зараз смеяцеся, чэрці паласатыя, што ў мяне ён такі і сякі: і крывы, і віславухі, і ногі з казінцамі, — а ён у мяне разумнейшы за ўсялякага прафесара. *(Падыходзіць да чырвонаармейцаў.)* Каб не ён, не стаяў бы я зараз перад вамі і палітгадзіны не чытаў бы. *(Садзіцца пасярод чырвонаармейцаў.)* Гналіся за мной пятнаццаць казакаў. Канцылярыю я ў іх са штаба змыліў. Пулі мне ўслед, як пясок у буру.

Добрыя пулі міма ляцяць, а дзве дурных... Грамабою — прама ў красцец. Запнуўся Грамабой, стаў і крывёю абліваецца. А казакі блізка. Учуў ён ззаду капыткі казацкія і зноў імчыць мяне хутчэй чортавай ведзьмы. Вынось, гавару, Грамабою, выручай, брат. І выручыў — увесь у пене, у крыві, у дыме, — а выручыў. *(Ускочыў на сярэдзіну пакоя.)* Не падкачала кроў данская! Сам жа я, браткі мае, саратаўскі, конь у мяне данскі, а жонка ўкраінка — і атрымліваецца інтэрнацыянал. Зразумела?

Ч ы р в о н а а р м е й ц ы. Зразумела!

Д ы б а ў. Паўтары, Бабаеў.

Б а б а е ў *(іранічна)*. Сам ты данскі, конь украінскі, а жонка саратаўская.

Смех.

Д ы б а ў. Брэшаш, сучы хвост, ну, ды ўсё роўна! Пасля гэтага выпадку выпіў я пляшку самагону, столькі ж Грамабою паднёс ды такое «Яблычка» пад гармонік станцаваў, што без ботаў астаўся. Чуеш, Рысіхін?

Р ы с і х і н. Адчуваю, таварыш камандзір.

Д ы б а ў. Скачам гэта мы з Грамабоем па ўкраінскіх стэпах, па беларускіх сёлах, яблычкам па Расіі пракочваемся. Эскадронамі, палкамі, брыгадамі ціснем зграю залатапагонную, па ўсяму фронту з музыкай у вёску ўлятаем. Мужыкі рукі ціснуць, бабы пампушкай частуюць, дзеўкі цалавацца лезуць. Ні вуснаў, ні цыцак дзеўкам не шкада. А Сямён Міхайлавіч Будзённы толькі крычыць. *(Выняў з ножнаў шашку.)* «У атаку! Наперад, наперад! Сячы!»

Рысіхін гучна іграе «Яблычка». Чырвонаармейцы падымаюцца са сваіх месцаў.

Дым... агонь... страляніна... Заваруха... У Расіі страляюць — у Амерыцы чутна... Давай!

Рысіхін ва ўсе мяхі расцягвае гармонік.

Эх, сып, братва, успамінай грамадзянскую!

Ч ы р в о н а а р м е й ц ы. Эх!..

Увесь узвод пусціўся ў скокі. Уваходзяць Ш ч у р а ў, Л і с т к о ў і С м а г і н.

Б а б а е ў *(заўважыў Шчурава)*. З-мір-наа!

Усе замерлі без руху.

Ш ч у р а ў. Што ў вас тут такое?



Б а б а е ў. Палітгадзіна, таварыш камандзір палка.

Ш ч у р а ў. Працягвайце.

Чырвонаармейцы садзяцца. Шчураў і Лісткоў усаджваюцца пасярод іх.

Д ы б а ў *(укладвае шашку ў ножны, сумна)*. Так, таварышы, закончылася грамадзянская вайна. Цяпер нам трэба вучыцца і цвёрда стаяць на варце, таму што ў нас дыктатура, і не якая-небудзь, а рабоча-сялянская! Якая дыктатура ў нас? Паўтары, Маліноўскі.

М а л і н о ў с к і. Пралетарская, таварыш камандзір.

Д ы б а ў. Камуністычная партыя ўвогуле і ў цэлым вядзе нас да лепшага, таму што гэта партыя — наша, рабоча-сялянская.

М а л і н о ў с к і. Рабочая, таварыш камандзір.

К у р б а т а ў. А мы, сяляне, значыць ні пры чым?

Р у х і н. Усё рабочыя ды рабочыя.

К у д з е л ь к а. Значыць, мы, сяляне, збоку прыпёку? «Ні Богу свечка, ні чорту качарга».

М а л і н о ў с к і. Сяляне розныя бываюць.

К у р б а т а ў. Заткніся, не рыпайся.

С м а г і н. Цішэй.

Д ы б а ў. На гэту тэму, таварышы, мы пагаворым у наступны раз, а цяпер аб'яўляю палітгадзіну закончанай.

С м а г і н. Устаць! Падрыхтавацца да заняткаў!

Чырвонаармейцы і Смагін выходзяць. Шчураў, Лісткоў і Дыбаў ля стала.

Ш ч у р а ў *(падыходзіць да Дыбава)*. Што гэта такое, Сцяпан, усё па-ранейшаму? *(Дыбаў маўчыць.)* Апошні раз гавару табе: каб у мяне падобных палітзаняткаў не было.

Д ы б а ў. Іншых праводзіць не ўмею. Не вучыўся. Я не поп. Мая справа эскадронам камандаваць.

Ш ч у р а ў. Эскадронам? Ты і ўзводам як след камандаваць не ўмееш. На апошнім месцы ў дывізіі твой конны ўзвод.

Д ы б а ў. Ну, гэта паглядзім!

Ш ч у р а ў *(рэзка)*. Таварыш камандзір узвода конных разведчыкаў, з'явіцеся да мяне ў штаб праз дваццаць хвілін для тлумачэнняў. У вас чырвонаармейцы на палітзанятках «Яблычка» скачуць. Страявую вучобу запусцілі. Канчаткова распусцілі ўзвод.

Д ы б а ў *(панура)*. Слухаю.

Ш ч у р а ў. Партызаншчына!

З а с л о н а.

***1929***

# ФЕЛІКС КУПЦЭВІЧ

Літаратурны крытык, празаік, паэт і грамадскі дзеяч Фелікс Купцэвіч нарадзіўся 21 кастрычніка 1900 года ў сям'і служачых у Гродне. Вучыўся ў Слонімскім вышэйшым вучылішчы. З пачаткам Першай сусветнай вайны апынуўся ў бежанстве, некаторы час жыў у Пецярбургу. У 1918 годзе вярнуўся ў Гродна, працаваў на чыгунцы, але ў 1920 годзе зноў пакінуў горад у сувязі з белапольскай акупацыяй, вёў падпольную работу сярод насельніцтва па арганізацыі ўзброенага супраціўлення палякам на Гродзеншчыне. З 1924 года працаваў у ЦК КП(б)Б, затым быў накіраваны сакратаром Крычаўскага райкама КП(б)Б (у партыю ўступіў яшчэ ў 1919 годзе). Пазней — загадчык аддзела прапаганды Калінінскага акругкама КПБ(б), а з 1926 года працаваў у Латвіі. Пасля вяртання ў Мінск (1927) працаваў намеснікам рэдактара газеты «Звязда», паступіў на літаратурнае аддзяленне Інстытута чырвонай прафесуры ў Маскве. У гэтыя гады найбольш актыўна пачаў выступаць як літаратурны крытык, пазнаёміўся і пасябраваў з многімі беларускімі пісьменнікамі. У. Жылка прысвяціў Ф. Купцэвічу «Верш развітання» (1931) з кранальным надпісам «Феліксу Купцэвічу, сэрцу, раздзёртаму болем па Бацькаўшчыне, прысвячаю».

З 1928 года крытычныя артыкулы, рэцэнзіі Ф. Купцэвіча пастаянна друкуюцца на старонках часопісаў «Маладняк», «Узвышша» і іншых перыядычных выданняў.

Яго называлі «беларускім Бялінскім № 2» (першым, па агульным прызнанні, быў А. Бабарэка). Калі на першым часе Ф. Купцэвіч дазваляў сабе вульгарызатарскія ацэнкі твораў асобных беларускіх пісьменнікаў, дык потым цалкам адмовіўся ад такога метаду. У сваіх артыкулах ён змагаўся за культуру творчасці, імкнуўся ўсебакова аналізаваць творы пісьменнікаў, уважліва ставіўся да іх мовы.

Талент Ф. Купцэвіча толькі пачынаў выспяваць, разгортвацца. Пісьменнік быў абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызме, выключаны з Інстытута і 29 жніўня 1930 года арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» (СВБ). Аднак праз два месяцы яго вызвалілі, і да 1933 года ён працаваў у Маскве на адным з заводаў. Паўторна быў арыштаваны 9 красавіка 1933 года ўжо па справе «Беларускай народнай грамады», асуджаны на 5 гадоў зняволення і адпраўлены ў Мінусінскі канцлагер. 23 лістапада 1937 года Ф. Купцэвіч быў на 38-м годзе жыцця расстраляны.



## ПРА «ВЕРАСНЁВЫЯ НОЧЫ» К. ЧОРНАГА

Невялічкі зборнік апавяданняў, пісаных на абсягу часу з 1925 да 1927 г. у параўнанні з раманам «Зямля», які нядаўна выйшаў з друку, выглядае надзвычай сціпла. У «Зямлі» К. Чорны выявіўся перад намі як сапраўдны мастак, здолеўшы даць у надзвычайна яскравых і прыгожых фарбах тое, чым жыве сучаснасць, здолеўшы перакласці ў мову вобразаў мастацкага твора ўсе адценні, часам незаўважаныя рыскі людскога матэрыялу, пакладзенага ім у аснову твора. Ён не абмяжоўваецца толькі назіраннем вакольнага, а, маючы талент прасякнуць у нутро з'яў чалавека, грамадства, выкарыстоўвае яго ва ўсю глыбіню і аздабляе мастацкія творы наказам той сапраўднасці, якая не толькі бачыцца, але якая і адчуваецца — і, можа, таму так глыбока пачуццёвы і настраёвы яго мастацкія рэчы, таму яны і маюць здольнасць уплываць на чытача. канцэнтраваць ягоныя эмоцыі.

К. Чорны менавіта паказвае, а не расказвае і гэтым адменна адрозніваецца ад шмат якіх нашых сучасных пісьменнікаў. «Расказ», нават і таленавіты, усё ж застаецца расказам і хутка губляе сваю мастацкую вартасць, а з цягам часу забываецца і не чытаецца. Не тое з «паказам». Намалёваны ўдала падабранымі фарбамі ці то асобны партрэт, ці пейзаж прыроды, або грамадская тэма малюнка надоўга пакідаюць уражанне і раз-пораз прымушаюць звярнуць да сябе ўвагу, не даюць забыцца на іх. Гэта тое, што можна назваць мастацтвам у самым сціслым значэнні гэтага слова. Так, К. Чорны мастак і не малых маштабаў.

Але сказаць толькі гэта — гэта значыць сказаць толькі палавіну і фактычна пакінуць неасветленай другую палавіну пытання, самую важную для нас — гэта месца і значэнне мастацкай прадукцыі К. Чорнага ў грамадстве, яе вартасць і мэтаімкнёнасць. І гэтую другую палавіну пытання нельга інačай разглядаць, як толькі прызнаннем за ёю поўнай сугучнасці патрабаванням класа, які нарадзіла Беларусь, стварыла ўмовы для яго развіцця і які ўрэшце вылучыў на мастацкую чыннасць кадры сваіх мастакоў, сярод якіх К. Чорнаму належыць выключнае месца.

Мы часта гаворым пра нацыянальную літаратуру (зразумела, формаю і зместам пралетарскую), але дагэтуль амаль ніхто (за выключэннем А. Бабарэкі) не ўзняў пытання аб нацыянальных асаблівасцях, уласцівых дадзенай нацыянальнасці, адзнаках літаратуры. Звычайна абмяжоўваюцца толькі моўным

яе адрозніваннем ад літаратур іншых народаў і на гэтым супакойваюцца. Аднак усім відавочна, наколькі павярхоўна такое тлумачэнне і наколькі яно наогул... не тлумачэнне.

Сацыяльна-псіхалагічны комплекс элементаў, якія могуць быць пастаўлены як нацыянальная адзнака беларускай (ды і ўсякай іншай) нацыянальнасці, куды шырэйшы і ўлічвае ў сабе шмат элементаў гістарычнага, бытавога, сацыяльнага, псіхалагічнага і іншых парадкаў, якія так ці інакш знаходзяць сабе адлюстраванне ў нацыянальным мастацтве. Але гэта тэма для адмысловага артыкула, і тут мы абмяжуемся толькі фактам канстатавання таго, што творчасць К. Чорнага, менавіта насычанасцю нацыянальнымі адзнакамі, стаіць у першых радох беларускай літаратуры і гэтым адменна выдзяляецца ад творчасці эпігонаў розных іншых, можа, і культурна багацейшых літаратур. А з другога боку, нельга тут жа не адзначыць і таго, што ідэалагічнай выразнасцю, пэўнасцю і сталасцю сацыяльных мэтавых установак кожнага твора, іхняй сугучнасцю сучаснасці, яны абсалютна выключаюць магчымасць дваістага іх тлумачэння. На ўзорах мастацкай творчасці К. Чорнага можна відавочна прасачыць, як дасягаецца манізм формы і зместу, гэтая асноўная адзнака мастацтва ў літаратуры.

Нездарма ж прыйшлося аднаму крытыку, з «прэтэнзіяй на марксісцкасць», усё ж адкінуць агульнапрызнаныя метады марксісцкага аналізу мастацкага твора і ўжыць нейчую блытаніну з біялогіі, фізіялогіі і ўласнай псіхалогіі, каб давесці, што «Зямля» пахне (!), і не друкарскай фарбай, як, можна было спадзявацца, давядзе крытык, а кулацтвам і контррэвалюцыйнымі настроямі вёскі. Гэтае смеху вартае здарэнне намі прыведзена таму, каб паказаць, што нават і такая ўльтраздольнасць «крытыка» не дала чаканых вынікаў і толькі падкрэсліла, што невуцтва ў галіне літаратуры ўраўнаважваецца такім жа невуцтвам яго ў зачэпленых ім галінах прыродазнаўства.

К. Чорны як мастак арыгінальнай і высокай культуры мае тую ўласцівасць, што ягоная творчасць прасякнута замілаваннем, шчырасцю аўтара ў дачыненні да персанажаў. Ён хоча знайсці ў іх чалавека, вартага грамадскай увагі, чалавека, якому прыйшла пара мяняць старыя заскарузлыя парадкі. І як усебакова, як дакладна ён паказвае нам гэтага чалавека, калі той рушыў ужо на шлях пералому!

Возьмем для першага прыкладу Агату («Вераснёвыя ночы») — дзяўчыну, якая руйнуе векавую забабоннасць беларускай вёскі. Ні добра наладжаная гаспадарка суседа-шляхціца, ні ягоныя заляцанні, ні магчымасць спакойнага жыцця не ўтрымалі яе, калі ў ёй прабудзілася індывідуальнасць, пачуццё сваёй жаночай і, галоўнае, чалавечай годнасці. Яна кідае выклік усяму ладу, спарахнеламу на старых традыцыях, і кідаецца да Асташонка. Натуральны матчынскі інстынкт знаходзіць сваё здавальненне ў свабодных, нічым не стамаваных формах. І калі, чытаючы гэтае апавяданне, перад вамі праходзяць, нават і дробныя часамі, рыскі псіхалагічнага змагання фактычна адзінотнай жанчыны, ці ж можаце вы закінуць аўтару залішняе «калупанне» ў псіхалагічных праявах. Не, гэта само праз сябе адпадае. Як жа інакш можаце вы зразумець тое чалавечае, тое вялікае, што ёсць у кожнага з нас, пачуццё волі і людскасці, калі не прасочыце натуральны працэс нараджэння і росту гэтага новага, на чым фактычна будуецца новы свет і лад*.

Здолець аддзяліць звярынае ад людскога, вылучыць нармальнае, унікнуць анармальнасцяў, скажэнняў, раскрыць ува ўсім сацыяльны грунт — вось задача, якую ставіць сабе аўтар і знаходзіць правільныя метады для развязання яе. Скупыя часам мастацкія вобразы акупаюцца сваім значэннем. Я маю на ўвазе Фэльку, брата Агаты, які так па-сяброўску і менавіта па-брацку падышоў да свае сястры і дапамог ёй разабрацца ва ўласных пачуццях, дапамог выйсці на новую дарогу. Рэдка, праўда, можна сустрэць узор такіх мілых стасункаў, але вось таму Фэлька і патрабаваў больш фарбаў, каб яшчэ яскравей выявіцца ягонаму вобразу, як вобразу новага чалавека. Ён фактычна сваім цёплым дачыненнем да сястры не загасіў у ёй добрых імкненняў, а дапамог ёй, як найлепей, развязаць жыццёвыя пытанні.

І не дзіва, што як і ў гэтым апавяданні, так і ў іншых чытач не знойдзе такіх малюнкаў прыроды, якія б маглі яго захапіць сваёй прыгожасцю, застацца ў памяці. Іх няма, але яны і непатрэбны. Толькі на нізкай культуры мастакі пераносяць на прыроду, на ландшафты вобразы душэўных перажыванняў (зразумела, калі не ідзе аб прыродзе самой па сабе і як сродку для мастацкага выяўлення). Кузьма Чорны мастак такой культуры, калі гэткі

* «Внутренняя работа представляется нашему сознанию фактом, касающимся лишь нашего «я», как отдельного, определенного во времени и пространств индивидуума, однако наша психическая деятельность может совершаться лишь постольку, поскольку наше «я» является общественно определенной единицей данной социальной среды» (Антонио Лабриола. «Исторический материализм и философия». С. 24).

зварот яму не патрэбен, ён можа на справе, на дзеі паказаць тыя праявы, што адбываюцца сярод людзей. Менавіта на самых людзях, на іхным жыцці, сярод іх і ў іх саміх ён знаходзіць сабе патрэбныя рыскі і фарбы, каб паказаць рэч так, як гэтага вымагаюць мэтавыя ўстаноўкі твора. А калі і даводзіцца выкарыстоўваць малюнак прыроды, дык ён носіць у большасці апісальны характар і вартасць мае сам па сабе толькі ўскосна, выцяняючы, галоўным чынам, агульны настрой апавядання, толькі асвятляючы агульны комплекс адчуванняў.

Вось для прыкладу: «Яна засталася адна, каб ісці наводдалек. Спявалі на полі дробныя птушкі, награвалася сонцам пад нагамі жвірыстае каменне. Чэзла трава на верасенскіх межах. Тхнула чаборам і піжмаю; дрымотна звінела сухая трава ці то зелле, спарыш і дзяцельнік гусціліся ля дарог, цвілі і вялі жоўтыя кветкі на высокіх сцяблох, яны пападалі між пальцаў босых ног, пакідалі там на нагах галоўкі свае. Агата нагіналася, каб выкінуць іх. Тады мацней пахла верасенская зямля». Не цяжка заўважыць, што ўвесь намалёваны абразок прыроды адыгрывае выключна службовую ролю, каб толькі выценіць апошнія сказы, да якіх ён мае непасрэднае дачыненне, — «мацней пахла верасенская зямля» і пахла здаровым, бадзёрым, пахла жыццём.

Верасень — гэта восень. Колькі паэтаў выціснулі не адну слязу, уводзячы гэты месяц як вобраз у свае творы. Лісце, што ападае, клёны, што шапочуць, і шмат іншых вобразаў, звязаных з восенню, заўжды сумна-журботным настроем павяваюць на чытача літаратуры гэтага гатунку. «Модныя» паэты шапаценне лісця, што ападае, маглі ўяўляць, як подых смерці, подых замірання ўсяго жывога. К. Чорны далёка стаў ад іх. Верасень не нудзіць яго. Наадварот, і ў верасні пахне зямля, вобраз жывіцелькі-сілы, вобраз, які дае магчымасць паказаць веліч і сілу чалавека. Моцны, дужы чалавек, які змагаецца за новае, — вось галоўны вобраз творчасці К. Чорнага, таму і лірычныя настроі яго бадзёрыя, змагарскія. Хвіліны скрухі, жалю, турботы не даюць падставы для раскісання над сваёй бездапаможнасцю. Таму і аптымізм у творчасці, таму і вясёлы спеў птушыны, таму і здаровы жывіцельны пах зямлі. Трэба толькі адчуць яго і зразумець ягонае значэнне.

К. Чорны ведае, «што ласкавае слова — гэта саматужніцтва», аднак кінуць яго ён не можа, і гэтай ласкай сагрэты ўсе станоўчыя тыпы, характары ягонай творчасці. Таму і чытачу яны так глыбока пранікаюць у душу, варта толькі прыглядзецца да жаночых вобразаў у творчасці К. Чорнага. Можа, ніхто яшчэ ў беларускай



літаратуры не паказаў так цёпла, прыхільна і ветліва жанчынубудаўніцу, самастойную істоту, як гэта зрабіў Чорны.

Апавяданне «Спатканне», дзе вобраз жанчыны пастаўлены ў іншыя акалічнасці, паказвае, як цвёрда і ўпэўнена гаспадарыць яна без мужа (п'яніцы, з якім развялася), дзе «сялянская задуменнасць і заклапочанасць» прасякае ўсю яе постаць. Яна выйшла на самастойны шлях, і хоць цяжка часам (вядома, жанчына), але як упэўнена яна перамагае гэтыя цяжкасці, якія гаспадарскія перспектывы яна разгортвае перад сабою. Праўда, яна далёка яшчэ ад калектывізму, да яе яшчэ не дайшло гэтае новае, што ў корані зменіць яе жыццё, але яна, прыйдзе час, увойдзе ў гэты агульнаграмадскі калектыў, як здаровая істота, як раўнапраўны грамадзянін.

Нездарма ж Антось, брат яе, кажа: «Сястра, а я думаў, што ты таксама сохнеш ад жыцця, як і тады. Усё інакшым мне здаецца цяпер». Так, інакшай стала жанчына, інакшае жыццё, і заслуга Чорнага ў тым, што ён мастацка паказаў гэта інакшае.

Але цяжкі шлях прайшло грамадства да гэтага інакшага, а яшчэ цяжэй прыйшлося жанчыне, якая часамі («Начлег у вёсцы Сінегах») адна з малымі дзецьмі заставалася на гаспадарцы, калі мужа і дзяцей брала вайна ў свае абоймы. Не зважаючы на гэта, цвёрда заціяўшы зубы, «вялікая гарадзенская жанчына» напорна дапамагала дамагацца гэтага іншага і нават тады, калі зведзеная ў пачуццях, пакінутая злыднем-мужам, яна адна застаецца са сваёю доляю, яна не раскісае і не кідаецца ў роспач, а засукаўшы рукавы, шчыра бярэцца за працу («Веснавыя дарогі»). «Будуць дзяўчаты робячы спяваць і Юлька з імі», — і таму не так цяжка ў пачуццях. Нахіл да працы, да зямлі яна не згубіла, — і таму такая ўрачыстасць жыцця. А калі гэта ўрачыстасць сталася рэальным фактам, калі пачула жанчына ў сабе чалавека — годзе, ніхто яе не стрымае, ніштo не перашкодзіць ёй перайсці мяжу. Яна смела кіне ўсё («Як мы пакінулі хутар»), спаліць за сабою масты і пойдзе ўгрунь да лепшага.

Мы сумысля спынілі ўвагу чытача ля жаночых вобразаў у творчасці К. Чорнага, каб паказаць на ўсю іхнюю вартасць у паэзіі К. Чорнага. Варта толькі так, злёгку перакінуць у памяці змест сучаснай беларускай літаратуры, каб заўважыць той факт, што жанчына ў ёй з'яўляецца ў большасці выпадкаў або аб'ектам «страсти бурной» (М. Зарэцкі), ціхага ўздыхання, як «предмет любви» (Жылка, Лужанін, Маракоў і інш.), страшэннай разбэшчанасці (Зарэцкі, Дудар, Мурашка) або ўрэшце аб'ектам «гуллівых» эксперыментаў (Цішка Гартны) і зусім рэдкай з'явай

прамільгне вобраз жанчыны-грамадзянкі. Гэтым, безумоўна, мы не хочам сказаць, што трэба выкрасліць з аб'ектаў мастацкай творчасці элементы кахання ці там чаго іншага. Усё, што жыццёва, усё можа быць і павінна быць узята як аб'ект літаратуры, як мастацтва. Мы толькі хочам, каб нашы пісьменнікі за дрэвамі не гублялі лесу, каб не блудзілі ў нетрах сваіх часамі, нашто грэх таіць, нездаровых пачуццяў.

Вось таму мы і ўзялі на сябе задачу паказаць у творчасці К. Чорнага гэты кавалак жыцця, які ён з такой любасцю і шчырасцю асвятляе. Мы можам смела, не баючыся памылкі, сказаць, што калі вобраз «вялікай гарадзенскай жанчыны» ўжо яскрава выявіўся ў мастацкіх рэчах К. Чорнага, дык «вялікая беларуская жанчына», работніца і сялянка, праз мастацкі талент К. Чорнага пакажацца ва ўсёй сваёй велічы грамадскай і прыгожасці чалавецкай.

К. Чорны аптыміст — гэта так. Творчасць ягоная прынамсі дагэтуль і ў прыватнасці рэцэнзаваны зборнік «Вераснёвыя ночы» паказваюць гэта. Дый не можа ён не быць аптымістам, калі жыццё, якое яго выгадавала, клас, які яго нарадзіў, клас, які яго прыняў у свае шэрагі, разам паўсталі і светлым праменем перамогі асвяцілі яго мастацкі шлях. Але аптымізм — гэта адно, а беспадстаўная, ці інакш кажучы, «казённая» радасць — зусім другое. І наколькі першае пажадана і шчыра вітаецца рабочым класам, настолькі другая, як нікому непатрэбная, адхіляецца. Вельмі лёгка пераступіць мяжу, а яе часта вельмі цяжка заўважыць, варта толькі парваць сувязі з класам, адарвацца ад жыцця, як адразу ж апынешся ў ролі няўмекі-музыкі, які, згубіўшы такт у аркестры, імкнецца здагнаць таварышаў і сваёю, часам вясёлаю, але прарэзліваю скрыпкаю парушае агульную гармонію.

Вось у дачыненні да К. Чорнага трэба сказаць, што меж ён не пераступіў. Ён бачыць гераізм «шэрай вёскі»; ён нутром прачувае новае вялізманае, што стала ўласцівым вёсцы сёння; ён умее заўважаць тое асаблівае і характэрнае, што творыць гэтае новае «інакшае», але адначасова перад ім паўстаюць і малюнкі тае старой вёскі, старога жыцця, што каменем ляжыць на дарозе к новаму, што перашкаджае гэтаму новаму. І ў гэтай галіне ўласцівасцю творчасці К. Чорнага будзе здольнасць прасякнуць у самую глыбіню, там адшукаць карэньчыкі злога і выцягнуць яго на свет, паказаць, што гэта за яно. Прыкладам можна ўзяць апавяданне «Па дарозе», на якім мы і пастараемся давесці гэтае сцвярджэнне.



«Зямля, — як размах чалавечае радасці, шырокая, бяскрайняя, здольная будзіць вялікія імкненні пачуццяў і думак» — так пачынаецца гэта апавяданне. Зямля — гэта, безумоўна, не фетыш, але гэта той матэрыял, у дачыненнях да якога вырасла грамадства, у змаганні з якою аформіўся сучасны чалавек з індустрыяй, вялікімі фабрыкамі, вялізнымі машынамі, грандыёзнымі электрастанцыямі і пры дапамозе якіх чалавек зямлю перамог, і таму «зямля размах чалавечае радасці», і з гэтым лічыцца трэба. Чалавек і зямля — гэта непарыўныя часціны аднаго цэлага, прыроды. Зямля доўга трымала чалавека ў сваіх кіпцюрох, не лёгка далася чалавеку перамога над ёю. Аднак і перамогшы, чалавек адчувае часамі на сабе подых зямлі. Праз чалавека часамі гаворыць зямля, і яна ж часам робіць чалавека злым, няветлівым, грубым: праз яго гавораць часамі звярыныя інстынкты.

Гэта тады, калі між чалавекам і зямлёю простыя асабістыя дачыненні. Калі толькі індывідуальна прывязаны чалавек да зямлі, і тады найбольшую моц мае зямля над чалавекам, бо там, дзе калектыўная воля, дзе калектыўны наступ на зямлю, там яе ўлада прападае, яна там падначалена чалавеку, як калектыву. Але сёння вёска яшчэ не калектыў, і таму паглядзець на яе, як яна ёсць, цікавая і карысная справа. Трэба ведаць, што гэта за ўлада зямлі над чалавекам, а прасачыць яе канкрэтныя праяўленні з яскравасцю можна на персанажах апавядання.

Алесь Мяльгун («Па дарозе») — высокі, плячысты — увасабленне ўсяго, што засталося старога, хоць часамі не сур'ёзнага, але заўсёды прагна дзікунскага. Павал Грыбок — «хлапец з танклявым хрыплым голасам», у якога сухоты, — гэта таксама вынік улады зямлі, — выводзяць з шэрагаў жыцця. Яго зямля перамагла. Не вытрымаў хлапец навалы, бядоты і згубіў сілы. Але не згубіў уласцівага кожнаму чалавеку, і хвораму і здароваму, пачуцця прагнасці, кахання. І калі звёўся ён у сваіх лепшых найшчырэйшых пачуццях, калі каханая дзяўчына, насмяяўшыся, адышла ад яго і пайшла да Алеся, дык толькі кпіны і смех спадарожылі яму. Не маглі людзі дараваць яму ягонай хваробы, ягонага няўдалага кахання, ніхто не спачуваў, адно толькі — здзекаваліся. «Павал зразу адчуў звярыную радасць Алеся Мяльгуна ад таго, што вось ён сядзіць блізка з тым чалавекам, над якім так удалося ўзяць яму верх, не далажыўшы да гэтага многа старанняў». Гэта радасць была не толькі ў Алеся, яна знайшла сабе месца і ў грудзёх іншых спадарожнікаў.

І гэтая кплівасць, нічым не апраўданая, гэты здзек над хворым паказвае толькі нячуласць да чалавека, роўнага па

класу і паходжанні, па працы, але пераможанага зямлёю. Яны не пераборлівыя ў сродках, каб як найбольш балюча ўкалоць незадачлівага суседа. Перабіраюць яго, а калі мала, дык языкамі менцяць, памінаючы бацьку. І не сцярпеў Павал, кідаецца да спадарожнікаў з палкімі словамі літасці і крыўды: «Браткі мае! Ну, я ведаю, што вы гэткія моцныя, а я хворы, дык нашто ж вы гэта мне гаворыце? Што я вінаваты, што я такі, а вы такія? Нашто вы мне душу разварочваеце?.. Можа, у мяне і пераварочвалася ўсё нутро ад жалю, ад крыўды, але ж я маўчаў, куды там мне... Нашто вы косці бацькі майго варушыце?.. Нашто вы ўсё гэта гаворыце, чаму ты, дзядзька Тодар, на сябе не паглядзіш, а майго бацьку памінаеш?»

Але дарма, ягоныя шчырыя словы не выклікалі ані каліва спачування, толькі рогат пачуў небарака ў адказ... «і была ў рогаце гэтая перамога над слабым... не было ў рогаце радасці, было адна сіла — здаровая, як камень, цяжкая, як зямля».

Так вось «зямля, размах чалавечае радасці», ператвараецца ў рогат, «цяжкі, як зямля». Дзе ж выхад? Дзе знайсці тыя пуціны, якія вывелі б чалавека з-пад улады зямлі? Пасля такога ўзору нечалавечай дзікасці такое пытанне задаць зусім дарэчы. Мы яшчэ раз і апошні раз звернемся да нашага аўтара і там знойдзем не мітынгова-траскучы адказ, а пачуем глыбока праніклівы голас усё той жа зямлі. Дык слухайце... «Ён-то (г. зн. Павал) адчуваў сябе сталым і цяпер, але іначай нейк, бо згінула думка аб сваім кані і драбінах,а думалася нейк аб усіх людзях, або тым самым кані, але не так, — што вось гэта яго конь і ніхто ніколі да гэтага каня ніякага дачынення мець не павінен, што гэта конь і драбіны, а я гаспадар, — а думалася і адчувалася, што вось конь вязе, а я еду. А вакол зямля, вакол людзі».

Колькі цёплай ветлівасці трэба мець да пакрыўджанага чалавека, а адначасова, наколькі трэба быць цвярозым і разважным, каб яскрава ўбачыць тое сапраўднае, што з'яўляецца крыніцай звярынай жорсткасці чалавека зямлі і адначасова якую трэба мець непарушную надзею на будучыну, на яе шляхі. Вось гэтая пераканаўчая шчырасць так блізіць К. Чорнага як пісьменніка з чытачом яго кнігі, гэтая шчырасць, даведзеная да мастацкага ўдасканалення, глыбока пранікае ў чытацкія масы.

Аднак наша рэцэнзія пагражае перарасці паложаныя ёй межы, і таму мы толькі возьмем на ўвагу адзін момант у творчасці К. Чорнага і на гэтым закончым. Хочацца спыніць увагу чытача ля спосабаў выяўлення Чорным класава-варожых нам элементаў. Неяк мы ўжо прывыклі бачыць у нашай літаратуры,



калі выводзіцца кулак, дык абавязкова з самагонам, з бойкамі, з п'яным азвярэлым тварам — адным чынам, «контра». Я не ведаю, як на каго, але калі я чытаю такі твор, дык у мяне ствараецца ўражанне, што або аўтар ніколі не бачыў жывога кулака, або наўмысля выстаўляе яго ў такім стане, каб прытупіць маю класавую пільнасць. Бо і сапраўды, які ж гэта вораг, калі вечна п'е сам, поіць другіх, — наогул, нейкае п'янае пакаленне, проста здаецца ён звычайным крымінальнікам, на якога досыць паслаць міліцыянера або пасадзіць у клініку для алкаголікаў — можа, вылечыцца, перастане піць і не будзе кулаком. Але адкінем жарты. Пара ўжо шмат каму з нашых пісьменнікаў больш сур'ёзна прыглядзецца да навакольнага жыцця і не карміць нас «лубочнымі» малюнкамі кулака, якія нікому непатрэбны і карысці ніякай не даюць.

К. Чорны, як і заўсёды ў сваёй творчасці, здолеў у гэтым выпадку ўхіліцца ад агульнага трафарэту і паказаў, праўда, многа ў чым незакончаны (і гэта недахоп апавядання) вобраз кулака на справе, пры рабоце, такім, якім можна яго сабе ўявіць. Гэткі Нічыпар Курыла («Мельнікі»). Ён надзвычайна цвярозы (не выпіў ніводнай шклянкі гарэлкі на ўсім працягу апавядання), але ён, як гэта гаворыцца, «дзялок» і дзялок моцны. Калі сочыш ягоныя думкі, учынкі, ягоную самаўпэўненасць («спрадвеку прывык лічыць сябе вялікай сілай здаровы мельнік»), дык чуеш у ім надломаную, але не зломаную сілу, гатовую падняцца, і мімаволі сціскаюцца кулакі, калі чытаеш, што гэты кулак, стукнуўшы нагою, кажа: «Я заўсёды стаяў цвёрда на зямлі, — грымеў словамі мельнік, — гэта нічога, што ў мяне хутар адабралі, я ўсё ж гаспадар сам сабе». Ворага трэба бачыць і трэба ведаць яго такім, якім ён ёсць сапраўды, каб хутчэй яго перамагчы. «Лубачнымі» кулакамі цяпер насмяшыць, і то наўдачу, ці здолееш, а нам не да смеху. І таму прыходзіцца і ў гэтым выпадку адзначыць каштоўнасць творчасці К. Чорнага для рабочага класа і працоўнага сялянства, якому ён дапамагае праз свае здольнасці, асабістую шчырасць і сацыяльную аб'ектыўнасць пазнаваць жыццё, вывучаць яго, пазнаваць і вывучаць класавага ворага, фармаваць ідэалагічны настрой працоўных.

Мы знарок выпусцілі з плана нашай рэцэнзіі цэлы комплекс стылістычных і іншых фармальных элементаў і то з тае прычыны, што паказваць цяпер на недахопы гэтага парадку ўважаем за непатрэбнае. Можна было б паказаць на асаблівую падрабязнасць апісальнага парадку, напрыклад: «муха моцна ўкусіла яе за нагу каля вялікага пальца», або «Агата пачухала левы локаць»,

або «мокры шчанюк падышоў і ткнуўся галавою ў нагу, ніжэй калена» і г. д., але аўтар за тры-чатыры гады працы сам у апошніх творах пазбыўся шмат якіх з недахопаў і ў працэсе росту, а расце ён, безумоўна, шпарка, выкрышталізуецца канчаткова.

У пачатку мы казалі пра знадворную сціпласць зборніка «Вераснёвыя ночы»; цяпер, нам здаецца, мы маем права сказаць пра глыбокую змястоўнасць яго. Галоўнае, што нам хацелася, гэта — паказаць творчасць К. Чорнага ў аспекце яе грамадскай утылізацыйнасці і вагі, паказаць яе сапраўды нацыянальнае аблічча, мастацкую вартасць і ідэалагічную выразнасць. Наяўнасць усіх гэтых элементаў у творчасці К. Чорнага даюць яму вялікія перспектывы ў развіцці беларускай літаратуры.

***1929***

## ЛІТАРАТУРНАЯ ХЛЕСТАКОЎШЧЫНА, АБО «ПРАДУКТ УЛАСНАЙ САМАБЫТНАСЦІ»

> У меня легкость необыкновенная в мыслях.
>
> *(Хлестакоў, «Рэвізор» Гогаля)*

Месяц таму назад савецкая грамадскасць адсвяткавала дзесяцігадовы юбілей існавання Беларускай ССР. Пісалася і гаварылася шмат аб нашых дасягненнях; успаміналіся недахопы, і, як заведзена, намячаліся чарговыя задачы. Розныя галіны нашага сучаснага жыцця былі дакладным чынам падагулены; вартасць і якасць дасягнутых поспехаў належным чынам была ацэнена.

Не абмінула гэтай урачыстасці і сучасная беларуская літаратура. Выдаваліся альманахі, часопісы, рыхтавалі юбілейныя нумары, газеты прысвячалі літаратурныя балоны; выдавецтвы, лезучы з скуры, выконвалі тэрміновыя заказы на кнігі, зборнікі юбіляраў і юбілейныя — адным чынам праца была разгорнута шырока. Так, у агульным святочным мітусенні неяк засталася зусім не прыкмечанай з'ява літаратурнага парадку, якая, аднак, варта пэўнай увагі.

Выйшаў зборнічак «крытычных нарысаў пра нашы літаратурныя справы» Тодара Глыбоцкага, аўтара, які стаў вядомым не столькі па сваіх «нарысах», колькі па той ідэалагічнай блытаніне, што была спадарожнікам яго крытычных і пісьменніцкіх практыкаванняў і якая ў апошнія часы прыняла яскрава «самабытныя» формы шкоднага ўхілу, асуджанага партыяй і савецкай грамадскасцю. Але гэта апошняе, так, між іншым, для характарыстыкі аўтара.



Наогул жа кажучы, у гісторыі беларускай літаратуры крытыка займала неяк месца другараднага парадку. У нашаніўскую пару, наперакор сцвярджэнням Т. Глыбоцкага, які адмовіў яе існаванне ў той час, яна ўсё ж была, хоць і мела надзвычайна абмежаваны лік прадстаўнікоў, і то больш публіцыстычнага кірунку, як Антон Навіна[1]. Сучаснасць таксама не дала пакуль што досыць аўтарытэтных імён літаратуразнаўцаў і крытыкаў марксісцкіх, якія б маглі ў сучасным жыцці адыграць у літаратуры пазітыўную ролю. Спробы рабіліся, робяцца, і надзея, бясспрэчна, ёсць і нават з шырокімі перспектывамі.

Вось таму выхад кожнай кніжкі, што трактуе пытанні літаратуры, нас вельмі цікавіць і павінен быў бы цешыць. Разгортваючы ж выдрукаваны Белдзяржвыдавецтвам зборнічак Т. Глыбоцкага, старанна перакідаючы яго балонкі, аднак сумна апускаеш рукі — уцехі няма. Сабраў аўтар свае выпадковыя газетныя рэцэнзіі, артыкульчыкі, раскіданыя па часопісах, не паклапаціўся як-небудзь іх сістэматызаваць і... бух у выдавецтва. А там людзі свае, выходзячы з таго, што і так бракуе паперы, што з прычыны браку паперы стаіць вельмі рэальна пагроза скарачэння ліку надзвычайна патрэбных выданняў, агульнае скарачэнне памераў часопісаў, як літаратурных так і іншых, падлаўчыліся і пацешылі нас «навінкай». Шкада бедных! «Навінка» з'явілася зусім не навіною ўсё старое, асуджанае, прыкрае, што да літаратуры мае надзвычайна далёкія адносіны. Уся гэта пісаніна, сабраная ў 231 балонку кніжыцы, даўно знаёмая рэч.

Гэта ж тыя пасквілі, якімі аўтар з яму аднаму (а можа, не аднаму) вядомых прычын мерыўся «угробіць» літаратурнае згуртаванне «Узвышша». Справу сваю Тодар Глыбоцкі, не прызнаны як паэт, не здатны як крытык, два гады сумленна праводзіў, рыгаючы пенаю, поўны злосці, выкарыстоўваючы знаёмствы з рэдактарамі сякіх-такіх часопісаў і некаторых газет, што гасцінна давалі яму месца на балонах сваіх выданняў.

Мы аўтару не перашкаджалі. Ён меў поўную магчымасць рабіць сваю справу. Ніхто яму не адказваў. І ад таго яго часамі кідала то ў пот, то ў жар, а то і ў дрыжыкі. Цяпер, як відаць, запас яго смуродлівых выбрыкаў вычарпаўся. І «памятник себе

воздвиг герой» — выдаў асобнай брашурай свае «статьи и речи», каб, як магільным каменем, прыдушыць ёю «Узвышша». Бедны, аслеплены ваяка! Як ён памыліўся!

«Узвышша» жыве — гэтага даводзіць не трэба — і старанна сваёй творчасцю з поспехам змагаецца за прымат у пралетарскай літаратуры Беларусі. І ці варта цяпер гаварыць пра Глыбоцкага і да яго падобных? А чаму пра яго? Яго двухгадовая дзейнасць, поўная дробна-пасквільных наскокаў, яго істэрычны крык, яго паклёпніцкія спосабы паказалі, што ён і хто ён.

Як сумна, а разам з тым як непрыемна і агідна перакідаць балонкі яго кніжыцы, поўнай хлусні, неразбярыхі, супярэчанняў, выхваляння і беспрынцыповасці. Аднак пагаварыць пра яго трэба. І не таму, каб давесці тое, што ўся яго праца прайшла марна, што ён абсалютна нічым не даняў лепшых пісьменнікаў, якія старанна працуюць на карысць пралетарыяту.

Гаварыць пра Глыбоцкага трэба таму, што за ім стаялі больш «разумныя» галовы, затым, што ён зброя ў даволі здатных руках палітыканаў-літаратараў, таму, што той сімбіёз, які акружаў Глыбоцкага, выразна паказаў сваю істоту. Гэта акружэнне заўсёды клялося і клянецца марксізмам, ленінізмам, жыве і нават піша як быццам па тэзісах. Але тая спрытнасць, з якой яны пераскокваюць з пераканання да пераканання, лёгкасць, з якой яны скажаюць сапраўдпасць асобныя ісціны, мімавольна выклікае жэст перасцярогі.

Лёгкасць іх разумовага багажу, беспрынцыповасць у кардынальных пытаннях, заліхвацкі, ухар-купецкі наскок, бессаромнасць у падтасоўванні фактаў, у здольнасцях выкарыстоўвання хоць якіх-небудзь сітуацый, якія могуць сяк-так паспрыяць ім, робіць іх надзвычайна небяспечнымі. Так, Глыбоцкі малады — ды з ранніх. І таму разабрацца ў тым, што гэта за ён, можа, і не шкодная рэч. Карысць жа гэта прынясе бясспрэчную. Дык паглядзім, што за зборнік!

Першае, што трэба зараз жа сказаць, гэта тое, што да літаратуразнаўства, да навукі, да марксізму гэты зборнік не мае ні ўскосных, ні простых адносін. Адсутнасць пэўнай метадалогіі ў разборы мастацкіх твораў, разнастайнасць крытэрыяў у падыходзе да ацэнкі творчасці таго ці іншага пісьменніка, групавы суб'ектывізм у да таго ж беспадстаўных вывадах гавораць за тое, што шукаць хоць якое-небудзь адзнакі, паводле якой можна было б будаваць крытычны нарыс, немагчыма.

Вось паводле сцвярджэння Т. Глыбоцкага літаратурныя партрэты нашых пісьменнікаў і паэтаў:



1. «Якуб Колас — першы ў беларускай літаратуры перайшоў да шырокіх палотнаў. Яго творы «Новая зямля», «Сымон музыка» — гэта яскравае ўвасабленне галоўнейшых псіхалагічных адзнак беларускага селяніна» (бал. 3) (?)

2. «Цішка Гартны адразу ўспрыняў Кастрычнік і з'яўляецца першавеснікам новых ідэй у беларускай літаратуры. З фармальнага боку творы Цішкі Гартнага цікавы асабліва накапленнем правінцыялізмаў у літаратурнай мове» (бал. 36, 37).

3. «Чарот адразу знайшоў сваю стыхію і вызначыў сваё месца ў літаратуры» (бал. 37)*.

4. «М. Зарэцкі — мастак шырокіх палотнаў. У яго апавяданнях (вершаў ён ніколі не пісаў) выступаюць людзі новага часу — энергічныя, смелыя, нязломныя» (бал. 38) (?)

5. «А. Александровіч першы ўнёс у беларускую літаратуру матывы беларускага гарадскога і местачковага жыцця» (бал. 39).

Вось і ўсё, што Глыбоцкі мог сказаць пра гэтую групу пісьменнікаў, залічваючы іх у катэгорыю «слупоў» літаратуры, ставячы іх «одесную». Што можна сказаць пра падобную форму падыходу да разгляду творчасці і вызначэння месца ў літаратуры таго ці іншага пісьменніка? Як можна інакш класіфікаваць падобную метадалагічную блытаніну, як непісьменнасцю. Ды чым жа іншым, як непісьменнасцю, літаратурным невуцтвам павявае ад падобнага гатунку разважанняў.

Трэба толькі дзівіцца, як рэдакцыі часопісаў, дзе гэтыя рэчы друкаваліся, прапускалі іх у друк. Каб менш палітыканства ды больш шчырай сапраўднай вучобы, ды сумленнага азнаямлення як з гісторыяй літаратуры, так і метадалогіяй, такіх перлаў не было б. Яны нікому не прынясуць жаднай карысці, бо нават тая група пісьменнікаў, якая, паводле класіфікацыі Т. Глыбоцкага, прызнана карыфеямі літаратуры, зусім не таго чакала і патрабуе ад крытыкі, чым частуе яе «унтер Пришибеев»[2] ад крытыкі.

Паглядзім жа, каго Глыбоцкі паставіў «ошуюю». Чытаем.

1. «Ад сакавітых здаровых кавалкаў жыцця ў Чорнага застаўся толькі стыль — пустая скарлупа, начыненая абрыўкамі Гамсуна, Ібсэна, Пшыбышэўскага і другіх індывідуалістаў» (бал. 109).

---

* Нагадвае Скалку, які пісаў, што Чарот «адразу джагае проста ў сацыялізм».

2. «Што сказаць аб творчасці У. Дубоўкі. Гэта яскравы прадстаўнік той нязначнай групы інтэлігенцыі, якая не можа стала вызначыць сваё месца ў грамадзе» (бал. 109).

3. «Бадай што не прыходзіцца спыняцца на творчасці З. Бядулі. Гэты паэт у працягу 15 год свае працы столькі блытаўся паміж рознымі стылямі, станамі і напрамкамі, што наўрад ці можна спадзявацца, што ён вызначыць, нарэшце, сваё сталае месца ў літаратуры» (бал. 111).

4. Артыкулы Бабарэкі «падкрэсліваюць некалькі паніжаны ўзровень палітычнай пісьменнасці паважанага «ідэолага»(б. 112).

5. «Вершы Пушчы не вызначаюцца асаблівай мастацкасцю і часцей усяго не маюць нават і зместу» (бал. 123). «Пушча, замест мастацкіх твораў, пачаў падносіць чытачу няўдалыя практыкаванні, пад якімі, можа, пасаромеліся б падпісацца многія з тых, чыя творчасць шчодра камплектуе рэдакцыйныя кошыкі» (бал. 163).

6. «Крапіва — здольны сатырык, папаўшы ў «алімпійскае балота», траціць свой ранейшы маштаб, звужае свой кругагляд і ад вострай грамадскай сатыры пераходзіць да антыэстэтычных баек» (бал. 172).

І так без канца. Можна было б прывесці ў шмат болей разоў прыкладаў таго, як узброены да зубоў «крытык» расправіўся з беларускай літаратурай, як ён лёгка, адным росчыркам пяра, выключыў, «спісаў у расход» большую палову пісьменнікаў і літаратараў, што заваявалі сабе агульнапрызнаную пашану.

Паважаны чытач і так здзіўлена пaглядае. Ці не сон гэта? Якая галава магла дадумацца да вышэйпаданай бязглуздзіцы? Даводзіць супрацьлеглае паданым тэзам г. зн. ламацца ў адчыненыя дзверы. Спрачацца з аўтарам такое «крытыкі» непатрэбная рэч. Адсылаем усіх да першакрыніцы і прымушаны канстатаваць, што, на вялікі жаль, гэта рэчаіснасць абышла ўсе газеты, часопісы і выдрукавана ў «назидание» нашчадкам асобным выданнем Белдзяржвыдавецтвам і каштуе ў продажы адзін р. 15 к. Расійскі пісьменнік Гогаль даў у сваёй творчасці тып, які і да гэтага часу не ўмёр, гэта тып Хлестакова. Чым болей, як не літаратурнай хлестакоўшчынай, можна назваць вышэйпаказаны на яскравых прыкладах падыход крытыка да пісьменніка? Безадказнасць, безыдэёвасць, галавацяпскі падыход — бясспрэчна шкодная з’ява.

Дзе знойдзецца цяпер голас, які б стаў у абарону злоснага шкодніка на гаспадарчых адцінках нашага жыцця? Такіх



няма, прынамсі аб іх не пачуем. А вось у літаратуры шкоднікі свядома, з прычыны ім толькі адным вядомых матываў, стараюцца развaліць маладую беларускую пралетарскую літаратуру. Хто даў ім на гэта права, ад чыйго імя яны гэта робяць? І толькі менавіта таму, што яна (г. зн. літаратура, якая падпала пад гнеўнае вока Глыбоцкага) пралетарская, што яна сваімі карэннямі моцна ўрасла ў рэвалюцыю, у рабочы клас, гэтыя спробы з’явіліся нікчэмнымі.

Калі гэтыя «крытыкі і публіцысты» ашукаліся на літаратуры, яны ў апошнія часы «двинулись походом» на іншыя больш слабыя ўчасткі культурнага будаўніцтва, але і там былі асаджаны, сваячасна атрымалі «па лапках». Такому літаратурнаму Хлестакову нічога не варта з бессаромнасцю «гражданчиков, которых хочется назвать штопорами»*, прыкрыкнуць на таго, хто хоць крыху з ім разыходзіцца ў поглядах і ацэнцы таго ці іншага літаратурнага факта.

Эпітэт «мешчанін», «мяшчанская тэндэнцыя» ўжо загадзя падрыхтаваны і ў кожную хвіліну гатовы да ўжытку. Так было і М. Гарэцкім, які памкнуўся даць аналіз творчасці М. Зарэцкага, М. Чарота ды інш. Мы не згодны з метадалагічным падыходам М. Гарэцкага да разгляду мастацкай творчасці і ў гэтым пытанні можам з ім і будзем весці спрэчкі. Глыбоцкі ж робіць інакш. Ён кідаецца такімі перламі: «яго (г. зн. М. Гарэцкага) мяшчанская тэндэнцыя зводзіць асабістыя рахункі на старонках друку яскрава выявілася ў артыкулах пра творчасць М. Зарэцкага, М. Чэрота» (бал. 10), пераносіць іх у газеты, папулярызуе і з урачыстым выглядам чалавека, які перамог свайго ворага, паглядае на... ашальмаваную грамаду.

Метады, як бачыце, не зусім этычнага парадку, але ўжываюцца яны Глыбоцкім досыць часта. Мала таго, што наш Хлестакоў гэтак безапеляцыйна па-каткоўскі ці па-булгарынску выкрасліў большасць літаратараў, паэтаў і пісьменнікаў з беларускай літаратуры, ён тут жа з не меншай нахабнасцю не пасаромеўся ўзвесці паклёп не толькі на паасобных пісьменнікаў, але і на цэлую іх карпарацыю.

Хто ж паверыць Глыбоцкаму, што Дубоўка, «як некалі падвыпіўшыя маскоўскія краснарадцы, гатоў «пастрадаць» у сваіх вершах» (148). Наўрад ці знойдзецца дзе такі невук несвядомы. Глыбоцкі і сам гэта добра ведае, таму ў прадчуванні адпору параўноўвае творчасць У. Дубоўкі з творчасцю Ігара

* Федор Гладков. Головоногий человек. Альманах З. и Ф., с. 350.

Севяраніна, Вярцінскага, прыводзіць з апошняга цытату рэстараннага рэпертуару берлінскіх кабакоў: «Где вы теперь, кто вам целует пальцы» і, параўноўваючы з ёй творчасць Дубоўкі, тым самым тэрарызуе наіўнага чытача.

Што з таго, што гэта, як неба ад зямлі, далёкія адна ад аднае рэчы? Хто пасмее пярэчыць «крытыку», у якога заўсёды трыццаць тысяч адказаў (у «Ревизора» столькі ж кур'ераў) на кожнае запытанне.

— Вам вядома, што Вярцінскі прадстаўнік расійскай эміграцыі? Паспрабуйце чытаць Дубоўку? Дык я вас!

Нездарма ж аналізуючы «Налю», прывёўшы вышэйпаданыя вытрымкі паэтаў буржуазіі, эмігрантаў, Глыбоцкі піша: «Вершы, якія маюць на мэце біць па нервах, могуць дасягнуць сваёй мэты ў пэўнай аўдыторыі» (145) (Слухайце!)

Гэтак жа сама Глыбоцкі персанальна распраўляецца з Бядулем, Кляшторным, Пушчай, Жылкам ды іншымі. Мала таго, каб канчаткова скампраметаваць «Узвышша» ў вачох чытача, ён піша: «Мы зусім не збіраемся рабіць ніякіх вывадаў з таго, што, напрыклад, у «ўзвышаўцаў» Пушчы, Чорнага і ў некаторых другіх (чытай — усіх) бадай што ніводнага слова ні пра рэвалюцыю, ні пра грамадзянскую вайну на Беларусі» (119). Гэтым самым ён знарок гаворыць заведама няпраўду, узводзіць выразны паклёп або свядома выпускае з-пад увагі шэраг каштоўных твораў гэтых пісьменнікаў на тэмы аб рэвалюцыі ці аб грамадзянскай вайне.

Беларуская літаратура — маладая літаратура. Але, як бачым, і на маладым целе завяліся такія чужаеды. Толькі тое, што літаратура здаровы арганізм, што жывіцца яна сокамі здаровай глебы, яна здолела перамагчы гэту часовую навалу і бесхваробна развівацца, паказаўшы да 10-годдзя БССР такія творы, якія ва ўсе далейшыя часы будуць упрыгожваць культуру народа, што адраджаецца.

Паўстае пытанне, як жа ўсё-такі такія бязглуздыя ідэйкі агалошваюцца такім бессаромна-адкрытым парадкам. Вядома, хлестакоўскі апломб грае немалую ролю, але, акрамя яго, Глыбоцкім ужываюцца і шэраг іншых прылад «защитного» колеру. Так, напрыклад, каб паралізаваць мажлівыя паказанні на недапусцімасць падобных «метадаў», наш «крытык» кідае наперад абвінавачанне ў мяшчанстве ўсім мажлівым крытыкам яго поглядаў.

У адказ на артыкул Кундзіша наконт паэмы Александровіча «Дваццаць» ён піша: «Дзеля гэтага мы можам Кундзішаў артыкул разглядаць, як адну з праяў таго ўсесаюзнага мяшчанства, якое пачынае прасочвацца на старонках нашай прэсы і г. д.» (195), і стараецца давесці, што «саматужніка-шаўца вельмі і вельмі цяжка прышчапіць да мяшчанства», і што Кундзіш нібыта «проста зблытаў сацыяльную групу мяшчанства з мяшчанскім станам у царскі час, да якога належалі і рабочыя» (190).



Вось у гэтым якраз і выяўляецца «прадукт уласнай самабытнасці» аўтара «літаратурных спраў». Мы не хочам дарма траціць часу на палеміку з Глыбоцкім, не варты ён таго і «сваёй творчасцю» не заслугоўвае яе. Нагадаем толькі адно акрэсленне мяшчанства, дадзенае Леніным, паводле якога адразу будзе відаць, дзе праўда. Ленін пісаў: «дробны вытворца, які гаспадарыць пры сістэме таварнай гаспадаркі, — вось дзве адзнакі, што складаюць разуменне «дробнага буржуя», Kleinbürger'а, або, што тое самае, мешчаніна. Сюды падыходзіць, такім чынам, і селянін і саматужнік...» (Ленін. «Экономическое содержание народничества и критика его в книге Г. Струве». Зб. твораў, т. II. бал. 62. Падкрэслена намі Ф. К.).

Нам здаецца, што пасля паданага гаварыць што-небудзь больш, справа зусім непатрэбная. Мы і без таго занялі шмат увагі паважанага чытача, але ўсё ж яшчэ некалькі момантаў лічым неабходным падкрэсліць, каб паказаць, чаго варта такая хлестакоўская крытыка.

Ненавуковасць яе бясспрэчная: дайшоў жа Глыбоцкі да таго, што на працэнты мерыць эмацыянальную зарадку твораў У. Дубоўкі (204). Адсутнасць метадалагічнай устаноўкі відавочна: няможна ж лічыць сталай метадалогіяй статыстычныя практыкаванні ў падлічванні колькасці слоў у вершах П. Труса (54), да гэтага нават заядлыя фармалісты не дадумаліся. Што ж, можа, публіцыстычную каштоўнасць яны маюць? Але і тут, акрамя блытаніны, нічога не знойдзеш. На прыкладзе з мяшчанствам мы яе паказалі. Можна было б падаць яшчэ некалькі з іншых галін. Напрыклад, у адным месцы Глыбоцкі піша: «Мы не можам, напрыклад, сказаць, што вось такі-та пісьменнік Ікс выразна адбівае ідэалогію кулацтва, а такі-та Ігрэк — ідэалогію пралетарыяту» (98), а праз некалькі балон чытаем: «Кожны пісьменнік у сваёй творчасці толькі адбівае светапогляд таго сацыяльнага асяроддзя, з якім ён звязан» (117). Як быццам не зусім, мякка кажучы, аднолькавыя фармулёўкі, а належаць яны ўсё аднаму і таму ж аўтару. Мы не выбіралі іх як найбольш яскравыя. Прывесці падобных ім можна незлічонае мноства, сустракаюцца яны на кожным кроку.

Не для мэт палемікі мы ўзялі пад разгляд кнігу Глыбоцкага «Пра нашы літаратурныя справы». Ніякіх літаратурных спраў там няма. Глыбоцкім калі і давядзецца яшчэ калі-небудзь граць хоць якую ролю ў беларускай літаратуры, дык прынамсі вельмі і вельмі не хутка. Для гэтага трэба: па-першае, мець хоць мінімум ведаў і здольнасцяў у галіне літаратуразнаўства і наогул літаратуры; па-другое, і самае галоўнае, гэта ідэалагічна перарадзіцца, бо адной бажбою на марксізм нікога не пераканаеш, а вульгарызаваннем марксізму ўплыву на літаратурнае жыццё не зробіш і, па-трэцяе, трэба мець мінімум сумленнасці і паважання да грамады.

Жыццё беларускай літаратуры і ў прыватнасці паспяховая праца згуртавання «Узвышша», якое за апошнія два гады дало шмат высока мастацкіх твораў, абышлося без Глыбоцкіх-Хлестаковых. Не ім, дробным каменьчыкам, спыняць ці кіраваць прасторным рэчышчам беларускай пралетарскай літаратуры.

Двухгадовае практыкаванне Глыбоцкіх наяўна гэта паказала. Пачаўшы з цкавання, яны не здолелі падняцца вышэй інтарэсаў іх асяроддзя, і, паплаваўшы на паверхні літаратурнага жыцця, яны спакойна апусціліся ў радзімае дробнабуржуазнае балота. Бывайце здаровы!

*[1929]*

# МІКАЛАЙ КАСПЯРОВІЧ

Літаратурны крытык, літаратуразнавец, краязнавец, лексікограф, мастацтвазнавец Мікалай Каспяровіч нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Ізабалёва Ігуменскага павета (цяпер Пухавіцкі раён) у сям'і арандатара. У 1912 годзе скончыў Багушэвіцкую царкоўнапрыходскую школу, а ў 1917 годзе — Ігуменскае вышэйшае пачатковае вучылішча. Пасля яго здаў экзамены пры Бабруйскай мужчынскай гімназіі на званне народнага настаўніка 1-й ступені. Скончыўшы Мінскі інстытут народнай асветы, стаў школьным інструктарам Наркамасветы БССР. Потым быў інспектарам школ Слуцкага, Віцебскага аддзелаў народнай асветы, вучоным сакратаром Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры (Інбелкульце) у Мінску, сакратаром часопіса «Наш край». У другой палове 1920-х гадоў — у Віцебску, дзе стварыў Віцебскую філію «Маладняка», Віцебскае акруговае таварыства краязнаўства.

Выступаў у друку з артыкуламі пра розныя аспекты культуры Беларусі, з літаратуразнаўчымі і крытычнымі працамі. Ён — аўтар вельмі грунтоўнага «Віцебскага краёвага слоўніка» (1927).

У 1930 годзе быў арыштаваны нібыта за ўдзел у «контррэвалюцыйнай арганізацыі» і высланы ў Сібір. Там яго паўторна арыштавалі органы НКУС, і 17 снежня 1937 года 37-гадовы дзеяч беларускай культуры і літаратар быў расстраляны.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць творы Мікалая Каспяровіча асобным томам.

## МАТЫВЫ БАРАЦЬБЫ Ў ТВОРЧАСЦІ М. БАГДАНОВІЧА

> Беларуская культура не монстр, не рарытэт, не унікум, а гістарычная з'ява жыцця, яўляючыся часцінай еўрапейскага гістарычнага паступовага руху.
>
> *М. Багдановіч*

Дзесяць год назад, 25 мая 1917 г., на чужыне, у Ялце, памёр адзін з найвялікшых беларускіх пісьменнікаў — Максім Адамавіч Багдановіч. Памёр ён ад сухот, маючы 25 з чымся ад роду. Вялікая дачасная страта для беларускай літаратуры была адзначана не раз як у 1917 г., так і пазней.

Усе даследчыкі беларускай літаратуры і гісторыі, культурна-нацыянальнага адраджэння неаднойчы канстатавалі надзвычайную мастацкасць і высокую культурнасць яго твораў. Але не ў адным гэтым зышліся амаль што ўсе яны ў справе ацэнкі маладога, яшчэ доўгі час непадмянімага, песняра. Чамусьці здаўся ён ім і скептыкам, і песімістам, і паэтам чыстага мастацтва, і глыбокім індывідуалістам.

«Наогул, творы Багдановіча — гэта чыстая паэзія, без жадання каго-колечы навучаць, без якіх-небудзь староньніх тэндэнцый», — адным з першых сказаў сваё слова А. Навіна. «Ані гэты (нацыянальны. — *М. К.*), ані сацыяльны элемент не складаюць глаўных адзнак яго літаратуры» (М. Гарэцкі). «М. Багдановіч — прадстаўнік так званай чыстай паэзіі, паэзіі хараства. Гэта глыбокі індывідуаліст» (У. Ігнатоўскі). «Он затрагивал и общечеловеческие мотивы и изображал их, как поэт чистого искусства для искусства» (Я. Карскі).

Але далей за ўсіх у гэтых азначэннях пайшоў У. Піятуховіч[1], а за ім З. Жылуновіч. «Скептыкам і песімістам выступае перад намі Максім Багдановіч, — сцвярджаў першы. — Матываў барацьбы няма зусім у Багдановіча». «У яго вершах не трэба шукаць ні грамадзянскіх матываў, ні рэвалюцыйнага настрою: ён стараецца быць паэтам чыстага хараства. Максім Багдановіч — імпрэсіяніст па напрамку, пры гэтым адцягнуты ад людской сучаснасці, ад адносінаў у чалавечай грамадзе, ад жаданняў масы. Ён індывідуаліст, і калі зрэдку падмячае дынаміку жыцця (цыкл вершаў «У Вільні»), то толькі на момант, паколькі гэта кідаецца ў вочы сваёю павярхоўнасцю» (З. Жылуновіч). «Не ведаў ён у жыцці чалавечым іншага закону, як хараство, і быў



ён у жыцці больш, можа, чым у паэзіі, госцем «высокага неба» (У. Ігнатоўскі). «Вследствие тяжелой обстановки, окружающей поэта, он и в своей жизни не видит определенной цели для деятельности... Поэт тоскует (здесь), что мы напрасно в жизни тратим свои силы, часто последние» (Я. Карскі). «Заўсёды М. Багдановіч адзін: і калі радуецца, і калі сумуе. Ад сябе ён вітае жыццё, калі яно яму паказваецца прыемным, ад сябе кляне яго, — калі яно не падабаецца яму. І ўрэшце выйшла, што хараство, якому і ён аддаў свае сілы, — бяздушная, адцягненая рэч, не сагрэтая калектыўным пачуццём, — не задавальняла паэта» (З. Жылуновіч). «Парой ён нават сумняваецца ў каштоўнасці моцных мігаў і ўражанняў, якія часам ён так высока ставіць. Гэтак нават з думкай аб каханай айчыне злучаецца ў М. Багдановіча філасофія нірваны, небыцця, — кажа Піятуховіч, цытуючы:

> Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
> Там пад зямлёй
> Найдуць мае слабыя грудзі
> Сабе спакой.

Праз прызму свае адасобленай самотнасці глядзеў ён і на долю Беларусі, якую прыйшоў адраджаць к новаму жыццю. «Заклятая богам», уваччу Багдановіча яна не мела ніякага выйсця, каб парваць ланцугі закляцця. «Пэўна, што часткаю на гэткім яго настроі адбіваецца хворае здароўе, сухоты паэта, а самае галоўнае, ведама, змяшчалася ў тым, што ён быў адарваны ад грамадскага жыцця» (З. Жылуновіч).

Такое дружнае зданне даследчыкаў беларускай культуры, здавалася б, не пакідала і думкі аб чым-небудзь каштоўным у творчасці М. Багдановіча, апрача засведчаных імі яго недасяжных фармальных высотаў. На справе ж, як ні прасталінейны вышэйпрыведзеныя погляды, аднак уласнікі іх не маглі не зрабіць пэўных (большых або меншых) уступак ім у сваіх працах.

«Праца дзеля свайго далёкага, цёмнага, забытага ўсімі народа сталася галоўнай мэтай яго (Багдановіча. — *М. К.*) жыцця, — даводзіў той жа А. Навіна. — Ён заплаціў дань часу і служыў бацькаўшчыне па ўсёй сваёй магчымасці, надаючы некаторым творам нацыянальнага элементу. Невясёлае было яго жыццё, але заўсёды вочы былі яго ясныя, поўныя веры ў лепшую будучыню далёкай маткі сваёй працоўнай Беларусі» (У. Ігнатоўскі). «Как сильна была у Богдановича вера в возрождение Белоруссии, видно из (следующего) его сонета: «Паміж пяскоў»...», — згаджаўся

Карскі. Жылуновіч, стараючыся ўгрунтаваць свае довады аб песімізме Багдановіча, нечакана канстатаваў: «Аднак, жывучы на зямлі і, тым болей, прымаючы ўдзел у вялікім вызваленчым руху цэлага народа, М. Багдановіч не можа не адгукнуцца на людскія справы». Нават Піятуховіч, які найбольш стараўся давесці, што Багдановіч абсалютны песіміст, згадзіўся, што «ён (М. Багдановіч. — *М. К.*), праўда, любіў свой родны край, сваю Беларусь». Усе апошнія думкі, у процівагу першым сцвярджэнням аб песімізме Багдановіча, вельмі малалічныя і іх трэба старанна шукаць у гістарычна-літаратурных працах. Нягледзячы на апошняе, яны ўсё ж даводзяць супярэчнасць у поглядах кожнага даследчыка паасобку і ўсіх паміж сабой. У сваю чаргу гэта сведчыць аб недаведзенасці таго, што Багдановіч і сапраўды песіміст. Імкненне давесці гэта грунтуецца, з аднаго боку, на няпоўнай знаёмасці з тэкстамі М. Багдановіча, і з другога — на прыйманні на веру довадаў аднаго даследчыка іншымі. Нягледзячы на моц традыцыі, так доўга цягнуцца не магло, і хутка і быў выказаны супрацьлеглы погляд: «Асноўная тэма М. Багдановіча — змаганне, навокала якога гуртуецца ўсё іншае. Анцімоніі нашых крытыкаў аб адданасці М. Багдановіча «чыстаму мастацтву» і занядбанні грамадзянскіх матываў — абраза для яго памяці» (Гайдукевіч. «Маладняк», 1925. № 7).

І сапраўды гэта так. Але вернемся на хвіліну да поглядаў памянёных даследчыкаў. Як мы бачылі, Навіна, Гарэцкі, Карскі і інш. адначасна даводзяць наяўнасць у Багдановіча песімізму і чыстага мастацтва, з аднаго боку, і вялікай веры ў адраджэнне краю, адданасці працы на карысць народа — з другога. Жылуновіч, пішучы, што М. Багдановіч быў адарваны ад сучаснасці, праз некалькі радкоў сцвярджае, што той жа Багдановіч прымаў удзел у вялікім вызваленчым руху беларускага народа. Адно Піятуховіч трымаецца больш цвёрда і прагаварыўся толькі раз аб тым, што Багдановіч любіў Беларусь, хоць і быў песімістам.

Каб лягчэй было, умовімся аб тэрмінах. Па новаму выданню энцыклапедычнага слоўніка, «пессимизм (от латинского pessimum — наихудший), в противоположность оптимизму — отрицательная оценка жизни человека и мира. Наиболее простая форма — эмпирический П. — возникает как следствие отрицательных сторон индивидуального бытия человеческого» («Энциклопедический словарь Русского библиографического института Гранат». Т. 32) і тамжа: «Системой абсолютного П. является буддизм», а «новейшей формой абсолютного П. является метафизический П. Шопенгауэра... Мир не есть, как утверждает теизм и пантеизм, осмысленный продукт пребывающего в нем или вне его разума, напротив, он бессмысленный продукт «слепой воли», он — объективизация этой воли. Поэтому и человеческая жизнь есть стремление без цели и предела». Згодна з Гартманам, «Пессимизм должен основываться не на субъективных настроениях, а на научном анализе, он также отмечается от мрачного настроения, как учение об опьянении от самого опьянения» (тамжа).



Чым жа даводзіцца, што М. Багдановіч песіміст? Піятуховіч у сваім артыкуле прыводзіць урывак верша пісьменніка:

Не будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.

Пры гэтым крытык канстатуе: «Гэтак нават з думкай аб каханай айчыне злучаецца ў М. Багдановіча філасофія нірваны, небыцця». Нас проста дзівіць, чаму крытык у простым звычаі беларускага народа бачыць філасофію небыцця. Кожны селянін хоча быць пахаваным на сваёй радзіме і перад смерцю просіць аб гэтым. Загад нябожчыка па мажлівасці выконваецца і часамі яго вязуць даволі далёка на яго радзіму. Багдановіч гэта ведаў, і з верша толькі гэта і відаць. *Там, на Беларусі*, — пад зямлёй знойдуць слабыя грудзі спакой, а нідзе інакш. Ці не ўсё роўна песімісту, дзе яго пахаваюць?

Калі паэт гаворыць:

Жывеш не вечна, чалавек,
Перажыві ж у момант век,

дык гэта зусім не паказвае, што «не адвечнага шукае, не да адвечнага імкнецца яго душа», як кажа Піятуховіч, а паказвае жаданне перажыць у момант век, чым больш, мажліва, больш вечнага, бо жыццё кароткае і не чакае. Не момант, а век у кожным моманце павінен быць. Цытуючы ўдовад сваіх палажэнняў верш «Глянь як зорка», Піятуховіч бярэ толькі два кавалкі з яго, падкрэсліваючы, што паэт лічыць, што «ўсё знікае, праходзіць, як дым», што трэба на момант асвяціць усё кругом і пагаснуць.

Мы змушаны прывесці верш цалкам і падкрэсліць асноўныя месцы верша:

Глянь, як зорка у цемні ляціць,
Ўсіх чаруючы светам сваім,
Быццам змей залаты зіхаціць
І стухае у небе глухім.
Але ўспомніць яшчэ зорку свет,
Бо у сэрцах гарыць яе след.
Так свабодна, так ярка пражыць
Лепшай долі няма на зямлі.
Ўсё кругом на мамэнт асвяціць
І пагаснуць у цёмнай імгле.
Ўсё знікае, праходзіць, як дым,
Светлы ж след будзе вечна жывым.

Паэт памрэ, знікне, але творы яго, яго свет будзе *вечна* жывым. Дзе ж тут адмаўленне вечнага, песімізм? Такім чынам нават у прыкладах самога Піятуховіча няма доваду яго тэзаў. А наяўна адваротных месц у зборніку вельмі шмат — больш паловы яго. Нечага ўжо гаварыць пра тое, што Багдановіч ні ў якім разе не песіміст у сэнсе прыведзенага вышэй азначэння песімізму з слоўніка. На песімістычным каларыце ў яго часамі малююцца малюнкі, але гэта не значыць, што ён песіміст, як імпрэсіяністычныя прыёмы яго творчасці не даводзяць, што ён імпрэсіяніст.

Таксама разбіваюцца довады аб адсутнасці матываў барацьбы ў М. Багдановіча, калі да іх падысці крытычна. Піятуховіч і інш. спасылаюцца на верш «Краю мой родны!..» — канцом яго ўласна даводзяць адсутнасць матываў барацьбы:

Гора ўсюды пануе,
Хваляй шырокай разлілась, як мора,
Родны наш край затапіла...
Брацця! Ці зможам грамадскае гора!
Брацця! Ці хваце нам сілы?!

Прычым яны не заўважылі, што гэта толькі развага, уводзіны ў далейшы цыкл першай барацьбы, які непасрэдна ідзе за гэтым, як напр.:

Рушымся, брацця, хутчэй
Ў бой з жыццём, пакідаючы жах,



Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах.
Проці цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

Наогул малюнкі ўбогага жыцця беларуса-селяніна, песні аб ім разлічаны на тое, каб паказаць усю нікчэмнасць убогага панурага існавання і выклікаць жаданне барацьбы.

Хай пяе ён у роднай зямлі,
Каб у сэрцах нам сорам збудзіць,
Каб змагацца з няпраўдай ішлі!

І далей:

Долю чорную ноч не схавае,
Калі выльецца песня жывая!

Адсюль ясна, што матываў бязвыхаднасці, безнадзейнасці, аб якіх гавораць Піятуховіч і Жылуновіч, у нашага вялікага паэта таксама няма. Верш «Была калісь пара» з запытаннем : «Куды цяпер ісці і што рабіць», на які спасылаецца Піятуховіч, з'яўляецца таксама развагаю да адказу ў іншых, а верш «З песняў беларускага мужыка», які прыводзіць Жылуновіч, разлічаны ўсё для таго ж, каб, паказаўшы немагчымасць ранейшага існавання селяніна, выклікаць яго да барацьбы.

Нашых дзедаў душылі абшары лясоў,
Не давалі ім жыці праўдзівым жыццём,
І яны тыя пушчы звадзілі агнём,
Іх кругом падпаліўшы з далёкіх канцоў.
І палалі па нашаму краю лясы,
Пакуль сонца здалела ўсё ў ім асвяціць,
І святлей, і прасторней тады стала жыць,
А на попеле буйна ўзраслі каласы.
З дзедаў суворых прыклад нам бы ўзяць,
Не хіліцца з бяды, на пужацца агню,
Бо мы толькі тады дачакаемся дня,
Калі нас не здалее змаганне злякаць.

І ў другім вершы:

Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць.

Гэта паэт кажа, паказваючы на загнанасць беларускага народа, але гэты кліч у яго цалкам адносіцца і да матываў барацьбы. Так паэт дае:

Тым вянкі суворай славы,
Што за край свой у баю
Жрэбі вынулі крывавы,
Напаткалі смерць сваю.

Нават другім паэтам Багдановіч заўважае:

Кінь вечны плач свой аб старонцы!
Няўжо жа цёмнай ноччу ты
Не бачыш, што глядзіцца сонца
Ў люстэрка — месяц залаты?
Не згасла сонца. Сонца гляне,
Усіх падыме ада сна,
Ён, гэты дзень, яшчэ настане,
І ачуняе старана.
Я пад яе зімовай казкай,
Пад снегам — бачу твар вясны.

Такім чынам, Багдановіч ведае выхад з цяжкага стану, у якім быў беларускі народ. Выхад гэты ў змаганні за ўпэўненасці ў лепшую будучыну.

Прыведзеныя намі вышэй вытрымкі з твораў Багдановіча даводзяць таксама, што Багдановіч не быў і мастаком «мастацтва для мастацтва». Паэт клікаў да змагання і загадваў другім:

Народ ужо к шчасцю за вамі прастуе.
Вядзеце ж і далей яго.
І што б ні нясло вам жыццё, гэтым рухам
Жывеце, ідзеце будзіць вы народ.
І шчыра працуйце ўсім целам і духам [...]

*1925*

# СЫМОН БАРАНАВЫХ

Празаік Сымон Баранавых (сапр. Баранаў) нарадзіўся 1 верасня 1900 года ў вёсцы Рудакова Уздзенскага раёна ў беднай сялянскай сям'і. У 1920–1923 гадах служыў у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у баях з белапалякамі, быў паранены. Вярнуўшыся ў родную вёску, працаваў старшынёй сельсавета, загадчыкам хаты-чытальні, быў селькорам беларускіх газет. Вучыўся на рабфаку, скончыў літаратурнае аддзяленне БДУ (1931), быў накіраваны ў Беларускі радыёцэнтр, затым перайшоў працаваць у бібліятэку Дома пісьменніка. Рэдагаваў часопіс «Беларусь калгасная».

Публікавацца пачаў з 1927 года. Раннія апавяданні С. Баранавых вызначаюцца дынамічнасцю сюжэта, вострай канфліктнасцю, займальнасцю, дасціпным мяккім гумарам. Гэта характэрна і для твораў, напісаных для дзяцей і пра дзяцей, якія ўвайшлі ў зборнікі «Злосць» і «Пастка». Яны ствараліся адначасна з аповесцямі «Чужая зямля», «Межы», «Новая дарога» (1928–1934).

«Чужая зямля» — першая спроба С. Баранавых у буйным празаічным жанры, дзе раскрываецца паўсядзённы побыт вёскі напярэдадні «вялікага пералому» — калектывізацыі, якая шырока паказана літаральна па гарачых слядах падзей у «Межах» і «Новай дарозе». Пісьменнік не пабаяўся гаварыць у гэтых творах пра непрымірымую барацьбу сялян супраць прымусовай калектывізацыі, са спачуваннем маляваў сцэны раскулачвання сялянскіх сем'яў. Характарызуючы творчую манеру С. Баранавых, Максім Гарэцкі адзначаў: «Апавяданне С. Баранавых вядзе роўна і спакойна, без траскучай фразеалогіі, без тэндэнцый і падкрэсліванняў, не ўпадаючы, аднак, з другога боку, у засмучэнне, — піша як свой аб сваім і аб сваіх. Ён стаіць на тым ідэалагічным шляху ў літаратурнай беларускай творчасці, які вядзе да здаровага народнага рэалізму, да блізкіх народным масам інтарэсаў...»

Пра змаганне беларусаў супраць польскай акупацыі Беларусі ў 1920-х гадах пісьменнік цікава расказаў у рамане «Калі ўзыходзіла сонца». Але раман пры жыцці аўтара не пабачыў свету. З лістапада 1936 года С. Баранавых быў арыштаваны органамі НКУС, і рукапіс рамана, як і іншыя яго рукапісы, быў аддадзены агню. Раман ацалеў толькі цудам: адзін экземпляр з чатырох, надрукаваных на машынцы, зберагла жонка Надзея Іванаўна, і ён быў упершыню выдадзены ў 1957 годзе.

На следстве ў пісьменніка нечалавечымі катаваннямі выбіваліся подпісы пад пратаколамі з прызнаннямі, што «Баранов Семен Яковлевич является участником контрреволюционной нацдемовской организации, ставившей своей целью борьбу с советской властью путём вооруженного восстания», што ён «участвовал на сборищах членов организации, где обсуждались методы борьбы с советской властью, рассказывались контрреволюционные анекдоты...». Абвінавачваўся пісьменнік і ў тым, што ў сваёй бібліятэцы трымаў «нацдэмаўскія» кнігі Купалы, Жылуновіча, Зарэцкага, Каваля, Дудара, што ў аповесці «Межы» нібыта адчуваюцца нацыяналістычныя тэндэнцыі і да т. п.

Асудзілі пісьменніка на 10 гадоў зняволення, якое ён адбываў на Калыме ў канцлагеры. У адным з лістоў ён прасіў: «Напішы, як жывуць Пятрусь, Якуб, Янка, Кузьма. Што новага напісалі яны? Якія п’есы ідуць у тэатрах?.. Беражы, Надзянятка, мой раман. Я калі-небудзь яго дапішу. У мяне вельмі многа задум...»

Але ні давесці да ладу свой раман, ні здзейсніць многіх задум С. Баранавых не было наканавана. У 1942 годзе, не вытрымаўшы жудасных канцлагерных умоў, беларускі пісьменнік навекі астаўся ляжаць у адной з тысяч безыменных магіл далёкай Калымы. Было яму тады 42 гады.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць асобны том «Выбраных твораў» Сымона Баранавых.

## ПЛЯМЫ

*Апавяданне*

### I

Мікалай Іванавіч, седзячы ў сваім кабінеце, перабіраў заявы і нерваваўся.

— Шаснаццаць, усяго шаснаццаць можна здаволіць, а не цэлую сотню!

— Падурнелі, зусім падурнелі, разбазыралі людзі, — мармытаў ён, барабанячы па стале пальцамі.

— Алесі Астапавай Смаршчок, — прачытаў Мікалай Іванавіч вачыма на адной з гэтых заяў, і з яго вуснаў пачулася нешта падобнае не то на гук «о», не то зусім на «го». І гэтае «о», «го» адчулася так, што аж на яго далікатным твары падняліся і выпучыліся рыжаватыя вусы. А барада, якая тырчала клінам, выцягнулася, пабольшала на цэлы цаль.

— У другую чаргу, — сказаў ён злосна і, паклаўшы заяву, узяў другую.



— Верабэя... Зыгманта... Дзяркача... — чытаў далей Мікалай Іванавіч і таксама адкладваў на другую чаргу.

Ён адкладваў іх адну за другою, каб пераглядзець збольшага, каб мець уяўленне і загадзя ўжо паставіць іх на пытанні перад камісіяй, як у гэты час да яго пастукалі.

— Можна, — адказаў Мікалай Іванавіч, не падымаючы вачэй, і ў кабінет увайшла жанчына.

Жанчына была ў вясновым паліто. З-пад яе жаночае шапкі прабіваліся пярсцёнкамі чорныя, нібы смоль, валасы. А сама яна была тоўстае постаці, і на яе твары, скрозь пласт пудры, прасвечвалася ружавізна.

— А, Надзея Варывонаўна! — ускочыў Мікалай Іванавіч з крэсла. — Як маецеся? Сядайце, — і на яго твары распаўзлася ліслівая ўсмешка.

— А я да вас з заяваю...

— О, калі ласка!

І Надзея Варывонаўна пачала выкладаць сваю просьбу.

— Вырашыла паехаць на курорт і маю пэўную надзею толькі на вас, — казала яна, песцячы ў руках блішчасты рыдыкюль.

Пры словах «маю пэўную на вас надзею» Мікалай Іванавіч зусім растаяў.

— На мяне мае надзею гэтая прыгожая стэнаграфістка!

«Ды што ж гэта адзначаю я ў яе твары?» — мільганула нібы маланкаю і прапала думка ў галаве Мікалая Іванавіча. І ён, ён толькі цяпер успомніў, што ён досыць немаленькая шышка.

— О, з вялікім гонарам маю за вас клопат, — выказаў Мікалай Іванавіч, пстрыкнуўшы злёгку пальцамі па маленькай нітачцы, якая асела на яго досыць чыстай, элегантнай жакетцы.

— Каб вы толькі ведалі, — казала далей Надзея Варывонаўна, — як мне хочацца пабываць на поўдні! Там, кажуць, такая прыгажосць, супакой. Тым больш я сябе так дрэнна адчуваю, не сплю па цэлых начах. А нейкія агідныя думкі так і ціснуць, так і лезуць аж у самае нутро.

— Нервовасць, — даказаў Мікалай Іванавіч. — Са мною таксама бываюць такія выпадкі. Але я, мужчына, мала звяртаю ўвагі. Вам жа, вядомая рэч, патрэбен адпачынак. Курорт, напэўна, можа адагнаць усякую агіду. Там будзеце гуляць на вольным паветры, слухаць музыку, гойдацца на гамаку, ну і наогул, прыгажосць поўдня... О, якая мастацкая прыгажосць! Я, калі з’ездзіў летась, дык толькі і цікавіўся ёю. Вось мора, вось хвалі, а там купаюцца... а там у чоўне паехалі, ды так шпарка паехалі — прама ў распасцёртае мора. І вось чуць-чуць відаць

ужо — пункт толькі адзін... Поўдзень, добрая краіна поўдзень! — і Мікалай Іванавіч так захапіўся паўднёвымі ўзорамі, што чуць не забыўся пра сваю пацыентку.

Надзея Варывонаўна таксама адышла ў сваіх думках да пякучага поўдня. Ёй пад клічнікі Мікалая Іванавіча здавалася, што яна ўжо там, у гэтым чуць прыкметным пункце, і яна ад церазмернае асалоды засмяялася, паказаўшы кончыкі пазлацоных зубоў.

А на развітанні Мікалай Іванавіч сказаў:

— Чыя-чыя, а ваша заява, Надзея Варывонаўна, будзе задаволена.

— Хіба яна не з пралетарскага паходжання, — сказаў ён, застаўшыся адзін у кабінеце. — А па-другое: чаму не паслаць яе ў сезонны час, у першую чаргу, калі і Георг Змітравіч — доктар, добры знаёмы? Калі я, хто я? — старшыня курортнай камісіі, ды і па пасадзе не абы, так сказаць... — развражаў Мікалай Іванавіч, стоячы каля акна, гледзячы на клубкі дыму, якія толькі што раскідаў вулічны аўтобус.

## II

Другі месяц вясны, а ўсё яшчэ калі-нікалі прабуе падаць маленькімі прасянымі крупінкамі снег. Дрэвы распускаюцца вельмі цяжка.

Каштан, што стаіць супраць мураванага будынка, ледзь-ледзь пачынае пукацца, і яго набрэнкшыя пупышкі вось ужо некалькі дзён усё яшчэ аніяк не могуць расхінуцца.

Алеся назірае за гэтымі пупышкамі кожную раніцу, як прыходзіць яна сціраць пыл са стала Мікалая Іванавіча ды падбіраць папсутую, непатрэбную паперу, кідаюцца яны ёй у вочы...

Вось і цяпер стаіць яна з анучкаю ў руках каля акна і глядзіць на гэты каштан.

«Ніяк не можа расхінуцца — холадна», — мільгаціць у Алесіных думках.

— К-хе-к-хе, — кашляе яна, і ёй успамінаецца леташняя вясна. — Як цёпла было, як прыгожа!

Алеся помніць як цяпер, што летась нават яна і не прыкмеціла, калі прыйшла вясна. Глянула гэтаксама ў акно ў адну з прыгожых раніц і падзівілася толькі. Каштанавае лісце распускалася ва ўсім харастве. А цераз некалькі дзён гэтае лісце так вырасла, паспела, што зусім загараджвала акно.



І тады Алеся садзілася на падаконнік, і тады ў яе думках напаміналася тое агіднае, пройдзенае.

Бацька загінуў у крывавым віры вайны. Матка пакінула яшчэ маленькаю. А яна?.. Колькі здзекаў было над ёю!

У наймітках з маленства працавала, ды як працавала?!

А паны, агідныя паны! Колькі здзекаў ад іх?!

І ёй напаміналася, як сцерлі гэтыя паны яе маладосць, як зняважылі яе дзявоцкую пашану.

Тады Алеся цяжка ўздыхала, а на яе вачах накручваліся слёзы.

— К-хе-к-хе, — закашляла зноў Алеся і, яшчэ раз паглядзеўшы на набрэнкшыя пупышкі, адышла.

Цяпер, у гэты час, яна добра разумее, што азначае яе гэты маленькі кашаль.

Яна добра разумее, што гэта жарсцвяныя сляды мінулага ў гэтым кашлі, сляды, якія ўжо зрэдку афарбаваны ў чырвоныя плямы.

А цераз некалькі дзён, калі пупышкі каштана ўсё яшчэ не пачыналі пукацца, Надзея Варывонаўна была ў жаданым пункце.

Весела ехала яна паўз бераг Чорнага мора і глядзела на тугую сцяну паўднёвых раслін, якія цвілі морам красак і напаўнялі паветра свежасцю і пахам.

Мора зціху хвалявалася, і яго хвалі конскаю грываю рассыпаліся аб прыбярэжныя зубы скалаў. Нібы лізалі яны іх, а потым раптам абамлявалі, спаўзалі да нізу, накідваючы кропелькі пены.

Гэтая пена, змешваючыся з тысячнаю беллю марскіх чаек, якія сваімі гукамі глушылі паветра, ламала вочы.

І тады ад усяго гэтага Надзея Варывонаўна зажмурвалася на абрыдлую стэнаграфію.

А Алеся?.. Алеся зноў стаяла каля акна і ўглядалася на набрэнкшыя пупышкі, і зноў мільгацела ў яе думках: «Ніяк не могуць расхінуцца — холадна».

***1927***

# УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА

Паэт, перакладчык, крытык Уладзімір Жылка нарадзіўся 27 траўня 1900 года ў вёсцы Макашы Наваградскага павета Мінскай губерні (цяпер Нясвіжскі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і. Скончыў гарадское вучылішча ў Міры (1914). У хуткім часе сям'я Жылкаў, у якой было чацвёра дзяцей, пераехала на сталае жыхарства ў Мінск, аднак у сувязі з Першай сусветнай вайной вымушана была пайсці ў бежанства. Жылі каля Тулы (1914–1917). Уладзімір паступіў у Багародзіцкае агранамічнае вучылішча, пазней працаваў аграномам у нацыяналізаваным маёнтку. Кастрычніцкая рэвалюцыя напаткала сям'ю ў Мінску. З 17-гадовага ўзросту Уладзімір Жылка — актыўны ўдзельнік грамадскага і культурна-асветнага жыцця Беларусі: прысутнічаў на першым Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 года, стаў сябрам клуба «Беларуская хатка», увайшоў у Беларускае тэатральнае таварыства. Працягваў вучобу ў беларускай гімназіі ў Дзвінску, а потым яго накіравалі ў Чэхію, дзе ён быў залічаны на гісторыка-філалагічны факультэт Карлавага універсітэта ў Празе. Пазнаёміўся з выдатнымі беларускімі пісьменнікамі — Ядвігіным Ш., З. Бядулем, М. Чаротам, Л. Родзевічам, у доме Жылкаў часта бываў Я. Купала. У. Жылка захапляўся іх творамі, а таксама вершамі рускіх, еўрапейскіх паэтаў. Сам пачаў пісаць вершы, а з 1920 года і часта публікавацца на старонках газет і часопісаў «Рунь», «Беларускае жыццё», «Беларусь», «Беларускі звон», «Маладое жыццё», «Наша будучына», «Беларускі дэкламатар».

На вялікі жаль, маладога паэта не абмінула невылечная на той час хвароба — сухоты, і ён вымушаны быў паехаць да родзічаў бацькі ў вёску Клецішча (у Слуцкім павеце), каб падлячыцца. Як вядома, пасля Рыжскага падзелу Беларусі яе заходняя частка адышла пад Польшчу. У. Жылка пераехаў з вёскі ў Вільню. Ён быў захоплены харством горада, яго старажытнай гісторыяй. «Беларускай Мекай» стаў паэт называць Вільню, прысвяціў ёй многа вершаў. Хутка наладзіў сувязі з «Беларускімі ведамасцямі», «Нашай думкай», якія выдаваў М. Гарэцкі, прымаў удзел у выданні газет «Наша будучына», «Новае жыццё».

Вызначальным для У. Жылкі стаў 1926 год, калі ён з Прагі прыязджае ў Мінск, прымае савецкае грамадзянства і ўсяго сябе аддае беларускай справе: працуе ў рэдакцыі «Звязды», выкладае літаратуру ў Мінскім музычным тэхнікуме.



Выступаць у друку з вершамі пачаў у 1920 годзе. У Вільні выйшлі асобнымі выданнямі паэма «Уяўленне» (1923) і зборнік вершаў «На ростані» (1924). У Мінску выдадзена яго кніга «З палёў Заходняй Беларусі» (1927).

Пераклаў «Слова пра Якуба Шэлю» Б. Ясенскага (1932), а таксама асобныя творы А. Блока, А. Міцкевіча, Г. Ібсена, Ш. Бадлера, І. Волькера і інш.

У 1930 годзе хворы на сухоты У. Жылка быў арыштаваны органамі НКУС і, паводле пастановы пазасудовага органа ад 10 красавіка 1931 года, высланы тэрмінам на 5 гадоў у г. Уржум Кіраўскай вобласці, дзе ў цяжкіх умовах зняволення 3 сакавіка 1933 года 32-гадовага паэта не стала.

У 1998 годзе ў серыі «Беларускі кнігазбор» выйшла кніга Уладзіміра Жылкі «Выбраныя творы».

## ПАЛІМПСЕСТ

Ёсць рукапісы, змест якіх сцярты, ледзь знаць,
Ці нат другі напісан сэнс бязбожна.
Іх палімпсестамі[1] прынята здаўна зваць,
І першы іхні змысл пайме не кожны.

Краіна родная! Так сталася й з Табой.
Багацце й харство твае прыроды
І прошласць слаўную змяшаў чужак з гразёй
І словы вывеў гідкія для зводу.

Але народны дух, разбіўшы мур турмы,
Здалеў вяковы бруд паганы змесці.
І з дзіўнай любасцю чытаем тое мы,
Што захавалася на палімпсесце.

*1921*

## ХАРАСТВО

Няясны і трывожны сны людства,
І блудны цёмныя яго дарогі,
Але па-над будзённыя трывогі
Узносіць нас туга да харства.

Так дробная вясковая дзятва
З-пад курных стрэх (прытулак іх убогі)
Да рэчкі бег кіруе на разлогі,
Дзе яснасць вод і золата жарства.

І верым мы, што злучны дух і маса,
Гармонія ў жыцці і сэнс-акраса;
Прытулак ёсць, дзе адпачыць ільга,

Дзе дасканаласці чаруе ўсмешка.
Ды дзіўна неяк: хістка сцежка
І да яго вядзе людство туга.

*1923*

## МЕЧ

Яго ў зямлі знайшоў маёй разлогай,
Аручы прадзедаў вузкі загон.
Вясёлым звонам аказаўся ён,
Калі чапіў канцом майго нарога.

Абцёр набожна йржу часу благога,
І заблішчаў старых стагоддзяў сон,
І надпіс на клінку, нібы закон, —
«Дарэшты бой!» — зірнуў загадам строга.

І вось няма нясмеласці, разваг.
Для сэрца вернага — чужынцам страх:
Радзімы схоў вартуйце, маткі, сёстры!

Я з грамадой іду па шчасце нам.
Мой меч зіхціць, непераможны, востры.
Змагуся сам — дык сотням перадам!

*1924*

* * *

Я — грамнічная свечка прад Богам.
Ціхай, ціхай згараю малітвай



За блакітную к небу дарогу,
За ўзрунелыя зелена рытвы.

Ўсемагутны! Вось сэрца паэты —
За народ Твой Крывіцкі ахвяра!
Дым кадзільны — жар вершаў — прад светам
Узнашу да Цябе па-над хмары.

Мы абвеяны злой сухавеяй,
І балот душыць ліпкая плесня,
І дарма зацвіталі надзеяй,
І дарма снілі сны напрадвесні.

Ў бездарожжы зблудзілі глыбока,
Пацямнеў цёмны шлях наш цярновы...
Не адмоў нам паслаці прарока
З цвёрдай верай і словам агнёвым!

Цішу досвіткаў цьмяных
Абуджаю жальбою вялікай:
Расчашы ты сівізну туману,
Празіяй жыватворным Аблікам!

Да Цябе уздыхаюць са мною
Капытом здратаваныя нівы,
На аблогах — бадыльнік з лазою
І чарот па-над ставам шумлівы;

Уздыхае кароўка-худоба,
І авечка на голым папары,
А каняка схіляе з жалобай
Галаву пад нязмерным цяжарам.

Узгляніся!.. Злітуйся над ніцым!..
Маё гора усёды, усёды:
Мае слёзы — ў дажджах навальніцы,
Мае енкі — у стогне народу.

І туга мая — з ветрам на полі,
Мая смага — гаючай крыніцы:
Няхай будзе і праўда, і воля,
Твая Воля на роднай зямліцы!

*[1925]*

## ПРЫКЛАДЗІНЫ

*Перайманне Гарацыя*

Паставіў я сабе прыклад навек трывалы,
Выносісты вышэй за валатовак вал,
Не скрышаць мне яго ні ўлевы, ні навалы,
Ні часу, дзён і год бурлівы перавал.

Увесь я не памру, нястленнымі дарамі
Найлепшае з мяне запоўніць мой працяг,
Пакуль Пагоні меч зіхціць на Вострай Браме
І рух нясе наш бел-чырвона-белы сцяг.

І скажуць пра мяне, дзе ціхаводны Нёман
Абняць хутчэй імчыць вірлівая Вялля,
Што, цалкам кволы, я на духу быў нязломан
І ўсё насіў нашы да роднага вулля.

Бо быў між першых я, што летуцелі палка
Пабачыць, як муры залье крывіцкі рух.
Мае заслугі ўзваж, сялянская Купалка,
Валошкавым вянком аздоб чало сукрух.

* * *

Наш лёс, бы кат з рукой забойнай.
Бязлітасней рука каго?
Ды ўмее вой адзін спакойна,
Без роспачы прыняць яго.

І ўмее вой цвёрдакаленна
Ўстаяць перад навалай злой
І, ўсё губляючы, нязменна,
Данесці абавязак свой.

Губляць жа болей немагчыма
І зносіць болей немага:
Народ, Свабода і Радзіма, —
На ўсё прыйшла адна чарга.



Найдаражэйшае, святое —
Ўсё, чым натхнялася душа,
Чужою збэшчана рукою,
Сваволяй скута палаша.

Але пад лобам хмурым гэтым,
У гэтай думнай галаве
Імкненне да апошняй мэты
Непераможнае жыве.

Непераможнай волі шалам,
Перамагаючым і лёс,
Звініць душа з былым запалам,
Звініць без сумніву і слёз.

І покі пруткі шчэ цягніцы,
І покі ў жылах точыць кроў, —
Ніхто не ўбачыць голаў ніцы,
Пакорлівых не ўчуе слоў.

І покі сэрца поўна гневам,
І гнеў драпежней крумкача, —
Вітаю бой ваяцкім спевам
І звонам вострага мяча.

Калі ж нараз ад лучнай раны
Звалюся, сходзячы крывёй,
І вораг, перамогай п’яны,
Накпіць нягожа нада мной, —

Я і тады здалею гарда
Стрымаць гадзін апошніх золь,
Мая нянавісць і пагарда
Не ўдасць, не здрадзіць люты боль.

*1925*

## ВЕРШ РАЗВІТАННЯ

*Феліксу Купцэвічу,*
*сэрцу, раздзертаму болем*
*па Бацькаўшчыне, прысвячаю*

О, мой Край, — раздарожжы з крыжамі,
І разоры разворвае жудзь!..
Люты боль працінае нажамі,
Што мне песень тваіх не пачуць.

О, мой Край, ў яснавейнае ранне,
Калі твой пахапляў я намер,
Быў ты першым, дзіцячым каханнем,
Мне й апошнім застанься цяпер.

Думаў я, што не будзе выбоін,
Не наважацца стрымваць хады,
Што мінуўшчыны крыўды загоім
Буйнай хваляй вясновай вады.

Але не... хмуры твар майго люду
Кажа зноў аб нядобрай сяўбе.
І мяне, як злачынцу-прыблуду,
Павядуць сумаваць без цябе.

Не спытаю, чаму і завошта
Адрываюць ад бацькаўскіх ніў —
Я юнацтва і радасцяў коштам
За каханне сваё заплаціў.

Што зраблю я вось з гэтакім сэрцам,
Яно зранена дзідай завей,
Мо затым, каб не быў спраняверцам,
Мо затым, каб любіў я мацней!

Мо затым, каб навек непарушна,
Каб навек зліўся з Краем мой дух,
Маё вернае сэрца, ты слушна
Закавана ў пакуты ланцуг!

О, мой Край, злога ветру пагудкам
Не заліць твайго шчасця зару!



Гэты верш развітання і смутку
Ты згадай ў залатую пару!

Дык бывай жа здаровы, каханы,
Зацвітай і красуй у вяках!
Скажуць людзі: як ліст адарваны,
Па табе я ў чужыне засох.

*1931*

# МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

Пісьменнік Міхась Зарэцкі (сапр. Касянкоў) нарадзіўся 20 лістапада 1901 года ў сяле Высокі Гарадзец Талачынскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і дзяка.

Дзяцінства прайшло ў вёсцы Зарэчча пад Шкловам. У 10 год аддадзены ў Аршанскае духоўнае вучылішча, а затым — у Магілёўскую духоўную семінарыю, якую пакінуў, калі пачалася рэвалюцыя. Працаваў перапісчыкам у паўвайсковай часці. З лютага 1919 года настаўнічаў на Магілёўшчыне, потым прызначаны загадчыкам валаснога аддзела народнай асветы. У 1920–1926 гадах — палітработнік Чырвонай Арміі. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», з 1927 года — у аб'яднанне «Полымя». Да лістапада 1936 года працаваў у АН БССР.

Першае апавяданне надрукаваў у 1922 годзе ў газеце «Савецкая Беларусь». У 1925 годзе выйшлі з друку два зборнікі апавяданняў: «У віры жыцця» і «Пела вясна». Услед за імі — «Пад сонцам» (1926), «42 дакументы і Двое Жвіроўскіх» (1926), «На чыгунцы» (1928), «Ракавыя жаронцы» (1930; уключаны і п'есы «Віхор на балоце» і «Белыя ружы»), апавяданне «Бацькаў сын» (1932), аповесць «Голы звер» (1926), раманы «Сцежкі-дарожкі» (1928), «Вязьмо» (1932), кніжкі нарысаў «Падарожжа на новую зямлю» (1929), «Лісты ад знаёмага» (1931). Аўтар п'ес «Сымон Карызна», «Ная», кінасцэнарыя «Пачатак шчасця».

Пераклаў на беларускую мову раман «Цэмент» Ф. Гладкова (1930), «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветную вайну» Я. Гашака (ч. 1, 1931).

З канца 1920-х гадоў М. Зарэцкі ўсё часцей ішоў у разрэз з ідэалагічнымі ўстаноўкамі бальшавіцкай партыі — адзінай цяпер у краіне. Гэта асабліва праявілася ў п'есах «Віхор на балоце» (1928) і «Белыя ружы» (1929), дзе выказваюцца сумненні ў дэклараваных ёю гуманістычных ідэалах. Як мастацкія творы, так і публіцыстычныя выступленні М. Зарэцкага гэтага часу насычаны вострымі праблемамі нацыянальна-культурнага і сацыяльнага жыцця.

У нарысе «Падарожжа на новую зямлю» (1929) М. Зарэцкі не пабаяўся выказаць сваю падтрымку планам наркама земляробства Прышчэпава (з ім пісьменнік пабываў на асушэнні Мар'інскіх балот Палесся, у тых мясцінах, пра якія пазней Я. Купала напіша паэму «Над ракой Арэсай») наконт заснавання моцных фермаў, якія лічыў



найбольш прагрэсіўнай формай гаспадарання. Селянін павінен быць гаспадаром на сваёй зямлі, тады ён будзе працаваць з поўнай аддачай, захавае духоўную сувязь з радзімай, не будзе пакідаць яе ў пошуках лепшай долі. У гэтым была сутнасць ідэйна-філасофскай канцэпцыі М. Зарэцкага. Ён актыўна ўключыўся сваімі артыкуламі ў кіна- («Два экзамены», «Чым пагражае нам Белдзяржкіно. Да крытыкі тэматычнага плана») і тэатральную дыскусію 1928 года, рашуча выступаў супраць прыніжэння нацыянальнай культуры, калі пад выглядам збліжэння з рускай зневажаліся лепшыя нацыянальныя традыцыі, мала ставілася ў тэатрах беларускіх п'ес, амаль не здымаліся беларускія кінафільмы. Зусім не даспадобы было ўладам, калі пісьменнік узяўся за распрацоўку далёкага гістарычнага мінулага Беларусі. Была перапынена публікацыя ў «Полымі» яго гістарычнага рамана «Крывічы».

Супраць М. Зарэцкага пасыпаліся палітычныя абвінавачанні, яго творчасць аб'явілі нацыяналістычнай, антысавецкай.

3 лістапада 1936 года пісьменнік быў арыштаваны органамі НКУС, а 29 кастрычніка 1937 года расстраляны. Было яму тады ўсяго 35 гадоў.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць асобным томам «Выбраныя творы» Міхася Зарэцкага.

## АДНА ПАРТЫЯ Ў ШАШКІ
*Апавяданне*

Гэта — з таго часу, як у маладой савецкай краіне полымем барацьба бушавала, як у смяротную бойку схапіліся былі паўстаўшыя работнікі з сваімі адвечнымі ворагамі — панамі. Тады кожны куток нашай краіны працяты быў вострай напружанасцю, якая часам прасякалася агнявымі бліскавіцамі бурных уздымаў.

У той час на кожным кроку хаваліся ў цемры падкалодныя гадзіны. Часам выпаўзалі яны на свет і атрутныя джалы паказвалі. Мужыкі-сярмяжнікі зніштажалі іх сваімі рукамі мазольнымі, карузлымі. І не было тады меры мужычай моцы жалезнай, не было меры і гневу народнаму, бурнаму.

У фальварку Струшні тры дні паслугачы панскія сядзелі замацаваўшыся. Акружаны былі кальцом непарушным — чырвонаармейскім атрадам на чале з Асначом — селянінам-героем. Не здаваліся, хоць і бачылі, пэўна, што не будзе ратунку. А мо чакалі адкуль дапамогі?

Аснач наўмысля не браў фальварка з бою: хацеў жыўцом захапіць непакорных бандытаў. Расстанавіў вакол панскага дома людзей сваіх, сам сядзеў у старажоўскай халупцы, што ад дома

крокаў на сто ля дарогі стаяла. Пад вусамі густымі вялізнымі хаваў увесь час хітравата-давольную ўсмешку. Пэўна, сам сабе думаў:

«Няхай пасядзяць сабе троху, адпачнуць пасля працы. А канец — адзін...»

Ноччу панскі дом хаваўся ў старожкую цемру. Тады Аснач падыходзіў да дома і хадзіў вакол безупынку. Упаўголаса аклікаў чырвонаармейцаў, бадрыў іх жартам вясёлым. А сам усё хадзіў і ўсё слухаў пільна, уважна, ці не робіцца што там за сцяной, ці не гатуюцца да чаго непрыяцелі.

На трэцюю ноч, калі ён хадзіў так — бяссонны, насцярожаны, — яго чулае вуха злавіла ледзь чутныя рухі ў пакоях. Умомант ад чалавека да чалавека перадалася чырвонаармейцам яго перасцярога. Шчыльней абступілі дом, ля дзвярэй, ля акон пасталі з нарыхтаванымі стрэльбамі.

Застыгла ўсё, быццам самлела наўкола. Так ціха было, што як з саду над домам праляцела нейкая птушка начная, дык чуцен быў мерны ўзмах яе скрыдлаў.

Часінка, другая...

Раптам адчыніліся дзверы панскага дома. Уздрыганула паветра ад стрэлу. Невядома, хто першы страляў: ці армейцы, што чакалі каля дзвярэй, ці мо бандыты, каб спалох узняць нечакана, палягчыць сабе магчымасць уцячы.

Потым ужо ў пакоях пайшла страляніна. Тлум, замятня... А праз колькі хвілін асвяціўся дом святлом няроўным, дрыжачым; з акон косы віхрыстыя заскакалі па кустах палісадніку.

Гэта Аснач рабіў вобыск па доме. Замест лямпы з паперы зрабіў нібы факелы і асвятляў імі пакоі.

Доўга не асталіся ў доме. Аснач хутка сабраў сваіх хлопцаў.

— У вёску, усе... Пільна сачыць за бандытамі... Рукі скруціць... як мае быць... Марш!..

Пасунуліся няроўнай чарадой па цёмнай дарозе. У невялічкай вёсцы — вярсты тры ад фальварка — спыніліся. Там мусілі начаваць.

Разышліся па хатах, а забраных бандытаў стоўпілі ў адзін з сялянскіх свірнаў. Да іх варту прыставілі. Толькі правадыра іхнага павёў з сабой чамусьці Аснач. Двое чырвонаармейцаў яго вартавалі, трымалі нарыхтаваныя стрэльбы.

Увайшлі ў сялянскую хату. Аснач сеў адразу за стол, задумаўся, паклаўшы твар на далоні. Усе маўчалі. Толькі гаспадар з гаспадыняй нешта шапталі ўцішку. З цікаўствам паглядалі на гасцей і больш за ўсё на таго, што стаяў паміж двух узброеных салдат.



Яго выгляд прыцягваў да сябе ўвагу. Вопратка нібы панская, але так абшарпалася, што зусім страціла свой калішні выгляд. Калматым шкумаццем недалужна звіслі парваныя полы сурдута, а скрозь дзіркі на каленках свіцілася брудная бялізна.

Стаяў ён панура, нерухома, у дол апусціўшы сярдзіта прыжмураныя вочы. Твар быццам драўляны, быццам мёртвы. На ім застыгла, закамянела хваравітая напружанасць.

Аснач ратам узняў галаву. Акінуў хату ўраз павесялеўшым, светла-іскрастым паглядам.

— Гаспадыня! А як будзем з вячэрай, га?..

Замітусілася баба, забегала па закуцці.

— А бадай яно цямілася. Гэта ж мне з галавы вон. Такі праўду кажуць, што сыты галоднаму не спагадае...

Неяк ураз змяніўся ўсіхны настрой. Быццам нейкі гуллівarадасны промень працяў тую напружную цяжкасць, што гнётам вісела ў хацёнцы. Закулдычылі дзеці, загаварылі армейцы. Гаспадар падсеў к Асначу, пачаў гаманіць з ім — сперш асцярожна, нясмела. Зазіраў у яго дабрадушныя вочы з цікаўствам, з павагай, распытваў пра падзеі ў фальварку. Аснач апавядаў, і ўсе смяяліся давольна, радасна.

Толькі адзін палонны маўчаў. Быццам не чуў, не ўважаў, што наўкола, углыбіўшыся ў думкі свае асабістыя.

Падалі вячэру. Аснач разгарнуўся, расшпіліўся, вольна раскапусціўся за сталом, гатуючыся як мае быць узяцца за ежу. Па твары разлілася давольнасць — шырокая, млявая, якая заўсёды бывае ў тых, хто пасля цяжкае працы знаходзіць сабе адпачынак.

У гэты момант пагляд Аснача спаткаўся з паглядам бандыта. Толькі хвілінку глядзелі яны адзін у вочы другому, але гэтага досыць было, каб Аснач згадаў тое, што перажывае ў гэты момант збянтэжаны пан. Скрозь усю тую варожасць і злосць, якія свіціліся ў прыжмураных вачах, нястрымана прарывалася моцнае жаданне, і гэта жаданне, відаць, панавала цяпер над усім пачуццём, над усёй істотай гэтага чалавека.

— Есці! Есці! — быццам крычалі напружна-бліскучыя вочы бандыта.

І тады Асначу яшчэ весялей зрабілася. Не было ўжо злосці на недалужнага, бяссільнага ворага. Нават жаль нейкі з'явіўся. А панская ўпартасць, замкнёнасць здалася смешнай і недарэчнай. Ён праказаў вясёла з захаваным смяшком:

— Можа, пан не адмовіцца павячэраць?

Злосцю і пагардай бліснулі панскія вочы. Адвярнуўся, не глядзеў нават у бок Аснача. Але Аснач ведаў, што голад пераможа ўпартасць.

— Хлопцы! Развяжыце пану рукі, няхай падмацуецца троху...

Развязалі. Пан не рушыўся з месца. Відаць, змагаўся з сабой. Але ўрэшце не вытрымаў. Утупіўшы вочы, падышоў да стала. Больш не чакаў, каб прасілі, накінуўся на страву, як звер галодны. Мусіць, доўгі час нічога не еў.

Як скончылі вячэру, як у ціхай сямейнай прытульнасці зацягнуў сваю ветлую песню самавар ля парога, Аснач заўважыў на акне дошку ад шашак.

— А бач! Вось дык знаходка... А дзе шашкі? Дзядзька! — звярнуўся ён да гаспадара.

— А ліха іх ведае... Як быў сын у дварэ, гулялі часам хлопцы... А потым, мусіць, параскідаліся, бо гуляць няма каму, так вось бадзяюцца...

— Кепска, кепска. Але нішто, мы наробім...

Узяў кавалак хлеба і пачаў крышыць шматкамі маленькімі.

— Ну, сядай, хлопцы, згуляем...

Але з чырвонаармейцаў ніводзін не ўмеў гуляць.

Аснач зірнуў у бок пана. Той сядзеў за сталом, упяўшы пагляд некуды ў пусты працяг. Думаў усё. На твары цяпер спакой быў, ціхамірнасць.

— Ці згуляе, ці не?

Хочацца Асначу ў шашкі пагуляць, дужа хочацца. Шашкі — гэта ж яго ўцеха найпершая... Пэўна, гуляе пан, але ці згодзіцца? А цікава было б з ім...

Ён абярнуўся да пана, і той, быццам схапянуўшыся, зірнуў на яго чакаючым паглядам.

— Можа, згуляем партыю? — запытаўся Аснач.

— Давайце.

Узяў нейкую паперку з акна і пачаў таксама, як і Аснач, гатаваць шашкі.

Расстанавілі — Аснач хлеб свой пакрышаны, а пан кавалкі паперы.

Чамусьці раптам заціхлі ўсе ў хаце. Армейцы падсунуліся бліжэй, глядзелі з цікавай усмешкай.

Пачалася гульня. Напружаная, цягучая ціша агарнула хацінку. Настойным, назойлівым гнётам павісла пытанне: «Хто каго?»



Глядзела гэта пытанне з цікавых вачэй армейца, з маўкліва ўпятага ў шашаніцу пагляду гаспадара. І нават гаспадыня, сноўдаючыся па хаце, часам падыходзіла да стала і зазірала на шашкі, хоць і не разумела ў іх нічагутка.

Аснач насупіўся. Упарта глядзеў на дошку, асцярожна, зважна пераставіў кавалачкі хлеба. І чым далей, тым больш і больш моршчыліся яго бровы, а вусы шавяліліся, як у таракана.

Дзіўная была гульня ў Аснача з панам. Абодва напружыліся, абодвух цалком захапіла адна вострая, палкая думка: каб не прайграць.

У Аснача пад звонку нібы зусім спакойным выглядам хавалася моцнае абурэнне. Адно звінела, гудзела ў мазгах: ён павінен абыграць, ён не павінен паддацца. Чаму — невядома, але так трэба, так павінна быць.

І нешта дзіўнае, незвычайнае рабілася з Асначом. Ніколі ён не гуляў з гэткім запалам. Быццам усёй істотай увайшоў ён у шашкі, у гэтыя цьмяныя кавалачкі хлеба, усю моц сваю, волю ўклаў у іх. І здавалася, што гэта не шашкі ўжо, што не іх справа. Здавалася, што няма ўжо шашак, што счэзлі яны, распаўзліся, разгарнуліся ў нешта вялікае, шырокае, у нешта без форм, без пачатку і канца. І асталіся тут толькі яны ўдвух — адзін проці аднаго — з гэтым панам, што блішчыць варожа вачамі, што ўсміхаецца смешкай саманадзейнай.

Абыграць яго, перамагчы! Бо йначай — немаведама што...

Гульня к канцу падыходзіла. Асталося па некалькі шашак у кожнага. Абодва не паддаваліся.

Напружнай чырванню пакрыўся акамянелы твар Аснача, вочы заблішчэлі агнём жорсткім, сталёвым. Упарта глядзеў на дошку. Уваччу ўжо не хлебныя крошкі, а нейкія вялізныя камлыгі каменныя. Здаецца, заваліў бы, раструшчыў імі гэтыя заядлыя белыя паперкі. А разам з імі гэтага ўпартага, злоснага ворага.

У парозе гаротна, недалужна пішчаў самавар. Усе на яго забыліся, усе абступілі гульцоў, з зацятым дыханнем чакалі, чым скончыцца. Ува ўсіх на твары відаць было шчырае спачуванне Асначу, жаданне, каб выйграў ён, не паддаўся. І разам трывога, напружная, палкая.

— А што, калі ды прайграе?..

Гэтак і выйшла. Зрабіў Аснач ход дрэнны, няўдалы; і твар пана раптам зайграў давольнай, радаснай усмешкай.

Аснач прайграў. Аснач паддаўся варожаму пану.

Раптам глыбокая цішыня стала жудаснай, злавеснай. Дзіўна дапасаваў ёй завыўны, жалобны посвіст самавара.

Узняўся Аснач. Упяў пагляд проста ў твар пану. У гэтым паглядзе нешта гарэла, бушавала шалёнае, лютае.

Пан таксама ўстаў. Смела глядзеў у твар Асначу, усміхаўся зларадасна.

І вось тады здарылася тое, чаго, пэўна, ніхто не чакаў, што спалохам агнявым усіх агарнула.

Аснач вынуў з кішэні наган і навёў яго на пана. Стрэл быццам ускалануў, разадраў усю хату.

А пасля — ціха стала, як у магіле. Пан марудна, паволі апусціўся на лаву.

Аснач стаяў нерухома. Не ведаў ён сам, нашто забіў пана, за што. Дый не думаў пра гэта. Нешта падказала з нутра, што трэба так, што павінен забіць, што вораг гэты кроўны, упарты — узяў і забіў...

Усе моўчкі стаялі, спалоханыя. Усе ўзіраліся ў недалужна-паніклае панскае цела. І дзіўна, што ні ў каго не мігнула ў гэты жудасны момант думка асуджэння. Быццам усе згодны былі з Асначом, быццам кожны разважаў сваім простым, нямудрым розумам:

— Яму трэ было гэтак зрабіць...

Дык вось якая была адна партыя ў шашкі. Гэта было тады, як у нашай краіне барацьба бушавала, як у смяротную бойку схапіліся былі паўстаўшыя работнікі з сваімі адвечнымі ворагамі — панамі.

Тады не было меры мужычай моцы жалезнай, не было меры і гневу народнаму, бурнаму...

***1924***

## ДЗІЎНАЯ

*Апавяданне*

### 1

Узімку гэта было. Пасля дзяннной сумятні Блонскі сядзеў у сваім кабінеце, атулены шэра-ваўнянымі згусткамі змроку. Вольна раскінуўся ў старасвецкім крэсле, пагляд акунуў у аксамітную мякаць цёмнага кутка і з асалодай адчуваў ціхую нерухомасць.

Лёгка, не турбуючы, варушыліся думкі, гарэзна спляталіся ў зыбучую чараду. Было прыемна, вальготна. Адпачывала цела, адпачывала змардаваная галава. Так сядзеў нерухома, слухаў, як маятнік на сцяне ўпарта таўхае марудныя хвіліны.



У сумежным пакоі глуха раздаліся крокі, вывелі Блонскага з адзервянення. У кабінет, не папытаўшыся, увайшла жанчына. Ля парога спынілася, азірнула ўважна пакой. Угледзела Блонскага і падышла да яго рэзкім крокам.

— Вы старшыня выканкама? Добры вечар!..

На стол бесцырымонна партфель кінула, села насупраць. Блонскі не змяніў выгаднай позы.

— Я... Добры вечар!..

— Да вас прыехала, толькі што з чыгункі. Дзе прытуліцца?

Блонскаму не падабалася. Надакучылі гэткія. Мітусяцца, ламаюцца, быццам хочуць здзівіць.

— Чаго прыехалі?

— Камандзіравана на працу сярод жанчын... Ды што вы ў цемры? Свету няма?

— Ёсць. Там на сцяне выключацель.

Яна памацала, адкруціла. Балюча ўдарыў па вачах яркі свет электрычнасці, вымеў за акно мяккія цені змроку.

Блонскі зірнуў на жанчыну. Убачыў перш за ўсё вочы — яркія, вострыя, з шчырым вясёлым агеньчыкам. У іх — смелая, дапытлівая цікавасць. Упадабаліся. Міжвольна ўсміхнуўся, як спаткаліся поглядамі.

«Нішто», — падумаў.

Яна азірнула пакой.

— Вы заўсёды тут седзіцё?

— Не, часам не сяджу. Зараз пасяджэнне будзе, чакаю.

Глядзеў на яе з лёгкай усмешкай, чакаў, што далей.

— Я надта змарылася... Я працаваць люблю... ведаеце, так, з захапленнем, з запалам. Але я фізічна слабая і не магу вытрымаць. Дрэнна. Завідую вось гэткім, як вы...

Апошнія словы яна працягнула задуменна. Спыніла ўважны, сур'ёзны пагляд на яго фігуры. Ён таксама зірнуў на свае дужыя члены. Быццам сам здзівіўся сіле сваёй дубовай, быццам засаромеўся за яе.

— Так. Я нішто сабе... так.

Яна раптам рассыпалася задорным іскрыстым смехам:

— Ха-ха-ха! Які вы смешны... вялікі які... Ха-ха!

І ўраз праглынула смех, затурбавалася.

— Добра. Як жа мне быць? Дзе пакуль што прытуліцца? Я да вас заўтра прыйду. Вы, здаецца, і сакратар укама? Я заўтра

зранку, пагаворым аб усім. А цяпер... я сапраўды не ведаю, дзе прытуліцца... Парайце.

Блонскі расказаў, дзе гасцініца. Як выходзіла, чамусьці сказаў:

— Не зранку заўтра, а гадзіны ў чатыры зайдзіцеся. Тады вальней будзе пагутарыць.

— Добра!— кінула яна з дзвярэй.

Як выйшла, Блонскаму пуста стала ў пакоі. Заныла цягучаедкая ціш старога каменнага дома, балюча напяла мазгі.

Нецярпліва чакаў, калі зноў пачуюцца крокі, на пасаджэнне пачнуць прыходзіць.

А ў галаве думкі тачыліся: старожкія, пудлівыя, як цішыня навокал пустога вялізнага дома. Думаў аб гэтай жанчыне. Хацеў уявіць яе ў сваіх думках, ды чамусьці не ўдавалася. Вобраз неяк пляміўся і развейваўся. Толькі вочы яскрава ўцяліся ў памяць. Здаровыя, ясныя, з шчырым агеньчыкам.

Назаўтрага Блонскаму мінуты здаваліся за гадзіны, а гадзіны за вечнасць. Чакаў чатырох. Не хацеў сам сабе ў гэтым прызнацца, не хацеў пагадзіцца з гэтым. Ахапляла дасада, злосць на самога сябе.

А як падышло да чатырох, зусім узбурыўся. Хадзіў з кутка ў куток, поўны прыкрай нецярплівасці. Часам спыняўся, аглядаў сам сябе, дзіваваўся:

«Што ж гэта такое? Нервы, ці што?.. Вось дык гісторыя».

Злаваў, абураўся і зноў хадзіў узад і ўперад. Урэшце яна прыйшла. Паспешна прывіталася, села каля стала.

— Ну, давайце пагутарым, як тут у вас... З чаго пачынаць?..

Пачала гаварыць аб справе. Блонскі глядзеў на яе і дзівіўся яе сціслай сур'ёзнасці. Зусім не так, як учора. Ніводнага старонняга слова, быццам, апрача справы, нічога няма ва ўсім свеце. Нават аганькі ў вачах — сталёвыя нейкія, цвёрдыя.

Доўга гутарылі. Змрок разліў па пакоі бузуважна-шэрую муць, згрудзіў у калматую масу прадметы. Электрычнасці не палілі, сядзелі ўпацёмку. І тады Блонскі неяк асабліва моцна, напружана стаў адчуваць гэту жанчыну. Затушаваная цьмяным валакном змроку, яна здавалася нейкай хваравіта-назойлівай плямай, якая ўпарта цягнула да сябе ўвагу. Ён пільна прыслухаўся да гуку яе голасу, напружана стараўся знайсці ў ім нешта, злавіць. Здавалася, што пад гэтым сухім, троху мітынговым тонам ёсць нешта схаванае, палахліва затоенае. Адчуваўся нейкі ледзь прыкметны фальш у гэтых цвёрдых, энергічных словах аб вызваленні жанчыны, аб змаганні з іржавымі путамі сям'і, аб



рэвалюцыі быту і г. д. А часам Блонскі выяўна чуў у яе голасе мімалётныя ноткі няпэўнасці, нейкага сумнага неўразумення. Гэтыя ноткі чамусьці выклікалі сімпатыю да яе, спачуванне.

Блонскаму ўрэшце надакучыла гаварыць аб сур'ёзным. Ён раптам перапыніў яе:

— Слухайце... Я ж дасюль не ведаю вашага прозвішча... Зусім з думкі сышло.

Яна засмяялася.

— Бяда вялікая, падумаеш... прозвішча... Але ж і сапраўды, трэба як-небудзь зваць... Шумава — маё прозвішча... А ваша я ведаю, бо вы ж тут вядомы на ўвесь павет...

Нейкі час маўчалі. Цішыня раджала напружаную вострую блізкасць. Гэта цяжарала. Здавалася, што даўно-даўно знаёмы і ўжо надакучылі адно аднаму.

Блонскі ўстаў, запаліў электрычнасць. Зірнуў на яе. Яна сядзела ў задуменні. Аб нечым цяжкім думала, бо вочы атуліліся цьмянай, сталёвай глыбінёй. Потым яна нецярпліва траханула галавой, узнялася. Усміхнулася — не то зморанай, не то сумнай усмешкай.

Блонскі агарнуў яе ўсю ўважным поглядам. Залюбаваўся міжвольна. Яна вельмі прыгожай здалася яму.

Шумава быццам заўважыла гэта. Задорна кінула яму насустрач адкрыты вясёлы погляд. У вачах аганькі заблішчэлі, заіскрыліся. Загаварыла жвава, паспешна.

— Заседзелася я... Гадзін дзевяць, пэўна, ужо ёсць... Трэба ісці ў свой палац... Ну, і ўдружылі вы мне, таварыш Блонскі! Высока-высока і брудна. Адзін толькі й быў вольны нумар. Сёння ўсю ноч ваявала з мышамі... Надта злосны вораг... Ну, я пайшла. Бывайце!

— Я таксама пайду. Пойдзем разам.

Дарогай яна лапатала аб розных драбніцах. Блонскі маўчаў, не хацелася гаварыць. Думкі цяжэрна, грузка перавальваліся, давілі мазгі.

На рагу вуліцы развіталіся.

## 2

З таго часу яны сустракаліся часта. Блонскі любіў глядзець, як працуе Шумава. Захапляў запал яе, упартасць у драбніцах, у будзённых, марудных справах, упартасць, якая пераходзіла ў азарт, ап'яненне. Гэтая ўпартасць часам хваравітай здавалася,

але заўсёды захаплялася, зараджала, абуджала і ў Блонскага нейкі востры апетыт да работы.

Праз два тыдні Шумава склікала з'езд жанчын-дэлегатак. На з'ездзе Блонскі сядзеў у прэзідыуме. Глядзеў на белыя, чырвоныя, чорныя хусцінкі, на задуменныя, застыглыя ў глыбокай сур'ёзнасці твары. І адчуваў, як усе гэтыя твары — маладыя і старыя, прыгожыя і непрыгожыя — зліваюцца для яго ў адзін твар жанчыны-работніцы: зморany, сумны.

Шумава рабіла даклад. Яна была ўзрушана, гарэла жарам шчырасці, веры ў тое, аб чым гаворыць. Яе словы зычэлі той непасрэднай, простай праўдзівасцю, якая бывае звычайна ў тых, хто не толькі ведае справу, але адчувае яе, хто звязаны з ёю арганічна, кроўна. Яе слухалі так, як рэдка калі дакладчыкаў слухаюць. Уся зала дыхала напружанай, глухой цішынёй.

А як скончыла, разгарэліся гарачыя, упартыя спрэчкі. Раскрыліся заледзянелыя ў горы грудзі жанчыны-работніцы, бурнымі павадкамі завіхрыліся, пырснулі крывавай пенай адвечнай пакуты.

Усё правільна Шумава выказала, толькі ў адным перабавіла, у нутро жаночае балюча ўрэзалася. Выступіла супраць ядынай уцехі, шчасця жаночага: сказала, што не трэба матцы дзяцей сваіх гадаваць, што зло ў гэтым нейкае ёсць. Прапанавала: адбіраць ад матак іхніх дзяцей і дамы выхавання наладжваць. Каб матка не знала сына свайго, а сын маткі, каб агульныя, усіхныя дзеці былі. Проці гэтага жанчыны-маткі агнём загарэліся. Казалі: жорстка гэта і крыўдна.

А Шумава на сваім стаяла, сваю думку з запалам адстойвала.

Потым, як пасля пасяджэння вярнуліся з Блонскім у двор, усё яшчэ гаварыла, узрушаная:

— Гэта злачынства... так, злачынства. Гэта псаванне дзяцей... І сабе нахаба... Слухайце, гэта ж ясна, як дзень. Нам трэба тварыць новых людзей, людзей калектыву, у якіх няма матак, бацькоў, у якіх бацькі — усё чалавецтва. Да гэтага трэба ісці. І гэта магчыма... у невялічкай мерцы, але і цяпер ужо магчыма... Ці ж няпраўда?..

Блонскі любаваўся яе захапленнем. Спрачацца не хацеў. Ды навошта? Лепей вось так слухаць і адчуваць моўчкі яе свежае сакавітае парыванне, чыстату яе думкі — простай і шчырай.

А яна далей гаварыла:

— Мы псуем іх. Мы з дзяцінства навальваем на іх лішнія прыхільнасці, прывычкі, якія шкодны, якія шмат для каго путамі будуць. Гэта ж несправядліва. За гэта яны клясці нас будуць.



Яна доўга яшчэ гаварыла, даводзіла, пакуль не заўважыла, што Блонскі маўчыць, аддаючы сваім думкам. Тады змоўкла.

Падышлі да таго месца, дзе трэба было развітацца, пайсці ў розныя бакі. Яна спынілася.

— Ну, бывайце!..

Але Блонскаму не хацелася ў двор. Ён наўмысля марудзіў. Часінку стаялі на рагу пад жорсткімі ўзмётамі сцюдзёнага ветру.

— А мо да мяне зойдземся? У мяне цёпла на новай кватэры.

Блонскі згадзіўся з ахвотай:

— Пойдзем.

Была завіруха. Вецер з шалёным выццём віўся па вуліцах. Падцікаўся з-за рога і ўраз налятаў, шкуматаў, сцёбаў па твары жменямі калючага снегу. Хацелася барздзжэй перабегчы і схавацца ў цёмным прытульным пакоі.

Блонскі і Шумава ішлі шыбка-шыбка, часам застраваючы да калень у сумётах, спатыкаючыся. Хісталіся, быццам п'яныя, штурхалі адно аднаго. Горача стала і весела.

Шумава смяялася звонка, раскацісга. Смех дзіўна, нязграбна сплятаўся з злосна-трывожнымі ўзвывамі ветру. Здаваўся дзікім, недарэчным.

Спыніліся на рагу адной з акрайных вуліц. Шумава паляпала ў акно, узбегла, тупаючы, на скрыпучы, адубелы ад марозу ганак.

Адчыніла нейкая бабулька. Усміхнулася ветла. На кухні густа агарнула цяплынь. Загарэліся шчокі з марозу.

У пакоі Шумавай Блонскі здзеў паліто, з асалодай сеў на канапу.

— Добра ў вас. Проста, але прытульна. Падабаецца мне...

— Глупства. Гэта — што цёпла, дык прыемна з марозу...

Яна стала поплеч. Уздыхнула глыбока-глыбока, адкінулася на спінку канапы.

— Замарылася. Не магу многа працаваць. А калі-небудзь зусім надарвуся. Дужа баюся гэтага. Тады ж пуста стане, жыццё будзе бясцветнае, нуднае, як змрок.

Яна задумалася. Блонскі ўсміхнуўся.

— Але ж гэта няўхільна. Прыйдзе старасць калі-небудзь...

— Старасць? Я чамусьці не думаю аб ёй. Гэта далёка... Дый наогул — ну яго к ліху!.. Хопіць нас... Сіл шкадаваць не варта. Пакуль ёсць — будзем жыць, будзем браць жыццё, усё, цалкам. Галоўнае — шырэй, глыбей, як мага глыбей. Ці праўда?..

Яна раптам змянілася. Згінула змора, загарэліся вочы бадзёрасцю, палкай энергіяй. Нешта бурлівае, смелае свяцілася ў іх. Цягнула магутнай магнэсавай сілай, як цягне да сябе бурнапеністае бяздонне глыбокае.

У Блонскага ў сэрцы нешта новае зарадзілася, нешта вострае, салодка-пякучае. Прыемна было глядзець у пераліўчаста-светлыя вочы, акунацца ў іх прамяністую чароўную глыбіню.

Гаварыць не хацелася: словы драўлянымі, карузлымі нейкімі здаваліся. Былі ўсе агідныя, брыдкія.

А яна дражніла гарэзнай, задорнай усмешкай, казытала нервы абураючым поглядам. Нахілілася да яго, абдала жаркім дыханнем.

— Мы будзем жыць... Праўда? Мы ж маладыя, вольныя... Жыццё наша... усё наша. Мы будзем працаваць і цешыцца жыццём... Акунацца глыбока ў яго, браць яго... усё, да дна... Праўда?..

Ён мармытаў нешта ў адказ. Адчуваў, як шумнай хваляй кроў к галаве прылівае, парыўчата б’е кляўцом у віскі. Уваччу спакусліва акругліліся мяккія абрысы жаночага цела, абяцалі палкую ўцеху. Салодкім туманам муць разлілася. Яшчэ момант — і схапіў яе, гарачую, слухмяную, сціснуў у моцных абдымках...

А пасля — сорамна чамусьці было і непрыемна. У галаве агідна скаўзанулася прыкрая думка:

«Як з прастытуткай...»

Адвярнуўся, не глядзеў на яе, баяўся глядзець. А калі скора зірнуў, убачыў, што плача. У вачах рэзка мятнулася аголенае плячо, якое сударгава здрыганулася. Моцна застрала ў мазгах, прыкавала. Часінку толькі і бачыў, як дзівосна трасецца гэта назойліва белае плячо.

Потым раптам нешта растала ўсярэдзіне, разлілося цёплым, добрым такім. Шкада стала. Такой любай, дарагой здалася яна. Захацелася прыгалубіць, суцешыць. Падышоў да яе, сеў поплеч. Хацеў сказаць нешта, многа сказаць — ласкавага, прыветнага, але слоў такіх не было; не знаў ці забыўся на гэту часіну. Злёгку прыткнуўся к яе галаве, пагладзіў пяшчотна, як дзіцё.

— Нашто ты, слухай.. Ну, кінь... не трэба...

Яна схапянулася, узняла галаву. Зірнулі на Блонскага распаленыя вочы з іскрыстымі расінкамі слёз, у самую душу праніклі. У іх — разам з глыбокай журбой ціхая дзіцячая радасць. Яна скрозь слёзы ўсміхнулася.



— Любы, ты не думай... мне добра... Ты не зважай... гэта глупства... Бывае часам ні з таго ні з сяго... Я такая... дзіўная, недарэчная... Ты не глядзі...

Яна сударгава прытулілася да яго, схавала галаву ў яго на грудзях... Ён чуў, што плача яшчэ, і не знаў, што рабіць. Раптам яна зноў ажывілася, загаварыла, парыўчата, горача.

— Любы! Як добра так... як добра! Мы вольныя, нічым не звязаныя... Шчасця як многа — глыбокага, поўнага, нічым-нічым не абмежаванага! Ты адчуваеш, як гэта проста, натуральна... як гэта моцна!.. Ты згодзен, так? Ну, скажы, любы... добра так? Ты таксама шчаслівы?

Блонскі не разумеў яе хваравітага, бурнага захаплення. Глядзеў на яе з ласкавым неўразуменнем, моўчкі абдымаў яшчэ ахінутыя нервовай дрыготаю плечы.

Так сышліся яны. З таго часу ў Блонскага было шмат вечароў гарачай уцехі, шмат бяссонных начэй, шмат гадзін глыбокай развагі. Ён усёй істотай аддаўся каханню, упіўся ім. І каханне яго асвяжыла, зрабіла маладым, уліло ў кроў моцнае бушаванне, аквяціла жыццё.

К Шумавай ён прывязаўся, прывык. Бачыў у ёй жанчыну і таварыша. Але не разумеў яе. Дзівілі яе раптоўныя ўзбурэнні, рэзкія пераходы ад незразумелай журботы да парыўчата-бурнага захаплення. Чулася ў гэтым загадка, і многа гадзін Блонскі ламаў галаву над яе развязаннем.

Аднаго разу ён заспеў Шумаву у глыбокай развазе. Ён колькі дзён перад гэтым не бачыўся з ёй, і за гэты час яна страшэнна змянілася. Блонскі падумаў адразу, што хворая: схудзела, змарнела, вочы глыбока-глыбока схаваліся, хваравіта завастрыліся.

Як убачыла яго, усміхнулася нейкай пакутнай нервовай усмешкай.

— Я якраз аб табе думала... І аб сабе... Я паехаць надумала. Хутка, можа, заўтра...

— Зусім?

— Так, зусім.

— Чаму?

— Гэта трэба. Я растлумачу табе... Я моцна, глыбока к табе прывязалася... Ты ведаеш гэта. Больш, чымся трэба... І вось — я баюся... Сама сябе баюся... Ува мне можа абудзіцца жанчына... Не наогул жанчына, а такая... ну, слабая, адданая, бязвольная... Жанчына-раба, такая, якой не павінна быць, якая — знявага для чалавека... Я спалохалася гэтага і пастанавіла паехаць...

Блонскі маўчаў. А яна адвярнулася і гаварыла далей нейкім вінаватым прыдушаным голасам:

— А потым... Яшчэ ёсць прычына... Але гэтага не скажу, не магу... Ты даруй мне... Я не хачу, каб ты знаў... Я хацела б і сама не знаць гэтага, бо гэта маё слабае месца, ахілесава пята...

Блонскі няўцямна зірнуў на яе. Пастанова Шумавай не здзівіла яго. Чамусьці здавалася гэта простым, звычайным. Але што ж гэта яшчэ за прычына? Што за загадка?..

Хацеў спытацца. дабіцца адказу. Але стрымаўся. Сказаў проста, спакойна:

— Ну, што ж, едзь сабе...

Назаўтрага Шумава паехала.

## 3

Усміхнулася вясна гулліва, сонечна. Так усміхнулася, што сівавалосая бабулька-зямля зусім растала, захлібнулася з радасці. Недалужна заслязілася цурочкамі спрытнымі, кроплямі звонкімі слюнява хліпнула. Зашамкала вуснамі старчымі, голасам шопатным, ціхім.

А потым зарумзала. Ды так зарумзала, так загаласіла, што ўвесь горад шумам напоўніла, патокам слёз заліла.

А як наплакалася даволі, салодка ўсміхнулася мокрымі, бляскам аблітымі вуліцамі, пачала выціраццa шаўковымі коскамі сонейка.

І пачулася тады, што зямля не такая ўжо бабулька старая. Толькі гэткай прыкінулася, а сапраўды — вунь яна: смяецца задорна, молада, звініць птушкамі шустрымі, пярэстай, гаварлівай грамадой людзей разліваецца. Зусім маладуха!

У гэту пару Блонскі адчуваў бурлівае трапятанне ў грудзях. Вясна бунтоўна распаліла кроў неспакойнымі жаданнямі. Чакалася нешта — турботна, настойліва: нечага хацелася — яскравага, моцнага. Душа рвалася некуды, разгарнуцца хацела.

У гэту пару Блонскі Шумаву ўспомніў. Ды так ярка, выразна, быццам — во яна, перад вачамі. Варухнулася ў сэрцы знаёмае, салодкае. агарнула душным жаданнем. Засумаваў Блонскі. Не то што засумаваў, а адчуваў заўсёды назойліва-абураючую патрэбу, не мог пазбыцца яе. Тыдні два змагаўся з сабой, а потым не вытрымаў — пабачыцца ўздумаў.

Знаў, што Шумава ў N. Скарыстаўшы вольны час, паехаў туды.



Вясна ўжо зусім разгарнулася. Пукалі почкі на дрэвах, у свежым арамаце нараджалася першая зеляніна.

Дарогай, у цягніку, Блонскі не адрываўся ад акна. Смагла глядзеў, як парыцца ў сонцы тлустае поле, як лес кучаравіцца кволым, празрыстым лісцем.

А ў N прыехаў — акунуўся ў сумятлівы рух, у ліхаманку напружанага жыцця. Ішоў сярод гурмы шумлівай і адчуваў, як у грудзях расце непакой нейкі, турбота. Паўставала пытанне:

— Нашто?

Хацелася вярнуцца, паехаць назад. Але ішоў, бо нязмога была пакіраваць сабой.

Шумава спаткала радасна. Моцна, па-прыяцельску руку паціснула.

— На доўгі час прыехаў?

— Дні на два.

— Толькі?.. Ну, як жывеш, як там у вас? Што нашы робяць?

Блонскі безуважна адказваў. Упарта разглядаў яе, шукаў у ёй змены. Але яна была такая, як і тады, паўгода назад. Толькі загарэць ужо справілася. Стала ад гэтага прасцей і прыгажэй. Ён зазначыў з усмешкай:

— Ты на цыганку стала падобна.

— О, куды там!.. Я цяпер — маладзец... Моцная такая, здаровая...

— Працуеш, як і раней?

— Больш. Я ж люблю працаваць. А часам трэба яшчэ, каб забыцца, забавіцца. Вось тады... як ад вас паехала... тады цяжка было, многа нутраной барацьбы...

— А цяпер?

— Цяпер добра. Вымелася ўсё. Час памагае... Вось толькі цябе я зусім не чакала. Мо гэта дрэнна, што ты прыехаў...

Яны выйшлі на вуліцу, пайшлі па тлуста-бліскучай ад сонца панелі. Паветра абдавала тамлівай спякотай, было душна, млява. Твар у Шумавай разгарэўся, зардзеўся гарачай чырванню.

Блонскі глядзеў на яе, адчуваў яе свежасць, здароўе і захапляўся. Чамусьці не падабаліся, цяжэрнымі былі яе бадзёрыя, простыя словы. Хацелася нечага іншага, хацелася інтымнасці.

А яна з запалам апавядала аб жыцці сваім, рабоце, аб новых планах, задачах. Упарта ўнікала таго, што магло напамянуць аб мінулым.

Яны прайшлі колькі шумлівых кварталаў і потым неўзаметку для саміх сябе збочылі ў бязлюдную ціхую вуліцу. Там яны стрэлі

купку дзяцей, якія весела гулялі на панелі. Як падышлі да іх, Блонскі заўважыў, што раптам па твары Шумавай праслізнула нервовая бледнасць. Вочы сумятліва забегалі па баках, працятыя непакоем. Яна загаварыла шыбка-шыбка, у відавочным замяшанні:

— Гэта дзіцячы дом наш, самым лепшым лічыцца. Гуляюць зараз... на сонейку...

Блонскі зірнуў на дзяцей. Свежыя, чысценькія. Жвава пераклікаюцца вясёлымі галасамі-званочкамі.

А з Шумавай тварылася нешта незразумелае. Яна паспешна прыбавіла ходу, быццам хацела хутчэй уцячы ад дзяцей. Потым раптам спынілася, вярнулася назад і парыўчата схапіла аднаго з хлопчыкаў — беленькага, з блакітнымі вочкамі-зорачкамі. Дзіцёнак трапятаўся, нецярпліва адмахваўся, як ад дакучнае мухі, з усіх сіл вырываўся Злаваў, што яго адарвалі ад цікавай гульні. А яна горача песціла яго, цалавала.

Блонскі глядзеў, нічога не разумеючы. Потым кінуўся ў вочы твар Шумавай: на ім адбітак глыбокай агнёвай мукі, журбы. Маланкай бліснула думка:

«Дык вось дзе разгадка! Вось тое «слабае месца»!»

Як пайшлі далей, Шумава маўчала. Блонскі асцярожна спытаўся:

— Што гэта значыць?

Яна паглядзела дапытліва на яго.

— Ты дагадаўся. Ты знаеш ужо...

— Гэта твой дзіцёнак?

— Так. Толькі не кажы нічога, не трэба. Так павінна быць, я знаю.

Яна зноў замоўкла. У Блонскага гарэла, прасілася на язык пытанне. Ён не стрымаў.

— А ён ведае сваю матку?

— Не, не ведае. Забыўся ўжо, адвык. Ён не павінен знаць, яму не трэба гэта. Нашто? Ён павінен вырасці чалавекам вольным. Нашто звязваць яго лішнімі прывязанасцямі? Не патрэбна гэта, шкодна.

— Але ж табе як? Цяжка гэта, ты ж ламаеш сябе.

Яна нібы раззлавалася.

— Не, няпраўда, няцяжка мне! Часамі толькі. Гэта мінуты слабасці. Але кінем аб гэтым, не будзем гаварыць... я прашу цябе. Гэта расстройвае толькі, раскалупвае рану. І потым... ведаеш, Блонскі, едзь ты лепей. Мне цяжка з табой. Ты расслабляеш



мяне. У мяне родзяцца нядобрыя пачуцці. Я не хачу быць жанчынай, толькі жанчынай. Я хачу быць чалавекам.

На другі дзень Блонскі вярнуўся ў двор. Пад аднамернае калыханне вагона ў галаве бесканцовай чарадой перавальваліся думкі. То цяклі плаўна, спакойна, то раптам спляталіся ў грамоздны клубок, сціскалі мазгі цяжкім неўразуменнем.

Ён думаў:

«Што ж гэта, нарэшце? Фанатызм, вар'яцтва? А мо сапраўды так лепей? Мо гэта натуральна, мо так і павінна быць? Мо гэта адзіны правільны шлях?»

Яму ўспомніўся беленькі свежы тварык дзіцёнка, які з нецярплівасцю вырываўся з матчыных абдымкаў — незнаёмых, непатрэбных. І поплеч — другі твар, поўны вострай мукі, матчынай тугі.

Успомнілася і тое, што было даўней у першы вечар іхняга збліжэння. Успомніўся той дзівосны настрой яе, тыя незразумелыя слёзы.

«Дзіўная яна... Усё-такі дзіўная».

***1925***

# АНАТОЛЬ ВОЛЬНЫ

Паэт, празаік, кінадраматург Анатоль Вольны (сапр. Ажгірэй) нарадзіўся 19 лістапада (2 снежня) 1902 года ў сям'і служачых у Пухавічах Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер Пухавіцкі раён Мінскай вобласці). Пасля заканчэння Ігуменскай гімназіі служыў у Чырвонай Арміі (1920–1921), затым працаваў у ЦК камсамола, карэспандэнтам газеты «Малады араты», вучыўся ў БДУ.

У літаратуру А. Вольны прыйшоў у 1922 годзе і адразу стаў актыўным удзельнікам літаратурна-грамадскага руху, сябрам літаратурнага аб'яднання «Маладняк» (1923). Непасрэдны ўплыў на творчасць А. Вольнага, як і на іншых маладых паэтаў, аказаў Міхась Чарот, які быў арганізатарам, кіраўніком «Маладняка», папулярным на той час пісьменнікам. Усе маладыя аўтары ў 20-я гады былі захоплены новымі павевамі ў жыцці, жылі спадзяваннямі, верылі ў светлую будучыню Беларусі. А. Вольны шмат у гэты час піша карэспандэнцый, нарысаў пра моладзь, вёску, цэлыя цыклы вершаў, прысвечаныя розным чырвоным датам, камсамолу, Кастрычніцкай рэвалюцыі. Выходзяць яго зборнікі вершаў «Камсамольская нота» (1924, разам з А. Александровічам), «Чарнакудрая радасць» (1926), «Табе» (1927). У 1925 годзе былі напісаны паэмы «Беларуская камсамолія», «Кастусь Каліноўскі», «Сінія кветкі».

У сярэдзіне 1920-х гадоў А. Вольны пераходзіць на прозу. У 1925 годзе разам з А. Александровічам і А. Дударом ён выдаў прыгодніцкі раман «Ваўчаняты». З-пад яго пяра выйшлі таксама аповесці «Два» і «Антон Савіцкі».

Проза А. Вольнага, хоць і была шмат у чым схематычная і дэкларатыўная, аднак узбагачала вобразна арсенал беларускай літаратуры, паказвала людзей новай эпохі, змагароў за вольную Беларусь. Пад псеўданімам Алёша выдаў кнігі «Зборнік фельетонаў», «Суседзі». А. Вольны пісаў таксама апавяданні, нарысы, замалёўкі, пародыі. Напісаў шэраг «літаратурных сілуэтаў» (М. Чарот, А. Александровіч, А. Дудар, М. Зарэцкі, М. Лынькоў, П. Броўка, М. Лужанін, Т. Кляшторны, У. Галубок), гумарэсак на Р. Мурашку, С. Баранавых, А. Александровіча, Р. Кобеца, В. Сташэўскага. Спрабаваў сваё пяро і ў жанры драматургіі, пісаў драматычныя сцэнкі, драматычныя агітжарты («Калі дзяк гаворыць праўду», «Міколка», «У агранома»,



«Гумарысты з Магілёва», «Ход канём» і інш.), п'есы (камедыя «Ратуй, божа» разам з Р. Кобецам).

Вядомы і сцэнарыі А. Вольнага, па якіх былі пастаўлены фільмы «Хвоі гавораць» (1929, разам з К. Дзяржавіным), «Атэль «Савой» (1930), «У агні народжаныя» (1930), «Сонечны паход» (1931), «Новая радзіма» (1935), кінааповесць «Шасцідзесятая паралель» (1935). У 1935 годзе А. Вольнаму было прысуджана званне «Заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі».

Нягледзячы на тое, што заслугі А. Вольнага перад савецкім мастацтвам былі высока ацэнены дзяржавай, а творчасць была авеяна пафасна-патрыятычнымі адносінамі да тагачаснай рэчаіснасці, таленавіты пісьменнік не пазбег трагічнага канца. 4 лістапада ён быў арыштаваны органамі НКУС і 29 кастрычніка 1937 года расстраляны на 35-м годзе жыцця.

* * *

Ў мармуровым снягу
вецер
песні
пісаў...
Вецер спеў
завіваў
у ліловы
вянок, —
Я цябе пакахаў,
Я цябе пакахаў...

Ў мармуровым снягу
вецер
песні
пісаў...
З сінявокіх нябёс,
з несызмернай
глыбі
вецер зоркі
зрываў,
з непакорнасцю нёс.

Знікнеш зоркай і ты...
знікнеш
зоркай
і ты

з сінявокіх нябёс,
з несызмернай
глыбі...

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

### I

Я ведаю Беларусь, што паўстанцкай куляю
Свішча:
«Вольнай
Хачу
Быць!»

І другую Беларусь — бабулю, —
Беларусь — край лучын і журбы...
Эх, старая,
старая бабуля!
Дай мінуўшчыну ўспомнім сталёвую:
Колькі ў сэрца асаджана куляў
У грудзі нашых чароўных палёў?
Цяжка, цяжка было пад няволяю
Аўсом нашым паклоны біць...
....................................................

....................................................
Гэй, ды што ж?
Усё здолеем,
Будзем песняй мінуўшчыну біць.
Я ведаю Беларусь ды буйную,
Што ў паўстанні хмялее ўсё болей,
І другую Беларусь — бабулю,
Пакуль рукі не ўзніме для боек.



### II

Была ночка
Галодная,
Зімняя,
Ваўкоў бегла болей і болей...
Ваўку, што ў гэтым краі сінім,
Калі ён ўвесь напоены болем?
Ой, баяліся й сівыя воўкі,
Іскрамётна лучынілі вокам
І кружыліся шэрыя бойка,
Каб і іх хто не з’еў ненарокам...
І вось ў гэтыя дзікія ночы
Чуткі дзіўныя нехта прывёз,
Чуткі сэрца вясковае точаць:
Імі хмеляцца хмурыя вёскі...
Чуткі,
Чуткі:
— Прыйшоў вызваліцель.
Ён мужык, значыць, будзе удача,
Упарты,
Як бронзавы злітак.
Ён спасе Беларусь —
Не іначай!

### III

*Кастусь Каліноўскі:*

Бедната!
Смялей шаг!
Ярчэй выгляд!

Зернем буйным галовы раскінуць!
Беларусь — паном не быдла, —
Альбо жыць, альбо ўсім загінуць...
Адзін раз на свет радзіцца,
Адзін раз захмялець мітульгой,
Дык пойдзем жа, пойдзем жа біцца,
Хто з сякерай, хто з голай рукой.
Няхай ведаюць ўсе: беларусы
«Ў ката й мышку» не любяць гуляць

І свае галовы русыя
Не задарам будуць кідаць.
Бедната!
Смялей шаг!
Ярчэй выгляд!
Зернем буйным галовы раскінуць!
Беларусь — паном не быдла, —
Альбо жыць, альбо ўсім загінуць...

IV

*Серакоўскі:*

— Стой!
Твае словы паўстаннем палаюць, .
Хто яшчэ ў гэту ноч так гаворыць?
Што за словы, што думкі ўздымаюць
І калышуць праменнямі зор?
Мужыччо!
Вы не верце прахвостам, —
Мы таксама аб волі вам дбаем,
Толькі гэта не так ужо проста,
Толькі й шляхту усё ж паважаем...
Мы вам кажам ад імя жонду,
Жонду белага — моц мае ён..
Ну, дык хто ж там законы піша
І пужае на плоце варон?..

V

*Кастусь Каліноўскі:*

— Ні слова!
Сказаў і досыць
Канарэйкамі песні пець.
Сэрца торбаю помсту насіць,
І не хочам мы болей цярпець.
Нам не разам у гэтым змаганні, —
Будзем разам мы хіба ў надгроб'і.
Дапаможа шляхта паўстанню
Так, як кашаль ліхой хваробе.



Бедната!
Смялей шаг!
Ярчэй выгляд!
Зернем буйным галовы раскінуць,
Беларусь — паном не быдла, —
Альбо жыць, альбо ўсім загінуць!

VI

Ад Дняпра і да самай Віслы
Вецер,
Вецер
Гуляе
Са свістам,
Вецер
Са свістам
Гуляе.
Вецер хмурыць
Свае скроні,
Вецер круціцца
Па гонях...
Вецер! Родны мой вецер!
Паглядзі, што робіцца ў свеце,
Родны мой вецер!
Паглядзі:
Ўсе бары ў завірусе
— Рэвалюцыю заварыць!..
І такія лапцюжныя, русыя
Пра
«Слабоду»
Хочуць гаварыць.
Слабода!..
Слабода!..
— Што трэба нам болей?
Ой, гэта слабода,
Як вецер у полі...
Ад Дняпра і да самай Віслы
Вецер,
Вецер
Гуляе
Са свістам,

Вецер
Са свістам
Гуляе!
Беларусь маўчыць і церпіць, —
Песняй плёскае ціха журбу,
А паўстане — да самай смерці
Беларусь не сагнуць у дугу...

VII

Ой, ці вольна жыць
Ці загінуць нам, —
Ой, працоўны люд,
Свістані з пляча!

Будзем песняй біць
І нажом садзіць:
Альбо згінуць ўсім,
Альбо — ўсё здабыць!

Галавою стой,
Беларусь мая!
Гэй, ды з песняй ў бой
Ой, сярмяжная!

А маскоўскі цар
Сцеле мякка нам.
Беларусь мая, —
Ёй я ўсё аддам.

Беларусь за «ўсё»
Вельмі дзякуе...
Ці —
Слабодная!
Ці —
Ніякая!



VIII

*Мураўёў:*

Хто пасмеў Расіі не верыць?
Хто паўстаў супроць Русі?
Ой, каго звар'яцеўшае сэрца
Так чырвона ў грудзёх брусніць?
Выдаць!
Выдаць мяцежных прахвостаў,
Што паўсталі на царскіх дварах.
Іх галовы пасыпяцца просам.
Звар'яцеўшая, шэрая рвань!
Я павешу мяцежную банду,
Банду дзікіх галодных сабак.
Я зраблю ім крывавую ванну,
Што пасмелі Расію скубаць.
Загарэліся вы валежнікам;
Хай жа вас цяпер пацкуюць...
Злавіць трыццаць любых начлежнікаў
І павесіць на першым суку!

IX

Восень пырскае срэбнымі ніткамі;
Ў вочах
Восені
Вокрыкі
Водгулля.
Пад шэрымі світкамі
Трыццаць дрэў —
Згорблена!..
Вёскі,
Вёскі!
Лапцюжныя прэрыі!
Зацвілі вы ў зімовую плынь.
Пад пятлёю Расійскай імперыі
Расцвітае толькі палын.
Абарвалася песня амаль што,
Напаіўшы ўсе словы крывёй!
Ой, закінуў намылены «гальштук»
Па-над вёскамі — Мураўёў.

X

*Кастусь Каліноўскі:*

Можа, хто баіцца кулі
Ды ад жару хаваецца ў цень?
А мы спіны даволі гнулі
І ўсё чулі «двадзесьце пеньць»!
Хто пачуў толькі гэтыя словы,
Той шануе мужычую волю.
Нам не шкода свае галовы
Параскідаць, як зерні, па полі.
Многа было, ды мала засталося:
Не разбіць нам сягоння паноў.
Столькі зерняў не маюць калоссі,
Колькі выбіта нашых галоў.
Мы не ведаем заўтра — устаць ці нам,
Не знасіць нам буяных галоў.
— Хай жа ўспомніць на прызбе нас спадчына
Жменькай
Простых
Вясковых слоў.
Будуць помніць, хто галавы звесіў;
Іх успомняць сардэчнаю ласкаю.
Мы — апошнія з першых буравеснікаў,
Мы апошнія з першых ластавак.

XI

*Паўстанцы:*

Эх, Кастусь,
Наш таварыш буяны!
Ў гэты сіні асенні вечар
Паглядзі:
Зарасло ўсё бур’янам
Па шляху да нашага веча.
Паглядзі:
Вунь дзве зоркі скаціліся,
Воран карканнем сціхнуць радзіць,
Нават коні табунамі збіліся...
Ой, ды нехта паўстанню здрадзіць.



Мы з табою, вядома, да смерці.
З нас не просіць ніхто:
Пажыць бы...
Снапоў меней па торпах, павер ты,
Чым на хвоях галоў мужычых.

XII

Плакалі белыя топалі
Жоўтымі лісцямі;
Будзе зданне...
Коньмі маланкі топалі
Ў чорна-бурым убранні.
Абрываюцца песні і словы —
Петлі,
Петлі
Рэжуць галовы;
Яны падаюць, —
Дзе іх падзеці?
Гэта Беларусі лепшыя дзеці...
Бедныя!
Бедныя
Вёскі!..

XIII

*Кастусь Каліноўскі:*

Селяніну вісець лепей з намі,
Чым да пана з паклонам хадзіць.
Вісець лепей разам з снапамі,
Чым на пана снапы вазіць.
Катаваць мужыкоў, — вось адказ іх.
Паляць сэрцы прагорклыя словы.
Толькі гэты панскі указ
Для беларуса — не новы!

XIV

Я над песнямі сваімі летуценіў,
Летуценіў, зажурыўся не да рэчы.
Ой, чаго ж так страшна ляглі цені:
Атруцілі сэрца нечым.
Павялі па сумнай Беларусі,
Павялі з Лукішак ў час світання.
Мы і сягоння помнім словы,
Што апошнімі сказаў Кастусь:
«Браткі мае, беларусы,
Ад шыбеніцы маскоўскай
Шлю вам сваё —
        Прывітанне!»
І скрозь шэрань нашых вёсак
Нібы чую плач вайсковых труб,
Вочы шэрыя, упартую чупрыну
І пад лапамі збялеўшай ад бяды асіны —
        Сіні
            Труп

Нібы бачу я; глядзіць ён шэрым вокам
На другую частку паднявольнай Беларусі,
Мужыкоў склікае ён навокал
І, як некалі, гаворыць ім Кастусь:
— Бедната!
            Смялей шаг!
                        Ярчэй выгляд!
Зернем буйным галовы раскінуць!
Беларусь — панам не быдла, —
Альбо жыць, альбо ўсім загінуць!

*[1924–1925]*

# СТАНІСЛАЎ ГРЫНКЕВІЧ

Публіцыст і драматург Станіслаў Грынкевіч нарадзіўся 2 лютага 1902 года ў мястэчку Новы Двор Сакольскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Падляшскае ваяводства ў Польшчы). Падчас Першай сусветнай вайны жыў на Смаленшчыне, дзе вучыўся ў Дарагабужскай гімназіі. Вярнуўшыся на радзіму, паступіў на медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта, але дыплом лекара атрымаў у Познанскім універсітэце, куды мусіў перавесціся па сямейных абставінах. Перад вайной працаваў лекарам у мястэчку Харошча пад Беластокам і ў Вільні. Друкаваў артыкулы на медыцынскія тэмы, п'есы і публіцыстыку ў беларускіх выданнях «Калоссе», «Крыніца», «Заранне», «Студэнцкая думка». Выдаў некалькі кніг, сярод якіх «Аб тэатры: практычны падручнік для аматараў тэатраў» (1927), «Жанімства па радыё: п'еса ў трох абразах» (1927), «У братоў украінцаў» (1936). У 1936 годзе за выданне брашуры «Асвета» С. Грынкевіч быў арыштаваны польскай паліцыяй і зняволены на два тыдні. Неўзабаве пасля прыходу ў Вільню савецкай улады ён быў зноў арыштаваны, але здолеў уцячы з-пад канвою. Падчас Другой сусветнай вайны С. Грынкевіч жыў у Вільні, удзельнічаў у працы Беларускага нацыянальнага камітэта, спрыяў арганізацыі на Наваградчыне беларускіх партызанскіх атрадаў, якія павінны былі змагацца на два франты — і з немцамі, і з саветамі. У 1944 годзе С. Грынкевіч арыштаваны ў Вільні органамі НКУС, прывезены ў Мінск, затым у Магілёў, дзе 25 ліпеня 1945 года быў расстраляны.

## З ЗАЦЕМАК АБ ХАРАКТАРЫ БЕЛАРУСАЎ

Нашая публіцыстыка даволі шмат ахвяравала месца пытанню «двудушнасці» ці «дваядушнасці». Пытанне гэтае мае сваю пазіцыю і на бачынах літаратуры прыгожае ў прозе і паэзіі. Сёння, аднак, прынамсі ў Заходняй Беларусі, некалькі вось ужо гадоў тэмы гэтае ніхто не чапае, думаю, што на нашым Усходзе яна таксама не існуе. На гэта апошняе ёсць свае, усім вядомыя прычыны.

«Дзве душы» — гэта толькі адна старана пытання з галіны доследаў псіхалагічных, і трэба думаць, што само з'явішча, у

форме, у якой яно было абгаворана ў нашай літаратуры, мае толькі дачасны характар на аснове агульнага развою суцэльнасці народа, хаця безумоўна з'явішча вельмі характэрнае і важнае.

Не думаю спыняцца над аналізам «двудушнасці», яе прычынаў, асноваў, перспектываў на будучыню, а хачу падчыркнуць, што тутака мы бачылі адну з спробаў аналітычнага падыходу да праблемы нацыянальнага характару. Спробы ж падыходу сінтэтычнага да гэтае стараны душы народа, наколькі мне вядома, надта нялікія. І трэба сказаць, што нялікасць гэтая шкодная ў першую чаргу для нас самых.

Іншая справа, ці ёсць даволі «сырца», з якога можна было б пабудаваць будыніну больш-менш рэальную душы народа беларускага. Кажу аб сырцы, апрацаваным навукова. Хаця з'яўляецца адначасна думка, хутчэй пытанне, поўнае сумліваў, ці сапраўды гэтыя абразы духовага быту, пабудаваныя на канве фактаў, сабраных даследчыкамі з галіны этналогіі, мовазнаўства, гісторыі і г. д., больш блізкія да таго, што з'яўляецца заўсёды нечым няўяўленым ды адначасна найважнейшым, а на што мы кажам «душа народа», ці мо лепш яе бачаць у агні натхнення людзі, што завуцца песнярамі-прарокамі...

Тое ўсё, што мы ведаем аб Беларусі, пакідаючы на старане анекдатычны хутчэй тып мужычка хітруна, хаця і прыбітага бядою, загнанага ўсімі, замкнёнага ў сабе ці зноў апрача таго асноўнага тону бядуллівасці, распаўсюджанага і праслаўленага нашымі паэтамі нядаўніх дзён, — ясна, што не адказвае поўнаму абразу чалавека.

Дык калі сёння і немагчыма нам даць поўнага нарыса асноўных старон характару — гэтае свомасці чалавека найважнейшае ў сэнсе вартасці адзінкі ў плошчы практычнага дзеяння яго ў жыцці, усё ж такі можна прабаваць уявіць тое, што магло быць зафіксаванае на бачынах беларускае характаралогіі.

Папытаем, што гэта такое наагул характар?

Адказаў пачуем шмат. Возьмем хаця б такі сказ Гётэ: «Жыццё чалавека — гэта ягоны характар»... Характар, знача, з'яўляецца тою найважнейшаю спружынаю, якая вызначае ўсе шляхі, якая дае аканчальна рэалізацыю тых ці іншых ідэалаў і ідэяў, якая робіць больш ці менш вартасным самое жыццё.

Абойм такога акрэслення вельмі шырокі, адначасна, аднак, рэальна паказуе, што каб сказаць нешта аб характары адзінкі, дык трэба ўзяць ейнае жыццё ў цэласці. Характар — гэта свомасць вельмі сталая, хаця адначасна быццам цякомая. Характар, як кажа адзін з вядомых псіхіятраў і псіхолагаў (Кронфельд), гэта народзіны індывідуальнае апрычонасці ў суадносінах адзінкі з жыццём. Інакш кажучы, характар — гэта індывідуальная праява рэакцыі на вонкавае дзеянне. Не будзем уваходзіць у спрэчкі паміж адмыслоўцамі, якая розніца паміж канстытуцыяю ў сэнсе псіха-этнічнае асноведзі чалавецкага ці нацыянальнага «я», а тэмпераментам і характарам. Адно ясна, што тэза аб працяжнасці лініі жыццёвае мае сваю вялікую тутака вагу. Гэта безумоўны факт, што без мінуўшчыны немагчыма нічога сказаць аб будучыні, як немагчыма добра ацаніць сучаснасць. Гэтыя ўсе праявы стульна злучаны паміж сабою.



Дык, даследуючы беларускі характар, трэба нам звярнуцца да гісторыі і ў мінуўшчыны шукаць адказу на пытанне. У гісторыі мы наглядна пабачым, што сапраўды гэтае нешта невагомае вызначае рэакцыю адзінкі і згуртавання большага ці меншага людзей.

Ігнат Абдзіраловіч у кніжцы «Адвечным шляхам» падчырквае асноўную лінію характару беларускага народа, а мяноўна «ваганне» паміж Усходам і Заходам. Гэтае ваганне не будзе хістаннем паводле аўтара, гэным тэрмінам хоча ён назваць нейкую асаблівую собскую лінію, якое трымаюцца беларусы на сваім шляху гістарычным. Ужо першы вучоны беларускі, д-р Франішак Скарына, вызначаўся тым, што духова не належаў да заходу ані да ўсходу, і гэта магло паказваць, што не здавольвала яго культура ні рымская ні візантыйская, ён шукаў свае арыгінальнае лініі. Адно цікаўнае з'явішча трэба падчыркнуць у думках аўтаравых, што ваганне, аб якім ён гаворыць, трэба разумець, як асаблівую кансерватыўнасць. Беларус неахвотна прымае новае, усё роўна, адкуль яно ідзе і хто яго прыносіць з сабою.

Другая рыса характару, якая кідаецца ў вочы, спыніўшыся на момант толькі на падзеях гістарычных Беларусі, гэта ейная міралюбівасць, антымілітарызм, як мы казалі б сёння. І вось антымілітарызм і кансерватызм пакідаюць яркія сляды ад самага ранняга жыцця Беларусі, як асобнае псіха-этнічнае адзінкі. Кансерватызм — гэта свомасць да некаторае граніцы агульначалавецкая. Заўсёды можна судзіць аб чалавеку, якім ён будзе, мяркуючы паводле таго, якім ён быў дагэтуль. Рэвалюцыі мае кожны чалавек, аднак рэвалюцыя астаецца заўсёды рэвалюцыяю, значыцца нечым вынятковым, з чым трэба рахавацца пастолькі, паколькі. Сёння маем ужо навучны грунт дзеля разумення гэтага кансерватызму.

Беларусы, як адзінка дзяржаўная, выступаюць на арэну гістарычную даволі позна, хаця не пазней, як іншыя славянскія пляменні, асабліва славяне ўсходняе групы. Пляменні, з якіх аканчальна вырас народ беларускі, значыцца крывічы, радзімічы, дрыгавічы і севяране, былі параскіданы сярод балотаў і лясоў, дык не мелі быццам на першы пагляд ніякіх граніцаў і мелі яны іх адначасна ў гэтых самых лясох і балотах, якія баранілі іх ад усялякіх навінак, што маглі лучыць з далёкага свету. Гэтыя ўмовы геаграфічныя пакінулі, зразумела, следамкі на псіхіцы людзей. Тутака крыніца неспагаднасці ўсяму новаму, неспагаднасці хутчэй пасіўнае, дзеля таго, што ў гісторыі нашай нідзе не наглядаем больш яркага пратэсту. Гэта між іншым пакінула свае следамкі на ўсім, што толькі бачым у беларусаў: у распарадкаванні жыцця ўнутранага і арганізацыі вонкавае, ці ў сэнсе рэакцыі на небяспеку (вайна абаронная), ці імкнення да карысці (прыкладам вайна зачэпная).

Каб добра ацаніць павагу гэнага з'явішча, трэба ўмець глянуць на сваю гісторыю так, як яна была ў сапраўднасці, трэба мець свае «акуляры», каб добра бачыць. Мы лішне часта глядзім вачыма даследчыкаў ці афіцыяльных гісторыкаў расейскіх ці польскіх. Возьмем прыкладам факт, як трэба ацаніць слабасць дзяржаўную чыста беларускіх твораў з пары полацкае? Ці гэта была няўмеласць арганізавацца самым? Чаму ж тады гэтыя самыя князі ў пару літоўска-беларускую нашае гісторыі ўмеюць гэтак складна і весці войны і будаваць шырока культуру ў галіне правадаўства і пісьменства? Адказ на гэта знаходзім уявіўшы сабе, што маса беларуская заўсёды ўмела весці сваё арыгінальнае жыццё. Сям'я, вёска, грамада (як найніжэйшая адзінка адміністрацыйна-самаўрадавая) стаялі заўсёды надта высока і новыя ўмовы з момантам новага правапарадку пасля скасавання паншчыны зноў выявілі, што лепш як дзе ў іншым месцы Расейскае імперыі — этнаграфічная Беларусь умела правесці распарадкаванне валасное гаспадаркі.

Гэны вось антымілітарызм побач традыцыяналізму, як сёння казалі б, паясняе нам тую эпоху сужыцця ў комплексе Літоўска-Беларускае гаспадарсцвенасці. Літоўскія князі сарганізавалі гэны новы дзяржаўны комплекс. Адначасна бачым мы крыху нечаканае з'явішча. Ліцвіны заваявалі бяскроўна Беларусь, а беларусы, быццам паняволеныя, пачынаюць кіраваць гэтаю дзяржаваю. Паясніць гэта нехта хацеў бы вышынёю культуры тагачаснае Беларусі і ніжэйшым роўням яе на Літве. Але ці гэтакі адказ можа нас поўнасцю задаволіць? Некаторыя падзеі



сучаснасці, якія адбываюцца на нашых вачох, паказуюць, што не заўсёды вышэйшая культура перамагае ў жыцці. Не буду паклікацца на праслаўлены ўжо сказ аднаго з польскіх прэм'ерміністраў аб ліквідацыі беларускага пытання ў працягу 50 гадоў. Сучаснасць з'яўляецца найлепшым адказам на натугі паланізацыйныя. Суадносіны паміж чужым элементам і масаю беларускаю паказваюць, што гэны загнаны гаротнік селянін умее зашчапіць свой светапогляд, свае абычаі насланаму з культурнаю місіяю да яго асадніку.

Дык ёсць тады ў невыразнасці «хістання» беларускага нейкая суцэльнасць, сіла і трэба папытацца — ці гэта сапраўды невыразнасць, ці гэта мо толькі іншыя адносіны да жыцця? У гэтай сіле асіміляцыйнай ёсць мо нешта, што мераць трэба мерамі не розуму, а катэгорыямі рэпрэзентаванымі ў паэзіі... Новая пара ў развою падзеяў гістарычных на тэрыторыі беларускай у сувязі ўжо з Польшчаю вызначаецца адыходам вярхоў грамадзянства, якія губляюць свой твар нацыянальны і ў працягу некалькі стагоддзяў прытуляюцца да чужое ім псіхікі мазурскае. Ясна, што гэта не была суцэльнасць нацыі беларускае, што адкалолася ад свайго камля, — маса, шырокія сферы грамадзянства асталіся пры берагу гэтае хвалі. Нягледзячы на гэта «панскія» сферы, усе тыя вяльможы і магнаты, да канца Рэчы Паспалітае пачувалі сваю апрычонасць. Лішне далёкаю была псіхіка людзей, якія гаварылі на тую пару аднолькаваю моваю, значыцца польскаю, у Беларусі і ў Польшчы. Няма што ўжо казаць аб мяшчанстве і сялянстве.

Я не ўваходжу ў прычыны, якія выклікалі гэтыя працэсы, ці яны былі абаснаваныя і на чым былі абаснаваныя. Безумоўна тутака, у гэтай плошчы матэрыялістычная дыялектыка магла б трыумфаваць, яна паказала б і даказала б, што шляхта беларуская імкнулася да тых здабычаў сацыяльных і класавых, якія мела на тую пару шляхта польская.

Цікавімся мы, аднак, зусім не аб тым. Мы хочам знайсці толькі адказ на тое, чым з'яўляецца і якім з'яўляецца характар беларуса не як адзінкі, а як народа. Дык адыход цэлага класа народа мае свой тутака асаблівы змест. Пасіўныя адносіны масаў паказваюць дужа добра на характар паланізацыі. Гэта быў выплад дзяржаўнае толькі палітыкі, а ніколі нейкае вышэйшасці, перамогі багацейшае культуры. Што вышэйшасць культурная мела ды мае ў такіх сітуацыях адноснае значэнне — паказвае хаця б прыклад падзеяў на польскім Шлёнску. Вялікая і багатая культура нямецкая не магла перамагчы інертных

адносінаў польскага работніка і селяніна. Калі ўжо гутарка аб вышыні культураў, дык можна папытацца, дзе яна была большая ў XIV–XV стагоддзях — на Беларусі, з ейнымі жывымі і свежымі традыцыямі з Візантыі, ці ў сярэднявечнай тагачаснай Польшчы?.. Які настрой доўга яшчэ вітае сярод спаланізаваных сфераў шляхоцкіх — бачым яшчэ ў Міцкевіча, прарока новае польскае эры, у сказе: «Літва, зямелька родная»...

Прыходзіць падзел Польшчы. Дзеля вышэй прыведзеных прычынаў, зразумела, што гэны момант не закрануў глыбей масаў беларускіх. Астаюцца яны чужыя на лозунгі інтэлігенцыі польскае ці расейскае, якія хадзілі ў народ з рознымі заклікамі. Селянін беларускі не лавіў паўстанцаў у 1863 годзе, як гэта было нат месцамі ў каранной Польшчы. Месцамі ён спагадна паглядаў на натугі шляхты прагнаць маскалёў, найчасцей, аднак, аставаўся інертным. Усё гэта не была ягоная справа. Правадыры тагачаснасці ішлі да народа з лозунгамі далёкімі і чужымі, што не ўмелі закрануць душы. Тыя правадыры і народ не мелі супольнага языка. Яшчэ адзін прыклад з адносінаў масы і ейнае рэакцыі з апошніх дзён. Думаю тутака аб Грамадзе. Магутны ўздойм, шуканне свае формы ўскалыхнула народам і паклікала армію ў рады сялянска-работніцкае арганізацыі.

Ці гэта быў сапраўды волат на гліняных нагах, ці ў Грамадзе мо было яшчэ зашмат чужога?.. Адказаць на гэта было б сёння захутка, сёння маем лішне мала фактычнага матэрыялу ў руках, каб рабіць станоўкія прысуды.

Характар адзінкі з'яўляецца выпладам спадчыны па продках з судзеяннем асяродзішча. Тое самае трэба сказаць аб характары народа. Асяродзішчам будзе ён сам і яго суседзі. Адначасна падзеі гэнага ж чалавека ці цэлага народа паказаціваюць на ягоны характар.

Дык што можна казаць аб нашым нацыянальным характары? Апрача вышэй названых і падчыркнутых нахілаў да спакойна-кантэмпляцыйнага жыцця і любасці да свайго старадаўняга, трэба сказаць, што не паказаў ён аканчальнае свае формы, у якой ён быў бы зусім сабою. Паасобныя ўздоймы рэвалюцыйныя — гэта толькі паказальнік, што ёсць туга, шуканне свайго шляху. Калі дагэтуль народ беларускі не праявіў у шырэйшым маштабе свайго твару, дык безумоўна дзякуючы сваім асноўным рысам, а перадусім вонкавым умовам жыцця, у якіх ён дасюль знаходзіўся.

Ці гэтыя асноўныя рысы часам не маюць у сабе прысуду на будучыню, інакш кажучы, ці не будуць яны тым дзейнікам,



дзякуючы якому народ не астоіцца перад азброеным светам, асабліва гэным блізкім светам суседзяў? Дасюлешняя практыка казала б нам хутчэй аб тым, што гэтая вонкавая нядужасць мае ў сабе таемную сілу апоры. Жыццё цячэ; новыя надыходзячыя формы дадуць калісь і беларусу паказаць сябе, заняць сваё месца паміж іншымі народамі.

Цяжкі шлях беларуса быў дагэтуль, не лёгкі ён будзе ў бліжэйшай будучыні. Мы лішне далёкія і іншыя ад сумежных з намі народаў, каб маглі лёгка знайсці сябе самых. Зарука нашае будучыні ў дзеянні ў сваёй собскай форме, адказваючай нашаму характару.

*1935*

# СЫМОН КУНІЦКІ

Крытык і літаратуразнавец Сымон Куніцкі нарадзіўся 28 лютага 1902 года ў сялянскай сям'і вёскі Гарані Мінскага павета. Пасля вучобы на рабфаку скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ (1931), працаваў вучоным сакратаром Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР (1931–1936).

Літаратурную дзейнасць пачынаў з прозы, першае апавяданне «У той жа дзень» было апублікавана ў «Чырвонай змене» 27 мая 1928 года. З гэтага ж года пачаў выступаць у друку як літаратурны крытык і літаратуразнавец. У 1931 годзе С. Куніцкі ўступіў у Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП). Яго аглядна-аналітычныя артыкулы («Масавы літаратурны рух», «М. Горкі і масавы літаратурны рух», «Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 г.», «Пісьменнік і мова», «Змагацца за якасць кожнага слова мастацкай літаратуры», «Пра цікавасць і займальнасць нашай літаратуры» і мн. інш.), якія з цікавасцю сустракаліся літаратурнай грамадскасцю, друкаваліся ў часопісах «Маладняк», «Узвышша», «Полымя» і газетах. Імкнучыся аналізаваць творчасць беларускіх пісьменнікаў з мастацка-эстэтычных пазіцый, крытык не змог пазбегнуць усё ж вульгарна-сацыялагічных ацэнак, асуджаў «нацдэмаўскія» творы аўтараў, асабліва тых, хто аб'ектыўна пісаў пра беларускую вёску.

Творчасці С. Куніцкага не суджана было разгарнуцца, не паспеў ён выпрацаваць метады непрадузятага аналізу мастацкага твора, перадолець многія памылковыя погляды на тагачасны літаратурны працэс, развіццё якога ён ставіў у цесную залежнасць ад палітыкі партыі. 26 лістапада 1936 года пісьменнік быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў ГУЛАГа, дзе і загінуў у 1940 годзе.

## «КРЫНІЦА» — АПАВЯДАННІ ВАСІЛЯ КАВАЛЯ

Зборнік апавяданняў «Крыніца» па ліку з'яўляецца трэцім зборнікам пісьменніка В. Каваля. Першыя два зборнікі былі выдадзены: адзін «Як вясну гукалі» ў 1927 г. і «На загонах» — у 1928 г.



І калі першыя два зборнікі давалі яшчэ не зусім поўнае ўяўленне аб творчасці В. Каваля, дык апошні зборнік ужо дае поўную магчымасць судзіць аб В. Кавалю, як аб склаўшымся ўжо пісьменніку, аб пэўнай накіраванасці яго творчасці, як аб пэўнай псіхалагічна-ідэалагічнай прадукцыі.

Апошні зборнік «Крыніца» з'яўляецца працягам творчых вобразаў першых двух зборнікаў В. Каваля. Мы ў гэтым зборніку маем поўнае дыялектычнае адзінства вобразаў усіх твораў з вобразамі ранейшых твораў.

Фактычна ў В. Каваля, у яго творчасці ярка выступаюць два вобразы, якія праходзяць праз усю яго творчасць і з якімі пісьменнік В. Каваль не разлучаецца.

Першы вобраз, які праходзіць амаль праз усе творы рэцэнзуемага зборніка — гэта селянін-бядак (часцей усяго стары), які яшчэ ўсімі каранямі сядзіць у мінулым, якога яшчэ належна не кранула наша сучаснасць, які знае толькі сваю зямельку, сваю вёску, хату і сваю жывёлу. Кахае жыццё і дагматычна яшчэ верыць розным фальклорным з'явам. Гэты вобраз у значнай меры прасякнуты індывідуалізмам.

Другі вобраз паходзіць з таго самага сацыяльнага асяродку, што і першы. Таксама селянін-бядак, але па сваёй псіхалагічна-ідэалагічнай накіраванасці з'яўляецца супрацьлеглым першаму. Гэты вобраз уяўляе сабой бадзёрага чалавека, які пад уплывам новага жыцця змяняе свой мінулы твар — перараджаецца ў селяніна-актывіста, сучаснага перадавіка вёскі. Вобраз гэтага селяніна захапляецца не толькі прыгожасцю прыроды, зямлёй — ён у значнай меры захапляецца грамадскай справай вёскі, якую імкнецца перабудаваць па-новаму. Гэты вобраз з'яўляецца стрыжнёвым вобразам творчасці В. Каваля. Ён усюды супрацьстаўляецца аўтарам першаму вобраза.

Які б мы твор ні ўзялі, усюды гэта пара вобразаў перад намі. [...]

Безумоўна, нельга так разумець, што паміж тымі вобразамі, якія нам Каваль дае ў сваіх творах, ляжыць нейкая сцяна. Гэта будзе памылка. Абодва яго вобразы, аб якіх мы вядзем гутарку, гэта адзінства супрацьлегласці. Яны адзін другому і супярэчаць і ў той жа час яны (вобразы) адзін без другога немагчымы. Тут адзін вобраз памагае, выяўляе другі. І калі зрабіць крок да інтэграцыі, да вызначэння стылю В. Каваля, то мы тады скажам, што творы дадзенага зборніка перадаюць, адбіваюць псіхалогію вясковай беднаты, якая пад уплывам нашае рэчаіснасці

эвалюцыянізуе ад стану селяніна-кансерватара, індывідуаліста, да стану селяніна-перадавіка вёскі, калектывіста.

Адгэтуль зусім зразумела, чаму падчас некаторыя героі ўпадаюць у некаторую невызначальнасць. «У жыцці не ладзіцца. Сілы не хапае. Чаго шукаць, дзе шукаць?.. А жыць лепей хочацца...» Тут проста цяжкасць перамагчы традыцыю — самы кульмінацыйны пункт барацьбы з ёю. Яшчэ адна характэрная рыса ў псіхалогіі персанажаў творчасці В. Каваля — гэта тое, што ўсе яны прасякнуты гарачым каханнем да жыцця, да прыроды. Гэта ж рыса таксама ў вялікай меры характэрна і для аўтара.

Амаль у кожным творы мы сустракаем, як аўтар непасрэдна выказвае замілаванасць да жыцця: «Няма нічога лепшага, як любіць жыццё», «Будзем жыць, — кажу я ў адказ і веру моцна», «Няма нічога лепшага, як жыць і любіць», «Радасць і гора нашых дзён. Усё мы пераможам на сваёй дарозе. І таму: веру, люблю».

Для нашае сучаснасці зборнік «Крыніца» каштоўны тым, што праз яго, у мастацкіх вобразах, мы можам азнаёміцца з псіхалогіяй селяніна-бедака, які пераходзіць ад гнілой мінуўшчыны да нашае сучаснасці.

*1930*

# ПЛАТОН ГАЛАВАЧ

Празаік, публіцыст, грамадскі дзеяч Платон Галавач паходзіў з беднай сялянскай сям'і вёскі Пабокавічы Бабруйскага павета, дзе ён нарадзіўся ў 1903 годзе. Быў арганізатарам камсамольскай ячэйкі ў роднай вёсцы. У 17 гадоў пачаў пісаць свае першыя празаічныя замалёўкі, нарысы, якія дасылаў у бабруйскую газету «Камуніст» (рэдактар Вера Харужая). У 1922 годзе быў накіраваны на вучобу ў Мінскую партыйную школу, затым працаваў у Барысаўскім павятовым камітэце камсамола, стаў членам КП(б)Б, скончыў Камуністычны універсітэт Беларусі (1926) і быў прызначаны першым сакратаром ЦК камсамола Беларусі. У 1929–1930 гадах працаваў намеснікам наркама асветы БССР. Абіраўся членам ЦК партыі і ЦВК БССР. У розныя гады рэдагаваў газеты «Чырвоная змена», часопісы «Маладняк», «Полымя», быў адным з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Адначасна з грамадскай дзейнасцю, высокімі пасадамі працягваў выступаць у друку з нататкамі, артыкуламі на камсамольскую праблематыку, а першае мастацкае апавяданне «Загубленае жыццё» было апублікавана ў цэнтральнай газеце «Савецкая Беларусь» у 1925 годзе. З гэтай пары і пачалі з'яўляцца шматлікія апавяданні, аповесці, цэлыя зборнікі прозы «Дробязі жыцця», «Вінаваты», «Спалох на загонах», «Хочацца жыць», «Даляры», «Ад Мядзведжай гары да Белага мора: З запісной кніжкі», «Апавяданні», раман «Праз гады» (1927–1935). Гэтыя кнігі сведчаць пра выдатны талент пісьменніка, пра яго вялікія магчымасці. П. Галавач актыўна выступаў і з рэцэнзіямі, артыкуламі пра творчасць іншых беларускіх паэтаў, празаікаў.

Не паспеў ён дапісаць раманы «Дарога ў свет» (да 20-годдзя Кастрычніка, павінен быў выйсці ў 1937 годзе), «Ён» і «Вялікі Днепро», кнігу пра Кастуся Каліноўскага, не паспела выйсці ў свет кніга «Дзве аповесці» («Носьбіты нянавісці», «Яны не пройдуць», дапрацаваныя пасля часопісных публікацый). 10 жніўня 1937 года пісьменнік быў арыштаваны органамі НКУС, абвінавачаны ў прыналежнасці да «контрреволюционной, троцкистско-террористической национал-фашистской организации» і расстраляны ў дзень Ленінскага камсамола — 29 кастрычніка 1937 года ў Мінску, а яго кнігі і рукапісы спалены. Пісьменніку было тады 34 гады.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць асобным томам «Выбраныя творы» Платона Галавача.

## УЦЯКАЧ

*Апавяданне*

Паўлу Голубу, — адчуваў ён гэта з кожным днём усё больш і больш, — рабілася страшна. Думкі былі толькі аб адным — аб смерці. Ці то ён успамінаў далёкі дом, маці, працу ў полі, ці то сваё маленства, — усё гэта зараз жа перапляталася з думкай аб тым, што яго кожную хвіліну могуць забіць, і ўсё адразу знікала, прыемныя думкі і вобразы ўспамінаў беглі прэч, заставаўся адзін толькі страх.

Голуб добра памятае, як ён упершыню адчуў гэты страх.

Ляжалі ў акопах, стралялі. Страляў і Голуб. Цэлы дзень поўзалі па лініі акопаў весткі, што з левага крыла ёсць шмат забітых і параненых.

Але Голуб іх не бачыў, не ўяўляў, і гэта не палохала. Удзень здалёку падпаўзалі думкі пра дом, пра родных, але зараз жа знікалі. Думкі тупелі ад страляніны. Ноччу ж было спакойна і ад таго трывожна. Чакалі яшчэ большай страляніны назаўтра. І ён у гэтую ноч асабліва чакаў дня. У чаканні трывожным сцягнулася кароткая летняя ноч.

Пачало развідніваць. Наўкола было ціха. Ніводнага гуку, ніводнае прыкметы вайны, небяспекі. Хвілінамі здавалася Голубу, што гэта так сабе зайшлі яны ў далёкае поле і ляжаць на зямлі, адпачываюць; здавалася, што вось-вось узнімуцца хутка, абтрасуць з шынялёў пясок і пойдуць кудысьці да людзей.

Драмалася.

А як толькі неба зусім прасвятлела і ўсход задрыжэў блізкім полымем сонца, Голуб адчуў сябе лепей, вальней заварушыўся ў сваёй ямцы і, не паднімаючы галавы, глянуў на таварышаў. Недалёка ад яго паварушыліся яшчэ двое, усміхнуліся насустрач.

— Па вадзічку збегаем.

Крокаў трыццаць да ручайка. Двое падняліся з ямак і з рогатам пабеглі з кацялкамі. Вось, бачыць Голуб, яны нахіліліся ўжо над вадой, мыюцца і ўсё чагосьці рагочуць. Ужо заўважыў іх камандзір і крычыць, каб паўзлі ў акопы. Маладзейшы махае камандзіру рукой, паказвае на кацялок. Потым яны зачэрпалі ў ручайку кацялком вады і, сагнуўшыся, пабеглі да акопаў. Ужо зусім блізка. У гэты момант пачуўся глухі стрэл уперадзе, за ім глухі выбух. На Голуба сыпанула пяском. Цэлая гара пяску і дыму ўзнялася недалёка ад акопаў, дзе былі двое, і захавала іх. Калі растаў дым, усе ўбачылі: старэйшы — скурчаны, з разарваным целам і ў лахманах ад падранай шрапнеллю вопраткі, ляжаў нерухомы. Малады падняўся, сеў і, пазіраючы шырока раскрытымі вачыма на таварышаў, пачаў запіхваць у жывот вываραчаныя кішкі. Жывот прарвала. З жывата бегла кроў. Замазанымі ў кроў рукамі ён пхаў кішкі ў жывот, абціраў з твару пот, пакідаючы на ім кроў, а кішкі зноў выпадалі. Гэта было ўсяго некалькі секунд, а ўсім здалося, што вельмі доўга. А калі, знямогшы, спужана і крыва ўсміхнуўшыся ў бок таварышаў, ён апусціў рукі і аблёг на зямлю, яшчэ некалькі секунд усе глядзелі, быццам акамянелыя. Потым да параненых папаўзлі санітары. Голубу зрабілася да балючасці страшна і крыўдна. Ён уздрыгануў.



— Як страшна. І не думалі яны...

На яго словы паварушыўся сусед.

— Не ўсцераглiся...

Гэта Мушка, добры знаёмы Голуба, малады, прыгожы. Мушка ляжаў патыліцай на зямлі. Ён быў вясёлым хлапцом і падабаўся Голубу сваімі размовамі аб людзях, аб жыцці.

Зараз Мушка ляжаў нерухома і раскрытымі вачыма, светлымі, як само неба, пазіраў угору, — мусіць, марыў. Голубу хацелася пасля бачанага пагаварыць з Мушкай. Ён не стрымаўся.

— Такі дзень! Рабіць бы што-небудзь, араць, дый касіць ужо час, а мы тут. І вось так дарэмна гінуць людзі...

— Не дарэмна. Трэба сцерагчыся, а гінем не дарэмна. Самы раз касіць ужо. А хіба не касілі б, каб не яны, каб не белыя? Э-эх! Хутчэй бы прыкончыць, — тады б пайшлі і касіць, і араць... І не падобна зусім, што мы на вайне, на фронце, — каб не забітыя, — нібы на начлезе спім... Як ты думаеш, пасля гэтых белых знойдзецца яшчэ хто-небудзь супроць нас? Ім самі ангельцы дапамагаюць. Калі іх падоляць, мне так здаецца, не асмеліцца другі лезці?..

І сам адказаў на свае словы.

— На нашу галаву хопіць іх. Гэтага паб'ём — другому дапамагаць будуць. Пакуль усіх не пераможам, не араць нам спакойна, не касіць. Та-ак.

А Голубу хацелася другога.

— Навошта гэтая вайна? Якая ім справа да нашых парадкаў. Нам яны падабаюцца — добра, па іх мы і будуем жыццё, а калі вам не да густу — не трэба. Мушка, ці хацеў бы ты дадому?

— А ты хіба не хочаш? Хацець адно, а ці можна?

— А чаму? А каб уцячы? Хіба мала ўцякае?

Мушка павярнуўся тварам да Голуба, глянуў на яго моўчкі, зноў лёг, як і раней, і дадаў:

— І я жыць хачу, працаваць, але каб гэта можна было зрабіць, трэба наперад кончыць з белымі. Куды ўцячы? Ты ўцячэш, я, за намі другія, а яны следам — і зноў на шыю сядуць. Кончыць трэба, потым дадому... Скінуў бы ўсё, у аднэй кашулі выйшаў бы ў поле, зямля дрыжэла б! Зямлі ў нас зараз во-о, ад паноў адабралі... камуну сваю арганізавалі б і жылі...

Гаворачы аб камуне, Мушка захапляўся сваёй гаворкай, цвёрда верыў у тое, што гаварыў. Ён без кніг, з чужых слоў і сваіх думак намаляваў сабе чароўны вобраз жыцця ў камуне і, гаворачы аб сваёй камуне, зачароўваў і другіх.

— ...Сталі б сотняй адзін за другім з плугамі — і адразу гоні ўзараныя, па баразне — і гоні...

— А ў нас аб камуне не ведаюць.

Змоўклі.

Мушка зноў па-ранейшаму пазіраў у блакітны прастор неба і марыў аб камуне.

А неба ўсё болей святлела. Нябачным полымем дыхаў усход. Ціха адпаўзла на захад цёмнаю хмараю ноч. Ціха плылі ў галаве Мушкі і Паўла думкі, думкі мірныя — пра дом, пра работу.

Прарваўся з-за небасхілу першы прамень, пырснуў золатам святла па полі. Спераду гукнуў адзінокі вінтовачны стрэл — і зноў усё ціха. Голуб пазіраў на Мушку. Той таксама ляжаў нерухома, як і раней, яго шырока расчыненыя вочы спакойна пазіралі ў навіслы над ім блакітны прастор. А па яго аброслым рэдкімі валасамі твары паўзла буйная, яскрава-чырвоная на сонцы казяўка; расцягнулася шнурком, дапаўзла і скокнула ў чырвоную росную мураву. І нават не ўздрыгануў Мушка. Голуб бачыў гэта і спачатку не зразумеў, не мог зразумець. ён моўчкі чакаў. Потым штурхануў суседа ложаю стрэльбы, але той і не варухнуўся. А вочы бачылі, як па шчацэ яго паўзлі шнурком чырвоныя казяўкі і скакалі ў мураву. Зрабілася страшна. Голуб чуў, як па скуры забегалі халодныя казытлівыя мурашкі, самі заляскалі зубы, пачалі дрыжэць рукі. Ён адвярнуўся ад суседа, нешта сам сабе зашаптаў.

З гэтай пары зразумеў Голуб, што не сцярпець яму акопнага жыцця. Нарадзіўся страх перад смерцю, якой не відаць, але якая пагражае кожную хвіліну.

Думалася толькі аб смерці.

Было страшна.



*

Прайшло яшчэ два тыдні, фронт адышоў у глыб Беларусі. Голуб з таварышамі зноў ляжалі ў ямках-акопах, на краі лесу. Белыя затаіліся, чакаюць большых сіл. Вёрст дзесяць да іх. На фронце ўсе дні было ціха...

Страх не пакідае Голуба... Ноччу ён трызніць... Яшчэ страшней ад цішыні, ад чакання... Нараджалася жаданне: хутчэй бы ўжо забілі, ці што іншае — абы не чакаць, абы не мучыцца...

Нялёгка было і ўдзень.

Лес поўніўся шэптамі ветру і спевамі птушак. Свежасцю, сілай дыхала зямля, будзіла прагнасць жыцця, а ад гэтага яшчэ большай здавалася небяспека смерці: перад вачыма ўставаў белы, абросшы рэдкімі валасамі твар Мушкі і буйныя чырвоныя, крывавыя казяўкі на ім. Цяжка было маўчаць, і ён гаварыў суседу:

— Чаго мы ляжым? Ці туды б, ці сюды — усё роўна...

Сусед з фабрычных, зямляк, са здзіўленнем пазіраў на Голуба.

— А табе што, не ляжыцца?.. Было б сілы болей — пайшлі б уперад, а няма — паляжаць трэба і так. Ты чаго?..

— Страшна мне, браце. Ляжыш, чакаеш і ведаеш, што смерць чакае. Каб хутчэй яно! Ці хоць бы стралялі, а то маўчаць. Ды яшчэ разам ведаеш, што пільнуюць, каб забіць.

— Дык што ж па-твойму?

— Не ведаю. Хочацца дадому, да сваіх. Малады я яшчэ... Навошта столькі людзей б’юць?..

— Не ведаеш! А зямлю, нябось, бацька ўзяў ад пана? Волю ўзяў?..

— Я ведаю, але страшна мне, так страшна, што не магу я тут быць. Смерці страшна... нізавошта ж...

— А зямля? А воля?

— Дык чаму смерць за гэта, кроў?

— Таму, што не дарам. Не ты будзеш біць — цябе будуць. На тое і воляй завецца, на тое нам і хочацца яе, што крывёю бярэм. Што лёгка бярэцца — не люба, не дарага тое!

Ноччу не змог заснуць Голуб. Не сцярпеў і абудзіў суседа.

— Не магу я, не перанясу... Страшна... Мучыць мяне...

— А ты спі, не думай, баязлівец!

— Не ад гэтага, а так не магу, з таго разу, як забілі Мушку... з таго часу і не магу...

— Дык што ж?..

— Уцяку, пайду адсюль...
— Уцячэш? Уцекачом станеш?
— Абы куды, абы не тут!
— ...Уцячэш — зловім, самі расстраляем... Не ведаеш, за што ваюеш?.. А ведаеш, дык чаго ж, чаго на другіх страх наводзіш? Для прыкладу другім такіх расстрэльваць трэба! Тут вораг, а ён ные: уцяку... Не паслабляй фронту! Каб не вы, уцекачы такія, даўно б з белымі кончылі...
Голуб маўчаў. Хацеў супакоіць сябе, але страх густою навалай цёмнай ночы поўз на яго, душыў сваімі халоднымі кіпцюрамі і не выпускаў з іх. Голубу хацелася бегчы адсюль, крычаць, і, каб не зрабіць гэтага, ён да болю драпаў пальцамі зямлю, без канца голасна ўторыў адну толькі думку...

*

Змяркалася.
Паціху хвалявалася нагрэтае за дзень паветра. Успаміналіся дні хатняй працы на сенажаці. Голубу хацелася прыпомніць і ўявіць сабе да самых дробязей і родных, і двор, і сенажаць, і працу, але ў галаву супроць жадання лезлі думкі аб небяспецы і ўспаміналіся сказаныя мінулай ноччу словы суседа. Голуб застаўся нездаволены гэтаю гутаркаю і хацеў пагаварыць яшчэ, каб той зразумеў. Але сусед маўчаў, і Голуб чамусьці баяўся зачапіць яго. А маўчанне палохала... Страх не даваў ні на хвіліну спакою... І заглушыць яго нельга было нічым.
Калі ўжо змяркалася, падышоў камандзір.
— Таварыш Голуб, вы ідзіце ў разведку, зараз жа! Да рання трэба вярнуцца назад з весткамі.
Камандзір растлумачваў, як і куды ісці кожнаму разведчыку, аб чым дазнацца. Голуб слухаў і, хоць разумеў усю небяспеку гэтага даручэння, разумеў, што ідзе мо на пэўную смерць, але не супярэчыў, не адмаўляўся, саромеўся суседа. І як толькі камандзір скончыў, ён паправіў шынель, праверыў вінтоўку і накіраваўся за камандзірам.
Сусед падняў галаву.
— Уцячэш — глядзі!..
Разведчыкам трэба было ісці ў адным напрамку, але так, каб не ісці кучай і каб быць блізка адзін ад другога. Дзеля таго, прайшоўшы крыху разам, яны разышліся ў бакі.
Ціха ішоў Голуб. Асцярожна ступалі ногі ў густой роснай мураве. Ён бачыў, як злева крыха-пакрысе знікала ў цемры пастаць суседа і гублялася сувязь між імі: усведамленне поўнага адзіноцтва пачынала палохаць...



Ісці трэба вёрст пяць. Яшчэ некалькі крокаў поплавам, а там далей — дарогай ці полем...
Пад нагамі густая трава, высокая і сакавітая — у самы раз касіць... Шкада таптаць... Голуб высока ўзнімаў ногі і асцярожна ступаў у месцы, раней нагледжаныя. Чаравікі абмываюцца расой, але на іх і на абмотках застаюцца травінкі і кветачкі. Голубу хочацца схіліцца, узяць у жменю куст муравы і гладзіць рукою, і нюхаць яе.
Выйшаў на дарогу. Асеўшы пыл здаецца пухам. Мякка ступаюць ногі, як гарачы прысак пухкае пад нагамі пыл, мокрыя чаравікі робяцца шэрымі. Па баках дарогі жыта спее. Цяжкае калоссе гнецца да зямлі. Пахне свежаўзаранай зямлёй і гноем...
«Бач ты, другі раз ужо, мусіць, аралі, пад азімае».
Зусім забыўся Голуб, дзе ён, захапіўся малюнкам ціхага поля, такога блізкага, роднага... ён ішоў, гладзіў і песціў рукою росныя і буйныя жытнія каласы...
«Якое буйное — няўжо гэта па ўсіх палосах?»
Яму захацелася ў глыб поля. Звярнуў на мяжу. Мяжа — наўскасяк, побач з дарогай. З двух бакоў жытнія каласы біліся ў твар. Прайшоў трохі і, набраўшы ў жменю каласоў, спыніўся, спрабаваў пальцамі зерні. Потым успомніў, што ён у разведцы, і міжвольна прыслухаўся.
Недалёка ў жыце нешта дзіка крыкнула, зашамацела. Голуб аслупянеў, застыў з узнятай над каласамі рукой. Цела нібы пракалолі наскрозь нечым вострым, халодным. Адчуваў, як халадзее галава, як узнімаюцца пад шапкай валасы. Знік спакой. Успомнілася, што свае — далёка ўжо, а тут — мо на мяжы ці ў разоры, праз загон, сядзіць белы разведчык, можа, змеціў яго і рыхтуецца кінуцца ззаду, схапіць і задушыць ці пракалоць штыком. На плячах, між лапаткамі, балюча занылa, нібы туды ўжо калолі. Уявіў, як лезе ў цела штык, адчуў балючасць і чуць не крыкнуў ад страху. Разумеў, што трэба зняць з пляча вінтоўку, нарыхтавацца да стрэлу, але не мог паварухнуцца, скрануцца з месца.
«Назад, назад... Не пайду далей, хай што хочуць робяць»... «Хутчэй, хут-чэй ад-сюль, уця-чы, уця-чы» — выбівала ў такт думкам напалоханае сэрца.
І, не маючы сіл ісці, сагнуўся і на карачках папоўз мяжой назад. Спатыкаўся рукамі аб каменні, збіваў аб іх калені, калоў рукі дзікай межавой травой. Перашкаджала паўзці вінтоўка,

павіслая на руцэ, наступаў на яе каленямі, але поўз, і ўслед паўзла трывога, здавалася, гоняцца за ім сотні нябачных страшных ворагаў.

Ззаду на дарозе пачуўся тупат. Спыніўся, прыслухаўся.

«Коні. Едуць верхавыя...»

Тупат ужо зусім блізка... Вось параўняліся, усяго праз некалькі загонаў... Хацелася трохі падняцца, глянуць, колькі іх, але не мог адарваць рук ад зямлі, страх прыкаваў іх, абцяжарыў усё цела; так і прастаяў на карачках, пакуль не сціх тупат.

«Белыя. Значыцца, яны недалёка. Іх разведка».

Дапоўз да дарогі і замест таго каб ісці да месца, дзе свае акопы, перабег дарогу, зноў у жыта і хутка папоўз разорай, не ведаючы куды, змучаны, дрыжучы ад страху і стомы... Поўз доўга, без адпачынку... А трывога расла і расла...

Ужо блізка лес... Вось поплаў... Выпаўз з жыта, глянуў пужліва ўперад, па баках, і зноў папоўз, баючыся ўзняцца, каб не змецілі...

Лес...

«Уцячы, уцячы, уцячы...» — шапталі без канца губы.

«Цішэй, каб не пачулі свае, яны недалёка».

Прапоўз ціхенька яшчэ з паўсотні метраў па лесе, прыпыніўся паслухаць.

У лесе аніводнага гуку, толькі гоман працяжны, ціхі ўгары...

Падняўся і пайшоў. Прайшоў яшчэ крокаў дзвесце, зняў вінтоўку і патранташ і кінуў пад хвою.

Шавяльнулася дакорам думка, што бачыў белых і не сказаў сваім. Успомніў дакоры суседа па акопу.

«Можа, пайсці, вярнуцца?»

Але холадам падыхаў страх перад небяспекай быць забітым, і перапалоханае сэрца яшчэ мацней выстуквала:

«Уця-чы, уця-чы, уця-чы...»

Хацеў апраўдаць сябе.

«Я не магу тут... Не здраднік я, але не магу, мучыць мяне. Абы куды, абы не тут...»

Палахліва прыслухоўваючыся да тупату сваіх ног і да стукаў сэрца, крочыў уперад, не ведаючы дарогі, — абы туды — у глыб лесу, абы далей ад фронту.



*

Дарога.

Абапал густа стаяць стромкія хвоі.

Угары гул несціхаючы, роўны, ціхі... А там, яшчэ вышэй, чыстае глыбокае неба. Дзе-нідзе праплыве кавалачак белай хмаркі пушыстай, і зноў чысты, бязмежны прастор.

У такую пору прыемна думаць аб жыцці, хочацца жыць...

Між хвой два чырвонаармейцы канчаюць капаць яму. Капаюць моўчкі, спяшаючыся.

На другім канцы дарогі шэрагам стаіць узвод узброеных чырвонаармейцаў. Стаяць вольна. Перакідаюцца асобнымі словамі, больш маўчаць, кураць...

Зусім убаку, асобна, яшчэ двое чырвонаармейцаў з вінтоўкамі напагатове і між іх Павел Голуб, у шынялі, без зброі... Маўчыць... Да балючасці ўглядаецца кудысь у глыб лесу, хоць нічога там не бачыць. Ён ведае, што для яго капаюць яму, што гэтыя вось чырвонаармейцы, з якімі ён разам ляжаў у акопах, будуць яго расстрэльваць, што хутка яго ў гэтай яме закапаюць і тады ўсяму канец. Хацеў зразумець гэта, але нічога не выходзіла... У думках была пустэча, у галаве і грудзях, ад уяўлення блізкай смерці, тупая балючасць...

Таварышы на яго злосна пазіраюць; ён разумее завошта і не сярдуе на іх. Не глядзіць на іх, баіцца сустрэцца з поглядам суседа па акопу.

Каецца ў думках, што ўцякаў, мо каб не баяўся і заставаўся тут, дык і жыў бы, а так...

Угары плыве цягучы роўны гоман. Гулка стукае дзюбаю аб хвою дзяцел. Недзе далёка кукуе зязюля, не сціхае...

На вочы нагортваюццца слёзы... Голуб абцірае іх рукой... Вартавы бачыць гэта і адварочваецца ўбок...

Утыркнулі ў свежы пясок жалязнякі чырвонаармейцы і адышлі. Нехта скамандаваў Голубу ісці да ямы. Ён падышоў, павярнуў твар у бок ад таварышаў... Ужо ні аб чым не было думак, быў толькі страх перад блізкай смерцю, які ўсё засланіў сабою, і тупая балючасць ныла ва ўсім целе.

Калі камісар пачаў гаварыць чырвонаармейцам аб справе дэзерціра Паўла Голуба, а потым чытаць пастанову Вайскова-рэвалюцыйнага трыбунала, Голуб выпадкова глянуў сабе пад ногі на жоўты сыры пясок, яскрава ўявіў усё, што павінна адбыцца праз некалькі хвілін, і страх, яшчэ большы, як дагэтуль, заўладаў ім, скаваў усё цела. Захацелася крыкнуць таварышам

аб сваёй здрадзе, кінуцца ім у ногі, прасіць літасці, абяцаць да канца заставацца на фронце, але ногі нібы ўраслі ў зямлю, язык не мог зварухнуцца, і толькі губы шапталі словы, чутныя толькі для самога сябе...

— Братцы, братцы, я ж не хацеў, я не мог, мучыла мяне смерць...

Не сціхае ўгары ціхі гоман. Не сціхае зязюля, кукуе камусьці доўгія гады.

Халоднымі цяжкімі кроплямі падаюць у мазгі словы прысуду.

Цяжэе тулава. Усё болей урастаюць у зямлю ногі. Страшны боль сціскае галаву...

Чуў апошнія словы прыгавору, чуў злосныя словы таварышаў...

Але стаяў ужо, як спаралізаваны. Толькі адчуваў, што на твары выступіў халодны пот.

Сціхла... Пачулася кароткая каманда...

Хацелася ўзняць вочы, глянуць на таварышаў, каб убачылі, каб зразумелі, што ён каецца, але галава, быццам налітая волавам, не ўздымаецца. Апушчаныя ўніз вочы бачаць перад сабой бліскучыя канцы цэлага шэрагу штыкоў. Пачуў апошнюю каманду.

Перад вачмі замітусіўся цёмны туман.

Нешта балюча стукнула па нагах, у грудзі. Узмахнуў рукой. З грудзей, з самай глыбіні, вырваўся і застыў на губах крык. А зямля, і хвоі, і чырвонаармейцы задрыжэлі, захісталіся, зніклі ў тумане.

***1927***

# ТОДАР КЛЯШТОРНЫ

Паэт Тодар Кляшторны нарадзіўся ў 1903 годзе ў вёсцы Парэчча Лепельскага павета Віцебскай губерні. Служыў у Чырвонай Арміі, вучыўся на рабфаку, скончыў філалагічны факультэт БДУ, працаваў у рэдакцыях мінскіх газет і часопісаў, на Беларускім радыё. Быў сябрам літаратурных аб’яднанняў «Маладняк», «Узвышша», «БелАПП”.

Першыя вершы надрукаваў у 1925 годзе (часопіс «Аршанскі маладняк»). Выйшлі зборнікі вершаў «Кляновыя завеі» (1927), «Светацені» (1928), «Ветразі» (1929), «Праз шторм на штурм» (1934), паэма «Палі загаманілі» (1930) і кніжка-малюнак для дзяцей «Пра зайца, ваўка і мядзведзя» (1935).

Як і многія маладыя пісьменнікі таго часу, ён шчыра прыняў ідэі Кастрычніка, апяваў рэвалюцыйнае абнаўленне, выказваў веру ў светлую будучыню сваёй Бацькаўшчыны. Аднак назіральны паэт-рамантык не мог не бачыць таго негатыўнага, што ўсё больш яскрава праяўлялася ў грамадстве з умацаваннем таталітарызму. Матывы расчараванасці ў абвешчаных рэвалюцыйных ідэалах можна заўважыць ужо ў паэме «Калі асядае муць» (напісана ў 1929 годзе) і пазнейшых вершах паэта. Вельмі афарыстычна выказаўся паэт пра новую сітуацыю ў такіх радках:

Ходзім мы пад месяцам высокім,
А яшчэ — пад ГПУ
(«Калі асядае муць»)

Т. Кляшторнага папракалі ў песімізме, багемнасці, упадніцкіх настроях, і, галоўнае, у тым, што ён адышоў ад тэмы «вялікага будаўніцтва».

У такой атмасферы паэт не мог па-сапраўднаму аддацца творчасці, пісаць сваю лірыку. Таму Т. Кляшторны заняўся перакладчыцкай работай. Ён пераствары на беларускую мову асобныя творы У. Маякоўскага, М. Асеева, А. Безыменскага, М. Галоднага, А. Лахуці, Л. Первамайскага, разам з М. Багуном пераклаў папулярны на той час раман Ф. Панфёрава «Брускі».

Але і тут не далі належным чынам папрацаваць беларускаму паэту. 3 лістапада 1936 года Т. Кляшторнага арыштавалі органы НКУС і 3 кастрычніка 1937 года пасля доўгіх катаванняў расстралялі на ўскраіне парка Чалюскінцаў. Было тады паэту 34 гады.

## ЛІСТ У СІБІР

Засыпан Мінск халоднымі снягамі,
Пад палазамі гойсае зіма —
Астрыжан клён асеннімі сярпамі —
Лістоў няма...

А помніш ростань,
Помніш, дарагая,
Як дагарала восеньская медзь...
Так і душа ў шуканнях дагарае,
Каб не гарэць...

Тады плылі,
Плылі на поўдзень гусі,
Будзіў лясы асенні свіст і гуд,
А ты мяняла поле Беларусі
На дальнюю тайгу.

Цяпер зіма скрыпіць пад палазамі,
Заледзянела дарагая шыр...
І часта, часта думаю начамі
Я пра Сібір.

За тою хмураю таемнаю тайгою
Шукае золата і ненец і тунгус...
Здружыўся з лыжамі і цёплаю дахою
Там беларус.

Хачу да слёз расквечанай вясною
Паездзіць там і ўдоўж і папярок,
Дзе між сібірскіх зёлак галавою
Ківае васілёк.

Цяпер снягі...
Вячэрняю зарою
З пунсовай шклянкі белая зіма
Частуе Менск наліўкай ледзяною...
Цябе ж няма...



* * *

Завечарылася бярозавая просінь,
У далях вечар дым пераліваў.
А Млечны Шлях
На сіняватых плёсах
Заранкамі дарогу вышываў.

Мне марыцца:
Нібыта той дарогай
З адвечнасці вярнуліся гады...
Я не паэт,
А хлопчык басаногі, —
За рубяжамі свет і гарады.

Нібы з туманаў выплыла паданне
Пра гэта возера,
Як сведку дзіва-дзей;
Я ўспамінаю першае каханне
І першы хмель разбураных надзей.

З тае пары я шмат перамяніўся
(Цвітуць да часу ў жыце васількі).
О вечар, вечар,
Што завечарыўся?
Куды сплылі ружовыя вянкі?!

*1929*

## ЗАЗІМАК

Мёрзлы месяц з-за гор васількамі
Перасыпаў азёрную сінь.
Стыне ўсё...
Ледзянымі сярпамі
Выйшла восень рабіну касіць.

Тоўпы зор снегавым пералівам
Разматалі ў палях павады.
Быццам коні з намыленай грывай,
У пацёмках застылі сады.

Хтосьці там, у шырокім прыволлі,
Дзе узмежкі гарацць серабром,
Заспяваў пра шырокае поле,
Засвістаў ледзяным салаўём.

Эх, як рвецца душа у прасторы!
Штосьці хочацца вечна кахаць
І дзіцячае радасці зоры
Ў ледзяных пераззвонах збіраць.

Мёрзлы месяц з-за гор васількамі
Перасыпаў азёрную сінь.
Стыне ўсё...
Ледзянымі сярпамі
Выйшла восень рабіну касіць.

*1932*

* * *

Задыміўся імжою сыр-бор,
Дробны дождж — туман заімжыўся...
Мне прысніўся квяцісты прастор,
Мне наш край беларускі прысніўся.

Бачу сон:
Дзе у цемры вякоў
Смуткавалі рачныя затоны, —
Зняты палкія душы з крыжоў,
І няма ні жальбы, ні праклёнаў.

І вось тут, дзе не рускую Русь
Прадавала панам Кацярына,
Прамяняў селянін-беларус
Сашнікі і саху на машыну.

У вячэрнюю цемру і стынь
Не палае лучына у хаце, —
Прамяняў беларус-селянін
Сінявую страху на палацы.



І пад новай жалезнай страхой,
Дзе спляліся світальныя цені,
Нарадзіўся Шэкспір і Талстой, —
Заспяваў беларускі Ясенін...

...............................................

Мы ідзём не плятні апяваць,
Мы складаем паэмы машынам...
О, краіна — азёрная гладзь,
О, мая дарагая краіна...

*1927*

* * *

Не глядзі з дакорам, дарагая,
Не глядзі,
Не будзі загубленага маю,
Не будзі...
Не адна ты сэрца хвалявала,
Не адна,
Пі юнацтва палкія бакалы,
Пі да дна...
Як астудзяць першыя марозы
Кроў, —
Не дагонім бэзавыя крозы
Зноў...

Выпівай жа палкія бакалы, —
Пі да дна,
Не адна ты сэрца хвалявала, —
Не адна.

*1927*

* * *

Белыя паляны, белыя гаі...
Пчолы ледзяныя кружацца ў галлі,

Кружацца раямі, сыплюцца на дол,
Апушылі хвоек срэбраны прыпол.

А з-за лесу-гаю скача па лугах
Хтосьці незнаёмы ў ледзяных санях.

З сіняватых даляў, з сіняватай цьмы,
Хтосьці навявае залатыя сны.

Месяц кучаравы між сівых завей
Блудзіць над барамі, блудзіць, як зладзей.

Хай галосяць ветры ў цемені начной;
Сядзем, дарагая, пасядзім з табой.

Раскажы мне шчыра, праўду раскажы, —
Хто ў чароўных вочах зоры патушыў?!.

Хто замёў снягамі у душы вясну?
Сэрца хто параніў, — вымеў цеплыню?!

Хто распяў з каханнем сэрца на крыжы, —
Раскажы мне праўду, — любая, скажы?!.

І маўчаць пацёмкі... любая маўчыць...
Ледзянеюць словы і душа баліць...

Белыя паляны, белыя гаі,
Пчолы ледзяныя кружацца ў галлі.

І мярцвеюць змрокі між сівых завей;
Прытуліся бліжай, сэрца абагрэй...



* * *

На небе сыплецца сярэбраны гарох, —
Ў завулках ціш, —
Ў завулках ціш нямая...
О колькі жвірыстых няведамых дарог
Нас прывялі ў сягоння, дарагая,
Пад гэту сінь, дзе сыплецца гарох.

Не скажуць зор срабрыстыя завеі,
Не скажа ліпаў выцвіўшая медзь
Пра тое— што калісьці адзвінела,
Што будзе ў шэрані над сцежкамі звінець
І сыпаць зор срабрыстыя завеі.

Не выпіць змрок кілішкамі зарніц,
І не сагрэць застыўшыя даліны...
Само жыццё нас ў далечы умчыць,
Само жыццё пакажа пуцявіны
І вып’е змрок кілішкамі зарніц.

І грае ноч на струнах ледзяных.
Гадзіны чаркамі вычэрпываюць вечнасць.
Як скора, любая, ў завеях залатых
Сівымі пальцамі
Наш вераснёвы вечар
Сыграе «recvium» на струнах ледзяных.

З нябесных гоняў сыплецца гарох, —
Ў завулках ціш, —
Ў завулках ціш нямая...
А ў далях сцелюцца паўтысячы дарог,
Паўтысячы пуцінаў, дарагая,
Лунаюць ў далечы, дзе сыплецца гарох.

Прайдуць гады,
Разыдуцца пуціны,
Разыдуцца у пражы туманоў;
Рассыплюць золата над рэчкаю каліны,
Патужа гай над сцежкай журавоў
І, можа, зноў не сойдуцца пуціны.

* * *

Ўпрадае дым у залатую гладзь
Па-над прасторамі бярозавая просінь,
Ружовы дзень спусціўся падрамаць
За верхавінамі смалістых сосен.

Мядовы водар кружыць галаву...
У цішыні задумаліся далі.
Рамашкі белыя аснежылі траву
І ў туманах салодка задрамалі.

О родны край, — саломенныя хаты...
Люблю прастораў казачную муць.
Іду адзін,
А тысячы крылатых
Мне пра любоў адвечную пяюць.

Тут паланець душа не перастане,
Тут не астыне ў жылах кроў...
Тут кожны крыж — адвечнае змаганне,
Тут кожны куст — адвечная любоў...

О, тут усё...
Так хочу жыць і верыць, —
Аддаць душу прыгожасці палёў,
Гатоў скакаць вясёлым піянерам
Пад залатыя гуслі салаўёў.

Па-над прасторамі
Бярозавая просінь
Ўпрадае дым у залатую гладзь,
За верхавінамі смалістых сосен
Ружовы дзень спусціўся падрамаць.



## ВОСЕНЬ

I

Слаўны вечар... Пагода ліпнёвая,
А у садзе красуецца верасень...
Колькі яблыкаў восень ружовая,
Залацістая восень развесіла.

II

Блудзяць хмаркі, — вандроўнікі дальнія,
Месяц косіць абмежкі ліловыя,
Загарэлі затоны крыштальныя,
Засмуцілася сінь вераснёвая.

III

Плачуць гусі, — асеннія здраднікі,
Плачуць гусі, як сэрца дзяўчыны...
Заглядзеліся ў даль канаплянікі
Над бялявым вянком павучыння.

IV

Эх вы, сцежкі, — дарожанькі вузкія,
Эх ты, просінь, тыняная просінь...
Хоць прыгожа вясна беларуская, —
Прыгажэй беларуская восень.

V

Як прыгожы сады вераснёвыя...
Закахаўся я ў казачны верасень...
Колькі яблыкаў восень ружовая,
Беларуская восень развесіла.

* * *

Зацвілі сярэбраныя росы
У кілішках выцвілых лістоў,
Запалілі зоры папяросы
Над буланай грывай тумаоў.

Залатой мякінай лістападу
Сыпле клён над скронямі акон,
А ў галлі абветранага саду
Месяц сплёў паўтысячы карон.

Ледзянее ў шэрані рабіна
Па адцвіўшай сонечнай вясне.
...............................................
Уміраюць палкія гадзіны,
І зямля бялее пакрысе.

Але дні златымі павадамі
Не завяжуць сонечных пуцін.
Не заплача сэрца з журавамі
У туман ажвіраных далін.

Не шкада рассыпаных гадзінаў:
«Мы жылі, жывём і будзем жыць»,
Бо зіяюць зоры над краінай
І ў туман схіляюцца крыжы.

Залатой мякінай лістападу
Пашумяць, сумуючы, гаі...
Скора ў сінь сталёваю брыгадай
На палях засвішчуць салаўі.

Зацвітуць сярэбраныя росы
У сталёвым колеры машын,
І запаляць зоры папяросы
Над зялёнай пражаю далін.



## КАЛІ АСЯДАЕ МУЦЬ

*Фрагмент*

Дальнія-блізкія, блізкія-дальнія
Бомы бягуць, заміраюць, бягуць...
Шубы, манто, галіфэ саматкальныя
Ўдоўж па Савецкай снуюць.

А ля касцёла жахліва і дзіка.
Палі пад чашай атручаных кроз
Мёртвыя цені жывой Афрадыты
І мармуровы Хрыстос.

— Хто вы?!
— Абломкі далёкага дальняга,
Госці абжытых вякоў,
Мы — алкаголь,
Мы — жальба пахавальная,
Мы — гэта смерць і любоў.

— Доўга над цемрай сусвету пануючы,
Шмат нарабіў я крывавых падзей.
Я — гэта бог,
Я — Хрыстос неіснуючы,
Створаны ў муках людзей.

Я — гэта мара пакорных плебеяў, —
Куплены потым каронай цароў,
Каб захаваць пад святым маўзалеем
Праўду, сумленне, любоў.

Я — гэта Рым,
Я — антычная Грэцыя,
Я — гэта зброя сляпога жраца,
Я — ракавая пячаць індульгенцыі,
Я — і нявольнік, і цар.

Доўга над цемрай сусвету пануючы,
Шмат нарабіў я крывавых падзей...
Я — і слуга, і гасподзь неіснуючы,
Праўда і крыўда людзей.

Я — Афрадыта, багіня кахання,
Фейверк жывога агня.
Дзе нарадзілася першая тайна,
Там нарадзілася я.

Я не хадзіла к царам на паклоны,
Я не прасіла кароны цароў.
Ў царстве маім не існуе законаў,
Вольнаму птаху няма берагоў.

Там, у антычных аддалях сталеццяў,
Дзе каранован Хрыстос,
Я напаткала магутныя сеці
З чашай атручаных кроз.

Там, дзе ад рання туманам кадзілі,
Славячы імя Хрыста,
Я на панель прадаваць выхадзіла
Цела прыгожых дзяўчат...

Гэй, пры партфелі, з антычнаю лысінай,
Маеш чырвонцы ці не?!
Бачыш, на вуснах сцюдзёных напісана:
«Грошы, каханне і смерць».

Дальнія-блізкія, блізкія-дальнія
Бомы бягуць, заміраюць, бягуць...
Шубы, манто, галіфэ саматкальныя
Ўдоўж па Савецкай снуюць.

Гэта абломкі, далёкая спадчына,
Сэрцу бадай не да іх.
Грудзі хвалююць імкненні гарачыя,
Палкі агонь маладых.

Хтось адыходзіць... Прыходзяць другія
З палкім імкненнем вясны.
Сняцца аджытаму сны залатыя,
Толькі дарэмныя сны...

Хто з намі сілу сягоння памерыць?..
Спыніць хто рух маладых?..



Хай не раўня мы Еўропам, Амерыкам, —
Заўтра абгонім мы іх.

Дальнія-блізкія, блізкія-дальнія
Бомы бягуць, заміраюць, бягуць...
Шубы, манто, галіфэ саматкальныя
Ўдоўж па Савецкай снуюць...

*1929*

# АЛЕСЬ ДУДАР

Паэт, празаік, крытык, перакладчык Алесь Дудар (сапр. Дайлідовіч) нарадзіўся 24 снежня 1904 года ў вёсцы Навасёлкі Мазырскага павета Мінскай губерні (цяпер Петрыкаўкага раёна Гомельскай вобласці) у сялянскай сям'і. Пазней Дайлідовічы пераехалі ў Мінск, дзе бацька працаваў чыгуначнікам. У Першую сусветную вайну, сям'я выехала ў бежанства. Жылі ў г. Казлове (Мічурынск) Тамбоўскай губерні. У 1917 годзе вярнуліся ў Мінск.

А. Дудар вучыўся ў школе другой ступені, якую скончыў у 1920 годзе. Захапляўся тэатрам, прымаў удзел у «Трупе беларускіх артыстаў пад загадам У. Галубка». У гэты ж час пачаў пісаць вершы. Першы верш «Прэч з дарогі» быў апублікаваны ў 1921 годзе ў газеце «Савецкая Беларусь» пад псеўданімам А. Дудар. З гэтага часу ён рэгулярна друкуецца ў перыёдыцы, выдае кнігі паэзіі «Беларусь бунтарская» (1925), «Сонечнымі сцежкамі» (1925), «І залацісцей, і сталёвей» (1926), «Вежа» (1928), піша паэмы «Паланянка», «Шанхайскі шоўк», «Байкал», кнігу апавяданняў «Марсельеза» (1927), зборнік артыкулаў «Пра нашы літаратурныя справы» і інш. У крытыцы выступаў пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі, нярэдка разглядаў творы беларускіх пісьменнікаў з вульгарна-сацыялагізатарскіх пазіцый. А. Дудар станавіўся адным з самых папулярных беларускіх паэтаў таго часу. Ён быў адным з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання «Маладняк», ездзіў па Беларусі, арганізоўваў яго філіі ў Віцебску, Магілёве, Полацку, спрыяў тым самым станаўленню і развіццю беларускай літаратуры. Дарэчы, сябрам «Маладняка» была і таленавітая паэтэса Наталля Вішнеўская, з якой А. Дудар ажаніўся ў 1927 годзе.

Для ранняга перыяду творчасці А. Дудара, як адзначаў крытык Варлен Бечык, было характэрна «рамантычнае светаўспрыманне. Ён захапляўся рамантыкай паўстанняў, подзвігамі рэвалюцыянераў, яго грамадзянская лірыка — гэта паэтызацыя Беларусі «ў фабрычных трубах», апяванне вёскі, якая «рушыць у новы век».

Але малады паэт не хацеў мірыцца і з тым адмоўным, што сустракалася ў жыцці. Паступіўшы ў 1927 годзе на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага універсітэта, ён праз два гады дэманстратыўна пакінуў яго ў знак пратэсту супраць нападак там на студэнтаў-літаратараў за іх нібыта «беларускі шавінізм». У «Савецкай Беларусі» А. Дудар разам з М. Зарэцкім і



А. Александровічам апублікаваў адкрыты ліст супраць антыбеларускай пазіцыі універсітэцкага кіраўніцтва. Не пагаджаючыся са спрошчаным поглядам сяброў на ролю мастацкай літаратуры, на аслабленне яе крытэрыяў, А. Дудар у 1928 годзе пакідае «Маладняк» і ўступае ў літаратурнае аб'яднанне «Полымя».

Прынцыповасць і смеласць паэта праяўляліся і ў яго творах, пра што сведчыць верш «Пасеклі Край наш», які бальшавіцкія ўлады расцанілі як «контррэвалюцыйную і нацыяналістычную вылазку класавага ворага на літаратурным фронце». За гэты верш А. Дудар у 1928 годзе быў арыштаваны і высланы на тры гады за межы Беларусі.

Сярод канфіскаваных вершаў паэта ў антысавецкія, «нацдэмаўскія» былі залічаны таксама вершы «Цені блудзяць па твары», «Я радзіўся за хатай пад плотам». Абвінавачваўся А. Дудар і за знойдзены ў паперах паэта верш яго ўкраінскага сябра, паэта У. Сасюры «Навколо...»

Навколо радости так мало!
Який у чорта днів бадьор,
коли ми крила поламали
у леті марному до зор.
І гнів і муку неозору
співаю я в ці дні журби,
коли лакеї йдуть у гору,
й мовчать раби!...

У высылцы А. Дудар быў паўторна арыштаваны і прывезены на допыты ў Мінск. На гэты раз яго абвінавацілі ва ўдзеле ў «Саюзе вызвалення Беларусі» (ЗВБ), па справе якога праходзіла больш за трыццаць беларускіх пісьменнікаў. Седзячы ў следчым ізалятары турмы, А. Дудар напісаў падрабязныя паказанні па сваёй творчасці, асуджаючы сябе, па патрабаванні катаў-следчых, ва ўсіх «контррэвалюцыйных» грахах. Са следчага ізалятара ў Мінску яго зноў адправілі ў Смаленск.

У 1931 годзе яму было дазволена вярнуцца на радзіму. Імкнучыся ўвайсці ў літаратурна-грамадскае жыццё, А. Дудар больш пачаў займацца перакладамі з еўрапейскай, рускай, украінскай літаратур (Ф. Шылер, П. Бамаршэ, Ж.-П. Беранжэ, А. Мюсэ, Ё. В. Гётэ, Г. Гейнэ, С. Ясенін, А. Блок, Б. Пастарнак, А. Безыменскі, В. Інбер, П. Тычына, У. Сасюра, М. Рыльскі, В. Палішчук і інш.). Напісаў некалькі паэм, якія ўвайшлі ў зборнік «Слуцак» (1935). Распачаў пераклад на беларускую мову лібрэта оперы «Яўгеній Анегін» для Дзяржаўнага тэатра оперы і балета, які адкрыўся ў Мінску (1933). Опера рыхтавалася да 100-гадовага юбілею А. С. Пушкіна (1937). Але наспяваў пік сталінскіх рэпрэсій. У кастрычніку 1936 года А. Дудар быў зноў арыштаваны. А праз год здзекаў і катаванняў 29 кастрычніка 1937 года ён быў расстраляны, як мяркуюць, ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам. Было яму тады 32 гады.

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

Беларусі паўсталай — слава,
Беларусі — ў пояс паклон.
Хай мінулае цемра заслала, —
а змагання не забыць ніколі.

Эх, Кастусь... Балоты памераў,
а ў лясах,
як у бацькавай хаце.
Беларусь табе паверыла —
за табою пайшла змагацца.

Беларусь — не царам маскоўскім,
Беларусь — не варшаўскім панам!
Зазвінелі ў лесе бярозкі,
дуб стары галаву падняў.

Забуяніла ў полі рэхам:
— За мужычую праўду — у бой!..
Не Ілля па хмарах праехаў,
не Пятро зазваніў булавой...

А пасля — астрожныя краты...
Што з таго, што жыцця не стане.
Твае слёзы важаць на караты:
— Залілі, загасілі паўстанне...

Скалыхнуўся натоўп на Лукішках
— На Беларусі няма шляхты!..
Можа, кат успомніў за кілішкам,
як памёр мяцежнік пракляты.

Маліцца — не наша справа.
Кастуся мы папросту ўспомнім:
Беларусі паўсталай — слава,
Беларусі — ў пояс паклон.

*1925*



* * *

Ў музеі залатую бранзалетку
я бачыў за празрыстым шклом —
яе пад старажытным курганом,
пазелянеўшую, знайшлі малыя дзеці.

І ў тыя дні раслі на полі кветкі...
І ланцужком, сатканым з васількоў,
стары мастак прывычнаю рукой
аздобіў залатую бранзалетку.

Мастацкі дух ніколі не памрэ.
Не пахаваць яго пад курганамі,
не вычарпаць гадамі і вякамі.

Яму ў агні пякельным не згарэць.
Ён вырвецца з багны разводдзем буйных рэк
і загарыцца зноў бліскучымі агнямі.

*1925*

* * *

Мятнуўся небасхіл перуном сінякрылым
і дуб, магутны дуб агнём пацалаваў...
І пушча пошчакам наўкол загаварыла,
і раскалолася у дуба галава...
І дуб упаў. І воч крылом сваім прыкрыла
і абнялася з ім зялёная трава...
І дрэвы плакалі. Не бачылі яны,
што усярэдзіне той дуб даўно ўжо згніў.

*1925*

## СКАРЫНА

*400-годдзю беларускага друку*

Не люблю, калі з роднай краіны
птушкі рвуцца ў далёкі вырай...

Я успомніў Францішка Скарыну,
што у Полацку княжацкім вырас.

Ўжо няма такіх настрояў,
як былі калісь даўно, —
бо сягоння над новай Дзвіною
перакінуўся новы мост.

Што Дзвіна!.. Для яе ўсё роўна,
хто пяе над яе берагамі.
Не яна мужычую мову
аправіла ў гнуткі пергамент.

О, Францішак... Францішак Скарына,
што над гранкай друкарскаю гнуўся!..
Ведай, праца твая пакарыла
новы свет для сівой Беларусі!

Бо сягоння спяваюць баяны,
бо ужо разгарнуліся крыллі...
Перамогі вяселлем п'яныя,
мы успомнім Францішка Скарыну,

што радзіўся калісь над Дзвіною,
вандраваў над яе берагамі;
што аправіў мужычую мову
ў неўміраючы гнуткі пергамент.

*1925*

* * *

Не сягоння было і не ўчора...
Ой, ды з раніцы плакалі гуслі...
Вандравала ліхое гора,
вандравала ў палёх Беларусі.

Госць няпрошаны, госць нязваны
нашы нівы таптаў нагой.
Помняць, помняць яшчэ партызаны
дзевяцьсот дваццаты год...



Не сягоння было і не ўчора,
бо сягоння загоены раны.
Ты не плач, Наваградскае ўзгор'е,
не журыся тугой саматканай:

кінуў дзень залатыя кроплі
над заводам, над полем, над лугам...
Кастуся Каліноўскага покліч
сёння зноў —
ад Вяллі да Буга.

Выйдуць войска сярмяжнага ўзводы,
выйдуць важыць жыццё і смерць...
Дык гучней гудзіце, заводы,
каб нудою жыцця не мераць...

Былі дні, што здаваліся вечарам:
ой, ды ранне з крывавай расой...
Беларусь, твой стан пакалечаны
сёння новаю ззяе красой...

Бо сягоння гарацць успаміны,
бо сягоння загоены раны...
Што было — назаўсёды згінула
і з магілы ніколі не ўстане.

*1925*

ВЕЖА

Заснула вежа. Што ёй сніцца?..
Стаіць панурая, як здань.
Была турма тут ці званіца —
хто мог бы гэта адгадаць?..

А сівы час наўкола бродзіць,
як крок гадзін, як бег хвілін...
І незлічоныя стагоддзі
на шэрым камені ляглі.

Вякі стаялі без работы —
гняздо легенд і кажаноў...
..........................................

А сёння людзі ў цяжкіх ботах
па сходах тупаюць ізноў.

Спавілі вежу дзіўным строем:
тут не разблыталі б канцы
ні скандынаўскія героі,
ні царгародскія купцы.

І сёння к вежы прывязалі
драты ўстрывожаную даль...
О, прадзеды, каб вы пазналі
антэны стынучую сталь!

Вам не паняць, што ваша вежа,
знайшоўшы працу пад канец,
збірае гоманы з бязмежжа
на свой зіяючы вянец.

*1928*

## ПАСЕКЛІ КРАЙ НАШ

Пасеклі Край наш напалам,
Каб панскай вытаргаваць ласкі.
Вось гэта — вам, а гэта — нам,
Няма сумлення ў душах рабскіх.

І цягнем мы на новы строй
Старую песню і чужую:
Цыгане шумнаю талпой
Па Бесарабіі качуюць...

За ўсходнім дэспатам-царком
Мы бегаем на задніх лапах,
Нью-Ёрку грозім кулаком
І Чэмберлена лаем трапна.

Засыплем шапкамі яго,
Ура, ура — патопім ў соплях.
А нас тым часам з году ў год
Тут прадаюць ўраздроб і оптам.



Мы не шкадуем мазалёў.
Мы за чужых праклёны роім,
Але без торгу і без слоў
Мы аддаем сваіх герояў.

Не смеем нават гаварыць
І думаць без крамлёўскай візы,
Без нас ўсё робяць махляры
Ды міжнародныя падлізы.

Распаўся б камень ад жальбы
Калі б ён знаў, як торг над намі
Вядуць маскоўскія рабы
З вялікапольскімі панамі.

О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні
Такі разлом, туга такая!
І баюць байкі баюны
Северо-Западного края...

Плююць на сонца і на дзень.
О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?
Ім мураўёўскі б гальштук ўздзець,
Нашчадкам мураўёўскім гэтым...

Але яшчэ глушыце кроў.
Гарыць душа і час настане,
Калі з-за поля, з-за бароў
Па-беларуску сонца гляне.

Тады мы ў шэрагах сваіх,
Быць можа, шмат каго не ўбачым.
З тугою ў сэрцы ўспомнім іх,
Але ніколі не заплачам.

А дзень чырвоны зацвіце,
І мы гукнем яму: «Дабрыдзень».
І са шчытом ці на шчыце
Ў краіну нашу зноў мы прыйдзем.

*1928*

## ТАВАРЫШ КУНЕГІН

*Апавяданне*

### I

На дванаццаты дзень бескарыснай і бясплённай пагоні за бандай Дарашкевіча атрад спыніўся на адпачынак у глухой вёсцы Хвалькі. Вёска невялікая — усяго трыццаць двароў, але зямлі і лесу кругом вёскі шмат, будынкі крэпкія і чыстыя.

Камандзір Рынейка загадаў падвоіць варту і быць напагатове. Добра яшчэ помніў Рынейка, як у ваднэй такой вось вёсцы звязалі яго, пазнімалі варту і, напэўна, усіх перабілі б, каб не памочнік яго Кунегін: цудам нейкім выдраўся ад азвярэлых бандытаў, сабраў некалькі чалавек з кулямётам і выручыў усіх. Нічога тады не сказаў Рынейка. Толькі глянуў раз на Кунегіна, і ніхто не мог сказаць — падзяка гэта, знявага ці што іншае. З таго часу асабліва асцярожным стаў Рынейка. Ды яшчэ сурова хмурыўся, калі хто пры ім зняважліва гаварыў пра Кунегіна. Кунегіна не любілі ў атрадзе. Ведалі ўсе, што яго сваякі, нават родны брат, былі ў стане белых, што бацька яго — буйны абшарнік — і цяпер жыве недзе за граніцай і нямала грошай даў на змаганне з чырвонымі. Спачатку нават не даveralі Кунегіну. Думалі — прыкідваецца да часу. Але шалёнымі ўчынкамі сваімі пераканаў усіх Кунегін. Ведалі ўсе, як ён адзін адстрэльваўся ад бандытаў з падпаленай лазні і як яго чуць жывога, абгарэлага і зраненага выцягнулі з агню падаспеўшыя чырвонаармейцы. Ведалі ўсе, як ён смелым налётам захапіў штаб афіцэрскай арганізацыі напярэдадні падрыхтаванага паўстання. Шмат чаго ведалі пра Кунегіна, але ўсё ж не мог ён зрабіцца зусім сваім для гэтых людзей, з якімі дзяліў і радасці і нягоды... І таму часта можна было пачуць едкае слаўцо, пушчанае па адрасу Кунегіна, і пабачыць непрыхільныя погляды.

Кунегін прыстаў да чырвоных з першых жа дзён, як пачалася польская вайна. І адразу яго спаткала балючае недавер’е. Але Кунегін ведаў — назад дарогі няма, бо не змоўкла яшчэ ў вушах пракляцце бацькі, яшчэ не згладзіліся з памяці матчыны слёзы, зняважлівыя словы брата і гнеўныя папрокі нявесты Галі — такой любай калісьці і недасяжнай і чужой цяпер... Дый не пайшоў бы назад Кунегін.

Рос ён у сям’і адзінокім, недаступным хлопчыкам. Вечна замкнуты, вечна з сваімі нясконачанымі думамі.



Тая ж самая адзінота і ў школе, бо не мог Кунегін сысціся ані з кім: у школе, як і ў жыцці, быў нейкі падзел, не было супольнасці, адналітнасці, і не мог прымірыцца Кунегін з гэтым падзелам. Рана ўзяўся за кнігі, рана пачаў разважаць аб усім, што робіцца кругом. Рана і шлях сабе выбраў: у дваццаць гадоў кінуў бацькоў і пайшоў у Чырвоную Армію. Не раз на справе паказаў сваю адданасць, і яго лічылі адным з лепшых работнікаў. У самыя цяжкія, самыя рызыкоўныя справы ішоў Кунегін, і часта яму ўдавалася зрабіць тое, чаго не здолеў бы зрабіць ніводзін з работнікаў N-й надзвычайнай камісіі. І, дзіўная рэч, ніколі ніхто не бачыў Кунегіна змораным ці спахмурнелым хаця б. Другога даўно з ног збілі б цяжкія, поўныя небяспекі пераходы, шалёныя стычкі, вечная напружанасць... А Кунегіну хоць бы што.

Вернецца з паходу, адпачне гадзін шэсць, і зноў звініць яго смех, сыплюцца жарты, і спакойна, весела свецяць вочы — Кунегін зноў напагатове. Была ў Кунегіна адна дзіўная прывычка. Пасля гарачай справы, пасля боек і расстрэлаў замыкаўся ён дзе-небудзь у пакоі адзін і, не выходзячы, нешта пісаў. Пісаў шмат, пісаў з захапленнем і, нязменна, скончыўшы пісаніну, паліў напісанае ў печы. Ніхто не ведаў, пра што пісаў Кунегін.

Толькі пасля гэтага яшчэ больш яснелі вочы яго, яшчэ прамяніcцей рабілася ўсмешка. І тады ўсе як бы забываліся пра непрыхільнасць да яго. Некалькі вечароў тады ў атрадзе — гулянка. Граюць на гармоні, скачуць, пяюць, і першы ўсюды Кунегін. Русыя чуць-чуць вітыя валасы, чысты твар, на лобе толькі прарэзаны шабельны шрам, чуць згорблены стан — усё гэта прыцягвала да яго ўсіх дзяўчат, з якімі даводзілася спаткацца. Але Кунегін і ад дзяўчат трымаўся воддаль. Нягледзячы ні на што, не мог Кунегін выбрацца з сваёй ракавіны, і, па сутнасці, ніхто не ведаў, чым і як жыве Кунегін. Праўда, ніхто і не стараўся даведацца...

### II

Трынаццатая ноч была цяжкаю для атрада. У гэту ноч раптоўна і ціха напалі бандыты. Невялічкая частка атрада з Рынейкам і Кунегіным прабілася была скрозь нападаўшых да лесу. Кунегін жвава адстрэльваўся ад насядаўшых бандытаў. Але ў апошні момант, калі заставалася яшчэ некалькі крокаў да лесу, нешта моцна ўдарыла ў плячо Кунегіну, перад вачыма пайшлі чырвоныя і чорныя кругі, усё кругом паплыло ў чырвоным тума-

не. Падаючы, яшчэ пачуў Кунегін, як крыкнуў нешта Рынейка, як з лесу загрымелі выстралы. Кунегін страціў прытомнасць...

Кунегін не чуў, як яго паднялі нейкія людзі і кудысьці панеслі. Не чуў, як рабілі яму перавязку. Зрабілася прыемна і цёпла. Перад вачыма паплылі нейкія невыразныя малюнкі, абрыўкі даўно пражытага і забытага...

.........................................................................................................

Вось брат — старэйшы на год і любімец усёй сям'і, калісьці спрачаліся з братам — хто лепш? Шарлёта Кордэ ці забіты ёю Марат.

— Ты, Валянцін, недарэчнасць кажаш, — пераконвае брат.— Шарлёта Кордэ — гэта вобраз гераічнага французскага дваранства, гэта змаганне вялікіх традыцый з агідным, асцервянелым тэрорам. Ты сам дваранін і павінен гэта адчуваць...

Але Валянцін ніколі не згаджаўся з братам.

— За гэтым тэрорам гістарычная праўда. Калі мы — будзем трымацца сваіх традыцый, мы застанёмся ў хвасце чалавецтва і, калі хочаш, забойства Марата — гэта расправа дэгенерата над прарокам...

Брат зняважліва крывіўся...

— Прарок!.. Ха-ха-ха...

— Хто гэта рагоча? Гэта брат? Не — гэта нейкі завіты, у дзіўным адзенні чалавек. Ён не адзін. Іх двое, трое — колькі іх? І ўсе крыўляюцца, рагочуць, скачуць кругом Кунегіна.

— Прарок! Ха-ха-ха!

...І вось перад вачыма кволая постаць жанчыны... бялявыя кудзеркі вакол твару Мадонны... Галя... У Галі былі такія ж.

А можа, гэта і ёсць Галя... Яна маніць яго, кліча да сябе, працягвае рукі... Туды, да яе... І Кунегін прабіраецца праз натоўп... Ужо блізка, яшчэ пару крокаў.

Што гэта? Галі няма, а замест яе на перавернутай бочцы стаіць брудны, абадраны блюзнік. На ім шапка з трохкаляровай кукардай і трохкаляровая істужка цераз плячо. Ён махае цяжкаю стрэльбаю і крычыць:

— Грамадзяне, бацькаўшчына ў небяспецы. Здраднікі наклікалі на Францыю сваякоў аўстрыячкі. Разам з імі ідуць браты тырана, каб адабраць ад нас нашу вольнасць...

Ха-ха-ха!.. Ды гэта ж зусім не санкюлот. Гэта Рынейка. Гэта Рынейка на мітынгу гаворыць і задорна ківае падранаю папахаю з чырвонаю зоркаю... Кунегін нават добра помніць яго словы.

— Мы ніколі не выкінем з нашых шэрагаў таго, хто шчыра стаў на наш бок, хто зразумеў, што будучыня за рабочым класам.



Чорны туман расплываецца, і ў ім вырысоўваецца белы чатырохкутнік вакон. Гэта пакоі Кунегіна ў горадзе. Кунегін сядзіць на скрыпучым зэдліку. Вечар. На небе загараюцца зоркі. Іх усё болей, яны растуць, растуць, набліжаюцца, усё запаўняюць сабою, душаць...

— Паветра, паветра!

.........................................................................................................

І вось зноў усё знікае, і Кунегін стаіць адзін сярод шырокага зялёнага лугу, усыпанага сінімі і жоўтымі кветкамі. На самым краі лугу, там, дзе ў чаротах сталёвым люстрам выпрасталася рэчка — Галя... Яна ў небяспецы, яна кліча на дапамогу, і Кунегін зараз выратуе яе. Але на другім канцы, каля лесу, ужо разгортваецца строй чырвонаармейцаў, і ўжо ляскаюць выстралы ў лесе, і ўжо Рынейка вострым поглядам аглядае байцоў і не бачыць Кунегіна. Але маўчыць Рынейка... Галя кліча на дапамогу... Куды пайсці?.. І, на бягу выхватваючы наган, бяжыць Кунегін да лесу... Там справа, а Галя — гэта дробны каменьчык на дарозе... Кунегін бяжыць са ўсіх сіл, — вось ужо блізка, блізка... Нешта крычаць чырвонаармейцы, але раптам зямля расступаецца пад нагамі і Кунегін ляціць у бяздонне... Ён чуе яшчэ, як крычыць Рынейка:

— Мы заўсёды даём месца ў нашых шэрагах тым, хто змагаецца за нашу справу...

І ўсё ахутваецца чорнаю імглою.

Два чалавекі ўслухоўваліся ў адрыўчатыя словы Кунегіна. І, калі ён змоўк, ніжэйшы з аблягчэннем уздыхнуў.

— Ну, здаецца, крызіс скончыўся. Хворы супакоіўся і, мабыць, пачне выздараўліваць.

Вышэйшы адказаў:

— Вельмі добра. Заўтра пабачым, што з ім рабіць далей.

І выйшаў.

## III

У вочы Кунегіну ўдарыў шырокі сноп сонечных праменняў. Кунегін хацеў падняцца, але востры боль у плячы і ў калене прымусіў яго адмовіцца ад спробы. Тут толькі заўважыў Кунегін, што ён ляжыць на ложку ў светлым невялічкім пакоіку і што ў пакоіку ёсць яшчэ нехта. Высокі, з невялічкаю бародкаю і чарнявымі валасамі чалавек стаіць ля вакна і сочыць за Кунегіным. Кунегін не бачыць яго твару як належыць, — увесь

твар расплываецца нейкімі адценнямі, але здаецца Кунегіну, што недзе раней бачыў ён падобны твар, бачыў недзе...

І чуе Кунегін голас, знаёмы голас...

— Нарэшце ачуняў... — Чалавек падыходзіць бліжэй.

— Ну, Валянцін, як адчуваеш сябе?

— Гэты твар, гэты голас...

— Мікола?.. Брат...

— Бадай што і брат... Значыць, пазнаеш? Погляды братоў скрыжаваліся, і здалося Валянціну, што апошні раз бачыліся яны не тры гады таму назад, а толькі ўчора. І што нічога не было пасля тае апошняе гутаркі ў роднай хаце з бацькам, з братам...

— Дык як жа адчуваеш сябе... таварыш Кунегін, — паўтарыў Мікола, іранічна падкрэсліваючы слова «таварыш».

— Дзе я... І ты... Што гэта ўсё значыць?.. — Мікола ўсміхнуўся.

— Дзе ты?.. У мяне ў гасцях... Хто я?.. Палкоўнік Дарашкевіч... Гэта мой, так сказаць, псеўданім... На ўсякі выпадак... Магу і далей паінфармаваць цябе. Мае малайцы маласць пакалацілі вашых разбойнікаў. Цябе ранілі, ды яшчэ пашанцавала табе і нагу звіхнуць. Я выпадкова наткнуўся на цябе і ўзяў з сабою. Стараўся выхадзіць, каб як-небудзь па душам пагаварыць... Ну, вось і ўсё. Гэтага на першы раз даволі...

Мікола накіраваўся да дзвярэй. На парозе абярнуўся:

— Часу ў нас яшчэ шмат будзе. Пагаворым. Зараз прышлю табе лекара нашага.

І выйшаў.

У пакой увайшоў нізенькі, таўставаты чалавечак. Па выгляду — нешта накшталт вясковага фельчара. Ні слова не кажучы, падышоў да Кунегіна, дзелавіта выслухаў пульс і пачаў мяняць перавязку. Скончыўшы справу, кінуў:

— Ляжыце спакойна, не варушыцеся. Рана пачынае гаіцца... Абсалютны спакой...

Застаўшыся адзін, Кунегін пачаў збіраць абрыўкі думак і ўражанняў... Бойка перад лесам, рана, голас Рынейкі... Што з таварышамі? Якім чынам папаў сюды Мікола?.. Што ён хоча рабіць?.. Але думкі блыталіся, абрываліся малюнкі, і Кунегін ніяк не мог уявіць сабе, што і як здарылася і што будзе далей. Ахапіла лёгкая змора, і хутка Кунегін зноў заснуў...

Увечары, калі заходзіла сонца, па падлозе расплываліся чырвоныя палосы паміраючага свету, адбіваліся на белых сценах, у люстры... Праз вакно відаць было кавалак лілёвага неба з выразнымі каптурамі хмарак. Кунегін не варушыўся на ложку, не слухаў нават, што гаворыць брат, ходзячы вялікімі крокамі па пакоі. Думкі недзе далёка-далёка. Мо пра Галю? Не. Міма, міма. Бацькаўская хата? Не, не, міма. Вось шэры брудны гарадок, і там, на вуліцы Ласаля такі знаёмы двухпавярховы чырвоны будынак. Вось і Рынейка, усе таварышы... Што робяць яны цяпер? Ці помняць пра яго, пра Кунегіна. Мабыць, думаюць цяпер, што яго ўжо даўно і следу не засталося, што ваўкі да касцей абгрызлі яго... Эх, каб зараз перанесціся туды ды расказаць усё, ды на чале атрада зрабіць новую аблаву... Э-эх!..



І раптам пачынаюць уліваццa ў вушы словы брата.

— Дык вось, па шчырасці табе прапаную і апошні раз: апамятайся. Усё роўна жывым адгэтуль не выйдзеш. Але каб падумаў... Што табе бальшавікі?.. Сват там у цябе ці брат?.. Ні ты ім, ні яны табе...

І малюецца ў вачох Кунегіна яго праца. Чужы — за чужую справу. І стала гэта чужая справа сваёю, блізкаю, роднаю.

0, гісторыя не спыняецца. Хто адстае — рызыкуе папасці пад яе вялізарныя колы. А гісторыя — гэта жыццё і харaство...

І ўжо ніякага ўплыву не робяць словы брата:

— Калі станеш працаваць з намі, табе даруюцца ўсе твае ранейшыя злачынствы...

Кунегін паволі паварочвае галаву:

— Ты... гэта што мне прапануеш?.. Ты ведаеш, што я сваімі рукамі забіваў за здраду?.. Ты... вырадак...

Кунегін закашляўся. У грудзёх кіпела нешта, хацелася ўзяць за горла і задушыць высокага чужога чалавека. Кунегін падняўся на лакцёх.

— Ты... бандыт!.. Як ты смееў, здраднік, гаварыць мне гэта... ублюдак. Ты ставіш перашкоды тым, хто лепш за цябе ўмее жыць, і ты... ты пасмеў...

Сілы пакінулі Кунегіна, і вачыма, поўнымі нянавісці, упіўся ён у вочы брата. Той памаўчаў.

— Та-ак... Знача, дарэмна толькі час патраціў... А спадзяваўся.

І выйшаў, хлопнуўшы дзвярыма.

## IV

Трэцюю ноч не спіць Рынейка. Трэцюю ноч ад вёскі пасоўваецца атрад цяжкімі начнымі пераходамі. Тая ноч, калі загінуў Кунегін, дарма не прапала. Улавіў Рынейка след асцярожнага ворага і цяпер паволі сціскаў яго жалезным неразрыўным

кальцом. Ужо расстаўлены кардоны па ўсіх кутках па ўскраі лесу. Цяпер яшчэ пераход, і нікуды не выслізне банда.

Не спіць Рынейка трэцюю ноч. Глыбока запалі вочы, бровы навіслі, але не гнуцца плечы, і мускулы не слабеюць. Паўстае перад вачыма страшная тая ноч, калі скрозь кальцо ворагаў прабраўся Рынейка з дзесяткам чырвонаармеўцаў у лес. З вялікім трудом прабраўся ў горад. Расказаў пра ўсё: і пра тое, як загінуў Кунегін на вачох у яго, і як балюча яму, старому байцу, што дапусціў неспадзеўны напад... Моўчкі слухаў апавяданні Рынейкі старшыня надзвычайнай камісіі. І, выслухаўшы, сказаў:

— Дарэмна бядуеш, Рынейка. Шкода Кунегіна, адзін з лепшых работнікаў быў. Шкода і ўсіх загінуўшых. Але ж не вернеш таго, чаго няма. Трэба справу рабіць. А справа не ў Кунегіне. Зараз жа трэба новы атрад сабраць і аблажыць увесь раён. Па гарачаму следу лягчэй будзе злавіць... Каму толькі даручыць?..

Адразу металічным бляскам наліліся вочы Рынейкі.

— Таварыш начальнік!.. Калі я прамазаў раз, дык гэта нікому не дае права зняважыць мяне. Здаецца, ніколі і нічым не абмануў я твайго давер'я... Пашлі мяне радавым у гэты атрад, я хачу разлічыцца... за Кунегіна разлічыцца...

— Так... Шкода Кунегіна. Прыйшоў да нас з чужога стану і стаў нашым... За нашу справу і загінуў... Шкода Кунегіна.

Так сказаў начальнік. Відаць было, аб нечым раздумваў і гутаркаю стараўся захаваць гэта раздум'е ад Рынейкі...

І вось трэцюю ноч сціскае Рынейка жалезнае кальцо вакол варожага гнязда. Байцы ўсе змораныя. Кожнаму хацелася б адпачыць хаця на гадзінку. Але ведаюць усе, куды ідуць, ведаюць пра смерць таварышаў. Недарма на мітынгу перад выступленнем гневам гарэлі вочы і цёмныя цені блудзілі па тварах. Маўчалі ўсе, але кожны ў сабе затаіў вялікую крыўду.

Вобмацкам пасоўваецца атрад паўз дарогу. Гуляе асенні вецер, заглушае асцярожныя крокі, і шырокім вахлярам раскінуліся наперадзе звенні разведкі.

І вось пранеслася па шэрагах каманда:

— Стой...

Нейкія чорныя постаці падышлі да Рынейкі. І вецер уносіў з сабою абрыўкі ціхага шэпту.

— Там... варта вакол усяго фальварка... Праз балота, мабыць, ёсць выхад, але варты там няма... Зняць варту пры дарозе...

Яшчэ цішэй перадалася каманда, і вось пачалі адрывацца ад атрада невялічкія купкі людзей і знікаць у цемры паабапал дарогі. Вось і не засталося нікога на дарозе...



Ціха, ціха ў полі. Вецер шуміць толькі, узмятаючы адзінокія лісты.

Недзе там, у цемры, спіць адзінокі фальварак. Не відаць у ім гаспадароў. Ні свету, ні гутаркі. Прытаіўся фальварак і маўчыць. І поле маўчыць перад ім...

І раптам аднекуль выстрал... Як рэха, данёсся другі, трэці... Ажыў фальварак... Заляскалі дзверы... Галасы трывожныя...

Адстрэльваюцца з фальварка. Але ўсё бліжэй выстралы з поля. І ўжо барабаняць кулі па дахах і звіняць выбітыя шыбы.

Вось з аднаго вакна, што выходзіць у сад, паказалася нейкая белая постаць. Асцярожна зірнула па бакох і пачала спускацца ў сад. Але з-за вугла высунулася другая постаць — чорная. Яшчэ момант — белая і чорная сышліся, спляліся ў моцных абдымках і паваліліся на зямлю. І потым паднялася чорная постаць, размахнулася нечым, і пачуўся страшны крык і нейкі глухі трэск — усё роўна як гарбуз разбіць аб камень... А выстралы не змаўкаюць.

Што там за цені крадуцца праз сад?.. Там, за садам — балота, і не чуваць страляніны там...

З-за будынка выскакваюць чорныя фігуры са стрэльбамі ў востраканечных шапках. У руках у аднаго палаючая паходня...

— Стой, таварышы! Там наша засада — не ўцякуць...

Нешта белае ляжыць ля сцяны. Падыходзіць туды чалавек з паходняй, нагінаецца і становіцца на адно калена...

Не можа Рынейка не пазнаць гэтага твару. Лёгкая ўсмешка на вуснах, і вочы застыглыя, і шабельны шрам на лобе. Толькі валасы — русыя і чуць-чуць вітыя — змяшаліся з крывёю. І на скроні глыбокая свежая яшчэ рана, і чэрап праламаны наскрозь... Стаіць Рынейка над застываючым белым целам, і цямнее яго твар, і ўскіпаюць чорным бляскам вочы...

Паволі паднімаецца Рынейка, і ўжо нічога не відаць на яго твары — ні гневу, ні роспачы...

*[1927]*

# УЛАДЗІМІР ХАДЫКА

Паэт Уладзімір Хадыка нарадзіўся 21 снежня 1904 года (3 студзеня 1905 года) ў вёсцы Цітва Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер Пухавіцкі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і, у якой было 9 дзяцей. Пазней Хадыкі перабраліся ў мястэчка Дудзічы, радзіму бацькі. У. Хадыка скончыў Дудзіцкую школу, агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску (1923), працаваў настаўнікам пачатковых класаў. Пасля службы ў арміі (1926–1927) быў сакратаром Дудзіцкага сельсавета, арганізаваў там літаратурны гурток, мастацкую самадзейнасць. Сам увайшоў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», удзельнічаў у яго першым з'ездзе (лістапад 1925).

З 1926 года вершы маладога паэта пастаянна друкуюцца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. У гэтым жа годзе выйшаў яго першы зборнік паэзіі «Суніцы», вершы якога прасякнуты радасцю жыцця, светлымі пачуццямі любові да радзімы, душэўнай узнёсласцю.

У паэзіі У. Хадыкі, як адзначаў Варлен Бечык, «найперш важна і дорага для нас паэтава шчырасць, маральная чысціня, душэўная самааддача і нават ахвярнасць, з якімі ён шукае, знаходзіць і абараняе свае жыццёвыя і творчыя прынцыпы, грамадскія і эстэтычныя ідэалы. Вершы паэта насычаны перажываннямі, у якіх рознабакова адбіліся і яго ўласныя няспынныя пошукі і хістанні, і сама рэчаіснасць, што паклікала паэта да творчасці, — зменлівая, складаная, супярэчлівая...».

З асаблівай цеплынёй і павагай ставіўся да У. Хадыкі Янка Купала, які заўсёды падтрымліваў маладыя таленты. Захавалася яго жартоўная эпіграма «Валодзю Хадыку» (1934):

Хадыка хадыкае,  
дыбае,  
Сто вершаў задумністых  
выбаяў...

У адказ Янку Купалу малады паэт напісаў верш «Ад сэрца»:

Я рад зразумелым быць свету,  
Дзе даль ледзяная адтала...  
А што не ўдалося дагэтуль, —  
Прабачце мне, Янка Купала...



Многае не ўдалося здзейсніць паэту за сваё кароткае жыццё. Яго творчы разбег быў спынены на самым пачатку. Аднак і тады яго вершамі захапляліся не толькі шматлікія слухачы, перад якімі даводзілася паэту выступаць у многіх паездках па краіне. Незвычайны паэтычны талент у Хадыку заўважыў і вядомы рускі паэт М. Асееў, які ў сваім выступленні на трэцім пленуме праўлення СП СССР, што адбыўся ў Мінску ў лютым 1936 года, гаворачы пра набыткі савецкай паэзіі, высока ацаніў мастацкія пошукі маладога беларускага паэта. Гэта была вялікая маральная падтрымка У. Хадыку, які з канца 1920-х гадоў, як і многія іншыя беларускія паэты, абвінавачваўся крытыкамі-вульгарызатарамі ў «ідэалагічных хібах» і буржуазным нацыяналізме. Але ўсё ж нядобрыя прадчуванні не пакідалі паэта:

Ўзнімае ноч свой чорны вэлюм  
Перад вянком маіх трывог...

У. Хадыка паспеў выдаць толькі тры зборнікі вершаў — «Суніцы» (1926), «Выбраныя вершы» (1932) і «Радасны будзень» (1935), а таксама перакласці і апублікаваць на беларускай мове творы рускіх пісьменнікаў У. Бахмецьева, М. Горкага, М. Шолахава (раман «Ціхі Дон»).

26 лістапада 1936 года У. Хадыка быў арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 10 гадоў зняволення. Яго выслалі спачатку ў канцлагер «Нова-Іванаўка» Кемераўскай вобласці, потым у каменяломні Новасібірскай вобласці. С. Шушкевіч, які разам з ім адбываў высылку, расказаў у сваіх успамінах пра жудасны канец У. Хадыкі, які загінуў 1 ліпеня 1940 года, раздушаны каменнай глыбай. Было тады яму толькі 35 гадоў.

* * *

Пры дарозе, дзе жоўтыя травы  
Павуціннем акрыты і пылам,  
На касцях сваёй зрынутай славы  
Памірае варожая сіла.

Пры даліне за дальняю рысай  
І лясоў і балот вершаваных, —  
Месяц топчацца біскупам лысым,  
І палошчуцца рызы ў туманах.

Добры ветрык, сукаючы кужаль,  
Вывучае вякоў альфабэту,

Каб аславіць, чытаючы дужа,
Раніцовыя вершы паэта.

Дрэва мудрасці вечнае ў слове
Не гніе пад пяском і вадою...
Напішу я такую аповесць,
Хай сівой абрасту барадою.

На зямлю, на былую чужыну,
Упаду хай расчуленым дзедам, —
Каб пайсці ў залатую краіну
Вандраваць неправедзеным следам.

*1927*

## СНАПОК АЎСА

Мне сказала маці: выжні
Ты цялятам асакі...
Калыхаўся ціха здрыжнік
Ля блакітнае ракі.

Мне сказала маці: туга
Натапчы і прынясі...
Гаманіла неба з лугам,
Гаманіла з лугам сінь.

Маці мне сказала: ў хату
Ты астатняе усып...
Жалі ў полудзень дзяўчаты
Недажатыя аўсы.

Па балотах і аблонях
Я зялёнага шукаў...
Сенажаці збілі коні,
І пасохла асака.

Па дарозе невядомай
Беглі кветкі і раса...
І да матчынага дома
Я прынёс снапок аўса.

*1927*



* * *

Прысядзем, ночка, на траве,
Прытулімся бліжэй к каліне.
Ідылія мая плыве,
Ідылія мая не гіне.

Я помню і дагэтуль твар
І вочкі ў кудзерках заспаных...
Яна была — суладдзе мар,
Яна з лілей была саткана.

Бывала так: вясна гарыць,
І сэрца, чулае ў надзвычай,
Умела ведаць, што з гары
Яго увечары пакліча.

Я многа выпалатых дум
Кідаю па бярозках рэдкіх
І (блудам выпіты) іду
К табе пагутарыць, суседка.

Мне хочацца цябе адну
Туліць цяплом вясновай былі
І ладзіць чыстую струну
Ў страі малюнкавых ідылій.

Мне хочацца, краса мая,
З табою піць расу пялёстак,
І каб і ты была, як я, —
Непараўнанаю і простай.

*1928*

## ГУДУЦЬ СЛУПЫ

Гудуць слупы. На небе жменька зорак.
Калыша вецер над ракой вярбу.
Заспаны месяц выйшаў на пагорак
З кавалкам хмар пуховых на гарбу.

Я прывітаў яго знаёмым словам,
Сціскала шапку кволая рука...
Ішоў сюды яшчэ хлапцом вясковым
Я дум жывых і чыстых кроз шукаць.

Вяла у даль суровая дарога.
Завеі лютыя збівалі след.
Цяпер жыву, удумлівы і строгі,
Як песень-зор лірычнейшы паэт.

На кола дзён, заходлівы і шчыры,
Кладу сваю пяснярскую душу.
З сяброў сваіх я самы сціплы лірык,
Ў кішэнях вершаў нават не нашу.

Агнём жыцця я слаўлю шумны горад —
Пад звон зары, пад спеў гуллівы бур...
Гудуць слупы. На небе жменька зорак.
Калыша вецер над ракой вярбу.

*1929, 1932*

* * *

Абрысы старадаўняй пушчы,
Святую смагу баек там
Нутром на попел ператрушчу,
Змяшаю з друзам папалам.

Ўскапаю дзедаўскі дрывотнік,
Па каліву перабяру...
І што не змог народ нямотны, —
Я да канца дагавару.

Праз грані дум прайду у негаць
Прыгонных продкаў, курных хат...



За ўласным ценем мне не бегаць,
Не зводзіць вершамі дзяўчат.

Залёты, што былі дагэтуль,
Пазбаўлены свайго кутка...
Прыдумаць дружыну паэту
Цяжэй, як вобраз для радка.

Не схілены на ласку, сорам
Замрэ ў ладах натхнёных струн, —
Тады ніякім загаворам
Не збыць паэзіі каўтун.

Дык лепш змагацца з невядомым,
Ісці благому насустрэч.
Я сон знайду, я буду дома,
Як спыняць рух вужакі рэк.

Зляту на сухазем’е лістам —
Ўладар начэй і дзён ўладар.
Вятры па горле галасістым
Прагоняць вір крыві і хмар.

Тады сваіх здабыткаў кайстру —
Што не дабраў, што стойваў сам, —
Я перадам другому майстру,
Другому сэрцу перадам.

*1932*

* * *

Зор ранніх знікла дыядэма,
І вільгаць прапаўзла праз скронь:
Заместа дроў бярэмам стрэмак
Да сонца я трымаў агонь.

Згрызоце патушыць карцела,
Чаго не сходала спярша...
Балела сколатае цела,
І радавалася душа.

Пакінула старая мода
Ад прыцемак вадзіць дзяды.
Апошнім пройдуць веснаходам
Мае наступныя сляды.

Ўстрывожу, прывяду да ладу
Спрытомненую смагу дзей.
Губляць ключы за лістападам
Вятроў гусінай чарадзе.

На золаку плывуць не сцежкі,
Мінаючы асенні крок, —
Сплываюць светлыя усмешкі
З маршчыністых узгоркаў шчок.

*1932*

* * *

Учора вецер біў у дзверы,
Злавала ноч і дождж ішоў.
Прасіў узгоркаў мокры чэрап
Бярозавых капелюшоў.

Ад прудкасці гарэлі рамы,
Хрыпелі сцены хат старых.
На варце прошлай панарамы
Цьмянеў ланцуг гарадавых.

Вітала горада прадмесце
Мудрэйшая з мудрэйшых хэнць:
За матку боскую — двадзесце,
За маршала — двадзесце пенць...

Учора смерць была, як тэма,
Як жаль, рыдалі хмызнякі.
І адцвіталі хрызантэмы,
І нараджаліся ваўкі.

Труною тхло ад панскай цноты,
Як ад радкоў плюгавых строф...
Замежным кашлем кулямётаў
Канаў расійскі Саваоф.



З ражна разбітай райскай брамы
Звісаў архангела шкілет.
І быў жывым малюнкам драмы —
Раздзёрты напал эпалет.

*1932*

* * *

Уласніцкіх двароў эдэмы
Аплакала варон сям'я.
Пішу, як план сваёй паэмы,
Вясёлае пасмерце я.

Не літары, а д'яблы пекла —
Растуць і коцяцца ў радок.
Каб словамі, як шабляй, секла
Старога ходу перадок.

Каб точаным лязом метафар,
Прыняўшы дум маіх прамень,
Перада мной хадзіла шафа,
Як перад сонцам ходзіць дзень.

Узняты казкай залатою,
Ён стаў на шлях, каб лад дабраць —
Абшар, усланы здыхатою,
Пад пыл стагоддзяў заараць.

Тут права росквіту нядаўна
Цераз апошні ўзята бой.
Зямлі, як дзеўцы, спанараўна
Мець свежы выгляд, новы крой.

Вясёлай песні спадарожнік,
Глядзіць праз сэрцы нашы час, —
Як добра, заўтрашні заможнік,
Расце і дужае калгас.

*1931*

* * *

Вецер лётае, вецер гойсае,
Вецер ўвечары будзіць быль..
Мая дзіўная бегла босая,
Бегла босая на кадрыль.

Плот і весніцы. Хаты сонныя.
У небе досвіткі. У сэрцы рань.
Ночка бегала, як палонная,
Мітусілася, нібы здань.

Гумны шасталі, пелі вішнямі —
Спевы вабілі жыць і жыць...
Былі кволымі, былі лішнімі
Словы вострыя, як нажы.

Толькі мне тады сінь русалкаю
Усміхалася у трысці,
Толькі мне тады за заранкаю
Так хацелася ў даль брысці...

Над уцехамі і над крыўдамі
Зоры лёталі і цвілі...
Мы кахаліся, мы і кідалі,
А сустрэўшыся — зноў ішлі.

Мая дзіўная біла ножкамі
Краскі росныя і траву...
Дні разбегліся між дарожкамі,
Марам здрадзілі і жніву.

Вось затым было над балотамі,
Мусіць, гэтулькі і журбы...
Вецер гойсае, вецер лётае,
Вецер ўвечары будзіць быль.

*1927*



* * *

Пад сталом злавіла кошка мыш,
Хруст касцей напоўніў морак хаты.
Нейк модна ты ў акно глядзіш,
І настрой твой выдаўся — пракляты...

Кропка гледжання была твая —
Сумаваць за садам кожны вечар.
А цяпер (ў чаргу) сумую я...
Хто ж мяне (гаротнага) палечыць?

Не хачу цябе агітаваць,
Знаеш ты, чаго мне варты мітынг.
У цябе таксама галава, —
Каго хочаш слухай і любі ты.

Да сяброў хацела — дык ідзі, —
Думаеш, шукаю я ахвяры?
І з табой ўсё роўна я адзін,
Розных душ суладдзе — толькі мары.

Пойдзеш ты, напэўна, праз раку:
Паглядзі ў люстэрак роднай плыні...
Некалі давала ты руку,
Што не здрадзіш ў нашай пуцявіне.

І тады я ведаў гэту... быль,
Я даўно слоў звонкіх знаю таннасць...
...Прашумелі ў досвітках дубы
Бедны верш пра шчырую адданасць.

У сэрцы смех тугой не апавіць
І напорнасць думак не расплёскаць.
Не затым гарэць агнём крыві
Расцвіталі раннія пялёсткі.

Не затым да зор ішлі і мы,
Каб стаяць на сходках прошлай раты...
...Пад сталом злавіла кошка мыш,
Хруст касцей напоўніў морак хаты.

*1928*

# ПАЎЛЮК ШУКАЙЛА

Паэт, празаік, крытык, актыўны дзеяч літаратурнага руху 1920–1930-х гадоў Паўлюк Шукайла нарадзіўся ў 1904 годзе ў вёсцы Лапенеўцы Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Бераставіцкі раён Гродзенскай вобласці). Пасля заканчэння школы прымаў удзел у грамадскім жыцці Заходняй Беларусі, быў членам КПЗБ. Як і многія вядомыя беларускія дзеячы, паверыўшы, што ў Савецкай Беларусі будуецца сапраўдны беларускі дом, П. Шукайла нелегальна перайшоў мяжу. Жыў спачатку ў Слуцку. Быў рэдактарам акруговай газеты, наладжваў літаратурныя вечары, сустрэчы з пісьменнікамі, заўсёды выступаў на іх сам. Таленавіты беларускі паэт Рыгор Крушына ўспамінаў: «На сцэну выходзіў малады, шыракаплечы дзядзька ў беларускай вышыванай кашулі. Яму было тады ўсяго 20 год, але ён выглядаў значна старэйшым. Ільвіная грыва русых валос надавала шырокаму твару мужнасць і паважнасць. Сваім паэтычным выглядам і мастацкім чытаннем Паўлюк Шукайла прыцягваў увагу аўдыторыі. Ён умеў дэкламаваць і драматызаваным голасам перадаваў пачуццёвы настрой прысутным. Ягоныя выступленні заўсёды суправаджаліся бурнымі воплескамі. Тэматыка ягоных вершаў была рэвалюцыйнай. Ён пісаў пра змаганне з польскімі панамі, пра гераізм у Заходняй Беларусі, пісаў пра тое, што было асабіста ім перажытае. Ён ад 16 год быў змагаром-партызанам, верыў у светлую будучыню свайго народа І калі яму ўдалося перабрацца ў Саюз, ён усю сваю кіпучую энергію ўліў у грамадскую справу. Парабелум ён змяніў на пяро. Былы партызан стаўся пісьменнікам, сябрам «Маладняка»...»

Са Слуцка П. Шукайла пераехаў у Расоны, дзе працаваў сакратаром райкама партыі, спрыяў Полацкай маладнякоўскай філіі, быў старшынёй камісіі па беларусізацыі ў Расонскім раёне.

Першыя вершы надрукаваў у 1925 годзе ў часопісе «Малады араты» («Братам-беларусам», «Вясковыя плеткары», «Чуй, Беларусь», «Тым, хто ў няволі» і інш.). З 1926 года вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні БДУ.

П. Шукайла быў асобай яркай, артыстычнай, лічыўся першым беларускім футурыстам. Ён заўсёды імкнуўся нечым вылучыцца — і ў адзенні, і ў творчасці. Паводле ўспамінаў Я. Скрыгана, які працаваў разам з ім і ў Слуцку, і ў Расонах, «Шукайла вельмі хацеў паказаць, што ўсе мы, тутэйшыя маладнякоўцы, самыя чыстакроўныя футу-



рысты. Сам сябе ён лічыў правадыром новай плыні ў маштабе ўсяго «Маладняка»... і заяўляў, што мы ломім усе старыя літаратурныя традыцыі і каноны, робім і літаратуру новай рэвалюцыйнай фармацыі, і, каб давесці гэта практычна, пачаў чытаць свае вершы, напісаныя і папраўдзе так, што ў іх разбуралася і ўся рытміка, і ўся прывычная free вершаваная форма...».

Пераехаўшы ў Мінск, ён стварыў новае літаратурнае аб'яднанне «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна», выдаваў часопіс «Росквіт» (выйшла ўсяго два нумары). Акрамя вершаў П. Шукайла пісаў празаічныя творы, друкаваў іх у часопісах «Наддзвінне» (1926) і «Полымя» (1929). Ён аўтар аповесці «Бацька Булак-Балаховіч», рукапіс якой не захаваўся (верагодна, быў арыштаваны разам з аўтарам і трапіў пад «Акт о сожжении»), пісаў п'есы («0001 адна ноч на пошце: не казка, а трагібыль у дзвюх частках з тлумачэннямі»), фельетоны. Выступаў і як крытык — у артыкуле «Літаратурнае сёння» папракаў сваіх сучаснікаў-паэтаў у тым, што яны ствараюць «чыстае мастацтва», «мастацтва для мастацтва», а не адлюстроўваюць вялікія рэвалюцыйныя пераўтварэнні; «Людзі і быдла: Пра паэзію, мазгі і аб людской прыказцы — «не стрымаеш таго, што ўцякло...» і інш.

У 1928 годзе П. Шукайла быў накіраваны ў Камуністычную акадэмію (Масква). Затым працаваў загадчыкам кафедры ў Інстытуце кінематаграфіі (1930–1931), рэдагаваў маскоўскую газету «Кино», кіраваў Беларускай секцыяй Маскоўскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў, быў дырэктарам тэхнікума тэатральнага мастацтва. Не спыняў літаратурнай дзейнасці, пісаў вершы і паэмы, якія друкаваліся ў беларускіх газетах і часопісах, выдаў кнігу паэзіі «Акрываўленая зямля» (1930). Вядома, што шукайлаўскія радкі «На Беларусі вада з крыві, палеткі з курганоў і крыжоў» былі ўзяты М. Зарэцкім эпіграфам да рамана «Крывічы».

У 1930 годзе П. Шукайла быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі», але змог адбіцца ад усіх абвінавачванняў, і яго вызвалілі з турмы. Пераехаў у Ленінград і 4 гады (1932–1936) працаваў віцэ-прэзідэнтам Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, яму было прысвоена званне прафесара. У 1936 годзе зноў пераехаў у Маскву, дзе працаваў пісьменнікам-сцэнарыстам на кінафабрыцы.

У лістападзе 1938 года П. Шукайла быў паўторна арыштаваны. Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР прыгаварыла яго да вышэйшай меры пакарання. 14 красавіка 1939 года ён быў расстраляны на 35-м годзе жыцця.

## ЭХ, ПЕСНІ МАЕ...

Эх, песні мае маладняцкія,
Загудзеце хутчэй,
Весялей!..
Эх, рукі мае заліхвацкія,
Заіграйце на ліры
Мацней!..

***1925***

## ВЕТРУ

Вецер,
чаго ты свішчаш хуліганам
ліжучы хаты вуглы?..
Знаю характар твой п’яны
пахмеллем,
мабыць, заплыў...

Люблю цябе, вецер, ў мяцеліцу,
калі снег зрываеш з зямлі,
мне хочацца
з нагана прыцэліцца,
пачуўшы
свіст твой:
Плі!..

Не сябра мне ты
па маштабу,
дунеш —
і Еўропа слухае.
Я ж у балоце,
як жаба, —
квакаю для вёскі
віславухае.

***1927***



## НА БЕЛАРУСІ…

На Беларусі
вада з крыві,
палеткі з курганоў
і крыжоў.
Хто нож ёй у грудзі
не ўбіў?..
Не плюнуўшы ў твар,
хто пайшоў?..

Адны ішлі,
смяяліся ў вочы,
Шчасце на словах давалі.
З камнем за пазухай
цёмнаю ноччу
труну табе рыхтавалі…

Другія са словам навукі,
бровы «серьезно надвинув»,
гаварылі,
і свет слухаў,
што беларус не чалавек —
быдліна...

Чулі шмат чаго мы, чулі
і на сэрцы таілі.
На слязах
раслі кветкі ў полі,
Мы стагоддзямі йшлі ў магілу...

Прыйшоў час —
паўсталі мы.
І мёртвыя
выйшлі на барыкады.
На шляхах у нас —
агні... агні
у барацьбе за волю
і праўду...

Хто нас прыпыніць,
загародзіць пуцявіну?

Нас мільёны,
наш сцяг —
за волю.
Нам дзверы жыцця
ужо не зачыняць,
не загоняць
у падполле.

Хоць яшчэ квакаюць
жабамі нацыяналісты,
«русацяпы»
каркаюць варонамі.
Беларусь цела
ад іх ачысціць,
высыпаўшы
сталёвымі калонамі.

Яшчэ рэжуць цела Краіны,
за Нёманам
і Дзвіною стогн...
Касцямі ляжам
на пуцявіне,
а трутняў —
з Беларусі
вон!..

*1926*

# ЯНКА ТУМІЛОВІЧ

Паэт Янка Туміловіч нарадзіўся 6 (19) верасня 1905 года ў вёсцы Сяліба (па іншых звестках, у в. Жалін) Ігуменскага павета (цяпер Бярэзінскі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і. Пасля заканчэння БДУ (1927) жыў у Мінску, працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», у Беларускім дзяржаўным выдавецтве, выкладаў гісторыю ў школе. Быў сябрам літаратурнага аб'яднання «Маладняк». У 1927 годзе — адзін з арганізатараў «Пралетарска-сялянскай беларускай літаратурнай суполкі «Пробліск». З 1930 па 1936 год Я. Туміловіч працаваў выкладчыкам Вышэйшай школы палітасветы.

Выступаць з вершамі Я. Туміловіч пачаў з 1925 года. У 1926 годзе разам з Я. Бобрыкам і А. Звонакам выдаў паэтычны зборнік «Ружовае ранне».

З 1929 года свой літаратурны занятак перапыніў у сувязі з рэпрэсіямі, якія пачалі ўжо раскручвацца.

11 кастрычніка 1936 года малады паэт быў арыштаваны органамі НКУС і, абвінавачаны ў тым, што «протаскивал в литературе контрреволюционный троцкизм и нацдемовщину», 21 студзеня 1938 года расстраляны на 33-м годзе жыцця.

## НАЧЛЕГ

Зоркам веснім на небе цесна.
Маладзік, як з'араны лямех.
І ідуць маладыя песні
З вёскі шумнай гурмой на начлег.

І зажмурыла цемра вочы,
І бурчыць устрывожаны гром,
Быццам вёску лапцюжную хоча
У паветра падняць віхром.

Ды вясёла бадзёрым хлопцам.
Скача польку агнёвую лоўж.

Налівае па добрай стопцы
Хмелю весняга зорны коўш.

Цішыня навакол такая!
Халадок хмызнякі трасе.
Чуеш нават, як ранак ступае
Басанож па сцюдзёнай расе.

Ноч у стоме спачыць прылегла.
Смокча першы прамень ваду.
Маладыя песні з начлегу
Гаманлівай ватагай ідуць.

*1925*

### НОЧ ЗАСВЯЦІЛА

Ноч засвяціла заранкамі яснымі,
Лесу журбу за сялом прадала.
Нашы шляхі не засланы апаскамі,
Вочы не засціць сівая імгла.

Хочацца радасці звонкай, крылатае,
Хочацца кінуць у даль маладзік.
Хмеліць аселіца рутаю-мятаю.
Сэрца маё, спадзявайся, ідзі!

*1925*

## ЯЗЭП ПАДАБЕД

Паэт Язэп Падабед нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Ванікоўшчына Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер Пухавіцкі раён). Пасля заканчэння Белпедтэхнікума (1925) працаваў у рэдакцыі акруговай газеты «Наш працаўнік», якая выходзіла ў Клімавічах на Магілёўшчыне. Уваходзіў у літаратурнае згуртаванне «Маладняк», прымаў актыўны ўдзел у працы арганізацыі, уваходзіў у рэдакцыйную калегію альманаха «Маладняк Калінінішчыны».

Дэбютаваў як паэт у 1924 годзе — пад псеўданімам Аркадзь Чабор надрукаваў верш «На сенажаці» ў часопісе «Радавая рунь». Публікаваў вершы, рэцэнзіі і публіцыстычныя артыкулы на старонках часопісаў «Маладняк» і «Полымя». Першы і адзіны зборнік «Вершы» выдаў у 1926 годзе ў «Кніжніцы Маладняка».

Я. Падабед быў арыштаваны органамі НКУС у 1936 годзе. Утрымліваўся ў адным перасыльным лагеры разам з Яўхімам Кіпелем. Далейшы лёс паэта невядомы.

### У ДУБРОВЕ

Дубровы шум шурпаты ў шыр абшараў
Каціўся-плыў прыбоем морскіх хваль.
Шуршалі ў шопаце балот імшары.
Хмялела ў палкай помсце галава.

Як бы дубы кудлатыя, абселі
Паўстанцы масянжовы стог-агонь.
Сыны палёў ячменных і аселіц —
Іх мчаў паўстання раскілзаны конь!

*

Як рассыпанне гонтаў-лёстак, лёскат
Не раніў кулямі далёка шыр.

Хатулек шэрых стада — наша вёска,
Цягучым жалем поўніла каўшы.

— Пабітыя на раны ўсе загоны,
А тут і вораг муляе шчэ карк...
У рог казіны белыя загоняць... —
Бор цёмны слухаў стогны мужыка...

*

— Ісці! Няхай на бель-абрус туманаў
Не лье руччамі вёска срэбра слёз! —
Як волава, упалі словы атамана.
Ніжэй схілілася дзярэў галлё.

Паўстанцаў сэрца непрывычна плаваць
Мяшком надутым на прыліве вод!..
А ноч, у буры гордая, як пава,
Ішла, сачыла зораў карагод...



# ФРАНЦІШАК ГРЫШКЕВІЧ

Паэт і публіцыст Францішак Грышкевіч нарадзіўся ў 1905 ці 1906 годзе ў мястэчку Сухаволя Сакольскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Падляшскае ваяводства ў Польшчы). Закончыў Віленскую беларускую гімназію і літаратурны факультэт Карлавага універсітэта (Прага). У Чэхаславакіі актыўна супрацоўнічаў з часопісам «Slovansky přehled», дзе рэцэнзаваў розныя мінскія выданні. Выдаў зборнік вершаў «Веснавыя мелодыі» (Вільня, 1927). Пасля верасня 1939 года спрабаваў наладзіць беларускае школьніцтва на Віленшчыне. З прыходам немцаў застаўся ў Вільні, быў прызначаны на пасаду дырэктара Беларускай гімназіі, дзе сам выкладаў сусветную літаратуру. С. Чыгрын у кнізе «Вяртанне да сваіх» (Беласток, 1999) прыводзіць успамін колішняй гімназісткі Вольгі Мароз-Давідовіч: «Грышкевіч быў чалавек з магутным інтэлектам, высокай культурай і адначасова сціплы, надзіва лагодны. Яго ўрокі былі незвычайныя, ніякімі канспектамі і планамі ён не карыстаўся, у кніжкі не заглядваў, а толькі расказваў і расказваў. Вучні сядзелі, як ашаломленыя, не прапускаючы ніводнага слова. Мы глядзелі на выкладчыка, як на Бога». У 1944 годзе Ф. Грышкевіч браў удзел у Другім Усебеларускім кангрэсе. У тым жа 1944-м у Вільні быў арыштаваны органамі НКУС і прывезены ў Мінск. Загінуў у Мінскай турме.

## ПЯЛЬГРЫМ

Кароль-пяльгрым ў Зямлю Святую
Аднойчы выйшаў собскімі нагамі.
Калі брыў праз пустыню злую,
Ледзь не загінуў пад пяскамі.
Слабы, галодны і абдзёрты
Зладзеямі ў цяжкой дарозе,
Стаў у Сахары, на кій спёрты,
І крыкнуў небу: «О парозе,
Хрыста святыні! Я магутны
Кароль так слаўны, горды й сільны.
Ці ж я загіну тут, пакутны,

Пясок мне будзе схоў магільны
Без залатой труны й малітвы?
Я — уладар і цар прад днямі!»
Гразіў ён небу кулакамі,
Нібы ваяр ў чаканні бітвы.
Ўспамінам прошласці сагрэты,
Кароль дапяў святое мэты.

*1925*

## З НАРОДА МЫ...

З Народа выйшлі і ў Народ
Мы пойдзем поўны веры...
З народам пойдзем мы ўпярод,
Як верныя жаўнеры.
З Народам мы... Народ за нас...
Пад намі збройны коні...
Ах... годзі спаць!... Ісці ўжо час!...
Араць трэ родны гоні.
Скарэй за плуг, хто жыў і дуж,
Дзяры дзірван палетку...
Нясі святло ў цёмну глуш,
Дай брату шчасця кветку.
З Народам мы!...Хто ж процiў нас,
Хто йдзе супроць Народа.
Каму прамень надзеі згас,
Хто жджэ няшчасця году —
Ах... прэч ад нас!... З народам мы!
Бо дзеці мы Народа:
З Народам церпім мы адны
За Волю і Свабоду.

*[1925–1926]*

## БЕЛАРУСЬ, БЕЛАРУСЬ...

Беларусь, Беларусь, — што за дзіва!
Нейка дзіўная хваля цячэ.
Што Тваіх поль сухая крапіва
Маіх рук маладых не пячэ.



Беларусь, Беларусь, — што за з’ява:
Нейкай з’явы таемнай працяг
Нада мною смяецца крывава
І вядзе на няведамы шлях.

Ах, куды ты вядзеш маладога,
Ты пагана й звадліва мана.
Не пайду!.. У мяне ёсць дарога...
У мяне Беларусь ёсць адна!

На маім беларускім палетку
Расце родны мне мой васілёк:
Я сарву гэту цудную кветку
І ўтаплю ў мае крові паток.

Хай нап’ецца атрутнае хвалі,
Хвалі струтай нявольнай парой...
Й на палетку крывіцкае долі
Хай падзеліцца болем са мной.

І калі на крывавым улонні
Блісне ўжо васілёчкавы цвет,
Я сарву й на алтары Пагоні
Палажу свайго сэрца букет.

Ах, пакінь! Ах, пакінь маладога,
Ты пагана й звадліва мана,
Не пайду!.. У мяне ёсць дарога...
У мяне Беларусь ёсць адна!

*1927*

## МАЛІТВА

Дай жа нам дай
Сілу ў змаганні;
Дай жа нам дай
Моц у трываннi...
Прымі наш зоў,
Нашы малітвы,
Як жаўняроў
З крывавай бітвы.

Дай жа нам дай
Сілу ў змаганні;
Дай жа нам дай
Моц у трыванні —
Хай слабасць нас
Колам абходзіць
І зводны час
Хай нам не шкодзіць.

Пачуй наш зоў,
Нашу малітву,
Як жаўняроў
З крывавай бітвы...
Малю без слоў
Душой збалелай,
Пачуй мой зоў,
Зоў Русі Белай!

*1926*

## КЛІЧ

Як шопат пушчы шэмручы ў аддалі
Трывожыць клетку схопленага льва,
Так шопат Волі ў паветранай хвалі
Трывожыць грудзі, дзе душа мая
Закута скомліць і грызе аковы...
Каб вольным вокам глянуць на свет новы.

*1927*

## КЛЯШТАР

Абвязаны мурам навокал,
Сцямнелы ад процьмы гадоў,
З жалезнымі кратамі ў боках,
З адзнакай турботы слядоў,
Стаіш ты закутаны ў цішы
Лунаючы крыжам у вышы.



Праз браму сталёвую ў боку
Праходзіць тут моладасць ў кель,
З санлівай слязінай на воку
Шчаслівы затраціўшы цэль
І ціха да самай магілы
Чуць з келлі: «Ах, любы, ах, мілы...»

*1927*

# АЛЕСЬ САЛАГУБ

Паэт, публіцыст, літаратуразнавец Алесь Салагуб нарадзіўся 5 (18) кастрычніка 1906 года ў вёсцы Зарудзічы Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці) у сялянскай сям'і. Скончыў Віленскую беларускую гімназію (1927). За рэвалюцыйную дзейнасць двойчы быў зняволены польскімі ўладамі ў турму (1924, 1927). У 1928 годзе нелегальна перайшоў польска-савецкую граніцу, жыў у Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1931). Вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры і мастацтва АН БССР (1931–1933).

Свой першы цыкл вершаў напісаў у 1924 годзе ў турме. Друкаваўся з 1925 года ў заходнебеларускіх выданнях. У Мінску выйшаў зборнік вершаў «Лукішкі» (1929). Шэраг вершаў апублікаваны ў калектыўных зборніках «Сцягі і паходні» (1965), «Ростані волі» (1990). Пра свае вершы пісаў так:

Мае вершы — то гімны надзеі,
Маладняцкага сэрца агонь.
Гэта — песні віхур, шугавеі
Каля чорных астрожных акон...

У газеце «Звязда», часопісе «Полымя рэвалюцыі» змяшчаў артыкулы, у якіх асвятляў літаратурны рух у Заходняй Беларусі і Польшчы. Выступаў таксама і як публіцыст. Часопіс «Полымя» надрукаваў у 1961 г. «Лукішскі дзённік», які паэт вёў у зняволенні.Нягледзячы на тое, што А. Салагуб быў адданы камуністычнай ідэалогіі, сацыялістычным пераўтварэнням, ён стаў бязвіннай ахвярай гэтай ідэалогіі. 10 жніўня 1933 года ён быў арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 9 студзеня 1934 года ў Мінску. Было яму тады 27 гадоў.



## ПАСЫПЛЮ КРОШАК

Пасыплю крошак на ваконца,
Мо салавей іх паклюе
І ў часе дня як будзе сонца
Ў падзяку песню запяе.

Мне усміхнецца луг шырокі,
Палын зялёны з лебядой,
І тонкі месяц яснавокі
Блісне над ставам над вадой.

І колас жытні над мяжою, —
Вусаты схіліцца ячмень.
І будуць баяць казкі волі
І зганяць з твару смутку цень.

***1924, Лукішкі***

## ЛЕТНЯЯ НОЧ У ВЁСЦЫ

Сабака гаўкнуў раз, другі...
Ў бары замёрла плачам рэха.
Пялёнка жальбы і тугі
Спавіла сэрца — не да смеху.

Над вёскай шэрай ціхі сон.
Рабіны цень павіс над плотам.
І толькі ў свята песні тон
Парушыць ноч, спакой, самоту.

Мігцяцца зоркі, зіхацяць
Ў блакітным небе, ў сіняй далі.
А ў вёсцы — сон, у вёсцы спяць,
Камар над вухам напявае.

І толькі месяц-вартаўнік
Без жальбы, смутку і дрымоты.
Сланечнік шышкай звіс ля плота.
Плыве ў паветры водар ліп.

З заходу вецер спудзіць хмар.
Плюецца небу хмарай у вочы,

І страшна ў вёсцы тады ўночы,
І злосны неба ўночы твар.

*2.VII.1926 г.*
*в. Зарудзічы*

## НОЧ

Рыкала ноч аркестрам духавым.
У такт гручэлі ў вулках аўтабусы.
А з-за дзвярэй ў ваўчку маім
Тырчэлі рыжыя дазорцы вусы.
Яго пагляд сачыў, каб я не любаваўся
Рахтаннем музыкі ў вячорнай цішыне,
Каб лобам я да крат не датыркаўся,
Каб чуў сябе пахованым ў труне.
А з-за вакна ноч клікала, звінела.
Я да сцяны грудзьмі прынік і слух
Напружыў свой. Ў грудзёх больш не шчымела.
Я вольным быў і вольным быў мой дух.
Я назіраў за ходам зор ў прасторы,
Яны мігцелі ў вечнай сіняве.
Нязнаны ім былі ні жальбы, ні дакоры,
Спакон зары уліўся ў грудзі мне.
Рыкала ноч аркестрам духавым.
Ў вачах ні слёз, ні жальбы, ні стагнання.
Чуццём лавіў, не згаданым нікім,
Салодкасць барацьбы і радасць існавання.

*1927, Лукішкі*

## ДВА ДРУГІ

Ў мурох на цэменце сухім
Кусток разросся малачаю,
І ён, як я, сарваны з краю
Віхуры посвістам глухім;
Дзянькі юнацтва каратаю
У лёхах цёмных і сырых.
Мы сябры два — адна ў нас доля:
І ён без сонца, як і я,



Абодвум нам смяецца воля,
Абодвум сніцца нам вясна.
Ад родных ніў, жыцця красы,
Ад ўсплёскаў радаснага маю
Сарваны з роднага мы краю
Лязом знішчаючай касы.
Ды ў грудзёх няма знямогі,
Міне народны, цяжкі сон,
І ў мурох сырых астрогаў
Праб'ем для сонейка вакно.

*10.VI.1927 г.*
*Лукішкі*

## ЯК ПАШЧЫ КАМЕННАЙ ЦЯСНІНА...

Як пашчы каменнай цясніна,
Як дошкі жоўтыя труны, —
Чатыры вузкія сцяны
Астрожнай камеры бліснулі.
Як увайшоў, ўвушшу грымнулі
З ласкотам дзверы на запор —
Бывай, каханне і прастор,
Бывайце, радасць, сонца, гульні!

Злацешна краты пазіраюць,
Няволі песню запяваюць
Для госця новага свайго,
А госць не цяміць аднаго:
Нашто трывожаць вязням сон
Абцасы найміта-салдата,
Нашто і краты ля вакон,
Калі ўвесь край сядзіць за кратай.

*30.VI.1927 г.*
*Лукішкі*

## АСТРОЖНЫ КВЕТНІК

Дзе ад тапола лісцяў срабрыстых
Аксаміту лашчыцца цень, —
З вапняковых цагелак сняжыстых,
Як вясковага пеўня грабень,
Зроблен кветнік. Удзень
Бзымчаць пчолкі махнатыя, мухі,
Мітусяцца над ім матылькі.
А эфірныя крыллечкаў рухі,
Як ад свечак мігцяць аганькі.

Ў гэты міг мне нічога не трэба,
Я красы чую ў сэрцы прыліў.
Для мяне ўсміхаецца неба,
Васількі сярод спеючых ніў.
Радасць, радасць па жылах агністая,
Як патокам залье мае грудзі.
Бачу сіняе неба празрыстае
І жыцця свайго пройдзены пуць.

Чую песню вячэрняй парою,
Жабаў крэхт каля гразкіх балот.
Калі вецер шуміць асакою,
І калышацца ціха чарот.

Ў гэты міг мне нічога не трэба,
Я красы чую ў сэрцы прыліў.
Для мяне ўсміхаецца неба,
Васількі сярод спеючых ніў.

*22.VII.1927 г.*
*Лукішкі*

# СЯРГЕЙ ФАМІН

Паэт Сяргей Фамін нарадзіўся 29 красавіка 1906 года ў вёсцы Пепелеўка Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Манастыршчынскі раён Смаленскай вобласці) у сям'і вясковага настаўніка. Пасля Мсціслаўскай сямігодкі і Магілёўскага педтэхнікума (1925) два гады працаваў настаўнікам, потым паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ, якое паспяхова скончыў у 1930 годзе. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.

Яшчэ ў школьныя гады пачаў пісаць вершы, невялікія нататкі на рускай мове, друкаваў іх у раённых газетах. Першыя публікацыі вершаў з'явіліся ў 1924 годзе. Найбольш актыўна С. Фамін друкаваўся з 1926 па 1930 год у часопісах «Маладняк», «Маладняк Барысаўшчыны», «Малады араты», «Шлях студэнцтва», «Працаўнік асветы», «Паляўнічы Беларусі», «Чырвоны сейбіт», газетах «Савецкая Беларусь», «Чырвоная змена», «Звязда», «Магілёўскі селянін».

Творчасць С. Фаміна была станоўча прынята чытачамі і крытыкай, ён становіцца сябрам «Маладняка». Маладнякоўскія настроі, асаблівасці стылю і мовы новай маладой генерацыі паэтаў выразна праявіліся і ў ягонай творчасці, жыццесцвярджальнай сваім пафасам. Усё гэта было характэрна і для вершаў, і для паэм «За новыя дні» і «Родная даль». У паэме «Балота» (1927), прысвечанай беларускай вёсцы, аўтар імкнуўся супаставіць старое і новае, паказаць тыя змены ў жыцці сялянства, што прынеслі рэвалюцыйныя пераўтварэнні. Паэма і ў тэматычных, і ў жанравых адносінах была напісана ў лепшых традыцыях таго часу.

Талент С. Фаміна заўважыў М. Гарэцкі, які адзначаў тэхнічную дасканаласць вершаў, дакладную інструментоўку, мастацка-эстэтычны густ аўтара. Многія вершы паэта перакладаліся на рускую і ўкраінскую мовы. Ужо як сябра літаратурнай суполкі «Пралетарска-сялянская камуна» («Пробліск») падрыхтаваў да выдання зборнік вершаў «Дымнае жыта». Але ў пагрозлівыя 1930-я гады С. Фамін, як і многія іншыя беларускія пісьменнікі, наступае «на горло собственной песни» (У. Маякоўскі), засяроджваецца на перакладах (вядомы яго выдатныя пераклады з украінскай мовы вершаў У. Сасюры).

4 студзеня 1935 года паэт быў арыштаваны. Яго прыгаворваюць да вышэйшай меры пакарання, але потым замяняюць вырак на 10 гадоў

зняволення. Пакаранне за неіснуючую віну паэт адбываў у Комі АССР, у канцлагеры УХТПЕЧЛАГ. Па меры магчымасці пісаў вершы, некаторыя з іх дайшлі да радзімы праз лісты да сваякоў. Паўторна С. Фамін быў арыштаваны ў 1941 годзе ў канцлагеры і як удзельнік «дыверсійнай групы» 4 снежня 1941 года расстраляны ва ўзросце 35 гадоў.

* * *

Я бачыў вас даўно. І многа праляцела
З тых пор лятункаў агнявых.
Былі тады дзяўчынкаю нясмелай.
Прайшло...
Мяне забылі вы.

Вам не спазнаць мяне... Ды мне й не дзіва.
Дарэмна зірк я ваш лаўлю.
А помніце,
калі ў сувеі сліваў
Сказалі ціха мне «люблю»?

Мы бачыліся даўно. Мяне вы — не спазналі.
Кранулі з смехам вы касой...
Блішчэлі сёння ў вас занізкамі каралі
Апошняй развітальнаю слязой.

*1926*

* * *

Калыхнулася месяца сінь.
На дварэ па-асенняму вецер.
Па-асенняму хочацца сніць,
Па-асенняму зоры свецяць.
Вецер шэпча каханне галлю...
— Ты заходзь, мая любая, смела!
Пацалункамі вытку «люблю»
Па канве тваіх шчок загарэлых.
У гэту ноч я не буду спаць.
Ты зайдзі, распляці свае косы!
Я у сэрца люблю насыпаць
Тваіх слоў залацістае проса.



Сёння восень гуляе садам.
Дарагая! Не бойся! Зірні!
Ты прыйдзі да мяне, мая радасць,
Запалі ў маім сэрцы агні!

*1926*

* * *

За вакном задыхаецца вецер,
Месяц мары ў пакой прынёс...
...Многа радасці ёсць на свеце,
Многа ёсць недарэчлівых слёз.

Былі дні —
я за працай вясёлай
Нешта светлае ў далі свістаў.
Былі дні —
я тугу і назолу
Пражай тонкай на сэрца матаў,

І ў пахучы званец касагораў
Я хадзіў за палі працаваць,
І маю залатую махорку
Я цягнуў, нібы спеў — без канца...

А цяпер вось... Ці ўчора, ці сёння
Сам сябе не магу я спазнаць —
Светлай радасці ў сэрцы — прадонне,
У жыцці навальніцай вясна...

Да канца развучыўся я хныкаць —
Сам я ў вочы ўбіваў асцё...
А цяпера уздымным крыкам
Я вітаю другое жыццё.

За сцяною гармонікам вецер
Нечуваную моц прынёс...
Многа радасці ёсць на свеце
І дзіцячых,
і смешных слёз.

*1927*

* * *

Сіняй ноччу ў месячную замець,
Дзе гарацьваўчыныя агні, —
Дуб самотны замахаў рукамі,
Глянуўшы на зрэзаныя пні.

І стагнаў, і галасіў ад гора...
А пасля, як замець адцвіла, —
Нема ехаў высечаным борам,
І жалобна плакала піла.

Маладзік пагнуўся кветкай бэзу,
Паглядзеў, стуманіўся і знік...
А пад дубам плакала жалеза,
І маўчалі зрэзаныя пні...

І калі ад скрыпнуўшых саней
Конь стары прыгнуўся смутнай мордай,
Заваліўся волат-дуб у снег
Урачыста, ўзбурана і горда...

Рэху ў пнях — нядоўга пагалёкаць:
І замоўк разбуджаны прастор.
Быў пахож на могільнік далёкі
Адшумелы, высечаны бор...

*1928*

# ВАСІЛЬ КАВАЛЬ

Празаік Васіль Каваль (сапр. Кавалёў) нарадзіўся 4 (17) жніўня 1907 года ў сялянскай сям'і вёскі Сава Горацкага павета Магілёўскай губерні (цяпер Горацкі раён Магілёўскай вобласці). Пасля школы вучыўся на агульнаадукацыйных курсах у Горках пры сельскагаспадарчай акадэміі, затым у Магілёўскім педтэхнікуме, дзе стаў сябрам літаратурнага аб'яднання «Маладняк», уваходзіў у Аршанскую філію, якой кіраваў Максім Гарэцкі. Шмат даводзілася працаваць на гаспадарцы, дапамагаючы сям'і з-за цяжкай хваробы маці. З перапынкамі вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака БДУ (1926–1929). Захапіўся літаратурай, шмат чытаў, сам пачаў пісаць невялікія празаічныя замалёўкі, лірычныя апавяданні, імпрэсіі абразкі, легенды, заснаваныя на фальклоры. Раннія творы В. Каваля публікаваліся з 1926 года ў часопісах «Аршанскі маладняк», «Малады араты», «Маладняк», «Чырвоны сейбіт», газетах «Беларуская вёска», «Савецкая Беларусь».

Першую сваю кнігу Васіль Каваль выдаў у 20-гадовым узросце — «Як вясну гукалі» (1907). У яе ўвайшлі апавяданні, легенды, у аснове якіх сялянскае жыццё, народныя паданні. Пра вялікі творчы патэнцыял аўтара засведчылі і яго наступныя кнігі прозы: «На загонах» (1928), «Крыніца» (1929).

В. Каваль тонка адчуваў душу селяніна, добра ведаў сялянскі побыт. Нездарма сучаснікі называлі яго «лірыкам», «паэтам зямлі». «Ён валодаў, — адзначае крытык і літаратуразнавец Дз. Бугаёў, — сакрэтам перадаваць самыя складаныя пачуцці і настроі, музыку палёў, пах зямлі і вясновага паветра. Ён любіў беларускую вёску, яе песні, побыт, звычаі, яе мілагучную, пявучую мову. Ён адчуваў магчымасці слова і ўмеў зрабіць яго надзвычай выразным і яркім, прымушаючы гучаць хораша і паэтычна, як песня, важка і моцна, як афарызм». Але надыходзілі цяжкія часы для сялянства — прымусовая калектывізацыя, раскулачванне, высылкі. Гвалт над селянінам балюча перажываў В. Каваль, які не хацеў і не мог перайначыць сваю музу, падпарадкаваць патрабаванням часу. Гэты складаны перыяд у творчасці В. Каваля добра разумеў яго сябра Я. Скрыган: «Першыя кнігі Васіля Каваля — гэта паэмы пра зачараваны край, пра вёску і спрадвечны лад жыцця селяніна. Гора, бяда, нараджэнне і смерць, праца і ўслаўленне яе — паказу гэтага ладу жыцця падпарадкавана ўся паэтыка Кавалёвай творчасці.

І раптам усё гэта гіне. Калгасы. Яны бязлітасна перайначваюць базу, а значыцца, перайначваюць і спрадвечны патрыярхальны лад жыцця. Свядомасць. Псіхіку. Пісьменніку трэба быць наперадзе часу, паказваць іменна вось гэту перайначаную псіхіку, а вобразы не гатовы да гэтага, яны фальшывяць... і самая блізкая і роджаная тэма — вёска, яе побыт, паэтычны і песенны лад — робіцца непапулярнай, асучасванне яе выглядае падробкай...»

Песняру вёскі, вольнай працы гаспадара-селяніна заставалася або кінуць пяро, або ламаць сваю душу. Пісьменнік апынуўся на раздарожжы. Як склаўся б пісьменніцкі лёс у такой сітуацыі, цяжка сказаць. 2 лістапада 1936 года ён быў арыштаваны і 29 кастрычніка 1937 года расстраляны ў Мінску. Пражыў В. Каваль усяго 30 гадоў.

## ЯК ВЯСНУ ГУКАЛІ

*Апавяданне*

А лесу, мой лесу, што ты не зялёны?
А як жа мне, лесу, зеляному быці:
Сколькі было птушак — усе паляцелі,
Толькі засталася шэрая зязюля, —
Й тая кукавала — к сялу прылятала...

*Вясновая песня*

Па бруднай вясковай вуліцы гаварліва разбегліся павадкі. Снег на палёх растаў, толькі ў далінах застаўся ляжаць шэрым насцілам. Вуліца ў неўгамонным разводдзі раскідвае ў бяздонную сінь розныя зыкі — чыстыя, па-свойму зразумелыя ў тактах сэрцабою. Вуліца скажа табе роднае і ласкавае слова, абойме цябе сваім чуццём да вясны — і пабягуць думы па ўсіх дарогах, зарунеюць, як зелень збожжа ў полі...

Хаты ад сонца пачарнелі, зажурыліся і павесялелі. Узімку былі снегавыя сцюжы, вясною — цяплынь сонца.

Праз вясковыя праслы ідуць ачорненыя сцежкі да ракі. Яна цяпер пэўна шуміць крыгамі; грудзяцца крыгі адна на другую і гоняцца, як у вадаспадзе.

Над ракой, вышэй, яшчэ маладых лес — жаўтаваты, не абдзёрты ад леташняга сівога моху і шышак — кудлатымі хвоямі звоніць праўдзівую казку пра вясну. У сінім моры, над лесам, носяцца чорныя птушкі, а малы вецер галузае з верхавінамі ялін... Тут праўда крыецца ў зелені, у жыватворчым росквіце маладых сіл.



У лесе белыя, прыгожыя, першыя кветкі — пралескі — зацвілі слаўным цветам...

Так вось хочацца думаць, а думы абвіваюцца зялёнай дзеразою і губяцца ў прасторы.

Пайшоў бы, здаецца, далёка па роўнаму шляху, а тады азеленымі сцежкамі пад ясным сонцам і сінім небам — ды усё б думаў, што было, што будзе, і тады б выявіліся пачуцці — як прастор шырокімі, як думы — вольнымі, як званы — гучнымі...

— Эх, жыццё!.. Эх, вясна!..

Неба, далёка-бяздоннае, сіне-бялёсае, зацягнулася смугой, а сонца квола грэе ў спіну і кудлачыць салому, растрасаючы яе па двар.э.

Сяджу на прызбе пад суседавай хатай. Гнілая салома валіцца са страхі, таму што гніе хата, вуглы абвальваюцца. Пры сонцы і вясне выглядае вясёлай, хоць вокны ў хаце плачуць, як у хворага старца вочы...

Сягоння першы раз будуць гукаць вясну.

А калі вясна і сонца, тады пяюцца журліва-вясёлыя песні аб вясне, тады нейкая маладая радасць, быццам поўніцца ў жыцці тое, што было важнага незапоўненым.

Упарта звоняць над вёскай мілагучныя вясновыя званы. Ціхі ды ласкавы рытм пра свята — вясну жыцця. І радасць — і сум... А можа, гэта ад таго, што і ў жыцці вялікая радасць заўжды мяжуецца з незразумела-ціхай, салодкаю журбой?

Над вокнамі шумяць бярозкі...

Апусціўшы лахматую галаву ўніз, прайшоў па вуліцы ўжо немалады хлапец Даніла — смутны ад нечага. З год як жаніўся ён. Была з жонкаю асабовая сямейная драма, і яны разышліся. Жыве адзін, дык забірае з душою чалавека гэта сумотнасць. Ды к таму бацька гоніць яго з сваёй хаты. І ходзіць чалавек з нязведанымі думамі, з адзнакай на твары мукі і пакоры перад жыццём... Вясна — не вясна, радасць — не радасць чалавеку, — бо сэрца прасякнута перажыткам душэўна-нутраной драмы...

У канцы вёскі, дзе хаты гурбою неяк прытуліліся адна к другой, а вуліца зусім звузілася, грамада дзяўчат ішла па вуліцы ў другі канец вёскі ды пела прыпеўкі. У вясеннім разліве гэтыя прыпеўкі няможна было развязаць, толькі прыпеў вясёла гучаў, сярэбрана.

Цётка Марына выйшла з варот насустрач дзеўкам і глядзіць то на сонца, то на поле. Сіні андарак яе з белымі поперак палосамі блішчыць па-святочнаму. На плячах чырвоны кабат з нейкімі пазалочанымі абшыўкамі — гэта старамоднае, — мусіць, за-

сталося ад дзявоччыны яшчэ. Настроі ў яе вясёла-вясновыя, смяецца і крычыць дзяўчатам:

— Дзеўкі... а дзеўкі! Што гэта вы не йдзіцё вясну гукаць?..

— А ты, цётка Марына, чаго стаіш?

— А-ах, дзеўкі. А ці ж я вам пара? У такую пару, бывала, як была маладзейшаю, выйдзеш на загуменне, як запяеш вясновую з падругамі, аж паветра дрыжыць... А ці ж вам не сорамна?..

Цётка Марына склала на грудзях рукі, круглы твар яе кпіць над дзяўчатамі, а тыя пасталі ў беспарадку ды смяяліся над упартасцю цёткі. Толькі адна Пёкла, што жыла з Данілам, засмяецца ціха, неўпапад і перастане скора ізноў.

У знямозе зайграў, заліўся гармонік, ахоплены пачуццём — гэта ішлі чарадою хлопцы і п'яны гарманіст нешта распяваў. Тады дзяўчаты ўрассыпку кінуліся на зялёны курган к рацэ. Расселіся там на ўзвышшы, на праслах — браць першыя пацалункі радаснай вясны, каб акунуцца ў вясновай песні.

Цётка Марына падышла да дзяўчат і з дакорам параіла:

— Давайце, дзеўкі, вось гэту песню... Гэта пра вас, пра маладух, каму надоечы замуж трэба выходзіць, а бацькаў двор шкода пакідаць... Добрая песня, забірае проста ў сэрца... Ну, пачынайце...

Сяло ж, маё ся-а-ло-о,
Што ты невясёла-а?..

Пачала сіплым, але моцным голасам, а вясёлая ды бойкая дзяўчына Малання падхапіла звонкім высокім голасам, як пералівы жалейкі на зары.

А як жа мне, сялу,
Вясёламу быці? —
Сколькі было дзевак —
Усе замуж выйшлі,
Толькі засталася
Молада Маланка-а...

І нейкі жаль праносіўся ў грудзі за ўсё тое, што ў песні. Забарыстыя ды маладыя дзявочыя галасы цягнулі прыпеў роўна, з пералівамі, калыхаліся неадрозненыя словы.

Песня апавядала пра долю-шчасце.

Молада Маланка
К татухну хадзіла,



Молада Маланка
Татухну прасіла:
«Аддай мяне, татка,
Аддай мяне, родны,
Недалёчка замуж —
Страха ды з страхою,
Мяжа ды з мяжою...
Э-эй... мяжа ды з мяжою!..»

Дзяўчаты маладыя, у разнаколерных хустках. Яшчэ амаль не было вясны, а твары іх ад прыпёку загарэлі і кажуць аб першых кветках вясны — пралесках.

А Пёкла стаіць у чарадзе дзяўчат і сумуе — гора яшчэ не зажыло. Даніла ходзіць па беразе ракі ды пільна глядзіць, як сплываюць з трэскам крыгі, знянацку пазіраючы на карагод дзяўчат...

Пелі яшчэ шмат песень.

Помню я іншыя песні. Пелі гэтую песню дзеўкі ў супрадках, пад грабянямі, і матыў яе быў такі журботна-вясельны, што і цяпер, калі чую песні вясны, застаўся ў памяці, пранік у істоту душы ды ўзварушыў успаміны...

...Ой ды карчо-о-мачка пры дарозе...
Ой, мілы мой, любы мой,
Куды едзе, куды йдзе-ець —
Карчо-о-мачкі не міне-э-ць...

Тады шэрань вісела кавалкамі на цёмных вокнах, а за акном ляжаў белы-белы снег. Усхліпваючы, гарэў аганёк лучыны... Спявалі шмат песень — і ўсе пра цьмянае жыццё вёскі, пра ціхія ласкі ды радасць жыцця.

І, здаецца б, вечна слухаў іх.

Яны гавораць такое блізкае, такое роднае.

А то яшчэ — стаялі дні прыгожага лета. Белабрысае сонца рагатала ў небе і спускалася на зямлю жоўта-чырвонымі каснікамі. Запляталіся каснікі ў касу маладзіцы-восені. Калыхаліся соннай смагай кудраватыя бярозкі, разам з песняй жней гулі жніўныя песні. А песня дзіўна-чароўная, вясёлая, з таемным смуткам...

Калыхаў зорны вечар думкі.

А гэта было вясною. Можа, і таму весялей здавалася песня?

Яны гукалі вясну ў жыцці — яшчэ лепшую, прыгажэйшую вясну... Адлецць пелі песні — гукалі вясну. На просты лад-

матыў хвалілі ды ганьбілі тое, што было харастом і нянавісцю. У стара-непазбыўнай песні было і прыгнечанне, і ядраныя жаночыя слёзы, як журавіны, і праклянцце ўсяму старому. Тады была перамога ў песні, як новая мелодыя асыпала ваколле прыгажэйшымі словамі.

Дзяўчаты гулялі ў карагоды, званчэй быў іх смех, забывалася, мусіць, нешта цяжкае, а верх брала чыстая радасць, як дзявочы смех. І сонца ж было такое ласкавае і неба такое ж бялёсае.

— Эх, вясна!.. Эх, песні!..

Хочацца мне цяпер думаць думы шырокія, вольныя, ды бегчы ўдаль па бяскрайняй зямлі. На прыполе слухаць вялікую, дзіўную музыку жыцця.

***1926***

# ЮРКА ЛЯВОННЫ

Паэт і празаік Юрка Лявонны (сапр. Леанід Юркевіч) нарадзіўся 16 (29) ліпеня 1908 года ў мястэчку Чавусы Магілёўскай губерні ў сям'і служачага. Скончыў Магілёўскі педагагічны тэхнікум, у 1934 годзе — крытыка-творчае аддзяленне літаратурнага факультэта Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. Працаваў у рэдакцыях газет «Магілёўскі селянін», «Звязда», часопіса «Работніца і калгасніца Беларусі», на Беларускім радыё.

Друкавацца пачаў у 1925 годзе. Выйшлі зборнікі вершаў «Камсамольскія вершы» і «Штурм» (1930), «Жалезныя віхуры» і «Разбег» (1931), «Стала і мужна» (1932) і інш. Многія вершы пакладзены на музыку.

Выступаў і як празаік. У 1931 годзе выдаў зборнік нарысаў «Крок пяцігодкі». Разам з С. Грахоўскім пераклаў на беларускую мову раман Ж. Верна «80 000 кіламетраў пад вадой».

Лірыка Ю. Лявоннага напоўнена адчуваннем радасці жыцця, рамантычнай маладосці, камсамольскай баявітасці. У многіх вершах апявалася прыгажосць беларускай прыроды, любоў да радзімы, вернасць інтэрнацыянальнай дружбе. Пісьменнік часта ездзіў па Беларусі, бываў у іншых савецкіх рэспубліках, вылучаўся сваёй грамадзянскай актыўнасцю, быў папулярным і ўплывовым паэтам, крытыкам і нарысістам.

30 кастрычніка 1936 года быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і праз год турэмнага зняволення 29 кастрычніка 1937 года расстраляны ў Мінску, магчыма, у Курапатах. Было яму толькі 29 гадоў.

## ЗІМОВАЯ РАДАСЦЬ

Ёсць настроі... А ў іх — пералівы.
Ёсць часіны — здаюцца сном.
Толькі той на свеце шчаслівы,
Хто узімку жыве, як вясной!
Я стаю адзінокі на полі,—
Ціха сыплецца золкаў пясок...
Распрануўся вецер — і голы —

Па раллі — ў карагодны скок!..
Дуб галлё пабялелае звесіў,
І не ведаю — можа, ўва сне —
Паваліўся зялёны месік
На калені ў срэбны снег...
Вецер шэпча ліхія пагрозы —
Колькі злосці... Куды ж яе дзець?..
Прытулілі б мяне вы, марозы,
Да асмужаных беллю грудзей!..
Я раздумаў — не вылью слязамі,
За мяне — хай скрыгоча зіма...
Ой ты, замець — сівая замець,—
Прыгажэй за цябе — няма!..

*1924*

## РАСПЛЯСКАЛАСЯ Ў ПРАСТОРЫ СОНЦА

Расплясікалася
Ў просторы сонца.
Зелянее стромкая трава.
Ад жыцця не стану я ў старонцы,
Буду ранне шчыра вартаваць.

Будуць песні раўчакамі ліцца —
І не сядзе на суку тым жаль.
Не пахіліць лозаў вецер ніцы,
Не загіне ў просіні мяжа.

Заглядзіцца месяц сівагрывы,
Дол пакрые тонкім серабром.
Пройдзе ноч нясконачаным урыўкам,
Каб схавацца ўранні за гарой.

У прасторы —
Ураган сваволіць.
Льецца з клёнаў жоўтае лісцё.
Прывітаю я жыццё і словы,
Як вітае родны брат сясцёр!..

*1927*



* * *

Ён прыйшоў,
Прыйшоў квяцісты травень,
Ахінуты ў белы футарал.
І на яблынях пялёсткавую навісь
Кінула шаўковая зара.

...Светлы мой! Мне сёння —
Цэлых дваццаць!..
Ну, а ты, здаецца, маладзей...
Мне так хочацца вясёла прывітацца
І з табою разам заірдзець!

Людзі ёсць... Глядзяць яны спадлоб’я.
Ты для іх —
Што хмарны лістапад...
Росквіт наш яны імкнуцца ўгробіць,
Павярнуць гісторыю назад.

З-пад каменняў ніцыя вужакі
Напаўзаюць, сеюць ліпкі сон...
Мы гаворым аб тых гадах:
— Гэта — накіп
На бліскучай грэблі нашых дзён.

Толькі марна, марна яны востраць
Па кутах іржавыя нажы;
Прамяністым шляхам
Пройдзем проста
Ў залатую, сонечную шыр!

Травень, травень...
Рассыпаеш гімны...
Па-вясноваму спяваеш у прастор...
Ашчапер мяне ты, неабдымны,
Пакажы зіянне чыстых зор!

*1931*

## ВЫПАДАК

*Апавяданне*

Над Дняпром сонна павісла млявая ліпнёвая ноч.

З крыштальнай урны небасхілу мякка выліваецца хмялёвая вільгаць мяккага свету месяца.

Ён мяшаецца з чырвоным светам вогнішча, і ад гэтага постаці мужчын, якія сядзяць тварам да месяца, робяцца празрыста-глыбокімі.

Часамі лёгка трашчыць сухое сучча ў агні, па жоўтым пяску шырокага берага перабягаюць цені — невыразныя, але прыкметныя сляды вогнішча.

Ціха-ціха...

Ледзь чутны ўсплёскі вялікай ракі — нібы ўздыхаюць і варушацца стагоддзі, сінімі хвалямі бруяцца далёкія паданні мінулага. Дзесьці за Дняпром, як відаць, заблудзіўся конь — здалёку чуваць яго жалобна-моцны покліч:

— І-й-йо-го-го-го-го!..

Рассыпаецца на застыўшым лагу звонкае рэха.

...Мы ляжым ля цяпла ўтрох — Сапрон Багунец, былы «чонавец», Амелька Гусак і я...

Гаварыць — неахвота...

Шкада самаму кратаць роўную глыбіню аксамітнай ночы.

Ужо занадта бяскрайняя яна — як самы Дняпро ў павадкі...

А паслухаць, напрыклад, Багунца — з вялікай прыемнасцю!..

Залаты барытон бачыўшага «віды» Сапрона так і просіцца ў душу...

Я ляжу ў спакойным задуменні і ўважліва пазіраю на яго.

«У 20-м было... На Украіне...

Калі бацька Махно з сваіх тачанак граміў, не шкадуючы «рідну» Украіну.

Заліваліся крывёю здратаваныя палі.

Па мястэчках, сёлах ды хутарах удалыя махноўцы цалком вырэзвалі жыдоўскія сем'і...

А ў Кіеве, на Крашчаціку, весела падзвоньвалі белагвардзейскія шпоры. Тама — гулялі!..

Стаялі мы паўэскадронам, з 1-й коннай, тры дні ў адным хутары. Тыповы, трэба вам сказаць, хутарок быў. Вішнямі абсаджаны, халупка-мазанка, усё — як належыць!..

Тады ж якраз і гаспадыня прыгожая трапілася мне. Памятаю — Аксанай звалі...



З сябе — поўная такая, белая, і што асабліва ўрэзалася ў памяць — дык гэта бровы яе!

Звядзе іх у месца — на лобе сцежка глыбокім равочкам ляжа, і вочы маланкай наскрозь цябе так і праймуць!..

Вясёлая была — э-эх!..

Засмяецца, дзёрне плячыма, грудзямі павядзе, дык і Астапенка — старшыня эскадронны наш, — навошта сухі чалавек быў! — не вытрымае... Аж плюне, сабачы сын (пачуцця баяўся!), і ад усёй душы скрыгане:

— Ну й баба!.. Сакол, хвароба яе вазьмі...

Не хвалячыся, скажу — найбольш увагі звяртала яна на мяне. Праўда, я тады на гармоні крыху падыгрываў, ну а наконт песняў — мастак і зараз, як ведаеце!..

Пастаялі гэта мы каля Рошчыцы тры дзянькі — не забыцца мне аб іх ніколі!.. А пасля расплыліся чуткі — лазутчыкі прынеслі, — быццам адзін з атаманаў бандыцкіх, самы люты, Галынскі, здаецца, па прозвішчы, залёг у 20 вёрстах ад хутара нашага і чакае папаўнення. Напярэдадні якраз хлапцы яго злавілі на дарозе браварніка; забілі, пасадзілі голага мерцвяка на пень і на грудзях крыж выразалі...

І вось — раніца росная, як гавораць — ёдкая, сонейка не ўсходзіла яшчэ... Моцна пахла стэпам, бязмежнымі прасторамі палёў, якія так разлягаюцца толькі на Украіне.

Затрубілі збор.

Андронаў — камандзір — прамову яшчэ казаў...

Потым:

— На-а... коня-яў!.. Справа па аднаму... Ры-ысьсю... шагам... арррш!!

...Наляцелі, абляглі вакол.

Іхных — сотня якраз была...

У лагчыне, за прыгоркам, расклаліся лагерам. А на прыгорку — бярэзнічак.

Бярозы — стромкія, цёплыя, нібы дышуць у срэбна-тонкім тумане ранку. Ціха шастаюць доўгімі рукамі-веццем... З бярэзніку і грокнулі.

Галынскага разнеслі ў пух. І самога яго, хоць і біўся, як чорт, жывым узялі... Пагледзелі мы на атамана гэтага — і дзіву даліся. Мужчына — куды нявідны, а якую паніку наводзіў!.. Маленькі, крываногі, з бяльмом, а смелы — надзіва!.. Можа б, і не даўся ён у рукі, каб Андронаў перад тым, як ляцець з каня, не рубануў яго шашкаю па галаве... Толькі густая шапка чорных валоссяў і адратавала.

Прывязалі Галынскага рэмнямі да сядла, ногі да жывата конскага прыкруцілі, дый паехалі назад, у хутар, бо застаўся там старшыня эскадронны з некалькімі людзьмі ля кулямётаў. Прыехалі к вечару, у крыві, азвярэлыя і брудныя.

Парадзіліся і вырашылі: Галынскага дапрасіць асабіста, потым як гвалтаўніка і бандыта, ворага рэвалюцыі, як толькі ўзыдзе ранішняя зорка, — расстраляць. Сцерагчы ж атамана, звязанага і кінутага пакуль што ў пустой клеці — на двары — выпала мне...

І зляцела ноч на зямлю. Вішні якраз цвілі тады... Хваляваў пачуцці пах мядова-салодкі, прыемны. Цяжка стаяць было на варце. Лютая бойка давала сябе адчуваць; хацелася спакойнага адпачынку. Млелі жылы. Здавалася — пераліваецца ў іх замест маладое крыві цягучая, расплаўленая медзь. Захацелася яшчэ схіліцца на прыпол, да каленяў любай дзяўчыны, забыцца на момант аб варожым абкружэнні, неабходнасці зірка ўглядацца ў нямую ночку...

Спяць малайцы нашы... Толькі чутна — некаторыя раненыя часамі стогнуць, вады просяць.

Стаю гэта я ля дзвярэй клеці. Варушыцца Галынскі там. Аж скрыгоча, зубы сцяўшы... Сыпле праклёны, матам крые «бальшавіцкую сволач»...

Стаю гадзіну, мусіць, дзве — хутка змена варты павінна быць... Чакаю Ушкіна — разводзячага, — што замест забітага Андронава застаўся камандзірам.

Паглядаю праз сон і бачу: з-за прасла, што двор абгароджвала, даўгі, белы цень вынырнуў. Льюцца з яго зялёныя праменні месяца, набліжаецца, вось і разгледзець можна.

Што за чорт?..

Жанчына ў адной сарочцы, валоссе — распушчана, вочы — бліскавіцамі гараць — ці то ўласным светам, ці ад месяца...

Узяў вінтоўку на руку:

— Хто ідзе?.. Страляць буду!..

Гляджу — далей рухаецца. Анямеў...

Аксана-гаспадыня ідзе, як зачараваная...

— Сапрон... Ты бачыш...

А сама цяжка-цяжка дыхае... Хвалюецца... Высокія грудзі вышываную сарочку так і ўздымаюць — выскачыць хочуць.

— Я да цябе... Што хочаш — толькі выпусці Галынскага... Зрабі, каб уцячы ён змог!..

Тут і сон адляцеў ад мяне...

— Гэта ты чаму?.. Ды якая табе справа, урэшце?



— Сапрон... Ты не меў яшчэ мяне... Дарма круціла. Ты... Мы потым з табою ў садок...

— Не, не... Адыдзіся, Аксана, а то...

— Паглядзі ж на мяне... Ці бачыў ты калі-небудзь у жыцці такіх прыгожых?..

Сцягнула з пляча крутога сарочку... Стаіць, як той мармуровы помнік на магілцы.

Сенажэцкага — ведаеце?.. Сапраўды — надзіва прыгожая. Як сотня ведзьмаў... Малюнак, а не баба!..

Загарэўся я, праўда... Узняло істоту нешта агнявое, спрадвечнае. Зацвілі ў вачах пялёсткі. А навокал вішні, вішні... Пах...

— Не за сябе, за мужа, Галынскага, прашу... За гэтым і сябе ўсю ў падарунак табе...

Як сказала гэта — раптам на мяне нібы вадою сцюдзёнай лінулі...

— А-а-а... Вось яно што!..

Нацэліўся:

— Адыдзіся, Аксана!.. Не жартую... Чуеш?.. Страляць буду!..

Кінулася яна тутака да мяне — як каршун які... Пэўна — задавіць хацела. Ды не трапілася!.. Націснуў я спуск... Як птушка падстрэленая, плёснула рукамі-крылламі Аксана ды без крыку ля ног маіх і лягла... Скрозь самае сэрца куля пранеслася.

На стрэл хлопцы павыскаквалі — агледзеліся... Расказаў я ім...

А праз некалькі часу вывелі Галынскага на расстрэл.

Чуў ён размову нашу. І такі ў яго твар страшэнны быў, што нават у вочы яму ніхто глянуць не асмеліўся...

Вывелі — развітацца дазволілі... Паваліўся атаман на жончына цела — цёплае яшчэ — ды як зараве дзікім голасам, — якваўчыца, калі пры ёй заб'еш дзіцянё яе... Ледзь вытрымалі мы... Пасля — у адной ямцы і пахавалі іх...»

Багунец скончыў. Патроху развіднела... З Дняпра вольна дыхаў ветрык — лёгкі і радасны, як першая любоўная пяшчота. Сіняватай эмаллю паглядала неба...

Мы з Амелькам ляжалі, поўныя адчуванняў, перанёсшыся думкамі ў рамантыку мінулага...

***1927***

# МІХАСЬ БАГУН

Паэт, празаік, перакладчык Міхась Багун (сапр. Блошкін) нарадзіўся 8 лістапада 1908 года ў Мінску ў сям'і служачых. Пасля заканчэння школы і курсаў у педтэхнікуме (1928) працаваў настаўнікам у вёсцы Рожна Бягомльскага раёна. Рана пачаў займацца літаратурнай творчасцю. Першы верш быў апублікаваны ў газеце «Беларуская вёска» ў 1925 годзе. З гэтага часу вершы Міхася Багуна (ён падпісваў іх псеўданімамі Асака М., Багунец, крыптанімамі А. Б., Міх. Б., Баг.) рэгулярна з'яўляюцца на старонках рэспубліканскага друку. Першы зборнік вершаў «Рэха бур» выйшаў ў 1931 годзе, праз год з'явілася другая паэтычная кніга Міхася Багуна «Рэвалюцыя». Якраз у гэты час паэт жыў у Полацку, працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына», потым вярнуўся ў Мінск, уладкаваўся стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве. З 1935 года працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва». Шмат пісаў нарысаў, апавяданняў, сяброўскіх эпіграм на пісьменнікаў (Б. Мікуліча, У. Хадыку, В. Маракова, М. Хведаровіча), займаўся перакладамі (з А. Пушкіна, Л. Первамайскага, Ф. Панфёрава, М. Астроўскага, Галаваніўскага, У. Сасюры і інш. аўтараў). Асабліва захапляўся У. Маякоўскім, перакладаў яго творы на беларускую мову. З паэм Міхася Багуна найбольш вядомыя «Крокі ў вяках» (1930), дзе паэт імкнуўся расказаць пра поспехі сацыялістычнага будаўніцтва, і «Канчыта з-пад Таледа» (1936) пра падзеі ў Іспаніі.

Вядомы Міхась Багун і як стваральнік прыпевак (друкаваліся ў газетах «Бальшавіцкі шлях», «Савецкая Беларусь»). Яны шырока спяваліся ў гарадах і вёсках Беларусі, пазней увайшлі ў фальклорныя зборнікі як народныя.

Вершы, паэмы, апавяданні, нарысы, крытычныя артыкулы Міхася Багуна публікаваліся ў газетах «Чырвоная змена», «Звязда», «Беларуская вёска», «Беларусь калгасная», «Віцебскі пралетарый», «Піянер Беларусі», «Калгаснік Беларусі», «Літаратура і мастацтва», у часопісах «Маладняк», «Полымя», «Чырвоны сейбіт», «Работніца і калгасніца Беларусі». Але па-сапраўднаму разгарнуцца маладому таленту не было суджана. У 1936 годзе яго беспадстаўна арыштавалі і асудзілі на 8 гадоў зняволення. Загінуў ён па дарозе ў Сібір.

Пра заўчасную смерць Міхася Багуна расказаў Масей Сяднёў у сваёй «Масеевай кнізе»: «...Праехаўшы Свярдлоўск, мы пабачылі першую зіму... За час дарогі мы настолькі змарнаваліся, што былі дужа радыя,



калі прыехалі ў горад Марыінск Новасібірскай вобласці, дзе меркавалі нас выгрузіць і накіраваць у Іванаўскія канцэнтрацыйныя лагеры. Але перш за ўсё мы павінны былі трапіць у так званы «Распрэд». Нас загналі ў нейкую «ліцейку» без падлогі і столі, з каменных сцен сцякалі чыстыя кроплі вады. Людзей тут было столькі, што не было месца сесці. Уначы, калі засыналі, усё было пераблытана — нельга было зразумець, дзе ногі, дзе галава, дзе рукі. Было толькі нейкае «месіва», прычым гэтае «месіва» было ў заўсёдным руху... Нуда заядала усіх. Толькі часамі «ўкраінска-беларуская капэла» ратавала сваімі песнямі ад смяртэльнага смутку. Але не ўсіх. Пад гукі «Як умру, то поховайтэ» на руках Звонака і Мікуліча памёр малады беларускі паэт Міхась Багун...» Гэта быў снежань 1937 года. Яму толькі споўнілася тады 29 гадоў.

* * *

Там,
дзе змрок залатымі зубамі
загрызаюць насмерць ліхтары, —
чалавечая замець
пляміць
азёры бліскучых вітрын.

Там,
дзе ў сэрцы скрыжованых вуліц
чалавечая плешча рака —
цябе ў паркалёвай кашулі
я спаткаў.

.................................

Тапталі мы слізкія спіны
скрыжованых вуліц-гадзюк,
і месяц над горадам ўскінуў
сваю залатую ладдзю.
...................................

*1927*

## ТРЫЯЛЕТ

Звіняць навостраныя косы,
І маладым квітнее дзень,
Там,
Дзе пад сонцам нікне цень,
Звіняць навостраныя косы.

Няма тугі!
Няма нідзе!
Кладуцца травы у пракосы.
Звіняць навостраныя косы,
І маладым квітнее дзень.

*1927*

## РАСТРАСЛІ СТАРЫЯ КЛЁНЫ...

Растраслі старыя клёны
Ночы чорную кару,
На блакітныя загоны
Хтосьці выкінуў зару.

Сонцам роджанае ранне
Выбягае на палі,
На закінутай паляне
Нехта золата разліў...

Жыць так хараша на свеце!
Жыць без суму і тугі!
Малады бадзяка-вецер
Грае сонцу ціхі гімн...

І ў душы грымяць акорды
Ды на розныя лады:
Я сабой і сонцам горды
І, як ранне, малады!

Пахам іскрыстага рання
Я абмыю юны твар,
На красуючай паляне
Вып'ю радасць хараства.



І пайду назад дадому
Праз расквечаную гаць,
Каб другой або другому
Свежасць рання перадаць.

*1928*

## ЦІХІЯ НОЧЫ

Вясна і ноч...
Такая ноч,
Якіх пад месяцам нямнога,
Цячэ пахучае віно
Над атуманенай дарогай.

І грудзі п'юць кляновы пах
Кілішкам радасці і волі,
І месяц, выплыўшы на дах,
Ў кудлатай сіні засваволіў.

Вясна і ноч...
Растуць ў палёх
Сляпыя крыллі летуценняў,
А ў далях свецяцца,
Як лёд,
Азёр люстраных светацені.

*1928*

* * *

Хтось разліў над дахам лесу
Ціхай радасці зару,
І зямлю гушкае месяц
На далонях белых рук.

Кожны куст ў срэбры тоне,
Ўюцца цені нечых мар...
Стромкіх хвой сівыя скроні
Малаком заліў туман.

Добра ноччу далі мераць,
Йсці ў прадмесячны прасцяг,
Паланець дзіцячай верай
Ў светларадаснасць жыцця,

Наліваць вясною грудзі,
Абмываць туманам твар
І глядзець, як месяц блудзіць
У натоўпе мяккіх хмар!

*1928*

ВЯСНОВЫ ЭСКІЗ

Пахнуць далі бярозавым сокам,
Чарназёмнаю пахнуць вясной.
На палях — не акінуці вокам —
Закурыўся растрэсены гной.

Па-знаёмаму вечар гарэзны
Па-над борам цалуе зару,
І махае бялявы бярэзнік
Павуціннем зялёных рук.

Вольхі новай набраклі сілай
Над талеркай азёрнай вады,
Млын стары, па-старому мілы,
Хоча стаць, як і я, маладым.

Дажывай свае дні, старэча,
Захлынайся ў жытнёвай крыві,
Камсамольцы з песняй падвечар
У калгас прывязуць паравік!..

*1928*

# СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ

Сяргей Дарожны (сапр. Серада) нарадзіўся 25 лютага 1909 года ў Слоніме ў сям'і служачага.

З 1921 года выхоўваўся ў Мазырскім дзіцячым доме. Вучыўся ў Мінскім педагагічным тэхнікуме, на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (скончыў у 1930). Быў членам літаратурных арганізацый «Маладняк», «Узвышша». Працаваў на гуце ў Барысаве, у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў, на Беларускім радыё.

З вершамі выступіў у друку ў 1925 годзе. Выйшлі зборнікі паэзіі «Звон вясны» (1926, у сааўтарстве з І. Плаўнікам), «Васількову россып» (1929), «Пракосы на памяць» (1932). Вершы С. Дарожнага перакладаліся на рускую і ўкраінскую мовы.

Плённа працаваў ён і як перакладчык. Пераклаў на беларускую мову раман Г. Караваевай «Лесазавод» (1932), асобныя творы У. Караленкі, А. Новікава-Прыбоя. Дз. Беднага, С. Кірсанава, І. Уткіна, М. Кальцова.

На пачатку 1930-х гадоў над С. Дарожным, які ў сваёй творчасці і ў журналістыцы ішоў уразрэз з русіфікатарскай палітыкай уладнай бальшавіцкай партыі, навіслі чорныя хмары. У 1935 годзе яго выключылі з Саюза пісьменнікаў БССР і звольнілі з радыё за «сістэматычнае працягванне ў сваіх літаратурных перадачах нацдэмаўскіх установак да мікрафону, нарачытае змазванне ролі партыі ў барацьбе з контррэвалюцыйнымі нацдэмамі, паклёп на палітыку партыі на вёсцы»... А 29 жніўня 1936 года ён быў арыштаваны органамі НКУС. У сфабрыкаваным абвінаваўчым дакуменце гаварылася: «Следствию известно, что на квартире Остапенко собирались писатели, в том числе и вы — Дорожный-Середа, для слушания по радио заграничных передач белогвардейцев-эмигрантов... Следствие вам напоминает, что еще зимой 1933 г. в беседе с вашим односельчанином С. вы говорили: «Коллективизация погубит деревню. Это издевательство над крестьянином, колхозный строй всё равно не победит...» В 1934 г. вы высказывали... что жители вашей деревни не такие дураки, чтобы идти в колхоз... В беседах с писателем К. вы неоднократно заявляли, что трудности при советской власти были, есть и будут... Вы намеревались совершить террористический акт над тов. Гикало...»

У 1937 годзе Дарожнага асудзілі на 8 гадоў зняволення і выслалі на Далёкі Усход, дзе 19 ліпеня 1943 года беларускага паэта і загубілі ў канцлагеры на 35-м годзе жыцця.

## ЗІМА

Зіма цяпер і снегу па калені,
Ні сцежак, ні дарог няма.
Цярусяцца і падаюць сняжынкі памаленьку.
Зіма, зіма.

Ў палях снягоў сярэбраная ціша
Асела белаю і звонкай сівізной.
Ізноўку думы галаву маю калышуць,
Ізноў, ізноў.

Не спіцца мне, не спіцца мне, і часта.
Палае снег барвовістым агнём...
Не ведаю чаго, на радасць ці няшчасце,
Злятаецца сюды з паўночы вараннё.

На белы снег садзяцца і садзяцца,
Крыламі веючы над полем цемнату...
Гады, гады, міне ўжо скора дваццаць,
А дні сняжынкамі лятуць, лятуць.

*

Не помню я, даўно было ці не.
Такою ж песняю ці мо зусім другою
Я называў яе калісьці на вясне —
Дзяўчынай любаю і дарагою.
Не помніцца цяпер, даўно было ці не.

Тады над полем чырванелі далі,
І вецер па-інакшаму тады зусім звінеў,
Як быццам нехта на сярэбраных цымбалах
Пяяў няскончаныя песні мне.
Тады над полем чырванелі далі.



Цяпер зіма і снегу па калені,
Ні сцежак, ні дарог няма.
Цярусяцца і падаюць сняжынкі памаленьку,
І далі тонуць у сівы туман.
Цяпер зіма і снегу па калені.

Сяджу і думаю адзін, як месяц,
Нікога не пакрыўдзіўшы, далёкіх любых клічу...
Ласкава шастаюць завеі снежнай песняй,
Ласкава шастаюць у лозах ніцых.
Сяджу і думаю адзін, як месяц.

А за акном глыбокія снягі, снягі.
Хто сцежку першую пратопча між дуброў,
Хто першы прыйдзе, радасны і дарагі,
Над вёскаю развесіць струны правадоў?
А за акном глыбокія снягі, снягі.

*1927*

## БЕЛЫМІ ПЯЛЁСТКАМІ

Белымі пялёсткамі параслі нізіны,
Белымі снягамі
Серабрыцца гаць.
Белая маўклівасць села на каліны,
Села берагамі
Зацвітаць.

Словы завіліся радасцю нязнанай.
Стану каля грубы
У такую золь.
І здаецца проста ці ільсніцца снамі —
Ласкавыя губы
І каса, як смоль...

За акном каліны, за акном таполі
І зара над гаем
З зараніц.
А цяпер каліны хіляцца у полі
З белымі снягамі
Ніц.

Пасінела неба раніцой над гаем,
Пасінела рана —
Скрозь.
А сягоння любая у мяне другая —
Ў залатым убранні
Ля бяроз.

*1927*

## ШТРЫХІ

### 1

Што такое добрае мне сказаць ці выпеяць?
На лугох рассыпаны срэбраны цім’ян,
І такая радасная сніцца зноў мне Прыпяць,
І такі шаўковісты над берагам туман.

Думкі, бы лілеі, паплылі у хвалях,
Каля тых узгоркаў, каля тых лясоў,
Дзе стаяла любая, доўга дзе стаяла,
Там цяпер слядочкі загубіў пясок.

Там цяпер заранка расцвіла рабінай
І ліецца ў далі ды па верасох.
Яе дзень цалуе, песціць ласкай сіняй,
Асыпае рукі залатой расой.

### 2

Вось сасонкі стромкія сталі ля дарогі,
Колькі іх знаёмых мне і не знаёмых.
З песняю ж так радасна залатыя ногі
Блытаць па дарозе, ад нязнанай стомы.

Ў песнях гэтак радасна вобразы раскінуць,
Як дзяўчына косы русыя ў жніво,
За такую песню не шкада й загінуць,
Не шкада й расстацца з буйнай галавой.



### 3

Часта раніцою срэбраныя слёзы
Бачу на каменні й залатым пяску,
Хто іх тут насеяў, сумны ці вясёлы,
Хто і скуль?!

Сонным ўсплёскам вецця мне ў адказ сасонкі:
— Цалаваў нас месяц, цалаваў туман,
Гэта ён пасеяў слёзаў тых бясконца,
Гэта ён рассыпаў на лугох цім’ян.

* * *

Ніяк за імі не паспець —
Такія дні ў натоўпе гончым.
Ужо сады губляюць медзь
І клёны раздаюць чырвонцы.

Здаецца, позняя пара,
Сяджу, атулены у поцем,
А за акном гарыць зара
Агнём рабінавым на плоце.

І нездарма вароны дзесь
У сад зляцеліся на сходку:
Між дрэў паволі нечы цень
Блукае восеньскай паходкай.

І, можа б, так было дармо,
Каб я не жыў у гэтай хаце,
Дзе ходзіць вецер між дамоў
У адвячоркавым халаце.

Але ці згодзіш на адно
Усё, што стане па-за намі...
Стучыцца восень у акно
Заледзянелымі рукамі.

І я, аддаўшы ноч пяру,
Чакаю нечаканай стрэчы,

Каб заўтра ў гэткую ж пару
Камусьці горача пярэчыць.

А покуль думы цягнуць нас,
А покуль з рыфмаю няўвязка —
Нясе ля весніц жоўты вяз
Гадоў замуленую вязку.

Але, я знаю, хопіць сіл,
Мяне вядзе мая стараннасць.
..............................................
Вароны каркаюць з асін...
Напэўна ранак!

*1928*

## ЗА ВУЧОБАЙ

Дожджык расцягвае тонкія ніткі,
Роніць іскрыстыя кроплі на шкле.
Жоўты аловак, пакрэмзаны сшытак
Перада мною ляглі на стале.

Як адзінота на спушчаным трапе,
Я сярод даўніх эпох уначы...
Мне дазваляецца мецъ сабе лямпу
Роўна у трыццаць і дзве свячы.

Каб у сталетніх пацёмках і пыле
Мудрасці даўняе сівых вякоў
Гэтыя трыццаць і дзве мне свяцілі
Сярод нязведаных слоў маяком.

І, як студэнту-стыпендыяту,
Тэмай адзначана мэта мая:
Лірыкай сумных тэорый і датаў
Мне захапіцца і
Апяяць.

Мне дазваляецца быць супакойным
Перад эскадрамі літар і слоў,
Мне дазваляецца пеша і конна
Ездзіць па кнігах забытых вякоў.



Але ўспаміны... з імі ці зладзіш?..
Восень стаіць між апаленых дрэў,
Быццам паяц на бязлюднай эстрадзе
Сярод запыленых вуліц і стрэх.

Перада мной узнімаюцца сцены
Слаўнай Элады
Байніцы эпох,
Вобразы Троі, асад Карфагена
Ў звоне шчытоў, у прызыве трывог.

Тупаюць коні,
Ломяцца дзіды,
Трупы на полі ляжаць, як снапы...
Стогнуць кіфары аб тых, што не прыйдуць,
Песнямі славячы сумную быль.

Скора дванаццаць. На шыбіне вецер
Квола здувае слязінкі вады.
Троя асаджана...
Троя здаецца...
Літараў войска ахутвае дым.

Морак радзее за вокнамі. Нават
Дождждык сціхае, і гасне святло.
Я пераможаны, я засынаю,
Галаў схіліўшы над самым сталом.

Побач на ложку заснуў мой таварыш,
Знаю, і ён, мой вясёлы зямляк,
Сёння Парыж аддае камунарам
І галасуе за смерць караля.

Ён не пакіне сваёй барыкады
Ў час, калі возьмуць апошні рэдут.
Гэта відно: ён Камуне не здрадзіць,
Ён не надзене нявольніцкіх пут.

Тонкай струною нацягнены провад
Дзесьці далёка урэзаўся ў сінь...
Заўтра прафесар, нахмурыўшы бровы,
Скажа: — Залічана,
Добра зусім!

*1929*

# ЛУКАШ КАЛЮГА

Пісьменнік Лукаш Калюга (сапр. Кастусь Вашына) нарадзіўся 27 верасня 1909 года ў вёсцы Скварцы Койданаўскага павета (цяпер Дзяржынскі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і. Рана застаўся сіратой: калі яму было два гады — памерла маці, а ў шэсць гадоў ён страціў бацьку. Гадаваўся ў сям'і бацькавай сястры. Пасля Станькаўскай сямігодкі (1926) і Беларускага педтэхнікума (1931) некаторы час працаваў у навукова-даследчым інстытуце прамысловасці ВСНГ БССР, потым — на Беларускім радыё. Па рэкамендацыі К. Чорнага быў прыняты ў літаратурнае аб'яднанне «Узвышша».

Першыя апавяданні («Вясна», «У калянках») былі надрукаваны ў 1927–1928 гадах у часопісе «Чырвоны сейбіт». У 1928 годзе ў часопісе «Узвышша» з'явілася і першая аповесць маладога пісьменніка «Ні госць, ні гаспадар». Адно за адным публікуюцца ў розных перыядычных выданнях новыя апавяданні Л. Калюгі. У 1931 годзе ў часопісе «Полымя» была змешчана першая частка вялікай аповесці «Нядоля Заблоцкіх (нягоды і летуценні)».

«Богам дадзены талент» — так выказваўся пра творчасць Л. Калюгі К. Чорны. Але гэтаму незвычайнаму таленту не наканавана было разгарнуцца на ўсю моц; па сутнасці, ужо на самым пачатку творчай дарогі маладому аўтару былі падрэзаны крылы. Уночы 22 лютага 1933 года 22-гадовы Л. Калюга быў арыштаваны органамі НКУС. У сфабрыкаваным абвінаваўчым дакуменце значылася: «Гражданин Вашина Константин Петрович достаточно изобличается в том, что являясь одним из руководителей к-р нацдемовской организации проводил работу по вербовке членов и насаждения ячеек этой организации как в г. Минске, так и в других городах и районах БССР и распространял запрещенную литературу...»

Асудзілі пісьменніка на 5 гадоў і выслалі ў г. Ірбіт Краснаярскага краю. У высылцы, у неспрыяльных умовах Лукаш Калюга працягваў пісаць. Да нас дайшлі яго няскончаныя творы «з-за кратаў»: аповесці «Дзе косці мелюць», «Зэнка малы ніколі не быў», «Зоры вам вядомага горада» і раман «Пустадомкі» — пра трагічны лёс пакалення, да якога належаў сам аўтар. 6 лістапада 1935 года Ірбіцкім НКУС Свярдлоўскай вобласці пісьменнік быў паўторна арыштаваны за тое, што сярод ссыльных чытаў «Тастамент» У. Жылкі, і асуджаны на 5 гадоў канцлагера. Але 2 кастрычніка 1937 года тройкай НКУС Чалябінска Л. Калюга быў



прыгавораны да расстрэлу. Прысуд выканалі 5 кастрычніка 1937 года. Было тады пісьменніку ўсяго 28 гадоў.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць творы Лукаша Калюгі асобным томам.

## ТРАХІМ — ШТУЧНЫ ЧАЛАВЕК

*Апавяданне*

Гэта і праўда, што штучны чалавек. Ці добра ён гаворыць, ці на глум, а ўсё здаецца, што штукуе. Людзям раіць, што як рабіць, а таго не толькі рабіць, але і слухаць няма чаго. Толькі ніхто з нашых людзей не бачыў, каб ён сам сабе добрую параду даў ды каб сам сябе і паслухаў — зрабіў так лёгка, як лёгка языком брахануць.

Усяго раз і было такое здарэнне, што Трахім паквапіўся на сабе практыку зняць, ці добра будзе тое, што людзям раіў.

Усё лаганіў, па сяле ходзячы, што як работа робіцца ў чалавека, дык і яда тады есца. Ці ты яму смачнага дай, ці не смачнага — не разбіраецца чалавек, калі добра напрацуецца. Яму тады абы міску вялікую пад нос паставіў, абы ў місцы было многа, каб было на што расчыняцца. Хоць камень дай працавітаму чалавеку. Калі, не агледзеўшыся, глынуў яго замест скваркі, дык і толькі таго. Стравіць і жывата не прыпсуе. Ён з'есць тое, што сабак трое. А адзін сабака паўздохлага цяляці можа асіліць.

Але ж у гэтай Трахімавай мове нічога новага. І без яго гэта ўсякі ведаў.

Ды не аднаго працавітага чалавека ведае Трахім. Гультай, што толькі каля вуглоў ціцюляе, ці не дзядзькам яго прыходзіцца. Ведае ён, як і таму жывецца. Гэта, кажа, чалавек не жыве, а сохне. Ён, і за стол сеўшы, пераборлівы і не варушкі надта, з'есць тое, што адзін абскубены верабей. Гэтакія людзі і шукаюць сабе лёгкага хлеба. Тут і дзіва з іх няма. Хоць дарагі лёгкі хлеб, але колькі ім трэба. Гэта каб працавіты чалавек выстараўся сабе лёгкага смачнага хлеба, дык на адну кішку мала было і вунь якой пенсіі: гэта — не тое, што гаршчок картоплі ўвавіць аднаму.

Чорт ведама што б з'еў працавіты вясковы чалавек, каб не была капейка патрэбна.

Трахім, як чалавек разумнейшы за іх абодвух, паглядзеў і на працавітага чалавека і на гультайскага. Падумаў, як ім жыць даводзіцца. Падумаў і дадумаўся, што работу рабіць няма ніякага сходу. Трахім так усё людзям напроціў гаварыў, а гэты раз сказаў,

што іх прыказка да праўды ўходзіць. Людзі кажуць: работа дурня любіць, а дурань работу. Так яно і ёсць.

Ды не толькі да гэтага Трахім дадумаўся, што ўжо даўно ўсе людзі ведалі. Ён толькі сам праз сябе дазнаўся, як чалавеку на свеце жыць. Трэба работу ад першага дня кідаць рабіць і памаленьку патроху адвыкаць есці. Што ж чалавеку інакшае трэба, калі не яда і адзежа? Дзеля чаго чалавек працуе так цяжка, калі не для таго, каб кішку напхаць і сякую-такую рызу налажыць на сябе ад холаду і ад людзей? Есці, Трахім дазнаўся, што нельга адвыкнуць. А калі работы не рабіць, нідзе не хадзіць, а толькі ў цёплым месцы ляжаць не варушачыся, калі ў два месяцы раз перакаціцца з аднаго боку на другі ды, гаворачы калі хто нагодзіцца, рукамі нічога не паказваць, дык і адзенне не будзе насіцца.

Раіў Трахім людзям гэта сваё перакананне ад шчырага сэрца, а яны ўсё думалі, што штукуе. Што ж ты зробіш, калі такі штучны ён чалавек удаўся — няма ніякай паверкі. Дармо, што мядзведзя ўсе за разумнага звера прымаюць (соннага ды мёртвага не кране чалавека), дармо, што і ён так робіць, а потым баркаўчане Трахіму не паверылі, што чалавеку так жыць добра б было.

Немавернікі нашы людзі.

Ды Трахім не раіць якраз гэтак рабіць, як мядзведзь. Мядзведзь на зіму кладзецца ў логава ды бярэ лапу ссаць. Трахім жа раіць, як толькі згоніць з поля снег і аж да вялікіх марозаў, класціся людзям у ложак. Тады самая работа, сама што адзежа носіцца. Ды тады не толькі ў ложку ляжаць нельга будзе. Можна дзе ў халодную будыніну зайсці і там сабе добрае ціхае месца выбраць. Зімою ж мусіш устаць, як мароз прыцісне. Якое там чорта лежава, калі трэба коўдраю накрывацца, а па коўдры кажухом, ды шчэ папраўляць яго на сабе, як дзе крыху з'едзе. Ужо работа хоць невялікая робіцца, адзежа хоць непрыкметна, але дзярэцца — а зараз і есці гатова захацецца — от тады прапаў за адзін раз увесь шчыры пост. [...]

...Дзіва, што Трахім зіму пралежваць не раіць. Няма дзіва і што ён дома ніколі не распратваецца.

Усё штукуе Трахім. А раз вымкнуўся ды і ўляцеў са сваімі жартамі. Якраз яго на тое і павяло, каб, што з таго выйдзе, паспрабаваць.

Быў неяк надта з жонкаю пасварыўся.

Усё яна ўпікала, што людзі адной картопляй усю зіму абыходзяцца, а хлеб на вясну пакідаюць — як пойдуць на поле, дык трэба ж што смачнейшае, лепшае з'есці. А ў іх гэтай ашчаднасці няма: адзін хлеб цяпер жаруць, а на вясну нічога не застанецца — ні хлеба, ні картоплі; хлеб самі спажывуць, а картоплю свінням скормяць.



У такую вялікую спрэчку зайшлі былі, што ледзь не пабіліся.

Трахім ніколі ж нічога сваёй жонцы не хваліўся. Гадкі жаночы звычай яна мае. Калі верыць, што праўда будзе што-небудзь, дык знарок будзе гаварыць наперакор, каб яшчэ больш пачуць, што так яно і мае быць, каб самой яшчэ лепш паверыць. Трахіму, мужыку свайму, яна бывае што і верыць, а наперакор гаворыць.

— Ат! Што ты задумаў, стары?! Дзе гэта відана, каб так і было, як ты кажаш?!

Калі ж бывае і ўвалжэцца Трахім, дык і тады яму жонка злажыцца не дасць.

— А ідзі ты! — кажа.

Толькі ўсяго, што гэты раз не так ласкава ганіць яго мову, як той раз, калі міла слухаць было.

Ужо Трахім і пераканаўся, што неймаверніца жонка. Дабра яна яму не мысліць. Ніводнага слова не перапусціць. Сам-насам яны ўдваіх ніколі ад шчырага сэрца не пагавораць. Ужо як бывае Трахіму драчыць язык, а слова да яе не прагаворыць, бо яму абы пачаць, а тады ўжо ўсё роўна ўгаворыцца — усё, што ведае, расскажа. Трахім адваротны чалавек: ён што далей жыве, дык таго не забываецца, што ўмеў, а што больш жыве, дык усё да лепшых (ці то горшых — хто яго разбярэ) баек дадумляецца.

Яму як прыпрэ ахвота з добрымі людзьмі пагаварыць, дык апранецца і пойдзе з хаты. От чаму ён і звык па сяле валачыцца; як з аднаго канца ў другі ідзе — дадому не заходзіць. Бяда чалавека прымусіла свае хаты цурацца. Нядоля навучыла па людзях хадзіць.

Цярпеў, бывала. Лішняга слова баяўся да жонкі прагаварыць. А гэты раз пад злосць узяў і вымкнуўся:

— Чорт жа цябе і бяры, калі гэтак, калі табе шкада, што я час-часом лустачку хлеба з'ем. Чорт твой хлеб будзе есці! Але ж — трасцу я табе буду і работу рабіць!

— Калі ж можна б было і стрымацца. А калі ты на задзёр, — і не еш. Чорт ад цябе будзе і работы даходзіць.

— І на чорта мне твая яда. Пражыву і так.

— І жыві. Я табе, як добраму... А калі ты на задзёр — трасцу: не пападзеш жа ты ў мяне нічога.

Трахіміха ў сваёй хаце моцная пані. Яна дома ўсю работу робіць, яна і парадкуецца, яе і слухаюць. А Трахім — чалавек валачашчы. Яго і дзеці, як малыя былі, мала ведалі. Хто яго ведае, ці гэта тата іх, ці так які чужы чалавек ходзіць да мамы, як толькі есці пара, а як пад'есць, зноў за парог уцякае. Спаць, яны ні разу не бачылі, калі прыходзіў, і ні разу яго на ложку сплючы не засталі.

Трахіміхі лепей дзеці слухаюць, бо пры ёй гадаваліся. Яна, што сказала, тое і зрабіла. Усё са стала прыняла: і лыжкі, і міскі, і хлеб. У насценны шкапчык схавала, замкнула, а ключ сабе ў кішэню ў фартух палажыла.

— Паглядзім: хто каму сагрозіць.

І Трахім гэтаксама ўпарты:

— Будзем бачыць.

Добра ўзлаваўся ён.

Лёг на свой ложак і на хату плячыма адвярнуўся. Так пад паўдня сонца бралася, як ён лёг. Зараз жонка паклікала дачок (у іх сыноў няма). Селі за стол. Уліла ім Трахіміха аднае стравы міску (капусты, здэцца, ці то буракоў) — з'елі. Другую поўную паставіла на стол (ні то куцця там была, ні то крупнік — нешта забеленае) — і гэту спаражнілі. На гэтым і годзе — пад'елі. Трахім усё ляжыць. Хочацца і яму. Сліны повен рот нацякло. Глытае ён яе ціхенька і цярпіць. Гэта ўсё што не прывычан, што першы раз. А далей:

«Ацярплюся, — сабе думае, — і хацецца не будзе».

Меншая дачка, што ў хаце не была, сваркі не чула, хацела была спагадаць бацьку.

— Ідзеце ж і вы, татка! — паклікала.

Трахім нічога на яе словы не адказаў, а Трахіміха насварылася:

— Даміцэля! Нашто ён табе? Надта ты ўпраўная — усюды язык уткнеш. Спагадаеш. Хай от ляжыць — хоць ён не ўстане!

— І не ўстану, — аказаўся Трахім.

— І прасіць не будзем. Будзем бачыць, да чаго далежышся.

Так і не пайшоў Трахім палуднаваць.

А зараз сон яго змарыў. Прачнуўся аж тады, як сядзелі за сталом, вячэралі. Спаў на хату вачыма абярнуўшыся, дык толькі пралупіў вочы, пагледзеў ды зноў заплюшчыў. І духу не ўказаў, пакуль не павячэралі. Дочкі не раз цікавалі на яго, і бацькі не заўважылі, што не спіць, а слухае, стаіўшыся, што на хаце будзе рабіцца, што будзе гаварыцца пра яго. Вельмі ж хацелася Трахіму



гэта на свае вушы пачуць. Ужо як яму добра б было сербануць цёплай толькі што зваранай заціркі, а потым сцярпеў і носам ні разу не чмыхнуў, каб хоць пах яе залавіць. Хацелася было ведаць, хваліць ці ганіць будуць яго пакуту.

Тады, як быў паўабуўшыся і апрануўшыся, сырамятнаю папругаю падпяразаны, дык першы дзень Трахім і праспаў. А ўвечары так, без сну, лежачы пачалі бакі пабольваць. Надумаўся, што калі ўсёй зімы пралежаць нельга, дык месяц яшчэ можна сяк-так пракачацца, калі чым найболей спаць. Паляжаў крыху — новае надумаў: што гэта ад таго, што шмат адзежы надзета, і ў бакі муляе, і неймаверныя думкі просяцца ў галаву.

Узяў падлягчыўся: сеў на ложку — сцягнуў боты, раскруціў анучы, расперазаўся, распрануўся ды зноў лёг. Ужо лёг не на смех — коўдраю накрыўся. Дармо, што коўдра падшываная, а холадна пад адною ёю. Кажухом яшчэ ўвярцеўся паверсе.

Ужо і сон ад Трахіма ўцёк. Як ні ладзіўся ён, каб і лепей легчы і мацней вочы заплюшчыць, не бярэ.

Адумаўся, што гэта затым, што нераздзеты лёг — лішняя вопратка муляе, а сон не прыстае. Скінуў з сябе верхнюю вопратку, пад галовы сабе палажыў. У адным споднім пад коўдру палез. Паправіў кажух наверсе.

Аж палягчэла чалавеку, як сцішыўся. Усяго бяда, што мала дапамогі ад усёй яе турбацыі: сну як не было, так і няма. Аж пакуль на дзень не стала займацца, пракачаўся Трахім. А тады так моцна прыкархнуў, што і снеданне праспаў.

Есці хочацца. Не еўшы не вытрываць. І ратунку брыдка прасіць.

Адумаўся, што і месяца не пралежыш, а пралежаў бы з тыдзень, каб ціхенька сабе хлеба прыкрадаў штодзень хоць па такой лусце, як пастуху ў торбу даць у поле.

Ляжыць Трахім.

У роце высахла, а ён і не зварухнецца.

Ляжыць і думу думае здрадніцкую:

«От каб крошачку... Каб хоць з лыжачку... Каб хоць кропельку — у роце прамачыць. Больш бы нічога не хацелася. Пакаштаваў бы і годзе сказаў».

Якраз і з хаты ўсе выйшлі. Ніхто не ўбачыць, каб і ўзяў чаго.

Памаленьку адхінуў Трахім коўдру. Ціхенька на дыбачках, прыслухоўваючыся, каб хто не найшоў, падышоў ён к насценнаму шкапчыку пагледзець, ці няможна будзе як дастаць чаго.

Ды — дудкі. Замкнёна, і нідзе такоўскай шчыліны не відаць, каб праз яе лусту хлеба выцягнуць. Нічога не зробіш, ключа не меўшы.

Гэтаксама падышоў Трахім і да печы. Адчыніў засланку, паглядзеў, што там ёсць. А што ў печы будзе — адны гаршкі стаяць там. Жалезнікаў і глінянікаў паўнюсенька.

Далікатненька паставіў Трахім засланку пры качарэжніку, каб не стукнула, каб хто з двара не пачуў. Узяў вілкі. Выцягнуў самы большы гліняны гаршчок. Зняў з яго гнушку. Паглядзеў, дык там капуста. А тлустая ж яна, з баранінай. Скалкі плаваюць паверсе. Такая смачная, харошая — хоць ты яе нагбом напіся. Так Трахіму хочацца напіцца — проста не вытрываць.

Няма лыжкі. Нідзе міскі не знайсці. Усё пазамыкана. Але калі чалавек у горы, дык ён без усякай выгады абыдзецца і без лыжкі прымайструецца пад'есці, калі голад прыцісне. І Трахім узяў кварту ля вядра з чыстай вадою. Поўну начэрпаў капусты. Хоць ад кварты і горача ў рукі, але з рук яе не пушчае Трахім. Кепская іх кварта, гарачая. З медзі яна, салдаты ў вайну з снарада неяк вылілі ды Трахіму на памяць пакінулі.

Толькі калі стане з раніцы не шанцаваць чалавеку, дык не пашанцуе і пад вечар. Пакуль Трахім у кварце капусту студзіў, нехта ў сенцах скрыпнуў дзвярыма. Не давялося яму, беднаму, і разу глынуць. А такая была на погляд капуста смачная, харошая, з бліскучымі скалкамі. Аж шкада...

Спалохаўся Трахім. З перапуду ўпусціў кварту з капустаю вобземлю. Хапіў гнушку, каб накрыць гаршчок, ды і тае ў руках не ўтрымаў. Упусціў. Разбіў аб прыпек.

Старасць — не радасць. Возьмецца пажылы чалавек якую далікатную работу рабіць — рукі ў яго трасуцца. А як перапуд які, дык і зусім тады ходырам ходзяць — ведама цапу-лапу... Гэтае самае сталася і з Трахімам.

Добра толькі тое, што ён хутка здагадацца можа. Прыйшло ў памяць яму, спалоханаму чалавеку, што нельга і на ката віну злажыць. Не было калі Трахіму меркаваць, добра гэта будзе ці блага. Хутчэй на свой ложак пабег, коўдраю ўкрыўся. Усяго бяда, што кажух вобземлю зваліўся, але не пара было падымаць. Нехта ў хату прыйшоў.

Сцішыўся Трахім. Прыплюшчыў вочы. Дыхнуць моцна баіцца. Толькі вушы натапырыў, каб па голасу пазнаць, хто зайшоў у хату.

— Што гэта за рабункі?



Толькі пачуў Трахім голас, дык і смелы стаў. Дачка Даміцэля яму не вялікі страх.

— Што тут было? — пытаецца яна другі раз.

Пасмялеў Трахім. Даміцэля — дачка добрая. Яна бацьку спагадае. Просіць ён яе:

— Хадзі сюды, Даміцэлька!

— Гэта вы тут былі, татка?

— Я, Даміцэлька...

Больш Трахім не можа гаварыць. Солана ў роце стала. Сляза слязу пабіваючы, пацяклі ручайкі з вачэй.

Зблізку як паглядзела Даміцэля на Трахіма — шкада ёй бацькі стала. Давай яго цешыць:

— Дармо! Што ж там такое, калі і вы.

— Даміцэлька! Ты ж прымі там усё, скажы, што — кот.

— Добра. Я прыму. Скажу, што — кот.

— Ну, глядзі ж.

Не таго Трахім плача, чаго думала Даміцэля. Яна папрымала ўсё — і гаршчок на сваё даўнейшае месца паставіла, і печ засланіла, і хату ў тым месцы замяла, дзе наліта было, і кварту выпаласкала, выцерла скарачом — а ён усё не перасціхае. Усхліпвае і ўсхліпвае. Надта ж ужаліўся ён.

Ізноў падышла Даміцэля да бацькі.

— Чаго ж вы, татка? Што вам баліць?

Дзе ён скажа, што баліць. Нічога ў яго не баліць. Гора ў чалавека, дык і плача. З тае прычыны ідуць слёзы з вачэй, што над сваім дабром волі не мае, сваё дабро замыкаюць ад гаспадара. Дзе ж ён гэта скажа?! Дачка цешыць, а Трахім і не скардзіцца.

— Я так сабе. Што мне будзе балець?

— Дык не плачце ж! Чаго ж вы?

Трохі разважыла бацьку ды пайшла Даміцэля за парог. Яна з мацераю і з меншай сястрою цэпам малацілі гарох у таку. Не было калі доўга ў хаце забаўляцца. Трэба было глядзець работы.

Адумаўся Трахім. Адным плачам сам сабе ў горы не дапаможаш.

— Даміцэля! — паклікаў дачку.

Аж з двара мусіла яна вярнуцца ў хату.

— Што вам, татка?

— Дай ты мне, дачушка, хлеба лустачку.

Даміцэля ведае дома ўсе ўходы. Выняла ключ з пячуркі. Адамкнула насценны шчапчык. Добрую лусту адхапіла і дала

Трахіму. А сама і нож на тым месцы, дзе брала, палажыла, шкапчык замкнула і ключ у пячурку зноў схавала.

Напрамілуй бог яе Трахім просіць:

— Глядзі ж, не кажы нікому нічога.

— Добра. Не скажу.

Пайшла Даміцэля работу рабіць, а Трахім пачаў хлеб есці. Такі яму просты, нясеяны хлеб смачны здаўся, што ніколі такога пірага на Вялікдзень не каштаваў. І ў касьбу не еў з такою ахвотай. Цяпер Трахім і пераканаўся, што не ад адной работы есці хочацца, а можа хацецца і ад лежні. Гэты раз яму ад лежні так захацелася, што не вытрываць. Але Трахім не галодны. Не душыцца ён хлебам, а толькі каштуе, толькі лепшую форму лусце дае. Жуе і прыслухоўваецца, каб хаця смак быў у памяць, каб да смерці ведаць, які ён.

Як ні мэдзіўся ён з хлебам, але такі, пакуль жонка ў хату, з'еў усю лусту. З'есці-то чыста з'еў, але крошак не ў галаве было пазбіраць, не дадумаўся іх далоў з падушкі стрэсці. Па іх Трахіміха і пазнала, што не шчырым пастом посціць ён, а загадзя прызапашаны хлеб ціхенька жуе, на ложку лежачы.

— От ты які галадамір! Работы рабіць не хачу, а есці — есць.

Калі ўспала яна на яго, калі раскрычалася, разлякаталася. Не так ёй таго хлеба шкада, але нашто ж бо быў задзёр.

Не вытрымаў-такі Трахім жаночай звягі. Мусіў апранацца, абувацца, апратвацца ды ісці на сяло. Каб дома быць, трэ было вушы затыкаць. Немаведама якому цярпліваму трэба быць чалавеку, каб жаночую звягу ціхенька слухаць. Спрытны Трахім да гаворкі, а да сваркі не варт. Ад першага слова спудлуе яго Трахіміха.

А ўсе кажуць на Трахіма, што валачашчы ён чалавек. Нехаця звалачэшся, калі дома ў сваёй хаце неспакой. Няма чаго ганіць Трахіма — благое яго жыццё. Здаўна прывык свайго дому не пільнавацца. Цяпер дык, каб і хацеў, цяжка яму было б пакінуць сваю благую (ці то добрую — я не ведаю) моду. Абы толькі паснедаў, дык і цягне схадзіць даведацца людзей, як яны сабе жывуць, пачуць.

А таго самага дня, як кінуў жыць аб шчырым пасце, пайшоў Трахім у Баркаўцы ды і давай расказваць, як цыган сівую кабылу хацеў ад яды адвучыць.

— Ваду, — казаў, — і сама, бэцю, кіне піць.



Яго і праўда была: не даў есці — кінула ваду піць. Але ад першага тыдня ў трэску высахла, як у хваробе якой паляжаўшы. Потым не ўстала на ногі, а ўрэшце і зусім іх выпрастала.

Было б гэта самае і Трахіму. Толькі ён не такі дурны, як тая сівая кабыла — як прыпёр голад, пайшоў каля гаршкоў шныпарыцца. Цяпер, пасля таго, ходзіць па сяле ды смяецца з дурной цыганскай работы, з яго практыкаў.

Штукар наш Трахім. Змалку яго на ўсякія штукі здало. Бывае, што штукуючы сам сябе да жалю давядзе, але свае натуры не пакідае.

*1929*

# ВАЛЕРЫЙ МАРАКОЎ

Паэт Валерый Маракоў нарадзіўся 14 (27) сакавіка 1909 года ў Мінску (дакладней, у прыгарадзе Мінска Акалоніі, дзе чыгуначны прыпынак «Козырава») у сям'і былога салдата руска-японскай вайны, а на той час муляра, цесляра Дзмітрыя Маракова, які ў 1935 годзе стаў вязнем ГУЛАГа. В. Маракоў скончыў Мінскі белпедтэхнікум і літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Мінскага вышэйшага педінстытута (1934). Працаваў настаўнікам у Бабруйску, потым у газеце «Савецкая Беларусь».

Пачаткам яго творчага шляху лічыцца 1925 год. З гэтага года яго вершы з'яўляюцца на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў («Беларускі піянер», «Чырвоная змена», «Малады араты», «Савецкая Беларусь», пазней — «Чырвоная Полаччына», «Маладняк», «Полымя», «Узвышша», «ЛіМ», «Звязда»). Адзін за адным выходзяць паэтычныя зборнікі В. Маракова «Пялёсткі» (1926), «На залатым пакосе» (1927), «Вяршыні жаданняў» (1930), «Права на зброю» (1933). Маладога паэта, паводле ўспамінаў С. Шушкевіча, «заўважыў і акрыліў бацькоўскай ласкай Янка Купала», які часта запрашаў яго да сябе, называў «будучыняй нашай паэзіі». Добрую ацэнку творчасці В. Маракова давалі М. Гарэцкі, Я. Колас, К. Чорны, М. Чарот, Я. Пушча. Малады паэт часта выступаў з чытаннем сваіх вершаў. Паводле ўспамінаў Алеся Звонака, ён уставаў на сцэне «зграбным, станістым, рослым маладым чалавекам са светлымі хвалістымі валасамі, крыху кранутым мілай жаноцкасцю ружовым паўнаватым тварам, яркімі вуснамі, пад якімі хавалася мяккая белазубая, крыху дзіцячая ўсмешка, і сінява-блакітнымі вачыма. Абаяльнасць, добразычлівасць, гатоўнасць на добрыя ўчынкі або сяброўскую ўвагу, мяккасць і душэўная далікатнасць гэтага маладога чалавека выклікалі ўзаемную сімпатыю таго, хто з ім сустракаўся...».

Акрамя вершаў В. Маракоў пісаў паэмы («Мая паэма», «Таварыш Нюрын», «Рабінавая ноч», «Адноўленая зямля»), празаічныя творы, публіцыстычныя і крытычныя артыкулы. Але найперш ён быў таленавіты паэт. Нездарма Янка Купала лічыў, што В. Маракоў «будучыня нашай паэзіі». Лепшыя лірычныя вершы маладога паэта напоўнены святлом, хараством, каханнем, прыгажосцю беларускай прыроды, любоўю да Радзімы. Ён быў у самым росквіце сіл, перад ім уставала «сонца маладое». Але ішлі трывожныя 1930-я гады.



Пачыналіся павальныя арышты паэтаў. Неспакой, самыя змрочныя прадчуванні адбіваліся і ў вершах В. Маракова:

> Шчаслівы я, што тут жыву.
> Й за гэты край вясной вялікай,
> Быць можа,
> Знімуць галаву,
> Праколюць цела гострай пікай...

Гэтыя прадчуванні пачалі спраўджвацца: у сакавіку 1935 года па яго прыйшлі. Пратрымалі ў турме, праўда, усяго тры месяцы. А 6 лістапада 1936 года арыштавалі паўторна. У чым толькі ні абвінавачвалі паэта — у трацкізме, прыналежнасці да міфічнага «Саюза вызвалення Беларусі», нацдэмаўшчыне, контррэвалюцыі. Пасля года допытаў ды катаванняў выязная сесія ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР прыгаварыла В. Маракова да вышэйшай меры пакарання. 28-гадовы беларускі паэт быў расстраляны 29 кастрычніка 1937 года.

## ЖЫЦЦЁ — ЯК МОРА-АКІЯН

Жыццё, як мора-акіян,
А шчасце — бераг дальні...
Ідзе ў пустэльні караван
Пад гукі ветраў пахавальных...

Цвітуць ў Італіі сады...
І сонца там, і мора бліжай,
І ты глядзіш з журбой туды,
Над даллю рукі ўзняўшы крыжам.

Хмяльней там дзікае віно.
І там гучней гудуць факстроты,
А мне, мой дружа, ўжо даўно
Абрыдла ўсё, нат воблік цноты...

Шчаслівы я, што тут жыву.
Й за гэты край вясной вялікай,
Быць можа, знімуць галаву,
Праколюць цела вострай пікай.

Дзе песні новыя гудуць
І сцяг праменіцца саветаў, —

Другія творцы павядуць
Наш край да ленінскае мэты...

І ты, быць можа, скажаш ты,
Што любіш ты і не забудзеш,
І ўсіх зямных краін сады
Мне прынясуць вянкі на грудзі...

І зноўку пройдзе караван,
І бераг мора будзе біцца.
Жыццё — як мора-акіян,
А лёс мой — віхар-навальніца...

Што ж мне Італіі цяпло?
І той спакой, і сонца поўдня?..
Пад родны скрып тваіх калёс
Я песні родным сном напоўню!

## ДЗЯЎЧЫНЕ

І так пішу... ізноў пішу з натхненнем.
Твой васілёк перада мной ляжыць.
А за вакном снуюцца і танцуюць цені,
Упаў срабрысты месяц на калені,
Стаў цалаваць магільныя крыжы.

О, што яму — ён сёння верыць ў Бога.
Я ж веру толькі ў шчасце і людзей.
І мо затым з такой пякучаю трывогай
Я жыў, смяяўся і спяваў так многа,
Хоць часта збіты, чорны і без надзей.

О!.. ён стары, з ім ў ціш і ў сінь магілы
Лягла вясна... і шчырасць адміраць;
А я ў разгары свежасці і сілы
Пайду ў прастор, дзе над палоскай мілай,
Гарыць, як кроў, вячэрняя зара.

Каб з новай верай ў шчасце і каханне
Цябе да сэрца смела прытуліць
І ў сіні змрок ля шэрага кургана



Пра нашу цвець і першае спатканне
Вясны і траў мелодыю праліць.

І ўжо тады, пад белаю калінай,
Нам будзе месяц сыпаць каласы,
І так, бывай, каханая дзяўчына,
Прыйду я хутка да цябе ў даліну
Упіцца свежасцю крамянае расы!

* * *

Сціскаецца сэрца не таму, што восень
І зямлю высцілае залацісты ліст,
Не згіне ад марозаў жытні россеў,
Што разаслаўся аксамітам па зямлі!

Дыван хай насцілае залацісты ліст, —
Зіма пакрые белым пакрывалам:
Не восень цісне, не з-за восені душа баліць,
Душа, што многае стрывала!

Зіма пакрые белым пакрывалам
Палі, прастор адзене ў снежна-ватны пух.
І толькі для яе марозаў моцы мала,
Каб у грудзях стрымаць імпэту дух.

Палі, прастор адзене ў снежна-вольны пух,
А захад будзе галасіць, як і галосіць,
І будзе на нагах змардованых звінець ланцуг,
Пакуль народ пакуту зносіць!

А захад будзе галасіць, як і галосіць,
Дубы і тыя будуць шапацець лісцём інакш.
Калі ж, калі вось гэту восень
Заменіць маладая санцарусая вясна?!

* * *

Тут так хораша, свету так многа...
Срэбны месяц прылёг на кусты.
Я іду сваёй роднай дарогай,
Зноў вясёлы і зноў малады.

Даль маўчыць і цяпер не падкажа,
Што рабіць і куды мне ісці.
Толькі знаю, што шлях мой праляжа
Там, за вёскай ў жытах і ў трысці.

Сёння ўсё — гэты хвойнік і Свіслач —
Да сябе заклікаюць пажыць.
Колькі ўпартых бяроз панавісла
Над вадой і на грудзі мяжы.

Гэта межы спыталі у сэрца:
— Ці ж не ты хочаш піць гэту ціш? —
Ўсё маўчыць, не дыхне, як пры смерці,
Ну а ты?.. Ты таксама маўчыш!

Ну і што ж, калі свету так многа,
Срэбны месяц каханнем гарыць.
К чорту песні, разгул і трывогі,
Хоць хвіліну адну так пажыць!

* * *

Пеў пякучыя песні свае салавей,
Кучаравая ліпа драмала;
На прасторы палёў і жытнёвых завей,
Там, дзе песня да шчасця і волі заве,
Маладая дзяўчына спявала.

Слухаў я, і ў грудзях векапомнай струной
Пела сэрца пра светлую волю.
І хацелася шчасця й кахання ізноў,
Каб у гэтым прасторы сівых ячмянёў
Патануць ў цішыні з галавою.



Хай тады яна прыйдзе і скажа: «Кахай
Маладую дзяўчыну прыволля.
Будзе песні нам пець зачарованы гай,
Будзе слухаць іх месяц і радасны край,
А мы будзем кахацца на полі...»

І рукой белай, белай, як лебедзь, рукой
Абдымаць мяне ў шчырасці будзе.
Хай тады белы месяц над сіняй ракой
Упадзе на ваду залатым васільком, —
Ён запал нашых слоў не астудзіць!

Хай тады усю ноч, ўсё жыццё салавей
Свае песні пяе пра каханне.
На прасторы палёў і жытнёвых завей,
Там, дзе песня да шчасця і волі заве,
Ўсё жыццё — залатое світанне!

## ЖАДАННЕ

Адыходзь, трывога, й забірай з сабой
Плач і крыўду хлопца з чулаю душой.

Ты адна сягоння мне свая між ніў,
Быццам я згараю ў песенным агні.

Быццам я далёка, ў вочы б’е туман,
І нічога светлага больш ў жыцці няма.

Ах, мой край каханы, залаты мой край!
Не хачу так рана ў песнях дагараць.

Я йшчэ жыў так мала і так мала пеў.
Ну дык дайце ж, братцы, мне пажыць цяпер.

Дайце на прыволлі сэрца з сінню зліць,
Каб з другімі марыць і другіх любіць.

## Я ВЕРЫЎ ТАДЫ

*Абразкі*

О, як блізка мне мая хатка!

Колькі сноў навявае яна...

Колькі ўспамінаў лепшых дзён майго жыцця і маладосці звязана з ёй! Вось пад гэтай самай старэнькай бярозкай яшчэ так нядаўна я марыў абняць увесь свет, зліцца з ім душой і заплакаць, заплакаць ад радасці і надзей...

Я тады верыў, усяму верыў, нават недасяжнаму шчасцю, якое жыло ў маіх грудзёх, як нейкі смутны неразгаданы сон, якое трывожыла і непакоіла сэрца, клікала мяне з цішыні залацістых палёў на жыццёвыя плыні, на брук гулкіх прастораў, пад трывожна-сіняе неба непрыветных камяніц...

Я тады жыў...

Я хацеў жыць...

Я любіў, невыказна-моцна любіў жыццё, я верыў усім сэрцам яму!..

* * *

Былі дні непрыветнай восені.

Былі хмурыя чорныя ночы.

Былі слёзы пякучыя і пралітая кроў асін і бярозак.

А пасля.

Усё жадала жыватворчага адпачынку і спакою, каб з новымі сіламі ўзяцца за жыццё і жыць... жыць, пакуль сэрца нястрымана стукае і заве, каб любіць і імкнуцца зрабіць наша жыццё прыгожым, радасным, поўным надзей светлай будучыны...

І я жыў.

Не глядзеў на тое, што жыццё ўсё болей і болей прыціскала мяне да зямлі, а наадварот, — чым цяжэй стала жыць, чым ніжэй нада мной навісалі хмары, тым мацней паланела душа, раздзіралася сэрца ад болю і лілася родная песня, поўная смутку, надзей і прастору... Тым мацней і рашучай рабіўся крок, разгіналася спіна, і было лёгка, радасна жыць...

І калі хацелася плакаць пад тужлівыя напевы восені, дык я верыў, што кожная сляза, якая праліецца на зямлю, зацвіце васільком...

Я верыў, што за часам глухой непагоды восені расцвіце залатая вясна...



Заіскрыцца сонца на галлі зялёна-кучаравых дрэў задуменна-тужлівай дубровы...

О, тады чулае сэрца паэта ўп’ецца сонцам, уп’ецца зарой васільковага рання жыцця.

* * *

І тая пара прыйшла.

Яна прыйшла маладая, поўная надзей...

Гэта была вясна...

Ажыло і застукала мацней сэрца.

Сэрца ажыло і застукала мацней.

І парой, — яно як бы хацела вырвацца з грудзей або крыкнуць моцна, галасна ўсім:

— Людзі... Таварышы, добры дзень!

— Добры дзень, дарагая вясна...

І табе, чырвона-румяная зара, якой я так хацеў упіцца, аб якой гэтулькі марыў.

Якую кахаў,

якой верыў,

— Добры дзень!..

*1926*

# ЗЯМА ПІВАВАРАЎ

Паэт Зяма (сапр. Залман) Піваварaў нарадзіўся 24 мая (5 чэрвеня) 1910 года ў мястэчку Касцюковічы Клімавіцкага павета ў сям'і рабочага-шапавала. Бацька загінуў у грамадзянскую вайну. Сям'і жылося цяжка, але юнак марыў атрымаць вышэйшую адукацыю і пасля сямігодкі паступіў у Мсціслаўскі педтэхнікум. Захапляўся літаратурай, вершы па-беларуску пачаў пісаць з 15-гадовага ўзросту. Лепшыя з іх друкаваліся ў Клімавіцкай газеце «Наш працаўнік», у «Аршанскім маладняку». З 1930 года жыў некаторы час у Ленінградзе, працаваў качагарам, працягваў пісаць вершы, уступіў у БелАПП. Удзельнічаў у дэкадзе беларускай культуры і літаратуры ў Маскве (1930). Скончыў Мінскі вышэйшы педінстытут (1934). Працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». У 1930-я гады вершы, паэмы З. Піваварава рэгулярна друкаваліся ў «ЛіМе», «Звяздзе», «Савецкай Беларусі», часопісах «Маладняк,» «Работніца і сялянка Беларусі». Выдаў зборнік вершаў «Лірыка двух нараджэнняў» (1934). Перакладаў на беларускую мову вершы А. Пушкіна, яўрэйскіх паэтаў, пісаў тэатральныя рэцэнзіі.

13 лістапада 1936 года паэт быў арыштаваны органамі НКУС, а 29 кастрычніка 1937 года расстраляны на 28-м годзе жыцця.

## ЛІРЫКА
## ДВУХ НАРАДЖЭННЯЎ

Ведаеце, таварышы? Я два разы нарадзіўся, і тое, што я ўступіў у калгас, з'яўляецца маім другім нараджэннем.

*З выступлення калгасніка на сходзе калгаснікаў*

Саламяная страха,
крывенькая хатка,
Хлеб на стале
з мякінаю ці з лебядою.



Пры лучынным святле
нарадзіла мяне матка
разам з маёй бядою.
Хоць заіскрыліся вочы радасці
у нашай хаце,
Ды трэба ж лішнюю
дабавіць хлеба лустку.
Хто ведае,
што там было
ў сэрцы маёй маці,
Калі слязінак пара
акрапіла хустку?
На каго толькі
не гнуў спіны сваёй?
Перад кім толькі
не трэсліся мае калені?
Пра гэта запытайцеся сям'і маёй,
А лепш раскажуць вам
вякі і пакаленні.
А далей?
Пачыналася пякельная мая работа
ад срабрыстых ранніх рос,
Ад салонага
палудзеннага поту
І да вячэры
гарачых слёз.
Пра тое вам раскажуць
вякі і пакаленні,
Што першае было маё
такое нараджэнне.

*

Разам з подыхам грудзей
зямелькі-маладзіцы
Я прачнуўся новым
у светазорны ранак,
Прыгадаў я сённячы
свой суседскі ганак,
Да якога, молячыся,
прыпадаў я ніцам.

Былі дарогі дзве,
і сцежкі дзве,
З іх адна —
жабрацтва і нягод,
Другая парасткам
цягнулася к вясне
На пакрыты золакам усход.
Стаяў.
Рукамі сціснуў скроні,
Варажыць пачаў
забабоннай варажбою —
На якой дарозе быць сягоння?
І якой пайсці цяпер хадою?
І вырваў я
пасля даўгіх турбот
Сваё сэрца,
што старой крывёй атручана,
Кайстра жабрачая кінута ў брод,
Мне з другім жыццём
спраўляць цяпер заручыны.
Браты,
што ў сэрцы захавалі заўтрашні дзень,
А на зброі —
непарушнасць мушак,
Абрабаваныя негры Амерыкі
і кітайскія кулі палёў шырокіх,
Ці падобны вы на нас —
на зноў народжаных дзяцей,
нібы выкатаных з пялюшак —
Маладых
і чырванашчокіх?
Піць
радасць
хачу,
Як п'юць прыгаршчамі
бярозавік малыя дзеці
З прагнасцю
жыццёвага гарэння.
Я слаўлю маё другое
дагэтуль шчэ не знанае ў свеце
нараджэнне.

*Менск, 1933*

# ЮЛІ ТАЎБІН

Паэт Юлі (сапр. Юдаль) Таўбін нарадзіўся 2 (15) верасня 1911 года ў горадзе Астрагожску Варонежскай губерні ў сям'і аптэкара. У 1921 годзе сям'я Таўбіных пераехала ў Мсціслаў, дзе Юлі пасля сямігодкі скончыў Мсціслаўскі педтэхнікум.

Першыя вершы Ю. Таўбіна пабачылі свет у 1926 годзе на старонках часопіса «Маладняк Калініншчыны» (Клімавічы), калі маладому паэту споўнілася 15 гадоў. З гэтага часу яго творы рэгулярна друкуюцца на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў. У 1931–1933 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Вышэйшага педінстытута, стаў членам БелАПП. Адзін за адным выходзяць яго паэтычныя зборнікі — «Агні» (1930), «Каб жыць, спяваць і не старэць...» (1931), «Тры паэмы» (1931), «Мая другая кніга» (1932). Асобным выданнем выйшла паэма «Таўрыда» (1932). Творчасць Ю. Таўбіна была вельмі прыхільна сустрэта сучаснікамі, асабліва моладдзю. Але крытыка па-свойму ацэньвала паэзію Ю. Таўбіна. З ваяўніча-вульгарызатарскіх пазіцый пісаў пра маладога аўтара А. Кучар у артыкулах «Пакончыць з ідэалістычным эстэцтвам», «Супраць буржуазнага эстэцтва (Юлі Таўбін)». 1930-я гады з іх пагрозлівай атмасферай, заказнымі рэцэнзіямі «крытыкаў-экспертаў» прымусілі не аднаго Ю. Таўбіна ўтаймоўваць свой талент, аддаваць своеасаблівую даніну часу, пісаць толькі на дазволеныя тэмы або заглыбляцца ў перакладчыцкую дзейнасць. Шмат перакладае і Ю. Таўбін (часта ў сааўтарстве з А. Куляшовым, З. Астапенкам, У. Хадыкам) рускіх (А. Чэхаў, У. Маякоўскі, А. Безыменскі), украінскіх (Л. Скрыпнік, Г. Міхайлец, М. Чумандрын), нямецкіх (Ё. В. Гётэ, Г. Гейнэ), польскіх (З. Рымашэўскі), яўрэйскіх (І. Харык, З. Аксельрод) пісьменнікаў. Пераклады Ю. Таўбіна друкуюцца ў «Чырвонай змене», «ЛіМе», «Маладняку», «Полымі», выходзяць асобнымі кнігамі. Тым не менш творчасць Ю. Таўбіна была прызнана «контррэвалюцыйнай».

Першы раз паэт быў арыштаваны ў жніўні 1933 года і высланы ў Цюмень. Паўторна яго забралі ў лістападзе 1936 года і этапіравалі для следства ў Мінск. Пасля года допытаў і катаванняў 29 кастрычніка 1937 года па прыгавору выязной сесіі Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР ён быў расстраляны ва ўзросце 26 гадоў.

## НА УКРАІНЕ

Казакі, казакі плывуць па Дану
І песню пяюць пра сваю старану:

Пра слаўныя стэпы, пра шолах дуброў,
Пра вольныя рэкі і Дон, і Дняпро,

Байцоў-гайдамакаў навостраны меч,
Прытулак казакаў — раздольную сеч...

Як мчаўся па краі раз'юшаны кліч
І «ляхаў» карала «Тарасава ніч».

І песню іх рэха за даль панясло,
І плёскае мерна па хвалях вясло.

І слухаюць песню чарот і кавыль,
І слухае стэп чараўнічую быль.

А я на ўзбярэжжы ўважаю, стаю —
І хочацца песню спяяць мне сваю,

Каб тут узляцела ў нябёсы стралой
Маркотная песня айчыны маёй...

Яны ж усё далей плывуць па Дану
І песню пяюць пра сваю старану.

І сонца іх спіны няшчадна пячэ,
І Дон несупынны ціхутка цячэ,

І чую здалёку напеў іхны я
І словы, як рокат:

«Айчына мая»...

*Ліпень 1928,*
*ст. Сомава Паўночна-Каўказскай чыг.*



* * *

Панарамы лясоў і балот,
Краявіды імшыстых нізін...
І на захад, на поўнач, на ўсход —
Я ды край мой — адзін на адзін.

Будзь здароў!..
Пакахай і пястуй
У абдымках ліпнёвых начэй...
Чуеш сэрца ўстрывожаны стук,
Бачыш палкасць гарачых вачэй...

Я прыйшоў ад каменных будоў,
Ад асфальтавых сцежак і троп,
Я прынёс табе шчырасць-любоў
І ў напевах — жалезны настрой.

Я прыйшоў на прасторы палос
Палюбіць і сказаць, што я сын
Родных сэрцу лясоў і балот,
Краявідаў імшыстых нізін.

*Ліпень 1929, м. Самацеевічы*

* * *

Мой махнаты Дунай б'е хвастом ля парога,
На прыганку завіўся пукаты гарох...
За парканам у даль пралягае дарога,
А за даллю ёсць многа прыгожых дарог.

З тых дарог ёсць адна — вілаватай хадою
Мне з дзяцінства блукаць па ёй вырашыў лёс...
Буду доўга хадзіць я сцяжынкаю тою
Пад прывабным і чыстым люстэркам нябёс.

Пройдзе многа гадоў... Будзе гожага многа...
Я вярнуся спачыць пасля цяжкіх дарог...
Будзе зноўку Дунай біць хвастом ля парога
І спадаць на прыганак пукаты гарох.

*25.VII.1929, м. Самацеевічы*

## АДКІНУЎШЫ ФІРАНКУ

Адкінуўшы фіранку,
Гляджу праз пыл і дым, —
Сялянская фурманка
На бруку гарадскім.

Вітрыны і афішы,
І коміны ўгары...
Паветра дымам дыша,
Ў паветры дым і крык...

І вось яна мінае
Манто і паліто...
Спакойныя трамваі
І дзёрзкія аўто

І ў вуліц ліхаманку,
І ў спёку, ў пыл і дым
Імчыць мая фурманка
Па бруку гарадскім.

*Жнівень 1929*

* * *

Вечар... ў горадзе вечар... Снягі пасінелі...
І дрыжыць тэлефонная сець...
Толькі крокі па цёмных, шырокіх панелях
І ўначы не пакінуць гручэць.

Маладзік у нябёсах блукае бязмежных,
А на вуліцах — ноч... мітульга...
І ля бліжняй да нас трансфарматарнай вежы
Электрычных праменняў дуга.

Знекуль чуюцца гукі фабрычнае песні,
Недзе дыша магутны матор...
Вечар... У горадзе вечар... Над горадам месяц,
А за горадам снежны прастор.

*24.I.1929*



* * *

На вуліцах — мароз і маладзік
І рэдкі стук рамізніцкіх фурманак...
Абсыпаны снягамі паштавік
Ўзыходзіць ціха на суседні ганак...

Я да вакна ў задумнасці прынік —
Вакно маё вузорамі заслана...
На вуліцах — мароз і маладзік
І рэдкі стук рамізніцкіх фурманак.

*24.I.1929, Мсціслаў*

## ЗА ШЫЛЕРАМ

Знаёмыя тамы ізноў я адкрываю,
Перагартаючы пяшчотнаю рукой...
Гравюры даўнія уважна разглядаю
І пазнаю даўнейшы вобраз свой.

От на палёх — сець выпісак, нататак,
Як гэта некалі ўсё хвалявала...
Май
Жыцця майго, — мінулы і забыты,
Тваіх шляхоў не шкода мне... І даль
Мне адкрывае ліпень самавіты...
З усмешкай ціхаю гляджу я на пачатак
Але, але!
«Einmal für allemal»*.

*27.XII.1929 г., Менск*

* «Einmal für allemal» — «Раз і назаўсёды» — пачатак Шылеравай трагедыі «Kabale und Liebe» («Здрада і каханне»).

## ПУШКІН

Маркотны мрок над мутнаю Нявой
І постаць нізкая над скрыўленым бар’ерам.
Радкі сціскаюцца засмучаным размерам,
Адхваляваўшыся пявучасцю жывой.

І ямбы сціслыя няроўнаю чаргой
Даверваюцца збэшчаным паперам...
І нікне дзень у зіхаценні шэрым,
І вобраз Пушкіна зліваецца з вадой.

Мне гэта ўсё згадалася раптоўна...
Я праглядаў знаёмых песень строй...
Напоўненыя мяккасцю чароўнай,

Яны ўзнялі узрушаны настрой —
І гэты верш — хоць хілкі і няяўны,
Ўсё ж будзе водбрызкам ягонай цені
слаўнай.

*15.II.1930 г., Менск*

## СІРАНО ДЭ БЕРЖЭРАК

Імжа, імжа засцілае свет,
Размыты дажджамі тракт...
З пабітаю лютняй ідзе паэт
Сірано дэ Бержэрак.

Жыццё неўзаметку, як дым, прайшло...
Пакінута недзе труна...
Ніхто не частуе яго даўно
Бадзёрай бутэлькай віна...

Гадоў кавалькады ніхто назад
Не можа адкінуць бег...
І месяц смяецца, як тлусты абат,
Над торбай паэтавых бед.

Імжа, імжа засцілае свет,
Як смерцьваспяны барак...



З разбітаю лютняй ідзе шкілет —
Сірано дэ Бержэрак.

Ён песні старыя заводзіць свае,
Ступіўшы на мой парог,
І вось ён гэткую песню пяе
Каля маіх варот:

«...Я шмат даведаўся, шмат пазнаў,
Я жыў, як жыве менестрэль.
Пакуль не падрэзалася струна
Не ўклала ў труну дуэль.

За мною з палаца імчалі ганцы,
Я шпагаю іх калоў...
І ведаў я многа прыгожых жанчын,
А болей — прыгожых слоў.

Я спаў у труне колькі соцень год,
І мне абрыдзеў спакой...
Я ўстаў і стукаю ў дошкі варот
Параненаю рукой.

...Пусці, пусці мяне, брат паэт,
Я дужа прыстаў і знямог,
Бо гэтак многа змяніўся свет
І ўсё патанула ў вякох.

Я ўбачыў — паэты цяпер ужо
Не чуюць гармоніі слоў...
Яны хаваюцца ад дажджоў
За тарчай пісьмовых сталоў...

Шмат свет наш ведаў ганебных плям,
Але мы паэты былі,
А тут паэт укладае план
Сваіх празаічных былін.

...Пусці, пусці мяне, брат паэт,
Я хутка навек засну...
Пакіну жахлівы, як воспа, свет
І лягу ў сваю труну...

Вось ранне зганяе далёкі туман...
Пусці мяне, любы, — так
Яшчэ не прасіў паэт-дуэлянт
Сірано дэ Бержэрак...

...............................................

Туман расплываецца над зямлёй
Тчэ сонца агністы шнур
З дакорам глядзяцца на мой пакой
Вочы старых гравюр...

У іх традыцыйны гарэзны пагляд...
І лютная цераз плячо...
Іх вырвала з кнігі два дні назад
Нажа майго лязо.

Я кідаю выклік і гавару
Саратнікам на сцяне:
Вы толькі калегі мне па пяру,
Але па настроях — не!

Даўно адышлі вашы дні ў нябыт,
Даўно пазабыў вас свет...
Аддайце на могілкі ваш кандуіт,
Пане заштатны паэт!

Сягоння паэта —
зусім не такі...
Асобны гатунак і ранг...
Ніколі ні ад чыёй рукі
Не меў я дуэльных ран.

Адзіная зброя мая — гэта кій,
Што сёлета ў Крыме купіў,
Але я не з роду кудлатых віцій,
І з іх я заўсёды кпіў.

Я ведаю цвёрда, каму я пяю,
Якім навальнічным гадам
І песню —
найлепшую зброю сваю
Я класу свайму аддам.



А зараз, калі прыгадаў я вас,
Дык гэта толькі так...
Бо змёў тваё імя ўсяўладны час,
Сірано дэ Бержэрак!

*28.XI.1929–20.X.1930 г.,*
*Менск*

# СЯРГЕЙ АСТРЭЙКА

Паэт Сяргей Астрэйка нарадзіўся 9 ліпеня 1912 года ў вёсцы Каласоўшчына на Случчыне (цяпер Капыльскі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і. Закончыўшы сямігодку ў Капылі, паступіў у Мінскі педтэхнікум. Пачынаючы з 1928 года, калі Астрэйку споўнілася 16 гадоў, яго вершы шырока друкуюцца ў перыёдыцы («Чырвоная змена», «Полымя», «Чырвоная Беларусь»).

У 1932–1933 гадах ён працуе навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук, займаецца складаннем слоўнікаў навуковай тэрміналогіі, спрабуе свае сілы як крытык. Яго востры артыкул «Нядбайліцы і бракаробы на моўным фронце», надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва», выклікаў у свой час шырокі водгалас.

Ужо ў такім маладым узросце Сяргей Астрэйка праявіў сябе глыбокім і дасведчаным знаўцам роднай мовы, эстэтычна тонка адчуваў усе адценні паэтычнага слова, што асабліва праявілася ў яго выдатнай паэме «Бенгалія», якую высока ацанілі сучаснікі. Паэма была напісана з нагоды прыезду ў СССР вядомага індыйскага пісьменніка Рабіндраната Тагора ў верасні 1930 года. Тады С. Астрэйка вельмі зацікавіўся гісторыяй Індыі, якая пачынала вызваляцца з каланіяльнага ўціску. Ён прачытаў творы Р. Тагора, гістарычную літаратуру пра яго малую радзіму Бенгалію. Раскрываючы вызваленчую барацьбу бенгальцаў, С. Астрэйка меў на мэце завуалявана паказаць адвечную барацьбу беларускага народа за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны. Паводле ўспамінаў С. Грахоўскага, «Бенгалія» вельмі спадабалася Янку Купалу, які слухаў паэму ў выкананні самога аўтара. На вялікі жаль, рукапіс «Бенгаліі», як і іншыя творы паэта, загінуў у полымі вайны.

У 1933 годзе 21-гадовы паэт быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і высланы ў г. Ірбіт Свярдлоўскай вобласці, дзе змог уладкавацца бухгалтарам на Ірбіцкім падшыпнікавым заводзе. І ў такіх умовах займаўся творчасцю, перакладаў на беларускую мову творы Аляксандра Пушкіна. Там, у Сібіры, па сфабрыкаваным нкусаўцамі абвінавачанні ссыльны Сяргей Астрэйка быў паўторна арыштаваны. 13 верасня 1937 года маладому 25-гадоваму беларускаму паэту быў вынесены смяротны прысуд. У той жа дзень яго расстралялі. Падрыхтаваны да друку перад арыштам першы паэтычны зборнік С. Астрэйкі так і застаўся неапублікаваны. Вершы з яго былі надрукаваны толькі ў наш час.



Паэзія Сяргея Астрэйкі, па словах Ірыны Багдановіч, «сугучная свайму часу і асветленая высокім духоўным памкненнем юнай, закаханай у свет душы, мае бясспрэчную эстэтычную каштоўнасць. «Узнёслых гадоў наструнованы верш» гучыць як адкрыццё, прываблівае дзівоснымі карункамі вобразаў, каларытнасцю мовы, ззяе сапраўднымі «смарагдамі юначых крозаў», да якіх мы нарэшце маем шчаслівую нагоду далучыцца».

## ВЕТРАКІ

*(Урывак з паэмы «Смарагды кроз»)*

Чаму дагарэлі тады каганцы,
Як змрочных дарогаў сышліся канцы?..

Крадзецца у сэрца трывогі вястун,
Уцеху патрушчыў у пыл, на жарству.

У грудзях знябытых азглелая мгла,
І роспач тупая нахрапна ўвайшла.

Маё бажаволле, што песціў гадамі,
Ўхапілі вятры разбіваць па аддалях.

У вочах туман, мітуслівісты іней,
Праходзяць смяротныя мерна хвіліны.

Ўганяюць у сэрца асінавы кол,
І туліцца цемра ў пагрозе наўкол.

Адштырыць хачу звар'яваныя здані,
На смерць захлынаецца ў горле рыданне.

Ачэрнены клён пазірае ў акно,
А болей нічога нідзе не відно.

Даўно ж дагарэлі усе каганцы!..
Па хаце вандруюць надзеяў жанцы.

Прыдушаны смех і зяркатыя вочы.
Жыўцом дарагое глынуць, мусіць, хочуць.

Нічым іх, агідных, няможна суняць...
Пудліва праз хату бяжыць цішыня.

Жыццёвыя, пэўна, прыходзяць канцы,
Даўно ўжо пагаслі усе каганцы...

Пашастаны шолах цвілога радна,
І нешта знаёмае каля вакна.

Дваром пераходзяць знябытыя цені,
На дол распасцерлася ніцма шасценне.

Ўглядаюся пільна вачыма ў акно:
Блуканнікі выйшлі усе на відно.

Збуцвелыя строі і зглоданы твар.
Агорнены спрэс у імшаную твань.

Адбітак пагрозны наклалі вякі...
Нясмела ідуць паўз вакно ветракі.

Заходзяць у хату, мінаюць парог
Вандроўнікі змрочна-туманных дарог.

Ранейшага ў постаці ўжо не пазнаць,
Старэчасці друхлай ацвілены знак.

Ўкрыжаваны смутак на крылле залёг,
Як вострая роспач тупых мазалёў.

І вытырклі косці ўчарнелых рабрын,
Яны дагарэлі на вуглях зары.

Яны адшумелі ў імжаку і стынь,
Развеялі сілу у ветрах густых.

Чуць толькі ліпяць на узгорках сухіх,
Напоўнена цела шматамі трухі.

Іх страх агартае на родных палёх:
Мо вораг пад кожным усхілам залёг?

Таму вось і нанач прыйшлі да мяне.
Іх звонкая ціша з узгоркаў жане.

Для іх нешта значыць і шум баравы.
Загасла імкненне узняцца у высь.



Ім грудзі пакроіў адточаны сум...
Няўжо ж іх вятры па палёх разнясуць?

Узнімуць з усхонаў, у прорву шпурнуць...
Уклешчыцца ў цела смяротная жудзь...

Агорне іх чэмер, і смутак, і жаль,
У канвульсіях скону апрыкрае даль.

І месяц, і поле, й туман над ракой,
І прыйдзе халодны, ўгасальны спакой.

Збуцвелыя косці абмыюць вятры,
Заплачу я з болю слязамі наўзрыд.

Ламаць буду рукі, ірваць валасы,
І будзе надрыўная даль галасіць...

Туман адплывае... Ўглядаюцца вочы:
За вокнамі полаг асветленай ночы.

За вокнамі стужка люстранай ракі.
У хаце прасторнай туга й ветракі.

Углядаюцца нешта нясмела яны —
Апошнія госці мінулай вясны.

Саструганы грудзі вятрамі на тло.
З іх крылляў сцякае на землю святло.

Прабіты дажджамі на сіта страі,
У смутку надрыўным тулюся да іх:

— Мне страшна за вас, дарагія сябры,
За вокнамі веюць ліхія вятры!

Пабудзьце у хаце да самай зары —
За вокнамі веюць ліхія вятры!

Здушыце у сэрцы тужлівы узрыд:
За вокнамі веюць ліхія вятры!..

Туман адплывае... Маўчыць цішыня.
Вятрачыя словы у хаце звіняць:

*

Наплывае адчай, і зыбаецца сум
Павуціннаю кволасцю баб'яга лета.
Нас халодныя ветры латошаць, трасуць,
У тумане прапалі імклівыя мэты.

Наплывае адчай, і зыбаецца сум.
Крылляў порсткіх ніяк не узняць. Парахня
Пераела нутро, збузавала красу.
Не адходзіць ад нас ні на крок цішыня.

Нашым дзеям смяротны прыйшоў рачанец.
Дзіды часу навылет пратнулі нутро.
Воблік наш гартаваны ў гадах учарнеў
Ад туманнай імжакі і зыркіх вятроў.

Нашым дзеям смяротны прыйшоў рачанец.
Нас адкінулі шуфлем у згоніны веку,
Як святлом каганцовым жыццё мільгане,
Прыляціць мо рыданне аднекуль?

Больш ніколі не ўбачым трывожнай зары,
Палахлівых кастроў прыгуменнай рабіны.
Наш апошні з грудзей анямелых узрыд
Па жыцці засумуе і ў далях загіне.

Больш ніколі не ўбачым трывожнай зары
(Нас, пахілых, нядэшлых, зямлёй занясе).
І без нас будуць з ветрам аўсы гаварыць,
І начамі купацца ў кваяцістай расе.

Шмат гадоў пражыта, загашана дум,
Неўпынёных узлётаў развеяна ў полі.
Так напісана, мусіць, было на раду...
То спружынавы росхін трагічнае долі...

Шмат гадоў пражыта, загашана дум...
Усё бліжэюць магілы халоднай абрысы.
Развітанне усім, што за намі ідуць,
Чые сэрцы гараць, як раздзьмуханы прысак!

# БАРЫС МІКУЛІЧ

Пісьменнік Барыс Мікуліч нарадзіўся 6 (19) жніўня 1912 года ў Бабруйску ў сям'і медыкаў. Рана пачаў пісаць вершы.

У 1929 годзе скончыў сярэднюю школу і стаў працаваць у рэдакцыі бабруйскай акруговай газеты «Камуніст». Быў членам «Маладняка». У 1930 годзе пераехаў у Мінск. Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Вучыўся на літаратурных курсах у Маскве (1934–1935). У 1936 годзе быў запрошаны ў Камуністычны інстытут журналістыкі чытаць курс лекцый па тэорыі літаратуры.

Першыя празаічныя творы надрукаваў у 1927 годзе ў газеце «Камуніст» (Бабруйск). Аўтар зборнікаў апавяданняў «Удар» (1931), «Чорная вірня» (1931), «Яхант» (1935), аповесцяў «Наша сонца» (1932), «Дужасць» (1934), «Дружба» (1936), «Адвечнае» (часопіс «Полымя», 1972, № 8), эцюда «Ускраіна» (1932).

Б. Мікуліч жыў літаратурай, якая зрабілася яго адзіным захапленнем і любоўю. Ён пісаў: «...Літаратурай я хворы хранічна і добра сябе адчуваю толькі тады, калі пішу...» Але 26 лістапада 1936 года 24-гадовы беларускі пісьменнік быў арыштаваны. Пачаліся допыты, катаванні. Калі следчыя не змаглі выбіць у Б. Мікуліча прызнання ва ўдзеле ў трацкісцкай арганізацыі, у шпіянажы на карысць Польшчы, Вярхоўны суд БССР асудзіў яго на 10 гадоў зняволення за тое, што ён нібыта садзейнічаў выданню контррэвалюцыйнай, нацдэмаўскай літаратуры, а гэта былі творы беларускіх пісьменнікаў, якія разам з ім ужо сядзелі ў мінскай турме ці былі асуджаны ў 1930–1933 гадах. Турмы, этапы, лагеры, нечалавечыя ўмовы, здзекі з чалавечай годнасці, цяжкая праца на лесараспрацоўках, будаўніцтве чыгункі, розных іншых катаржных работах, голад, холад — усё гэта напоўніцу зведаў Б. Мікуліч. У 1947 годзе, адбыўшы першую лагерную дзесятку, вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Бабруйску, Цераховічах на Лагойшчыне: у сталіцы жыць забаранялася, на працу як нядаўняга катаржніка нідзе не бралі. Туляўся па сваяках і працягваў пісаць.

У красавіку 1949 года Б. Мікуліч, як і многія былыя вязні ГУЛАГа, быў паўторна арыштаваны і высланы на вечнае пасяленне ў Красноярскі край. Там і загінуў 17 чэрвеня 1954 года на 42-м годзе, не паспеўшы дапісаць чарговы ліст на радзіму. Праз кароткі час з КДБ у глухое сібірскае сяло Машукоўка прыйшла пастанова аб рэабілітацыі

Б. М. Мікуліча, дзе прызнавалася «недоказанность состава преступления за 1937 г. и неосновательность ссылки на поселение в 1949 г.» і дазвалялася яму вярнуцца на Беларусь...

Вярнуўся да нас выдатны беларускі пісьменнік ужо толькі сваімі кнігамі і балючай «Аповесцю для сябе» — дзённікам, які ён вёў у 1946–1949 гадах і ў якім расказаў праўду пра час і сябе.

У серыі «Беларускі кнігазбор» плануецца выдаць творы Барыса Мікуліча асобным томам.

## РАЯЛЬ

*Апавяданне*

*Памяці Міхася*

Адвячоркам заўжды бывае шумліва: на сцэне ідзе спешная рэпетыцыя, з канцылярыі крычаць па тэлефоне, аж лопаецца ад натугі мембрана, пішуць лозунгі і фарба расплываецца сунічным сокам, а промень заходзячага сонца адлюстроўваецца ў ім і бяжыць у вочы малявальшчыка, які ад гэтага злуе і «а» ў яго атрымліваецца шырачэзнай плямай.

Шныпараць людзі па зале і ў халодным і чорным люстраным абліччы раяля мітусніна гэтая адлюстроўваецца выразна і выпукла.

І часам спявае раяль. Шматлікімі матывамі звіняць струны. Часамі праз якія-кольвечы «Калакольцы звіняць» — дысанансам знянацку вырастае працяглае надламанае брынчанне.

Значыцца: раяль стары.

Значыцца: ён бачыў шмат.

Ішла мітульга.

У завірусе дзён і начэй ціхі каганец быў толькі недасяжным летуценнем.

У чарзе ля крамы людзі раннем пужаліся вестак, страшных вестак пра баі, што сімфанілі недзе за вірамуццю ракі. У дзевяць гадзін, калі сонца яшчэ цягнула небам плашч Арлекіна, пусцелі вуліцы, а абгарэлыя дамы — помнік ад лёту белага арла — пазіралі навокал рэбрынамі цаглін. Незнарок прабягаў сабака, пазіраў на круглы месячнік — смачная аладка ў масле пенным,— згаладала выў, а водгалас па ціхай вуліцы крочыў пудзілам.

Вухкалі гарматы, уздыхалі ўначы аганькі. (Тут уздыхаюць часам вагранкі пад напорам вугалю.) Жэўжыкі-хлопцы бегалі



на насыпе за абгарэлы рынак, глядзець, як перарастаюць гэтыя аганькі ў аграмадныя залацістыя языкі. Языкі, бы ў гадзюкі.

Было дзіўна назіраць, калі паводле знікала з атрамантнасці неба агністая дужка, нібы азіраючыся навокал і адчуваючы сваю пекнату.

Я бачыў, як празрыста блакітны матыль доўга планіраваў над газоўкай і ўрэшце загінуў у прыгожа-залацістых хвальках агню. Гэта была прыгожая смерць.

Так вось, калі дужкі абдужылі горад, нават і хлопцы схаваліся па хатах. А прыгожыя языкі гэтак жа фігурантна знікалі з атрамантнасці неба.

Падступалі да горада «зялёныя».

Жах, бы змрок. Ён хаваецца па кутках у ліловай цішыні мораку. Ледзь толькі пагасне святло — дзынканнем наплывае змрок.

Ён уладарыць.

Гэтак і з жахам. Ён пазірае на людзей з усіх шчылін. І ў сям'і Назарчука ён панаваў, як змрок. Яшчэ ўчора ля расчыненага раяля сядзеў Васіль, светла-русы хлапец, якім ганарыўся стары Назарчук-бацька.

Пасля дня шалёнае працы — ён быў фельчар у гарадской бальніцы — прыемна было, седзячы ў крэсле і пыхкаючы цыгаркай з самасею, слухаць, як спявае раяль пад рукамі Васіля.

— Што-небудзь, Васілёк, з Овэнберга, — прасіў, пускаючы кручкасты дымок, стары Назарчук.

Васіль граў, а ён засынаў пад лагодныя гукі раяля.

А потым вось зайграў раяль інакшы і адкінуў слінявага Овэнберга, як непатрэбны зламаны цвічок. Новы нарадзіўся музыка. Ён зайграў на клавішах жыцця, і Васіль ткліва пачаў прыслухоўвацца да гэтага грання.

...Цікаў гадзіннік, і ў тахт яму стукалі за сцяной аб бляшанае дно лаханкі кроплі вады з рукамыйніка. За вакном непакоіўся горад: ішлі людзі да ракі, каб ісці ў лясы на лоўлю «зялёных».

Увайшоў Васіль і сказаў:

— Татусь, я іду. Бывай.

— Куды гэта, Васілёк, у ноч збіраешся? Непакойлівасць, чуеш якая там...

Цікаў гадзіннік. І мізэрны яго гук перамагчы намагаўся гармідарнасць вуліцы.

— Таварышы чакаюць. Ратаваць горад трэба ісці. Бывай.

Жах падплыў, жах звярыны, і вочы прымружыліся пастарыкоўскі.

— Ну-у...

...Раяль застаўся расчыненым, і кіпа нот бялела на яго глянцавітым абліччы.

Дужкі абдужылі горад.

Наба шлёпаліся ў цагляныя тратуары, глыбока зарывалася ў жвір. Набоі шлёпаліся ў дамы, разбіваючы ўсё, калечачы людзей.

Прывезлі ў горад шмат чалавечых трупаў. Недзе бандыты выразалі яўрэйскі пасёлак у шалёнай ваўчынай злобе. Шматкі чалавечых астанкаў пазіралі на жывых людзей шклянасцю вачэй. А тое і вачэй не было...

...А раяль застыў у самотнасці. Кіпа нот бялела на яго глянцавітым абліччы.

Потым здарылася звычайная рэч. Да яе ўжо ўсе прывыклі. Набой адпілаваў ногі раялю. Напэўна, звінелі тады і струны.

...А дні набягалі акордамі патэтычнай сімфоніі: набліжаўся фінал.

Падалкамі адтахталі дні.

Да чорнага тулава раяля прымаставалі ногі, белыя асінавыя ногі. І раяль заспяваў ізноў, ізноў абудзіліся гукі і напоўнілі сабою залу рабочага клуба. А чалавеку мала адных ног. У яго яшчэ ёсць сэрца. Калі яно парвецца — у шматкі паробіцца тулава. Сэрца ж з асіны не зробіш.

Таму вось, мусіць, у часе імпэтнага маршу, пад які крочаць па зале асмужаныя фізкультурнікі, дысанансам знянацку вырастае працяглае надламанае брыкатанне. Гэта тужыць раяль аб музыках, што загінулі за сонца, якое асмугліла целы фізкультурнікаў, гэта тужыць раяль аб музыках, што загінулі за гэтыя бадзёрыя маршы, пад якія так лёгка крочыць па зале рабочага клуба.

Стогн — помнік.

***1929***



## АПОВЕСЦЬ ДЛЯ СЯБЕ

*Фрагменты дзённіка*

***16.VIII.1946***

Дзесяць дзён таму назад мне споўнілася 34 гады. Да гэтага часу любы чалавек «самоопределяется». Юнак становіцца мужчынам, наступае сталасць. Вопыт хуткацечнага жыцця дасюль звычайна назапашваецца вялікі. Усё больш ці менш ясна. А ў мяне?

Я зноў (у каторы раз!) стаю перад дзвярыма ў невядомае, за якімі — інакшае жыццё, чым тое, якое пражыў я гэтыя дзесяць гадоў […]

***14–15.IX.1946 (ноч)***

За дзесяць гадоў я планаваў тройчы — першы раз пасля допыту, калі мне было заяўлена, што ўсё гэта — контррэвалюцыя; другі раз — на сібірскім вакзале, калі нейкая жанчына падышла да мяне (акурат да мяне, хоць нас было больш за 400 чалавек) і сунула ў рукі дзве сайкі і кавалак хлеба; трэці раз — зусім нядаўна, калі атрымаў ліст ад Каці пра Мургкіну[1] хваробу. Ці сорамна мне гэтых слёз? Не, хай іх саромеюцца тыя, хто дапусціў такое, каб малады чалавек, які пазбаўлены сентыментальнасці і не цярпіць усякую меладраму, плакаў ад адчаю… ад бяссілля. Я не заплачу болей. Мяне навучылі многаму: поўнаму падначальванню, голаду, хлусні і ўменню хапаць усё, што трапляе ў рукі (чым я не карыстаўся, бо апошнія 6 гадоў жыў у асаблівых умовах, а прывык задавольвацца малым), праходзіць міма тых знясіленых людзей, якія падалі на хаду, як птушкі ў вялікі мароз, міма слёз, гора, кашмараў… Тысячы людзей прайшлі перад вачыма, і кожны з іх — феномен, двулікае боства, якое паасабліваму паводзіць сябе перад адміністрацыяй і па-асабліваму перад намі, што заўсёды побач. Я сведка і поўнага агольвання чалавечай душы, іператварэння цывілізаванага чалавека ў «голага звера», сведка дзіўных эвалюцый — і ў той, і ў другі бок. Яркіх індывідуальнасцяў, па сутнасці, было мала, але для мастака было б цікава з асобных рысаў людзей стварыць адзін ці некалькі тыпаў — яны маглі б прынесці славу і Гогалю, і Салтыкову-Шчадрыну, і Дастаеўскаму…[2]

*30.X.1946*

Гэта надзвычай цяжкая праца, але, спадзяюся, у мяне хопіць упартасці. Працую над беларускім варыянтам «Палескай аповесці»[3]. Дзесяць гадоў я не ўжываў беларускай мовы! Хачу зрабіць аповесць і прыблізна з Н.-Сібірска выслаць яе. Шкада, што нельга будзе зрабіць 2 экз. рукапісу, каб пакінуць у сябе…

*10.II.1947*

Адвечнае імкненне прыгнечанага чалавека да волі — вось тэма аповесці (рамана?), над якім я думаў летась і над якім пачынаю паволі працаваць. 1812 год, нашэсце Напалеона, Дрыса, барацьба польскай шляхты (Дамброўскі, Панятоўскі, прывіды 1831 года) супраць расійскай дзяржаўнасці Раманавых. І ў гэтай сітуацыі — беларускае сялянства. І назва аповесці «Адвечнае»... Запіскі, карта, фота — усё ёсць. Спачатку зоймемся канспектам.

«Порт-Артур» не дачытаў і далей чытаць не буду: трэба выкрасліць з кнігі добрую палову, тады яна загучыць як след.

Цярплівасць! Можа, шчасце ўсміхнецца, і таму — няхай будзе гатова аповесць.

*14.II.1947*

Запоем працую над «Адвечным». Апрача гістарычнай праўды, апрача высокага палітычнага гучання аповесці хачу, каб яна была займальнай, цікавай, каб і дарослым, і юнакам была ахвота чытаць яе. Таму яе трэба зрабіць «цнатлівай», а шкода, бо матэрыял такі, дзе можна было б даць і любоўны матыў…

*25.II.1947*

Уважліва прачытаў «Знамя бригады» ў перакладзе Ісакоўскага — двойчы, сам і ўслых — для Каці. Ёсць вельмі трапныя месцы, асобныя строфы паднімаюцца да шчырага пафасу і лірычнасці, задумана паэма вельмі арыгінальна, увогуле — няма ў паэме высокай лірыкі, якая б грэла чытача на ўсім яе працягу, няма адзінага дыхання, няспыннасці пачуцця. Многія дробязі наводзяць на думку — гляньце, як я ўмею рабіць. Я, паэт, раблю не так, як усе. Аднак гэта непараўнальна вышэй, чым усё тое, што чытаў я ў Броўкі, Глебкі, Панчанкі, Бялевіча. Куляшоў — самае яркае дараванне з беларускіх паэтаў. Дробязі накшталт «ужин не нужен» хочацца выкрасліць (цікава, як гэта гучыць пабеларуску?), у жарце, у лёгкім вершы такая «віртуознасць» яшчэ дапусціма, але не ў творы такога героіка-прыўзнятага плана. Тут павінны быць іншыя патрабаванні, чым, скажам, у адносінах да «Василия Теркина», — там адразу ведаеш, што гэта — лубок, дзе і жарт, і прымаўка, і «фокус» будуць на месцы. Паэме Куляшова бракуе таго, што ёсць у «Сыне» Антакольскага, — непарыўнасці, неаслабнасці, «неразжиженности» пачуцця (хаця тэхнічна «Сын» напісаны вельмі неахайна, але гэтага проста не заўважаеш, настолькі моцнае ў паэта выяўленне душы).



Працую, працую... Заўтра тры месяцы, як я вольна дыхаю... Як мала часу, але як багата ўражанняў! А можа, я дарма трачу час над сваёй пісанінай? Ці пабачыць яна свет? Можа, варта было б «наладжваць быт» і не чакаць ля мора пагоды? Няўжо зноў што-небудзь накшталт Байрам-Алі[4]? Л(ынькоў) зноў маўчыць. Як цяжка насіць гэта пракляцце, асабліва калі нічым яго не заслужыў! Я раблю ўсё, каб аблегчыць К(аці) яе клопаты, але колькі можна сядзець на яе шыі? О. С. [5] мяне падтрымлівае, абнадзейвае, а што, калі і яна памыляецца?...

З «Адвечнага» хачу зрабіць аповесць высокага дэтэктыва ў плане гістарычных раманаў французаў і англічан. Не, я скончу яе, гэтую аповесць. А там...

Толькі што праслухаў перадачу твораў Куляшова ў перакладах Ісакоўскага, Твардоўскага. Два вершы вельмі добрыя — «Отец» і «Московская улица». «Четыре заложника» — слабая рэч, расхлябаны рытм. У лірычных вершах у яго хапае «адзінага дыхання», а вось «Цымбалы» (як і «Сцяг брыгады») разбаўлены «рассудочностью». Гаспада́ру (каб хоць не быць цяжарам для Кацюшы!) і паміж справай пішу IX главу «Адвечнага». А лістоў няма, а нервы напружаны. І чаму мне так сапсавалі жыццё? Чым я заслужыў такі вырок?! Сёння — тры месяцы, як я з «таго свету»…

*18.III.1947*

Глядзелі «Глінку». У Чыркова ёсць вельмі моцныя моманты. Жукоўскі і Пушкін — жалкія. Матыў «Керн» раздуты. Да паловы фільм нудны. З захапленнем перачытваю архіўныя матэрыялы, разглядаю карціны, партрэты, карыкатуры. Усім гэтым абавязаны О. С. І пішу, пішу! Калі ж скончыцца мой

«кухарскі» перыяд? І ці скончыцца? Мусіць, не надта прыемна дазваляць такому, як я, друкавацца і працаваць. Толькі тым можна растлумачыць маўчанне Л(ынькова)[6]. І Мурка маўчыць. Дрэнна. Газеты перапоўнены водгукамі на пасланне Трумэна. Новы абаронца грэкаў! Калі ўсё ж наступіць час, што простаму чалавеку не будзе пагражаць ні вайна, ні голад, ні абмежаванне яго волі і дзейнасці?

*21.III.1947*

Калі яшчэ працягнецца гэтае нервовае напружанне — наўрад ці вытрымаю.

Ліст ад Муркі, сумны. Яшчэ і дагэтуль мне цяжка ўцяміць памер перажытай мною катастрофы...

Пагрузіўся ў архівы (для III часткі).

О. С. яшчэ суцяшае. Ну добра, можна чакаць м-ц, але не больш. Многа сонца.

В глуши, во мраке заточенья
Тянулись тихо дни мои
Без божества, без вдохновенья,
Без слез, без жизни, без любви.[7]

Дрэнна, што згублена цытата з М-са аб паўтараемасці гісторыі. Паспрабаваць выпісаць!

*10.IV.1947*

Тое, аб чым я здагадваўся і чаго баяўся, адбылося: ліст Л(ынькова) ад 25/III змяшчае парады, пажаданні, заўвагі наконт аповесці пра Багдановіча (да слова — няправільныя) і ракавое «але»... «Прывесак», які я маю, перашкаджае ім «адкрыць мне дзверы». (Цяпер зразумела, чаму ён так доўга не адказваў і чаму Муркіны лісты такія мінорныя.) Нягледзячы на маё цяжкае фізічнае становішча (зубы, зубы!) вырашыў сёння ж:

1) напісаць паперу Л(ынькову),

2) напісаць заявы ў Вярх. Савет, Вярхсуд, ЦК, Савет Міністраў і Сталіну.

Пасля «кансультацыі» з О. і Кацяй (ёй ліст не паказваў, бо баюся, што цяжкае маральнае становішча яе не дазволіць ёй прыняць ліст як трэба) вырашыў у сярэдзіне мая выехаць у Беларусь. Зрабіў якія-кольвек захады (лісты Мурцы, Ів. Міх., у Упраўленне), але адзіная надзея на Ольгу. Трэба досыць значная сума, каб прарабіць тое падарожжа. Ехаць жа ў Байрам-Алі няма ніякага сэнсу, бо сітуацыя — не за мяне. Баяцца ж, што Беларусь будзе такім месцам, дзе маё жыццё будзе ўвесь час «пад ударам», — бессэнсоўна. У гэтым сэнсе маё становішча цяпер больш небяспечнае.



Яшчэ ёсць час абмеркаваць дэталі, але «так держать!», аповесць я ўсё ж дакончу і павязу з сабой.

Ну, што ж...

*21.IV.1947*

«Ганю́» сотую старонку «Адвечнага». Не ведаю, ці будзе аповесць калі-небудзь надрукавана, але работа над ёй — адзіная мая ўцеха. Мяркую: наступным перыядам эпапеі мог бы быць 1861 год пад кутом погляду ўдзелу ў вызваленчым польскім паўстанні беларускага сялянства і таго, як гэтыя асноўныя сілы — польская шляхта і сялянства — прыйшлі да гістарычнай супярэчнасці. Вобраз К. Каліноўскага, дадзены Міровічам (у драме) і ў кіно, — і «стылізаваны», і «вонкавы», класавая сутнасць падзей «прытушана». Вершы Броўкі пра Каліноўскага — толькі «лірыка». Не ведаю, можа, за гэта дзесяцігоддзе (пасля таго перыяду, калі з пялюшкамі нацыяналізму выкінулі і дзіця) у бел. літ. што-небудзь і створана пра гэтага цікавага чалавека, але, мяркую, не надта па сілах такая тэма тым, хто застаўся. Яе мог бы падняць Бядуля, можа, Чорны. А памфлет Сянкевіча патрабуе моцнага «адпору».

*11.V.1947*

Дапазна ўчора я маляваў карціны будучага, а Ольга захапілася не менш мяне... Было вельмі прыемна. Мусіць, так ужо складзены мозг чалавечы, што маляваць уголас ён хоча толькі шчаслівае. А шкада, калі гэта ўсё будзе толькі «дульцыяваннем»! Аднак на адным мы пагадзіліся дакладна: я не павінен страчваць чалавечай годнасці. Не ўніжацца, «не быть жалким», «все, что нужно, но только и внешне ты должен быть достойным»... Мілы друг! Як мне цяжка! Нат не ведаю, ці былі ў «гісторыі» такія выпадкі, калі ў высокую ўстанову з'явіцца чалавек, які быў у небыцці дзесяцігоддзе, і скажа: «Я патрабую. Патрабую справядлівасці»...

Можна звар'яцець ад усяго, што можа быць, што думаецца!

І томік Юльяна Тувіма[8] не супакойвае, а наадварот, узмацняецца трывога. Нават у перакладах шматлікія вершы паэта гучаць такой паэтычнай сілай, што спакойна чытаць іх нельга... «Молитва» (глава з «Цветов Польши») — «Молчанье встанет на пороге зловещей тенью» — колькі гневу і колькі трагічнай мужнасці! І ў кожным вершы — блёсткі. У «Лодзі»:

Этот глупо торчащий «Савой»,
Расфуфыренные торговки,
Исконная вывеска: «Мужской портной,
Он же мадам и перелицовка».

А побач:

Стократ усиливши, метну блеск взоров,
как стаю гончую спущу в змеистость линий,
в громадину домов и в оргию просторов... і г. д. —

«В Варшаве».

«Строфы о позднем лете» (пераклад Асеева) — перл!

Альбо — «Слово и плоть»:

И слово плотью стало,
И ныне живет меж нами,
И тело, что изголодалось,
Кормлю я словами-плодами,
И пью, как студеную воду,
Я слово и ртом, и дыханьем,
Ловлю аромат я слова,
И неба ищу в нем сиянье,
И свежесть листка молодого.

В «О русской речи» сказано:

Певная певуница
Милой ми радуны!
Звонисьте, загорисьте
Светопады струны!
Вяркоты журчалово,
Вьюница плачевна,
Грустливо, печалово
Тевная слопеена!



Што гэта? Хлебнікаў і раннія «футурысты»? І тое, аднак, — і сваё, уласнае.

Фальклор, Славацкі, Блок, Рыльке, рускія словатворцы? І тое, і другое, і трэцяе, але і не тое, і не другое, і не трэцяе. Сваё, уласнае, асветленае сваім агнём. Неспакойная думка, гарачае сэрца. Трывожна, але бадзёра-радасна мне ў гэтых «вершах» Тувіма!

*9.VI.1947*

Чытаю, чытаю. Прагледзеў кніжку М. Танка, ёсць некалькі вельмі добрых лірычных вершаў. Мурка прынесла Купалу. Выпадкова трапіў том Пруста. Цікава, у Г. захаваўся мой Даль. І вельмі хочацца пісаць. Тамара кажа: пішы, пакуль ёсць час. Прыходзяць жанчыны і рабочыя людзі, прыяцелі сясцёр. Чую многа апавяданняў пра акупацыю, многае, чаго не было ў газетах. Слухаю, запамінаю, гляджу. Суткі ідзе дождж — залаты дождж.

*26.VI.1947*

Праехаўшы сем гадзін аўтамабілямі, вось я апынуўся ў Цераховічах, у бацькоўскім краі... Жорсткая рэчаіснасць паўстала лагойскімі руінамі, сямейнымі трагедыямі Вольгі, Мані, тым, як страшна пакутавалі тут пры заваёўніках, тым, як адвечна руплівы народ, накшталт Анці, не здаўся і зноў падымаецца на ногі... Рамантыка паўстала ўспамінамі... Вёску абышло нямецкае ліха — яна захавалася, і таму кожная дробязь напамінае мне юнацтва. Вінцэсь паехаў на касьбу, і яго ўбачу толькі ў нядзелю. Вольга з двума дзецьмі — пакутлівы, але ўсё такі ж тонкі, прыгожы твар. Маня — малайчына, і яе дачка (мая ўнучка!) — велікалобае, сінявокае дзіва. Слухаю Анцю і ўпіваюся сакавітай мовай маіх бацькоў. Знайшоў тут руска-беларускі слоўнік А(кадэміі) Н(авук) (1937), і гэты слоўнік— красамоўны, доказ філістэрства!.. Ліпа пры дарозе, Гайна, палі і лясы за імі — сведкі трываласці свету і нашай старасці...

*11.II.1948*

Атрымаў ад Петруся Броўкі[9] ліст:

«Паважаны Барыс Міхайлавіч! Пытанне аб Вашым друкаванні ўладжана. Адно апавяданне пойдзе ў чарговым нумары «Полымя». Потым ідзе парада пісаць на тэмы сучаснага жыцця...

«Гэта будзе асабліва карысна для Вас, доўгі час адарванага ад працы ў БССР». Ліст датаваны 2.II, напісаны на дэпутацкім бланку (на адваротным баку).

Уф!

Толькі ўчора апусціў «скорбны» ліст М(іхасю) Ц(іханавічу). Мусіць, трэба падзякаваць…

*21.II.1948*

Усе гэтыя дні напружана працую над другой часткай, настолькі захапіўся, што нервую ад недахопу часу. І вось сёння — порцыя душу — ліст ад Гурскага[10], у якім адна фраза вельмі ўсхвалявала — «покуль «спецыфіка» Ваша перашкаджае». Ліст датаваны 12-м, г. зн. — на дзесяць дзён пазней, чым ліст Броўкі, які акрыліў мяне. Усё іншае ў лісце — «дробязі»: і адпіска аб тым, што з «Любімым» я спазніўся, і «вымова» за маё «ўпартае» адмаўленне пісаць нарыс. І яшчэ — «ваша аповесць і другія матэрыялы чытаюцца ў адпаведных арганізацыях». Няўжо Броўка паспяшаўся ці што-небудзь зноў змянілася? Усё гэта вельмі цяжка, але я паспрабую ўсё ж аповесць закончыць. Як не разумее Гурскі, што я — асоба «прыватная» і без якой афіц. паперы не магу пайсці на той жа камбінат, каб пісаць нарыс. А пісаць абы-што — я развучыўся. Аб гэтым я яму напішу, але пазней, бо цяпер ім не да мяне — у іх 24 нарада. Мусіць, і ў «Ч(ырвонай) зм(ене)» «улыбнулась» навела, а фармальная паперка за подпісам Машары[11] з «Н(астаўніцкай) г(азеты)» пасля ліста Гурскага нават не ўразіла. А жыць без літаратуры я, мусіць, не здолею.

# МІКОЛА ГВАЗДОЎ

Паэт Мікола Гваздоў нарадзіўся 1 чэрвеня 1916 года ў Полацку ў сям'і служачых. У 1933 годзе паступіў на літаратурны факультэт Мінскага вышэйшага педінстытута, але праз два гады перавёўся на завочнае аддзяленне і паехаў працаваць настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў г. Чэрыкаў. У хуткім часе ён быў звольнены з працы за «адступленне ад школьных праграм і методыкі выкладання літаратуры» (а па сутнасці за тое, што расказваў вучням пра творчасць рускіх і беларускіх пісьменнікаў, забароненых савецкімі ўладамі). Пераехаў у Мсціслаў, потым у Мінск.

Малады паэт шырока друкаваўся ў газетах і часопісах («Звязда», «Чырвоная змена», «ЛіМ», «Работніца і сялянка», «Полымя», «Калгасніца Беларусі» і інш.)

13 сакавіка 1936 года 20-гадовы паэт быў беспадстаўна арыштаваны на кватэры ў Пятра Хатулёва, свайго сябра па інстытуту (на той час ужо вядомага крытыка), дзе спыніўся на дні здачы экзаменаў. У пратаколах НКУС пра М. Гваздова зафіксавана: «Будучы настаўнікам у школе ў г. Чэрыкаве ў 1935–1936 гг. сярод вучняў праводзіў контррэвалюцыйную нацдэмаўскую работу, выказваў у працэсе лекцыі контррэвалюцыйныя думкі, распаўсюджваючы вершы контррэвалюцыйнага фашысцкага зместу і зневажаючы ў вачах вучняў правадыроў партыі і Савецкай улады. У апошні час, знаходзячыся ў Мінску, Гваздоў выказваў контррэвалюцыйныя і тэрарыстычныя тэндэнцыі, а таму рашылі падвергнуць Гваздова М. В. вышуку і арышту і павесці следства...» Падчас арышту былі забраны лісты, рукапісы, кнігі, неапублікаваныя вершы маладога паэта, напісаныя пад моцным уплывам С. Ясеніна, А. Блока, У. Маякоўскага, якімі захапляліся амаль усе пачынаючыя паэты. Цыкл вершаў М. Гваздова, дзе выразна адчуваліся ясенінскія матывы, паслужыў на следстве «доказам» яго ўпадніцкіх настрояў, песімізму, незадаволенасці жыццём, а ў савецкай краіне «такога не павінна быць»...

Як успамінае Масей Сяднёў у сваёй кнізе «Ахвяры бальшавізму», ён атрымаў ад свайго сябра студэнта Гваздова з Нарымскага краю ліст, «у якім ён, між іншым, пісаў, каб я яму прыслаў гальштук. Гэта мяне вельмі здзівіла. Навошта яму патрэбен гальштук — яму, які адбывае штодзённую катаргу? — падумаў я. А потым я здагадаўся, што гэтыя словы трэба разумець у пераносным сэнсе. Гальштук ён прасіў для таго, што

нічога больш не застаецца, як павесіцца. Ад такой думкі я зжахнуўся. Я падумаў — і мяне чакае такі лёс...» М. Сяднёў не памыліўся адносна свайго лёсу: разам з лепшымі студэнтамі педінстытута, ужо вядомымі паэтамі, ён быў арыштаваны ў кастрычніку 1936 года і высланы на Калыму. Але калі М. Сяднёву ўдалося выжыць, дык М. Гваздоў не вярнуўся з ГУЛАГа. Загінуў ён у 1937 годзе. Быў тады маладому беларускаму паэту ўсяго 21 год. Прывабны вобраз свайго сябра М. Гваздова той жа М. Сяднёў вывеў у рамане пра сталінскія рэпрэсіі 1930-х гадоў «Раман Карзюк».

## ШЧЫРАСЦЬ

Ціха і ласкава
з цёплай спагадай —
бачыш? —
У вокны заглядвае вечар.
Я не хаваю вялікую радасць —
радасць ад нашай сяброўскай сустрэчы

Ты маладая
і я малады.
Многа агню ў нашай полымнай шчырасці.
Часта не згодзен з табою я.
Тады —
сёння пасварымся —
заўтра — памірымся...

Дай мне руку.
Паглядзім, хто мацней.
Я фізкультурнік
і ты фізкультурніца.
Помніш? —
аднойчы хвалілася мне,
быццам ты брала рэкорды ў спаборніцтвах.

Дай наглядзецца ў вачэй тваіх неба.
Дай дакрануцца да кволасці вуснаў.
Ты, дарагая, злуешся?
Не трэба.
Я не люблю, калі позірк твой хлусіць.

Ты маладая,
і я малады.



Як жа стрымаць маладосці задзірыстасць?
Ты вось не згодна са мной?
Што ж! Тады —
будзем сварыцца
А потым... памірымся.

***Менск, 1934 г.***

# ЯНКА ФІЛІСТОВІЧ

Публіцыст і гісторык Янка Філістовіч нарадзіўся 14 студзеня 1926 года ў вёсцы Паняцічы на Маладзечаншчыне ў шматдзетнай сялянскай сям'і. У 1939 годзе ягоны бацька быў арыштаваны як «кулацкі элемент», з савецкай вязніцы выйшаў з пачаткам Другой сусветнай вайны. Я. Філістовіч з 1943 года служыў у 13-м Беларускім батальёне (месца дыслакацыі — Мінск і Вілейка), але ў ваенных аперацыях не ўдзельнічаў. У 1944 годзе батальён быў эвакуіраваны на захад. У Чэхіі Я. Філістовіч быў арыштаваны немцамі за спробу перайсці на бок чэшскіх партызанаў. Пасля адступлення немцаў выйшаў на волю, знаходзіўся ў амерыканскай акупацыйнай зоне, у польскім лагеры пад Нюрнбергам. Прымаў актыўны ўдзел у працы «Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі», якая, пачынаючы з 1948 года, выдавала ў Парыжы часопіс «Моладзь». Вучыўся ў Сарбонскім (Францыя) і Лювенскім (Бельгія) універсітэтах. Уваходзіў у Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Меркаваў заняцца арганізаваннем вайсковых аддзелаў для змагання з бальшавікамі. У 1950 годзе пісаў свайму сябру мастаку і скульптару Міхасю Наўмовічу: «Справа вайсковая — найбольш важная і таму яе трэба ставіць на першы план, час і атмасфера напружаныя, хто ведае, калі ўсё пачнецца. А вучыцца на полі бою будзе праступкам... Я ўздыхаю да вайны, як казак, гледзячы на каня, якога ён не можа аб'ездзіць». У 1951 годзе Я. Філістовіч быў дэсантаваны на тэрыторыю Беларусі з заданнем збіраць інфармацыю, пашыраць звесткі пра БНР. Група падпольшчыкаў пад кіраўніцтвам Я. Філістовіча захапіла ў мястэчку Вязынь друкарню, выдавала газету «Жыве Беларусь» і антысавецкія ўлёткі. 9 верасня 1952 года Я. Філістовіч быў арыштаваны савецкімі спецслужбамі і праз 5 месяцаў следства, вясной 1953-га ва ўзросце 27 гадоў прыгавораны да расстрэлу.

## НАШЫ ДУМКІ

«Моладзь» — гэтак гучыць назоў нашага часопіса, нашага, гэта значыць, часопіса той групы беларускай моладзі, якая з розных прычынаў апынулася ў Францыі.

Моладзь — гэта будучыня Народа!



Мэтай нашага скромнага часопіса ёсць падтрымаць, усвядоміць і памагчы духова раскінутай па ўсім свеце беларускай моладзі.

Гэта патрэбна тым больш, што і так нешматлікіх беларускіх выданняў шчэ паменшала праз адыход некаторых з іх у варожы нам лагер, што здрадзіў агульнабеларускую справу.

У працягу сваёй многавяковай гісторыі беларускаму народу даводзілася не раз пераносіць шмат гора. І хоць прыходзілі вельмі цяжкія часы выпрабавання, калі праз здраду слабых элементаў, якія дзеля выгады і матэрыяльнай карысці выракаліся сваёй Бацькаўшчыны, ён ні на хвіліну не траціў веры ў лепшую будучыню.

На вялікі жаль, як бачым, мінуўшчына не навучыла на будучыню. Як гэта здаралася раней, слабы элемент, узгадаваны ў варожым духу, здрадзіў нашу агульную справу і сёння. Прыгледзеўшыся бліжэй да гэтай акцыі, ганьбячай усё, што ёсць найдаражэйшае беларускаму сэрцу, як Акт 25 Сакавіка з БНР на чале і ўсё тое, што ёсць сапраўды беларускае, мы не можам назваць гэтай акцыі не чым іншым, як здрадай Беларускаму Вызвольнаму Руху.

Наша ідэалагічная мэта — бараніць чыстыя, гарачыя, уласцівыя беларускай моладзі, святыя пачуцці кахання да Бацькаўшчыны.

Мы будзем імкнуцца захаваць у сэрцах нашай моладзі цэнныя, несапсутыя чужацкімі ўплывамі, элементы, дапамагаючы ёй адшукаць у сабе сілу, загартавацца і пасвяціць сябе Роднаму Краю.

Будзем імкнуцца падтрымаць, даць пацяшэнне тым, хто, параўноўваючы наш лёс да лёсу папярэдняй эміграцыі, бачыць усё страчаным.

Будзем старацца быць братамі раскіданай па свеце беларускай моладзі, падтрымоўваючы на духу і паказваючы, што, страціўшы Бацькаўшчыну, а захаваўшы веру ў будучыню, трэба смела глядзець уперад, ведаючы, што Праўда пераможа.

Няхай сабе тыя, што прыгнечаныя векам і здэмаралізаваныя чужакамі, ганьбяць наш народ, няхай топчуць наш незаплямлены бел-чырвона-белы штандар, як гэта мела месца ў Міхельсдорфе, няхай сабе зневажаюць нашу слаўную мінуўшчыну, няхай прадаюць свае пасівелыя галовы і сумленне за настольныя адпадкі чужынцаў! Але няхай не забываюцца, што ёсць яшчэ моладзь, у грудзёх якой гарыць агонь шчырага кахання да Бога, Праўды і Роднага Краю, моладзь, якая сурова асудзіць тых, хто, сышоўшы

ў бездарожжа, усялякімі спосабамі стараецца сцягнуць туды і другіх.

Мы будзем старацца быць прыкладам маладому пакаленню, на долю якога выпала нялёгкае заданне — выбрацца з тога прадоння, у якім сёння знаходзіцца свет, а з ім і мы — беларусы.

Наша справа нялёгкая таму, што мы, беларуская моладзь, упершыню пасля вяковай няволі спатыкаемся з Захадам і на кожным кроку мусім абвяшчаць чужынцам нашу мэту, разбіваючы хлуслівую ману і «тэорыі» нашых адвечных ворагаў, жадаючых прадставіць нас у некарысным для нас святле, а то і зусім давесці, што Беларусь — гэта «истинно русская» зямля альбо «крэсы».

Які бы цяжкім ні было нашае заданне, мы яго выканаем, стоячы на вышыні ўзложанага на нас абавязку і не жадаючы быць праклятымі будучымі пакаленнямі, якія ў іншым выпадку асудзілі б нас, як людзей, нягодных да асягнення той мэты, якой з'яўляецца будучыня Роднага Краю.

Не нянавісць і здрада будуць нашай зброяй, а чыстасардэчнасць і сапраўднае каханне да нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны!

Мы не баімся розных мянушак, якімі так шчодра абдзяляюць нашыя ворагі сыноў паўсталага да змагання беларускага народа.

Мы смела і з гонарам дэкларуем сваю прыналежнасць да адзінага сапраўднага беларускага лагера БНР, аддаючыся без засцярогі пад загады яе прэзідэнта, які горда нясе незаплямлены сваімі папярэднікамі, а заразам мучанікамі беларускага народа, бел-чырвона-белы штандар.

Мы, беларуская моладзь у Францыі, дэкларуем аддаць усе свае сілы, а калі зойдзе патрэба — аддамо і жыццё, каб жыла Беларусь і прызнаваны ўсімі паняволенымі і вольнымі народамі наш бел-чырвона-белы штандар з БНР на чале горда шыбаў у высі, бо гэты штандар, абліты крывёю мільёнаў лепшых сыноў і дачок нашага народа, даражэйшы нам за ўсё на свеце. Ён нам уручаны ў спадчыну.

Наша заданне — заданне палітычна свядомай беларускай эміграцыі — не палягае на выдаванне прэзідэнцкіх і міністэрскіх пасадаў. Гэта справа беларускага народа ў Вольнай Беларусі, а мы, будучы ў выгнанні, маем тое, чаго не мае ні адзін наш брат у паняволенай Бацькаўшчыне, гэта значыць — вольны голас!

Вось жа праз гэты голас мы, дарагія браты, з'яўляемся беларускай амбасадай забранага Краю.



А калі мы ёй з'яўляемся, дык, адкінуўшы ўсе косткі ў постаці «крывічоў» ці «нацдэмаў», возьмемся за актуальную працу і справу, справу першай вагі, для якой, дарагія браты, мы пакінулі родны Край, а праз гэта ўсё найдаражэйшае ў жыцці чалавека. Думаю, што не знойдзецца сярод беларусаў ні аднаго свядомага і лагічна думаючага чалавека, які б за гэтым падзелам не бачыў працы варожай і шкоднай нам рукі, якая гідка адводзіць наш узрок у бок ад нашай мэты — на дробныя, няважныя і неактуальныя для нас справы.

Хай жа ўсемагутная сіла дапаможа нашым братам высцерагацца ролі Каіна, як несвядомай, так і свядомай, а калі гэтаму будзе месца, што ўжо назіраецца, дык няхай беларускі народ не сэрцам а розумам, як дбалы лекар, спыніць гэтую гангрэну ў пачатковай стадыі, калі яна не ўспела заразіць здаровага цела, калі яна прадстаўляе сабой найменш небяспекі.

Няхай жа, дарагія браты, мы будзем годныя нашых слаўных продкаў, аддаючы ўсе свае сілы на службу Бацькаўшчыне, а ўзнагародаю нам будзе Вольны Край і вечная памятка ў сэрцах нашых наступнікаў! […]

*1948*

## ІВАН ЛУЦКЕВІЧ (1881—1919)
### *У 29-я ўгодкі смерці*

Найвыдатнейшы дзеяч нашаніўскае пары Іван Луцкевіч з'яўляецца адным з першых вядомых пачынальнікаў Беларускага Адраджэнскага Руху, будучы адначасова яго заснавальнікам і духовым рухавіком. Ён пакінуў нашаму народу неўміручую памяць з свайго культурнага і палітычнага даробку, аддаючы яму ўсе свае сілы і жыццё. У пару найбольшага тэрору дэспатычнае Масквы на Беларусі, калі на кану собскага жыцця, у помсту за Каліноўскага і тэрор, беларускі студэнт-народнік Ігнат Грынявіцкі забіў тырана Аляксандра II, праз пару месяцаў пасля нарадзіўся ў Менску 10 чэрвеня 1881 года Іван Луцкевіч. Гэтая цяжкая пара няволі ў Родным Краі яскрава адбілася на ўсім жыцці Луцкевіча, выхоўваючы з яго нястомнага дзеяча, загартаванага працаўніка дзеля адраджэння Бацькаўшчыны, якім і астаўся ён да апошняе хвіліны свайго жыцця. Яшчэ ў Лібаве, пачынаючы ад трэцяга класа гімназіі, Іван Луцкевіч вельмі цікавіцца гісторыяй, закладаючы беларускую бібліятэку, гуртуе

ў ёй творы і матэрыялы з беларускай гісторыі ды этнаграфіі. Каб пазнаць нашую гісторыю, распачаў ён збіраць калекцыі, якія і ўвайшлі пасля ў Беларускі музей ягонага ж імені ў Вільні. Будучы шаснаццацігадовым юнаком, усведаміўшыся нацыянальна і сацыяльна, ён пачынае ад 1897 года гуртаваць вакол сябе больш свядомых беларусаў. Цікавячыся гісторыяй, асабліва з перыяду Вялікага Княства Літоўскага, Луцкевіч мог не спасцерагчы подлых маскоўскага і польскага падступаў, што імкнуліся схаваць нашу слаўную мінуўшчыну, укрываючы гэтым самым праўду аб беларусах.

Як знаўца гісторыі, Луцкевіч будзіў і развіваў нацыянальную свядомасць успамінамі аб слаўным мінулым нашай краіны сярод ім жа згуртаванай беларускай моладзі.

Скончыўшы Менскую гімназію ў 1903 годзе, а ведаючы, што толькі здабыўшы асвету, ён зможа прынесці найбольш карысці свайму народу, Луцкевіч пераязджае ў Пецярбург, дзе паступае ва універсітэт. Тут, будучы на юрыдычным факультэце, вечарамі, Луцкевіч слухае лекцыі ў археалагічным універсітэце, які і канчае ў працягу 2-х гадоў, каб пасля з дапамогаю здабытае веды пакінуць Радзіме памятку ў постаці Беларускага музея.

У першыя дні ў Пецярбургу ён навязвае кантакт з В. Іваноўскім, стварае цесную, добра «спетую» тройку, у якую ўваходзілі Іван Луцкевіч, Вацлаў Іваноўскі і Антон (брат Івана), якая бярэ на сябе ініцыятыву, а пасля і кіраўніцтва ўсіх працаў сярод беларускага студэнцтва. У канцы 1902 года гэтая тройка закладае культурна-асветную арганізацыю — гурток Беларускае народнае асветы, які на першым месцы сваёй праграмы паставіў друкаванне беларускіх кніжак і тварэнне беларускае школы для Народа.

Бачачы цяжкае, нічым не заслужанае гора беларускага селяніна, непрыхільныя да яго адносіны з боку абшарніцкае інтэлігенцыі, якая яўна працавала над апалячваннем Беларусі, Іван Луцкевіч зразумеў, што шлях да адраджэння і вызвалення вядзе не тудой, ён пераканаўся, што волю сабе можа здабыць толькі сам Народ! У гэтым ён пераканаўся яшчэ больш, прыглядаючыся да патрэбаў і бедаў працоўных масаў праз сваё збліжэнне з імі. Ён зразумеў, што беларускую нацыянальную культуру можна адбудаваць толькі тады, калі ўлада ў Беларусі пяройдзе ў рукі беларускага народа.

Вось жа гэтыя перакананні, як і энергічныя заданні ды зрэалізаванне іх, прымусілі Івана Луцкевіча шукаць неабходных шляхоў, якія б вялі да здзяйснення ідэалу — Адраджэння Бацькаўшчыны-Беларусі.



Бачачы, што сярод моладзі, асабліва студэнцкай, крапчэлі рэвалюцыйныя настроі, верачы, што шлях да вызвалення немагчымы без рэвалюцыі, Луцкевіч з гуртком і выбраў гэты шлях, закладаючы ў 1905 годзе Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду, на долю якой выпала распачаць безупынны палітычны рух, разбудзіць народныя гушчы і ў працягу пятнаццаці гадоў праз векапомны Акт 25 Сакавіка 1918 года давесці да здзяйснення ідэалу беларускіх нарадавольцаў — агалошання БНР.

Незвычайная рухлівасць, безгранічная энергія гэтага дзеяча, зразумела, не маглі падабацца дэспатычнай Маскве, якая ўсю сілу прыкладала дзеля здушэння ўсяго, што беларускае. І таму напярэдадні 1 траўня 1903 года Луцкевіч быў арыштаваны і адасланы на Шпалерную ў так званую «Прадварылку» (Дом предворительного заключения), скуль пасля галадоўкі, праведзенай там арыштаванымі, хворага Луцкевіча перавязлі ў дальнюю турму «Кресты», дзе трымалі да канца чэрвеня, а пасля выслалі з Пецярбурга «на родину» — у Менск. Гэтакім чынам Луцкевіч быў першай ахвярай беларускае рэвалюцыйнае працы ў 1903 годзе.

Іван Луцкевіч не прапускаў ні адной нагоды, каб не выступіць у абарону свайго народа, разбіваючы дэмагогію ворагаў. І калі ў сакавіку 1905 года на сялянскім з’ездзе ў Менску эсэры хацелі ўнесці разлад сярод беларускага сялянства, што ім часткова ўдалося, дзякуючы Луцкевічу і яго гарачай прамове ўсе эсэраўскія дэлегаты выказаліся за Грамаду, пакідаючы эсэраў.

У 1905 годзе Луцкевіч як дэлегат ад створанага пад павадырствам Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады Беларускага сялянскага саюза бярэ ўдзел ва Усерасійскім сялянскім з’ездзе ў Маскве, становячыся косткай у горле маскалёў, якія хацелі бачыць Беларусь толькі ў межах «единой и неделимой».

У кастрычніку 1905 года Луцкевіч быў запрошаны на фабрычны мітынг. Звяртаўся ён да рабочых з гарачай прамовай у годнай беларускай, мілагучнай мове, клікаючы іх да адзінасці і салідарнасці ў барацьбе з супольнымі ворагамі. Гэта прамова выклікала неспадзявана сільнае ўражанне, задакументаванае ў буру воплескаў. «Нейкая гарачая хваля прайшла праз сэрцы гэтых выхаджэнцаў з вёскі. Ад пачутага знячэўку роднага слова шмат у каго відаць былі слёзы ў вачох»... (А. Л.) Заклік Луцкевіча жыва адгукнуўся сярод масы рабочых, якія, паўтараючы: «маладзец беларус!», «правільна!» — самі ўспакоілі эсэраў, каторыя стараліся ўнесці разлад.

Гэтая цэнтральная постаць у беларускім адраджэнскім руху гуртавала ля сябе ўсе лепшыя беларускія сялянска-работніцкія

сілы. Яго безупынная праца, частыя выезды для навязвання кантакту не на жарт трывожылі Маскву.

Ведаў Луцкевіч, што арышт яго непазбежны (хоць ён увесь час працаваў у падполлі). Ён мусіў расстацца з родным Менскам, дзе пакінуў колькігадовую працу, а распачаў новую, на віленскім бруку, куды прыехаў у пачатку лютага 1906 года. Без грошай, з фальшывым пашпартам у кішэні, становішча Луцкевіча ў Вільні, дзе ён як Іван Міхальчук пражываў на вуліцы Кальварыйскай, дом 44, было надзвычайна цяжкое.

Недахоп матэрыяльных рэсурсаў прымусіў яго пакінуць платную кватэру і перайсці на бясплатную да свайго сябра студэнта Івана Кастрэўскага на вуліцу Міцкевіча, 35, дзе ён з братам Антонам начамі адбіваў на гектографе адозвы і лістоўкі Грамады. Аднак і тут яму не было месца, з узгляду на следжанне ён мусіў ізноў змяніць прозвішча і кватэру.

Нягледзячы на надзвычайна цяжкія абставіны, дзякуючы сваёй бяспрыкладнай ахвярнасці, Луцкевіч хутка ізноў ажывіў спыненую працу. Ён разумеў, што дзеля развіцця нашага руху неабходна ўзгадаваць моладзь у духу нашых ідэалаў — нацыянальных і сацыяльных, на што і была звернута асаблівая ўвага. Сваю дзейнасць Луцкевіч накіраваў на Маладзечанскую, Свіслацкую, Полацкую і Панявежскую вучыцельскія семінарыі, стварыў сярод іх саюз, які пасля правёў агульную забастоўку, высоўваючы беларускія нацыянальныя дамаганні. Дзякуючы гэтаму, з вучняў вышэй паданых семінарыяў выйшаў пасля цэлы рад добрых, свядомых грамадскіх работнікаў, сапраўдных барацьбітоў за Бацькаўшчыну.

З ініцыятывы Івана Луцкевіча нарадзілася ў свой час першая легальная беларуская газета «Наша доля», на змену якой, зліквідаванай царскім урадам, прыйшла «Наша ніва». Рэдакцыя гэтых газет з'яўлялася цэнтрам беларускага адраджэнскага руху.

Дзякуючы Луцкевічу, з яго прыватнае калекцыі, якую ён збіраў ад 3-га класа гімназіі, паўстаў Беларускі музей. Музей гэты стаўся багатаю крыніцаю, на падставе якой можна было вывучаць матэрыяльную і духовую культуру беларускага народа.

Цяжкія абставіны, у якіх працаваў Іван Луцкевіч, пераслед з боку адвечных нашых ворагаў — маскалёў, змарнавалі яму шмат сіл і здароўя, скараціўшы на шмат гадоў яго жыццё. Іван Луцкевіч памёр передчаснай смерцяй ад сухотаў 20 жніўня 1920 года ў Закапаным.

Беларускі народ не забудзе найвыдатнейшага дзеяча нашаніўскай пары, упісваючы яго імя ў гісторыю Беларусі, як



імя найбольшага сына сваёй эпохі. Памёр ён, але памяць аб ім будзе вечна жыць у тым, што аставіў ён у спадчыну беларускаму народу.

Нам, беларускай моладзі, цярністы шлях Івана Луцкевіча, якім ён годна і пераможна крочыў да канца, будзе яскравым прыкладам таго, як патрэбна змагацца і працаваць для свайго народа.

Імя Луцкевіча будзе з пашанай і горда паўтарацца яго нашчадкамі, як імя сапраўды вялікага сына свайго Народа, які аддаў для Адраджэння Бацькаўшчыны ўсю сваю сілу і жыццё і з'яўляецца праз гэта яе сапраўдным мучанікам.

*1948*

## АБ ЧЫМ НАМ ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ

Беларуская эміграцыя, апынуўшыся па-за межамі сваёй Бацькаўшчыны, пастаўлена перад вялікім і адказным заданнем. Гэта заданне не палягае выключна на годнай рэпрэзентацыі нашага народа ў чужыне, наша заданне шмат большае і адказнейшае.

Знаходзячыся нярэдка ў вельмі цяжкіх абставінах, мы мусім выканаць тое, чаго не можа зрабіць наш народ у паняволенай Бацькаўшчыне.

Без сумліву, што адказнасць гэтая ёсць вялікай і цяжкой, але мы яе выканаем, бо мы свядомы тых цяжкасцяў, якія з гэтым спалучаныя, і перакананыя ў перамозе. Тут як нельга лепш сказаў вялікі французскі псіхолаг Корнэйле: «Той, хто пастановіць перамагчы ці памерці — рэдка бывае пераможаны».

Сапраўды, каб чагосьці дабіцца, штосьці асягнуць, трэба ў гэта цвёрда верыць. Зразумела, што ў гэтым выпадку няма мовы аб унікненні ахвяр — якраз адваротна. Толькі праз ахвяры асягаюцца вялікія справы. Ахвяра, зложаная на алтар Бацькаўшчыны, не аслабляе сілу свайго народа, але яе збольшвае. Вось што піша Максім Багдановіч, параўноўваючы чалавека да галіны:

Зразаюць галіны таполі адна за адной…
Без скаргі яны на зямлю чарадою лажацца,
Бо смерць іх патрэбна, каб дзерава новай вясной
Магло бы хутчэй развівацца.

Няма ніякага сумліву, што чакае нас вялікае выпрабаванне нашых сілаў. Але, каб быць да гэтага выпрабавання гатовымі,

ужо сёння не павінна быць між намі ніводнага беларуса, які б у гэты гістарычны час не ведаў, дзе ягонае месца. На вялікі жаль, рэчаіснасць паказвае якраз адваротнае. Нядаўна атрыманы рэдакцыяй ліст, у якім сябра піша, што не ведае, якую заняць пазіцыю і застаецца пасіўным, насоўвае нам, паколькі гэта адносіцца да нашай будучыні, зрабіць адпаведныя заўвагі.

У нас, беларусаў, сёння ёсць толькі адна пазіцыя, гэта — БНР, агалошаная беларускім народам праз Акт 25 Сакавіка 1918 г.

Паколькі беларускі народ пасля гэтага Акта не выражаў сваёй волі, аб якой пад акупацыяй не можа быць і мовы, сёння мо ў большай меры, як калі, Акт гэты для нас з'яўляецца святым і абавязуючым. І таму няведанне, якую заняць пазіцыю, тлумачыцца або няведаннем нашай гісторыі, або знецікаўленнем да агульнай справы, што ў часе змагання з'яўляецца раўназначна здрадзе.

Зразумела, што вораг беларускага нацыянальна-вызвольнага руху і ўсе выступаючыя пад маркай «астроўшчыны», будуць імкнуцца далей аслабіць наш рух, а гэтым самым — падставу нашай дзяржаўнасці. Зменшыць лік актыўных, а збольшыць — пасіўных, каб лягчэй асягнуць сваю мэту, — вось да чаго яны імкнуцца. Вось у гэтым напрамку і праводзіцца варожая праца.

Знаючы гэта, у нашых радах няма месца на хістанні ці няпэўнасці, бо ў час барацьбы гэтым самым мы аслабляем нашы нацыянальныя сілы, а збольшваем шанцы ворага ў асягненні яго чорнай працы.

Злучыўшы нашы рады, мы павінны даць рашучы адпор усялякай варожай акцыі, якога б колеру яна ні была. Пад якой бы фірмай вораг ні выступаў, ён нясе паняволенне нашаму народу. Таму абавязкам кожнага свядомага беларуса, сэрца якога баліць аб долі Роднага Краю, з'яўляецца безагляднае змаганне з варожай акцыяй, якая нясе нам загладу. Усялякае ж устрыманне ў барацьбе — гэта беспасярэднія чыненні, аслабляючыя нашую сілу. У гэтым выпадку мы павінны застасавацца да слоў Напалеона, які сказаў: «Цвёрдая пастанова ёсць найвышэйшай мудрасцю».

Мы, беларуская моладзь, можам быць гордыя, што ў гэты гістарычны час у змаганні пад бээнэраўскім бел-чырвона-белым штандарам за лепшую долю нашага народа зможам узяць актыўны ўдзел. А калі доля запатрабуе ад нас жыцця, мы яго аддамо для таго, каб жыла Беларусь.

*№ 4, 1948 г.*



## НАШ АДКАЗ

Няма ніякага сумліву, што нашыя суседзі добра асвядомлены як адносна нашай мінуўшчыны, так і ў тым, што яны намагаюцца зрабіць сваімі захопніцкімі пасяганнямі. Яны, маючы за сабой асягненне, якое іх падбадзёрвае да наступу, дзе толькі могуць стараюцца пашкодзіць беларускай справе. Гэтым асягненнем з'яўляецца абрабаванне нашага народа з яго сапраўднага імя, а прышчапленне чужога, якое не толькі путае нашу справу, але і наогул сведчыць супраць нас.

Прычынай, выклікаўшай паяўленне нашага артыкула, з'яўляецца дыскусія беларускіх прадстаўнікоў студэнцтва з летувіскімі на агульнаэміграцыйнай студэнцкай зборцы ў Парыжы. Пасля дакладу, адчытанага нашым прадстаўніком, ды адспявання беларускага нацыянальнага гімна, які студэнты праслухалі стоячы, беларусам былі зададзеныя пытанні, на якія былі даныя вычарпальныя адказы. Жадаючы пазнаёміць нашу моладзь, як і ўсё беларускае грамадзянства, з закідамі, якія рабіў нам летувіс, падамо іх ніжэй, як і нашыя адказы.

Беларускае грамадзянства павінна даць рашучы адпор на ўсялякія новыя захопніцтвы, не толькі тэрытарыяльныя, але і гістарычныя. Каб быць годнымі сваіх слаўных продкаў, мы мусім бараніць іх вялікую працу, іх тысячагоднія здабыткі, ведаючы, што нашая недаацэнка гэтай важнай справы толькі асмеліла б ворагаў.

Летувіскі прадстаўнік студэнтаў закінуў: 1) Літва сярэдняга веку і сённяшняя Летува — адно, што Беларусь сённяшняя была заваявана Жамойцю; 2) беларуская мова з часоў Вялікага Княства Літоўскага была іншай ад сённяшняй, што яна была «славонам» і ўжывалася ў В.К. Літоўскім як чужая; 3) беларуская дзяржава не патрапіць утрымацца без доступу да мора, а каб карыстацца Летувіскім, мы павінны здабываць іх сімпатыі (г. зн. аддаць ім Вільню ды палавіну Беларусі. — *Рэд.*), як і сімпатыі іншых народаў. У імя згоды, для перамогі над бальшавізмам мы, беларусы, павінны адрачыся ад свайго права...

Як жа выглядае справа з закідамі ды наогул з правам да В. К. Літоўскага, пабачым ніжэй.

Усе гісторыкі, як польскія, так і расейскія, абыходзяць перыяд арганізацыі В. К. Літоўскага, гэтае «зачараванае» для іх мейсца, або пабежна, або маўчком, а калі і стараюцца яго развязаць — дык падыходзяць да яго фальшыва ад пачатку да канца. Гэтае фальшаванне ўдавалася ім тым больш, што ні

адзін з беларускіх гісторыкаў не працаваў над гэтым неасветленым, ды найбольш балючым пытаннем у нашай гісторыі. Не дзівіць нас тое, што нашы суседзі летувісы, якія ўваходзілі ў склад нашай дзяржавы — Літвы — як яе перыферыя, Жамойць, заяўляюць сёння свае правы да той жа Літвы, нашай Бацькаўшчыны ў мінуўшчыне. Мы бачым у гэтым папросту неразуменне летувісамі таго, чаго яны жадаюць, што, зрэшты, зусім нармальнае з’явішча, калі дапусціць, што дзеля вывучэння В.К.Літоўскага яны паслугоўваліся матэрыяламі нашых суседзяў, як палякаў, так і расейцаў. Летувісы дамагаюцца земляў, якія займала адно з нашых шасці плямёнаў — люцічаўвялетаў (ваўкоў), у сапраўднасці гэта вельмі смешна выглядае, і мы не сумляваемся, што прыйдзе час, калі летувісы не тое што не будуць дамагацца, але будуць саромецца за свае крокі ў гэтым напрамку. Яны дамагаюцца сёння Вільні і карэннай нашай зямлі да Маладзечна, забываючыся, што люцічы-вялеты, нашыя слаўныя продкі, заснавальнікі Літвы, займалі абшар не толькі да Маладзечна, але і да Коўна, нат з ім улучна. Значыць, мы, беларусы, маем права дамагацца сёння Коўна. Калі б летувісы асведамілі гэта, яны напэўна не выклікалі б «ваўка з лесу».

Дзякуючы працы вялікага чэшскага вучонага славянскай старажытнасці Шафарыка, які асвятліў перыяд арганізацыі В.К. Літоўскага, ды наогул ягонае паходжанне, нам вядома, што Літва паходзіць ад чыста славянскага племя вялетаў-люцічаў, а не ад Жамойці, у якой на той час, паводле Шафарыка, не толькі не было ні аднаго падобнага назову, але нат ні аднаго, які б пачынаўся літарай «л». У сваёй працы «Славянскія старажытнасці», выд. у 1862 г. у Празе, Шафарык даводзіць, што вялеты-люцічы жылі ў сённяшняй Віленшчыне і Гарадзеншчыне. У часе вандроўкі народаў частка племя вялетаў-люцічаў, «авантурыстычная моладзь» ды «ваяўнічыя важакі» выліваюцца па-за граніцы сваёй Бацькаўшчыны і, затапляючы Прыбалтыку, маршыруюць у Паўночную Нямеччыну, якую яны лёгка займаюць, выціскаючы адтуль астаткі германскіх народаў, якія пайшлі на Рым, ды асядаюць там, займаючы гэтакім чынам усю Паўночную Нямеччыну аж да берагоў Брытаніі. Гэта адбывалася прыблізна каля 2–3 стагоддзяў па нараджэнні Хрыста. Іхняе ўладанне ў Паўночнай Нямеччыне трывала да X–XII стагоддзяў. Калі ж германскія плямёны вяртаюцца назад, люцічы пад іх напорам пакідаюць заваяваныя землі ды вяртаюцца ў сваю Бацькаўшчыну. Паварот «ваяўнічых важакоў», якія пабачылі свету, і выясняе тое



спантанічнае стварэнне моцна арганізаванай дзяржавы Літвы, якая й пераймае ініцыятыву Полаччыны, дзе ў той час вымірае старая дынастыя Усяслававічаў (Д.-Зап. ст.71), — арганізавання пакрэўных сабе плямён, каб супольна даць станоўкі адпор як крыжаком, так і татарам. Шафарык піша: вялет (па-грэцку обэлтаі) ёсць імя калісь магутнага, а ў гісторыі сярэдніх вякоў над многа іншымі праслаўленага народа вялетаў, або іначай люцічаў, па мянушцы ваўкоў, які александрыцкім географам быў упершыню на святло вынесены ды аддаленым патомкам шчасліва пахаваны» (Том I, бач. 242; Том II, бач. 586).

Тое, што Літва паўстала не з Жамойці, а з люцічаў-вялетаў, пацвярджае за Шафарыкам праф. Нідэрле. [...]

Аб тым, што беларус — гэта калішні ліцвін, ды наогул, што імя беларус перш не ўжывалася як імя ўласнае нашых продкаў, а было накінута нашаму народу толькі ў XIX стагоддзі, сведчыць польскі вучоны А. Брукнэр, які ў сваёй працы пад назовам: «Rusko-Polski rękopis roku 1510» (Slavia, VII.I.B. 10–11) піша: «Movimy ciagle «litowski, Litwin», ale to tylko zamiast «bialoruski, Bialorus», bo w roku 1510 nic o Litwie właściwej etnograficznej ani się śnilo, jeszcze Roj w roku 1562 Litwinem Bialorusina nazywal, a w Moskwie i w XVII wieku «Litewskij» tyle co bialoruski»[1].

Гэтых доказаў, здаецца, аж занадта хапае, каб упэўніцца ў тым, што Беларусь — гэта ўчарашняя Літва. Летува ж, калісьці Жамойць, уваходзіла ў склад нашай магутнай дзяржавы толькі з узгляду на сваю слабасць супрацьставіцца крыжацкаму напору. Зрэшты, як падана ў дакладзе па-французску, адно тое, што як заснавальнік Літвы Міндоўг, так і найбольшы яе герой і палітык Вітаўт, каб абараніць сёняшнюю Беларусь, заўсёды, калі ім прыходзілася ту́га, аддавалі Жамойць — сёняшнюю Летуву — крыжакам, найлепш пацвярджае вышэй сказанае. Ведама, што Жамойць (Летува) не раз паўставала супраць Літвы (Беларусі), у часе аднаго з такіх паўстанняў у 1263 г. згінуў сам заснавальнік Літвы — Міндоўг. Ягоны сын Вайшэлак жамойцкай кроўю здушыў гэтае паўстанне. Проста недарэчным з’яўляецца, што летувісы сёння прэтэндуюць на тое, супраць чаго іхнія продкі так палка змагаліся як супраць чужога, варожага.

Тое, што беларуская мова з часоў В. К. Літоўскага была крыху іншай ад сёняшняй — нармальнае з’явішча. Кожнаму асвечанаму чалавеку ведама, што жывая мова кожнага народа змяняецца, прагрэсуе з бегам часу. Нашая літаратурная мова змянілася таксама, як і ўсе іншыя. [...]

Што да здабывання сімпатыяў другіх народаў, дык мы можам запэўніць летувісаў у тым, што сімпатыі ўсіх народаў, якія любяць волю сваю і паважаюць волю другіх, ёсць заўсёды на нашым баку хоць бы таму, што наш народ вядзе змаганне ў імя праўды і свабоды, што, праданы і разграблены, ён не склаў аружжа, а ў працягу цэлых стагоддзяў вёў няроўную барацьбу за сваю незалежнасць, за тое, каб ягоная ўраджайная глеба не служыла рассаднікам чужога, варожага племя. Да народа ж мучаніка ды героя мусіць мець пашану не толькі прыяцель, але нават і вораг. Калі б мы здрадзілі традыцыі сваіх слаўных продкаў люцічаў-вялетаў і іншых ды аддалі адвечную нашу зямлю, усеяную іхнімі касцямі, мы страцілі б сімпатыі не толькі прыяцеляў, але нават і ворагаў.

«Траянскі конь», падстаўлены ў 1939 годзе бальшавікамі Летуве ў постаці нашай Вільні, для здабыцця іхніх сімпатыяў, не толькі не навучыў летувісаў, хоць за яго яны страцілі сваю бацькаўшчыну і волю, але разлакаміў іх апетыты. Але не трэба забывацца, што бальшавікі здабывалі сімпатыі летувісаў не коштам расейскай зямлі са сталіцай ўключна, але нашай, беларускай, да якой яны не мелі і не маюць ніякага права. Патрэбна памятаць, што ўсялякі бяспраўны падзел здабытку са злачынцам з'яўляецца злачынствам.

Згаджаемся з зацемкай летувіса, што нашая нязгода аслабляе агульны супрацьбальшавіцкі фронт, але дадаем, што ў імя згоды патрэбна зрачыся шавіністычных, неабаснаваных дамаганняў. Мы, беларусы, не можам і не маем права ў імя згоды для перамогі над адным акупантам аддаць нашых братоў у няволю «прэтэндэнтам» на акупантаў. Маем гонар запэўніць, што ў імя дабрабыту свайго народа, у імя слаўных ягоных традыцыяў мы, беларусы, будзем бараніць не толькі адвечную сталіцу Вільню, але і кожны, зліты кроўю і потам нашых дзядоў, родны беларускі загон.

У імя Навукі Хрыста мы падамо па-брацку руку не толькі летувісам, якія сёння капаюць пад намі яму, але і тым, хто нас гнобіў у працягу вякоў з засцярогай, што яны нам дакажуць на справе пашану да нашага права на вольнае і незалежнае існаванне.

Народ, які даў з сябе столькі вялікіх геніяў чужынцам (як палякам, так і маскалям), ніколі не згіне, але патрапіць даць з сябе вялікіх людзей і Роднаму Краю. Гэта ўжо назіраецца: Купала, Багдановіч, Колас, Танк.



Баяцца нашы суседзі адраджэння Беларусі, нешта ў гэтым яны прадчуваюць. Можа, чуюць абуджэнне духу «грозных палачанаў» ды вялетаў-люцічаў? Як бы яно ні было, мы пэўныя, што Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху не ўстрымае ніякая варожая сіла.

*1949*

## НА ПЕРАВАЛЕ СТАГОДДЗЯ

Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла…

*М. Багдановіч*

Пасвячаючы наш артыкул Новаму, 1950 году, мы пастараемся разгледзець апошняе паўвечча ў жыцці беларускага народа ды вывесці нашыя падсумкі на будучыню. Цяжка змясціць у кароткім артыкуле паўвяковы шлях гісторыі народа, поўны глыбокіх устросаў і перажыванняў, таму абмяжуемся толькі кароткім апісаннем пачатковае і канчатковае стадыі гэтага шляху.

Як жа выглядае гэты шлях?

1900 год. Магільная цішыня панавала на Беларусі. Сам назоў краіны заменены на «Северо-Западный край». Народ несвядомы, няграматны, ніводнае беларускае школы, ніводнае арганізацыі. Толькі далёка ад Бацькаўшчыны пачыналі тварыць свае гурткі беларускія студэнты. Беларускае друкаванае слова забароненае. У святынях чужая мова і вынарадаўляючая палітыка. Лічная беларуская эміграцыя гіне бясследна у чужацкім моры. Ніхто, даслоўна ніхто, не падымае голасу ў абароне Беларусі. Яна прызначаная на смерць зажыва. Ёй выкапаная магіла, кайданы на нагах, на руках і на вуснах. Магільны крыж — як памятнік слаўнае мінуўшчыны. Вось як выглядала нашая Бацькаўшчына паўвека таму, вось у якім стане застаў яе 1900 год.

Ані жудаснае становішча, ані тэрор і пераслед беларушчыны не змаглі, аднак, зламаць народнае душы, бо народ жыў і, як усё жывое, развіваўся, узбагачваў сваё жыццё. Народ чакаў таго часу, калі, як пісаў М. Багдановіч, «прыйдзе й на яго чарада». Дарма, што акупант уважаў наш народ пакойнікам; ён жыў ды збіраў сілы для барацьбы. Магутны кліч Каліноўскага, кінуты

яшчэ паўвека таму, дайшоў да народа беларускага. Кліч гэты падхопліваюць браты Луцкевічы, Уласаў, Купала, Багдановіч і цэлы рад другіх верных сыноў Беларусі. Яны разбуджаюць народныя масы ды ахвярнай працай праводзяць у жыццё запавет Каліноўскага. Кадры інтэлігенцыі і ахвярных барацьбітоў растуць так хутка, што ў 1918 годзе, 25 Сакавіка, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі мела непахіснае перакананне абвесціць Беларусь вольнай і незалежнай Рэспублікай. Дарма, што чорныя сілы здушваюць гэты светлы Акт. Агонь, запалены ім у грудзёх беларусаў, не пагас да нашых дзён, нягледзячы на ўсе высілкі ворагаў, бо да нашых дзён вядзецца няўпыннае народнае змаганне за ажыццяўленне векапомнага Сакавіковага Акта. Змаганне, якое не толькі не зменшваецца, але штораз большае.

Што ж мы бачым сёння, пераступаючы парог новага паўвечча?

Мы выразна бачым за намі цярністую дарогу, усланую касцямі лепшых сыноў і дачок Беларусі. Мы бачым лічныя магілы ведамых і няведамых герояў-волатаў, якія раскіданыя па ўсёй шырокай Беларусі і свеце. Сёння ані «Северо-Западный край», ані «Крэсы» не ўспамінаюцца. Толькі ў гістарычных дакументах і архівах захаваюцца яны, як помнік жудаснае мінуўшчыны, якую давялося перажыць беларускаму народу. Не што іншае, як толькі ўспомненыя магілы герояў, найбольш пераконваючыя сведкі нязломнасці волі народнага духу, змусілі ворага ісці на ўступкі, адступаць, падстаўляць розныя «вывескі». Хоць цана ім ведамая, аднак факт незапярэчны і гаворыць сам за сябе: 30-ці гадовы эксперымент над душой народнай перакانаў акупанта, што жывога народа зламаць нельга. Не зважаючы на шматлікую армію ворага, гаспадарамі беларускіх лясоў з'яўляюцца беларускія партызаны.

Калі 50 год таму беларусы не мелі ніводнае школы, дык сёння іх маюцца тысячы. Эміграцыя, хоць яна расцярушаная і нешматлікая, мае не толькі свае школы, студэнцтва, дзесяткі розных арганізацыяў і часопісаў, але і сваю нацыянальную царкву. Мы маем сёння тое, чаго не маюць народы, яшчэ так нядаўна ўтраціўшыя сваю дзяржаўнасць, — праўны Урад Беларускае Народнае Рэспублікі, з якім змушаны рахавацца нават самі бальшавікі, падстаўляючы народу ўзамен сваю фікцыю. Вось нашыя здабыткі за апошняе паўвечча. І мы мусім прызнаць, што беларускі народ без падтрымкі збоку зрабіў гіганцкі крок уперад, крок, якога не змог зрабіць у гэткім кароткім часе ніводзін народ.



Калі параўнаем Беларусь з нашымі суседзямі ў 1900 годзе і сёння, дык убачым нашую жыццяздольнасць і тую светлую будучыню, якая чакае нас уперадзе. Цверджанне нашых суседзяў аб нашай слабасці зусім неабгрунтаванае і разрахаванае на аслабленне нашае сілы. Сёння мы, беларусы, моцныя, як ніколі дагэтуль, бо кожны з нас поўны сілы і веры ў лепшае заўтра, бо маем мы выгадаваныя і загартаваныя ў змаганні нацыянальныя кадры моладзі, якая за народную волю гатовая на найбольшыя ахвяры. Хто недаацэньвае гэтага факта, — не бачыць сапраўднасці, стаецца, магчыма, нават падсведама, прыслужнікам ворагу, а тым самым аддзяляе сябе ад народа.

Уважна глянуўшы на сучасныя міжнародныя падзеі і паводзіны нашых акупантаў, можна сцвердзіць панічны страх ворагаў перад беларускім нацыянальна-вызвольным рухам. Страх гэты не ёсць беспадстаўным. Толькі руху нашага не спыніць ніякай сілай, ніякай пагрозай. Мы, беларусы, стаімо сёння на выхаднай пазіцыі, якая вядзе наш народ у апошні рашучы бой за канчатковае вызваленне свае радзімы. Беручы пад увагу вышэйсказанае, мы не толькі не павінны, але і не маем права аддавацца песімізму. Навальніцы, якія чакаюць нас уперадзе, не павінны нас палохаць, толькі яны дапамогуць вярнуць нам утрачанае. Абавязак нашае моладзі — аддаць усе сілы на падтрыманне праўнага і адзіна прызнаванага чужынцамі Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі, які ідзе па шляху ажыццяўлення святых запаветаў. Той з беларусаў, хто ў гэты дэцыдуючы момант паўстрымаецца ад актыўнага ўдзелу ў змаганні, зробіць праступства ў адносінах да свайго народа, вольны голас якога мае права падаваць і падае БНР у выгнанні. Калі мы хочам быць годнымі сынамі нашага народа-героя, які ўжо 30 год вядзе бой з бальшавікамі за сваё чалавечае і народнае права, мы павінны скаардынаваць нашую працу і высілкі тут, у выгнанні, з ягоным змаганнем на Бацькаўшчыне. Мы павінны ўзняць наш бел-чырвона-белы сцяг між вольнымі народамі на чужыне так высока, каб ягоную прысутнасць у вышыні ўбачылі нашы браты і сёстры ў забраным Краі.

*1949*

# КАМЕНТАР

## АЛЯКСАНДР УЛАСАЎ

### *Аб беларускім нацыянальным адраджэнні (с. 17)*

Гэта — рэдакцыйны артыкул газеты «Наша ніва», калі яе рэдактарам-выдаўцом быў Аляксандр Уласаў.

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1909, 12 (25) лістапада, № 46, дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *...як нарадзілася беларуская газета*. — Першы нумар газеты «Наша нівы» выйшаў 10 (23) лістапада 1906 г.

[2] *...ускалыхнула ўсё расійскае гасударства*. — Маецца на ўвазе рэвалюцыя 1905–1907 гг. у Расіі.

[3] *«Мінчук»* — беларуская выдавецкая суполка. Заснавана 1 снежня 1906 г. У 1907 г. спыніла сваю дзейнасць.

[4] *«Наша хата»* — беларуская выдавецкая суполка. Існавала з 15 (28) снежня 1908 г. да 1911 г. у Вільні.

### *Дні жыцця (с. 20)*

Друкуецца паводле выд.: Шляхам гадоў: гісторыка-літаратурны зборнік / Склад. У. Мархель. Мінск, 1990.

[1] *...у гарадку на Віліі*. — Маецца на ўвазе г. Вілейка.

[2] *Неслухоўскі* Янка (1851–1897) — беларускі паэт, які выступаў пад псеўданімам Янка Лучына.

[3] *Бурбіс* Алесь (1885–1922) — дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

[4] *Луцкевіч* Іван (1881–1919) — дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння, археолаг, этнограф, публіцыст. Брат Антона Луцкевіча.

[5] *...я дастаў палітычны гарбуз*. — Перасланы жаніху гарбуз азначаў у вясельнай абраднасці адмову нявесты выйсці за яго замуж.

[6] *Самсонаў* Аляксандр (1859–1914) — рускі генерал ад кавалерыі. З пачатку Першай сусветнай вайны камандаваў 2-й арміяй, якая была разбіта немцамі ў 1914 г.; *Рэнекампф* Павел (1854–1918) — рускі генерал ад кавалерыі, камандаваў 1-й арміяй.



## УЛАДЗІМІР САМОЙЛА

### *«Жалейка» — песні Янука Купалы (с. 37)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1908, № 17, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Владак з Казіміраўкі.

### *Гэтым пераможам (с. 40)*

Друкуецца паводле выд.: Заходняя Беларусь: зборнік. Кн. 1. Вільня, 1923, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Суліма.

[1] *Кант* Імануіл (1724–1804) — нямецкі філосаф, заснавальнік нямецкага класічнага ідэалізму.

[2] *Фіхтэ* Ёган Готліб (1762–1814) — нямецкі філосаф.

[3] *Mutato mutando* — змяніўшы, што трэба змяніць (*лац.*).

### *На чужыне... (с. 44)*

Друкуецца паводле час. «Калоссе», 1935, № 4, дзе апублікаваны ўпершыню.

## УЛАДЗІСЛАЎ ГАЛУБОК

### *Сярмяжнік (с. 46)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 2 чэрвеня 1911г., дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца годам публікацыі.

### *Сын вёскі (с. 47)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1914, № 47.

Друкуецца паводле выд.: Беларуская дакастрычніцкая проза. Мінск, 1965.

[1] *Васан, васпан* — ваша міласць: форма ветлівага звароту да мужчыны ў беларускай шляхты.

### *Усё аб тым жа (с. 50)*

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 3 лютага 1922 г.

Друкуецца паводле выд.: Галубок Уладзіслаў. Творы. Мінск, 1983.

## ЯЗЭП ЛЁСІК

### *Нёман (с. 54)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 14 красавіка 1918 г., № 13.

Друкуецца паводле выд.: Лёсік Язэп. Творы. Мінск, 1994.

### *Родная мова і яе значэнне (с. 55)*

Друкуецца паводле газ. «Вольная Беларусь», 24 лютага, 3, 10 сакавіка 1918 г., № 6–8, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыптонімам Я. Л-к.

[1] *Мэрам* — нібы, быццам.

### *«Літва-Беларусь» (гістарычныя выведы) (с. 65)*

Упершыню — газ. «Школа и культура Советской Белоруссии», 1921, № 1–2.

Друкуецца ў скароце паводле выд.: Лёсік Язэп. Збор твораў. 1921–1930. Мінск, 2003.

## ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ

### *Чорт і баба. Жарт у І акце (71)*

Упершыню — Зборнік сцэнічных твораў. Сшытак другі. Мінск, 1918.

Друкуецца ў скароце паводле выд.: Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі: у 3 т. Т. 1. Мінск, 1997.

Датуецца годам публікацыі.

### *Савецкая інквізіцыя (Віленскія ўспаміны) (с. 83)*

Упершыню — газ. «Беларускі голас», 2 красавіка 1942 г.

Друкуецца паводле выд.: Аляхновіч Францішак. Выбраныя творы. Мінск, 2005.

[1] *Паноптыкум* — збор васковых фігур, унікальных прадметаў, дзівосаў.

[2] *Тарквемада* Томас (каля 1420–1498) — верхавод інквізіцыі ў Іспаніі. Вызначаўся незвычайнай жорсткасцю. Увёў у масавую практыку аўтадафэ. Пры ім было пакарана смерцю больш за 10 тыс. чалавек.

[3] *Пэрфідны* — хітры, вераломны (паланізм).

## АЛЯКСАНДР ЦВІКЕВІЧ

### *Аб аргументах ад роздуму і аб аргументах ад сэрца (с. 91)*

Упершыню — час. «Студэнцкая думка», 1925, № 1–3 пад псеўданімам Ал. Галынец.

Друкуецца паводле час. «Спадчына», 1998, № 1.

[1] *Савіньі* Фрыдрых Карл (1779–1861) — нямецкі гісторык рымскага права.

[2] *Шэлінг* Фрыдрых Вільгельм (1775–1854) — нямецкі філосаф.

[3] *Гегель* Георг Вільгельм Фрыдрых (1770–1831) — нямецкі філосаф.



[4] *«Маладая Беларусь»* — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны альманах. Выдаваўся ў 1912–1913 гг. беларускай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбургу на беларускай мове. Друкаваўся кірыліцай і лацінкай. У альманаху публікаваліся творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі, Уладзіслава Галубка, Вацлава Ластоўскага, Цішкі Гартнага, Альберта Паўловіча, Антона Луцкевіча і інш.

[5] *Прушынскі* Аляксандр (1887–1920) — сапраўднае імя беларускага паэта Алеся Гаруна.

### *Вялікае спрашчэнне, ці Вялікае ўдасканаленне (с. 97)*

Друкуецца паводле выд.: Ал. Галынец. Вялікае спрашчэнне, ці Вялікае ўдасканаленне (з цыкла «Штодзённыя думкі»). Рыга, 1927.

[1] *Гумбальд (Гумбальдт)* Вільгельм (1767–1835) — прускі дзяржаўны дзеяч і мовазнавец.

[2] *...каб не ўмерці!* — Дакладна гэтая цытата Францішка Багушэвіча з яго прадмовы да кнігі «Дудка беларуская» гучыць так: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

## АНТОН ЛУЦКЕВІЧ

### *«Маладая Беларусь» (с. 102)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 3 лістапада 1911 г.

Друкуецца паводле выд.: Луцкевіч Антон. Выбраныя творы. Мінск, 2006.

### *Прадвеснікі адраджэння (с. 104)*

Упершыню — «Našy pieśniary: Litaraturna-sacyjalnyja narysy». Wilnia, 1918.

Друкуецца паводле выд.: Луцкевіч Антон. Выбраныя творы. Мінск, 2006.

[1] *...калі Манькоўскі напісаў сваю «Энеіду».* — Як пераканаўча паказаў Генадзь Кісялёў, аўтарам «Энеіды навыварат» быў Вікенцій Равінскі.

[2] *...узвялічвае тую мазолістую руку, на каторай «няма сказы».* — Алюзія на верш Ф. Багушэвіча «Не цурайся».

[3] *«А што ж то ураднік за волькі індык?»* — Радок з верша Ф. Багушэвіча «У астрозе».

[4] *«Вязанка», 1913.* — Апіска: зб. «Вязанка» выйшаў у 1903 г.

